

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя II. Гісторыка-літаратурныя помнікі*



# СВЕДКІ НАШАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

Кожны народ, дасягнуўшы пэўнага ўзроўню свайго культурна-гістарычнага развіцця, грамадскай і этнічнай самасвядомасці, пачынае ўсведамляць вялікую важнасць сваёй гісторыі, веданне якой неабходна захаваць і перадаць наступным пакаленням. Складаліся і стагоддзямі перадаваліся з вуснаў у вусны міфы і гістарычныя паданні, сагі і быліны, балады і песні, што служылі каштоўнай крыніцай пазнання сваёй мінуўшчыны і важным сродкам маральна-патрыятычнага выхавання ў духу гераічных традыцый продкаў.

З узнікненнем пісьменства вусна-паэтычнае асэнсаванне гісторыі паступова саступае месца больш дакладнаму, дакументальна-дзелавому яе апісанню. Захавальнікамі гістарычнай памяці, своеасаблівымі энцыклапедыямі гістарычных ведаў эпохі Сярэднявечча сталі аналы, летапісы, хронікі, іншыя творы гістарычна-мемуарнага жанру. Узнікшы ў выніку неадольнага імкнення народа спазнаць сябе, сваю мінуўшчыну, сваё месца ў гісторыі, а таксама захаваць для будучыні імёны, велічныя справы і ўчынкі сваіх герояў, памяць пра найбольш значныя гістарычныя падзеі, гэтыя творы выконвалі вельмі важную ролю ў духоўным жыцці грамадства, у фармаванні яго этнічнай самасвядомасці, нацыянальнай кансалідацыі. Ужо старажытныя народы, грэкі і рымляне, справядліва бачылі ў гісторыі і люстра часу, і настаўніцу жыцця.

Але творы фальклорнага паходжання і даўняга пісьменства на гістарычную тэму — гэта яшчэ і помнікі мастацкага слова. Яны адыгралі выдатную ролю ў станаўленні літаратуры. Багатыя традыцыі сюжэтнага апавядання, займальнага выкладу гісторыі, вобразнага апісання рэальных падзей даюць магчымасць прасочваць вытокі розных жанраў апавядальнай прозы, гістарычнай белетрыстыкі.

У даўняй літаратуры ўсходнеславянскіх народаў, бадай, няма іншага такога жанру, які мог бы параўнацца з летапісамі багаццем зместу, жанрава-стылёвай разнастайнасцю, даўгавечнасцю свайго бытавання. У іх, здаецца, ёсць усё: эмацыянальны, узнёсла-патрыятычны і займальны расказ пра важныя гістарычныя падзеі і сціслая,

дакументальна-дзелавая рэгістрацыя дробных фактаў; высокая паэзія подзвігу і сухая проза будзённага жыцця; шырокі, дзяржаўны, нярэдка агульнанародны і агульначалавечы погляд на з'явы ды ўчынкі герояў і абмежаваны, вузкасаслоўны або мясцовы патрыятызм.

Летапісы — вельмі своеасаблівы жанр даўняга пісьменства. Яны сінкрэтычныя паводле свайго характару. У іх даволі арганічна, адпаведна літаратурным прынцыпам гэтага жанру, спалучаюцца гістарычная сапраўднасць і літаратура, дакумент і мастацкая выдумка — у розны час у рознай меры. Да таго ж плён фантазіі ў гэтых творах, як правіла, успрымаўся як гістарычная сапраўднасць.

Выразна вылучаецца летапіс і паводле сваёй жанравай формы. Выклад вядзецца ў храналагічнай паслядоўнасці, па гадах, па-даўняму — летах, адсюль і назва твораў. Неаднародныя яны і паводле літаратурнай структуры. Летапісы — гэта пераважна зводы-кампіляцыі кароткіх дзелавых запісаў, гістарычных аповесцяў і апавяданняў — як арыгінальных, так і запазычаных з іншых крыніц. Яны часам змяшчаюць розныя гістарычныя дакументы і нават асобныя літаратурныя творы. Падзеі і ўчынкі герояў апісаны ў гэтых творах з пункту гледжання грамадскіх ідэалаў свайго часу, свецка-рыцарскіх або клерыкальна-аскетычных, з пазіцый патрыятызму, гераізму і хрысціянскага гуманізму. Амаль дзевяць стагоддзяў бытавалі летапісы на ўсходнеславянскіх землях, таму ў іх жанравай эвалюцыі ярка выявіліся характэрныя асаблівасці развіцця ўсёй літаратуры.

Пачатак летапісання на ўсходнеславянскіх землях губляецца ў смузе стагоддзяў. Яго вытокі ў гістарычных паданнях, што існавалі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Спрыяў зараджэнню летапісання на Русі таксама ўплыў еўрапейскай гістарыяграфіі, асабліва літаратурных традыцый візантыйскай хранаграфіі.

Першыя ўсходнеславянскія летапісы пачалі складацца, напэўна, у Кіеве, буйным цэнтры палітычнага і культурнага жыцця старажытнай Русі. Прынамсі, ужо пры кіеўскім князю Яраславе Мудрым (1019 — 1054) вяліся гістарычныя запісы. Узнікненне летапісання было выклікана да жыцця важнымі задачамі палітычнага і культурна-гістарычнага развіцця ўсходніх славян, бурным ростам іх грамадскай і этнічнай свядомасці ў перыяд актыўнага гістарычнага самасцвярджэння.

На пачатку XII ст. манах Кіева-Пячорскага манастыра Нестар склаў вядомую «Аповесць мінулых гадоў» («Повесть временных лет») — першую гісторыю ўсходніх славян ад легендарных часоў да эпохі княжання Уладзіміра Манамаха. Заснаваны на багатых вусна-паэтычных і літаратурных традыцыях, на гістарычных паданнях пра далёкую мінуўшчыну ўсходніх славян і дакументальных пагадовых запісах пра сучасныя аўтару падзеі, гэты летапіс увабраў у сябе шматвяковы вопыт гістарычнага аповеду і засведчыў высокі ўзровень гістарычных уяўленняў продкаў сучасных беларусаў, рускіх і ўкраінцаў.

Чалавек шырокага кругагляду і немалога літаратурнага таленту, шчыры патрыёт сваёй краіны, Нестар здолеў намаляваць своеасаблівую панараму грамадска-палітычнага жыцця ўсходніх славян ад эпохі родаплемяннога ладу да ўтварэння Кіеўскай дзяржавы. Пададзеная ім на шырокім міжнародным фоне ўсходнеславянская гісторыя сцвярджала палітычную самастойнасць і незалежнасць старажытнай Русі. Нягледзячы на кіеўскі цэнтрызм і адпаведную тэндэнцыйнасць Нестара-летапісца ў апісанні падзей, яго твор — выдатны помнік старажытнарускай гістарычнай прозы і неацэнная пісьмовая крыніца пазнання даўняй палітычнай гісторыі ўсходніх славян IX — XI стст., іх культуры і грамадскай думкі ранняга Сярэднявечча. Арыгінальная і самабытная паводле свайго зместу і жанравай формы, «Аповесць мінулых гадоў» заклала асновы летапіснага жанру на Русі і паслужыла стымулам для зараджэння летапісання ў іншых гарадах і землях усходняй славяншчыны.

Размешчаная ў цэнтры Еўропы на важных гандлёвых шляхах, у спрыяльных прыродна-кліматычных умовах, актыўным эканамічным, палітычным і культурным жыццём у эпоху ранняга Сярэднявечча жыла і Беларусь. Будаваліся і раслі гарады, развіваліся рамёствы, пашыралася пісьменства. Асабліва вылучаўся Полацк, якому гістарычным лёсам было наканавана пачаць цяжкае змаганне за палітычнае аб'яднанне беларускіх земляў, будаўніцтва першай незалежнай дзяржавы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Зрабіўшыся цэнтрам буйнога княства, гэты горад вёў самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку, справядліва ганарыўся багатымі культурнымі традыцыямі і шматвяковай гераічнай гісторыяй і таму меў усе магчымасці, каб заснаваць уласнае летапісанне. На жаль, Полацкі летапіс не захаваўся, і сёння мы вымушаны выказваць толькі розныя здагадкі і меркаванні пра яго змест і характар.

Аднак найбольш выдатныя моманты гераічнай мінуўшчыны Полацка, якія адкрываюць першыя яскравыя старонкі палітычнай гісторыі старажытнай Беларусі, не зніклі бясследна ў прадонні часу. Роля Полацкага княства, значэнне некаторых полацкіх падзей былі настолькі важкімі і важнымі, што іх не маглі абмінуць летапісцы і песняры суседніх краін і земляў. І Нестар, і ананімныя аўтары Кіеўскага летапісу XII ст. ды славутага «Слова пра паход Ігаравы» часткова захавалі для нас унікальныя звесткі і эпічныя паданні пра выдатных герояў нашай далёкай мінуўшчыны.

І сёння нас глыбока хвалююць драматычныя гісторыі пра цяжкі лёс полацкай князёўны Рагнеды і князя Усяслава Полацкага, напісаныя як займальныя гістарычныя навелы. Асаблівай змястоўнасцю, ёмістасцю і драматычнасцю вылучаецца паэтычнае апавяданне пра гордую палачанку, што змешчана ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1128 г. Літаральна на адной старонцы намаляваны запамінальны вобраз непакорлівай Рагнеды, поўнай жаночай годнасці, чалавечай высакароднасці, гераізму і патрыятызму. Не выклікаюць сумнення вус-

на-паэтычныя вытокі гэтага белетрыстычнага апавядання, якое, перш чым быць занесеным у аналы гісторыі, больш стагоддзя бытавала як эпічнае паданне.

Своеасаблівую аповесць пра Усяслава Чарадзея, славутага полацкага князя XI ст., праўнука Рагнеды, чытаем у «Аповесці мінулых гадоў». Доўгае, больш чым паўвекавое, валадарства гэтага князя было перыядам эканамічнага і палітычнага росквіту старажытнага Полацка. Ён смела і рашуча кінуў выклік магутнаму Кіеву, узначаліў цяжкую шматгадовую барацьбу дзеля абароны палітычнай незалежнасці Полацкага княства. Усяслаў перамагаў і цярпеў паражэнні, ратаваўся ўцёкамі і трапляў у палон, але, вызваліўшыся і вярнуўшыся ў Полацк, зноў з ранейшай настойлівасцю і зацятасцю працягваў сваю незалежніцкую палітыку. Незвычайная гістарычная асоба, сапраўдны рыцар свайго часу і вялікі патрыёт бацькоўскага краю, ён карыстаўся ўсенароднай павагаю і высокім міжнародным аўтарытэтам, стаў героем гістарычных паданняў, песень і былін. Нягледзячы на непрыхільнасць кіеўскага летапісца да Усяслава Чарадзея, яго скупыя гістарычныя запісы захавалі праз многія стагоддзі памяць пра гэтага выдатнага полацкага князя, нястомная дзейнасць якога закладвала падмурак нашай дзяржаўнасці і склала цэлую эпоху ў гісторыі Полацкай зямлі.

Яркія, як бы выхапленыя з самога жыцця малюнкі сярэднявечнай Беларусі эпохі феадальнай раздробленасці пададзены ў шэрагу запісаў Кіеўскага летапісу. Бурліць палітычнае жыццё ў гарадах. Грамадскія страсці, сімпатыі і антыпатыі выяўляюцца адкрыта, на плошчы, на вечы, у бойцы. Варагуюць паміж сабою феадалы, больш моцныя крыўдзяць слабейшых, нялюбых князёў выганяюць з гарадоў і пазбаўляюць удзелаў.

Гэтая прастата і адкрытасць сярэднявечных грамадскіх адносінаў, эмацыянальная насычанасць і знешні дынамізм жыцця тагачаснага чалавека добра прасочваюцца ў летапісным апавяданні пра падзеі ў Полацку 1158 г. Вельмі скупымі, лаканічнымі, але выразнымі і дакладнымі сродкамі стварае летапісец эфект прысутнасці чытача ў гэтых падзеях. Жывасць і нагляднасць апавяданню надаюць надзвычай праўдзівая, натуральная, як бы падслуханая на месцы простая мова, а таксама глыбокая зацікаўленасць падзеямі самога аўтара. Драматычная і займальная жыццёвая фабула ў спалучэнні з даволі высокім майстэрствам апавядальніка дала магчымасць стварыць на невялікай плошчы з сырога матэрыялу гісторыі змястоўны, цікавы, дакументальна дакладны і літаратурна дасканалы летапісны твор. Згаданае гістарычнае апавяданне, складзенае па гарачых слядах падзей іх зацікаўленым сведкам, а магчыма, і непасрэдным удзельнікам, і дало падставы шукаць у гэтым летапісным зводзе сляды страчанага Полацкага летапісу.

Запісы і апавяданні пра полацкія падзеі X—XII стст., пра выдатных дзеячаў даўняй беларускай гісторыі, якімі адкрываецца гэтая

кніга, каштоўныя яшчэ і тым, што даюць магчымасць меркаваць аб характары ўсходнеславянскага летапісання ранняга Сярэднявечча, аб яго змесце і жанравых асаблівасцях, а таксама аб літаратурных густах тагачасных летапісцаў і чытачоў. І не толькі кіеўскіх, але і полацкіх, бо старажытнарускія летапісы здаўна пашыраліся і на беларускіх землях. Іх літаратурныя традыцыі дабратворна ўплывалі на першых беларускіх летапісцаў.

Вельмі важная асаблівасць сярэднявечных летапісаў — іх цесная сувязь з палітычнай гісторыяй краю, народа, з вядучымі грамадскімі тэндэнцыямі часу. Заснаванне летапісання было справай палітычнай, таму на летапіс тады глядзелі ў першую чаргу як на гістарычны дакумент, хоць шырокага чытача прываблівала якраз белетрыстычнасць выкладу, займальнае апавяданне пра незвычайныя падзеі і здарэнні.

Асаблівую ролю ў гісторыі беларускага летапісання адыграў Галіцка-Валынскі летапіс, які быў завершаны ў канцы XIII ст. у Заходняй Украіне, дзе ў тыя часы існавала моцнае Галіцка-Валынскае княства. Гэты выдатны помнік усходнеславянскай гістарыяграфіі і літаратуры карыстаўся вялікай папулярнасцю на нашых землях і паслужыў не толькі непасрэднай крыніцай, але і літаратурным узорам для беларускіх храністаў XVI ст. Менавіта ў гэтым летапісе былі творча развітыя жанравыя традыцыі кіеўскага летапісання, і ўпершыню на ўсходнеславянскіх землях рашуча пераадолена пагадовая форма выкладу гісторыі. Арыгінал Галіцка-Валынскага летапісу быў напісаны як суцэльная гістарычная аповесць, і толькі пазней, дзесьці ў XIV ст., яго тэкст падзялілі на асобныя пагадовыя артыкулы і праставілі даты, месцамі даволі прыблізна. Менавіта ў такой прагматычнай форме, блізкай да традыцый заходнееўрапейскай гістарыяграфіі, і складзены першы твор агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання — «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» (каля 1430 г.).

Для даследчыкаў і ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай мінуўшчынай, Галіцка-Валынскі летапіс каштоўны яшчэ і тым, што ён змяшчае унікальныя звесткі па гісторыі ўтварэння Беларуска-Літоўскай дзяржавы, у межах якой станоўча вырашыўся гістарычны лёс беларускага і літоўскага народаў. Працэс палітычнага аб'яднання літоўскіх і беларускіх земляў у агульнае Вялікае Княства адбываўся ў вельмі складаных гістарычных умовах, у жорсткай барацьбе са знешнімі ворагамі і ўнутраным разладам.

Дасведчанае, зацікаўленае і таленавітае апісанне гэтых падзей складае ў Галіцка-Валынскім летапісе своеасаблівы цыкл апавяданняў, аб'яднаных адзінствам галоўнай тэмы і яе герояў — Міндоўга, Войшалка і Тройдзеня, заснавальнікаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Гэтыя творы выклікаюць дадатковую цікаўнасць яшчэ і тым, што ў іх, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, захаваліся рэшткі згубленага Наваградскага летапісу.

Паколькі пытанне аб існаванні арыгінальнага мясцовага летапісання на беларускіх землях у XI — XIII стст. застаецца адкрытым, тым большае значэнне маюць гістарычныя звесткі, аповесці і апавяданні старажытнарускіх летапісных зводаў аб падзеях, што датычаць нашай даўняй гісторыі. Яны не толькі неацэнная крыніца нашых ведаў пра беларускую сярэднявечную мінуўшчыну. У гэтых летапісах — і адзін з вытокаў беларускай гістарычнай прозы.

Новы этап у гісторыі беларускага летапісання адкрылі агульнадзяржаўныя, беларуска-літоўскія летапісы, узнікненне якіх было выклікана новымі культурна-гістарычнымі ўмовамі ў грамадска-палітычным жыцці Літвы і Беларусі позняга Сярэднявечча. На працягу XIV ст. з малога і няўстойлівага княства ў Верхнім Панямонні ў выніку гераізму мужных вояў і актыўнай дзейнасці літоўска-беларускіх князёў вырасла магутная еўрапейская дзяржава, якая атрымала шырокае міжнароднае прызнанне і вырашала вельмі важныя гістарычныя задачы. Узнікненне Вялікага Княства ўратавала беларусаў і літоўцаў ад заваявання рознымі захопнікамі, садзейнічала іх этнічнай кансалідацыі, агульнаму грамадскаму і культурнаму прагрэсу. У часы існавання Беларуска-Літоўскага гаспадарства старабеларуская мова была дзяржаўнай, што спрыяла росквіту дзелавога і прыгожага пісьменства, станаўленню і развіццю розных жанраў уласна беларускай літаратуры, у тым ліку і летапісання.

Першыя агульнадзяржаўныя беларуска-літоўскія летапісы ўзніклі ў перыяд найбольшай палітычнай магутнасці і міжнароднага аўтарытэту гэтай дзяржавы, у часы вялікага князя Вітаўта (1392—1430). Яго актыўная збіральніцкая, аб'яднаўчая палітыка на ўсходнеславянскіх землях выяўляла важнейшыя гістарычныя тэндэнцыі часу, звязаныя з завяршэннем працэсу пераадолення феадальнай раздробленасці і фарміраваннем беларускай і літоўскай народнасцяў, таму мела шырокую падтрымку ў перадавых колах літоўска-беларускага грамадства, у тым ліку і ў праваслаўнага духавенства.

У 20-я гг. XV ст. Вітаўт стаў фактычна палітычным лідэрам усяе Усходняй Еўропы. На схіле дзён гэты князь вырашыў ажыццявіць яшчэ адну вялікую задуму, мару свайго жыцця — атрымаць карону і стаць каралём de jure, бо фактычна ён быў поўнаўладным і незалежным валадаром у сваёй дзяржаве.

Найбольш верагодна, што менавіта ў сувязі з гэтай неардынарнай палітычнай падзеяй (каранаванне планавалася правесці летам 1430 г. у Вільні, аднак яго сарвалі польскія правячыя колы) і быў складзены ў Смаленску ў асяроддзі праваслаўнага духавенства першы беларуска-літоўскі летапісны звод. Ён адкрываецца кароткай гісторыяй Кіеўскай і Маскоўскай Русі, запазычанай з рускіх летапісаў, а завяршаецца «Летапісам вялікіх князёў літоўскіх», арыгінальнай аповесцю пра гісторыю Беларуска-Літоўскай дзяржавы ад Гедыміна да часоў Вітаўта ўключна.

Хоць «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» неаднародны паводле свайго складу, аднак ён, у адрозненне ад традыцыйнага паліморфнага летапісу, уяўляе сабою даволі цэласны, пабудаваны з пэўнай ідэйна-мастацкай задумаю твор. Кідаюцца ў вочы амаль выключна свецкі яго характар, прастата, выразнасць і лагічнасць выкладу. Апавяданне вядзецца па-дзелавому энергічна, дынамічна і мэтанакіравана, дакументальна дакладна, з добрым веданнем гісторыі роднай краіны.

Важная асаблівасць гэтага твора, што збліжае яго з Галіцка-Валынскім летапісам, — нетрадыцыйнасць яго жанравай будовы. Асноўнай структурнай адзінкай «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх» з'яўляецца не пагадовы артыкул, а асобны сюжэт. Гэта дае магчымасць беларускаму летапісцу весці гістарычнае апавяданне па законах белетрыстыкі, больш напружана і мэтанакіравана, з выкарыстаннем завязкі, кульмінацыі і развязкі. Ён ужо не пасіўна следуе за матэрыялам, за падзеямі і фактамі, а праводзіць іх пэўны адбор. У творы вельмі ўмела выкарыстоўваецца простая мова, дыялог, што надае дадатковую жывасць і асаблівую праўдзівасць апавяданню.

Карацей кажучы, у «Летапісе вялікіх князёў літоўскіх» адчуваецца значны літаратурны вопыт яго аўтараў, які даў ім магчымасць, апісваючы рэальныя падзеі, стварыць цікавае і займальнае апавяданне, якое мае выразныя прыкметы дабротнай гістарычна-дакументальнай белетрыстыкі. У гэтым творы перададзены напружаны дынамізм часу. У ім, як у люстры, адбілася эпоха еўрапейскага Сярэднявечча, калі ўсё было ў руху, барацьбе, калі няспынна кіпелі страсці і звінелі мячы, калі ў зацятым змаганні ўсталёўвалася новая палітычная карта Усходняй Еўропы, умацоўваліся новыя дзяржавы, на гістарычную арэну выходзілі цэлыя народы, фармаваліся новыя грамадскія адносіны.

Галоўныя героі таго часу — князі. Яны ўзначальваюць абарону сваіх гарадоў і земляў ад варожых нападаў, водзяць узброеныя дружыны супраць удзельных князёў і непакорных суседзяў. Найбольш выдатныя з іх, вялікія князі, валадары вялікіх княстваў-дзяржаў, сваёй актыўнай гістарычнай дзейнасцю выяўлялі прагрэсіўныя, аб'ядноўчыя тэндэнцыі свайго часу, агульнадзяржаўныя і агульнанародныя інтарэсы. Вось таму яны ў цэнтры ўвагі беларускіх летапісцаў і храністаў, галоўныя героі летапісных аповесцяў і апавяданняў. Менавіта ў іх справах і ўчынках, лічылася тады, увасоблены асноўны змест і сэнс руху зямной чалавечай гісторыі, бо яны, канцэнтруючы ў сваіх руках усю паўнату і веліч свецкай улады, з'яўляліся адначасова паўнамоцнымі выканаўцамі і праваднікамі на зямлі найвышэйшай волі («няма ўлады, што не ад Бога»).

Такім быў і такім уяўляўся беларускім летапісцам XV ст. князь Вітаўт. Ён і стаў галоўным героем першых беларуска-літоўскіх летапісных твораў. Яму была прысвечана таксама спецыяльная

«Пахвала вялікаму князю Вітаўту» (каля 1430 г.), у якой у сціслай форме, выразна і ёміста выказана гістарычная канцэпцыя першага беларуска-літоўскага летапіснага зводу, куды быў уключаны гэты панегірычны твор. У ім ва ўрачыста-ўзнёслым стылі ўслаўляецца Вітаўт як мудры і магутны валадар, сапраўдны гаспадар Беларуска-Літоўскай дзяржавы, які валодае Літоўскаю і «ўсёю Рускаю зямлёю» і карыстаецца вялікім міжнародным аўтарытэтам.

У «Пахвале Вітаўту», як і ў Беларуска-літоўскім летапісе 1446 г. у цэлым, праводзіцца погляд на гэтую дзяржаву як на галоўны цэнтр палітычнага аб'яднання ўсіх літоўскіх і ўсходнеславянскіх земляў. Відавочна, гэты твор задумваўся як своеасаблівае ідэалагічна-гістарычнае абгрунтаванне і апраўданне ўсёй унутранай і знешняй палітыкі вялікага князя Вітаўта. Увесь жа агульнадзяржаўны летапісны звод быў складзены з мэтаю ўключыць гісторыю Вялікага Княства ў еўрапейскі кантэкст і сцвердзіць выдатную гістарычную ролю гэтай дзяржавы на міжнароднай арэне.

Шмат у чым блізкая да «Пахвалы Вітаўту» паводле жанравых асаблівасцяў «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму», што захавалася ў адным з супрасльскіх рукапісных зборнікаў першай паловы XVI ст. Слаўная перамога беларуска-літоўскіх войскаў над рускімі пад Оршаю ў 1514 г., якая часова спыніла разбуральныя захопніцкія напады маскоўскіх князёў на беларускія землі, адгукнулася ў розных літаратурных творах. Гэты — адзін з найбольш значных і цікавых.

Летапіснае апавяданне пра гэтую незвычайную падзею пад пяром шчырага патрыёта Беларуска-Літоўскай дзяржавы перарасло ў жывое, эмацыянальнае слова, узнёслую пахвалу пераможцам: «вдатным и храбрым» літоўска-беларускім воям, «великославному и великоумному» палкаводцу Канстанціну Астрожскаму. Не могучы стрымаць свае радасці і захаплення, невядомы аўтар выкарыстоўвае ўсе свае веды і талент, каб годна ўславіць гераічны подзвіг мужных абаронцаў роднай зямлі. Натхнёныя паэтычныя словы і выразы, розныя літаратурна-вобразныя рэмінісцэнцыі чаргуюцца ў творы з дакладнымі гістарычнымі звесткамі аб падзеях 1514 г., што ў цэлым дае падставы разглядаць яго не толькі як цікавы помнік беларускай літаратуры пачатку XVI ст., але і як каштоўную гістарычную крыніцу.

«Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму» напісана з патрыятычных пазіцый. У ёй асуджаецца захопніцкая палітыка маскоўскіх князёў у адносінах да Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Аўтар адназначна ставіцца да іх як да звычайных агрэсараў-заваёўнікаў, параўноўваючы паходы рускіх войскаў на беларускія землі з нападамі татараў. Гэты твор дае цікавы матэрыял і для іншых вельмі важных назіранняў і вывадаў. Ён пераканаўча свед-

чыць, што агульнадзяржаўным патрыятызмам была тады прасякнута не толькі шляхта, але і лепшая, перадавая частка беларускага праваслаўнага духавенства, бо гэтая пахвала напісана ў Супрасльскім праваслаўным манастыры.

У XV ст. беларускае летапісанне дасягнула, такім чынам, важкіх здабыткаў. Былі ўкладзены першыя агульнадзяржаўныя летапісы і летапісныя зводы. Пачалася грунтоўная распрацоўка мясцовымі сіламі гісторыі Беларусі і Літвы, што паслужыла асновай для больш актыўнай і сістэматычнай летапіснай працы ў наступныя стагоддзі. Пад уплывам жывой рэчаіснасці істотна змянілася гістарычная канцэпцыя і абнавілася жанравая аснова летапісання на Беларусі. У выніку пераадолення феадальнай раздробленасці вядучай стала аб'яднаўчая ідэя, і падзеі пачалі асвятляцца не з мясцовых, а з агульнадзяржаўных пазіцый. Беларускія летапісцы ў сваёй працы абапіраліся на значныя мясцовыя пісьмова-моўныя традыцыі, а таксама на багатыя літаратурныя традыцыі старажытнарускага летапісання. Характэрнай жанравай асаблівасцю беларускіх летапісаў стала арганічнае спалучэнне пагадовай формы выкладу гісторыі з прагматычным апавяданнем пра мінуўшчыну, кароткіх дакументальных запісаў-паведамленняў — з гістарычнымі аповесцямі, сухой інфармацыі пра падзеі — з жывым, белетрыстычным іх апісаннем. У XV ст. пад уплывам свецкага дзелавога пісьменства быў выпрацаваны таксама своеасаблівы летапісны стыль — лаканічны, выразны, з перавагаю свецкіх элементаў у мове і свецкага погляду на падзеі.

Для ранніх беларускіх летапісаў характэрныя шмат якія асаблівасці, агульныя і для ўсяго ўсходнеславянскага летапісання эпохі Сярэднявечча, у прыватнасці, сінкрэтызм і своеасаблівы гістарычны рэалізм. Яны адначасова з'яўляюцца помнікамі гістарыяграфіі і грамадска-палітычнай думкі свайго часу, дакументальна-дзелавога пісьменства і — літаратуры. У летапісных творах, як правіла, жывуць і дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы. Канстатацыя і рэгістрацыя асобных фактаў і падзей пераважае над апісаннем і тлумачэннем, дакументальная фактаграфія — над мастацкай тыпізацыяй, бо для сярэднявечнага чытача мела асаблівую каштоўнасць праўда гістарычнага факта, а не мастацкая праўда.

«Сіла гістарычных вобразаў, — справядліва адзначае вядомы медыявіст А. Гулыга, — у іх сапраўднасці. Калі чытач ведае, што яму расказваюць пра сапраўдныя падзеі, апавяданне атрымоўвае дадатковую эмацыянальную дзейснасць... Аўтэнтычнасць выступае ў якасці не толькі навуковай, але і своеасаблівай эстэтычнай катэгорыі, якая ўласціва гістарычнаму апавяданню»*. Даверлівы сярэднявечны чалавек часта прымаў за чыстую, гістарычную

* Гулыга А. Искусство истории. М., 1980. С. 109—110.

праўду нават легендарнае і фантастычнае. Таму ў летапісах і хроніках часам апавядаецца пра розныя незвычайныя здарэнні, несапраўдныя падзеі, пра выдуманых герояў. Аднак гэта, пераважна, вынік не наўмыснай фальсіфікацыі летапісцамі гісторыі, а іх легкавернасці і наіўнасці, абмежаванасці светапогляду. Таму, калі ў летапісах і хроніках і прысутнічае вымысел, то ён звычайна яшчэ не свядомы, не мастацкай накіраванасці.

Станаўленне беларускай гістарычна-мастацкай прозы якраз адбывалася шляхам далейшай белетрызацыі гістарычнага апавядання, усё глыбейшага пранікнення ў летапісы і хронікі эмацыянальна-вобразнага адлюстравання гісторыі. Гэтыя працэсы прыкметна паскорыліся на Беларусі ў XVI ст., у часы Скарыны.

Беларускі народ, які ў эпоху позняга Сярэднявечча, у XIV—XV стст., канчаткова сфармаваўся як асобны, самабытны этнас і стаў паўнапраўным суб'ектам палітычнай гісторыі Еўропы, у эпоху Адраджэння выявіў сябе і як магутны творца духоўных каштоўнасцяў еўрапейскага ўзроўню. Творчая спадчына Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага, Сымона Буднага і Льва Сапегі, пісаныя дасканалаю беларускаю моваю статуты і хронікі, што ўвайшлі ў залаты фонд славянскай культуры, — бліскучы таму доказ. Важнымі ўмовамі гэтага культурнага росквіту, першага Адраджэння ў Беларусі былі палітычная незалежнасць, моцныя элементы дэмакратызму ў грамадскім ладзе, талерантнасць у духоўным жыцці, уздым гарадоў, развіццё гуманізму, рэальны дзяржаўны статус беларускай мовы.

У XVI ст. прыкметна вырасла нацыянальна-гістарычная свядомасць нашых продкаў, іх цікавасць да сваёй мінуўшчыны. У новых гістарычных умовах пачалася пераацэнка ранейшых поглядаў на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, якое стала разглядацца як самацэнная з'ява і як літоўска-беларуская сваім характарам дзяржава. Папярэднія летапісы хоць і працягвалі бытаваць, але мала каго ўжо задавальнялі, асабліва Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., у якім вядучае месца займала гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі і пераважаў агульнарускі погляд на падзеі. Узнікла неабходнасць у новай гісторыі Беларусі і Літвы, якая сваім зместам і канцэпцыяй лепш адпавядала б новым патрэбам часу. І такая гісторыя неўзабаве з'явілася. Яна захавалася ў розных спісах і рэдакцыях. Найбольш поўная і дасканалая — так званая «Хроніка Быхаўца».

Гэты летапісны помнік вядомы ў адзіным спісе, рукапіс якога быў знойдзены ў мінулым стагоддзі ў асабістай бібліятэцы беларускага шляхціца з-пад Ваўкавыска А.Быхаўца, але ў другой палове XIX ст. загінуў. Рукапіс быў перапісаны лацінкай дзесьці ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. з больш даўняга кірылічнага арыгінала. Твор збярогся дзякуючы гісторыку Тодару Нарбуту,

якi ў 1846 г. апублікаваў яго поўны тэкст*. Пазней «Хроніка Быхаўца» двойчы перавыдавалася ў вядомай акадэмічнай серыі «Поўны збор рускіх летапісаў» (т. 17, 1907; т. 32, 1975), была таксама перакладзена на рускую** і літоўскую*** мовы. I толькі вось цяпер у гэтай кнізе ўпершыню друкуецца ў перакладзе на сучасную беларускую мову.

«Хроніка Быхаўца» — тыповы летапісны звод, у якім аб'яднаны ў адно цэлае гістарычныя аповесці і апавяданні з кароткімі пагадовымі запісамі. Аднак апошнія, у адрозненне ад традыцыйных летапісаў, займаюць у гэтым зводзе зусім нязначнае месца. Паводле ж свайго паходжання тэкст хронікі складаецца з трох асноўных частак: легендарнай гісторыі Літвы ад Палемона да Гедыміна, гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ад сярэдзіны XIV да сярэдзіны XV ст., заснаванай галоўным чынам на вядомым «Летапісе вялікіх князёў літоўскіх», і арыгінальнай часткі, прысвечанай апісанню падзей пераважна XV — пачатку XVI ст.

Легендарная гісторыя Літвы, якой адкрываецца «Хроніка Быхаўца», не належыць яе аўтару, а запазычана з «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», гістарычна-літаратурнага твора, які напісаны ў 20-я гады XVI ст. у асяроддзі літоўскіх арыстакратаў. Яго заказчыкамі, найбольш верагодна, былі Гаштольды. Легенда аб высакародным паходжанні літоўскіх князёў і паноў (ад рымскай знаці) была ім патрэбна, каб гістарычна абгрунтаваць сваю выключную ролю ў гісторыі Вялікага Княства і сцвердзіць права на вядучае становішча ў дзяржаве. Менавіта ў гэты перыяд асабліва ўзмацнілася напружанасць іх адносін са сваімі канкурэнтамі — беларуска-ўкраінскімі феадаламі, а таксама вельмі адчувальным стаў націск на княства з боку Масквы і Польшчы.

Велічная і гераічная, але ў аснове сваёй выдуманая, тэндэнцыйная і схематычная гісторыя старажытнай Літвы, што пададзена ў «Хроніцы Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», поўная розных недакладнасцяў і недарэчнасцяў, зразумела, мае мала агульнага з сапраўднай гісторыяй і патрабуе строга крытычнага падыходу. Хоць у гэтай хроніцы і выкарыстана рэальная гістарычная канва, аднак значную крыніцазнаўчую каштоўнасць у ёй мае, бадай, толькі апісанне гісторыі часоў Гедыміна, дзе чуцен водгалас гістарычных паданняў пра сапраўдныя падзеі (паходы на Украіну, заснаванне Вільні). Гэтай гістарыяграфічнай

* Pomniki do dziejów litewskich. Wilno, 1846.

** Хроника Быховца. М., 1966 (прадмова, пераклад і каментарыі М. Улашчыка).

*** Lietuvos metraštis. Bychovco Kronika. Vilnius, 1971 (прадмова, пераклад і каментарыі Р. Ясаса).

фальсіфікацыі эпохі Адраджэння, вытокі якой вядуць у XV ст., верылі не толькі наіўныя чытачы, але і многія храністы-кампілятары эпохі барока (М. Стрыйкоўскі, А. Гваньіні і іншыя) і нават гісторыкі новага часу (напрыклад, Т. Нарбут). На жаль, і сёння сустракаюцца аматары сівой мінуўшчыны, якія некрытычна выкарыстоўваюць гэты і іншыя творы, у якіх пераказваецца легендарная гісторыя Літвы, маючы байкі даўніх храністаў за чыстую праўду.

Складальнік «Хронікі Быхаўца» таксама не падвяргаў сумненню асноўны змест «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага». Ён толькі ўнёс у яе тэкст дзве значныя змены: пачатак падзей перанёс з I ст. н. э. у V ст., у часы Атылы, і дапоўніў легендарную частку апавяданнямі пра гістарычна сапраўдных князёў Міндоўга і Войшалка, узятымі з Галіцка-Валынскага летапісу.

Імкнучыся стварыць найбольш поўную гісторыю Беларуска-Літоўскай дзяржавы ад глыбокай мінуўшчыны да эпохі Адраджэння, беларускі храніст выкарыстаў не толькі вядомыя яму папярэднія пісьмовыя крыніцы. Сваю, арыгінальную частку аўтар «Хронікі Быхаўца» ўклаў на падставе ўспамінаў бывалых і дасведчаных людзей, гістарычных паданняў мясцовых княскіх і магнацкіх родаў (найбольш Гаштольдаў і Слуцкіх), асобных летапісных запісаў, уласных назіранняў.

Як прадстаўніка патрыятычна настроенай шляхты яго асабліва хвалявалі ўспаміны пра найбольш яркія і слаўныя моманты гісторыі краіны, гераічныя ўчынкі продкаў. Найлепшыя старонкі свайго твора ён прысвяціў апісанню ратных подзвігаў, ваенных паходаў і бітваў (аповесці пра паход Альгерда на Маскву, пра Грунвальдскую бітву і інш.). Сваім неабыякавым, жывым і займальным аповядам храніст імкнуўся захапіць чытачоў багатым гераічным мінулым сваёй зямлі, узняць іх цікавасць да роднай гісторыі, узмацніць патрыятычныя пачуцці сваіх суайчыннікаў, а таксама захаваць для будучых пакаленняў памяць пра найбольш выдатныя падзеі і герояў Бацькаўшчыны. Асобныя старонкі гэтага твора маюць выразную публіцыстычную накіраванасць. Вельмі прыкметна непрыязнае стаўленне аўтара да кіруючых колаў Польшчы, у якіх ён бачыў галоўных ворагаў палітычнай незалежнасці Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Глыбокае захапленне мінуўшчынай сваёй краіны, яе гераізацыя і паэтызацыя не пераходзяць, аднак, у аўтара «Хронікі Быхаўца» ў непавагу да гістарычнага факта, у адвольнае выкарыстанне пісьмовых крыніц, у свядомую фальсіфікацыю гісторыі, што характэрна, напрыклад, для складальніка «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага».

У цэлым «Хроніка Быхаўца» — звод тэматычна звязаных, прасякнутых патрыятычнай ідэяй гістарычных аповесцяў і апавяданняў. Багацце і разнастайнасць іх зместу робяць яе неацэннай крыніцай пазнання гістарычнай мінуўшчыны Беларусі і Літвы эпохі Сярэднявечча. У гэтым творы добра бачны таксама рост апавядальнага май-

стэрства беларускіх храністаў XVI ст. Захоўваючы яшчэ арганічную сувязь са старымі, летапіснымі традыцыямі і дзелавым пісьменствам, аўтар «Хронікі Быхаўца» зрабіў прыкметны крок наперад па шляху далейшай белетрызацыі гістарычнага апавядання. Апісанне падзей значна набліжаецца да чытача, ажыўляецца рознымі падрабязнасцямі і дэталямі, месцамі сюжэтна разгортваецца, дзякуючы чаму ён становіцца як бы іх непасрэднымназіральнікам і ўдзельнікам. Як займальныя гістарычныя навелы ўспрымаюцца, напрыклад, аповяды пра паход Альгерда на Маскву, пра сватанне караля Ягайлы да Соф'і Гальшанскай, пра забойства ў 1440 г. у Троках князя Жыгімонта і некаторыя іншыя.

Асабліва вылучаецца апісанне бітвы беларуска-літоўскага войска з татарамі пад Клецкам у 1506 г. (у «Хроніцы Быхаўца» яна недакладна датавана 1507 г.), якое выкладзена непасрэдным удзельнікам гэтай падзеі або са слоў відавочцы. Аўтар тут падае не толькі год і месяц, але і дзень тыдня і нават пару сутак (вечарам у панядзелак, перад змярканнем і інш.), калі адбываліся падзеі, а таксама дакладна адзначае ўсе мясціны, куды рухаліся войскі. Такога характару дэталізацыі, такой нагляднасці, храналагічнай і тапаграфічнай дакладнасці, такой натуральнай і жывой мовы яшчэ не ведала беларускае летапісанне.

Як летапісны звод «Хроніка Быхаўца» была завершана дзесьці ў другой чвэрці XVI ст. Цяжка сказаць — яе арыгінальная частка належыць аднаму ці двум храністам, складалася ў адзін ці ў два этапы. Яе змест не дае падстаў для адназначнага і ўпэўненага адказу на гэтае пытанне. Апрача багатага матэрыялу агульнадзяржаўнага характару, выразна заўважаюцца яшчэ дзве групы звестак, што датычаць Гаштольдаў і Слуцкіх. Яны сведчаць пра несумненную сувязь храніста з гэтымі магутнымі феадальнымі родамі, якія займалі тады вельмі высокае месца ў дзяржаўнай радзе, чым, відаць, і тлумачыцца яго добрая дасведчанасць ва ўсіх важнейшых падзеях і фактах грамадска-палітычнага жыцця краіны. Як паказваюць шмат якія гістарычна-геаграфічныя рэаліі і фактычныя дэталі, а таксама моўна-дыялектныя асаблівасці заключнай часткі «Хронікі Быхаўца», яна, напэўна, складзена ў Слуцку або Наваградку. Прынамсі, гэты рэгіён яе аўтар вельмі добра ведаў: альбо паходзіў адтуль, альбо доўгі час там жыў. Несумненна толькі, што гэта быў адукаваны, глыбока дасведчаны ў роднай гісторыі і не абдзелены пісьменніцкім талентам прадстаўнік беларускай шляхты, шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны. «Хроніка Быхаўца» стала апошнім значным творам агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання і, бадай, самай яркай з'явай беларускай гістарычнай прозы эпохі Адраджэння.

Вялікія перамены, якія адбыліся ў гістарычным жыцці беларускага народа ў эпоху барока (Люблінская 1569 г. і Брэсцкая царкоўная 1596 г. уніі, узмацненне сацыяльнай напружанасці і рэлігійнай канфрантацыі і інш.), выклікалі глыбокія змены ў светапоглядзе лю-

дзей, у іх духоўных запатрабаваннях і густах, ва ўсіх галінах беларускай культуры таго часу, абумовілі асаблівасці развіцця беларускай літаратуры і гістарыяграфіі, для якіх гэты перыяд таксама стаў пераломным. Адбывалася далейшая эвалюцыя гістарычна-дакументальнай прозы і трансфармацыя летапіснага жанру. Традыцыйнае агульнадзяржаўнае летапісанне як бы разгаліноўваецца і паступова саступае месца хранографам і мясцовым летапісам, якія ўзнікаюць на яго аснове і працягваюць яго літаратурна-гістарыяграфічныя традыцыі. У сувязі з узмацненнем асабовага пачатку ў літаратуры ўзрасло разуменне каштоўнасці жыцця асобнага чалавека, што выклікала з'яўленне яшчэ аднаго віду гістарычна-мемуарнай прозы — дыярыушаў (дзённікаў), розных аўтабіяграфічных жыццяпісаў, своеасаблівых сямейных летапісаў.

У эпоху барока прыкметна пашырыўся агульны гісторыка-геаграфічны кругагляд беларускіх чытачоў, якія атрымалі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з рознымі творамі на тэмы мінуўшчыны (многія з іх былі перакладзены на беларускую мову), раманамі і аповесцямі, прысвечанымі выдатным дзеячам сусветнай гісторыі (Аляксандру Македонскаму, Атылу і інш.), хронікамі і хранографамі. Чытацкая цікаўнасць усё больш выходзіла за межы нацыянальнага мінулага. Узнікла вострая неабходнасць падаць яе ва ўзаемасувязі з гісторыяй іншых краін і народаў, упісаць яе ў міжнародны кантэкст.

Першую спробу ў гэтым напрамку зрабіў польскі храніст М. Стрыйкоўскі, які свае найбольш плённыя гады пражыў у Беларусі і Літве і глыбока захапіўся нашай гісторыяй. Скарыстаўшы шматлікія крыніцы, у тым ліку беларуска-літоўскія летапісы і хронікі, ён напісаў «Хроніку польскую, літоўскую, жамойцкую і ўсяе Русі», у якой гісторыя Беларуска-Літоўскай дзяржавы ўпершыню была пададзена на шырокім агульнаславянскім фоне.

На падставе гэтай хронікі і перакладзенай на беларускую мову польскай «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага ў першай палове XVII ст. узнікла агромністая хранаграфічная кампіляцыя — «Вялікая хроніка», своеасаблівая гістарычная энцыклапедыя-анталогія эпохі барока. Гісторыя старажытнай Русі, Літвы, Беларусі і Украіны выкладзена ў гэтым хранографе ў сувязі з найбольш яркімі старонкамі мінулага іншых краін і народаў ад біблейскіх часоў да канца XVI ст. Гэты звод, апрача дакладных звестак пра сапраўдныя гістарычныя падзеі, змяшчае таксама разнастайны матэрыял вусна-паэтычнага і літаратурнага паходжання, у тым ліку розныя міфы, легенды, гістарычныя паданні, скарочаныя варыянты аповесцяў пра Траянскую вайну, Аляксандра Македонскага ды іншыя творы з займальным сюжэтам і яркімі вобразамі галоўных герояў, што дае падставы разглядаць «Вялікую хроніку» як завяршальны этап у жанравай эвалюцыі беларускай гістарычнай прозы ад уласна летапісаў да гістарычнай белетрыстыкі ў сённяшнім разуменні гэтага слова.

Гісторыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў гэтай хранаграфічнай кампіляцыі прысвечана асобная частка пад назваю «Хроніка Літоўская і Жамойцкая»*. Яна грунтуецца пераважна на вольным перакaзе адпаведнай часткі хронікі М. Стрыйкоўскага, апошні ж, у сваю чаргу, — беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік. Склад, змест і агульны характар «Вялікай хронікі» пераканаўча сведчаць, што нельга выкарыстоўваць гэты цікавы помнік гістарычных уяўленняў нашых продкаў XVII ст. як дакладную гістарычна-дакументальную крыніцу.

Ні адзін перыяд у гісторыі беларускага пісьменства не можа пахваліцца такім багаццем і разнастайнасцю твораў гістарычнай прозы, як эпоха барока (XVII — першая палова XVIII ст.). Калі адны пісалі мемуары, другія складалі хранографы, іншыя старанна занатоўвалі на паперы найбольш цікавыя падзеі, што датычылі далёкай і блізкай мінуўшчыны свайго горада ці краю. Менавіта здабыткі мясцовага беларускага летапісання, бадай, самыя значныя і важкія.

Так склалася, што найбольш выдатныя помнікі летапіснага жанру эпохі барока ўзніклі ва Усходняй Беларусі. Напэўна, таму, што гэты рэгіён беларускай зямлі апынуўся тады амаль у цэнтры вельмі важных гістарычных падзей і што незалежны прыдняпроўскі горад Магілёў выйшаў на першыя ролі сярод іншых беларускіх местаў паводле колькасці насельніцтва і свайго агульнага развіцця. Якраз у гэтым горадзе і ў недалёкім ад яго Баркулабаве і былі створаны арыгінальныя мясцовыя летапісы.

Калі аўтары ранейшых летапісаў і хронік глядзелі на падзеі як бы з птушынага палёту, з высокіх грамадска-палітычных пазіцый, з агульнадзяржаўных інтарэсаў, то мясцовыя летапісцы, будучы ў гушчы падзей іншага маштабу, былі значна бліжэй да будзённага жыцця і простага чалавека. Вялікая, нацыянальная, а часам і еўрапейская гісторыя пераламлялася ў іх праз прызму мясцовых падзей і інтарэсаў. Усё гэта і прадвызначыла змест і характар летапісных твораў, складзеных у асяроддзі, далёкім ад пануючых дзяржаўных колаў, на ўскраіне краіны, але не правінцыйна абмежаванымі і неабыякавымі людзьмі.

Як бы выхапленымі з самой рэчаіснасці паўстаюць перад намі яркія малюнкі складанага жыцця Беларусі, асабліва беларускай вёскі на пераломе двух стагоддзяў, што пададзены ў Баркулабаўскім летапісе. Яго аўтар, мясцовы святар, жыў і працаваў сярод простых людзей, добра ведаў іх побыт, штодзённыя клопаты і праблемы, адчуваў сябе неадрыўнай часцінкай усяго народа, таму змог выказаць у сваім творы дэмакратычныя погляды на падзеі. Яны ацэньваюцца ім з пункту гледжання народных інтарэсаў. У прыватнасці, ён выразна адмоўна ставіўся да Брэсцкай уніі 1596 г. і да нападаў казакоў,

* Апублікавана М. Улашчыкам у 32 т. «Поўнага збору рускіх летапісаў» (1975 г.).

якія людзям «шкоду чынілі горш, чым злыя непрыяцелі або татары», са спачуваннем да пацярпелых падаў славутую авантуру з самазванцамі.

З глыбокім болем апавядае баркулабаўскі летапісец пра страшныя і трагічныя гады голаду, які напаткаў наш край у пачатку XVII ст. Назіральны і ўважлівы аўтар падмацоўвае свой суперажывальны аповяд трапнымі і дакладнымі дэталямі і рэаліямі, якія надаюць усяму малюнку большую выразнасць і праўдзівасць. Да глыбіні душы ўзрушаюць чытача гэтай жудаснай карціны людскога гора слёзна-горкія словы спакутаванага голадам чалавека, пададзеныя ў гэтым летапісе: «Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, сонейка, дай дзіцятку лыжачку варыўца сырога!»

Гэтыя і іншыя арыгінальныя звесткі дасведчанага і неабыякавага сучасніка тых далёкіх падзей, выкладзеныя каларытнаю беларускаю моваю, маюць вялікую каштоўнасць як жывыя сведкі часу. Яны даюць шмат цікавага матэрыялу, неацэннай інфармацыі і для вучонага, даследчыка беларускай мінуўшчыны, і для пісьменніка, і для краязнаўца, і для чытача-аматара.

Нягледзячы на храналагічную непаслядоўнасць у апісанні падзей, часам недакладнае іх датаванне і пэўную гістарычную абмежаванасць поглядаў аўтара, Баркулабаўскі летапіс унікальны і як апошні значны твор беларускага летапісання, што быў укладзены яшчэ па-беларуску. У XVII ст. на Беларусі наступ паланізацыі настолькі ўзмацнеў і працэс адраджэння царкоўнаславяншчыны так актывізаваўся, што на беларускай мове ў эпоху барока былі надрукаваны літаральна лічаныя кнігі. Родная мова паступова пачала выцясняцца з розных сфераў грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. Гэта засведчыла, у прыватнасці, і Магілёўская хроніка, якую ў канцы XVII ст. пачыналі складаць ужо на польскай мове, а завяршалі ў XIX ст. па-расейску.

Гэты выдатны помнік гарадскога летапісання Беларусі захаваўся ў арыгінальным гістарычным зборніку сярэдзіны XVIII ст., які пасля дапаўняўся да сярэдзіны XIX ст. Храналагічна ён ахоплівае падзеі 1526—1856 гг. Найбольш каштоўная і цікавая ў ім частка, укладзеная першым магілёўскім летапісцам Трафімам Суртам з яго прадмоваю (ад пачатку і да 1701 г.) і Юрыем Трубніцкім (1701—1746 гг.), які склаў першы магілёўскі летапісны звод. На жаль, старонкі з запісамі пра падзеі 1705 і 1710—1744 гг. не зберагліся.

Асноўны змест хронікі — гісторыя Магілёва, якая пададзена аўтарамі не толькі з добрым веданнем яго мінуўшчыны, але і патрыятычна, з пачуццём гонару за свой горад, непасрэднымі сведкамі небывалага росквіту і трагічнага заняпаду якога яны былі. У творы незвычайнае багацце разнастайных звестак з сацыяльна-палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця гэтай своеасаблівай сталіцы Белай Русі эпохі барока — па гісторыі рамёстваў, дойлідства, нацыянальных і рэлігійных дачыненняў. Нямала каштоўнага і цікавага знoй-

дзе чытач у Магілёўскай хроніцы і па гісторыі міжнародных узаемаадносін, ваенна-палітычнай гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны і Расіі.

Асабліва ўражваюць старонкі, прысвечаныя падзеям пачатку XVIII ст. Гэтая частка хронікі нагадвае своеасаблівы дзённік, у якім пададзена шырокая, з яркімі дэталямі, праўдзівая панарама сапраўды трагічнага становішча Магілёва ў перыяд Паўночнай вайны. Спусташальныя нашэсці шматтысячных армій іншаземцаў, няспыннае грабежніцтва і розныя стыхійныя бедствы, голад і смерць нявінных людзей — усё гэта давялося вынесці гораду і яго жыхарам у той пякельны час. З вялікаю мастацкаю сілаю абмаляваны ў хроніцы ўчынены па загадзе расійскіх уладаў жудасны пажар 1708 г., калі за адзін дзень квітнеючы Магілёўператварыўся ў руіны і попел.

Магілёўская хроніка дапамагае таксама лепш зразумець і агульную атмасферу эпохі барока, поўную рэзкіх кантрастаў і няўстойлівасці, скрытай і адкрытай сацыяльнай, рэлігійнай напружанасці і барацьбы, своеасаблівасць светапогляду людзей другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст. У творы ярка адлюстраваліся тыповыя рысы тагачаснага чалавека, эмацыянальнага і рэлігійнага, але легкавернага і забабоннага. Паводле сваёй нацыянальна-культурнай арыентацыі яе аўтары, хоць і сталі пісаць па-польску, былі яшчэ моцна звязаны з традыцыямі сваіх продкаў, чым і тлумачацца іх вельмі прыхільныя адносіны да праваслаўнай царквы і рэзка адмоўныя — да уніяцкай і ордэна езуітаў.

Сярод усіх магілёўскіх летапісцаў шырынёю сваіх поглядаў, дасведчанасцю і аб'ектыўнасцю ў апісанні падзей, смеласцю грамадскай пазіцыі, выразным дэмакратызмам, а таксама талентам гістарыёграфа і апавядальніка вылучаецца Юрый Трубніцкі, які доўгі час загадваў гарадской канцылярыяй у Магілёве (памёр у 1747 г.). Гэта ён намаляваў у творы каларытныя, запамінальныя і праўдзівыя вобразы расійскага цара Пятра I, шведскага караля Карла XII, украінскага гетмана Мазепы, беларускага шляхціца Сініцкага. Ён, відаць, настолькі аб'ектыўна і дэталёва апісаў сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы, што гэтыя аркушы неўзабаве былі вырваны з хронікі. Менавіта Ю. Трубніцкі змясціў у сваім летапісным зборы шэраг ананімных сатырычных твораў, у якіх высмейваюцца розныя высокапастаўленыя асобы Рэчы Паспалітай, у тым ліку і кароль Аўгуст II. Глыбокім сацыяльным зместам напоўнены таксама алегарычны памфлет «Карнавал іншаземны ў Польшчы».

Магілёўская хроніка годна завяршыла шматвяковы складаны працэс развіцця летапісання на беларускіх землях. Знешне захаваўшы выразныя прыкметы сувязі з літаратурнымі традыцыямі летапіснага жанру, яна адначасова стала яркім узорам дакументальна-мемуарнай прозы, гістарычнай белетрыстыкі Беларусі пераходнага перыяду. Няўдалы працяг гэтай хронікі ў другой палове XVIII — першай

палове XIX стст. выразна паказаў, што ў культурна-гістарычных умовах новага часу, калі з'явіліся друкаваныя перыядычныя выданні і ўзнікла гістарычная навука, традыцыйнае летапісанне не мела ніякай перспектывы на далейшае існаванне, ужо зжыло сябе.

Амаль тысячагадовая гісторыя летапісання на беларускіх землях неадлучная ад шматпакутнага лёсу нашага народа, лёсу яго мовы і літаратуры, усёй беларускай культуры. Жывыя сведкі далёкіх эпох, летапісы і хронікі — неацэнная крыніца пазнання беларускай мінуўшчыны, напоўненай змаганнем за сваю незалежнасць, за лепшую будучыню. У гэтых творах раскрываецца шырокая панарама шматграннага гістарычнага жыцця Беларусі на працягу стагоддзяў з пункту гледжання ўяўленняў і ідэалаў свайго часу, сцвярджаюцца высокія ідэі патрыятызму. Адлюстроўваючы самабытны шлях беларускага народа ў сусветнай гісторыі, яны, паводле своеасаблівасцяў свайго зместу, жанравай формы і агульнага характару, — непаўторная і важкая з’ява еўрапейскай гістарыяграфіі.

Летапісы і хронікі дапамагаюць наблізіць да нас незвычайны, гераічны свет нашых продкаў, свет значных падзей, мужных герояў, багатага духоўна-творчага жыцця, лепш спазнаць саміх сябе, глыбей усвядоміць сваю нацыянальную адметнасць. Без ведання ж беларускай мінуўшчыны, культурна-гістарычнай спадчыны нашага народа, без нацыянальнай самасвядомасці і самагоднасці нельга пачуваць сябе паўнацэнным грамадзянінам Беларускай Краіны.

*Вячаслаў Чамярыцкі*



## ПАДАННЕ ПРА РАГНЕДУ

У год 6488 (980)... Паслаў Уладзімір да Рагвалода[1] ў Полацк сказаць: «Хачу ўзяць тваю дачку сабе за жонку». Той спытаў у сваёй дачкі: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуць рабыніча, а Яраполка[2] хачу». Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора і трымаў уладу ў Полацку, а Тур — у Тураве, ад яго ж і празваліся тураўцы. І прыйшлі отракі Уладзіміра і перадалі яму словы Рагнеды, дачкі полацкага князя Рагвалода. Уладзімір жа сабраў шмат вояў — варагаў, славен, чудзі і крывічоў — і пайшоў на Рагвалода. А ў гэты час ужо збіраліся выдаваць Рагнеду за Яраполка. І напаў Уладзімір на Полацк, забіў Рагвалода і двух яго сыноў, а дачку яго ўзяў за жонку.

У год 6636 (1128) памёр полацкі князь Барыс[3]... Пра гэтых Усяславічаў раскажам, як людзі дасведчаныя апавядалі. Калі Рагвалод трымаў уладу і княжыў у Полацку, тады Уладзімір быў яшчэ юнаком і язычнікам і жыў у Ноўгарадзе. І быў у яго дзядзька Дабрыня[4], храбры ваявода і спраўны мужчына. І паслаў ён да Рагвалода і прасіў яго аддаць дачку за Уладзіміра. Спытаў у сваёй дачкі Рагвалод: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуць рабыніча, а Яраполка хачу». Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора і трымаў уладу ў Полацку. Уведаўшы гэта, раззлаваўся Уладзімір ад тых слоў дзяўчыны, якая сказала: «не хачу я за рабыніча», і пажаліўся Дабрыні. І раз'юшыліся яны, сабралі вояў і пайшлі на Полацк. І перамаглі [Уладзімір і Дабрыня] Рагвалода. Сам жа полацкі князь уцёк у горад. І паланілі Рагвалода, яго жонку і дачку. І прыга-

даў Дабрыня яму і яго дачцы «рабыніча» і загадаў Уладзіміру быць з ёю перад бацькам і маці. Пасля Уладзімір забіў яе бацьку, а яе самую ўзяў за жонку. І назвалі яе Гарыславаю. І нарадзіла яна Ізяслава. Уладзімір жа пасля меў шмат іншых жонак і стаў ёю грэбаваць.

Аднойчы, калі ён прыйшоў да яе і заснуў, яна хацела яго зарэзаць нажом. І надарылася яму [у той момант] прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: «Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцём». І загадаў ёй прыбрацца па-царску, як у дзень шлюбу, і сесці на белай пасцелі ў палацы, а ён прыйдзе і заб'е яе. Яна так і зрабіла. І дала ў рукі свайму сыну Ізяславу агалены меч і сказала: «Як увойдзе твой бацька, выйдзі наперад і скажы: «Бацька, не думай, што ты тут адзін». [І зрабіў так Ізяслаў]. Уладзімір жа сказаў: «А хто ведаў, што ты тут». І апусціў ён свой меч, склікаў баяр і расказаў ім [усё гэта]. Яны ж параілі яму: «Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а аднаві яе бацькаўшчыну і дай ёй са сваім сынам». І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў гэты горад Ізяслаўлем. І з таго часу меч узнімаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў.

## АПОВЕСЦЬ ПРА УСЯСЛАВА ПОЛАЦКАГА

У год 6529 (1021). Прыйшоў Брачыслаў, сын Ізяслава, унук Уладзіміра, на Ноўгарад, і ўзяў Ноўгарад, і, захапіўшы ноўгарадцаў і іх набытак, пайшоў к Полацку. І калі прыйшоў ён да ракі Судомір, Яраслаў з Кіева на сёмы дзень тут дагнаў яго. І перамог Яраслаў Брачыслава, і ноўгарадцаў вярнуў у Ноўгарад, а Брачыслаў пабег к Полацку.

У год 6552 (1044)... У той жа год памёр Брачыслаў, сын Ізяслава, унук Уладзіміра, бацька Усяслава, і Усяслаў, сын яго, сеў на яго [княскім] стале [у Полацку]. Маці ж яго нарадзіла ад чарадзейства. Калі маці яго нарадзіла, на галаве яго была сарочка. І сказалі вешчуны яго маці: «Гэтую сарочку навяжы на яго, няхай носіць яе да смерці». І носіць яе на сабе Усяслаў і сёння, таму і нялітасцівы ён на кровапраліцце.

У год 6574 (1066)[1]. Прыйшоў Усяслаў і ўзяў Ноўгарад, з жанчынамі і дзецьмі, і званы зняў са святой Сафіі. О, вялікая бяда была ў той час!

У год 6575 (1067). Узняў раць у Полацку Усяслаў, сын Брачыслава, і заняў Ноўгарад. Трое ж Яраславічаў, Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, сабраўшы вояў, пайшлі на Усяслава ў люты мароз. І падышлі [яны] да Менска. І зачыніліся мяняне ў горадзе. Браты ж узялі Менск, перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей узялі ў палон і пайшлі да Нямігі[2]. І пайшоў Усяслаў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-ці дзень, быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была лютая сеча, і многія палеглі ў ёй, і перамаглі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, Усяслаў жа ўцёк.

Пасля гэтага месяца ліпеня ў 10-ты дзѐнь Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, пацалаваўшы крыж святы Усяславу, сказалі яму: «Прыйдзі да нас, не ўчынім табе [нічога] злога». Ён жа, спадзеючыся на іх крыжацалаванне, пераехаў да іх у лодцы праз Днепр. Калі ж Ізяслаў увайшоў першы ў шацёр, тут схапілі Усяслава, на Ршы каля Смаленска[3], пераступіўшы крыжацалаванне. Ізяслаў жа, прывёўшы Усяслава ў Кіеў, пасадзіў яго і двух сыноў у турму.

У год 6576 (1068). Прыйшлі іншапляменнікі на Рускую зямлю, мноства полаўцаў. Ізяслаў жа, Святаслаў і Усевалад выйшлі супраць іх на Альту[4]. І ноччу пайшлі адзін на аднаго. За грахі нашыя наслаў Бог на нас паганых, і пабеглі рускія князі, і перамаглі полаўцы.

...Калі Ізяслаў з Усеваладам пабеглі ў Кіеў, а Святаслаў у Чарнігаў, тады кіяўляне прыбеглі ў Кіеў, сабралі веча на рынку і паслалі да князя сказаць: «Вось полаўцы рассеяліся па ўсёй [Рускай] зямлі, дай, княжа, зброю і коней, і мы яшчэ паваюем з імі». Аднак Ізяслаў не паслухаў гэтага. І пачалі людзі наракаць на ваяводу Каснячка, пайшлі на гару з веча і прыйшлі на двор Каснячка і, не знайшоўшы яго, сталі ля двара Брачыслава і сказалі: «Пойдзем вызвалім дружыну сваю з турмы». І падзяліліся [яны] на дзве часткі: адна палова пайшла да турмы, а другая палова пайшла па мосце і прыйшла на княскі двор. Ізяслаў жа ў гэты час на сенях раіўся з дружынаю сваёю. І пачалі спрачацца з князем [людзі], стоячы ўнізе.

Калі князь глядзеў з акна, а дружына стаяла каля яго, сказаў Ізяславу Тукі, брат Чудзіна[5]: «Бачыш, княжа, людзі загулі; пашлі, няхай Усяслава павартуюць». І пакуль ён гэта казаў, другая палова людзей прыйшла ад турмы, адкрыўшы яе. І сказала дружына князю: «Злое ўчынілася; пашлі да Усяслава, няхай, паклікаўшы падманам да акна, праткнуць яго мечам». І не паслухаў гэтага князь. Людзі ж закрычалі і пайшлі да тур-

мы Усяслава. Ізяслаў жа, убачыўшы гэта, пабег з Усеваладам з двара. Людзі ж вызвалілі Усяслава з турмы ў 15-ты дзень верасня і ўшанавалі яго пасярод княскага двара. Двор жа княскі разрабавалі, безліч золата і срэбра, у манетах і злітках. Ізяслаў жа ўцёк да ляхаў.

Усяслаў жа сеў у Кіеве. Гэтым Бог паказаў сілу крыжа, таму што Ізяслаў цалаваў крыж, а пасля схапіў яго (Усяслава), з-за гэтага і наслаў Бог паганых. Усяслава ж яўна выратаваў святы крыж, бо ў дзень Узвіжання Усяслаў, уздыхнуўшы, сказаў: «О, святы крыжу! Я верыў у цябе, таму ты і выбавіў мяне з гэтай турмы». Бог жа паказаў сілу крыжа дзеля навукі зямлі Рускай, каб не пераступалі святога крыжа, пацалаваўшы яго; калі ж хто пераступіць, то і тут [на зямлі] будзе пакараны, і ў будучым прыме кару вечную. Вялікая сіла святога крыжа: крыжам бываюць пераможаны сілы д'ябальскія, крыж князям у бітвах дапамагае, крыж аберагае ў бітвах, веруючыя перамагаюць супастатаў, крыж хутка ратуе ад напасцяў тых, хто просіць яго дапамогі, веруючы. Нічога не баяцца чэрці, толькі крыжа. Калі з'яўляюцца д'ябальскія прывіды, то, перахрысціўшыся, іх праганяюць. Усяслаў жа сядзеў у Кіеве сем месяцаў.

У год 6577 (1069). Пайшоў Ізяслаў з Баляславам[6] на Усяслава, Усяслаў жа выступіў насустрач. І прыйшоў да Белграда[7], ноччу ж ён патаемна ад кіяўлян уцёк з Белграда ў Полацк... Ізяслаў жа выгнаў Усяслава з Полацка і пасадзіў у Полацку свайго сына Мсціслава; ён жа неўзабаве памёр там. І пасадзіў [Ізяслаў у Полацку] на яго месца яго брата Святаполка, Усяслаў жа ўцёк.

У год 6579 (1071)... У той жа год выгнаў Усяслаў Святаполка з Полацка. У той жа год перамог Яраполк Усяслава каля Галацічаска[8].

(1078). Усяслаў Смаленск папаліў, і я з чарнігаўцамі верхам з паводнымі коньмі паімчаўся [к Смаленску] і не засталі [яго] ў Смаленску. У той пагоні за Усяславам я папаліў зямлю і павяваў яе да Лукомля і да Лагожска, пасля на Друцк[9] пайшоў вайною і зноў [вярнуўся] у Чарнігаў.

(1084)[10] У тую ж восень хадзілі з чарнігаўцамі і з полаўцамі-чытаевічамі к Менску, захапілі горад і не пакінулі ў ім ні чалядзіна, ні жывёліны.

У год 6609 (1101). Памёр Усяслаў, князь полацкі, месяца красавіка ў 14-ты дзень, у дзевяць гадзін дня, у сераду.



У год 6624 (1116). Прыходзіў Уладзімір [Манамах] на Глеба [Усяславіча], бо Глеб ваяваў дрыгавічоў і Слуцк папаліў і не каяўся аб учыненым, не скарыўся, а [яшчэ] болей на Уладзіміра гаварыў, дакараючы яго. Уладзімір жа, спадзеючыся на Бога і на праўду, пайшоў к Смаленску са сваімі сынамі і з Давыдам Святаславічам[1] і з Ольгавічамі[2]. І ўзяў Вячаслаў[3] Оршу і Копысь, а Давыд з Яраполкам[4] здабылі Друцк. Сам жа Уладзімір пайшоў к Менску. І зачыніўся Глеб у горадзе. Уладзімір жа пачаў ставіць хату ў сваім лагеры насупраць горада. Калі Глеб убачыў [гэта], то яго апанаваў страх. І пачаў ён прасіць літасці ва Уладзіміра, пасылаючы [да яго] сваіх пасланцоў. Уладзімір жа зжаліўся, што кроў пральецца ў дні вялікага посту, і даў яму мір. Глеб жа выйшаў з горада з дзецьмі і з дружынаю пакланіцца Уладзіміру, і гаварылі яны словы пра мір. І абяцаў Глеб ва ўсім слухацца Уладзіміра.

Уладзімір жа, супакоіўшы і строга папярэдзіўшы Глеба, даў яму Менск, а сам вярнуўся ў Кіеў. Яраполк жа пабудаваў горад Жэлдзі[5] для дручанаў, якіх паланіў.

У год 6627 (1119). Уладзімір узяў Менск у Глеба Усяславіча, а яго самога прывёў у Кіеў. У той жа год памёр у Кіеве Глеб Усяславіч 13 верасня.

У год 6636 (1127)... У той жа год паслаў князь Мсціслаў[6] сваіх братоў на крывічоў чатырма шляхамі: Вячаслава з Турава, Андрэя з Уладзіміра, Усевалада з Гародні[7], Вячаслава Яраславіча з Клецка — гэтым загадаў ісці да Ізяслаўля, а Усеваладу Ольгавічу[8] загадаў ісці са сваімі братамі на Стрэжаў[9] да Барысава, Івана Вайцішыча паслаў з торкамі, сына ж свайго Ізяслава з Курска са сваім атрадам паслаў на Лагожск, а

другога сына свайго Расціслава паслаў са смалянамі на Друцк. І сказаў [ён] ім у адзін і той жа дзень, 11 жніўня (у Лаўрэнцьеўскім летапісе — 4 жніўня) усім пачаць напад. Ізяслаў жа пачаў на дзень раней, чым браты, пераняў людзей ад горада, яны спалохаліся і здаліся [яму]. Ізяслаўцы ж пачалі біцца з Вячаславам і Андрэем. Ізяслаў, пачакаўшы два дні каля Лагожска, пайшоў к Ізяслаўлю да свайго дзядзькі, ведучы з сабою і Брачыслава[10], зяця свайго, які пайшоў быў да свайго бацькі, але на паўдарозе збаяўся, і не мог ісці ні наперад, ні назад, і прыйшоў да свайго швагра, і лагажан прывёў, што быў вывеў з Лагожска. Ізяслаўцы, убачыўшы князя свайго і лагажан, якіх без шкоды захапілі, здаліся Вячаславу, сказаўшы яму: «Пакланіся Богам, што не аддасі нас на разрабаванне». Вечарам Варацілаў, Андрэеў тысяцкі, і Іванка Вячаславіч паслалі сваіх отракаў у горад і так на світанні, увёўшы сваіх вояў, здабылі [Ізяслаўль], ледзьве Мсціслаўны[11] набытак збераглі, з вялікай цяжкасцю б'ючыся. І так вярнуліся дамоў з багатым палонам. Пасля і ноўгарадцы прыйшлі з Усеваладам Мсціславічам к Неключу. І тады палачане, змовіўшыся, выгналі Давыда з сынамі, узялі Рагвалода [Усяславіча] і пайшлі з ім да Мсціслава, просячы ўзяць яго за князя. І выканаў іх волю Мсціслаў. Узялі яны Рагвалода і павялі ў Полацк.

У год 6638 (1129)... У той жа год саслаў Мсціслаў полацкіх князёў з жонкамі і з дзецьмі ў Грэцыю за тое, што пераступілі крыжацалаванне.

У год 6648 (1139)... У той жа час вярнуліся з Царграда два [полацкія] княжычы, якіх саслаў быў Мсціслаў, вялікі князь кіеўскі, за тое, што не скарыліся яму і не паслухалі яго, калі клікаў іх у Рускую зямлю на дапамогу, і, больш таго, жадалі здароўя шалудзіваму Баняку[12]. І з-за гэтага раззлаваўся на іх Мсціслаў і хацеў на іх пайсці, але нельга было, бо тады [моцна] былі налеглі полаўцы на Русь. І калі Мсціслаў вызваліўся ад раці, успомніў ён ранейшае і паслаў па крывіцкіх князёў, па Давыда, Расціслава, Святаслава і двух Рагвалодавічаў [Васіля і Івана], пасадзіў іх у тры лодкі і саслаў у Царград за непаслушэнства, а сваіх мужоў пасадзіў па іх гарадах.

У год 6651 (1143)... У той жа год прывёў Усевалад, вялікі князь кіеўскі, свайму сыну Святаславу [за жонку] Васількаўну, [дачку] полацкага князя.

У год 6652 (1144)... У той жа год Ізяслаў [Мсціславіч] аддаў сваю дачку ў Полацк за Рагвалода Барысавіча, і Усевалад, [вялікі] князь кіеўскі, прыходзіў з жонкаю і з усімі баярамі

на вяселле. У той жа год прызначылі Полацку епіскапам Кузьму.

У год 6659 (1151)... У той жа год схапілі палачане Рагвалода Барысавіча, князя свайго, і паслалі ў Менск і там трымалі [яго] у цяжкай няволі, а [Расціслава] Глебавіча прывялі да сябе [у Полацк]. І прыслалі палачане [сваіх паслоў] да Святаслава Ольгавіча[13] [князя чарнігаўскага], выказваючы сваю дружалюбнасць, і абяцалі слухацца яго, як бацьку, і на гэтым цалавалі яму крыж.

У год 6667 (1158)... У той жа год пайшоў Рагвалод Барысавіч ад Святаслава Ольгавіча шукаць сабе воласці, узяўшы [на падмогу] полк Святаславаў, бо не літасцівыя былі браты яго: [яны] адабралі ў яго воласць і ўвесь набытак. Прыйшоўшы ў Слуцк, ён паслаў [сваіх пасланцоў] да дручан. Дручане ж былі рады яму і, прыязджаючы да яго, вабілі да сябе [у Друцк], гаворачы: «Прыязджай, княжа, не марудзь, [вельмі] рады мы табе: нават калі нам з дзецьмі [сваімі давядзецца] біцца за цябе, з радасцю будзем біцца». І выехалі насустрач яму больш як 300 дручан і палачан, і ўвайшоў [Рагвалод] у горад [Друцк] з вялікай пашанаю, і рады былі яму людзі. Глеба ж Расціславіча выгналі і двор яго разрабавалі і дружыну яго, і прыйшоў Глеб да [свайго] бацькі ў Полацк.

Вялікі мяцеж быў [тады] у горадзе сярод палачан, бо многія хацелі Рагвалода. Ледзьве супакоіў людзей Расціслаў, адарыў многіх падарункамі, прыводзіў іх да крыжа [цалаваць], а сам пайшоў з Усеваладам і Валадаром[14] і з усімі братамі на Рагвалода к Друцку. Рагвалод жа закрыўся ў горадзе. І моцна біліся, і шмат з абодвух бакоў палегла. Дручане ж дакаралі [братоў]. І ўчыніў мір Расціслаў з Рагвалодам, і цалавалі яны крыж адзін аднаму, і аддалі воласці Рагвалоду. І вярнуўся Расціслаў з братамі дамоў.

У тое ж лета ўчынілі змову палачане супраць свайго князя Расціслава Глебавіча і пераступілі крыжацалаванне, бо яны [раней] цалавалі яму крыж, [гаворачы], што «ты наш князь і дай нам Бог з табою пажыць, ніякай здрады не ўчыніць аж да крыжацалавання». І так адступілі [ад прысягі на крыжы], як я казаў, і паслалі патаемна да Рагвалода Барысавіча ў Друцк, гаворачы яму: «Княжа наш, саграшылі мы перад Богам і перад табою, што выступілі супраць цябе без прычыны, набытак твой увесь і тваёй дружыны разрабавалі, а цябе самога, схапіўшы, выдалі Глебавічам на вялікія пакуты. Калі ж ты не прыпомніш нам усё тое, што мы, неразумныя, табе ўчынілі, і

крыж нам пацалуеш, то мы людзі твае, а ты наш князь. Расціслава ж, схапіўшы, аддамо табе ў рукі, і што ты хочаш, тое і зробіш з ім». І Рагвалод прысягнуў [палачанам] на крыжы, што ён не прыпомніць ім усё тое [дрэннае, што яны яму ўчынілі], і адпусціў іх назад.

Сярод палачан былі прыхільнікі Расціслава, [яны паведамілі яму], што яго хочуць схапіць. І пачалі [палачане] лісліва клікаць Расціслава на братчыну да старой [царквы] святой Багародзіцы на Пятроў дзень, каб там схапіць яго. Ён жа паехаў да іх, схаваўшы зброю пад адзенне, і не пасмелі [змоўшчыкі] напасці на яго. Назаўтра пачалі яго [зноў] вабіць да сябе, гаворачы: «Княжа, прыедзь да нас, ёсць у нас да цябе [важная] справа, прыедзь жа да нас у горад» (быў тады князь у Бельчыцах)[15]. І сказаў Расціслаў пасланцам іх: «Я ж учора ў вас быў, чаму [нічога] не гаварылі мне, што ў вас была да мяне справа?» І, нічога не падазраючы, паехаў [Расціслаў] у горад. І тут памчаў з горада яму насустрач слуга: «Не едзь, княжа, веча [сабралася] супраць цябе ў горадзе і дружыну тваю збіваюць, а цябе [самога] хочуць схапіць». І тады вярнуўся [Расціслаў] назад у Бельчыцы, сабраў усю сваю дружыну і адтуль пайшоў да брата [свайго] Валадара ў Менск. І шмат шкоды ўчыніў [ён] Полацкай воласці, ваюючы, [забіраючы] жывёлу і чэлядзь. І паслалі палачане па Рагвалода ў Друцк. І ўвайшоў Рагвалод у Полацк месяца ліпеня [8-га дня] і сеў на княскім стале дзеда свайго [Усяслава] і бацькі свайго [Барыса] з вялікай пашанаю, і так былі рады палачане.

Пасля Рагвалод сабраў шмат вояў-палачан, і Расціслаў Мсціславіч [князь смаленскі] прыслаў яму двух сыноў на дапамогу, Рамана і Рурыка, і смалян, ноўгарадцаў і пскавічан, ды і сам [Расціслаў] пайшоў бы, але [яго] вярнуў [назад] Аркадзь, епіскап ноўгарадскі, ідучы з Кіева. І пайшлі [усе] на Расціслава [Глебавіча] к Менску. Спачатку пайшлі да [горада] Ізяслаўля на Усевалада. Усевалад жа зачыніўся ў Ізяслаўлі, і аблажылі горад. Усевалад вельмі любіў Рагвалода і, на тую любоў спадзеючыся, выехаў яму пакланіцца. Рагвалод жа аддаў [горад] Ізяслаўль Брачыславу, а Усеваладу даў Стрэжаў. І адтуль пайшоў [Рагвалод] на Менск, і стаяў каля горада 10 дзён і ўчыніў мір з Расціславам, і крыж цалавалі. Валадар жа не цалаваў крыж, бо [ён] хадзіў [тады] па лясах каля Літвы.

У год 6667 (1159)... У той жа год Глебавічы Валодшу і Брачыслава паланілі ў Ізяслаўлі і пасадзілі Валодшу ў цямніцу, а Брачыслава закавалі.

У год 6668 (1159)... У той жа год хадзіў Рагвалод з палачанамі на Расціслава Глебавіча к Менску. Паслаў Рагвалоду Расціслаў [Мсціславіч] з Кіева падмогу — 600 торкаў [на чале] з Жыраславам Нажыравічам, але яны, знясіленыя голадам, вярнуліся пехатою назад, не дачакаўшыся міру. Рагвалод жа прастаяў каля горада 6 тыдняў і ўчыніў мір з Расціславам па сваёй волі, вызваліў Валодшу з цямніцы, а Брачыслава з аковаў, і цалавалі [яны] крыж адзін аднаму.

У год 6669 (1160)... У той жа год хадзіў Рагвалод к Менску на Расціслава Глебавіча і ўчыніў з ім мір і вярнуўся дамоў.

У год 6670 (1161)... У той жа год прыходзіў Рагвалод з палачанамі на Валадара к Гарадку[16]. Валадар жа не ўступіў з ім у бой днём, а ноччу [раптоўна] напаў на яго з горада разам з літоўцамі. І шмат бяды ўчынілася ў тую ноч: адных [палачан] забілі, а большасць рукамі палавілі. Рагвалод жа ўцёк у Слуцк і, прабыўшы там 3 дні, пайшоў у Друцк, а ў Полацк не пасмеў вярнуцца, бо вельмі шмат загінула палачан. Палачане ж пасадзілі ў Полацку [Усяслава] Васількавіча.

У год 6675 (1166)... У той жа год хадзіў Валадар Глебавіч к Полацку ваяваць. Васількавіч жа Усяслаў пайшоў супраць яго з палачанамі. Валадар жа, уведаўшы, што ідуць супраць яго, не даў ім злучыцца і ўдарыў знянацку і шмат іх пабіў, а іншых рукамі палавіў. Усяслаў жа ўцёк у Віцебск. Валадар жа ўвайшоў у Полацк, цалаваў крыж з палачанамі і пайшоў к Віцебску на Давыда [Расціславіча] і на Усяслава. Прыйшоўшы, [ён] спыніўся каля ракі, і пачалі біцца праз раку. Давыд жа не ўступіў з ім у бойку, бо чакаў брата свайго Рамана са смалянамі. І тут дзіва здарылася апоўначы: моцны гул пачуўся, быццам бы воіны пераходзяць раку. І страх напаў на вояў Валадаравых, і сказала яму [яго] дружына: «Што стаіш, княжа, не ідзеш прэч; вось тут Раман пераходзіць раку, а там Давыд». І пабег Валадар з-пад Віцебска. Назаўтра Давыд, убачыўшы, што Валадар уцёк, пусціў за ім пагоню, і не дагналі іх, але па лесе шмат палавілі; Усяслава ж паслаў у Полацк.

У год 6688 (1181)... Змовіліся Яраслаў з Ігарам[17] і пайшлі к Друцку, узяўшы з сабою полаўцаў, а Усевалада, брата Ігаравага, і Алега Святаславіча пакінулі ў Чарнігаве. На стрэчыны [8-га лютага] прыйшлі і полацкія князі, каб памагчы Святаславу[18]: Брачыслаў Васількавіч з Віцебска, яго брат Усяслаў з палачанамі, з імі ж былі лівы і літоўцы, Усяслаў Мікуліч з Лагожска, Андрэй Валодшыч і яго пляменнік Ізяслаў і Васілька Брачыславіч. Калі ўсе сабраліся, пайшлі міма Друцка насустрач

Святаславу. Давыд жа, князь смаленскі, з усім сваім войскам увайшоў у Друцк і злучыўся з Глебам Рагвалодавічам. І хацеў Давыд Яраславу і Ігару даць бой да [прыходу] Святаслава. Яраслаў жа з Ігарам не рашыліся пачаць бітву з Давыдам без Святаслава. Выбраліся яны на сухія мясціны і стаялі тыдзень абапал Друці насупраць адзін аднаго. Ад Давыдавага войска прыязджалі стральцы, і моцна з імі біліся [нашы]. Затым прыехаў Святаслаў з ноўгарадцамі, і рады былі яму яго браты. Перагацілі Друць, збіраючыся ісці на Давыда, аднак ён зняўся ноччу і ўцёк у Смаленск. Святаслаў жа падступіў да Друцка і спаліў астрог; адтуль адпусціў дамоў ноўгарадцаў, сам жа пайшоў да Рагачова, а з Рагачова паехаў па Дняпры да Кіева.

У год 6694 (1186)... У той жа год зімою пайшоў на Полацк Давыд Расціславіч са Смаленска, а сын яго Мсціслаў з Ноўгарада, з Лагожска Васілька Валадаравіч, з Друцка Усяслаў. Уведаўшы пра гэта, параіліся палачане і сказалі: «Не можам мы выступіць супраць ноўгарадцаў і смалян, бо калі пусцім іх у сваю зямлю і нават мір заключым з імі, то яны ўсё роўна шмат бяды нам наробяць, спустошаць нашу зямлю, ідучы на нас, пойдзем лепш да іх на сумежжа». І, сабраўшыся, пайшлі да іх, і сустрэлі іх на пагранiччы з паклонам і з пашанаю і паднеслі шматлікія падарункі, і так усё ўладзілася. І разышліся кожны ў свой бок.



У год 6760 (1252)... У той жа год выгнаў Міндоўг сваіх пляменнікаў Таўцівіла і Эрдзівіда. Ён паслаў іх разам з іх дзядзькам Выкінтам на Русь ваяваць, к Смаленску, і сказаў: «Хто што захопіць, хай тым і валодае». Сам жа ён, варагуючы з імі, вераломна завалодаў Літвою, захапіў усю зямлю Літоўскую і шматлікае дабро іх і прысвоіў іх набытак. І паслаў Міндоўг услед за імі сваіх вояў, каб забіць іх. Уведаўшы пра гэта, яны ўцяклі да [князёў] Данілы і Васількі[1] і прыехалі ва Уладзімер. Міндоўг жа прыслаў сваіх паслоў, кажучы: «Не чыні ім літасці». Але Даніла і Васілька не паслухалі яго, бо іх сястра была замужам за Данілам.

Пасля Даніла дамовіўся з братам сваім [Васількам] і паслаў у Ляшскую зямлю да князёў ляшскіх, кажучы: «Надышоў час ісці хрысціянам на язычнікаў, бо яны ваююць паміж сабою». Ляхі абяцалі, але не стрымалі сваё слова. Даніла і Васілька паслалі Выкінта да яцвягаў, да жамойтаў і да немцаў у Рыгу, і ён падкупіў срэбрам і шматлікімі дарункамі яцвягаў і палову Жамойці. Немцы ж адказалі Данілу так: «Дзеля цябе ўчынілі мір з Выкінтам, хоць ён шмат нашых загубіў». Нямецкія рыцары абяцалі прыйсці на дапамогу Таўцівілу. Даніла ж і Васілька пайшлі да Навагрупа (Навагрудка. — *В. Ч.*). Параіўшыся з братам сваім Васількам і са сваім сынам, Даніла паслаў брата свайго на Ваўкавыск, сына на Слонім, а сам пайшоў да Здзітава[2]. Яны захапілі шмат гарадоў і вярнуліся дамоў. Пасля прыслаў Выкінт пасла, паведамляючы, што немцы хочуць прыйсці на дапамогу Таўцівілу. І паслаў Даніла Таўцівіла [ў паход] і даў яму ў дапамогу русінаў і полаўцаў, і доўга яны ваявалі. Адтуль Таўцівіл пайшоў з палоннымі Данілы ў Рыгу, і прынялі яго рыжане з вялікаю пашанаю і хрысцілі яго.

Калі ўведаў Міндоўг, што Таўцівілу хочуць дапамагаць божыя дваране, і біскуп, і ўсе рыжскія воі, ён спалохаўся і таемна паслаў да Андрэя, рыжскага магістра, і пераканаў яго з дапамогаю багатых дарункаў, улітасцівіў яго, паслаўшы шмат золата і срэбра, і прыгожых срэбных і залатых сасудаў, і шмат коней. І сказаў ён [магістру]: «Калі ты заб'еш або выжанеш Таўцівіла, атрымаеш яшчэ больш». Магістар жа адказаў: «Не пазбавішся ты ад гэтага, пакуль не пашлеш да папы і не прымеш хрышчэння — не адолееш ворага. Я ж да цябе дружалюбнасць маю». О, горай зла! Золатам асляпіў ён (магістар. — *В. Ч.*) вочы свае і цяпер зноў з-за іх бяды набярэцца.

Міндоўг прыслаў да папы і прыняў хрышчэнне. Аднак хрышчэнне яго было няшчырае, ён таемна прыносіў ахвяры сваім багам: першаму Нанадзею, і Целявелю, і Дзіверкізу, заечаму богу, і Мідзяіну. Калі ён выязджаў у поле і выбягаў заяц на поле, ён не заходзіў у лес і не асмельваўся нават дубца выламаць. Міндоўг багам сваім прыносіў ахвяры, целы мёртвых спальваў і адкрыта трымаўся свайго язычніцтва.

Таўцівіла ж падтрымлівалі біскуп і пробашч Віржан, якія шкадавалі аб ім, бо ведалі, што калі б Таўцівіла не выгналі, то Літоўская зямля была б у іх руках і нехаця прыняла б хрышчэнне. А што літоўцы не хрысціліся, вінаваты Андрэй. За гэта Ордэн пазбавіў яго сану. Таўцівіл жа прыбег у Жамойць да свайго дзядзькі Выкінта, прыхапіўшы яцвягаў, жамойтаў і дапамогу Данілаву, якую раней князь даў яму, і пайшоў на Міндоўга.

Міндоўг жа падрыхтаваўся, але вырашыў не біцца з ім, а ўвайшоў у горад Варуту[3]. Ноччу ён выслаў свайго швагра, але яго прагналі русіны і яцвягі. Раніцай выехалі немцы з самастрэламі, і паехалі супраць іх русіны і палаўцы з [лукамі і] стрэламі і яцвягі з суліцамі, і ганяліся•яны па полі, быццам у час гульні. Адтуль вярнуліся ў Жамойць.

Прыйшоў Міндоўг, сабраўшы вялікую сілу, на горад Выкінта, называны Цвірамет[4]. Таўцівіл выехаў з горада, а з ім русіны і палаўцы Данілавы, і жамойць з імі, і шмат пешых вояў. У пагоні з ім палаўчанін трапіў стралой у сцягно каня Міндоўгавага, і вярнуўся Міндоўг у сваю зямлю. І шмат бітваў было паміж імі. Пад тым горадам [Цвіраметам] забілі Вісімота.

У год 6761 (1253). Таўцівіл прыслаў [да Данілы] Роўбу, кажучы: «Ідзі к Наваграду». І Даніла пайшоў з братам [сваім] Васількам, сынам Львом, з палаўцамі і са сваім сватам Цягакам[5] і прыйшоў к Пінску. Князі ж пінскія былі няшчырыя, іх узялі з сабою на вайну сілком. Літоўцы прыслалі вартавы ат-

рад, і прайшоў ён праз балоты аж да ракі Шчары. Калі ўсё войска злучылася, учынілі раду і сказалі: «Пра нас ужо ведаюць». Спрачаліся воі, не хочучы ваяваць. І сказаў ім Даніла мудрае слова: «Сорамна нам будзе перад Літвою і іншымі землямі, калі мы не дойдзем і вернемся. Заўтра, — сказаў ён, — учынім раду». Тае ж ночы ён паслаў да ўсіх вояў сказаць: «Ідзіце, няхай убачаць усе тыя, хто не хоча ісці на вайну». І, убачыўшы, што частка вояў пайшла, мусілі пайсці і іншыя воі. Раніцай жа яны захапілі ўсю зямлю Наваградскую і адтуль вярнуліся назад. Яцвягі таксама прыйшлі на дапамогу Данілу, але не змаглі праехаць, бо снег вялікі выпаў. Адтуль яны вярнуліся, захапіўшы з Божаю дапамогаю шмат палонных.

Пасля паслаў Даніла з братам сваім [Васількам] і з сынам сваім Раманам сваіх людзей, і ўзялі яны Гарадзень, а самі вярнуліся ад Бельска[6] [дадому]. Пасля Даніла паслаў шмат пешых вояў і коннікаў на іх гарады, і яны захапілі ўсе іх вотчыны і землі. Міндоўг жа паслаў свайго сына [Войшалка], і той ваяваў каля Турыйска[7]. У той жа год Міндоўг прыслаў да Данілы [паслоў], просячы міру і жадаючы згоды. Тады ж Таўцівіл прыбег да Данілы ад жамойтаў і яцвягаў і сказаў, што Міндоўг падкупіў іх срэбрам. І Даніла раззлаваўся на іх [з-за гэтага].

У год 6763 (1255)... Учыніў Войшалк мір з Данілам і выдаў дачку Міндоўгаву, сястру сваю, за Шварна[8]. І прыйшоў ён у Холм да Данілы, пакінуўшы сваё княжанне, і пастрыгся ў манахі. Ён аддаў Раману, сыну караля [Данілы], Новагарадок (Наваградак. — *В. Ч.*) ад Міндоўга, а ад сябе Слонім і Ваўкавыск і ўсе гарады, сам жа прасіўся ісці да Святой гары[9]. І знайшоў яму кароль [Даніла] дарогу праз [землі] караля Угорскага[10]. Але не змог [Войшалк] дайсці да Святой гары і вярнуўся назад праз Балгарыю.

У год 6770 (1262). Пайшлі літоўцы ад Міндоўга ваяваць супраць ляхаў, і Астап Канстанцінавіч з імі, пракляты і беззаконны, які калісьці ўцёк з Разані. Літоўцы разбурылі [горад] Ездаў напярэдадні Іванавага дня, на самае Купалле. Там забілі і князя Семавіта[11], а сына яго Кандрата паланілі, і шмат палонных узялі, і так вярнуліся дамоў.

Успомніў Міндоўг, што князь Васілька з батырам [Бурундаем] ваяваў зямлю Літоўскую, і паслаў раць супраць Васількі, і ваявалі літоўцы каля Камянца. Князь Васілька не пайшоў на іх, чакаючы другой раці. Ён паслаў на іх Жаліслава і Сцяпана Мядушніка, і яны гналіся за імі (літоўцамі. — *В. Ч.*) аж да самай Ясельды і не дагналі іх, бо войска было невялікае. Літоўцы ўзялі толькі палонных і таму хутка пайшлі. Другая [літоўская]

рацьваявала ў той жа тыдзень каля Мельніка[12]. Быў з імі ваявода Каўдзіжад Тудзіямінавіч. Узялі яны шмат палонных.

Князь жа Васілька паехаў за імі з сынам сваім Уладзімірам, з баярамі і слугамі, спадзеючыся на Бога, і на прачыстую Яго Маці, і на сілу святога крыжа, і дагнаў іх каля горада Небля[13]. Літоўцы ўжо стаялі ля возера і, убачыўшы войска, гатовае да бою, селі, як звычайна, у тры рады за шчытамі. Васілька ж, падрыхтаваўшы свае палкі, пайшоў супраць іх, і пачалася бітва. Літоўцы не вытрымалі і кінуліся наўцёкі, але нельга было ўцячы, бо побач было возера. І пачалі іх секчы, а іншыя ў возеры патапіліся. І так усіх іх перабілі, ні адзін з іх не выратаваўся.

Уведаўшы пра гэта, пінскія князі Фёдар, Дзямід і Юрый прыехалі да Васількі з напоямі і пачалі весяліцца, бо ўбачылі сваіх ворагаў разбітымі, а ўсю дружыну цэлаю. Толькі адзін быў забіты ў войску Васількі — Прайбор, сын Сцяпана Радзівіча. Пасля князі пінскія паехалі дамоў, а Васілька паехаў ва Уладзімір з перамогаю і пашанаю вялікаю, славячы і хвалячы Бога, які стварыў цуд — пакарыў ворагаў князю Васільку.

...Прайшоў год, і восенню быў забіты вялікі князь літоўскі Міндоўг, самаўладца ўсёй зямлі Літоўскай. Пра яго забойства так раскажам. Калі ён княжыў у Літоўскай зямлі, пачаў забіваць сваіх братоў і пляменнікаў, а іншых выгнаў з краіны і стаў княжыць адзін ва ўсёй зямлі Літоўскай. І пачаў ён вельмі ганарыцца і пышыцца, лічачы, што няма роўнага яму. Былі ў яго сын Войшалк і дачка. Дачку ён аддаў замуж за Шварна Данілавіча ў Холм[14].

Войшалк жа пачаў княжыць у Наваградку, будучы язычнікам, і стаў праліваць шмат крыві. Кожны дзень ён забіваў па тры-чатыры чалавекі. Калі ж у які дзень не забіваў нікога, то вельмі смуткаваў, а калі забіваў — тады радаваўся. Пасля ўвайшоў страх Божы ў яго сэрца, і задумаўся ён, і хацеў прыняць святое хрышчэнне. І хрысціўся там жа, у Наваградку, і стаў хрысціянінам. Пасля гэтага пайшоў Войшалк у Галіч да князя Данілы і Васількі, жадаючы пастрыгчыся ў манахі. Тады ж Войшалк хрысціў Юрыя Львовіча. Пасля ён пайшоў у Паланіну ў манастыр да Грыгорыя і там пастрыгся ў манахі. У манастыры [Войшалк] прабыў тры гады, а адтуль пайшоў да Святой гары, прыняўшы блаславенне ад Грыгорыя. Грыгорый быў святы чалавек, якога перад ім не было і пасля яго не будзе. Войшалк не змог дайсці да Святой гары, бо тады ў тых землях быў мяцеж вялікі. І вярнуўся ён зноў у Наваградак,

заснаваў сабе манастыр на рацэ Нёман, паміж Літвою і Наваградкам, і там жыў.

Бацька ж яго Міндоўг дакараў яго за такое жыццё. А ён бацьку свайго вельмі не любіў. У той час памерла княгіня Міндоўгава, і пачаў ён аплакваць яе. Сястра ж [яе] была замужам за Доўмантам[15], князем нальшанскім[16]. І паслаў Міндоўг у Нальшаны па сваю швагерку і так сказаў: «Гэта твая сястра памерла, прыязджай аплакваць сястру сваю». Калі ж яна прыехала аплакваць, Міндоўг захацеў ажаніцца з ёю. І пачаў гаварыць ёй: «Сястра твая, паміраючы, наказвала мне ўзяць цябе за жонку. Яна сказала так — няхай чужая дзяцей не крыўдзіць». І ўзяў яе за жонку. Доўмант, дачуўшыся пра гэта, вельмі засмуціўся і стаў думаць, як бы яму забіць Міндоўга. І знайшоў сабе Траняту, пляменніка Міндоўга, і разам з ім вырашыў забіць Міндоўга. Транята ж быў тады ў Жамойці.

У год 6771 (1263). Паслаў Міндоўг усё сваё войска за Дняпро супраць Рамана, князя бранскага. Доўмант пайшоў разам з імі на вайну, але, выбраўшы зручны час, вярнуўся назад, кажучы: «Варажба паказвае, што мне не трэба ісці разам з вамі». Вярнуўшыся назад, ён шпарка паскакаў, дагнаў Міндоўга і забіў яго і двух яго сыноў, Рукля і Рапек'я. Так учынілася забойства Міндоўга.

Пасля забойства Міндоўга Войшалк, баючыся такога ж [лёсу], уцёк у Пінск і там жыў, а Транята пачаў княжыць ва ўсёй зямлі Літоўскай і ў Жамойці. І паслаў ён у Полацк па брата свайго Таўцівіла, сказаўшы так: «Брат, прыедзь сюды, падзелім зямлю і набытак Міндоўга». Калі Таўцівіл прыехаў да яго, пачаў думаць Таўцівіл, як бы забіць Траняту, а Транята стаў думаць, як бы забіць Таўцівіла. Задуму Таўцівіла раскрыў яго баярын Пракоп, палачанін. Транята ж апярэдзіў Таўцівіла і забіў яго і стаў княжыць адзін. Пасля гэтага конюхі Міндоўга, чатыры парабкі, сталі думаць, як бы ім забіць Траняту. Калі Транята ішоў у лазню, яны выбралі зручны момант і забілі яго. Так учынілася забойства Траняты. Дачуўшыся пра гэта, Войшалк пайшоў з пінянамі да Наваградка, а адтуль, узяўшы з сабою наваградцаў, пайшоў у Літву княжыць. Усе літоўцы прынялі яго з радасцю, сына свайго гаспадара.

У год 6772 (1264). Войшалк стаў княжыць ва ўсёй зямлі Літоўскай, і пачаў ён вынішчаць сваіх ворагаў, і перабіў іх безліч, а іншыя разбегліся хто куды. І таго Астапа, праклятага, беззаконнага, ён забіў, пра якога мы раней пісалі.

...Калі Войшалк княжыў у Літве, сталі яго падтрымліваць князі Шварн і Васілька. Назваў ён Васільку сваім бацькам і

панам... І прыйшоў з дапамогаю ў Літву да Войшалка. І ўбачыў Войшалк дапамогу Шварна і Васількі, бацькі свайго, і вельмі ўзрадаваўся, і стаў рыхтавацца да вайны, і пайшоў з вялікім войскам і стаў захопліваць гарады ў Дзяволтве[17] і Нальшанах. Пабраўшы гарады і перабіўшы сваіх ворагаў, ён вярнуўся дамоў.

У год 6776 (1268)... Пасля Войшалк аддаў сваё княжанне швагру свайму Шварну, а сам зноў захацеў стаць манахам. Шварн яго вельмі ўпрошваў, каб ён яшчэ княжыў з ім у Літве, але Войшалк не хацеў, так кажучы: «Я шмат саграшыў перад Богам і людзьмі. Ты ж княж, і зямля будзе ў бяспецы». Шварн не змог яго ўгаварыць і стаў княжыць у Літве, а Войшалк пайшоў ва Уграўск[18], у манастыр святога Данілы, і апрануўся ён у манаскае адзенне, і стаў жыць у манастыры, і так сказаў: «Тут паблізу ад мяне сын мой Шварн, а другі — мой пан і бацька, князь Васілька, і гэтым суцяшаюся». Грыгорый жа Паланінскі, яго настаўнік, тады яшчэ быў жывы. Войшалк распытаў, ці жывы ён, узрадаваўся і паслаў яму сказаць: «Там мой бацька, прыедзь сюды». І той прыехаў да яго і накіраваў яго на шлях манаскі.

У той час Леў прыслаў да Васількі сказаць: «Я хацеў бы з табою сустрэцца, але каб і Войшалк тут быў». Васілька паслаў па Войшалка ў перадвелікодны тыдзень, так сказаўшы: «Прыслаў да мяне Леў, каб мы сустрэліся. [Прыязджай], не бойся нічога». Войшалк жа пабаяўся Льва і не хацеў ехаць, але паехаў на заруку Васількі. Ён прыехаў ва Уладзімір у святую нядзелю (на Вялікдзень. — *В. Ч.*) і спыніўся ў манастыры святога Міхаіла Вялікага. Немец Маркольт паклікаў усіх князёў на абед: Васільку, Льва, Войшалка. І сталі яны абедаць, піць і весяліцца. Васілька, напіўшыся, паехаў дамоў спаць. Войшалк жа паехаў у манастыр, дзе спыніўся. Пасля прыехаў да яго ў манастыр Леў і пачаў гаварыць Войшалку: «Куме, вып'ем яшчэ!» І пачалі яны зноў піць. Д'ябал, які заўсёды не хоча дабра чалавечаму роду, падбухторыў Льва, і забіў ён Войшалка ад зайздрасці, што той аддаў Літоўскую зямлю яго брату Шварну. Так учынілася забойства Войшалка. Прыбралі цела яго і пахавалі ў царкве святога Міхаіла Вялікага.

Пасля Войшалка княжыў у Літоўскай зямлі Шварн, княжыў ён нядоўга і памёр, і пахавалі яго ў царкве святой Багародзіцы ля труны яго бацькі.

У год 6778 (1270). Пачаў княжыць у Літве злачынны, беззаконны, пракляты, нялітасны Тройдзень. Злачынствы ж яго не можам апісаць: такія яны ганебныя. Ён быў такі ж злачынец, як і Антыёх Сірыйскі[19], Ірад Ерусалімскі[20], Нерон Рымскі[21],

і шмат іншых, яшчэ горшых, чым яны, злачынстваў учыніў. Пракняжыўшы 12 гадоў, памёр злачынец. Былі ў яго браты Борза, Сірпуці, Лесі і Свялкені. Жылі яны ў святым хрышчэнні, жылі ў любові, ціхмяна і пакорліва, трымаліся праваслаўнай веры, больш за ўсё любілі веру і міласціну чыніць. Яны памерлі яшчэ пры жыцці Тройдзеня.

У год 6782 (1274). Тройдзень яшчэ княжыў у Літоўскай зямлі і жыў з [князем] Львом у поўнай згодзе, яны пасылалі адзін аднаму шмат падарункаў. З Уладзімерам жа ён не жыў у поўнай згодзе, таму што бацька Уладзімера, князь Васілька, забіў у час войнаў трох братоў Тройдзеня. Вось чаму ён не жыў з ім у згодзе, а ваяваў з ім, хоць і не было вялікіх войнаў. Тройдзень, пасылаючы крадком пешых вояў, ваяваў [зямлю] Уладзімера, а Уладзімер такім жа чынам ваяваў [зямлю Тройдзеня]. Так яны ваявалі цэлы год.

Пасля Тройдзень, забыўшыся на згоду з Львом, паслаў гарадзенцаў захапіць Дарагічын[22]. І быў з імі Трыд, ён ведаў [гэты] горад [і ведаў], як можна яго ўзяць. Ён выступіў ноччу, і так яны захапілі горад на самы Вялікдзень і ўсіх перабілі. Уведаўшы пра гэта, Леў вельмі засмуціўся і стаў рыхтавацца да вайны. Ён паслаў паслоў да татараў, да вялікага цара Меньгу-Цяміра, просячы ў яго дапамогі супраць літоўцаў. Меньгу-Цямір даў яму войска, а з ім ваяводу Ягурчына, і даў яму ў дапамогу ўсіх задняпроўскіх князёў: Рамана Бранскага з сынам Алегам, і Глеба, князя смаленскага, і шмат іншых князёў. Былі тады ўсе князі ў волі татарскай.

Калі падышла зіма, пачалі збірацца рускія князі Леў, Мсціслаў[23] і Уладзімер [у паход на Літву]. Пайшлі з імі і князі пінскія і тураўскія. Калі яны ішлі каля Турава к Слуцку, то каля Слуцка злучыліся з татарамі. І так усе разам пайшлі к Наваградку. Не дайшоўшы да ракі Сервеч[24], яны спыніліся на начлег. Назаўтра, рана ўстаўшы, пайшлі і перайшлі раку на дасвецці і дачакаліся світання. І калі пачало ўзыходзіць сонца, сталі рыхтаваць войска да бою. Падрыхтаваўшы войска, пайшлі да горада [Наваградка]. Татары ішлі справа сваім палком, побач з імі ішоў Леў са сваім палком, а злева ад яго ішоў Уладзімер са сваім палком.

[Неўзабаве] прыслалі татары да Льва і Уладзімера [пасланца], так кажучы: «Нашыя юныя воі бачылі, што рацы стаіць за гарою: пара ідзе з коней. Пашліце верных людзей з нашымі татарамі, няхай паглядзяць, што гэта такое». І яны паслалі з імі верных людзей. Тыя паехалі і ўбачылі, што няма [ніякай] рацы, а пара ідзе з крыніц, што цякуць з гор, бо быў моцны мароз.

І так яны падышлі да горада і спыніліся каля яго. Мсціслаў жа не прыйшоў, бо ён пайшоў ад Капыля, ваюючы па Палессі. Не прыйшлі ні Раман [Бранскі], ні Глеб [Смаленскі], князі задняпроўскія, толькі адзін Раман, сын Рамана, прыйшоў, бо ён прыйшоў раней з татарамі. Татары вельмі хацелі, каб Раман прыйшоў. Леў жа ашукаў сваіх братоў: патаемна ад Мсціслава і Уладзімера ён разам з татарамі ўзяў вакольны горад, а замак застаўся. Назаўтра пасля ўзяцця горада прыйшлі Раман і Глеб з вялікім войскам. Загневаліся ўсе князі на Льва: Мсціслаў, Уладзімер, і цесць яго Раман Бранскі, і Глеб Смаленскі, і шмат іншых князёў — усе яны раззлаваліся на яго, што ён не палічыў іх за людзей, сабе роўных, а сам з татарамі ўзяў горад. Князі задумалі, каб усім разам узяць Наваградак, а пасля ісці ў зямлю Літоўскую. Аднак, раззлаваўшыся на Льва, яны не пайшлі [туды] і вярнуліся дамоў.

У год 6784 (1276). Прыйшлі прусы да Тройдзеня, выгнаныя са сваёй зямлі немцамі. Ён прыняў іх і пасяліў частку іх у Гародні, а другую частку ў Слоніме. Уладзімер жа, параіўшыся з Львом, братам сваім, паслаў сваю раць к Слоніму, і захапілі прусаў, каб яны [больш] не сяліліся ў гэтай зямлі. Пасля гэтага Тройдзень паслаў брата свайго Сірпуцяі ваяваў каля Каменя[25]. Уладзімер жа паслаў супраць яго [войска] і ўзяў у яго Турыйск на рацэ Нёман і сёлы навакольныя захапіў. Пасля гэтага яны памірыліся і сталі жыць у вялікай згодзе.

Потым уклаў Бог добры намер у сэрца князя Уладзімера, пачаў ён думаць, дзе б за Бярэсцем паставіць горад... І стаў шукаць ён зручнае месца, дзе пабудаваць горад. Гэтая зямля пуставала восемдзесят гадоў пасля [князя] Рамана. Цяпер жа Госпад адрадзіў яе сваёю ласкаю. І паслаў Уладзімер умелага мужа па імені Алекса, які яшчэ пры бацьку яго шмат гарадоў пабудаваў, паслаў [яго] з тутэйшымі жыхарамі ў чаўнах у вярхоўе ракі Лесны[26], каб знайсці такое месца, дзе б горад паставіць. І той [Алекса] знайшоў такое месца, і прыехаў да князя, і пачаў расказваць. Князь жа [Уладзімер] сам паехаў туды з баярамі і слугамі, і спадабалася яму тое месца на беразе ракі Лесны. І ачысціў яе берагі, і пабудаваў там горад, і назваў яго Каменец, таму што зямля там была камяністая.

У год 6786 (1278). Тройдзень яшчэ княжыў у Літоўскай зямлі. І паслаў ён вялікае войска супраць ляхаў, і брата свайго Сірпуцію паслаў. Былі таксама і яцвягі тады з імі. І ваявалі каля Любліна тры дні, і ўзялі безліч палонных, і так вярнуліся дамоў з вялікім гонарам.



У вялікага князя літоўскага Гедыміна сем сыноў было[1]: старэйшы Мантывід, затым Нарымонт, затым Альгерд, бацька караля [Ягайлы], затым Яўнут, потым Кейстут, бацька вялікага князя Вітаўта, затым Карыят, сёмы Любарт. Мантывіду бацька даў Карачаў[2] і Слонім, Нарымонту — Пінск, бацьку караля, — Крэва, да таго ж князь віцебскі сыноў не меў і прыняў [Альгерда] да дачкі ў Віцебск у зяці, Яўнута [Гедымін] пасадзіў у Вільні на вялікае княжанне, Кейстуту даў Трокі, Карыяту — Ноўгарадок[3], а Любарта прыняў уладзімерскі князь да дачкі ва Уладзімір і ў Луцк і на ўсю зямлю Валынскую.

Альгерд, бацька караля [Ягайлы], і Кейстут, бацька вялікага князя Вітаўта, жылі ў вялікай дружбе і любові. І не спадабалася ім, што вялікі князь Яўнут так узвысіўся, і змовіліся паміж сабою браты, князь вялікі Альгерд і князь вялікі Кейстут, як бы яго адтуль [з Вільні] выгнаць, а каму-небудзь з іх сесці [на яго месца]. Змовіўшыся паміж сабою, [яны] выбралі пэўны час, калі б да Вільні прыгнаць і заняць горад пад братам, вялікім князем Яўнутам.

Вялікі князь Альгерд з Віцебска не паспеў у дамоўлены час у Вільню, а вялікі князь Кейстут прыімчаў да горада Вільні і ўварваўся ў горад. Вялікі ж князь Яўнут выскачыў [з горада] і ўцёк у горы і даліны і там адмарозіў ногі. Яго схапілі і прывезлі да яго брата, вялікага князя Кейстута. Ён жа, чакаючы брата свайго старэйшага, вялікага князя Альгерда, пасадзіў яго [Яўнута] пад варту, а насустрач брату свайму, вялікаму князю Альгерду, паслаў ганца [з весткаю], што ўжо ў Вільні сеў і брата свайго, вялікага князя Яўнута, паланіў. І

сустрэў яго ганец у Крэве, і князь вялікі Альгерд хутчэй паспяшаўся і хутка прыехаў [у Вільню] да брата свайго, вялікага князя Кейстута.

І сказаў князь вялікі Кейстут брату свайму, вялікаму князю Альгерду: «Табе належыць князем вялікім быць у Вільні, бо ты старэйшы брат, а я з табою заадно жыву». І пасадзіў яго [Кейстут] на вялікае княжанне ў Вільні, а Яўнуту [яны] далі Заслаўль. І ўчынілі ўмову паміж сабою вялікі князь Кейстут і вялікі князь Альгерд, што ўсе іх браты павінны слухацца вялікага князя Альгерда, што здабудуць, горад ці воласць, усё дзяліць напалам. І прысягнулі яны адзін аднаму быць да канца жыцця ў любові і дружбе і ніколі не задумваць нічога благога. І захавалі яны клятву да канца жыцця свайго.

Сыноў жа было ў вялікага князя Альгерда дванаццаць[4], а ў вялікага князя Кейстута — шэсць. І паміж усіх сыноў найбольш любіў вялікі князь Альгерд князя вялікага Ягайлу, а князь вялікі Кейстут [найбольш] палюбіў князя вялікага Вітаўта. І яшчэ пры сваім жыцці вырашылі яны (Альгерд і Кейстут), што быць ім (Ягайлу і Вітаўту) на іх месцах — на вялікіх княжаннях. Яны, вялікі князь Ягайла і князь вялікі Вітаўт, таксама вельмі дружалюбна жылі пры сваіх бацьках...

Потым вялікі князь Альгерд памёр, і князь вялікі Кейстут не забыў просьбы брата свайго, вялікага князя Альгерда, з якім да самае смерці ў еднасці жыў, пачаў трымаць князем вялікім у Вільні яго сына, князя Ягайлу, і пачаў таксама прыязджаць на даўнія рады [у Вільню], як і да брата свайго старэйшага прыязджаў.

Быў у вялікага князя Альгерда нейкі парабак-нявольнік, халоп Вайдыла. Спачатку быў ён пекарам, а пасля [князь Альгерд] прызначыў яго пасцель сабе слаць і ваду падаваць сабе піць. Пасля [Вайдыла] так палюбіўся яму, што даў яму [князь Альгерд горад] Ліду трымаць і ўзвысіў яго. Потым жа, пасля смерці вялікага князя Альгерда два ці больш гадоў мінула, князь вялікі Ягайла яшчэ больш узвысіў Вайдылу і аддаў за яго сястру сваю родную — княгіню Марыю, што пасля была [замужам] за князем Давыдам[5].

І быў той Вайдыла ў вялікай моцы ў вялікага князя Ягайлы, і пачаў ён з немцамі соймы чыніць і граматы ўкладаць супраць вялікага князя Кейстута. Быў нехта астродскі комптур[6], звалі яго Гунстынам. Ён быў кумам князю вялікаму Кейстуту, хрысціў княгіню Янушаву, дачку яго. Той [Гунстын] расказаў князю вялікаму Кейстуту: «Ты таго не ведаеш, што

князь вялікі Ягайла часта пасылае да нас Вайдылу і ўжо змовіўся з намі, каб цябе пазбавіць тваіх уладанняў, а яму б з маці яны дасталіся».

Князь вялікі Кейстут, ведаючы, што князь вялікі Вітаўт добра жыве з князем вялікім Ягайлам, пачаў скардзіцца сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту: «Ты з ім добра жывеш, а ён ужо змовіўся на нас з немцамі». Князь жа вялікі Вітаўт [так] гаварыў бацьку свайму: «Не вер гэтаму, гэта няпраўда, бо ён жа са мною добра жыве і, напэўна, паведаміў бы мне [пра гэта]».

Потым адбылася знамянальная падзея: князь вялікі Ягайла аддаў Полацк брату свайму, князю Скіргайлу, а яны (палачане) не прынялі яго. І князь вялікі Ягайла паслаў усё сваё войска літоўскае і рускае з братам сваім князем Скіргайлам на Полацк, і магістар лівонскі прыйшоў з войскам да Полацка, і аблажылі яны горад. І князь вялікі Кейстут зноў пачаў скардзіцца сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту, моцна крыўдуючы на князя Ягайлу: «За Вайдылу сястру сваю, а маю братавую аддаў; ад немцаў мне паведамілі, што яны змовіліся супраць нас; а па-трэцяе: з кім мы ваюем? З немцамі. А яны з імі Полацк здабываюць. Усё гэта паказвае, што яны з немцамі заадно супраць нас». І сказаў князь вялікі Вітаўт бацьку свайму, вялікаму князю Кейстуту: «Яшчэ і гэтаму не зусім веру». Сказаўшы гэта, паехаў вялікі князь Вітаўт у Дарагічын.

Князь жа вялікі Кейстут сабраў усе свае сілы, і ўварваўся ў Вільню, і паланіў вялікага князя Ягайлу з яго маці і братамі, і граматы тыя знайшоў, якія з немцамі [яны] ўклалі, а да сына свайго, вялікага князя Вітаўта, ганца паслаў у Дарагічын [паведаміць] пра тое, што ўчынілася. І ганец той знайшоў вялікага князя Вітаўта ў Гародні. І князь вялікі Вітаўт за адзін дзень з Гародні прыімчаў да бацькі свайго, вялікага князя Кейстута [у Вільню]. Ён жа сказаў сыну свайму, вялікаму князю Вітаўту: «Ты мне не верыў, а вось тыя граматы, [якія сведчаць], што яны змовіліся [з немцамі] супраць нас, але Бог нас збярог. Я ж князю вялікаму Ягайлу нічога [дрэннага] не ўчыніў, не рушыў ні скарбаў яго, ні стадаў, а самі палоненыя ходзяць толькі з невялікаю вартаю. Вотчыну ж яго, Віцебск і Крэва і ўсе землі, што бацька яго трымаў, — усё гэта аддаю яму і на ніштo іхняе не пасягаю. А ўчыніў усё гэта, аберагаючы галаву сваю, уведаўшы, што супраць мяне змова рыхтуецца».

Князь вялікі Ягайла вельмі ўзрадаваўся прыезду вялікага князя Вітаўта. І прысягнуў князь вялікі Ягайла вялікаму князю Вітаўту і дзядзьку свайму, вялікаму князю Кейстуту, што ніколі супраць яго выступаць не будзе, а заўсёды і ва ўсім будзе ў яго (Кейстута) волі. І князь вялікі Кейстут адпусціў яго (Ягайлу) з маці і з братамі і з усім яго скарбам. І князь вялікі Ягайла паехаў у Крэва, а князь вялікі Вітаўт суправаджаў яго да Крэва, і паехаў Ягайла з Крэва ў Віцебск[7].

А як сеў князь вялікі Кейстут у Вільні, паслаў двух чалавек да Полацка: аднаго чалавека ў войска, а другога ў горад. Палачане ўзрадаваліся і клікнулі на збор раці, і вої [Ягайлы] адступілі ад князя Свіргайлы і пайшлі ў Вільню да вялікага князя Кейстута. Князь жа Скіргайла пайшоў да немцаў у Лівонію з малою дружынаю.

Потым князь вялікі Кейстут пайшоў да Ноўгарадка Северскага на князя Карыбута, а сына свайго, вялікага князя Вітаўта, пакінуў у Вільні. Ідучы да Ноўгарадка Северскага, [князь вялікі Кейстут] загадаў павесіць Вайдылу, а князю вялікаму Ягайлу ісці з Віцебска разам з ім. Аднак вялікі князь Ягайла хутка забыўся на сваю прысягу [вялікаму князю Кейстуту], не пайшоў туды і падгаварыў мяшчан віленскіх і дворню Ганулю[8] захапіць Вільню. Князь вялікі Вітаўт у той час у Троках быў, а князь вялікі Ягайла з усёю сваёю дружынаю з Віцебска прыімчаў да Вільні. І князь вялікі Вітаўт паслаў да Ноўгарадка Северскага бацьку свайму вестку пра гэта. Пра гэтыя падзеі ўведалі і немцы прускія, і маршал прускі вельмі спешна пайшоў з вялікім войскам на дапамогу князю Ягайлу.

І калі ўведаў пра гэта князь вялікі Вітаўт, што прускія немцы да Вільні і Трокаў ідуць, а князь вялікі Ягайла з Вільні да Трокаў ідзе з войскам злучыцца з немцамі, паехаў ён з Трокаў у Гародню са сваёю маці. І калі падступіў да Трокаў князь вялікі Ягайла, здаліся Трокі яму. І прыйшоў князь вялікі Кейстут у Гародню да сына свайго. Тут і жонку сваю знойдзе і пашле яе ў Бярэсце, спадзеючыся на Януша, князя Мазавецкага, зяця свайго. Сам жа [князь вялікі Кейстут] пайшоў у Жамойць, а сына свайго, вялікага князя Вітаўта, пакінуў у Гародні. Князь жа Януш забыўся на дабрыню і прыязнь цесця свайго і цешчы і шваграў сваіх, пайшоў раццю да Драгічына і, узяўшы, завалодаў ім, Сураж і Камянец паваяваў і асадзіў у Бярэсці цешчу сваю. Не здабыўшы Бярэсця, пайшоў адтуль, завалодаўшы тымі гарадамі, Дарагічынам і Мельнікам[9].

Князь вялікі Кейстут, сабраўшы ўсіх сваіх жамойтаў і ўсе войскі, пайшоў да ракі Віліі, а князь вялікі Вітаўт, сабраўшы ўсё сваё войска са сваёй бацькаўшчыны, пайшоў з Гародні насустрач свайму бацьку. І злучыліся яны ля Віліі за дзве мілі вышэй Коўна. Там войскі пераправіліся, пайшлі да Трокаў і, прыйшоўшы, асадзілі горад. І пачуў вялікі князь Кейстут, што вялікі князь Ягайла з Вільні ідзе з войскам, а з ім нямецкае і лівонскае войска. Раней немцы абоім ворагі былі: і князю вялікаму Кейстуту, і князю вялікаму Ягайлу. Першы раз лівонскае войска прыходзіла на дапамогу князю Скіргайлу да Полацка, а потым з маршалкам пруская войска да Трокаў прыходзіла, а [цяпер] ужо ў трэці раз лівонскае войска з ім жа прыйшло. Усё гэта паказвае, што [немцы] з ім (Ягайлам) заадно супраць вялікага князя Кейстута.

І выступіў на бітву вялікі князь Кейстут са сваім сынам, вялікім князем Вітаўтам, супраць вялікага князя Ягайлы. І за тры ці чатыры стрэлы да зыходжання войскаў [на бітву] прыгналі князі і баяры ад вялікага князя Ягайлы ў войска вялікага князя Кейстута і пачалі пытацца вялікага князя Вітаўта, каб пагаварыць з ім. Пачалі яны гаварыць вялікаму князю Вітаўту: «Князь вялікі Ягайла паслаў нас да цябе, каб ты пamірыў нас са сваім бацькам, каб мы валодалі сваім, а вы сваім, а бітвы паміж намі не было і кровапраліцця не ўчынілася. Прыехаў бы ты да свайго брата, да вялікага князя Ягайлы, а мы табе прысягаем, што табе бяспечна [будзе] зноў у сваё войска вярнуцца, каб між вамі ўсё добра скончылася». Князь вялікі Вітаўт так ім адказаў: «Прысягу ад вас прымаю, але каб і князь Скіргайла ў маё войска прыехаў і таксама прысягнуў, і я [тады] выеду». Паслалі яны да князя Скіргайлы, і князь Скіргайла таксама прысягнуў вялікаму князю Вітаўту, як і яны.

Князь вялікі Вітаўт паехаў да вялікага князя Ягайлы і яго войска, а войскі [праціўнікаў] стаяць, нічога не пачынаючы паміж сабою. І князь вялікі Ягайла пачаў прасіць вялікага князя Вітаўта, каб той пamірыў іх і кровапраліцця не было б. І князь вялікі Вітаўт прысягу ўзяў у яго, у вялікага князя Ягайлы, дзеля бацькі свайго, каб бацьку яго, вялікаму князю Кейстуту, прыехаўшы, зноў бяспечна было раз'ехацца. А яшчэ сказаў князь вялікі Вітаўт вялікаму князю Ягайлу: «Яшчэ, браце, пашлі князя Скіргайлу, каб ён і я прысягу далі бацьку свайму, каб яму бяспечна паехаць і зноў ад'ехаць [назад] у сваё войска, а князь бы Скіргайла і ад цябе прысягнуў бы

[яму]». І князь вялікі Вітаўт з князем Скіргайлам прыйшлі ў войска да бацькі свайго, да князя вялікага Кейстута, і даў [Вітаўт] прысягу бацьку свайму ад вялікага князя Ягайлы, князь жа Скіргайла даў прысягу [вялікаму князю Кейстуту] ад вялікага князя Ягайлы і ад сябе.

І князь вялікі Вітаўт з бацькам сваім, вялікім князем Кейстутам, пайшлі абодва ў войска да Ягайлы, спадзеючыся на тыя прысягі. Князь жа вялікі Ягайла пераступіў тыя прысягі. [Ён] сказаў: «Паедзем у Вільню і там канчаткова дамовімся». Войскі ж, нічога не пачынаючы, засталіся. І як толькі ў Вільню прыехалі, князя вялікага Кейстута, дзядзьку свайго, [Ягайла паланіў] і, закаваўшы, паслаў у Крэва, і там пасадзілі яго ў вежу, а князя вялікага Вітаўта пакінулі яшчэ ў Вільні. І там у Крэве ў пятую ноч князя вялікага Кейстута задушылі каморнікі Ягайлавы: Прокша, што ваду падаваў яму, а былі і іншыя — брат Мосцеў, [Гедка, краўлянін], і Кучук, і Лісіца Жыбянцяй. Такі канец стаўся князю вялікаму Кейстуту[10].

Пасля смерці князя вялікага Кейстута паслаў князь вялікі Ягайла князя вялікага Вітаўта ў Крэва разам з жонкаю і загадаў яго моцна ахоўваць у пакоі [у замку]. Помсцячы за Вайдылу, [Ягайла загадаў] двух калесаваць: аднаго, Відзімонта, дзядзьку маці вялікага князя Вітаўта, [а другога — Бутрыма], роднага брата яго маці, што трымаў Ульяну, якая пасля была [замужам] за Манівідам, і шмат іншых баяр пакараў смерцю, помсцячы за Вайдылу.

Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве пад моцнаю вартаю ў пакоі, а дзве жанчыны прыходзілі ў пакой класці спаць яго і княгіню і, паклаўшы, выходзілі, а побач знаходзілася стража. І вось вялікая княгіня пачула ад людзей: калі князь вялікі Вітаўт [яшчэ] будзе сядзець [у вязніцы], то з ім тое самае ўчыняць, што і з яго бацькам. І параіла яму так [зрабіць]: як прыйдуць жанчыны, то яму пераадзецца ў адзенне адной з іх і выйсці з другой, а той жанчыне, у адзенні якой ён выйдзе, застацца з ёю (княгіняю), так яго навучыла. І ён, адзеўшы ўбранне адной жанчыны, выйшаў з другою, спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію.

Калі быў [вялікі князь Вітаўт] у немцаў [у Прусіі], у Мар'інградзе[11] ў магістра, прыехала да яго шмат князёў і баяраў літоўскіх, і пачаў ён з дапамогаю нямецкаю ваяваць Літоўскую зямлю. Князь жа вялікі Ягайла са сваёю маці, вялікаю княгіняю Ульянаю, [знаходзіўся тады] ў Віцебску, а

брат яго князь Скіргайла ў Літве ў Троках. І немагчыма стала змагацца вялікаму князю Ягайлу і Скіргайлу супраць князя вялікага Вітаўта, які часта ваяваў Літоўскую зямлю, бо ў яго сабралася вялікая сіла. Тады князь вялікі Ягайла выклікаў яго з Прусіі і даў яму Луцк з усёю зямлёю Валынскаю, а ў Літоўскай зямлі — яго бацькаўшчыну.

Памёр кароль Казімер Кракаўскі, і не было ў яго сыноў, толькі адна дачка Ядвіга[12]. І пачалі ляхі з Кракава слаць да вялікага князя Ягайлы [прапановы], каб ён прыняў хрышчэнне старога Рыма, і ўзяў бы ў іх каралеўну Ядвігу сабе за жонку, і стаў бы ў іх каралём у Кракаве і ва ўсёй Ляшскай зямлі. Ён жа, вялікі князь Ягайла, параіўшыся са сваёю маці, княгіняю Ульянаю, і з усімі князямі і баярамі Літоўскай зямлі, паехаў у Ляшскую зямлю, у Кракаў. Там ён хрысціўся і браты яго, і князі, і баяры літоўскія, і ўзяў Ягайла каралеўну Ядвігу сабе за жонку, і быў каранаваны таго каралеўства каронаю. І ад таго часу пачалі хрысціць Літву ў лацінскую веру, і прыслаў архібіскуп біскупа ў Вільню для Літоўскай зямлі, і тады пачалі касцёлы ставіць па ўсёй зямлі Літоўскай.

Той жа зімы, калі кароль быў у Кракаве з усімі князямі і баярамі літоўскімі, князь Андрэй Полацкі[13] прыйшоў з немцамі лівонскімі і з усімі латгаламі на Літоўскую зямлю і шмат паваяваў, папаліў гарадоў і сёлаў, замкам жа ў Літоўскай зямлі нічога не ўчыніў і затым вярнуўся назад. Той жа зімы князь Святаслаў Смаленскі[14] ўчыніў змову з князем Андрэем Полацкім. Ён [пайшоў] у Літву, а князь Святаслаў — да Оршы, і шмат бяды [яны] нарабілі людзям. Так бязлітасна, не па-хрысціянску мучылі хрысціян, што мы не чулі, каб нават у час нападаў няверных так мучылі, так катавалі хрысціян: збіралі іх, закрывалі ў хатах і падпальвалі, вялікія харомы вочапамі прыпаднімалі, палонных пад сцены галовамі клалі і заціскалі, жанчын і дзяцей на вастраколле натыкалі, іншыя ж здзекі над хрысціянамі брыдка і апісваць. Ні Антыёх Сірыйскі[15], ні Юліян-злачынец[16] так не мучылі хрысціян. Замку ж Оршы нічога не ўчынілі і затым вярнуліся назад.

Той жа зімы пад весну ў вялікі пост пачаў думаць [князь] Святаслаў са смаленскімі баярамі, быццам лютае звяр'ё, бы не хрысціяне, [як бы зноў учыніць] кровапраліцце хрысціянам. І пайшоў да горада Мсціслаўля, і аблажыў яго, і пачаў здабываць замак, парокамі біць [сцены], а ў зямлю Мсціслаўскую вояў паслаў. І шмат крыві хрысціянскай пралілося [тады]. Нават Богу было агідна глядзець, як так

званыя хрысціяне сваіх братоў-хрысціян не па-чалавечы, не па-хрысціянску катуюць.

Князь жа вялікі Скіргайла і князь вялікі Вітаўт, прыехаўшы з Польшчы ад брата свайго, караля [Ягайлы], уведалі, што князь Святаслаў Смаленскі раней пад Віцебскам быў, потым к Оршы прыходзіў, а цяпер каля Мсціслаўля стаіць і замак парокамі б'е. І вельмі засмуціўся князь вялікі Скіргайла, і пайшоў са сваімі братамі, з вялікім князем Вітаўтам, і з Канстанцінам, і з Карыбутам, і з Сямёнам Лугвенам. І ўспомнілі [яны] слова Божае: «Якою мераю чалавек мерае, так і яму адмераецца, а што пасее, тое і пажне». «Мы ж, — казалі яны, — не ўчынілі яму нічога злога, а ён, будучы з намі ў міры, парушыў прысягу і дагавор, нашу зямлю ваюе і кроў хрысціянскую пралівае. Мы ж ідзём на яго, спадзеючыся на Бога і на сілу крыжа». І прыйшлі [яны] да горада Мсціслаўля. Князь жа Святаслаў, які стаяў каля горада і біў Мсціслаўскі замак парокамі, учуў у пятніцу перад Вялікаднем, што ідзе на яго князь вялікі Скіргайла з братамі, падрыхтаваў сваё войска і пайшоў супраць іх. І як сышліся палкі, Бог учыніў паводле слоў прарока Давыда, які сказаў: «Спадзе хвароба на яго галаву, і наверх яго няпраўда сыдзе». І яшчэ: «Выкапаў яму і сам упадзе ў яе».

Дапамог Бог вялікаму князю Скіргайлу і князю вялікаму Вітаўту, а князь Святаслаў кінуўся наўцёкі са сваімі князямі, і з баярамі смаленскімі, і з усім сваім войскам. Божаю сілаю тут немалое дзіва ўчынілася: было пабіта шмат вояў, князёў і баяраў [смаленскіх], і самога вялікага князя Святаслава забілі. Сына ж яго, князя Юрыя, вялікі князь Скіргайла знайшоў сярод трупаў моцна параненага, ледзь жывога, узяў яго і пачаў лячыць рознымі лекамі, і галаву яму абстрыг, бо шмат было ран, і ўжо страціў надзею, што ён выжыве. Князь жа вялікі Скіргайла залячыў яму раны і прывёз да яго маці, вялікай княгіні Святаслававай, і пасадзіў яго на вялікім княжанні ў Смаленску, бо за князем Юрыем была замужам дачка старэйшай сястры Скіргайлавай. Адышоў ад горада Смаленска вялікі князь Скіргайла, і пайшоў у сваю зямлю Літоўскую, і стаў жыць у Троках, а ў Вільню кароль [Ягайла] прыслаў старасту свайго ляшскага.

Князь жа вялікі Вітаўт валодаў тады Луцкам і ўсёю зямлёю Валынскаю, а ў Літоўскай зямлі — сваёю бацькаўшчынаю. І было яму вельмі цяжка, што вялікім княжаннем вало-

дае чужы, чаго раней не бывала ў Літоўскай зямлі. Тады ён учыніў раду з усімі князямі і баярамі Літоўскай зямлі, і калі Скіргайла ад'ехаў быў у Полацк, князь вялікі Вітаўт прыйшоў да Вільні, каб ёю завалодаць. Княгіня ж вялікая Ганна была тады ў Гародні. Вільняне не паддаліся тады яму, бо далі прысягу каралю [Ягайлу] і [князю] Скіргайлу, і не ўзяў ён Вільні. І пайшоў [князь вялікі Вітаўт] са сваёю княгіняю, сваімі князямі і баярамі да магістра [у Прусію] і адтуль пачаў ваяваць Літоўскую зямлю з нямецкаю дапамогаю. І ўжо заваяваў быў [палову] Літоўскай зямлі па раку Вілію, і Полацк паддаўся яму. І ўбачыў кароль [Ягайла] і князь вялікі Скіргайла, што ўжо не могуць яны ўтрымаць Літоўскую зямлю перад [націскам] вялікага князя Вітаўта.

Князь жа вялікі Вітаўт разам з нямецкімі сіламі пайшоў к Вільні. І сустрэў яго князь Скіргайла з братам сваім Вігантам і з літоўскім войскам на рацэ Віліі каля гарадка Вейкшышкі. І дапамог Бог вялікаму князю Вітаўту, і пераможаны былі літоўскія воі, і кінуліся наўцёкі. І шмат іх пабілі, а іншых князёў і баяраў у палон пабралі: князя Сямёна Яўнутавіча, князя Глеба Святаслававіча Смаленскага, князя Васіля Канстанцінавіча, князя Івана Цету, Льва Плаксіча і шмат іншых князёў паланілі. І пайшоў князь вялікі Вітаўт к гораду Вільні з усім сваім войскам, і аблажыў горад Вільню, і пачаў здабываць Крывы горад, біць па ім з пушак, і ўзяў [Вітаўт] Крывы горад. Тады ж немцы забілі князя Карыгайлу Альгердавіча, бо ляшская застава ў Верхнім горадзе не пусціла ў горад князя Карыгайлу. Князь жа вялікі Вітаўт, узяўшы Крывы горад і [Літоўскую] зямлю паваяваўшы, вярнуўся ў Прусію.

Таго ж лета да вялікага князя Вітаўта ў Прусію[17] ў Мар'інград прыйшлі паслы з горада Масквы ад вялікага князя Васіля Дзімітравіча і прасілі ў князя вялікага Вітаўта аддаць дачку замуж за вялікага князя Васіля Дзімітравіча. Князь жа вялікі Вітаўт аддаў дачку сваю, князёўну Соф'ю, і адпусціў яе з Мар'інаграда, а з ёю паслаў князя Івана Альгімонтавіча [Гальшанскага]. З горада Гданьска яны паплылі на караблі па моры і прыехалі да горада Пскова. Псковічы ж выказалі ім вялікі гонар і з пашанаю праводзілі іх да Вялікага Ноўгарада. Ноўгарадцы таксама іх ушанавалі і праводзілі з пашанаю да горада Масквы да вялікага князя Васіля Дзімітравіча. Князь жа вялікі Васіль выслаў насустрач ім з пашанаю братоў сваіх, князя Уладзімера Андрэевіча і князя Андрэя Дзімітравіча і

шмат іншых князёў і баяраў, і сустрэлі вялікую князёўну Соф'ю з вялікаю пашанаю. Тады быў праасвяшчэнны мітрапаліт Кіпрыян[18] з архіепіскапамі і епіскапамі, з архімандрытамі, ігуменамі і з усім святарствам, і сустрэлі яго пачэсна з крыжамі перад горадам Масквою. І ўчынілі шлюб пачэсны і павянчалі вялікага князя Васіля Дзімітравіча з вялікаю князёўнаю Соф'яю, і было вяселле знакамітае, пашаны годнае, і павесяліліся ўволю. Мы ж да папярэдняга вернемся.

Князь вялікі Вітаўт жыў у магістра ў Мар'інградзе, і прыслаў да яго кароль [Ягайла] пасла з братам сваім Скіргайлам, так кажучы: «Не губляй больш, браце, зямлі Літоўскай, нашай і сваёй бацькаўшчыны, пайдзі, браце, з намі на мір, будзь з намі ў вялікай брацкай любові і вазьмі сабе вялікае княжанне ў Вільні, пасад дзядзькі свайго, вялікага князя Альгерда, і бацькі свайго, вялікага князя Кейстута». Князь вялікі Вітаўт, параіўшыся са сваімі князямі, з князем Юрыем Нарымонтавічам Бельскім і з князем Іванам Альгімонтавічам [Гальшанскім], пайшоў у Літву і сеў у Вільні на вялікім княжанні на пасадзе дзядзькі свайго, вялікага князя Альгерда, і бацькі свайго, вялікага князя Кейстута, і рада была яму ўся зямля Літоўская і Руская.

Князь Карыбут Альгердавіч[19] пачаў дакараць [вялікага князя Вітаўта], выяўляць сваё непаслушэнства, пачаў збіраць супраць яго сваё войска і выступіў супраць яго. Князь жа вялікі Вітаўт паслаў сваё войска [пад кіраўніцтвам] Васіля Барэйкавіча і Гінвіла супраць яго (Карыбута). І сышліся войскі каля Дакудава, і былі разбіты воі князя Карыбута, і кінуліся наўцёкі, і шмат іх было пабіта. Сам жа князь Карыбут уцёк у Ноўгарадок. Там жа былі яго княгіня і дзеці. Князь жа вялікі Вітаўт сабраў сваё войска, і сам пайшоў да Ноўгарадка, і аблажыў горад, і ўзяў Ноўгарадок, а князя Карыбута, і княгіню, і дзяцей паланіў.

Потым памерла княгіня [Улляна], жонка Альгерда, і кароль [Ягайла] аддаў горад Віцебск свайму сакальнічаму Фёдару Вясне. Князь жа Свідрыгайла быў тады яшчэ малады. І стаў Фёдар Вясна валодаць горадам Віцебскам і ўсёю Віцебскаю зямлёю паводле парады і загаду караля Ягайлы. Князь жа Свідрыгайла не мог таго вынесці, што Фёдар Вясна горадам валодае, а яму не падначальваецца. І забіў ён Фёдара, і ўзяў горад Віцебск. І вельмі шкадаваў кароль Ягайла, што такое здарылася, і пісаў грамату брату свайму, вялікаму кня-

зю Вітаўту, каб ён помсту ўчыніў за тую крыўду.

Князь жа вялікі Вітаўт, узяўшы з сабою князя Скіргайлу[20] і сабраўшы вялікае войска, пайшоў да горада Віцебска на князя Свідрыгайлу і прыйшоў [спачатку] да горада Друцка. Друцкія князі сустрэлі яго і аддаліся яму на службу, і пайшоў [вялікі князь Вітаўт] да Оршы. Аршанцы ж зачыніліся ў замку і абараняліся два дні, а затым здалі замак. І адтуль пайшоў ён да Віцебска на князя Свідрыгайлу. Князь жа Свідрыгайла зачыніўся ў замку. І стаў вялікі князь Вітаўт здабываць замак. Тут і вялікі князь смаленскі Юрый Святаславіч прыйшоў на дапамогу з усімі смаленскімі сіламі і аддаўся вялікаму князю Вітаўту на службу. І пачалі яны моцна здабываць Віцебскі замак і пушкі паставілі. Віцябляне не вытрымалі і пачалі паддавацца вялікаму князю Вітаўту. Князь жа Свідрыгайла выйшаў з замка і здаўся на волю вялікага князя Вітаўта. Князь жа вялікі Вітаўт узяў горад Віцебск і пайшоў затым у Вільню.

Той жа зімы на весну вялікі князь Вітаўт пайшоў у зямлю Падольскую, а князь Уладзімер Альгердавіч, які тады быў у Кіеве, не хацеў пакланіцца і пакарыцца вялікаму князю Вітаўту. Той жа вясны князь вялікі Вітаўт пайшоў і ўзяў гарады Жытомір і Оўруч, і прыехаў да яго князь Уладзімер. Таго ж лета на восень князь вялікі Вітаўт вывеў яго з Кіева і даў яму Капыль, а ў Кіеве пасадзіў князя Скіргайлу. Сам жа князь вялікі Вітаўт пайшоў на Падольскую зямлю, а князю Скіргайлу загадаў ісці з Кіева да Чаркасаў і Звянігарада. Князь жа Скіргайла з Божаю дапамогаю і воляю вялікага князя Вітаўта ўзяў Чаркасы і Звянігарад і вярнуўся затым у Кіеў.

Калі ён княжыў у Кіеве, быў нехта Фама Ісуфаў, манах, які служыў намеснікам мітрапаліта пры святой Сафіі на мітрапалітавым двары. Захацеў [аднойчы] князь Скіргайла паехаць за Дняпро на паляванне. Той жа Фама паклікаў тады яго на пір на мітрапалітаў двор. І калі князь Скіргайла быў у яго на піры, я ж таго [добра] не ведаю, бо быў тады малады, але некаторыя гавораць, быццам бы той Фама даў князю Скіргайлу атруту выпіць. І пасля таго піру паехаў князь Скіргайла за Дняпро ў Мілаславічы і там захварэў у чацвер напярэдадні Хрышчэння, у суботу прыехаў у горад Кіеў хворы, хварэў 7 дзён і памёр у сераду. І панеслі яго на галовах святары са свечкамі, пеючы песні жалобныя, з горада Кіева

да царквы святой Багародзіцы Пячорскай, і пакладзены быў цудоўны і добры князь Скіргайла, названы ў час святога хрышчэння Іванам, каля труны святога Феадосія Пячорскага[21]. Князь жа вялікі Вітаўт, пачуўшы, што князь Скіргайла памёр, паслаў у Кіеў князя Івана Альгімонтавіча і даў яму Кіеў ва ўладанне. Мы ж да папярэдняга вернемся.

Калі вярнуўся князь вялікі Вітаўт з Прусіі на вялікае княжанне, ён адпусціў свайго палоннага князя Глеба Святаславіча ў Смаленск на вялікае княжанне, а князю Юрыю Святаславічу даў горад Раслаўль. Князь Глеб, знаходзячыся ў Смаленску, пачаў выказваць непаслушэнства вялікаму князю Вітаўту. Князь жа вялікі Вітаўт слаў [да яго] пасланцоў [з патрабаваннем] выправіцца. Ён жа (князь Глеб) не захацеў выпраўляцца. Тады князь вялікі Вітаўт з усімі сваімі сіламі пайшоў да горада Смаленска на князя Глеба Святаславіча, і калі прыйшоў да Смаленска — здаўся яму [князь] Глеб з горадам Смаленскам. Князь жа вялікі Вітаўт аддаў горад Смаленск ва ўладанне князю Яманту і Васілю Барэйкавічу, а князю Глебу даў горад Паланы[22]. Сам жа князь вялікі Вітаўт вярнуўся ў Літоўскую зямлю. У тую ж зіму паслаў [вялікі князь Вітаўт] князя Сямёна Лугвена з вялікім войскам і смаленскімі сіламі на князя Алега Разанскага, і вельмі шмат паланілі ў Разанскай зямлі, і з перамогаю вярнуліся назад. Тады зіма была вельмі сцюдзёная.

Той жа зімы на весну прыехаў князь вялікі Васіль Дзмітравіч маскоўскі да свайго цесця, вялікага князя Вітаўта[23], у Смаленск у вялікі пост. І ўшанаваў [маскоўскі князь] князя вялікага Вітаўта шматлікімі падарункамі: залатымі ланцугамі і паясамі, сабалямі і дарагімі тканінамі, залатым посудам і адборнымі коньмі. Князь жа вялікі Вітаўт зяця свайго, вялікага князя [маскоўскага], ушанаваў і абдарыў усялякімі падарункамі: адзеннем, расшытым каштоўнымі камянямі і жэмчугам, аксамітам, іншымі дарагімі тканінамі, коньмі з залатымі сёдламі, рознымі дзівоснымі рэчамі, і з вялікаю пашанаю адпусціў [яго] ў горад Маскву. Сам жа [вялікі князь Вітаўт] паехаў у Літву.

Калі князь вялікі Альгерд быў гаспадаром у Літоўскай зямлі, пайшоў ён у Поле з літоўскім войскам і пабіў татараў на Сіняй Вадзе[24], трох братоў, ханаў Хачыбея, Кутлубугу і Дзмітрыя. Гэтыя тры браты, татарскія ханы, былі отчычамі і дзедзічамі Падольскай зямлі. Ад іх імя кіравалі атаманы, і баскакі, прыязджаючы ад гэтых атаманаў, збіралі з Падоль-

скай зямлі даніну. Брат жа вялікага князя Альгерда князь Карыят трымаў тады Ноўгарадок Літоўскі. І былі ў яго чатыры сыны[25]: князь Юрый, князь Аляксандр, князь Канстанцін і князь Фёдар. І тыя князі Карыятавічы, тры браты, князь Юрый, князь Аляксандр і князь Канстанцін, з Альгердавага дазволу ды з дапамогаю Літоўскай зямлі пайшлі ў Падольскую зямлю. У той час у Падольскай зямлі не было ніводнага горада, ні з дрэва будаванага, ні з каменю мураванага. І тады тыя князі Карыятавічы, прыйшоўшы ў Падольскую зямлю, увайшлі ў прыязнь з атаманамі і пачалі бараніць Падольскую зямлю ад татараў і баскакам перасталі даваць даніну. Спачатку [Карыятавічы] знайшлі сабе высокае ўмацаванае месца на рацэ Смотрыч і пабудавалі [там] горад Смотрыч. У іншым жа месцы, у гары, жылі манахі, і яны ў тым месцы пабудавалі горад Бакоту. Аднойчы ім давялося загнаць шмат аленяў на той востраў, дзе зараз знаходзіцца места Камянецкае, і, павысекшы лес, [яны там] горад Камянец пабудавалі. І з таго часу [Карыятавічы] ўсе падольскія гарады заснавалі і ўсёй Падольскаю зямлёю завалодалі[26].

Потым польскі кароль Казімер Лакеткавіч даведаўся, што тры браты Карыятавічы [аселі] на Падольскай зямлі і людзі яны мужныя, і прыслаў ён князю Канстанціну граматы з пячаткамі, дзе настойліва прасіў яго, каб да яго (Казімера) прыехаў. Задумаў [Казімер], параіўшыся са сваімі панамі, вось што: у яго не было сына, толькі адна дачка, і вырашыў ён за яго (Канстанціна) дачку аддаць, а пасля сваёй смерці каралём пакінуць. І князь Канстанцін з гэтымі ахоўнымі граматамі да польскага караля ездзіў, і там, паглядзеўшы і падумаўшы, не хацеў тую веру прыняць, і зноў па тых жа граматах вярнуўся ў Падольскую зямлю ў свае ўладанні і там, на Падоллі, памёр.

Князя ж Юрыя валахі ўзялі да сябе ваяводам і там яго атруцілі, а князя Аляксандра забілі татары, а тут [у Літве] брат чацвёрты, князь Фёдар Карыятавіч, валодаў Новагарадком. І калі пачуў князь Фёдар Карыятавіч, што братоў яго ў Падольскай зямлі няма ўжо ў жывых, пайшоў ён на Падолле і там асеў.

У той час князь вялікі Вітаўт стаў гаспадаром у Літоўскай зямлі. Падольская ж зямля не хацела быць пад уладаю вялікага князя Вітаўта і Літвы, як гэта раней было. І князь вялікі [Вітаўт] пайшоў з усімі літоўскімі сіламі на Падолле. Пачуўшы тое, князь Фёдар Карыятавіч уцёк з Падольскай зямлі да вен-

граў, а ў гарадах пасадзіў валахаў. Венгерскі кароль [князю] Фёдару даў прытулак. Князь жа вялікі Вітаўт пайшоў да Брацлава, заняўшы Брацлаў, пайшоў да Сакольца і яго заняў, ноччу прыйшоў да Камянца і здабыў яго, а затым заняў і Смотрыч, і Скалу, і Чырвоны Гарадок — і ўсе гарады ўзяў. Ваяводу ж князя Фёдара Нестака, што ў тых гарадах быў, схапіў, а па ўсіх гарадах князь вялікі Вітаўт сваіх старастаў пасадзіў. А здабыў [ён усё гэта] літоўскімі сіламі, і ніхто ніадкуль яму не дапамагаў.

Тады [польскі] кароль [Ягайла] пачаў прасіць князя вялікага Вітаўта: «Мілы браце, даў табе Бог — здабыў ты Падольскую зямлю, дык зрабі мне ласку — дай мне [палову] Падолля». Князь вялікі Вітаўт даў каралю палову Падольскай зямлі за дванаццаць тысяч пенязяў, даў Камянец, Смотрыч, Скалу, Чырвоны Гарадок і Бакоту, а ва ўсіх іншых падольскіх землях і гарадах князь вялікі Вітаўт пасадзіў сваіх старастаў: у Брацлаве, у Сакольцы і ў Беніцы (Вінніцы. — *В. Ч.*). Кароль жа тыя гарады за дваццаць тысяч пану Спытку[27] аддаў.

Калі князь вялікі [Вітаўт] біўся з татарамі [на Ворскле][28], пан Спытка прыходзіў на дапамогу вялікаму князю Вітаўту, і тады пана Спытку забілі татары. Пані ж Спыткавая аўдавела і засталася з малымі дзецьмі. І пачаў кароль слаць [лісты] вялікаму князю Вітаўту, так гаворачы: «Тую палову Падольскай зямлі, што ты даў нам за дваццаць тысяч пенязяў, мы аддалі былі за дваццаць тысяч пану Спытку. [Цяпер жа], калі пані Спыткавая аўдавела з малымі дзецьмі, а землі тыя няма каму бараніць ад татараў, вярні дваццаць тысяч пенязяў, а гарады зноў вазьмі сабе». І князь вялікі [Вітаўт] паслаў каралю сорак тысяч [пенязяў] з панам Нямірам і Дзімітрыем Васільевічам, баярынам луцкім, а гарады свае зноў узяў сабе і старасту свайго пасадзіў, двараніна Граноўскага. Пасля Граноўскага [вялікі князь Вітаўт] даў [Падолле] пану Пятру Мантыгірдавічу, а пасля яго — пану Дзідзіголду. Потым, калі [вялікі князь Вітаўт] пану Дзідзіголду даў Смаленск, Падолле [ён] даў пану Доўгірду. Пан жа Доўгірд быў старастам ва ўсіх тых гарадах на Падоллі аж да смерці вялікага князя Вітаўта. А як толькі князя вялікага Вітаўта не стала ў жывых, прыехалі ляхі і пана Доўгірда з горада Камянца паклікалі да сябе на раду і, да рады не дапусціўшы, схапілі і абрабавалі. Потым яны захапілі Камянец [і іншыя гарады] і ўсім тым завалодалі, што [цяпер] у Падольскай зямлі трымаюць[29].

## ПАХВАЛА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ[30]

Таямніцу цара захоўваць пахвальна, а пра справы вялікага гаспадара паведамляць пахвальна. Хачу вам расказаць пра вялікага князя Аляксандра, яшчэ званага Вітаўтам, літоўскіх і рускіх і шмат іншых земляў гаспадара. Але спачатку па пісанаму: «Братва, Бога бойцеся, а князя шануйце». Гэтак і я хачу вам расказаць пра гэтага слаўнага гаспадара. Але немагчыма ні расказаць, ні апісаць справы вялікага князя Вітаўта. Каб было магчыма спасцігнуць вышыню неба і глыбіню мора, то можна было б выказаць сілу і храбрасць гэтага слаўнага гаспадара.

Вялікі князь Вітаўт валодаў Вялікім княствам Літоўскім і Рускім і шмат якімі іншымі землямі, проста кажучы, усёю Рускаю зямлёю. Ды не толькі ўся Руская зямля [была яму падуладная]. Яшчэ і гаспадар Венгерскай зямлі, гэтак званы цэзар рымскі, у вялікай любові жыў з ім. Аднойчы быў гэты слаўны гаспадар у сваім горадзе Вялікі Луцк і паслаў сваіх паслоў да венгерскага караля, гэтак званага цэзара рымскага, і загадаў яму прыбыць да яго. Ён жа паслухмяна неўзабаве прыехаў да яго са сваёю каралеваю, і пашану вялікую выказваў, і падарункі шматлікія падносіў яму. І з таго часу вялікая любоў умацавалася паміж імі.

Як не дзівіцца славе вялікага гаспадара [Вітаўта]. Няма земляў ні на ўсходзе, ні на захадзе, адкуль не прыходзілі б пакланіцца гэтаму слаўнаму гаспадару. Калі нават ёсць цар над усёю зямлёю, і той, прыйшоўшы, кланяўся слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Аляксандру, яшчэ званаму Вітаўтам. Яшчэ і турэцкі цар пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў [гэтаму] слаўнаму гаспадару. У вялікай любові жыў з ім і прававерны і хрысталюбны цар царградскі. Таксама і Чэскае каралеўства з вялікаю пашанаю ставілася да [нашага] слаўнага гаспадара. А яшчэ дацкі кароль пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Вітаўту.

У тыя ж гады брат яго Ягайла, па-ляшску названы Уладзіславам, валодаў Кракаўскім каралеўствам, і ён з ім [таксама] ў вялікай любові жыў. Калі слаўны гаспадар Вітаўт на якую зямлю гневаўся і хацеў пакараць, кароль Уладзіслаў заўсёды даваў яму дапамогу. Служылі яшчэ яму і ўсходнія цары.

Таксама вялікі князь маскоўскі ў вялікай любові жыў з ім. Служылі яму яшчэ і іншыя: вялікія князі нямецкія з усімі сваімі гарадамі і землямі, па-нямецку называныя магістрамі; гаспадар зямлі Малдаўскай і Бесарабскай, па-валашску называны ваяводаю; таксама і гаспадар зямлі Балгарскай, па-балгарску называны дэспатам. Яшчэ і іншыя вялікія князі [служылі вялікаму князю Вітаўту]: вялікі князь цверскі, вялікі князь разанскі, вялікі князь адоеўскі, і Вялікі Ноўгарад, і Вялікі Пскоў. Проста кажучы, не знойдзецца ва ўсім Памор'і ні горад, ні край, якія б не слухаліся гэтага слаўнага гаспадара Вітаўта.

Гэтыя вялікія гаспадары, вялікія князі, вялікія землі, пра якія мы тут пісалі, адны ў вялікай любові жылі з ім, а іншыя моцна служылі яму, слаўнаму гаспадару, пашану вялікую [выказвалі] і падарункі шматлікія падносілі яму не толькі кожны год, але і кожны дзень.

Калі слаўны гаспадар, вялікі князь Аляксандр, званы Вітаўтам, на якую зямлю гневаўся і хацеў яе сам пакараць або куды хацеў сваіх моцных ваяводаў паслаць і каму ад тых земляў загадваў да сябе прыбыць, яны неўзабаве паслухмяна са сваёй зямлі да яго прыходзілі. Калі ж якому гаспадару з-за якой-небудзь патрэбы немагчыма было прыбыць [да Вітаўта], ён сваё войска пасылаў яму (Вітаўту. — *В. Ч.*) на дапамогу і на службу.

Гэты вялікі князь Аляксандр, званы Вітаўтам, у вялікай пашане і славе прабываў. [Аднойчы] быў ён у адным са сваіх гарадоў — вялікім горадзе Кіеве, і прыслалі да яго [сваіх пасланцоў] вялікія князі ардынскія, паручаючыся верна служыць яму, і прасілі ў яго цара на царства, бо шмат вялікіх ардынскіх цароў служыла пры яго двары. І даў ён ім цара па імені Салтан. Той жа цар, які быў у Ардзе, учуўшы, што слаўны гаспадар [Вітаўт] паслаў свайго слугу на царства, не пасмеў працівіцца яму, пакінуў царства і ўцёк. Салтан жа, прыйшоўшы ў Арду, сеў на царства паводле волі вялікага гаспадара Вітаўта і вельмі паслухмяна служыў яму і неўзабаве памёр. Старэйшыны ж ардынскія паслалі сваіх паслоў з вялікімі дарамі да слаўнага гаспадара [Вітаўта] і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Салтан Малы. Гэты Салтан, сеўшы на царства, ніяк не смеў не слухацца слаўнага гаспадара: дзе і калі [вялікі князь Вітаўт] яму загадае, ён тады і туды качуе. Прайшло мала часу, і вялікія князі ардынскія, не смеючы нічым разгневаць слаўнага гаспадара,

вялікага князя Вітаўта, каб без яго волі не садзіць на трон цара, прыслалі да яго з вялікаю пашанаю і прасілі іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Даўлад-Бярды.

Як рака, праплываючы ўсе землі, людзей і жывёлу поіць, а сама не змяншаецца, так і слаўны гаспадар [Вітаўт] шмат цароў адпускаў у Арду, а ў яго большала цароў. Мы ж да папярэдняга вернемся. Гэты цар Даўлат-Бярды мала часу цараваў, і таму тыя ж старэйшыны ардынскія, калі ішлі каля вышэйзгаданага горада Кіева і ўчулі, што ў гэтым горадзе знаходзіцца слаўны гаспадар, вялікі князь Вітаўт, прыйшлі і пакланіліся яму, і шматлікія падарункі прынеслі, і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Махмет. Як ад мора шмат вады выходзіць, так і ад гэтага слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, мудрасць сыходзіць.

У год 1430 князь вялікі Вітаўт Кейстутавіч склікаў да сябе караля польскага Уладзіслава [Ягайлу], вялікага князя маскоўскага Васіля Васільевіча, вялікага князя цверскага Барыса Аляксандравіча, магістра нямецкага і прускага, магістра лівонскага. Вялікія паслы прыходзілі ад Івана, цара цараградскага, і ад рымскага цэсара, і ад дацкага караля, і ад вялікага князя разанскага, і ад валашскага ваяводы паслы прыходзілі. Адоеўскія ж князі самі былі. І ад Вялікага Ноўгарада, і ад Пскова, і ад ардынскага цара, і ад іншых князёў і земляў паслы былі. Гэтыя каралі, вялікія князі і паслы былі ў вялікага князя Вітаўта сем тыдняў на яго страве, а на [кожны] дзень ішло аброку па трыста бочак мёду (медавухі. — *В. Ч.*), па трыста ялавіц, бараноў і вепраў [таксама] па трыста.

Князь вялікі Вітаўт хацеў ускласці на сябе карону, але яго непрыяцелі ляхі не прапусцілі яе, і таму ён не ўсклаў на сябе карону[31]. І расхварэўся князь вялікі Вітаўт і адпусціў [дамоў] вялікіх князёў і царскіх паслоў са шматлікімі падарункамі і з пашанаю. Кароль жа польскі Уладзіслаў застаўся ў вялікага князя Вітаўта. І пры ім памёр вялікі Вітаўт 23 кастрычніка[32] ў дзень памяці святога апостала Якава, брата Гасподняга.

І сеў [пасля смерці вялікага князя Вітаўта] на вялікае княжанне князь вялікі Свідрыгайла Альгердавіч[33] у Вільні і Троках. І княжыў вялікі князь Свідрыгайла два гады без двух месяцаў, і пры сваім княжанні паслаў ён смаленскага ўладыку Герасіма[34] ў Цараград [для пасвячэння] на мітраполію. І не справіўся [вялікі князь Свідрыгайла] з кіраваннем краіны. І першага верасня (1432 г.) пасадзіла літва на вялікае княжан-

не, у Вільню і Трокі, вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча[35]. Свідрыгайла ж пайшоў [княжыць] у Полацк і Смаленск, і рускія князі і баяры пасадзілі яго на вялікае княжанне рускае[36].

У тую ж восень сабраў князь вялікі Свідрыгайла вялікае войска, і князь вялікі цверскі Барыс Аляксандравіч даў яму [на дапамогу] брата свайго князя Яраслава з усім сваім войскам, і пайшоў [Свідрыгайла] на Літву. Не дайшоўшы да Вільні шэсць міль, ён спыніўся ў Ашмянах і там стаяў тыдзень. І прыйшоў князь вялікі Жыгімонт з літоўскім войскам, і адбылася бітва паміж імі 8 снежня ў дзень памяці святога Патанія, у панядзелак. І дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту, і разбілі князя вялікага Свідрыгайлу, і рускіх князёў пабілі, а іншых узялі ў палон: князя Юрыя Лугвенавіча, князя Васіля Сямёнавіча, князя Федзьку Адзінцэвіча, і паланілі пана Дзедзіголда, ваяводу віленскага, і шмат іншых пабілі і паланілі.

У тую ж зіму князь вялікі Свідрыгайла другі раз сабраў вялікае войска з Русі і пайшоў на Літву, і шмат паваявалі ў Літоўскай зямлі, і папалілі, і [людзей] у палон павялі.

Летам жа [1433 г. Свідрыгайла зноў] сабраў вялікае войска з Русі, і лівонскі магістар з усім сваім войскам прыйшоў яму на дапамогу, і князь вялікі цверскі прыслаў яму сваё войска. І пайшоў [Свідрыгайла] ў Літоўскую зямлю, і начаваў у Рудомені за паўтары мілі ад Вільні, і пайшоў да горада, не даходзячы Трокаў, павярнуў на Старыя Трокі, а пад Трокамі стаяў на Спасаў дзень і, прастаяўшы чатыры дні, пайшоў ад Трокаў шукаць вялікага князя Жыгімонта і літоўскае войска. Прастаяўшы ў Вейкшышках чатыры дні, ён пайшоў на Русь у сваю зямлю. І прыйшоў [Свідрыгайла] да Крэва, стаяў два дні, узяў горад Крэва мураваны і спаліў, людзей жа шмат пасек і ў палон пабраў, паланіў і пайшоў адтуль да Маладзечна.

[Тут] дайшла да вялікага князя Свідрыгайлы вестка, што ідзе літва пагоняю. І князь вялікі Свідрыгайла паслаў на іх князя Міхаіла, ваяводу кіеўскага, і іншых рускіх князёў, і пабілі [яны] Пятра Мантыгірдавіча[37] і літву, а іншых палавілі каля Капачоў[38]. І адтуль пайшоў [Свідрыгайла] да Заслаўля, узяў горад і ў той жа дзень спаліў яго, а людзей шмат паланіў; і прыйшоў к Менску, узяў горад і спаліў, а людзей шмат, мужчын і жанчын, паланіў; і пайшоў у сваю зямлю, шмат бяды нарабіўшы Літоўскай зямлі[39]. І прыйшоў [Свідрыгайла] к

Барысаву. І тут на рацэ Бярэзіне схапілі князя Міхаіла Іванавіча Гальшанскага і паслалі яго ў горад Віцебск, і загадаў [Свідрыгайла] ўтапіць яго там у рацэ Дзвіне пад горадам Віцебскам. Злавілі ж яго невінаватага, не даходзячы Лукомля за мілю, між азёраў. Магістар [пасля таго] вярнуўся ў сваю зямлю, у Лівонію. Вялікі ж князь Свідрыгайла пайшоў да Лукомля, там распусціў сваё рускае войска, князёў і баяраў, а сам пайшоў да Кіева.

У тую ж восень князь вялікі Жыгімонт сабраў вялікае войска з літвы і ляхаў, і прыйшоў на Рускую зямлю, і стаў пад Мсціславулем 26 кастрычніка [1433 г.], у дзень памяці святога пакутніка Дзімітрыя, у сераду, і стаяў тры дні і, не здабыўшы горада, пайшоў у сваю зямлю. На [наступнае] лета сабраўся Свідрыгайла з рускімі князямі і баярамі, з усім рускім войскам і пайшоў на Літву, і магістар яму на дапамогу. І сышліся яны са Свідрыгайлам у Браславе. І па волі Божай спадзе на зямлю вялікі дождж, і не змаглі яны пайсці ў Літоўскую зямлю. Князь Свідрыгайла вярнуўся ў сваю зямлю, а магістар пайшоў у сваю зямлю. У Полацку [Свідрыгайла] распусціў сваё войска, князёў і баяраў, а сам пайшоў у Кіеў.

На трэці ж год князь вялікі Свідрыгайла спаліў у Віцебску мітрапаліта Герасіма. Сабраў князь вялікі Свідрыгайла ў Віцебску рускіх князёў і рускае войска і пайшоў к Браславу. Там, у Браславе, прыйшоў на дапамогу Свідрыгайлу магістар лівонскі з усім сваім войскам, і пайшлі яны ад Браслава па Завілейскай зямлі, за Вілію да Вількаміра[40]. Князь жа вялікі Жыгімонт сам не пайшоў на Свідрыгайлу. Даў кароль [Ягайла] 800 коней у дапамогу князю вялікаму Жыгімонту. І князь вялікі Жыгімонт паслаў на князя Свідрыгайлу свайго сына, князя Міхайлу[41]. Князь Міхайла прыйшоў са сваім войскам літоўскім і з ляхамі, і адбылася бітва са Свідрыгайлам на Сёмін дзень, на летаправодца (1 верасня 1435 г.), а біліся за Вількамірам ля ракі. І за тое Бог не дапамог князю Свідрыгайлу, што ён спаліў мітрапаліта Герасіма. І дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту і яго сыну Міхайлу, і разбілі яны князя Свідрыгайлу і ўсё яго войска, і шмат князёў забілі, а іншых рукамі palавілі. [Тады] забілі яго (Свідрыгайлы) пляменніка, князя Жыгімонта Карыбутавіча, князя Яраслава Лугвенавіча, князя Міхаіла Сямёнавіча Балабана, князя Данілу Сямёнавіча Гальшанскага, князя Міхаіла Львовіча Вяземскага і іншых шмат князёў пабілі, а паланілі 42 князі і сярод іх паланілі Івана Уладзімеравіча, [князя] кіеўскага, і бра-

та яго, князя Фёдара Карыбутавіча. Забілі і лівонскага магістра і ландмаршалка, і шмат комтураў пабілі, і ўсіх лівонцаў перабілі, а іншых жывымі пералавілі, мала хто з іх выратаваўся. [Тады] і шмат іншых гасцей перабілі: рукушан[42], сілезцаў і чэхаў, а іншых рукамі палавілі.

Пасля той бітвы праз тры тыдні сабраў князь вялікі Жыгімонт усё сваё войска літоўскае і паслаў свайго сына, князя Міхайлу, на Русь. Прыйшоў князь Міхайла і стаў ля Оршы. І сустрэлі яго ля Оршы смаляне, і паддаліся яны князю вялікаму Жыгімонту і яго сыну, князю Міхайлу. І не пайшоў князь Міхайла на Смаленск, а пайшоў ад Оршы к Віцебску. Прыйшоўшы пад Віцебск, князь Міхайла стаяў 6 тыдняў і, не ўзяўшы горада, пайшоў прэч. Пасля таго ў тую ж зіму князь вялікі Жыгімонт зноў сабраў усё сваё літоўскае войска і паноў і паслаў да горада Полацка. Прыйшоўшы, прастаялі яны пад Полацкам тыдзень і, не здабыўшы горада, пайшлі прэч. У наступным жа (1436) годзе палачане і віцябляне, не чакаючы ніадкуль дапамогі, паддаліся князю вялікаму Жыгімонту Кейстутавічу. І пачаў княжыць вялікі князь Жыгімонт на вялікім княжанні літоўскім і рускім[43].



# *[РОД ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ З ПАКАЛЕННЯ ДЫ З РОДУ КІТАЎРАСАЎ]*

## [ПРА АТЫЛУ, ЗВАНАГА БІЧАМ БОЖЫМ]

У год ад Божага нараджэння[1] 401 прыйшоў Атыла[2], званы Бічам Божым, ад ракі Югры[3], або Юры[4], а яна і цяпер у зямлі Івакі-цара[5]; бацьку ягонага звалі Мандазіг. Выйшаў ён адтуль з трыма братамі сваімі — Ачарам, Рогасам і Бледам — і морам-акіянам прыплыў у Міжземнае мора, якое ляжыць паміж Францыяй ды Гішпаніяй. І калі ён увайшоў у тое мора, якраз тады везлі з Брытаніі каралеўну іменем Урсула, каб выдаць замуж за сына ангельскага караля; а пры той каралеўне было адзінаццаць тысяч паненак. Атыла саму каралеўну і ўсіх тых адзінаццаць тысяч паненак, што былі пры ёй, забіў, і яны ў імя Хрыста сталі пакутніцамі. Гэта першае зверства, учыненае ім над народам хрысціянскім. Потым ён абышоў Французскую і Валоскую землі* і паплыў морам да Харвацкае зямлі, там ён сышоў на бераг і ўзяў сілаю Харвацкую зямлю. Авалодаў ён таксама Вугорскаю зямлёю**, і збудаваў замак Будзынь[6], і назваўся каралём вугорскім; а браты ягоныя — Ачар і Рогас — памерлі. І калі ён будаваў Будзынь і абводзіў места мурамі, у той час ён свайго трэцяга брата, Бледу, забіў і адзін панаваў на ўсёй Вугорскай зямлі, і захапіў шмат гаспадарстваў, і як спачатку праследаваў хры-

* Валоская зямля — тут: Італія.

** Вугорская зямля — Вугоршчына, Венгрыя.

сціянаў, так і сеўшы на тым гаспадарстве, ні ў чым не змяніўся, але яшчэ большы вораг хрысціянам стаў. І, сабраўшы пяцьсот верных яму людзей, ён пайшоў у Валоскую зямлю і прыйшоў пад места, званае Аквілея[7]; тое места было тады пад цэсарам Марцыянам[8]; і Атыла аблажыў Аквілею. А тое места было вельмі моцнае, і бараніла яго рымскае рыцарства, і таму, зразумеўшы, што не зможа гэтага места захапіць, Атыла не хацеў далей марнаваць часу і пайшоў у глыб Валоскае зямлі[9] да Рыма. А князі ды сенатары, якія былі ў тым месце, бачачы такую вялікую сілу ягоную, былі вялікім страхам апанаваныя і разбегліся з места, а каторыя ўцяклі да сваіх рыбароў і там, на востраве, пачалі будаваць места, якое стала называцца Венецыя.

## [ПРА КНЯЗЯ ПАЛЕМОНА][10]

А князь іменем Палемон, які таксама ў тым месце быў, усё сабраўшы, уцёк з імі. І з ім было пяцьсот сем'яў рымскае шляхты, а між імі на востраве аказалася чатыры роды рымскае шляхты: з герба Кітаўраса[11] — Даўспрунк, з герба Калюмнаў — Прэшпар Цэзарынус, з герба Урсінаў[12] — Юліянус, з герба Ружы — Гектар. І паплыў Палемон морам Міжземным і ўзяў з сабою аднаго звездара, які знаўся на зорках. І паплылі яны на караблях морам на поўнач, і, абмінуўшы Францыю ды Ангельшчыну, прыплылі да каралеўства Дацкага, а адтуль морам-акіянам[13] дабраліся да вусця ракі Нёман, дзе яна ўпадае ў мора-акіян, потым паплылі ракою Нёмнам уверх па рацэ аж да мора, якое завецца Малым[14], або Нёмнавым. А з тае прычыны мора Нёмнавае так завецца, што ў тое мора Нёман упадае дванаццаццю рукавамі, і кожны завецца асобным найменнем, а адзін назвалі Гілія.

І паплылі тым рукавом уверх і даплылі да месца, дзе Нёман цячэ па адным рэчышчы, і ўверх па Нёмане дабраліся да ракі Дубісы[15], дзе, увайшоўшы ў тую раку Дубісу, знайшлі горы высокія, і сярод тых гор — раўніны вялікія і дубровы раскошныя, размаітым багаццем поўныя, звярамі featureрознага роду, найперш турамі, зубрамі, ласямі, аленямі, сарнамі, рысямі, куніцамі, лісіцамі, ваверкамі, гарнастаямі ды іншымі пародамі, а таксама ў рэках вялікае багацце рыб незвычайных, і гэта толькі тыя рыбы, якія ў гэтых рэках плодзяцца, але мноства

рыб размаітых і дзіўных прыходзіць з мора, бо недалёка гэта ад вусця Нёмнавага, дзе Нёман у мора ўпадае. І на некаторых рэках — на Дубісе, на Нёмне, на Юры — пасяліліся яны і пачалі размнажацца. Тое іх пасяленне на тых рэках вельмі ім спадабалася, і назвалі яны тую зямлю Жамойцкаю[16].

## [ПРА ТРОХ СЫНОЎ ПАЛЕМОНАВЫХ — БОРКА, КУНАСА І СПЕРУ]

Потым згаданы князь Палемон нарадзіў трох сыноў: старэйшы — Борк, другі — Кунас, трэці — Спера. Старэйшы сын, Борк, заснаваў горад на рацэ Юры і, склаўшы назву ракі Юры і імя сваё разам, назваў той горад Юрборк[17]. А сярэдні сын, Кунас, прыйшоў да вусця ракі Нявежы[18], дзе яна ўпадае ў Нёман, і ўчыніў горад, і назваў яго іменем сваім — Кунасаў горад[19]. А трэці сын, Спера, пайшоў далей у пушчу на ўсход сонца, і перайшоў праз раку Нявежу, і праз раку Святую[20], і праз трэцюю раку — Шырвінту[21], і знайшоў возера, лукамі і markрознымі дрэвамі аздобленае. Палюбілася яму тое месца, і пасяліўся ён каля таго возера, і назваў яго сваім іменем — Спера.

Даўспрунк жа з герба Кітаўраса паплыў па рацэ Святой і знайшоў месца вельмі прыгожае і да гарадзішча падобнае, і спадабалася яно яму вельмі, і ён там пасяліўся, і пабудаваў сабе горад, і даў найменне таму гораду Вілкамір[22], а сам назваўся князем Дзявілтоўскім, і там ягоны род пачаў размнажацца.

Мы ж вернемся назад.

І панаваў Спера шмат гадоў, і быў вельмі ласкавы да сваіх падданых, ды потым памёр без плода. І ягоныя падданыя, любячы яго, паводле рымскага звычаю паставілі балвана[23] і ў памяць пра яго назвалі таго балвана Спера. І потым тыя людзі, што жылі каля таго балвана, пачалі яму ахвяры складаць і за бога яго мець. А потым, калі той балван сказіўся, яны тое возера і месца шанавалі і за бога мелі, а між сабою гаспадара не мелі і жылі без пана.

Але вернемся назад.

Неўзабаве памёр брат Сперы Борк, які жыў у Юрборку, не маючы дзяцей. А брат ягоны Кунас узяў і землі брата свайго Борка, і горад Юрборк і на тых землях пачаў панаваць.

## [ПРА ДВУХ СЫНОЎ КУНАСАВЫХ — КЕРНУСА І ГІМБУТА, А ТАКСАМА ПРА ПАХОДЖАННЕ НАЗВЫ ЛІТВА]

А той князь Кунас меў двух сыноў: аднаго — Кернуса, другога — Гімбута. І, пануючы ў Жамойцкай зямлі, пачаў Кунас павялічваць ды пашыраць свае ўладанні і выходзіць за раку Вяллю[24] ў зямлю Завельскую[25]. І, перайшоўшы раку Святую, знайшоў ён месца вельмі прыгожае, і спадабалася яму тое месца вельмі, і ён пасяліў там свайго сына Кернуса, і назвалі тое месца па імені Кернуса Кернавам[26].

А потым Кунас памёр, і пасля яго сын ягоны Кернус панаваў на ўсёй зямлі Завельскай да мяжы латыгольскае[27] і да Браслава-Завельскага і аж да ракі Дзвіны. А брат ягоны Гімбут сеў на Юрборку, і на Кунаве, і на ўсёй Жамойцкай зямлі.

А ў той час, калі Кунас панаваў на Завельскай старане, людзі ягоныя за Вяллёю аселі і гралі на трубах дубасных[28]. І празваў Кернус бераг той, дзе людзі множыліся, моваю сваёй валоскаю, на лаціне, — Літус, а трубы, на якіх яны гралі, — туба, і даў найменне тым людзям на лаціне, склаўшы назву берага са словам «туба», — Лістуబанія. Але простыя людзі не ўмелі называць на лаціне і пачалі называць проста Літвою[29]. І ад таго часу пачало называцца гаспадарства — Літоўскае і шырыцца ад Жамойці.

Потым вялікі князь Кернус і князь Гімбут, хочучы бацькаўшчыну сваю павялічыць, сабралі сілы свае літоўскія і жамойцкія, і пайшлі на Русь[30] пад Браслаў і пад Полацак, і багата шкоды ўчынілі, і землі іх спустошылі, і людзей мноства ў палон павялі.

А ў той час, калі былі яны на Русі, нейкія людзі, што зваліся латыголы і жылі на беразе марскім, пачулі, што князя Кернуса ў Літве няма, а князя вялікага Гімбута — у Жамойці, і, сабраўшыся, усе рушылі ў зямлю Жамойцкую і многа шкоды там учынілі. А потым князь Гімбут вярнуўся з Русі да Жамойці і шкоду ў зямлі сваёй убачыў. Тады ён пайшоў да латыголаў і адных выкараніў, высцінаў*, а другіх у палон вывеў у Жамойць, і землі іхнія спустошыў, і вярнуўся ў Жамойць.

Пасля выйсця яго з Латыгалі прыйшлі да таго берага немцы з-за мора, і той бераг, дзе латыгалы жылі, засялілі, і гаспадарамі сталі, і назвалі сябе Ліфлянты[31].

І доўгі час князь Кернус панаваў на Літве, а князь Гімбут на Жамойці і жылі між сабою ў згодзе.

* Высцінаць — забіць.

## [ПРА СЫНОЎ КЕРНУСА І ГІМБУТА, ЖЫВІНБУДА ДЫ МАНТВІЛА, І ЎНУКАЎ, ВІКІНТА ДЫ ЭРДЗІВІЛА, А ТАКСАМА ПРА НАВАЛУ БАТЫЕВУ]

Потым князь Кернус шмат гадоў жыў на Літве і сам у вялікай старасці памёр, а па сабе пакінуў на вялікім княжанні літоўскім сына свайго Жывінбуда. І князь Гімбут жыў на Жамойці таксама шмат гадоў і памёр, а сына свайго Мантвіла пакінуў на княстве Жамойцкім. І ў час панавання Мантвіла паўстаў цар Батый[32], і пайшоў на Рускую зямлю, і ўсю зямлю Рускую зваяваў, і адных князёў рускіх пасцінаў, а другіх у палон павёў, і сталіцу ўсяе зямлі Рускае, горад Кіеў, спустошыў ды спаліў. А вялікі князь кіеўскі Дзімітрый, баючыся вялікае сілы ды моцы Батыевай, уцёк з Кіева ў горад Чарнігаў і там даведаўся, што горад Кіеў спалены, а ўся зямля Руская спустошана. І пачуў ён, што мужыкі, якія завуцца дручанамі, жывуць без гаспадара, і, сабраўшы людзей, пайшоў к Друцку, і зямлю Друцкую захапіў, і горад Друцк[33] разбудаваў, і назваўся вялікім князем друцкім.

А ў той час даведаўся князь жамойцкі Мантвіл, што Руская старана апусцела і князі рускія разагнаны, і ён, даўшы войска сыну свайму Эрдзівілу, паслаў з ім паноў сваіх радных: аднаго з герба Калюмнаў — Групмія, другога з герба Урсаінаў — Эйкшыса, а трэцяга з герба Ружы — Граўжыса. І зайшлі яны за раку Вяллю, потым перайшлі раку Нёман і знайшлі за чатыры мілі ад Нёмана гару красную. І спадабалася яна ім, і паставілі яны на ёй горад, і назвалі яго Навагарадком. І ўчыніў князь вялікі Эрдзівіл тут сталіцу і назваўся вялікім князем навагарадскім.

І, пайшоўшы з Навагарадка, заснаваў Эрдзівіл горад Горадзень[34], потым пайшоў да Берасця і знайшоў Берасце[35], Дарагічын і Мельнік[36], Батыем спустошаныя і панішчаныя, і тыя гарады адбудаваў нанова, і пачаў у іх княжыць.

А потым памёр вялікі князь жамойцкі Мантвіл, і пасля яго сеў на вялікім княжанні жамойцкім сын ягоны Выкінт. А другі згаданы сын ягоны Эрдзівіл меў княжыць у Навагарадку і ўва ўсіх тых вышэйзгаданых гарадах. І падаваў ён панам сваім, якія з ім хадзілі, астравы ў пушчы[37]. Групмію даў востраў каля ракі Ашмяны, які цяпер называецца Ашмяна, і ўсё прылеглае да Ашмяны, што цяпер князі ды паны ў Ашмянскім павеце трымаюць. Эйкшысу даў востраў, які па ягоным імені названы Эй-

кшышкі[38], і ўсё прылеглае да Эйкшыскага павета. А Граўжысу даў востраў, які таксама імем ягоным названы, — Граўжышкі[39], і ўвесь павет, прылеглы да Граўжышак. І ад Грумпія нарадзіўся Гаштольт, а ад Эйкшыса — Давоін, а ад Граўжыса — Монвід. Але вернемся назад.

Панаваў вялікі князь Выкінт у Жамойцкай зямлі, а Эрдзівіл у Новагарадку і ў тых вышэйназваных гарадах. І затым памёр князь вялікі Выкінт, і пасля яго пачаў княжыць Жывінбуд, вялікі князь літоўскі, у абодвух княствах — Літве і Жамойці, а Эрдзівіл у Новагарадку і ва ўсіх вышэйназваных рускіх гарадах.

## [ПРА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ МІНГАЙЛУ І ЯГОНЫХ НАШЧАДКАЎ У ПОЛАЦКУ]

Пасля смерці бацькі свайго Эрдзівіла князь вялікі Мінгайла, сабраўшы войскі свае, пайшоў на горад Полацак і на мужоў-палачанаў, якія вечам справаваліся*, як Вялікі Ноўгарад і Пскоў. І прыйшлі яны спачатку к гораду іхняму, званаму Горадзень[40]. І палачане, апалчыўшыся палкамі сваімі, сустрэлі іх пад Гораднем і вялікі бой ды сечу між сабою ўчынілі. І дапамог Бог вялікаму князю Мінгайлу ў тым, што разбіў ён усіх палачанаў нагалаву і горад іхні Горадзень спаліў, і горад Полацак узяў, і стаў вялікім князем полацкім.

І будучы вялікім князем полацкім і новагарадскім, панаваў ён шмат гадоў і памёр, пакінуўшы па сабе двух сыноў, аднаго Скірмунта, а другога Гінвіла. І Скірмунт пачаў княжыць у Новагарадку, а Гінвіл у Полацку. І ўзяў Гінвіл замуж дачку ў вялікага князя цверскага Барыса, іменем Марыя, дзеля якой ахрысціўся ў рускую веру[41], і далі імя яму Юры. І той Юры панаваў нядоўга і памёр, а па сабе пакінуў сына свайго Барыса ў Полацку.

І той князь Барыс заснаваў горад у імя сваё на рацэ Бярэзіне і назваў яго Барысаў. І як русін[42] быў ён вельмі набожны і пабудаваў у Полацку царкву каменную святое Сафіі, другую царкву — жаночы манастыр — святога Спаса ён паставіў за паўмілі ад горада, уверх па рацэ Палаце, трэцюю — манастыр святых Барыса і Глеба — у Бельчыцы[43]. І валадарачы ў Полацку, быў ласкавы да падданых сваіх, і даў ім вольнасці, і

* Справавацца — кіравацца.

дазволіў веча мецъ, і ў звон званіць[44], а потым і самім кіраваць, як у Вялікім Ноўгарадзе і Пскове. А потым князь полацкі Барыс памёр, пакінуўшы па сабе ў Полацку сына свайго Рагвалода, празванага Васілём.

І той князь полацкі Васіль жыў доўга ў Полацку і памёр, а па сабе пакінуў сына Глеба і дачку Парасковію. І тая дачка паабяцала дзявоцтва сваё захаваць у цэласці да канца жыцця і пастрыглася ў чарніцы* ў манастыры святога Спаса над Палатою. Жыла яна там сем гадоў, Богу служачы і кнігі пішучы для царквы, а потым сабралася да Рыма. І колькі гадоў у Рыме жывучы, Богу служыла яна шчыра і асвяцілася, цяпер яе завуць святая Праксэдыс, а па-руску Парасковія. У імя гэтай святой у Рыме і касцёл збудавалі і там жа яе цела паклалі.

А брат яе, князь полацкі Глеб, памёр малады і быў пакладзены ў царкве святое Сафіі ў Полацку разам з бацькам ягоным у адной дамавіне. А палачане зноў пачалі вечам спраўвацца, як у Вялікім Ноўгарадзе і Пскове, і пана над сабою не мелі.

Але вернемся назад.

## [ПРА КНЯЗЯ СКІРМУНТА, ПРА ЦАРА ЗАВОЛЖСКАГА БАЛАКЛАЯ, ПРА МАЦІ КУКАВОЙТАВУ ПАЯТУ І ПРА САМОГА КУКАВОЙТА]

Скірмунт княжыў у Новагарадку. І князь Мсціслаў луцкі і пінскі пачаў барацьбу з князем Скірмунтам, хочучы выгнаць яго з бацькаўшчыны ягонае, з Берасця, Мельніка, Горадня і з Новагарадка. І Скірмунт паслаў сваіх паслоў да вялікага князя літоўскага Жывінбуда, просячы яго, каб дапамогу яму даў супраць русі. І вялікі князь літоўскі і жамойцкі Жывінбуд паслаў яму на дапамогу свайго старэйшага сына Кукавойта з усімі сіламі сваймі літоўскімі ды жамойцкімі. І пайшоў вялікі князь Скірмунт з Кукавойтам і з усімі сіламі супраць Мсціслава, князя луцкага і пінскага, і на тым баку ракі Ясельды разбіў нагалаву князь Скірмунт князя луцкага і пінскага і ўсю рацъ яго рускую, толькі сам князь Мсціслаў з малою дружынаю ледзьве ўцёк у горад Луцк. Князь жа вялікі Скірмунт узяў горад

* Чарніца — манашка, чарнец — манах.

Пінск і горад Тураў. І загаласіла Русь вялікім плачам, што так усе былі пабіты бязбожнаю Літвою.

І вялікі князь Скірмунт Кукавойта, сына вялікага князя літоўскага Жывінбуда, пачаставаўшы і адарыўшы вялікім мноствам золата і срэбра ды борздымі коньмі, адпусціў яго з пашанаю да бацькі ягонага вялікага князя літоўскага і жамойцкага. І калі Кукавойт прыехаў да бацькі свайго, той неўзабаве памёр, і Кукавойт сеў на вялікім княжанні літоўскім і жамойцкім.

Быў у той час цар заволжскі на імя Балаклай[45]. І прыслаў ён паслоў сваіх да вялікага князя Скірмунта, каб яму даніну даваў і баскакаў ягоных трымаў па тых гарадах, як з тых гарадоў даніна ішла і пры яго папярэдніках, князях рускіх. Але князь вялікі Скірмунт паддацца таму не хацеў, і загадаў насы ды губы паслам Балаклаевым паадрэзваць, і потым да Балаклая іх адпусціў. А той цар на лета, сабраўшыся з многімі сіламі і ордамі татарскімі, пайшоў на Рускую зямлю і многа зла ўчыніў у Рускай зямлі.

І князь вялікі Скірмунт, сабраўшы ўсе войскі свае, спаткаў яго на мяжы сваёй, у Койданаве, і разбіў таго цара, і ўсю яго моц татарскую пабіў, і самога цара забіў, і з перамогаю вялікаю пайшоў на Рускую зямлю, і ўзяў гарады Мазыр, Чарнігаў, Старадуб, Карачоў[46], і, звыцяжства* атрымаўшы, цэлым вярнуўся назад.

Меў князь вялікі Скірмунт трох сыноў: старэйшы Транята, другі Любарт, трэці Пісімонт. Калі князь вялікі Скірмунт памёр, Любарт сеў у Карачове і назваўся князем карачоўскім, Пісімонт сеў у Тураве, а Траната ў Новагарадку, і валадарылі яны ў тых гарадах шмат гадоў.

У тыя гады маці вялікага князя літоўскага і жамойцкага Кукавойта, Паята, памерла ў вялікай старасці. І князь вялікі Кукавойт, любячы маці сваю, учыніў балвана па яе вобразе, робячы ёй помнік. І паставіў ён таго балвана маткі сваёй Паяты над возерам Жослій. І гэты вобраз людзі шанавалі і за бога мелі. А потым той балван згніў, і на тым месцы ліпы выраслі, і людзі тыя ліпы шануюць і за бога маюць ажно й да сёння.

А потым князь вялікі літоўскі і жамойцкі Кукавойт, міласцівы да падданых сваіх, памёр, пакінуўшы па сабе на вялікім княжанні літоўскім і жамойцкім сына свайго на імя Уце-

* Звыцяжства — перамога.

нус. І той Уценус, мілуючы бацьку свайго, зрабіў у памяць пра вялікага князя Кукавойта балвана і паставіў яго на гары над ракою Святою недалёка ад Дзявілтова, і таго балвана шанавалі і за бога мелі. А потым той балван згніў, і там вырас гай, і людзі там маліліся і назвалі той гай іменем пана свайго Кукавойта.

## [ПРА ЦАРА ЗАВОЛЖСКАГА КУРДАСА, КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА ТРАНЯТУ І ЎНУКА ЯГОНАГА РЫНГОЛЬТА]

У той час, калі Транята панаваў у Новагарадку, цар заволжскі Курдас паўстаў са шматлікімі сіламі татарскімі на Рускія землі. І князь Транята сабраўся з братамі сваімі — з князем тураўскім Пісімонтам ды з князем карачоўскім Любартам — і з усімі сіламі, а да таго ж абмяняўся паслам з князямі рускімі — з князем друцкім Сямёнам Міхайлавічам, і з князем луцкім Давыдам Мсціслававічам, і з князем кіеўскім Святаславам, і, сабраўшыся ў адно, пайшлі супраць цара Курдаса ды ўсяе яго заволжскае раці. І сышліся яны за Мазыром на рацэ Акунёўцы, і стукнуліся палкамі, і ўчынілі бой вельмі вялікі ад самай раніцы ажно да вечара.

І дапамог Бог вялікаму князю Траняту і князям рускім: яны цара Курдаса і ўсё войска ягонае нагалаву разбілі, ледзьве сам цар з малою дружынаю ўцёк. Але ў тым баі забілі двух братоў Транятавых — князя тураўскага Пісімонта ды князя карачоўскага Любарта, а таксама Сямёна, сына друцкага князя Міхайлы, ды князя луцкага Андрэя, Давыдавага сына, ды шмат іншых баяраў пабілі.

Князь вялікі Транята, перамогу атрымаўшы і здабытак вялікі, золата, срэбра, камянёў, перлаў ды шатаў дарагіх набраўшы, пайшоў у сваю зямлю, і князі рускія таксама ў свае гарады вярнуліся.

І панаваў вялікі князь Транята нямала гадоў, потым памёр, пакінуўшы па сабе на вялікім княжанні новагародскім сына Альгімонта. І княжыў Альгімонт нямала, потым памёр і пакінуў па сабе на вялікім княжанні новагарадскім сына іменем Рынгольт.

І калі княжыў Рынгольт доўгі час у Новагарадку і ў многіх гарадах рускіх, князі рускія — найперш Святаслаў кіеўскі, ды

Леў уладзімірскі, ды Дзімітры друцкі — учынілі змову між сабою і пачалі барацьбу супраць вялікага князя Рынгольта, хочучы сагнаць яго з іхняе бацькаўшчыны — з гарадоў рускіх. І сабраўшы ўсе тры палкі свае, пайшлі яны супраць вялікага князя Рынгольта. І ўзялі тыя князі рускія на дапамогу сабе ад цара заволжскага колькі тысяч татараў.

Князь вялікі Рынгольт спаткаў іх на рацэ Нёмане каля Магільна[47] і ўчыніў з імі бой люты. І біліся яны вельмі зацята, пачаўшы ад паранку і аж да самага вечара. І дапамог Бог вялікаму князю Рынгольту: князёў рускіх, і ўсю сілу іхнюю, і арду татарскую нагалаву разбіў і сам, перамогу атрымаўшы, з вялікаю радасцю і здабыткам золата і срэбра ды са шматлікімі скарбамі вярнуўся да сябе. І жыў ён шмат гадоў у Новагарадку і памёр, а па сабе пакінуў на вялікім княжанні новагарадскім сына свайго Міндоўга.

## [ПРА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ МІНДОЎГА]

І пануючы ў Новагарадку і ў рускіх гарадах, вялікі князь Міндоўг пачаў збіваць племя сваё. У той жа год выгнаў Міндоўг сыноўца свайго Таўцівіла і Эрдзівіда, паслаўшы іх разам з Выкінтам, а з імі й незлічонае мноства літвы, на Русь ваяваць, пад Смаленск, кажучы: «Хто што возьме, няхай сабе пакіне. Вайною за вайну». І паслаў Міндоўг следам за імі вояў сваіх, каб забілі іх. Яны ж, даведаўшыся пра гэта, уцяклі да князёў Данілы і Васількі і прыехалі ва Уладзімір. Міндоўг жа паслаў сказаць: «Не майце да іх літасці». Не паслухаліся яго Даніла і Васілька, бо сястра Таўцівілава была замужам за Данілам.

Потым Даніла параіўся з братам сваім, і паслалі яны пасloў у Ляхі да князёў ляшскіх, кажучы: «Самы час хрысціянам на паганых ісці, бо ў іх паміж сабою нязгода». Ляхі абяцалі, ды не зрабілі таго. Даніла ж і Васілька паслалі Выкінта да яцвягаў[48], і ў Жамойць, і да немцаў у Рыгу. І Выкінт адарыў срэбрам і дарамі багатымі яцвягаў і паў-Жамойці. Немцы ж адказалі Данілу: «Як жа мы дзеля цябе з Выкінтам замірымся, калі ён братоў нашых пагубіў»; аднак немцы паабяцалі дапамогу Таўцівілу.

Даніла ж з Васількам рушылі да Новагарадка. Даніла, параіўшыся з братам Васількам, паслаў яго на Ваўкавыск, сына

свайго — на Слонім, а сам пайшоў да Здзітава, і, здабыўшы шмат гарадоў, яны вярнуліся дамоў. Потым прыслаў Выкінт ганцоў, мовячы, што немцы хочуць паўстаць на дапамогу Таўцівілу. І паслаў Даніла Эрдзівіда, а на дапамогу яму — русь ды полаўцаў[49], і вялікае ваяванне было між імі. Адтуль жа Таўцівіл падаўся з палонам Данілавым у Рыгу, і прынялі яго рыжане з вялікаю пашанаю і ахрысцілі яго.

Калі даведаўся Міндоўг, што хочуць дапамагаць яму Божыя дваране*, і біскуп, і ўсе вої рыжскія, і збаяўся ён, і паслаў таемна да Андрэя, магістра рыжскага, і адарыў яго дарамі незлічонымі, і тым яму дагадзіў. Бо паслаў яму багата золата і срэбра, ды срэбнае і залатое начынне, ды шмат прыгожых коней, і казаў: «Калі заб'еш або выганіш Таўцівіла, яшчэ больш атрымаеш». А магістр рыжскі адказаў яму: «Не будзеш збаўлены і не пераможаш ворагаў, калі не пашлеш да папы і не прымеш хросту. Але прыязнасць маю да цябе і хочу асляпіць вочы свае золатам, якое цяпер ад цябе атрымаў, таму табе і спрыяю». І Міндоўг паслаў да папы, прыняў хрост, але хрост яго фальшывы быў: ён заўсёды ахвяры складаў патаемна багам сваім — найперш Нонадаю, Тэлявелю, Дзіверыку, заечаму богу, і Медзіну. І як выедзе ён на поле, а перад ім пабяжыць заяц з поля ў гай, то ён у той лес не ўваходзіць, і людзям забараняў, каб туды хадзілі і каб нават дубца там не выламалі. І багам сваім служыў, і целы мёртвых спальваў, і паганства сваё яўна вызнаваў.

Таўцівіла ж спавядаў біскуп, і пробашч віржанскі расчуліўся, бачачы яго хворага. Таўцівіл быў выгнаны з Літоўскае зямлі, таму трапіў у іхнія рукі і хрост няволяю прыняў. Аднак усё гэта не зрабіла Літву хрысціянскаю. Андрэй быў пазбаўлены брацій свайго сану. А Таўцівіл прымчаў у Жамойць да свайго вуя** Выкінта, узяў яцвягаў і жамойтаў і дапамогу Данілаву, якую даў яму Даніла раней, і рушыў на Міндоўга. Міндоўг жа сабраўся быў ісці на бой, але вырашыў не біцца з імі, і ўвайшоў у горад Руту[50], і ўночы выслаў швагра свайго, і разагнаў і русінаў і яцвягаў. Раніцою ж выехала войска Міндоўгава на немцаў з самастрэламі***, і ехалі русіны ды полаўцы са стрэламі, і яцвягі з суліцамі, і ганяліся па полі, падобна як на забаве, і адтуль вярнуліся да сябе ў Жамойць.

---

* Рыцары.

** Вуй — дзядзька, матчын брат.

*** Самастрэл — арбалет.

## [ПРА ЗАБОЙСТВА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ МІНДОЎГА]

Па тым сойме мінула нямала часу, і ўвосень забіты быў вялікі князь літоўскі Міндоўг, самаўладца ўсяе зямлі Літоўскае. Раскажам пра яго забойства. Было гэта так.

Княжачы ў зямлі Літоўскай, пачаў ён збіваць братоў сваіх ды сыноўцаў, а некаторых выгнаў з зямлі, і пачаў княжыць ува ўсёй зямлі Літоўскай адзін, і пачаў ганарыцца вельмі, узнёсся славаю ды гордасцю вялікаю, не трываючы супраць сябе нікога.

Быў у яго сын Войшалк і дачка, якую ён аддаў за Шварна Данілавіча ў Холм[51]. Войшалк пачаў княжыць у Новагарадку і, будучы паганінам, пачаў праліваць кроў многіх людзей, забіваючы кожны дзень па тры ці па чатыры чалавекі; а які дзень не заб'е нікога, то смуткуе тады, калі ж заб'е каго — тады ён вясёлы.

Пасля гэтага ўвайшоў страх Божы ў сэрца ягонае, і ён, падумаўшы, вырашыў хрысціцца, і прыняў святы хрост у Новагарадку, і стаў хрысціянінам. Потым падаўся Войшалк у Галіч[52] да Данілы, да князя Васількі, бо хацеў пастрыгчыся ў манахі. Тады ж Войшалк ахрысціў Юр'я Львовіча. Потым выправіўся ён у Паланіну[53] да Грыгорыя ў манастыр і пастрыгся ў чарняцы. І быў Войшалк у манастыры тры гады, і адтуль пайшоў да Святое гары[54], і прыняў багаслаўленне ад Грыгорыя. Грыгоры ж быў чалавек святы, такіх, як ён, да яго не было і пасля яго не будзе. Войшалк жа не змог дайсці да Святое гары, бо мяцеж быў вялікі ў тых землях, і ён вярнуўся ў Новагарадок і ўчыніў сабе манастыр[55] на рацэ Нёмане між Літвою і Новагарадком і там жыў. Але бацька ягоны Міндоўг дакараў яго, што такое жыццё сабе выбраў. Ён жа бацькі свайго не любіў вельмі.

А ў той час памерла княгіня Міндоўгава, і пачаў ён смуткаваць па ёй. А яе сястра была за Доўмантам, нальшчанскім князем[56]. І паслаў Міндоўг у Нальшчаны па сваю свесць*, кажучы так: «Сястра твая памерла. Прыязджай яе аплакваць». І яна прыехала. Міндоўг жа захацеў узяць яе замуж і пачаў гаварыць ёй: «Сястра твая, паміраючы, загадала мне, каб я цябе замуж за сябе ўзяў. Казала, гэта каб іншая дзяцей не крыўдзіла». І ўзяў Міндоўг яе замуж. Доўмант жа, пачуўшы

* Свесць — жончына сястра.

пра тое, стаў вельмі смуцен і пачаў замысляць, як бы Міндоўга забіць, але не мог, бо сіла яго была малая, а Міндоўгава вялікая. І Доўмант шукаў сабе дапамогу, з кім забіць Міндоўга, і знайшоў Траняту, сястрычыча* Міндоўгавага. Транята ж быў тады ў Жамойці.

У год 6771 [1263] паслаў Міндоўг усю сваю сілу за Дняпро на князя бранскага Рамана. Разам з імі пайшоў на вайну і Доўмант, але, выбраўшы сабе зручны час, вярнуўся назад, кажучы так: «Варажба паказвае, што не трэба мне з вамі ісці». Борзда вярнуўшыся назад, нагнаў Міндоўга і тут жа яго забіў, а з ім і абодвух яго сыноў — Рукля ды Рапекія. Такі быў канец Міндоўга.

Пасля забойства Міндоўга Войшалк спалохаўся і ўцёк у Пінск і там застаўся жыць. А на ўсёй зямлі Літоўскай і ў Жамойці пачаў княжыць Транята.

І паслаў ён па брата свайго Таўцівіла ў Полацк, кажучы так: «Ты, браце, прыедзь сам, раздзелім між сабою зямлю і набытак Міндоўгаў». Той прыехаў да яго і думаць пачаў, як забіць Траняту, а Транята сабе мысліў, як забіць Таўцівіла. І тады паведаміў Траняту пра задуму Таўцівілаву баярын ягоны палачанін Пракоп. І Транята апярэдзіў Таўцівіла і забіў яго і стаў княжыць адзін. Пасля гэтага пачаў думаць Міндоўгаў канюшы з чатырма парабкамі, як бы ім забіць Траняту. І калі ён ішоў у лазню мыцца, падпільнавалі яго і забілі. Такі быў канец Транятаў.

## [ПРА КНЯЗЯ ВОЙШАЛКА І ЯГО СМЕРЦЬ]

Пачуўшы пра тое, Войшалк пайшоў з пінянамі да Навагарадка, а адтуль, узяўшы з сабою наваградцаў, падаўся ў Літву княжыць. Літва ж уся з радасцю вялікаю прыняла свайго гасподзіча**. Войшалк пачаў княжыць ува ўсёй зямлі Літоўскай і ворагаў сваіх забіваць, знішчыў іх вялікае мноства, а астатнія разбегліся хто куды. І забіў ён ваяводу Міндоўгавага Астафія акаяннага.

Княжачы ў Навагарадку і ў рускіх гарадах, Войшалк, змовіўшыся з князямі рускімі, доўга ваяваў супраць князя ляш-

---

* Сястрычыч — пляменнік, сын сястры.

** Гасподзіч — сын гаспадара.

скага Баляслава, і ў многіх сечах зысківаў*, і ў Ляхах шмат кровапраліцця чыніў, і зямлю Ляшскую спустошыў, і гарады ляшскія, Ільзу ды іншыя, шматкроць паліў. А потым, надалей пануючы, ахрысціўся ў рускую веру, і прыняў на сябе чын чарнецкі, і пастрыгся ў мніхі, і пайшоў да Угроўска[57] ў манастыр, у царкву святога Даніла. У манастыры ж быў ігуменам нейкі Грыгоры Палонін, што быў вельмі набожны і нямала пражыў у манастыры.

Неўзабаве прыслаў князь Леў Уладзімірскі да Васількі, брата свайго, хочучы з ім пабачыцца і просячы яго, каб паслаў да Войшалка і запрасіў яго прыехаць да іх для нейкае рады. І князь галіцкі Васілька прасіў Войшалка, каб ён да іх з'явіўся і з імі пабачыўся. Але Войшалк не хацеў да іх ехаць, бо не меў прыязнасці з князем Львом; таму не думаў туды ехаць, а ўсё ж паехаў на запрашэнне Васількі ды Шварна ў горад Уладзімір[58].

Прыехаў ён у святую нядзелю[59] і спыніўся ў манастыры святога Міхаіла Вялікага, і па сустрэчы Маркольт Нямчын запрасіў усіх князёў на абед. І яны былі ў яго на абедзе і весяліліся надта. А потым Васілька напіўся і паехаў да свайго двара, а Войшалк паехаў у манастыр святога Міхаіла, дзе гасподаю стаяў**. Пасля таго да Войшалка ў манастыр прыехаў Леў і сказаў Войшалку: «Вып'ем яшчэ, куме». Войшалк жа выйшаў да яго. І Леў па д'яблавым навучэнні ўспомніў, што бацька Войшалка і сам Войшалк крыўды чынілі землям рускім і яму самому, і тут, у манастыры святога Міхаіла, забіў яго, і ў тым жа манастыры Васілька пахаваў яго. Так скончыўся род князёў рымскага князя Палемона.

## [ПРА КНЯЗЯ ШВІНТАРОГА І СЫНА ЯГОНАГА СКІРМУНТА]

І паны, шкадуючы гаспадара свайго прыроджанага, узялі сабе гаспадаром сына вялікага князя літоўскага і жамойцкага Уценуса з гербу Кітаўрасавага — Швінтарога. Але нядоўга княжыў Швінтарог у Новагарадку і ў рускіх гарадах, калі бацька ягоны памёр. І Швінтарог пачаў княжыць на вялікім княжанні літоўскім, жамойцкім, новагарадскім і рускім. І нарадзіў

* Зысківаць — тут: перамагаць.

** Стаць гасподаю — знайсці часовы прытулак, атабарыцца.

Швінтарог сына Скірмунта. І выбраў сабе вялікі князь Швінтарог месца ў пушчы вельмі прыгожае каля ракі Вяллі, дзе ў яе рака Вільня ўпадае, і папрасіў сына свайго Скірмунта, каб на тым месцы, дзе яго мёртвага спаляць, было жэглішча ўчынена. І загадаў ён сыну свайму, каб пасля смерці ягонае на тым месцы, дзе яго спаляць, усіх князёў літоўскіх і знакамітых баяраў спальвалі б і каб нідзе больш целы мёртвых не палілі, толькі там, бо да таго целы мёртвых спальвалі там, дзе хто памрэ. І так загадаўшы сыну свайму Скірмунту, князь вялікі Швінтарог памёр.

Вялікі князь Скірмунт застаўся пасля бацькі на Вялікім княстве Літоўскім, Жамойцкім і Рускім. І па загадзе бацькі свайго на тым месцы, дзе рака Вільня ў Вяллю ўпадае, ён учыніў жэглішча і там цела бацькі свайго спаліў, і каня ягонага, на якім той ездзіў, і шаты ягоныя, што насіў, і мілосніка* ягонага, да якога той меў ласку, і сокала, і харта ягонага спаліў.

І ад тых часоў целы вялікіх князёў літоўскіх на тым месцы спальвалі, і таму тое месца празванае Швінтарог[60], паводле імя таго вялікага князя. І калі цела якога князя літоўскага або пана спальвалі, то каля яго клалі рысія або мядзведжыя кіпці, бо верылі, што судны дзень будзе і што калі Бог прыйдзе, ды сядзе на гары высокай, ды судзіць будзе жывых і мёртвых, дык на тую гару цяжка будзе ўзысці без тых кіпцяў. І дзеля таго кіпці каля іх клалі, каб з іх дапамогаю на тую гару лезці ды на суд да Бога ісці. Хоць і паганцы былі, але верылі ў судны дзень, і ў з мёртвых устанне, і ў адзінага Бога, які судзіць жывых і мёртвых.

Потым панаваў вялікі князь Скірмунт і пакінуў двух сыноў — Трабуса і Гілігіна. І пачаў княжыць Трабус на зямлі Жамойцкай, а Гілігін — на зямлі Літоўскай і Рускай. І княжыў Гілігін шмат гадоў і памёр.

## [ПРА ПЯЦЁХ СЫНОЎ РАМАНАВЫХ, А ТАКСАМА ПРА ГЕРБ ПАГОНЯ]

Пасля Гілігіна пачаў княжыць сын ягоны Раман. Але неўзабаве памёр вялікі князь жамойцкі Трабус, дзядзька князя Рамана, і пачаў валадарыць князь вялікі Раман на зямлі

* Мілоснік — фаварыт.

Літоўскай, Жамойцкай і Рускай. І Раман урадзіў пяцёх сыноў: старэйшы Нарымонт, другі Доўмант, трэці Гольша, чацвёрты Гедрус, пяты Тройдзен.

Калі Раман памёр, пачаў княжыць сын ягоны старэйшы Нарымонт, і ўчыніў ён горад Кернаў, і перанёс да яго сталец з Новагарадка, і пачаў панаваць, і назваўся вялікім князем новагарадскім, літоўскім і жамойцкім.

Брат жа ягоны Доўмант сеў на бацькаўшчыне сваёй, на Уцене[61], і назваўся князем уценскім. А трэці брат Гедрус зарубіў горад, і назваў яго іменем сваім — Гедройты, і празваўся князем гедройцкім. А чацвёрты брат Гольша перайшоў раку Вяллю і сярод гор знайшоў гару прыгожую над ракою Вільняю, і за мілю ад месца, дзе Вільня ўпадае ў Вяллю, насупраць Ракапцішак[62], збудаваў горад, і назваў яго іменем сваім — Гальшаны. Нядоўга прабыў ён там і, едучы адтуль на ловы ў пушчу за дзесяць міляў ад свайго горада, знайшоў гару прыгожую, раўнінамі вялікімі аблеглую ды багаццем поўную. І спадабалася яму там, і ён там пасяліўся, і на той гары над ракою Караблём[63] учыніў горад, і перабраўся туды, і там пачаў княжыць, і назваўся князем гальшанскім. А пяты брат Тройдзен жыў пры браце сваім вялікім князю Нарымонце.

І даведаўся вялікі князь Нарымонт, што князі яцвяжскія памерлі, а людзі іхнія без гаспадара жывуць. І князь Нарымонт пайшоў на іх, і яны без супраціву паддаліся яму і пакланіліся, а ён, стаўшы іхнім гаспадаром, аддаў іх брату свайму Тройдзену за даніну. І князь вялікі Тройдзен знайшоў гару прыгожую над ракою Бобраю[64], і спадабалася яму там вельмі, і паставіў ён горад, і назваў яго Райгарад[65], і празваўся вялікім князем яцвяжскім і дайноўскім[66]. І калі ён быў на тым княжанні, то вялікія войны вёў з ляхамі, з руссю і з мазаўшанамі, і заўжды перамагаў, і над землямі іхнімі вялікія здзекі чыніў, пра што вышэй апісваецца ў рускай хроніцы, і горшы быў для тых земляў, больш люты, чым Антыёх[67] сірыйскі, Ірад ерусалімскі ды Нерон рымскі, такі ён быў люты і ваяўнічы.

Князь жа вялікі Нарымонт узяў за жонку дачку ліфляндца, званага Флядра, і брат ягоны Доўмант узяў у таго ж Флядры другую дачку. І, пражыўшы нядоўга, жонка князя Доўманта ўценскага занемагла і памерла. І князь вялікі Нарымонт, пачуўшы пра смерць нявесткі сваёй, засмуткаваў вельмі. Будучы і сам нездаровы, паслаў жонку сваю да брата свайго Доўманта, спачуваючы яму ў жалобе. І калі прыехала Нарымонтава жонка да Уцены, спачуваючы ў жалобе дзеверу свай-

му князю Доўманту, той, пабачыўшы нявестку сваю, узрадаваўся вельмі, і сказаў так: «Мне трэба было б жонку шукаць, а то Бог даў мне жонку», і ўзяў яе замуж за сябе. І праз тое вынікла вялікая варожасць і нязгода паміж братамі, вялікім князем Нарымонтам і князем Доўмантам. Князь вялікі Нарымонт, бачачы крыўду сабе вялікую ў тым, што брат жонку ягоную за сябе гвалтам узяў, паведаміў пра тое братам сваім — князю Гедрусу, князю Гольшу і князю Тройдзену — і цесцю свайму ліфляндцу Флядру. І, сабраўшы братоў, пайшоў з усімі людзьмі сваімі на брата свайго князя Доўманта, і аблажыў яго ў горадзе ягоным Уцене.

І зразумеў князь Доўмант, што не зможа абараніцца, і папрасіў мяшчанаў сваіх, каб Нарымонту горада не здавалі, пакуль ён не пройдзе праз войска Нарымонтава. І спусціўся ён з горада, і, прайшоўшы праз войска Нарымонтава, уцёк, і прыйшоў к гораду Пскову. Мужы пскоўскія, бачачы яго, мужа дастойнага і разумнага, узялі яго сабе за гаспадара і назвалі вялікім князем пскоўскім. А Нарымонт, узяўшы горад Уцену і жонку сваю, княжыў у Кернаве, і ў Новагародку, і ў Жамойці, а Доўмант — у Пскове, і абодва княжылі нямала.

Тройдзен жа ўзяў дачку ў князя мазавецкага і меў з ёю сына, званага Рымантам. Калі сын вырас, Тройдзен аддаў яго вучыцца мовы рускае да Льва Мсціслававіча, які ўчыніў горад у імя сваё — Львоў. І, жывучы ў князя Льва, Рымант навучыўся мовы рускае, і спадабалася яму вера хрысціянская, і, ахрысціўшыся, ён зразумеў, што гэты свет нічога не значыць, і, пакінуўшы свет, пастрыгся ў чарняцы, і далі яму імя Лаўраш. І, будучы ў чарняцах, прыйшоў ён да дзядзькі свайго Нарымонта і папрасіў яго, каб той даў яму ў Новагарадскім павеце месца ў пушчы каля ракі Нёмана, дзе б ён мог збудаваць сабе манастыр. І спачатку паставіў ён царкву святога Уваскрашэння; так паўстаў Лаўрашаў манастыр. І калі быў ён у манастыры, дзядзька ягоны, вялікі князь Нарымонт, памёр. І паны літоўскія і жамойцкія ўзялі вялікім князем Тройдзена.

І калі панаваў князь вялікі Тройдзен, князь вялікі Доўмант, прыйшоўшы з Пскова, узяў горад Полацак і меўся княжыць у Пскове і ў Полацку. І вельмі зайздросна было яму, што брат ягоны меншы Тройдзен атрымаў гаспадарства ў Літве. І пачаў ён думаць, як бы Тройдзена са свету звесці. А ў тыя часы, калі валадарыў Тройдзен, памерлі абодва яго браты, князі Гольшыс ды Гедрус. І праз тую зайздрасць князь вялікі Доўмант паслаў шасцёх мужыкоў на брата свайго Тройдзена, каб

забіць яго. I калі Тройдзен бяспечна ішоў з лазні, тыя мужыкі здрадна забілі яго.

Доўмант жа, сабраўшы сваё пскоўскае і полацкае войска, пайшоў у Літву, хочучы быць князем літоўскім і жамойцкім. Але чарнец, званы Лаўрашам, а па-літоўску Рымантам, а па-руску Васілём, шкадуючы бацьку свайго, вялікага князя Тройдзена, пакінуў чын манаскі і прыйшоў да паноў, потым, сабраўшы ўсе сілы літоўскія, пайшоў супраць Доўманта, хочучы адпомсціць за кроў бацькі свайго.

I, апалчыўшыся, спаткаліся яны з Доўмантам над возерам. I калі сышліся палкі іхнія, быў між імі бой ды сеча немалая ад раніцы аж да вечара. I дапамог Бог Лаўрашу, і ўсё войска дзядзькі свайго Доўманта ён разбіў, і самога яго забіў, і горад Полацак узяў, і, вярнуўшыся да пасада бацькі свайго, у Кернаў, сказаў панам сваім: «Калі Бог даў адпомсціць за кроў бацькі, то я свету выракаюся, надзяю на сябе чорную рызу — гаспадарства не хачу. Возьмеце сабе гаспадаром, каго воля ваша будзе. Але раю вам, хоць і ёсць у мяне браты, Ольшын сын Міндоўгаў ды Гедрусаў сын Гінвіл, але яны не здатныя гаспадарствам кіраваць, бо яшчэ малыя. Дзядзька ж мой Нарымонт, калі сеў на Вялікім княстве Літоўскім, герб свой Кітаўраса пакінуў братам сваім, а сабе зрабіў герб — чалавек на кані з мечам, выяўляючы на тым гербе пана дарослага, які мае бараніць мечам бацькаўшчыну сваю. А таму раю вам: абярыце сабе гаспадара дарослага, які бараніў бы гэтае гаспадарства — Вялікае княства Літоўскае. I як мне здаецца, да гэтага здатны быў бы Віцень[68], які быў маршалкам у бацькі майго».

Паны, не хочучы пераступіць рады і волі гаспадара свайго прыроджанага, сына вялікага князя Тройдзена, так і ўчынілі. Бачачы мужа мудрага і годнага Віценя, які паходзіў з роду ды з пакалення Калюмнаў, з маёнтка Айрагола[69] ў Жамойці, узялі яго сабе вялікім князем літоўскім і жамойцкім. Бо князь вялікі Тройдзен, будучы ў Жамойці, ехаў праз свой маёнтак Айраголу і бачыў гэтага Віценя яшчэ малым дзіцем. Пабачыў ён таго хлопца абліччам вельмі харошага і росту адпаведнага і ўзяў яго да сябе. I быў той Віцень у Тройдзена каморнікам, ды, будучы ў каморы, кожную рэч панскую цудоўна захоўваў і ўмела спраўляў. I Тройдзен, бачачы яго цноту і спраўнае захаванне, зрабіў яго ў сябе маршалкам. I быў Віцень у яго мілоснікам і ўсякіх справаў гаспадарскіх годным спраўцам быў. А затым пасля смерці князевай узялі яго на вялікае княжанне. На тым і скончыўся род Кітаўрасаў і пачалося вялікае княжанне Віценева.

## *РОД ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ З ПАКАЛЕННЯ ДЫ З РОДУ [КАЛЮМНАЎ]*

І пачалося вялікае княжанне Віценева. Князь вялікі Віцень панаваў шмат гадоў у Вялікім княстве Літоўскім, Жамойцкім і Рускім, і нарадзіўся ад яго сын іменем Гедымін[70]. І калі вялікі князь Віцень памёр ад удару перуна, пасля яго ў Вялікім княстве Літоўскім, Жамойцкім і Рускім сеў вышэйназваны сын яго-ны Гедымін.

## [ПАЧАТАК КНЯЖАННЯ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ГЕДЫМІНА Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ, ЖАМОЙЦКІМ І РУСКІМ]

Калі Гедымін стаў вялікім князем пасля смерці свайго бацькі Віценя ў Вялікім княстве Літоўскім, Жамойцкім і Рускім, сядзеў на пасадзе бацькавым у Кернаве і панаваў нядоўга пасля тае смерці, паўсталі супраць яго немцы, прусы[71] і ліфляндцы і прыйшлі з вялікім мноствам людзей сваіх у зямлю Жамойцкую, хочучы яе сабе забраць. Не паспеў Гедымін хутка сабраць войска сваё супраць іх і паслаў найстарэйшага гетмана свайго з малою сілаю на горад Кунасаў, каб умацаваць яго ад немцаў. А тым гетманам быў Гаштольт з роду Калюмнаў. Але немцы таго гетмана перагналі, і горад Кунасаў аблажылі, і з парокаў вялікіх увесь збілі, і гетмана Гедымінавага з таго горада звялі, і ў палон павялі, і Жамойцкую зямлю захапілі. Вялікі князь Гедымін выкупіў у немцаў свайго гетмана за трыццаць тысяч залатых.

І на другі год, сабраўшы ўсе свае сілы літоўскія і рускія, пайшоў Гедымін на немцаў. А немцы, ліфлянты і прусы, жамойць з сабою ўзяўшы, спаткалі вялікага князя Гедыміна на рацэ Атмене[72], на гэтым баку, за дзве мілі ад Жэймаў. І дапамог Бог вялікаму князю Гедыміну: усіх немцаў ён нагалаву разбіў, а Жамойць ад немцаў адступілася і прыйшла да гаспадара свайго прыроджанага Гедыміна, бо ён немцаў усіх нагалаву разбіў і пабіў усё войска нямецкае. І тут жа, перамогу над немцамі атрымаўшы, Жамойць сабе вярнуў, і пайшоў тады ж са сваймі сіламі і з жамойцю ў зямлю Нямецкую, і ўзяў гарады Тыльжу[73], Рагнету[74] ды шмат іншых гарадоў, і зямлю ўсю спу-

стошыў, і палонных вывеў, і, невымоўнае кровапраліцце ў Немцах учыніўшы і перамогу атрымаўшы, з вялікаю радасцю да сябе адышоў.

## [ПРА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ГЕДЫМІНА І ПРА ЯГО ВАЙНУ З РУСКІМІ КНЯЗЯМІ]

І, вызваліўшы зямлю Жамойцкую ад немцаў, пайшоў Гедымін на князёў рускіх. Прыйшоў ён спачатку да горада Уладзіміра. І князь уладзімірскі Уладзімір, сабраўшы людзей сваіх, учыніў бой люты з князем вялікім Гедымінам. І дапамог Бог вялікаму князю Гедыміну: ён самога князя уладзімірскага Уладзіміра забіў, і раць ягоную ўсю пабіў, і горад Уладзімір узяў. А потым пайшоў Гедымін на князя Льва луцкага.

Князь жа Леў, пачуўшы, што літва князя Уладзіміра забіла і горад Уладзімір узяла, не асмеліўся супраць Гедыміна стаць і пабег да князя Рамана, да зяця свайго, у Бранск. А князь ды баяры валынскія білі чалом вялікаму князю Гедыміну, каб у іх панаваў і гаспадаром быў, а зямлі іхняе не пустошыў. І князь вялікі Гедымін, умацаваўшы іх прысягаю і пакінуўшы ў іх намеснікаў сваіх, пачаў там княжыць, а потым на зіму пайшоў да Берасця. Усе войскі свае ён распусціў, а сам у Берасці зімаваў.

Хутка Вялікдзень мінуў, і ён, сабраўшы ўсе свае сілы літоўскія, жамойцкія і рускія, на другім тыдні па Вялікадні пайшоў на князя кіеўскага Станіслава і, прыйшоўшы, узяў ён гарады Оўруч[75] ды Житомір. А князь Станіслаў абмяняўся пасламі з князем пераяслаўскім[76] Алегам, і з князем бранскім Раманам, і з князем валынскім Львом, якога князь вялікі Гедымін выгнаў з Луцка. І сабраліся ўсе з вялікім мноствам людзей сваіх рускіх, і спаткаліся з князем вялікім Гедымінам на рацэ Рпені[77] пад Белгарадам[78], за шэсць міляў ад Кіева, і ўчынілі бой ды сечу вялікую. І дапамог Бог вялікаму князю Гедыміну: разбіў ён усіх князёў рускіх нагалаву, і войска іхняе ўсё пабітае на полі засталося, і князёў Льва луцкага ды Алега пераяслаўскага забіў, а Станіслаў кіеўскі з малою дружынаю ды Раман бранскі ўцяклі ў Бранск. Князь жа вялікі Гедымін аступіў горад Белгарад. І, бачачы, што гаспадар іхні з войска ўцёк, а самое войска ўсё нагалаву разбіта, і, не хочу-

чы ісці супраць такому войску вялікаму, як літоўскае, здалі горад князю Гедыміну і прысягнулі служыць Вялікаму княству Літоўскаму.

Затым князь Гедымін пайшоў з усімі сіламі сваімі да Кіева, аблажыў горад Кіеў, і кіяне пачалі ад яго бараніцца. І стаяў князь вялікі Гедымін пад Кіевам месяц. І вырашылі мяшчане кіеўскія, што не могуць больш трываць моцы вялікага князя без гаспадара свайго, вялікага князя Станіслава кіеўскага. Але пачулі яны пра тое, што гаспадар іхні, князь Станіслаў, уцёк ад Гедыміна і войска ягонае пабіта, і ніякіх заставаў не пакінуў, і, змовіўшыся аднадушна, здаліся вялікаму князю Гедыміну. І, выходзячы з горада з крыжамі, ігумены, папы і дыяканы вароты гарадскія адчынілі, і сустрэлі вялікага князя Гедыміна з пашанаю, і ўдарылі яму чалом, і падаліся служыць яму, і прысягу сваю на тым далі вялікаму князю, і білі чалом, каб ад іх удзелаў іхніх не адымаў. І князь Гедымін на тым іх пакінуў, а сам з пашанаю ў горад Кіеў уехаў.

Пачулі пра тое прыгарадкі кіеўскія: Вышгарад[79], Чаркасы, Канеў[80], Пуціўль[81], Слепаўрод[82], што кіяне здаліся разам з горадам, а пра гаспадара свайго чулі, што ўцёк ён у Бранск, а сілу ягоную ўсю пабілі. І прыйшлі яны да вялікага князя Гедыміна і з тымі вышэйназванымі прыгарадкамі кіеўскімі падаліся служыць яму, і прысягу вялікаму князю Гедыміну на тым далі. І пераяслаўляне чулі, што Кіеў з прыгарадкамі здаліся князю Гедыміну, а гаспадар іхні, князь пераяслаўскі Алег, забіты вялікім князем. І яны, прыехаўшы да Гедыміна, падаліся разам з горадам служыць яму і прысягу на тым далі. Князь жа Гедымін, узяўшы Кіеў, Пераяслаўль і ўсе вышэйназваныя прыгарадкі, пасадзіў на іх Міндоўгавага сына, князя Альгімонта, вялікага князя Гальшанскага, а сам з вялікаю радасцю ў Літву вярнуўся.

І ў той час, калі князь Станіслаў кіеўскі быў у Бранску, выгнаны вялікім князем Гедымінам, прыслаў да яго князь Іван разанскі паслоў. Будучы ўжо старым, ён прасіў Станіслава, каб той да яго прыехаў і дачку ягоную па імені Вольга ў яго ўзяў, бо сына не меў, толькі тую дачку, і каб пасля смерці ягонае Станіслаў стаў вялікім князем разанскім. Князь Станіслаў да яго прыехаў і дачку ягоную замуж узяў, а пасля смерці Іванавае стаў вялікім князем разанскім.

Князь жа вялікі Гедымін, прагнаўшы князёў рускіх і ад немцаў краіну вызваліўшы, панаваў шмат гадоў у спакоі.

## [ПРА ТОЕ, ЯК ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ГЕДЫМІН ТРОКІ І ВІЛЬНЮ ЗАСНАВАЎ]

Неяк паехаў князь вялікі Гедымін са стальца* свайго, з Кернава, у ловы за раку Вяллю і за пяць міляў ад горада знайшоў у пушчы гару прыгожую, дубровамі ды раўнінамі аблеглую, і спадабалася там яму вельмі, і ён там пасяліўся, і заснаваў горад, і назваў яго Трокі (гэта там, дзе зараз Старыя Трокі), і з Кернава перанёс сталец свой у Трокі.

Па малым часе пасля таго паехаў князь вялікі Гедымін у ловы і за чатыры мілі ад Трокаў знайшоў гару прыгожую над ракою Вільняю, і на той гары ўбачыў звера вялікага — тура, і забіў яго на той гары, якую і цяпер завуць Турава гара. І вельмі ўжо позна было да Трокаў вяртацца, таму спыніўся ён на луцэ Швінтарога, дзе першых вялікіх князёў спальвалі, і заначаваў. І калі ён там спаў, то пабачыў сон, што на гары, якую называлі Крывая, а цяпер завуць Лысая, стаіць вялікі жалезны воўк[83], а ў яго ўнутры раве так, нібы сто ваўкоў вые. Прачнуўся Гедымін ды кажа варажбіту свайму і найвышэйшаму папу паганскаму Ляздзейку, які быў знойдзены ў арліным гняздзе: «Бачыў, — кажа, — я сон дзіўны», і распавёў усё, што ў сне бачыў. І той Ляздзейка-варажбіт кажа гаспадару: «Княжа вялікі, воўк жалезны азначае, што горад сталечны тут будзе, а тое, што ў яго ўнутры раве, гэта значыць, што слава яго будзе слынуць на ўсім свеце». І князь вялікі Гедымін назаўтра ж, не ад'язджаючы, паслаў па людзей і залажыў два гарады — адзін на Швінтарозе, Ніжні, а другі на Крывой гары, якую цяпер завуць Лысаю, і даў імя таму гораду — Вільня. І, збудаваўшы гарады, перанёс Гедымін пасад свой з Трокаў у Вільню і зрабіў першым ваяводам у Вільні гетмана свайго Гаштольта з герба Калюмнаў, з роду Грумпія, які быў выкуплены ў немцаў пры аблозе Кунасава.

## [ПРА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ГЕДЫМІНА І СЯМЁХ ЯГОНЫХ СЫНОЎ]

І княжыў князь вялікі Гедымін шмат гадоў у княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, і быў справядлівы, і шмат ваяваў, але заўжды перамагаў, і панаваў фартунліва аж да са-

* Сталец — сталіца.

мае глыбокае старасці. Спладзіў ён сямёра сыноў і восьмую дачку, іменем Ганна, якую аддаў да ляхаў у малжэнскі стан* Казіміру, сыну Уладзіслава Лакеткі[84], у год ад Божага нараджэння 1323[85].

І калі быў вялікі князь Гедымін у глыбокай старасці, яшчэ пры сваім жыцці раздзяліў усё паміж сынамі сваімі. Пяцёх сыноў сваіх пасадзіў на ўдзелах, гэта значыць: старэйшага сына Монтвіда ў Карачове ды Слоніме, Нарымонта ў Пінску, Альгерда ў Крэве, а князь віцебскі сыноў не меў, толькі дачку, і ён аддаў яе за Альгерда і прыняў яго ў зямлю Віцебскую; Карыяту даў Навагарадок, Любарту — Уладзімір і Луцк ды зямлю Валынскую. А яшчэ двух сыноў сваіх пасадзіў Гедымін на вялікіх княствах: Яўнута — на пасадзе сваім, у Вільні і на Вялікім княстве Літоўскім, а Кейстута — у Троках і на ўсёй Жамойцкай зямлі; і, раздзяліўшы ўсё паміж імі, сам пачэсна памёр.

Пануючы ў Троках і ў Жамойці, Кейстут пачуў пра дзеўку з Палонкі[86] іменем Біруга, якая багам сваім, паводле звычаю паганскага, паабяцала дзявоцтва захоўваць, і саму яе людзі лічылі за багіню. І князь Кейстут сам прыехаў да яе, і спадабалася вялікаму князю дзеўка, бо была яна вельмі прыгожая і разумная, і прасіў ён яе, каб стала яму жонкаю. Але яна не хацела згадзіцца і адказала яму: «Я паабяцала багам сваім дзявоцтва захоўваць да канца жыцця свайго». Але князь Кейстут узяў яе адтуль сілаю і прывёз з вялікаю пашанаю да пасада свайго, у Трокі. Запрасіўшы братоў сваіх, ён справіў з імі вялікае вяселле і ўзяў тую панну Біруту сабе за жонку.

Калі князь Кейстут паехаў за мілю ад Трокаў, спадабалася яму месца паміж азёрамі вельмі прыдатнае, і ён там пасяліўся, і горад збудаваў, і даў імя яму Новыя Трокі, і перанёс сталіцу сваю са Старых Трокаў у Новыя. А сын ягоны Вітаўт нарадзіўся ў Старых Троках, і на тым месцы, дзе ён нарадзіўся, пасля смерці бацькі сам Вітаўт касцёл Звеставання Маткі Божае заклаў, і мніхі закону святога Аўгустына, таго ж закону, што ў Кракаве маюць кляштар святога Аўгустына на Тынцы, там жа, у Старых Троках, паставілі кляштар.

Князь Яўнут панаваў у Вільні і на вялікім княжанні літоўскім. Але князю вялікаму Альгерду, іх старэйшаму брату, і князю вялікаму Кейстуту не спадабалася, што Яўнут княжыць у Вільні і ў княстве Літоўскім, бо княгіня Еўна памерла.

---

* Малжэнскі стан — замужжа.

І, не хочучы таго, каб ён на тым месцы галоўным сядзеў, змыслілі між сабою князі вялікія Альгерд і Кейстут брата свайго, князя вялікага Яўнута, з Вільні і з Вялікага княства выгнаць і аднаму з іх на гаспадарстве сесці.

І змовіліся між сабою ў які дзень, прагнаўшы брата, вялікага князя Яўнута, Вільню-горад ад яго адбяруць. Але князь вялікі Альгерд з Віцебска да Вільні не паспеў к таму часу, а князь вялікі Кейстут, хутка прымчаўся да Вільні, горад заняў. Князь жа вялікі Яўнут, пачуўшы пра тое, уцёк у Тур'і горы і там уночы азяб, і яго ўзялі ды прывезлі да брата ягонага, князя вялікага Кейстута. А той, чакаючы брата старэйшага, вялікага князя Альгерда, пасадзіў Яўнута пад варту, а насустрач Альгерду паслаў ганца распавесці, што ён Вільню заняў, а брата, князя Яўнута, паланіў. Сустрэў ганец Альгерда ў Крэве, і вялікі князь Альгерд паспяшаўся і хутка прыехаў да брата свайго Кейстута. І князь вялікі Кейстут сказаў брату свайму Альгерду: «Ты варты быць вялікім князем у Вільні, ты наш старэйшы брат, а я з табою ў згодзе жыву».

І пасадзіў Кейстут князя Альгерда на вялікім княжанні ў Вільні, а Яўнуту далі Заслаўе. І вырашылі яны між сабою, што ўсе браты маюць слухацца вялікага князя Альгерда, а воласці ды селішчы між сабою раздзялілі, а яшчэ ўмовіліся: што сабе прыдбаюць, гарады ці воласці, тое будуць дзяліць пароўну і быць ім да канца жыцця ў вялікай згодзе ды любові братэрскай. І на тым між сабою прысягу ўчынілі, што адзін на аднаго ліхога замысляць не будуць. Так і жылі яны да смерці сваёй, не парушаючы тае прысягі.

## [ПРА КНЯЗЁЎ КАРЫЯТАВІЧАЎ]

1351 год. Вялікі князь Альгерд, сабраўшыся з сіламі сваімі літоўскімі, пабіў на Сініх Водах[87] татараў — трох братоў: Хаджы-бея, Кутлубугу ды Дзімітрыя. А тыя тры браты ў Ардзе панавалі і былі дзедзічамі Падольскае зямлі[88], прызначалі сваіх атаманаў на Падоллі. Тыя атаманы прыбыткі парадкавалі, а да іх прыязджалі баскакі татарскія і, у іх даніну беручы, да Арды яе вазілі.

Брат жа вялікага князя Альгерда, князь Карыят, трымаў Навагарадок Літоўскі. І было ў яго чацвёра сыноў: князь Юры, князь Аляксандар, князь Канстанцін ды князь Фёдар. І тыя княжычы Карыятавічы, тры браты, з дазволу свайго дзядзькі,

вялікага князя Альгерда, рушылі з дапамогаю літоўскаю ў Падольскую зямлю. А ў той час у Падольскай зямлі не было ніводнага горада, ні з дрэва будаванага, ні з каменю мураванага. Тады княжычы, прыйшоўшы ў Падольскую зямлю, запрыязніліся з атаманамі і пачалі бараніць тую зямлю ад татараў, а баскакам даніну аддаваць перасталі. Найперш знайшлі яны сабе моцнае месца на рацэ Смотрычы і там збудавалі сабе горад Смотрыч[89]. У другім месцы, на гары, жылі манахі, і там Карыятавічы заснавалі горад Бакоту[90]. Будучы на ловах, надарылася ім гнаць шмат аленяў на тым востраве, дзе цяпер Камянец[91] ляжыць, і, высекшы лес, змуравалі горад. З таго пачаўшы, усе гарады падольскія паставілі і ўсю зямлю Падольскую занялі.

А пасля таго польскі кароль Казімір Лакетка[92] даведаўся, што браты Карыятавічы, якія пануюць на Падольскай зямлі, — людзі моцныя. І прыслаў ён да князя Канстанціна глейтоўныя лісты* з пячаткамі, настойліва просячы яго, каб да яго прыехаў. Вырашыў кароль з усімі сваімі панамі аддаць за яго дачку, а па сваёй смерці каралём пасадзіць, бо сына ў Казіміра не было, адна толькі дачка[93]. Але князь Канстанцін, да караля польскага прыехаўшы, не захацеў у ягоную веру перайсці і зноў па тых жа граматах ад'ехаў з Польскае зямлі да свайго гаспадарства і там, на Падоллі, памёр. А князя Юр'я валахі ўзялі сабе ваяводам і там яго атруцілі. Чацвёрты ж брат, князь Фёдар Карыятавіч, у Літве Навагарадок трымаў. І калі даведаўся князь Фёдар, што братоў ягоных у жывых не стала, пайшоў і Падольскую зямлю засеў.

А ў тыя гады, калі на Літве і на Русі княжыў вялікі князь Альгерд, князь Фёдар, Падолле засеўшы, не хацеў паслухмяным быць вялікаму князю. Тады Альгерд пайшоў з усімі сіламі літоўскімі на Падолле. Пачуў пра тое князь Фёдар Карыятавіч і ўцёк з Падольскае зямлі да вуграў, а ў гарадах пасадзіў валахаў. Вялікі ж князь Альгерд спачатку прыйшоў да Брацлава[94] і, заняўшы горад, рушыў да Сакольца[95], і Саколец узяў, і прыйшоў уночы да Камянца, і Камянец здабыў, а потым Смотрыч, і Скалу[96], і Чырванаград[97] заняў, і ўсе гарады пабраў, і ваяводу князя Фёдара — Нястана, што ў тых гарадах намеснікам быў, злавіў, і ўва ўсіх тых гарадах сваіх старастаў пасаджаў, і даў ад сябе Гаштольту Гаштольтавічу[98] трымаць Камянец-Падольскі, і пайшоў назад. Мы ж да ранейшага вернемся.

* Глейтоўны ліст, глейт — ліст, які забяспечвае свабодны праезд.

## [ПРА ВАЯВОДУ ВІЛЕНСКАГА ПЯТРА ГАШТОЛЬТА]

Калі князь Альгерд узяў замуж князёўну віцебскую Улляну, то для таго ахрысціўся ў рускую веру, а ўсе паны літоўскія засталіся ў сваёй веры паганскай. І князь вялікі Альгерд не чыніў над імі гвалту і на веру сваю не навяртаў, і рымскае веры ў Літве яшчэ не было, толькі руская.

І калі Гаштольт трымаў Камянец-Падольскі, ён часта ездзіў да пана Бучацкага, у якога была дачка, дзеўка вельмі прыгожая. І стараста камянецкі Гаштольт прасіў пана Бучацкага, каб той сваю дачку за яго аддаў. І Бучацкі сказаў: «Я быў бы рады аддаць за цябе дачку, але мне не выпадае яе, хрысціянку, за цябе, пагапіна, аддаваць, хоць ты і вялікі пан, але аддам яе за цябе толькі тады, калі ахрысцішся ў нашу веру». І стараста камянецкі Гаштольт ахрысціўся і дачку пана Бучацкага сабе за жонку ўзяў. І калі ахрысціўся ён у ляшскую веру, далі яму імя Пётр.

Па малым часе князь вялікі Альгерд даў Пятру Гаштольтавічу Вільню. І калі ён стаў ваяводам у Вільні, адразу ж прывёў з Ляхаў 14 мніхаў-францішканаў і з дазволу вялікага князя Альгерда залажыў кляштар Маткі Божае ў Вільні на сваім дворышчы, дзе цяпер двор віленскага біскупа. А сам ён паставіў двор свой на пясках над Вінкерам[99], дзе цяпер кляштар Маткі Божае. І той Пётр Гаштольт першы прыняў веру рымскую і да Літвы прынёс.

## [ПРА ВАЙНУ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА З КНЯЗЕМ МАСКОЎСКІМ ДЗІМІТРЫЕМ ІВАНАВІЧАМ]

У тыя часы князь вялікі літоўскі і рускі Альгерд Гедымінавіч, справуючы ўмела гаспадарства сваё, немалы час панаваў у Вялікім княстве Літоўскім. І быў ён у міры і ў добрай прыязні з вялікім князем маскоўскім Дзімітрыем Іванавічам[100], які без усякае прычыны, пераступіўшы дагавор і прыязнасць, прыслаў да вялікага князя Альгерда пасла свайго з агнём ды шабляю, даючы яму зразумець, што «буду ў зямлі тваёй па краснай вясне, па ціхім леце».

І князь вялікі Альгерд выняў крэсіва, губку і крэмень, і, запаліўшы губку, даў паслу, і сказаў так: «Дай гэта гаспада-

ру і паведамі яму, што ў нас у Літве агонь ёсць, бо ён кажа мне, што хоча быць у маёй зямлі па краснай вясне ды па ціхім леце. А я, дасць Бог, буду ў яго на Вялікдзень, ды пацалую яго чырвоным яйкам цераз шчыт суліцаю, ды з Божаю дапамогаю к гораду ягонаму Маскве дзіду сваю прысланю; бо не той ваяр, хто чакае часу зручнага, каб ваяваць, але той, хто і ў нязручны час над сваім непрыяцелем зверхнасць даводзіць». І, адпусціўшы пасла і сабраўшы ўсе свае войскі літоўскія і рускія, пайшоў з Віцебска проста на Маскву. І на самы Вялікдзень ранкам князь вялікі Дзімітры Іванавіч ішоў з баярамі і з князямі з царквы з ютрані, а князь вялікі Альгерд з усімі сваімі сіламі, разгарнуўшы харугвы свае, з'явіўся на Паклоннай гары[101].

Вялікі князь маскоўскі вельмі спалохаўся і жахнуўся, убачыўшы вялікага князя Альгерда, што прыйшоў паводле слова свайго з такою вялікаю сілаю. І не мог вялікі князь маскоўскі ніякага адпору яму ўчыніць, і паслаў да вялікага князя Альгерда, просячы яго ды вялікія дары яму абяцаючы, каб яго з бацькаўшчыны ягонае, з Масквы, не выганяў, а гнеў свой пакінуў бы і ўзяў бы ў яго, што хацеў.

І князь вялікі Альгерд зліташаўся, і ласку сваю ўчыніў, і з Масквы князя Дзімітрыя Іванавіча не выганяў, і мір з ім заключыў. А потым, дамову ўчыніўшы, сам вялікі князь маскоўскі да Альгерда выехаў, і з ім бачыўся, і дарамі незлічонымі, золатам, срэбрам, і дарагімі перламі, і сабалямі ды іншым футрам, дарагім ды дзіўным, князя вялікага Альгерда адарыў, і выдаткі, якія Альгерд меў, у зямлю ягоную ідучы, яму пакрыў. Потым князь вялікі Альгерд сказаў вялікаму князю маскоўскаму: «Хоць я з табою заміры́ўся, але мне іначай учыніць не выпадае, бо мушу да горада твайго Масквы дзіду сваю прысланіць ды тую славу ўчыніць, што вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Альгерд дзіду тут сваю прысланіў». І сам на каня сеўшы, дзіду ўзяўшы ў рукі і прыехаўшы да горада, дзіду тую да мура прысланіў і, едучы назад, сказаў галасна: «Княжа вялікі маскоўскі! Памятай пра тое, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою».

Пасля таго князь вялікі Альгерд з усімі сваімі войскамі, і з вялікаю пашанаю, і з вялікім палонам, і з невымоўным здабыткам, зваяваўшы ды пабраўшы шмат гарадоў, багата людзей папаланіўшы, мяжу ўчыніў па Мажайск і Каломну[102] і з усімі людзьмі сваімі, у цэласці да сябе адышоў.

## [ПРА ЗАБОЙСТВА Ў ВІЛЬНІ МНІХАЎ-ФРАНЦІШКАНАЎ]

У той час, калі князь вялікі Альгерд быў у Маскве і пры ім знаходзіўся ваявода ягоны Пётр Гаштольт, мяшчане віленскія, пагане, сабраўшыся, прыйшлі моцаю вялікаю ў кляштар, не хочучы хрысціянства рымскае веры мець, і спалілі той кляштар, і сямёх мніхаў сцялі, а сямёх астатніх прывязалі да крыжа і пусцілі ўніз па Вяллі, мовячы: «З захаду сонца вы прыйшлі, на захад жа і ідзіце, за тое, што вы знішчалі багоў нашых». На тым месцы, дзе іх замучылі, і цяпер стаіць Божая мука[103] ў біскупавым садзе.

І калі вярнуўся князь вялікі Альгерд у Вільню, Гаштольт біў чалом вялікаму князю Альгерду, каб тых паганцаў за тое акруценства пакараць загадаў, што нявінных законнікаў так жорстка і нялітасціва пакаралі. І князь вялікі Альгерд і сам вельмі шкадаваў, што так акрутна тых мніхаў-хрысціянаў пазабівалі, і вельмі ўгнявіўся ён, што над хрысціянамі такое зверства сталася, і выдаў пяцьсот віленцаў на смерць для таго, каб іх пакаралі і каб ніводзін хрысціянін ніякае шкоды не чыніў. І тыя пяцьсот чалавек былі пакараны рознымі пакутамі.

А потым Пётр Гаштольт прывёў іншых мніхаў-францішканаў і не насмеліўся ўжо на тым самым месцы кляштар будаваць, дзе першых панішчылі, і паставіў кляштар там, дзе быў збудаваў сабе дом, на пясках над Вінкерам, дзе цяпер стаіць кляштар Маткі Божае. І ад тых часоў стаіць першы ў Вільні кляштар хрысціянскі рымскага закону Маткі Божае.

## [ПРА ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ АЛЬГЕРДА І КЕЙСТУТА ДЫ ПРА СЫНОЎ ІХНІХ]

Было ў вялікага князя Альгерда дванаццаць сыноў. З тою жонкаю, што ўзяў ён у князя віцебскага, па якой і Віцебск атрымаў, меў ён шасцёра сыноў. Першы быў Уладзімер, які трымаў удзел у Кіеве; другі — князь Іван Жэдзевід, які валодаў Падольскаю зямлёю; трэці — князь Сямён Лінгвен, удзел ягоны быў Мсціслаўль; чацвёрты — Вінгольт Андрэй, удзел яго — Трубчэўск[104]; пяты — Канстанцін, удзел яго — Чарнігаў і Чартарыйск; шосты — Фёдар Сангушка, які сядзеў на ўдзеле ў Любомлі[105].

Пасля смерці вялікае княгіні Ганны ўзяў князь вялікі Альгерд дачку вялікага князя цверскага княжну Ульяну і меў з ёю шасцёра сыноў: старэйшы — Ягайла Уладзіслаў, другі — Скіргайла, трэці — Свідрыгайла, чацвёрты — Карыбут, пяты — князь Дзімітры Карэцкі, шосты — князь Васіль[106].

У брата ж вялікага князя Альгерда — у Кейстута, які валадарыў у Троках і ў зямлі Жамойцкай, было шасцёра сыноў. Першаму сыну, Вітаўту, калі стаў ён русінам, далі імя Юры, а калі ахрысціўся ў ляшскую веру, тады далі яму імя Аляксандар. Другі сын — брат Вітаўтаў Андрэй Гарбаты, што княжыў у Полацку; трэці — Жыгімонт; чацвёрты — Патрыкей; пяты — Таўцівіл; шосты — Война. Тры апошнія без удзелаў сваіх у маладосці памерлі.

З усіх сваіх сыноў найбольш любілі князь вялікі Альгерд — сына свайго Ягайлу, а князь вялікі Кейстут — сына свайго Вітаўта. І вырашылі яны, што быць тым сынам на іх месцах, на вялікіх княжэннях, пасля іх смерці. Князь жа Ягайла і князь Вітаўт пры бацьках сваіх у вялікай дружбе былі. А потым у 1377 годзе князь вялікі Альгерд памёр.

## [ПРА ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ КЕЙСТУТА І ЯГАЙЛУ]

Князь вялікі Кейстут, памятаючы пра ўмову і любоў брата свайго і пра адзінства, якое з ім да самае смерці яго меў, пачаў трымаць князем вялікім у Вільні сына Альгердавага вялікага князя Ягайлу і працягваў прыязджаць на былыя нарады, як і да брата старэйшага прыязджаў.

Быў у вялікага князя Альгерда нейкі халоп, парабак нявольны, звалі яго Вайдыла. Спачатку быў ён пекарам, потым прызначыў яго князь пасцель слаць і ваду піць падаваць, і вельмі палюбіўся ён Альгерду, і даў быў вялікі князь яму Ліду трымаць і вывеў яго ў людзі. Потым, калі пасля смерці вялікага князя Альгерда мінула больш за два гады, князь вялікі Ягайла ўзняў Вайдылу вельмі высока і аддаў за яго сястру сваю родную, княгіню Мар'ю, што была замужам за князем Давыдам. І тым князю вялікаму Кейстуту надта вялікую крыўду і прыкрасць учыніў, што братанку ягоную ды Ягайлаву сястру за халопа аддаў. І ўвабраўся той Вайдыла ў вялікую моц за князем Ягайлам, ды пачаў з немцамі соймы чыніць, раіцца і падпісвацца пад граматамі супраць вялікага князя Кейстута.

Быў нейкі пан, нехта Лебестын, астродскі комтур[107], і быў той Лебестын кумам вялікаму князю Кейстуту, хрысціў дачку ягоную, што была замужам за князем Янушам. Паведаў ён вялікаму князю Кейстуту: «Ты таго не ведаеш, што князь вялікі Ягайла пасылае да нас часта Вайдылу і ўжо змовіўся з намі, каб цябе ссадзіць з твайго месца ды каб яно дасталося яму і сястры вялікага князя Ягайлы, што замужам за Вайдылам».

Князь вялікі Кейстут уведаў, што князь Вітаўт у згодзе жыве з князем Ягайлам, і пачаў скардзіцца Вітаўту, сыну свайму: «Ты з ім у згодзе жывеш, а ён падпісаў дамову з немцамі супраць нас». І князь вялікі Вітаўт адказаў бацьку свайму: «Не вер гэтаму, не думаю, каб гэта было так, бо Ягайла са мною ў згодзе жыве, ён сказаў бы мне пра гэта».

Потым прычынілася вялікая праява. Князь вялікі Ягайла даў быў Полацак брату свайму Скіргайлу, але палачане яго не прынялі. І князь Ягайла паслаў рацъ сваю літоўскую і рускую з братам сваім Скіргайлам на Полацак. І аблажылі яны горад. Князь жа вялікі Кейстут зноў пачаў скардзіцца, плачучы, сыну свайму Вітаўту на князя Ягайлу: «Першая вялікая крыўда, якую ён мне ўчыніў: за халопа маю братанку, а сваю сястру, аддаў. Цяпер пра другую крыўду: добра ведаю, што ён змовіўся з немцамі супраць нас. А гэта ўжо трэцяя: мы з немцамі ваюем, а ён з імі Полацак адымае ў сына майго, твайго брата, — князя Андрэя Гарбатага. То ўжо другая праява ягонае непрыязнасці да нас выявілася: ясна стала, што ён паўстаў супраць нас заадно з немцамі». І князь Вітаўт адказаў бацьку свайму: «І ўсё ж такі гэтаму не вельмі веру». Сказаўшы тое, Вітаўт сам паехаў у Горадзень і Дарагічын. Князь жа вялікі Кейстут, сабраўшыся з сілаю сваёю, уварваўся ў горад Вільню, паланіў вялікага князя Ягайлу разам з братамі і з маці ягонаю і граматы тыя знайшоў, што Ягайла з немцамі падпісаў. І Кейстут да сына Вітаўта ў Дарагічын ганца паслаў паведаміць, што сталася. Ганец той знайшоў князя Вітаўта ў Горадне, бо той ужо з Дарагічына прыехаў да Горадня. І Вітаўт за адзін дзень прымчаўся з Горадня к бацьку свайму Кейстуту. Той жа сказаў Вітаўту: «Ты мне не верыў, але вось тыя граматы, што падпісалі былі супраць нас Ягайла з немцамі, але багі нас асцераглі, бо я князю вялікаму Ягайлу нічога не ўчыніў: не рушыў ні скарбу ягонага, ані статка, а сам ён у мяне ў няцтве*, толькі пад слабою вартаю. Бацькаўшчыну ж ягоную, Віцебск

* Няцтва — палон.

ды Крэва, і ўсе месты, што бацька ягоны трымаў, — усё яму аддаю і нічога сабе не бяру. А зрабіў я так, асцерагаючыся за сваю галаву, чуючы, што на мяне ліхое задумваюць».

Князь жа вялікі Ягайла вельмі ўзрадаваўся прыезду вялікага князя Вітаўта. І яны разам прысягнулі князю Кейстуту, што ніколі супраць яго не стануць, але заўжды ў ягонай волі будуць. І князь Кейстут адпусціў Ягайлу з маці і з братамі і з усім скарбам. Вітаўт правёў Ягайлу да Крэва. А затым Ягайла паехаў з Крэва ў Віцебск.

## [ПРА ВЯЛІКУЮ ЗДРАДУ КНЯЗЯ ЯГАЙЛЫ, ЯКІ ПРЫСЯГУ ПЕРАСТУПІЎ]

Князь вялікі Кейстут, сеўшы ў Вільні, паслаў двух чалавек у Полацак, аднаго ў войска, а другога ў горад. І палачане ўзрадаваліся і клікнулі раці, і людзі ратныя адступіліся ад Скіргайлы і пайшлі ў Вільню да вялікага князя Кейстута, а князь Скіргайла пайшоў да немцаў, у Ліфлянты, з некалькімі слугамі. Князь жа вялікі Кейстут пайшоў да Ноўгарада-Северскага[108] на князя Карыбута, а свайго сына Вітаўта пакінуў у Літве. Ідучы да Ноўгарада-Северскага, загадаў ён, каб павесілі Вайдылу. І князь вялікі Ягайла мусіў пайсці з імі.

І зноў Ягайла на прысягу сваю хутка забыўся, туды не пайшоў, а намовіў месцічаў віленскіх, Ганулеву дворню[109], і заняў разам з імі Вільню. Ён з усім войскам прымчаў з Віцебска да Вільні, а князь Вітаўт паслаў ганца ў Ноўгарад-Северскі да бацькі свайго, вялікага князя Кейстута. І як пачулі пра тое немцы ды прусы, маршалак прускі рушыў з войскам на дапамогу Ягайлу вельмі паспешліва. Калі ж Вітаўт даведаўся, што немцы з Прусаў да Вільні і Трокаў цягнуцца, а Ягайла ідзе з раццю ад Вільні да Трокаў, каб злучыцца з немцамі, і сам ён разам з маці пайшоў з Трокаў у Горадзень. Калі прыступіўся Ягайла да Трокаў, горад здаўся яму. Князь вялікі Кейстут прыйшоў у Горадзен да сына, а жонку сваю паслаў у Берасце, спадзеючыся атрымаць дапамогу ад князя мазавецкага Януша, зяця свайго, сам жа падаўся ў Жамойць, а сына свайго пакінуў у Горадне. Але князь Януш забыўся на дабро і прыязь цесцеву ды цешчыну і рушыў раццю на Дарагічын. Гэты горад узяўшы, ён Сураж[110] ды Камянец зваяваў і Берасце акружыў і цешчу сваю ў горадзе, але, Берасце

не здабыўшы, пайшоў, задаволіўшыся тымі гарадамі, Дарагічынам ды Мельнікам.

Князь жа вялікі Кейстут сабраў са свае Жамойцкае зямлі ўсе войскі і пайшоў да ракі Вяллі, а князь вялікі Вітаўт, сабраўшы раць са свае бацькаўшчыны, падаўся з Горадня насустрач бацьку, і злучыліся яны на Вяллі за дзве мілі вышэй ад Коўна, і тут пераправіліся з войскам, і пайшлі да Трокаў, і, прыйшоўшы, горад аблажылі. Пачуў Кейстут, што Ягайла з Вільні раццю ідзе, а з ім пруская ды нямецкая дапамога. Спачатку немцы абодвум ворагамі былі — і Кейстуту і Ягайлу. Першы раз ліфлянцкая раць прыходзіла да Полацка на дапамогу князю Скіргайлу, а потым прускае войска на чале з маршалкам прыходзіла да Трокаў, а як трэці раз ліфлянцкая раць з Ягайлам і братамі ягонымі прыходзіла — гэта ўжо значыла, што немцы з Ягайлам ды братамі ягонымі заадно сталі супраць Кейстута. І калі ўжо прыйшлі на бой князь вялікі Кейстут з сынам сваім Вітаўтам супраць вялікага князя Ягайлы і, яшчэ не сышоўшыся палкамі, сталі на адлегласці трох ці чатырох стрэлаў, прымчаліся князі ды баяры ад Ягайлы да войска Кейстутавага і пачалі прасіць Вітаўта, каб пагаварыў з ім. І пачалі яны казаць князю Вітаўту: «Князь вялікі Ягайла паслаў нас да цябе, каб ты ўяднаў* нас з бацькам сваім, каб мы трымалі сваё, а вы сваё і каб сечы між намі не было ды кровапраліцця не ўчынілася. Прыехаў бы ты да брата свайго, вялікага князя Ягайлы, а мы на тым прысягаем, што ты чыста, без бою, ад'едзеш у войска сваё, каб толькі паміж вамі ўсё добра скончылася».

Князь вялікі Вітаўт адказаў: «Прысягу вашую прымаю, але няхай таксама і князь Скіргайла прыедзе да нас і прысягне, тады і я паеду». Яны паслалі па князя Скіргайлу, і ён, як і яны, прысягнуў вялікаму князю Вітаўту. І Вітаўт паехаў да Ягайлы, да ягонага войска, а раці стаялі адна супраць другой, між сабою нічога не пачынаючы. І пачаў Ягайла прасіць Вітаўта: «Калі б ты нас паміраў, кровапраліцця не было б». І князь вялікі Вітаўт прыняў прысягу ад вялікага князя Ягайлы, што бацьку ягонаму Кейстуту дасць бяспечна ад'ехаць. І яшчэ сказаў вялікі князь Вітаўт князю вялікаму Ягайлу: «Яшчэ, браце, прышлі Скіргайлу, каб ён прыехаў, і далі б мы бацьку свайму клятву, што ён зможа проста прыехаць і зноў ад'ехаць, і каб князь Скіргайла прысягнуў бы і ад твайго імя».

* Уяднаць — тут: замірыць.

І прыехалі князь вялікі Вітаўт з князем вялікім Скіргайлам да бацькі свайго, вялікага князя Кейстута, у войска і прысягнулі. І князь вялікі Вітаўт з бацькам сваім, вялікім князем Кейстутам, паехалі ў войска да Ягайлы, спадзеючыся на тыя прысягі. Князь жа Ягайла парушыў іх, кажучы: «Паездзем у Вільню, там дамовімся». На тым войскі, нічога не пачынаючы, раз'ехаліся.

І як у Вільню прыехалі, князь вялікі Ягайла дзядзьку свайго, князя вялікага Кейстута, у ланцугі закаваўшы, да Крэва паслаў і пасадзіў у вежу, а Вітаўта яшчэ пакінуў у Вільні. Там, у Крэве, на пятую ноч князя Кейстута задушылі каморнікі Ягайлавы. Аднаго з іх звалі Прокша, ён ваду Ягайлу падаваў, а астатнія былі: Мосцер брат, ды Кучук, ды Лісіца Жыбянцяй. Такі быў канец вялікага князя Кейстута.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ УЦЁК АД НЕМЦАЎ, А ПОТЫМ ЯГАЙЛУ ПЕРАМОГ]

Пасля смерці вялікага князя Кейстута князь вялікі Ягайла паслаў Вітаўта з жонкаю ў Крэва і загадаў пільна сцерагчы яго ў хораме. І Ягайла, помсцячы за Вайдылу, якому замуж аддаў быў сястру сваю, дваіх загадаў калесаваць: аднаго — Відымонта, дзядзьку маткі вялікага князя Вітаўта, другога — Бутрыма, брата ягонае маці, што трымаў Улляну, якая потым была за Монвідам, ды шмат іншых баяраў пасцінаў.

Князь жа вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве. Хадзілі да яго з княгіняю ў пакой дзве жанчыны слаць пасцель і, паслаўшы, выходзілі разам з вартаю. І вялікая княгіня [Вітаўтава] пачула ад людзей: «Калі князь Вітаўт будзе ў іх доўга сядзець, тое ж самае з ім учыняць, што і з бацькам ягоным». І параіла яна яму так: як прыйдуць жанчыны слаць, каб ён наклаў на сябе адзенне адной з жанчын ды выйшаў з другою жанчынаю, а каб першая жанчына засталася з ёю. Вітаўт паводле тое рады ўбраўся ў адзенне адной жанчыны ды выйшаў з другою і, спусціўшыся з горада, уцёк да немцаў у Прусы.

Калі быў Вітаўт у немцаў у Марыінгорадзе[111], у магістра, прыехала да яго шмат князёў ды баяраў літоўскіх. І пачаў ён з дапамогаю нямецкаю ваяваць Літоўскую зямлю. Князь жа вялікі Ягайла быў з маці сваёй, вялікаю княгіняй Улляна, у Віцебску, а брат ягоны, князь Скіргайла, у Літве, у Троках. І

князі Ягайла ды Скіргайла не маглі ўстаяць супраць Вітаўта, бо ў яго сіла вялікая сабралася. Тады князь Ягайла выклікаў яго з немцаў і даў яму Луцк і ўсю Валынскую зямлю.

## [ЯК ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЯГАЙЛА ЛЯХАЎ ЗВАЯВАЎ, А ТАКСАМА ПРА СВЯТОЕ ДРЭВА]

Седзячы на ўсім Вялікім княстве Літоўскім, Ягайла пачаў вайну з Мазоўшам[112] і з Ляхамі з-за таго, што ўзяў быў князь мазавецкі з ляшскаю дапамогаю Дарагічын і Мельнік. І шматкроць хадзіў ён у зямлю Ляшскую і шкоду вялікую чыніў у зямлі Ляшскай і Мазавецкай і багата кровапраліцця хрысціянам рымскае веры, пачаўшы ад мяжы літоўскае — аж да ракі Віслы. Прыйшоў ён з вялікім войскам да ракі Віслы, насупраць Завіхвоста, і нараду ўчыніў, як бы раку перайсці. І адзін ліцвін злез з каня, абкруціў хвост каня сабе вакол рукі ды кажа: «Тут вады не будзе», і ўдарыў каня, і борзда раку з канём пераплыў. Усё войска, пабачыўшы тое, раку з коньмі сваймі тым жа чынам борзда пераплыло і, пераплыўшы раку Віслу, прыйшло пад горад Завіхвост. І сказаў князь Ягайла: «Не варта нам гэты горад гарматамі здабываць», і загадаў усяму свайму войску, каб кожны па кію ўзяў і кінуў у горад. Кожны ваяр з войска літоўскага, узяўшы па кію запаленым, кінуў у горад, і повен горад кіёў наляцела, і запалаў увесь горад Завіхвост. Спаліўшы Завіхвост, пайшоў Ягайла пад Апатаў[113] і спаліў яго, ды шмат іншых местаў і сёлаў папаліў аж да самае Вісліцы, і паняў ды паненак у палон павёў.

Калі Ягайла з войскам ішоў назад паўз святы крыж, некаторыя воі заехалі да таго крыжа, на гару[114]. Між імі быў адзін пан з роду Давойнаў, і ўзяў ён дрэва святога крыжа[115], якое было ўштукавана ў срэбра. І ўзяў тое дрэва не дзеля яго дастойнасці, але дзеля срэбра, і, не шануючы таго дрэва, паклаў яго ў таболы* між рознымі простымі рэчамі. Там жа паланіў ён дзеўку — знакамітую панну роду высокага, з герба Габданк, якую ў вялікай пачцівасці трымаў. А князь Ягайла зямлю Ляшскую спустошыў і плёну шмат забраў — і золата, і срэбра, і каменне дарагога — і, невымоўнага скарбу набраўшы, у цэласці прыйшоў да стальца свайго — да Вільні.

---

* Табол — торба.

І віленцы, паводле старога паганскага звычаю, спаткалі князя вялікага Ягайлу з жонкамі і дзецьмі перад местам, песні пеючы і ў далоні б'ючы, хвалячы вялікага князя за тое, што такую перамогу здабыў. І вялікая ціжба* была на вуліцах у месце Віленскім. І калі які-кольвек паганін датыкаўся да тых таболаў, дзе было дрэва святога крыжа, то раптоўна паміраў. Дзівіўся князь вялікі Ягайла, што пры тым спатканні так багата людзей раптоўна памерла, і пытаўся між сваімі людзьмі, што ж гэта за дзіва было. Прыйшоў той пан з Давойнаў, які ўзяў святы крыж, і стаў распавядаць пра тое дзіва паланёнай панне з Габданка. І яна расказала: «Я бачыла ў сне анёла Божага, які мовіў, што Бог свой гнеў наслаў на паганства, бо дрэва святога крыжа, якое маюць у сябе, захоўваюць непачціва». І той пан з Давойнаў пераказаў дзявочы сон вялікаму князю Ягайлу.

Князь вялікі Ягайла загадаў таму пану прынесці той крыж, у якім захоўваецца Божае дрэва, і прывесці тую панну, якую паланіў. І, пабачыўшы дрэва святога крыжа і панну з герба Габданк, князь Ягайла перадаў святы крыж той панне і загадаў пану з Давойнаў, каб адпусціў яе на волю. І сам князь Ягайла тую панну, адарыўшы шчодра, адпусціў і наказаў ёй, каб той крыж пачэсна адвезла і паставіла на тым месцы, дзе дагэтуль быў. Панна ж, бачачы, што пан з Давойнаў, у якога яна была ў палоне, так годна яе ў сябе трымаў і пашану ёй вялікую выказваў, паведала яму, што адзіная дачка ў бацькі свайго, і прасіла таго пана, каб з ёю да бацькі паехаў і там, у бацькі, ёй за мужа стаў. Паехалі яны да яе бацькі і дрэва святога крыжа пачэсна адвезлі і паставілі ў касцёле Святога Крыжа. А потым пан з Давойнаў тую панну за сябе замуж узяў, і тады ж да герба Габданк дадады быў крыж, і назвалі той герб Дубня. Так адбылося паланенне Літвою святога крыжа ў Польшчы. Але вернемся назад.

## [ЯК КНЯЗЬ ЯГАЙЛА ПОЛЬСКІМ КАРАЛЁМ СТАЎ]

Пасля таго паланення Ягайла правёў мяжу з ляхамі па Белай Вадзе, гэта значыць, па рацэ Вісле.

А ў той час ляхі караля не мелі, бо іхні кароль вялікі Казімір памёр, ды пакінуў па сабе дачку ў маладых гадах — каралеўну

---

* Ціжба — мітусня.

Ядвігу[116]. І ляхі ўзялі сабе паморскага княжыча Фрыдрыха[117], хочучы, каб ён тую каралеўну, калі яна стане дарослаю, за сябе замуж узяў ды ім гаспадаром быў. Але потым ляхі, бачачы, як лютуе ды нішчыць іх зямлю вялікі князь Ягайла, пачалі раіцца, як бы ім зямлю сваю ад літвы абараніць, бо сваімі сіламі супрацівіцца ніяк не маглі. Умыслілі яны выгнаць княжыча паморскага прэч са сваёй зямлі, і сабралі сойм у Петрыкаве, і на тым сойме вырашылі ўзяць вялікага князя Ягайлу сабе на каралеўства гаспадаром, калі б ён згадзіўся ахрысціцца ў веру хрысціянскую рымскага закону і каралеўну іхнюю Ядвігу за сябе замуж узяць. З тым і паслалі да яго сваіх высокіх паслоў. І князь вялікі Ягайла згадзіўся выканаць іх волю — веру іх лацінскую прыняць і каралеўну за сябе ўзяць.

Узяўшы з сабою свайго стрыечнага брата, вялікага князя Вітаўта, і роднага брата свайго Скіргайлу, і князя Івана Альгімонтавіча Гальшанскага, і двух сваіх братанічаў, князя Івана Уладзімеравіча Бельскага і брата ягонага, князя магілёўскага Андрэя Уладзімеравіча, і шмат іншых князёў ды паноў літоўскіх, паехаў Ягайла на каранацыю ў Кракаў. І ўсе арцыбіскупы і біскупы, і ўся рада ляшская сустрэлі вялікага князя Ягайлу працэсіямі перад местам Кракаўскім, і там яго прывіталі, і прынялі, і правялі з пашанаю і вялікаю радасцю на замчышча да касцёла святога Станіслава. І там Ягайла, увайшоўшы ў святыню, прыняў веру рымскую і ахрысціўся, і далі яму імя Уладзіслаў. А потым яго каранавалі і каралеўну Ядвігу яму за жонку аддалі. Тады ж ахрысціўся і князь вялікі Вітаўт і веру рымскую прыняў, і далі яму імя Аляксандар. Ахрысціліся і многія іншыя паны літоўскія, якія былі там. А потым кароль Ягайла, ужо запанаваўшы ў Кароне, вялікага князя Вітаўта і брата свайго Скіргайлу, усіх князёў ды паноў ушанаваўшы і дарамі вельмі каштоўнымі адарыўшы, адпусціў у Літву.

Неўзабаве Ягайла сам прыехаў у Літву, і залажыў у Вільні касцёл святога Станіслава, і адарыў яго дарагімі рэчамі царкоўнымі, і біскупства Віленскае фундаваў, і канонікаў да таго касцёла запрасіў, і зрабіў першым біскупам віленскім мніха закону* святога Францішка — іменем Мацей, з віленскага кляштара Маткі Боскае. Апрача таго, фундаваў Ягайла біскупства Луцкае і Кіеўскае і пачаў пашыраць веру рымскую ў Літоўскім гаспадарстве. Потым паехаў ён у Карону, а губернатарам у

* Закон — манаскі ордэн.

Вільні і Вялікім княстве Літоўскім пакінуў брата свайго Скіргайлу. А князь вялікі Вітаўт, будучы ў Луцку, сасватаў дачку сваю князёўну Сафію за вялікага князя маскоўскага Васіля Дзімітрыевіча.

## [ЯК ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ СКІРГАЙЛА І ВІТАЎТ КНЯЗЯ СМАЛЕНСКАГА СВЯТАСЛАВА ЗВАЯВАЛІ]

Тою ж зімою, калі кароль Ягайла быў у Кракаве з многімі· панамі літоўскімі, князь полацкі Андрэй прыйшоў з Ліфлянтаў з немцамі і з усёю латыголаю на Літоўскую зямлю. І паваявалі і папалілі яны шмат местаў ды сёлаў, але замкам літоўскім ніякае шкоды не ўчынілі і зноў да сябе вярнуліся.

У тую ж зіму князь смаленскі Святаслаў змовіўся з князем Андрэем Полацкім: ён у Літву, а князь Святаслаў да Воршы пайшоў, і шмат зла яны хрысціянам учынілі, не па-чалавечы, не па-хрысціянску рабілі, катавалі хрысціянаў; сабраўшы разам, замыкалі ў хатах і палілі; а іншых лавілі і, паднімаючы вочапамі харамы вялікія, тых палонных пад сцены галовамі клалі і заціскалі; а розных іншых здзекаў нехрысціянскіх не апісваем, бо яны вельмі страшныя: ні Антыёх асірыйскі, ні Юліян злачынны такіх здзекаў над людзьмі не рабілі. І паваявалі і папаланілі, але замкам нічога не ўчыніўшы, вярнуліся да сябе.

Тое ж зімы, у вялікі пост, пачаў Святаслаў са смаленскімі баярамі замысляць кровапраліцце хрысціянам. І рушыў ён да горада Мсціслаўля, і, стаўшы каля горада, пачаў здабываць яго і парокамі сцены біць, ды ў зямлю Мсціслаўскую войска сваё пусціў, і вялікае кровапраліцце хрысціянам учыніў. Князь жа вялікі Скіргайла і князь вялікі Вітаўт прыехалі з Ляхаў ад брата свайго, караля Ягайлы, і, пачуўшы, што князь Святаслаў смаленскі спачатку быў пад Віцебскам, а потым да Воршы хадзіў, цяпер жа пад Мсціслаўлем сцены парокамі* б'е, яны ўгнявіліся і пайшлі на Святаслава з братамі сваімі, Канстанцінам, Карыбутам і Лінгвенам, памянуўшы слова Божае: «Колькі вы мераеце — столькі ж і вам адмераецца». І сказаў Скіргайла: «Мы ніякага зла яму не зрабілі, а ён, будучы з намі ў згодзе, пераступіў дамову ды крыжа цалаванне, нашую зям-

* Парокі — сценабойныя машыны.

лю ваюе і кроў хрысціянскую пралівае. Мы ідзём на яго, спадзеючыся на Бога і на хрысціянскую сілу», і прыйшоў да горада Мсціслаўля.

А князь Святаслаў, стоячы каля горада і б'ючы парокамі сцены Мсціслаўля, на трэцім тыдні, у пятніцу, пачуў, што ідзе на яго князь вялікі Скіргайла з братамі. І Святаслаў апалчыў вояў сваіх і пайшоў насустрач ім; і сышліся палкі. Бог жа ўчыніў паводле слова прарока Давыда, які казаў: «І абрынецца хвароба ягоная на галаву яго, і абернецца няпраўда ягоная супраць яго самога», і яшчэ: «Сам яму выкапаў, сам у яе і ўпадзе».

І дапамог Бог вялікаму князю Скіргайлу і вялікаму князю Вітаўту, і пачаў уцякаць князь Святаслаў са сваімі князямі ды баярамі смаленскімі і з усім войскам сваім. Божым жа цудадзейcтвам і сілаю тут вялікі цуд адбыўся, забіта было вояў вялікае мноства і князёў ды баяраў, нават самога князя Святаслава забілі, сына ж ягонага, князя Юрыя, Скіргайла ‹адшукаў сярод трупаў, са шматлікімі ранамі, але жывога, і ўзяў яго, і пачаў лячыць усякімі лекамі, і галаву яму пастрыг, бо на ёй было шмат ранаў, і не верыў ён, што выжыве. Князь жа вялікі Скіргайла[118]› вылечыў яго ад ранаў, і прывёз у горад Смаленск да маці ягонай, вялікай княгіні Святаслававай, і пасадзіў яго на вялікім княжанні смаленскім, бо дачка старэйшай сястры Скіргайлавай была замужам за князем Юрыем. І, адышоўшы ад горада Смаленска, князь Скіргайла рушыў у сваю зямлю Літоўскую і пачаў княжыць у Троках, а ў Вільню кароль Ягайла прыслаў старасту свайго ляшскага.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ ВІЛЬНЮ ЗВАЯВАЎ]

Калі князь вялікі Вітаўт трымаў Луцк і ўсю Валынскую зямлю, а ў Літоўскай зямлі бацькаўшчыну сваю, было яму прыкра і вельмі крыўдна бачыць тое, чаго перад тым не бывала ў Літоўскай зямлі, каб староннi валодаў вялікім княжаннем літоўскім. Тады ўчыніў ён раду з многімі князямі ды панамі літоўскімі. І калі Скіргайла прыехаў у Полацак, князь вялікі Вітаўт прыйшоў да Вільні, хочучы завалодаць ёю, а ягоная вялікая княгіня Ганна была тады ў Горадне. Вільненцы ж тады не паддаліся яму, бо прысягнулі каралю Ягайлу і Скіргайлу. Вітаўт жа тады, не здабыўшы Вільні, паехаў са

сваёй княгіняй і з усімі князямі ды з многімі сваімі баярамі да магістра і адтуль з нямецкаю дапамогаю пачаў ваяваць Літоўскую зямлю.

Ужо ўзяў быў Вітаўт палову Літоўскае зямлі да ракі Вяллі, і горад Полацак здаўся яму. І ўбачылі кароль Ягайла і князь вялікі Скіргайла, што ўжо не змогуць утрымаць Літоўскае зямлі перад вялікім князем Вітаўтам. Вітаўт жа, сышоўшыся з нямецкімі сіламі, пайшоў к Вільні. І сустрэў яго князь Скіргайла з братам сваім Вінгантам і з літоўскімі воямі на рацэ Вяллі ля гарадка, на месцы, званым Вейшышкі, і сышліся палкі. І дапамог Бог вялікаму князю Вітаўту, і разбіў ён нагалаву войска літоўскае, а астатнія воі разбегліся, і забіта было іх вялікае мноства, а шмат князёў ды баяраў жывымі захапілі: князя Сямёна Яўнуцевіча, смаленскага князя Глеба Святаслававіча, князя Глеба Канстанцінавіча, князя Івана Цету, Льва Плаксіча, ды шмат іншых князёў паланілі.

І зноў пайшоў князь Вітаўт з усімі сіламі да горада Вільні, і акружыў Вільню, і пачаў здабываць Крывы горад і з гарматаў біць. Узяў ён горад Крывы, але застава ляшская, якая была тады ў Высокім горадзе, не пусціла ў горад князя Вітаўта. І князь вялікі, узяўшы Крывы горад і зямлю навакольную зваяваўшы, зноў вярнуўся ў Нямецкую зямлю.

## [ЯК ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ВІТАЎТ АДДАЎ СВАЮ ДАЧКУ ЗА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ МАСКОЎСКАГА ВАСІЛЯ ДЗІМІТРЫЕВІЧА]

У тым жа годзе ў Прусію, у Марыінгорад, прыйшлі паслы да вялікага князя Вітаўта з Масквы ад вялікага князя Васіля Дзімітрыевіча, просячы ў князя Вітаўта аддаць дачку замуж за князя маскоўскага. І князь вялікі Вітаўт аддаў дачку сваю, князёўну Сафію, замуж і адпусціў яе з Мальборка-горада, а з ёю паслаў князя Івана Альгімонтавіча. З горада Гданьска паплылі яны на караблях морам і прыплылі да Пернава і да горада Пскова. Там ім узнеслі вялікую пашану і ўрачыста праводзілі да Вялікага Ноўгарада, ноўгарадцы таксама пашану вялікую ім учынілі і з гонарам правялі да Масквы да вялікага князя Васіля Дзімітрыевіча. Князь Васіль насустрач князёўне паслаў з пашанаю братоў сваіх, князя Уладзімера Андрэевіча, князя Андрэя Дзімітрыевіча і шмат іншых князёў ды баяраў.

І сустрэлі вялікую князёўну Сафію з вялікаю пашанаю. Тады ж быў там свяшчэнны мітрапаліт Кіпрыян з архіепіскапамі ды епіскапамі, з архімандрытамі, з ігуменамі і з усім святарствам, і сустрэў яе ўрачыста з крыжамі перад горадам Масквою, і ўчыніў шлюб годны, і павянчаў вялікага князя Васілія Дзімітрыевіча з вялікаю князёўнаю Сафіяй. І было вяселле вялікае ды знакамітае, пашаны вартае немалы час. Мы ж да папярэдняга вернемся.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ НА ВЯЛІКІМ КНЯЖАННІ ЛІТОЎСКІМ СЕЎ]

Князь вялікі Вітаўт, будучы ў Прусіі, у Марыінгорадзе, у магістра, змовіўся з немцамі, з ліфлянтамі і з прусамі і, аддаўшы ім зямлю Жамойцкую за трыста тысяч залатых, пайшоў з усімі вышэйназванымі сіламі нямецкімі, а таксама са сваімі, ды з гарматамі, ды са шматлікімі іншымі прыладамі проста да Вільні здабываць горад і Вялікае княства.

Князь жа вялікі Скіргайла, уведаўшы пра тое, што вялікі князь Вітаўт ідзе з войскамі, сабраў сваю вялікую сілу літоўскую і рускую, і пайшоў насустрач вялікаму князю Вітаўту, і, апалчыўшыся, перайшоў Вяллю, і спыніўся на полі на Шашкінах[119]. А князь Вітаўт з сіламі нямецкімі, з абозам ды з гарматамі напаў з гары на Скіргайлу, і пачалі немцы з гарматаў біць па войску Скіргайлавым, і шмат вояў Скіргайлавых пабілі. Не вытрымалі войскі Скіргайлавы гарматаў нямецкіх і пачалі ўцякаць, а воі Вітаўтавы за імі гналіся і білі і вялікае мноства іх забілі, а астатнія самі ў рацэ Вяллі патанулі.

А князь вялікі Скіргайла сам пераплыў раку і ўцёк у Крывы горад, але князь вялікі Вітаўт аблажыў яго ў Крывым горадзе. Крывы горад быў дзераўляны, і раілі немцы Вітаўту, каб у горад з гарматаў не біў, бо, казалі, так дзераўлянаму гораду нічога не зробіш, а лепей загадаў бы біць з гарматаў угору, абстрэльваць навесам. Князь Вітаўт гарматы ўкапаў на Туравай гары, дзе князь Гедымін тура забіў, і загадаў біць па Крывой гары, і гарадні на ёй паабрынаў, і людзі ў горадзе страхам апанаваныя былі. А ў той час Вітаўт прыступ распачаў і рэшту горада ўзяў, а князя Скіргайлу адшукаў і ў палон узяў, а Крывы горад спаліў і сеў сам у Вільні і ў Вялікім княстве Літоўскім.

І кароль Ягайла паслаў да яго паслоў сваіх, мовячы так: «Не страчвай больш зямлі Літоўскае, бацькаўшчыны сваёй і нашай, ідзі, браце, з намі на мір і ў вялікую любоў братэрскую і вазьмі сабе вялікае княжанне ў Вільні, пасад дзядзькі свайго, вялікага князя Альгерда, і бацькі свайго, вялікага князя Кейстута». Князь жа вялікі Вітаўт сеў у Вільні і княстве Літоўскім, і пры ім былі князі Юры Нарымонтавіч Бельскі ды Іван Альгімонтавіч. І калі сеў Вітаўт на пасадзе дзядзькі свайго Альгерда і бацькі свайго Кейстута, радая яму была ўся зямля Літоўская і Руская.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ ВІЦЕБСК І ПАДОЛЛЕ ЗВАЯВАЎ, А ТАКСАМА ПРА СМЕРЦЬ КНЯЗЯ СКІРГАЙЛЫ]

Тады ж князь Карыбут Альгердавіч нешта пачаў задумваць супраць Вітаўта і не слухацца яго, стаў збіраць войска і, сабраўшыся з сіламі, пайшоў супраць Вітаўта. І сышліся войскі на месцы, званым Дакудава[120], і было пабіта войска Карыбутава войскам Вітаўтавым, сам жа князь Карыбут уцёк у Навагарадок з княгіняю і з дзецьмі. Князь жа Вітаўт, сабраўшы войска сваё, сам пайшоў к Навагарадку і, горад узяўшы, князя Карыбута з княгіняю і з дзецьмі ягонымі паланіў.

Потым памерла вялікая княгіня Альгердава. Кароль жа Ягайла аддаў горад Віцебск сакольнічаму свайму Фёдару Вясне. А ў той час князь Вітаўт не валодаў княствам Віцебскім, бо Свідрыгайла Альгердавіч атрымаў Крэва і Віцебск пасля бацькі свайго Альгерда. З-за гэтага Свідрыгайла меў вялікую крыўду і не мог зміріцца з тым, што Фёдар Вясна горадам і зямлёю Віцебскаю валодае, а яго не слухаецца. І ён Фёдара забіў і горад Віцебск забраў. І было вельмі крыўдна каралю Ягайлу, што так сталася. Напісаў ён грамату брату свайму, вялікаму князю Вітаўту, каб за тую крыўду той адпомсціў.

І князь Вітаўт, узяўшы з сабою Скіргайлу і сабраўшы войска вялікае, пайшоў да горада Віцебска на князя Свідрыгайлу. Прыйшоў ён спачатку да горада Друцка, і друцкія князі сустрэлі яго і аддаліся яму на службу. Адтуль пайшоў Вітаўт да Воршы, аршане ж замкнуліся ў горадзе і бараніліся два дні, але потым здаліся. А потым пайшоў ён да Віцебска на князя Свідрыгайлу. Князь жа Свідрыгайла зачыніўся ў горадзе. І пачаў вялікі князь здабываць горад. Да яго на

дапамогу прыйшоў вялікі князь смаленскі Юры Святаслававіч з усімі сіламі смаленскімі. І пачалі яны настойліва горад Віцебск здабываць і гарматы паставілі. Віцябляне ж, не ўстаяўшы, здаліся вялікаму князю Вітаўту. Князь жа Свідрыгайла выйшаў з горада і ўпакорыўся вялікаму князю Вітаўту. Вялікі ж князь Вітаўт, узяўшы Віцебск, зноў пайшоў да Вільні.

Тою ж зімою, бліжэй да вясны, князь вялікі Вітаўт пайшоў у зямлю Падольскую, а князь Уладзімер Альгердавіч, будучы ў Кіеве, не захацеў скарыцца, чалом ударыць вялікаму князю. І Вітаўт тою ж вясною прыйшоў і ўзяў гарады Жытомір ды Оўруч. І прыехаў да яго з Кіева князь Уладзімер. Тым жа летам, пад восень, вялікі князь вывеў яго з Кіева і даў яму Капыль, а ў Кіеве пасадзіў Скіргайлу Альгердавіча. Сам жа князь вялікі Вітаўт пайшоў на Падольскую зямлю, а князю Скіргайлу загадаў з Кіева пайсці да Чаркасаў і Звінігарада[121]. Князь жа вялікі Скіргайла з Божаю дапамогаю і па загадзе вялікага князя ўзяў Чаркасы і Звінігарад і зноў вярнуўся ў Кіеў.

І калі княжыў Скіргайла ў Кіеве, быў там чарнец — нейкі Фама Ізуфаў, ён трымаў намесніцтва мітрапалітава ў царкве святой Сафіі на мітрапалічым двары. Калі ж пажадаў князь Скіргайла ехаць за Дняпро ў ловы, той Фама паклікаў яго на мітрапалічы двор на баляванне. І нехта намовіў Фаму, каб даў князю Скіргайлу зелле атрутнае выпіць. І з бяседы князь Скіргайла паехаў за Дняпро да Мілаславічаў і там захварэў і, прыехаўшы да Кіева, на сёмы дзень памёр. І панеслі яго над галавамі святары са свечкамі, спяваючы песні адхадныя, з горада Кіева да святой Багародзіцы Пячорскай. І паклалі добрага ды цудоўнага князя Скіргайлу побач з трунoю святога Феадосія Пячорскага[122]. Пачуў князь вялікі Вітаўт, што Скіргайла памёр, і паслаў князя Івана Альгімонтавіча ў Кіеў, і даў яму трымаць горад. Пасля гэтага да папярэдняга вернемся.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ СМАЛЕНСК СУПАКОІЎ]

Вярнуўшыся ад немцаў на вялікае княжанне вялікі князь Вітаўт паслаў нявольніка, князя Глеба Святаслававіча, на вялікае княжанне ў Смаленск, а князю Юрыю Святасла-

вавічу даў горад Рослаўль[123]. Князь Глеб, будучы ў Смаленску, перастаў слухацца вялікага князя. Вітаўт жа паслаў сваіх паслоў да яго, але той ніякага пакорлівага адказу не даў. Тады князь Вітаўт з усімі сваімі сіламі пайшоў да горада Смаленска на князя Глеба Святаслававіча. Прыйшоўшы пад Смаленск, ён пусціў чутку, быццам бы ідзе на цара Тымір-Кутлуя, які выгнаў са свайго царства ў Літву цара Тахтамыша, брата свайго, а сам сеў на царстве. Пачуўшы тое, князь смаленскі Глеб Святаслававіч выехаў да яго з колькімі воямі. Вітаўт жа, ушанаваўшы і адарыўшы яго, з любоўю адпусціў, сказаўшы яму так: «Чуў я, што ты з братамі сваімі не ў адзінстве і не ў згодзе жывеш, таму прыедзьце да мяне ўсе, і я тое між вамі ўладжу і вас у любоў звяду». Так ён выманіў іх з горада хітрасцю. Яны ж, браты Святаслававічы, паверыўшы яму, прыехалі да яго з дарамі, прыехалі і ўсе князі ды баяры смаленскія, і не засталося ніводнага ў горадзе. Вітаўт жа, захапіўшы ўсіх іх, паслаў у Літву, аднаму толькі князю Глебу Святаслававічу даў горад Палонны[124], вялікае ж княжанне смаленскае даў князю Яманту ды Васілю Барэйкавічу.

А князь Юры Святаслававіч тады быў у Разані ў цесця свайго, князя Алега Іванавіча. Князь жа вялікі Вітаўт паслаў князя Сямёна Лінгвена са шматлікім войскам ды са смаленскімі сіламі на князя разанскага Алега, і Сямён Лінгвен паланіў багата зямлі Разанскае і з вялікім здабыткам вярнуўся да Вітаўта.

Тою ж зімою, пад вясну, прыехаў вялікі князь маскоўскі Васіль Дзімітрыевіч да цесця свайго, вялікага князя Вітаўта, у Смаленск і ўшанаваў вялікага князя багатымі дарамі, ланцугамі залатымі ды паясамі, сабалямі, камкамі*, залатым начыннем і бахматамі**. Князь жа вялікі Вітаўт зяця свайго, вялікага князя [маскоўскага], таксама ўшанаваў і адарыў рознымі дарамі, перламі і дарагімі аксамітамі, шматкаштоўнымі камкамі ды гінштамі*** ў залатых сёдлах і шматлікімі іншымі дарагімі рэчамі і адпусціў яго ў Маскву з вялікаю пашанаю, а сам паехаў у Літву.

---

* Камка — кшталт дарагой шаўковай тканіны.

** Бахмат — турэцкі конь.

*** Гіншт — конская парода.

# [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ ХАДЗІЎ ВАЯВАЦЬ ТЫМІР-КУТЛУЯ І ПРА ПАДЗЕІ Ў СМАЛЕНСКУ]

У год 6906[125] было пабоішча* вялікага князя Вітаўта з царом Тымір-Кутлуем. Князь вялікі Вітаўт сабраў войска незлічонае: цар Тахтамыш са сваім войскам, літва, паляне, немцы, ляхі, жамойць, татары, валахі** і пяцьдзесят рускіх князёў; і з усімі сіламі ўзброіўся, і пайшоў на цара Тымір-Кутлуя, каб захапіць царства ягонае, і, хвалячыся перад Ардою, сказаў так: «Пойдзем палонім зямлю Татарскую, паб'ём цара Тымір-Кутлуя і пасадзім цара Тахтамыша, а ён нас пасадзіць на ўсёй Рускай зямлі», і, пра тое ўмовіўшыся, пайшлі татараў ваяваць.

Тым часам паспеў з'явіцца цар Тымір-Кутлуй са шматлікімі палкамі ратнымі, з усімі сіламі сваімі ардынскімі, і сустрэліся яны з Вітаўтам на полі каля ракі Ворсклы[126], і адбыўся паміж імі бой вялікі дванаццатага жніўня, у аўторак. Доўга яны біліся — амаль увесь дзень. І дапамог Бог татарам, і пабілі яны вялікага князя Вітаўта і ўсё ягонае войска, сам жа вялікі князь уцёк з малою дружынаю. Цар жа Тымір-Кутлуй, перамогшы Вітаўта, прыйшоў да Кіева, і ўзяў з горада выкупу тры тысячы літоўскіх рублёў, і ўсю сілу сваю распусціў па Літоўскай зямлі, і ваявалі татары аж да Вялікага Луцка і, многа зла ўчыніўшы, адышлі да сябе.

Вось імёны забітых літоўскіх князёў: князь полацкі Андрэй Кейстутавіч, брат ягоны князь бранскі Дзімітры; князь Іван Дзімітрыевіч Скіндыр; князь Андрэй Дзімітрыевіч, пасынак ягоны; князь Іван Еўлашковіч; князь кіеўскі Іван Барысавіч; князь смаленскі Глеб Святаслававіч; князь Глеб Карыятавіч; брат ягоны князь Сямён; князь Міхайла Падбярэскі; брат ягоны князь Дзімітры; князь Фёдар Патрыкіевіч Вольскі; князь Ямантавіч; князь Іван Юр'евіч Бельскі; там жа забіты быў і пан кракаўскі з Ляхаў — Спытка.

У год 6909 [1401] князь Юры Святаслававіч ды князь разанскі Алег прыйшлі з войскам да Смаленска. У той час быў там мяцеж і нязгода: адныя хацелі Вітаўта, другія — князя Юрыя, бацькавага спадкаемца. Князь Юры абмяняўся пасламі са смалянамі, і яны яго прынялі і горад яму адчынілі. Тут жа ў

---

* Гаворка ідзе пра падзеі 1399 г.

** Малдаваны.

заставе* быў і князь бранскі Раман, Вітаўтаў чалавек. Яны яго самога пакутліваю смерцю забілі, а княгіню і дзяцей адпусцілі, намеснікаў жа Вітаўтавых схапілі, а баяраў, якія не хацелі князя Юрыя, смаляне ды бранцы ўсіх іх пасеклі. Пачуў пра тое вялікі князь і сышоўся з братам сваім, польскім каралём Ягайлам-Уладзіславам. Тою ж восенню прыйшлі яны да Смаленска, і князёў Юрыя Святаслававіча і Алега разанскага са Смаленска выгналі, і горад і ўсю зямлю Смаленскую занялі, і, уцвердзіўшы ды ўмацаваўшы ўсіх людзей у Смаленску, пайшлі ў Літву.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ КАРАЛЮ ЯГАЙЛУ ЖОНКУ САСВАТАЎ]

Едучы назад, вялікі князь Вітаўт і кароль Ягайла заехалі ў Друцк і былі на абедзе ў князя друцкага Сямёна Дзімітравіча. У караля Ягайлы ўжо трэцяя жонка была памерла без плода, ды ён пабачыў у князя Сямёна дзвюх яго прыгожых пляменніц, старэйшая Васіліса, празваная Бялухаю, а малодшая Соф'я. І прасіў Ягайла Вітаўта, кажучы так: «Было ў мяне тры жонкі, дзве ляхавіцы, а трэцяя нямкіня, але плода з імі не меў. А цяпер прашу цябе, з'яднай мне ў князя Сямёна сястрычну яго меншую Соф'ю, я за сябе замуж яе ўзяў бы, можа, хоць з роду рускага мне Бог дзяцей даў бы». І калі князь Вітаўт пачаў гаварыць пра тое князю Сямёну, той адказаў: «Гаспадару вялікі княжа Вітаўце! Кароль Ягайла — брат твой каранаваны і гаспадар вялікі. Не магло б быць маёй пляменніцы лепей, як за яго міласць замуж пайсці, але ж не хачу я рабіць ганьбу і сорам яе старэйшай сястры тым, што малодшая раней за старэйшую замуж пайшла б. Дык няхай бы яго міласць старэйшую ўзяў». І калі князь вялікі Вітаўт пра гэта каралю Ягайлу паведаў, той яму адказаў: «Я і сам ведаю, што старэйшая сястра цудоўнейшая, але мае вусы, а гэта азначае, што дзеўка яна моцная, я ж чалавек стары — не смею на яе спакусіцца».

Потым князь вялікі Вітаўт з князем Сямёнам, памысліўшы, выклікалі да сябе князя Івана Уладзімеравіча

* Застава — гарадскі гарнізон.

Бельскага, братаніча* свайго, і ўгаварылі яго ажаніцца са старэйшаю сястрою Васілісаю Бялухаю, а Соф'ю заручылі з каралём Ягайлам. А тыя сястрычны князя Сямёна былі дочкі князя Андрэя Альгімонтавіча Гальшанскага. Потым кароль Ягайла прыслаў паноў знакамітых з Ляхаў, і тыя, узяўшы княжну Соф'ю, адвезлі да яго ў Кракаў. Ён жа, знакамітае вяселле зладзіўшы, узяў яе замуж, і каранавалі яе. І меў Ягайла з ёю двух сыноў: аднаго — Уладзіслава, які потым стаў каралём вугорскім і польскім, а другога — Казіміра, які пазней стаў каралём польскім і вялікім князем літоўскім.

## [ПРА КРЫЎДУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ АД МАСКОЎЦАЎ]

У год 6910 [1402] месяца чэрвеня сёмага дня, праз тры гадзіны пасля ўзыходу сонца, калі пяюць абедню, згінула сонца і схавала промні свае, і зоркі з'явіліся, як уночы, і свяцілі тры гадзіны. Пасля таго знаку з вялікім князем Вітаўтам адбылося такое. Быў ён у прыязнасці з зяцем сваім, вялікім князем маскоўскім Васілём Дзімітрыевічам, а мужыкі маскоўскія, прыйшоўшы пад Пуціўль, паграмілі на Ціхай Сасне[127] сеўрукоў[128], падданых Вітаўтавых, і забралі ў іх двух баброў ды тры кадаўцы мёду. І Вітаўт паслаў да вялікага князя маскоўскага, каб, вінаватых адшукаўшы, пакараў, а за шкоду ягоным сеўрукам заплаціў. Ды вялікі князь маскоўскі тое ў нядбанні пакінуў. І князь Вітаўт, не хочучы таго трываць, сабраў войска сваё супраць князя маскоўскага і, помсцячы за крыўду, багата папаліў, і паваяваў, і папаланіў паблізу рэк Угры[129] і Акі.

Князь маскоўскі, пачуўшы пра тое, паслаў да цесця свайго, вялікага князя Вітаўта, мовячы так: «Гаспадару княжа вялікі Вітаўце! Ты мне як бацька, гневу на мяне не май, я ў тым не вінаваты, што ліхія людзі без майго ведама ўчынілі. Калі б я тых ліхіх людзей знайшоў, якія сеўрукам тваім шкоду зрабілі, я табе выдаў бы іх з галавою. Паколькі ж я не магу іх знайсці, загадаю тую шкоду табе вызначыць, і таму на мяне не гневайся і земляў маіх не спусташай, а лепей няхай твая міласць са мною сустрэнецца».

* Братаніч — пляменнік, сын брата.

Князь вялікі Вітаўт на просьбу ягоную прыехаў да ракі Угры, узяўшы з сабою аднаго пана, іменем Андрэй. І князь вялікі маскоўскі, убачыўшы цесця з-за ракі, узяў з сабою таксама аднаго баярына. Яны ўехалі на конях да сярэдзіны ракі Угры, і пачаў князь маскоўскі прасіць вялікага князя Вітаўта, каб таксама ў раку ўехаў і з ім пабачыўся. І князь вялікі Вітаўт, увайшоўшы ў раку з панам Андрэем, прывітаўся з князем вялікім маскоўскім. І пасля доўгае размовы яны мір паміж сабою ўчынілі і мяжу паміж землямі сваімі па Угры-рацэ палажылі. І паслаў Вітаўт пана Андрэя да войска свайго паведаміць, што ўжо з вялікім князем маскоўскім Васілём Дзімітрыевічам мір заключыў. Андрэй жа сказаў князю Вітаўту: «Не сапраўдны мір, калі кровапраліцця між гаспадарамі не было». І Вітаўт адказаў: «Браце мілы! Што сталася, таго не мінуць, і я слова свайго ніяк адмяніць не хачу, няхай ужо будзе спакой». Па гэтай прычыне пана Андрэя празвалі Нямірам і, пачынаючы з яго, назвалі род ягоны Няміравічамі. Затым вялікі князь Вітаўт з зяцем сваім, вялікім князем маскоўскім Васілём Дзімітрыевічам, мір ды спакой вечны заключыўшы і мяжу па Угры-рацэ палажыўшы, раз'ехаліся з усімі людзьмі сваймі розна.

## [ЯК КНЯЗЬ ВІТАЎТ НОЎГАРАД І ПСКОЎ ЗВАЯВАЎ]

Потым князь вялікі Вітаўт паслаў сваіх паслоў да Вялікага Ноўгарада і Пскова, каб яго гаспадаром сваім лічылі і даніну яму давалі, кажучы ім: «Даніну даяце зяцю майму, князю маскоўскаму Васілю, майму галдоўніку*, а мне, прыроджанаму гаспадару — не хочаце даваць». Але ноўгарадцы і псковічы на тых паслоў зусім не зважалі і даніны даваць не хацелі. І князь вялікі Вітаўт сабраўся з усімі сваімі сіламі, і пайшоў на зямлю Ноўгарадскую, і стаў пад горадам Порхавам[130], і стаяў там шэсць месяцаў, і, не здабыўшы горада, пайшоў па зямлі Ноўгарадскай і Пскоўскай, спусташаючы, палячы, беручы ў палон.

На наступны год пайшоў князь вялікі Вітаўт пад гарады пскоўскія, але не здабыў гарадоў пскоўскіх — Веліж[131] і Красны горад[132]. Псковічы, хочучы, каб Вітаўт больш іх зямлі не спусташаў, прыслалі сваіх паслоў да вялікага князя Вітаўта,

* Галдоўнік — васал.

згаджаючыся, каб ён гаспадаром у іх быў, хочучы слухацца яго, даніну яму кожны год даваць і намесніка ягонага ў сябе мець. І князь вялікі пасадзіў намеснікам у іх князя пінскага Юрыя, празванага Нос, а сам пайшоў пад Ноўгарад з усімі сіламі. Ноўгарадцы ж, бачачы тое, што псковічы Вітаўту здаліся і намесніка ягонага прынялі, і, не хочучы больш трываць шкоды ад яго ў зямлі сваёй, паслалі да яго паслоў сваіх яму служыць і даніну даваць і, гэткім чынам, як і псковічы, за гаспадара яго мець. І князь Вітаўт прызначыў у іх намеснікам швагра свайго, князя Сямёна Гальшанскага, празванага Лютым. І давалі ноўгарадцы даніну князю вялікаму Вітаўту кожны год па дзесяць тысяч залатых і сорак гінштаў, якіх зараз называюць фрызамі, ды сорак нагольнікаў*, сорак саракоў сабалёў, сорак саракоў рысяў, сорак саракоў куніц, сорак саракоў лісіц, сорак саракоў гарнастаяў, сорак саракоў вавёрак, і штогод ноўгарадцы па столькі давалі ў скарб вялікага князя літоўскага Вітаўта. А псковічы давалі палову таго, што ноўгарадцы, як залатых і коней, так і звера махнатага.

І князь вялікі Вітаўт, расшырыўшы гаспадарства ад мора да мора, шмат гадоў жыў. І меў ён трох жонак: першая была Ганна, дачка князя смаленскага Святаслава, другая — Мар'я, дачка князя лукомскага і старадубскага[133] Андрэя, трэцяя — Улляна, дачка князя Івана Альгімонтавіча Гальшанскага, сястрычна родная князя Сямёна Лютага і князя вязанскага[134] Андрэя, таго самага Андрэя, чыю дачку Соф'ю, маці Уладзіслава і Казіміра, узяў замуж кароль Ягайла.

## [ПРА СЕЧУ ПАД ДУБРОЎНАМ[135]]

У год ад пачатку свету 6921, а ад Божага нараджэння 1412[136] пачалася вайна караля польскага Уладзіслава Ягайлы і брата ягонага, вялікага князя літоўскага Вітаўта з немцамі прускімі. І сабралі яны разам войскі вялікія з абодвух бакоў: з аднаго боку кароль Ягайла з усёю моцаю Кароны Польскае, а князь вялікі Вітаўт з усімі сіламі літоўскімі і рускімі і са шматлікімі татарамі ардынскімі, а з другога боку магістар прускі са сваімі сіламі і з усёю сілаю нямецкаю. І калі войскі з абодвух бакоў былі гатовыя, кароль Ягайла і вялікі князь

* Нагольнік — футравая вопратка.

Вітаўт пайшлі на бітву ўсё благімі ляснымі дарогамі, а поля роўнага ды шырокага, дзе маглі б для бітвы спыніцца, не знаходзілі, бо палі роўныя ды вялікія былі толькі пад местам нямецкім Дуброўнам. І бачылі немцы, што ляхі ды літва з такімі вялікімі войскамі не маглі нідзе больш спыніцца, толькі на тых палях, і таму пакапалі яміны і прыкрылі іх, каб туды коні ды людзі пападалі.

Калі кароль Ягайла і князь вялікі Вітаўт з войскамі сваімі мінулі лясы і прыйшлі на тыя Дубровенскія палі, тады найвышэйшым гетманам у войску Ягайлавым быў пан Сокал Чэх, а дворным гетманам — пан Спытка Спыткавіч, а ў Вітаўтавым войску старшым гетманам быў князь Іван Жэдзівід, брат Ягайлаў ды Вітаўтаў, а дворным гетманам — пан Ян Гаштольт. І пачалі тыя вышэйназваныя гетманы людзей шыхтаваць, а пра тыя яміны, што на іх немцы пакапалі, нічога не ведалі, і, шыхтуючы войска, гетманы князь Іван Жэдзівід ды пан Сокал у яміны пападалі, і ногі сабе паламалі, і вельмі абразіліся*, ад чаго і памерлі. І не адным гетманам, але і многім людзям ад тых ямаў шкода вялікая сталася. Кароль жа Ягайла і вялікі князь Вітаўт, бачачы, што гетманы іхнія найвышэйшыя ў такую прыгоду трапілі, на дзве пасады гетманскія іншых абралі: кароль прызначыў на Сокалава месца пана Спытку, а Вітаўт паставіў Яна Гаштольта. Абралі і загадалі войскі рыхтаваць ды харугвы да бітвы ставіць, а тых ямін здрадлівых асцерагацца.

А потым гетманы, войска падрыхтаваўшы, рушылі на бітву, а немцы, пабачыўшы тое, таксама пачалі з імі сутычкі, і з парання пачалася бітва між немцамі і войскамі літоўскімі, і вялікае мноства вояў з абодвух бакоў, літоўскага і нямецкага, палегла. Вялікі князь Вітаўт, бачачы, што войскі ягоныя моцна вельмі пабітыя, а ляхі ніякае дапамогі ім чыніць не хочуць, прымчаў да свайго брата караля Ягайлы, а той імшу слухае. І сказаў яму Вітаўт: «Ты імшу слухаеш, а князі ды паны, браты мае, ледзьве не ўсе забітыя ляжаць, а твае людзі ніяк дапамагчы ім не хочуць». А той адказаў яму: «Мілы браце, ніяк іначай учыніць не магу, толькі імшу даслухаць мушу», і загадаў свайму каморнаму** гуфу ісці на паратунак.

І той гуф рушыў з войскам літоўскім на немцаў, і дашчэнту іх разбілі; і самога магістра і комтураў ягоных да смерці

---

* Абразіцца — знявечыцца, параніцца.

** Каморны — ахоўны.

забілі і незлічонае мноства немцаў паланілі ды пабілі. А іншыя войскі ляшскія ім не дапамагалі, толькі на тое глядзелі. Потым войска польскае і літоўскае, немцаў разбіўшы, шмат гарадоў ды зямель іхніх пабраўшы, а астатнія дашчэнту зруйнаваўшы ды выпаліўшы і ўсю зямлю спустошыўшы, з вялікаю пашанаю і з невымоўным звыцяжствам, на ўвесь свет выдатную славу здабыўшы, у свае землі вярнуліся. Харугвы ж нямецкія і бароды магістраву ды ўсіх комтураў ягоных, з мёртвых абадраўшы, палову ўзялі ў Польшчу, а палову ў Літву. Тыя бароды і харугвы ў замку Кракаўскім, у касцёле святога Станіслава, і ў Вільні, таксама ў касцёле святога Станіслава, вывешаныя былі.

## [ПРА ДАМОВУ КАРАЛЯ ЯГАЙЛЫ З КНЯЗЕМ ВІТАЎТАМ]

Пасля таго пабоішча, на пачатку зімы, з'ехаліся Вітаўт з каралём Ягайлам у горадзе Перамышлі[137], калі абодва былі яшчэ ў добрым здароўі, і пачаў гаварыць кароль Ягайла брату свайму, вялікаму князю Вітаўту, так: «Мілы браце, меў я трох жонак, а цяпер узяў чацвёртую, рускую, але ні ад адной дзяцей не маю, і ты таксама дзяцей не маеш. Давай так між сабою дамовімся і прысягнем, што калі я буду мець дзяцей, а ты не будзеш мець, няхай мае дзеці будуць у Кароне і Вялікім княстве панаваць пасля нас, а як у мяне дзяцей не будзе, а ў цябе будуць, тады няхай твае дзеці ўсім будуць валодаць». І князь вялікі Вітаўт на тое згадзіўся, і паны польскія ды літоўскія прысягу далі, а кароль з Вітаўтам падпісалі дамову, што калі б пасля іх смерці кароль Ягайла не пакінуў дзяцей, а Вітаўт пакінуў, тады ляхі не абіралі б на каралеўскі пасад іншага пана, але толькі — з дзяцей Вітаўтавых, каб панаваў і ў Кароне і ў Вялікім княстве Літоўскім. А калі б у Вітаўта не было дзяцей, а ў Ягайлы былі, тады Літва не мела б права іншага пана браць на княжанне літоўскае, як толькі каралеўскага сына. І паны ляшскія ды літоўскія, пачуўшы пра тое, таксама між сабою дамову падпісалі і прысягу гаспадарам сваім далі, што пасля іх смерці гаспадара сабе не браць, толькі дзяцей іхніх; так вырашыўшы, раз'ехаліся розна.

## [ПРА ВЫЗВАЛЕННЕ І ХРОСТ ЖАМОЙЦІ]

На другі год жамойты, не хочучы больш пад немцамі быць, пабілі намеснікаў, пастаўленых прускімі немцамі. Немцы, прусы і ліфлянты, пачалі войска на іх збіраць на Палонцы, хочучы іх зноў пад сваю моц падбіць*. А жамойты, сабраўшыся, там жа войска нямецкае з гор каменнем пабілі і, пабіўшы немцаў, прыслалі да Вітаўта паведаміць: калі хоча ім панам быць, няхай іх ужо нікому не аддае ў заклад, а валодаў бы імі сам і гаспадаром у іх быў бы. І Вітаўт іх да сябе прыняў.

Потым немцы прыслалі сваіх паслоў да вялікага князя Вітаўта, нагадваючы яму, каб вярнуў тыя трыста тысяч залатых, за якія была закладзена Жамойць. Князь Вітаўт адказаў: «Як я вам аддаў быў у заклад Жамойць, так яе і цяпер ад вас не адбіраў, глядзіце сабе і цяпер на Жамойць, а грошай вярнуць не магу, бо не маю». Але неўзабаве Вітаўт пачаў грошы збіраць і, сабраўшы залатыя, адаслаў іх у цэласці. Немцы, залатыя ўзяўшы, ужо на Жамойць больш не нападалі і пакінулі ў супакоі, бо былі разбіты і спустошаны Ягайлам, Вітаўтам ды жамойтамі.

У тым жа годзе Вітаўт фундаваў біскупства Жамойцкае, і збудаваў касцёл святога Пятра ў Медніках, якія зараз жамойты называюць Варнянамі[138], і канонікаў запрасіў, і касцёлу надаў, і ўсю Жамойць загадаў хрысціць з веры паганскае ў веру хрысціянскую. І ахрысціў ён усю зямлю Завельскую і касцёлаў шмат паставіў; таму і назвалі Вітаўта другім апосталам Божым, што ён з такога акрутнага* паганства навярнуў тыя землі на веру хрысціянскую.

## [ЯК ЦЭСАР І ВАЛАДАРЫ ХРЫСЦІЯНСКІЯ ДАЗВОЛІЛІ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ КАРАЛЁМ СТАЦЬ]

Потым, на пачатку зімы, князь вялікі Вітаўт запрасіў караля Ягайлу да сябе ў Белавежу[139] на пацеху — у ловы на зуброў. Кароль Ягайла прыехаў да яго з каралеваю Сафіяй. І пасля тых ловаў прасіў князь Вітаўт караля Ягайлу, каб паехаў з ім

* Пад моц падбіць — падпарадкаваць.

** Акрутны — злосны, зацяты.

да Вільні і ўсю зіму з ім там супольна перазімаваў у пацехах ды забавах.

Калі кароль быў у Вітаўта ў Вільні, пачаў казаць ён брату свайму, вялікаму князю Вітаўту: «Мілы браце, узяў я жонку маладую, а сам чалавек летны*, не спадзяюся ўжо дзяцей мець, а ты дужэйшы за мяне і можаш яшчэ дзяцей мець ад сваёй жонкі, таму раю табе, каб ты звярнуўся да цэсара** з такою справаю, каб ты мог каралём стаць, і я табе хачу дапамагчы перад цэсарам і перад папам». І князь вялікі Вітаўт адказаў: «Як жа я магу да цэсара звярнуцца, калі ані я цэсара не ведаю, ані ён мяне, аднак жа хачу наладзіць вялікую ўрачыстасць і цэсара і іншых гаспадароў-хрысціянаў да сябе ў Луцк запрасіць». Каралю Ягайлу гэта спадабалася, і раіў ён, каб Вітаўт так і ўчыніў. І, адарыўшы вельмі каштоўнымі дарамі караля Ягайлу, вялікі князь Вітаўт яго ў Польшчу з пашанаю адпусціў, а сам пачаў да таго рыхтавацца, каб цэсара і гаспадароў хрысціянскіх у сябе прыняць.

На другую зіму паслаў князь Вітаўт сваіх паслоў да цэсара хрысціянскага, да караля дацкага, да князёў паморскіх, да князёў сілезскіх[140] і нямецкіх, да зяця свайго, вялікага князя маскоўскага, да вялікага князя цверскага, да вялікага князя разанскага, да цара перакопскага[141], да ваяводы валашскага і да іншых валадароў хрысціянскіх, жадаючы, каб яны прыехалі да яго. І прыехалі да Вітаўта цэсар хрысціянскі, які ў той час быў яшчэ і каралём вугорскім і чэшскім, — Зыгмунт, і кароль польскі Ягайла, Вітаўтаў брат, і кароль дацкі, і цар перакопскі, і вялікі князь разанскі, і вялікі князь маскоўскі, Вітаўтаў зяць, і вялікі князь цверскі Барыс Аляксандравіч, і магістар прускі і ліфлянцкі, і князь адоеўскі[142], і князь перамышльскі, і князі навасільскія[143], і ваявода валашскі, і вялікія паслы ад цара грэцкага Іаана Палеалога[144], і князь мазавецкі, і шмат іншых князёў ды валадароў хрысціянскіх ды розных гасцей.

І даваў князь вялікі Вітаўт гасцям сваім утрыманне вялікае: выходзіла на іх аброкаў штодня: мёду сычонага па семсот бочак, апрача мушкатэлю***, мальмазіі**** ды іншых напояў і він размаітых; ялавіц, бараноў, вепрукоў таксама па семсот, зуброў па шэсцьдзесят, ласёў па сто, апрача іншай рознай зве-

---

* Пажылы.

** Цэсар — тут: імператар.

*** Мушкатэль — мускат.

**** Мальмазія (мальвазія) — гатунак салодкага вінаграднага віна.

рыны, многіх мясных ды іншых хатніх страў. І прымаў вялікі князь Вітаўт у сябе тых гасцей сем тыдняў. Цэсар, бачачы, што Вітаўт ім такую вялікую пашану ўчыніў і так гасцінна іх частаваў, і да таго ж бачачы багацце яго вялікае, сам сказаў яму: «Княжа вялікі Вітаўце, бачым, што ты князь багаты ды вялікі, а да таго яшчэ і новы хрысціянін, і годна б табе быць уладаром каранаваным і між намі, каралямі хрысціянскімі, быць братам». І князь вялікі, пачуўшы гэта ад цэсара, зразумеў волю цэсарскую і тады ж разам з братам сваім, каралём Ягайлам, прасіў цэсара, каб ён на тое пагадзіўся і карону яму дазволіў мець і каб паслаў да святога айца папы, і той, пасвяціўшы карону, даў яе князю вялікаму Вітаўту. Цэсар на тое пагадзіўся і тады ж адправіў паслоў сваіх да папы, жадаючы, каб айцец святы даў карону Вітаўту паводле звычаю хрысціянскага. І князь вялікі Вітаўт адправіў у Рым да папы разам з тым паслом цэсарскім сваіх паслоў — пана Сямёна Дзедыголдавіча ды пана Шэдзібора, брата Кезгайлавага, — з лістамі каралёў хрысціянскіх.

## [ПРА ЗАДЗІНОЧАННЕ ШЛЯХТЫ ЛІТОЎСКАЕ З ПОЛЬСКІМІ ПАНАМІ, А ТАКСАМА ПРА СМЕРЦЬ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВІТАЎТА]

Потым цэсар выклікаў да сябе караля Ягайлу і пачаў яму казаць: «Бачу сам, што вы з Вітаўтам па-братэрску жывяце, але паны літоўскія вельмі ваяўнічыя, і таму трэба, каб яны гаспадара свайго, вялікага князя Вітаўта, не намовілі ваяваць супраць цябе і каб табе вайною прыкрасцяў не ўчынілі, а таму раю табе: схіляй князя Вітаўта да таго, каб ён паноў сваіх угаварыў задзіночыцца* з панамі Кароны Польскае, каб парадніліся між сабою, і гербы падавалі адзін аднаму, і праз тое запрыязніліся і пабраталіся. Калі ж яны парадняцца, то панам літоўскім ужо нельга будзе ісці вайною на цябе і на зямлю Польскую». І Ягайла папрасіў цэсара, каб тымі ж словамі намаўляў Вітаўта.

Калі Вітаўт быў у цэсара, той вялікаму князю тыя словы сказаў. Вітаўт жа яму адказаў: «Я такога не магу ўчыніць без волі сваіх паноў-рады» і прасіў цэсара, каб той прысутнічаў,

* Аб'яднацца.

калі ён будзе гаварыць тыя словы панам сваім; што яго міласць цэсар, гаспадары хрысціянскія і брат мой, кароль Ягайла, хочуць, каб між нашымі гаспадарствамі мір быў, а паміж вамі братэрства і прыязнь была і каб вы з панамі ляшскімі пабраталіся і гербы ў іх узялі.

Цэсар таксама пачаў панам літоўскім казаць, што паны ляшскія ніяк не маглі мір устанавіць паміж Чэшскім і Польскім каралеўствамі і заўсёды паміж гэтымі дзяржавамі войны былі, а як толькі паны ляшскія з панамі чэшскімі праз тое пабраталіся, што ляхі пабралі сабе гербы ў паноў чэшскіх, і такім чынам парадніліся, і з тых часоў варажнеча між імі знікла, і цяпер яны ў міры жывуць.

Паны ж літоўскія і цэсару і князю вялікаму Вітаўту так сказалі: «Міласцівы цэсару і гаспадару наш, вялікі княжа Вітаўце! Ляхі не былі шляхтаю, а былі людзьмі простымі і не мелі гербаў сваіх, і за вялікія дары дамагліся іх у чэхаў. Атрымаўшы такія вялікія скарбы ад ляхаў, чэхі і гербы свае ім перадалі, і шляхтаю іх зрабілі, і ў свае гербы іх прынялі. Але мы — шляхта старая, рымская, продкі нашыя са сваімі гербамі прыйшлі ў гэтае гаспадарства і іх ужывалі, так і мы цяпер іх маем і ўжываем, а таму нам не трэба ніякіх новых гербаў, бо трымаемся сваіх старых, што нам продкі пакінулі». І цэсар адказаў панам літоўскім: «Мы пра тое і самі ведаем, што вы старая рымская шляхта, але гербы прыміце ў ляхаў не дзеля шляхецтва, бо вы — шляхта старэйшая і даўнейшая, чым ляхі, а гербы ў іх прыміце дзеля еднасці і братэрства паміж вамі, бо калі гербы адзін у аднаго возьмеце, то братамі станеце і павінны будзеце адзін аднаму спрыяць».

І потым Вітаўт схіліў да замірэння паноў сваіх, каб з ляхамі пабраталіся, і гербы ад іх пабралі дзеля таго, каб варажнечаю не ўчынілі перашкодаў яго каранаванню, ды мовіў ім так: «Калі карону прывязуць, вы можаце лісты іхнія ім назад адаслаць і іхніх гербаў не браць, а свае старыя ўжываць». І паны літоўскія, чуючы тыя словы ад гаспадара ды зычачы яму кароны, на тое прызволілі*.

Потым князь вялікі Вітаўт цэсараў і ўсіх гасцей, якія на тым з'ездзе былі, адарыўшы знакамітымі і вельмі каштоўнымі дарамі, адпусціў. Між іншымі дарамі вялікі князь Вітаўт адарыў цэсара вялікім туравым рогам, рогам таго самага тура,

* Прызволіць — згадзіцца.

што князь вялікі Гедымін забіў на гары ў Вільні, якую цяпер завуць Туравай.

Пасля таго вялікі князь Вітаўт жыў тры гады. І аднаго разу запрасіў ён да сябе караля Ягайлу на ловы. І калі Ягайла прыехаў да Вітаўта, той занямог і памёр. Адбылося гэта ў год 6901 ад пачатку свету, а ад Божага нараджэння 1430 месяца кастрычніка 23 дня.

А тым часам пан Сенька з панам Шэдзіборам, братам пана Кезгайлы, ехалі з каронаю з Рыма, ад папы. Да гэтага жылі яны ў Рыме тры гады, бо ў Валохах* была вайна і яны не асмельваліся ехаць з каронаю. Вестка аб смерці вялікага князя Вітаўта застала іх у Львове. А ляхі, не хочучы, каб Літва стала каралеўствам, аднялі ў іх тую карону і, рассекшы яе на паловы, прыклалі паловы да кароны біскупа кракаўскага, якая і зараз захоўваецца ў Кракаўскім замку, у касцёле святога Станіслава.

Кароль Ягайла брата свайго, вялікага князя Вітаўта, шкадаваў і плакаў па ім, як адзіны брат па любімым браце. Так з вялікім плачам і пахаваў яго; і былі там усе слугі ягоныя і ўсе біскупы, і песні звычаёвыя над ім спявалі. Паклалі ягонае цела ў Вільні, у замку, у касцёле святога Станіслава, з левага боку ад алтара, каля дзвярэй у закрыстыю.

## [ЯК КНЯЗЬ ЖЫГІМОНТ КЕЙСТУТАВІЧ СЕЎ НА ВЯЛІКАЕ КНЯЖАННЕ ЛІТОЎСКАЕ]

Пасля смерці вялікага князя Вітаўта кароль Ягайла прасіў князёў і паноў літоўскіх, каб яны ўзялі сабе за гаспадара яго роднага брата князя Свідрыгайлу. І паны літоўскія ў бытнасць караля Ягайлы пасадзілі на вялікім княжанні літоўскім і рускім князя вялікага Свідрыгайлу.

І панаваў вялікі князь Свідрыгайла два гады ва ўсіх вялікіх княствах літоўскіх, і прыехаў пасля да яго з Польшчы на ловы кароль Ягайла. Князь Свідрыгайла немалы час прымаў яго з вялікаю пашанаю ў горадзе Вільні, потым прыйшоў да яго ў пакой і пачаў яму так з гневам гаварыць: «Браце мілы, чаму ты зямлю Падольскую трымаеш, бацькаўшчыну зямлі Літоўскай. Вярні мне яе, а калі не захочаш яе мне вярнуць, я

* Валохі — тут: Італія.

цябе з Літвы не выпушчу». І князь Свідрыгайла схапіў караля Ягайлу і яго пад варту пасадзіў. А Ягайла пачаў яму гаварыць: «Браце мілы, я Падольскае зямлі ў цябе не адымаю, але ёсць братанка* нашая, спадкаеміца тае зямлі Падольскай, княгіня Сафія Жэдзівідаўна, жонка князя Міцькі Зубравіцкага. Яна ў мяне, у дзядзькі свайго, апекі ды абароны папрасіла, бо хоць і трымаю я тую зямлю, але ўвесь прыбытак яна сабе бярэ».

І пачаў кароль Ягайла, плачучы, наракаць на князя Свідрыгайлу і казаў яму: «Браце мілы, ты брат мой малодшы, я табе як бацька, а ты мне, брату свайму старэйшаму, такую прыкрасць ды сарамоту ўчыніў. Як жа ты пасмеў над братам сваім старэйшым, як над сваім бацькам, такое ўчыніць і да барады маёй кінуцца, чаго табе не гожа было рабіць са мною, са старшым братам, да таго ж памазаннікам Божым, гаспадаром хрысціянскім, славутым каралём, і пасмеў у вязніцу пасадзіць. Я так разумею, што ты гэта ўчыніў не са сваёю радаю, але са свайго розуму». І пачаў ён гаварыць князям і панам-радзе літоўскім: «Князі ды панове-рада Вялікага княства, верныя слугі брата майго, памятаеце, за жыццём брата майго, вялікага князя Вітаўта, гаспадара вашага, я дамовіўся перад вамі з ім, што калі б ён сына меў, а я не, то дзеці ягоныя панавалі б пасля маёй смерці ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Каралеўстве Польскім, а калі б у брата майго Вітаўта дзяцей не было, а ў мяне былі, то пасля нашае смерці мае дзеці панавалі б над каронаю Ляшскаю і Вялікім княствам Літоўскім. І вы, уся рада Вялікага княства і ўся рада кароны Польскае пры той дамове былі, і на тое ўсе вы далі згоду, — як мая рада, так і вы, рада брата майго. На тым вы мне прысягнулі, а мая рада — брату майму і вам. Памятайце пра тое, бо я вас ад тае прысягі яшчэ не вызваліў. І хоць маю я двух сыноў, каб паводле маёй з братам маім дамовы са мною і вашай прысягі адзін мог быць у вас гаспадаром. Але таго вам не зычу, каб такі малады ў вас гаспадар быў. Таму раю вам узяць сабе за гаспадара брата майго старэйшага Жыгімонта, роднага брата вялікага князя Вітаўта». І паны, чуючы ўсё гэта, шкадавалі вельмі, што так сталася.

Потым князь Свідрыгайла зразумеў, што нядобра ўчыніў, і адпусціў з пашанаю караля польскага Ягайлу да ляхаў. Як толькі Ягайла прыехаў у Польшчу, то паслаў сваіх паслоў да

---

* Пляменніца, братава дачка.

папы, каб той прысягу з паноў літоўскіх зняў. І паслы ў папы былі і потым вярнуліся да караля і да паноў літоўскіх з разграшэннем*, і князі ды паны літоўскія з дапамогаю караля Ягайлы ўзялі сабе гаспадаром вялікага князя Жыгімонта. Адбылося гэта месяца верасня першага дня.

## [ПРА ВАЙНУ КНЯЗЯ СВІДРЫГАЙЛЫ З ВЯЛІКІМ КНЯЗЕМ ЖЫГІМОНТАМ]

Князь вялікі Свідрыгайла памчаўся да Полацка і Смаленска, і рускія князі ды баяры пасадзілі князя Свідрыгайлу на вялікае княжанне рускае.

Тою ж восенню князь Свідрыгайла сабраў сорак тысяч сваіх вояў, і вялікі князь цверскі Барыс Аляксандравіч даў яму брата свайго князя Яраслава з усёю сваёй сілаю ў сорак тысяч, і пайшоў Свідрыгайла з усімі тымі сіламі рускімі на Літву. Не дайшоўшы да Вільні сем міляў, стаў ён у Ашмяне і стаяў там тыдзень. А князь вялікі Жыгімонт прыйшоў з Вільні з літоўскім войскам у сем тысяч. І была паміж імі бітва месяца снежня восьмага дня, у панядзелак. І дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту, і пабеглі князі ды баяры вялікага князя Свідрыгайлы, і князёў рускіх шмат пабілі, а іншых паланілі: князя Юрыя Лінгвенавіча, князя Міцьку Зубравіцкага, князя Васіля Краснага, брата ягонага пана віленскага Дзедыголдавіча, пана Юшку Гальцэвіча, пана Івана Вяжэвіча.

У тую ж зіму, на другі год, князь Свідрыгайла сабраў аграмадную сілу рускую і пайшоў на Літву, і паваяваў, і папаланіў, і шмат папаліў зямлю Літоўскую. На лета ж зноў сабраў ён вялікую сілу рускую і магістра ліфлянцкага з усім яго войскам, і вялікі князь цверскі таксама даў яму сваіх вояў. І пайшлі яны ў Літоўскую зямлю, і начавалі за паўтары мілі ад Вільні, у Рудаміне[145], і, не даходзячы да Трокаў, павярнулі на Старыя Трокі. І, прастаяўшы пад Трокамі чатыры дні, адышлі ад Трокаў шукаць вялікага князя Жыгімонта і войска літоўскае, і стаялі ў Эйшышках чатыры дні, а потым вярнуліся на Русь, у сваю зямлю. І, прыйшоўшы да Крэва, стаялі там два дні, узяўшы горад мураваны Крэва, спалілі яго і людзей шмат пасеклі ды ў палон павялі, а адтуль пайшлі да Маладэчны. І прыйшла вялікаму князю Свідрыгайлу вестка, што

---

* Разграшэнне — дараванне грахоў; тут: вызваленне ад прысягі.

літва за імі пагоняю ідзе. І князь вялікі Свідрыгайла паслаў супраць іх князя Міхаіла, ваяводу кіеўскага, а з ім паслаў іншых князёў рускіх. Яны пайшлі ды перамаглі пана Пятра Мангірдавіча і літву, адных пазабівалі, а другіх палавілі ў Капачах. І, адтуль ідучы, узяў Заслаўе, і шмат людзей папаліў і паланіў, і, прыйшоўшы да Менску, горад Менск спаліў. І шмат местаў ды сёл спаліўшы і зла нямала ўчыніўшы ў Літоўскай зямлі, прыйшоў пад Барысаў. А там злавілі князя Міхаіла Іванавіча Гальшанскага, на рацэ Бярэзіне, і паслалі яго ў Віцебск, а там яго Свідрыгайла загадаў утапіць у рацэ Дзвіне пад Віцебскам, а схапілі яго, бязвіннага, не даходзячы мілю да Лукамля, у Азёрах.

Магістар ліфлянцкі пайшоў у сваю зямлю, а вялікі князь Свідрыгайла да Лукамля і тут распусціў войска сваё, князёў ды баяраў, а сам падаўся да Кіева.

На тую ж восень князь вялікі Жыгімонт, сабраўшы вялікую сілу літоўскую і ляхаў, прыйшоў на Рускую зямлю, і стаяў пад Мсціслаўлем тры тыдні, і, горада не здабыўшы, пайшоў у сваю зямлю.

На лета ж князь Свідрыгайла, сабраўшыся з рускімі князямі ды баярамі і з усёю сілаю рускаю, пайшоў на Літву. Магістар ліфлянцкі пайшоў яму на дапамогу, і злучыліся яны са Свідрыгайлам у Браславе. І Божаю воляю ўпала на зямлю зліва вялікая, таму не маглі яны ў зямлю Літоўскую рушыць. Князь Свідрыгайла вярнуўся ў сваю зямлю, а магістар — у сваю, і адпусціў князь сілу сваю, князёў ды баяраў да Полацка, а сам падаўся ў Кіеў. А на трэці год князь Свідрыгайла спаліў у Віцебску мітрапаліта Герасіма.

Сабраўся князь вялікі Свідрыгайла ў Віцебску з рускімі князямі ды з усімі рускімі сіламі і пайшоў да Браслава. Туды ж прыйшоў яму на дапамогу магістар ліфлянцкі з усёю сілаю, і пайшлі яны па Завельскай старане да Вілкаміра. Князь жа вялікі сам не пайшоў супраць Свідрыгайлы, а, сабраўшы ўсю сваю сілу літоўскую, паслаў з войскам супраць Свідрыгайлы сына свайго, князя Міхайлу, і князь Міхайла прыйшоў з літвою і ляхамі. І была між імі бітва ў першы дзень верасня на святога Сямёна. Біліся за Вілкамірам на рацэ Святой, і дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту і ягонаму сыну Міхайлу, і пабілі яны князя Свідрыгайлу і ўсё войска ягонае, і шмат князёў пахапалі ды пазабівалі. Першага забілі магістра ліфлянцкага ды маршалка, а таксама шмат комтураў ягоных, і братаніча Свідрыгайлавага — Жыгімонта Карыбутавіча, і князя Ярас-

лава Лінгвенавіча, і князя Міхайлу Балабана, і князя Данілу Сямёнавіча Гальшанскага, і князя Міхайлу Львовіча Вяземскага, і іншых князёў ды баяраў, і немцаў незлічонае мноства перабілі, а таксама і гасцей* — ракушанаў**, сілезян, чэхаў, а рукамі злавілі сорак князёў разам з мітрапалітам кіеўскім; двое першых — князь кіеўскі Іван Уладзімеравіч ды брат ягоны Фёдар Карыбутавіч, а ўсіх іншых імёнаў не выпісваем.

Пасля таго пабоішча, праз тры тыдні, князь вялікі Жыгімонт, сабраўшы ўсю сваю сілу літоўскую, паслаў сына свайго Міхайлу на Русь. І той, прыйшоўшы, стаў каля Воршы, а там яго сустрэлі смаляне і здаліся вялікаму князю Жыгімонту і сыну яго, князю Міхайлу. І князь Міхайла да Смаленска не пайшоў, а рушыў ад Воршы пад Віцебск, стаяў там шэсць тыдняў і, не ўзяўшы горада, прэч пайшоў. Пасля таго тою ж зімою князь вялікі Жыгімонт ізноў сабраў усю сваю сілу літоўскую і паслаў да Полацка, і, прыйшоўшы туды, паны сталі пад Полацкам тыдзень, і, не здабыўшы горада, пайшлі прэч. На лета палачане і віцябляне, не спадзеючыся ні ад кога на дапамогу, здаліся вялікаму князю Жыгімонту Кейстутавічу. І пачаў вялікі князь Жыгімонт княжыць на вялікіх княжаннях — на літоўскім і на рускім.

## [ЯК ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЖЫГІМОНТА Ў ТРОКАХ ПАГУБІЛІ]

У год 6948 [1440], калі вялікі князь Жыгімонт панаваў у Вільні і Троках, і на ўсіх Рускіх, Літоўскіх і Жамойцкіх землях, ён страшныя зверствы ўчыняў над падданымі сваімі, а асабліва над родам шляхецкім, бязлітасна хапаў іх і страшныя здзекі над імі чыніў, іх, бязвінных, караў і расправы ўчыняў такія, якія толькі вымысліць мог, над усімі княжатамі ды панятамі і над родам шляхецкім усіх земляў Літоўскіх, Рускіх і Жамойцкіх. І быў да таго роду шляхецкага вельмі бязлітасны і за ўсе свае злыя ўчынкі быў прыраўняны да Антыёха сірыйскага ды Ірада ерусалімскага, а таксама да продка ягонага, вялікага князя літоўскага Тройдзена, які страшныя зверствы ўчыняў над землямі Ляшскімі ды Рускімі.

---

* Госць — тут: найміт.

** Ракушанін — аўстрыец.

А падданыя Жыгімонтавы, уся шляхта цярпелі гэта, як верныя рабы ад пана свайго, і нічога благога яму не рабілі, нават і не задумвалі. Але князь Жыгімонт, акаяннік, не насыціўся злосцю сваёй і па д'яблавым навучэнні задумляў у сэрцы сваім, як бы ўвесь род шляхецкі пагубіць і кроў іхнюю праліць, а ўзняць род халопскі, сабачую кроў. Спачатку ён двух князёў сваіх блізкіх і радавітых схапіў, князя Юрыя Лінгвенавіча ды князя Алельку Уладзімеравіча, хочучы іх са свету звесці. І пасадзіў князя Юрыя Лінгвенавіча ў Троках, у меншым замку, князя Алельку ў Кернаве, а княгіню ягоную з двума сынамі, Сямёнам ды Міхайлам, ва Уцене. Яшчэ і гэтага яму было мала, і нарэшце ён тое злое задумаў, каб сойм вялікі склікаць і на тым сойме ўсю шляхту вынішчыць ды выкараніць, а халопскі род узнесці. І рассылаў акаяннік граматы па ўсіх землях сваіх — уладам Вялікага княства, князям ды панам і ўсёй шляхце, загадваючы, каб усе на сойм ехалі для вырашэння земскае справы, а злосць сваю ўтаіў, што супраць іх задумаў.

А ў той час ваяводам віленскім быў Доўгерд, а ваяводам троцкім — Лелюшы. І тыя два паны даведаліся пэўна, што гэты сойм замыслены на пагубу ўсяму роду шляхецкаму і ім самім; і паклікалі яны да сябе на раду князя Чартарыйскага. І яны ўтрох, параіўшыся, задумалі князя Жыгімонта забіць, а іншых князёў ды паноў, апроч іх саміх, на той час пры Жыгімонце не было. Так і вырашылі на той радзе: самім ім гарады Вільню і Трокі заняць ды трымаць іх для князя Свідрыгайлы, які пасля пабойскае паразы ад Міхайлушкі Жыгімонтавіча ўцёк да валахаў. І паслалі змоўшчыкі шляхціца-кіяніна на імя Скабейка, і далі яму трыста вазоў сена, а на кожны воз улажылі пад сена па пяць чалавек са зброяй, і па чалавеку пасадзілі коньмі правіць, і адправілі таго Скабейку да Трокаў, нібы з сенам дзякольным*. Адправіўшы Скабейку ў Трокі, паслалі яны людзей у Валахію шукаць князя Свідрыгайлу. І ў Вербную Нядзелю князь Аляксандар Чартарыйскі са Скабейкам уехалі ў Троцкі замак. У той час сын князя Жыгімонта, Міхайлушка, выйшаў з замка да касцёла, а сам князь слухаў імшу ў замку ў спачывальні. І, уехаўшы з вазамі ў горад, князь Чартарыйскі са Скабейкам вароты зачынілі, усе людзі з вазоў вылезлі і падаліся проста да спачывальні князя Жыгімонта, дзе ён імшу слухаў.

А быў у князя Жыгімонта мядзведзь, якога ён вельмі любіў, і заўжды, калі той мядзведзь прыходзіў да спачывальні і ла-

---

* Дзякольны — ад слова «дзякло» (падатак збожжам і сенам).

паю дзверы драпаў, туды яго пускалі. Так і князь Чартарыйскі, прыйшоўшы са Скабейкам і з усімі тымі людзьмі, драпнуў рукою па дзвярах. Князь Жыгімонт падумаў, што гэта мядзведзь, і загадаў дзверы адчыніць, і ў тое імгненне кінуліся Чартарыйскі са Скабейкам у спачывальню, і пачаў Чартарыйскі выказваць Жыгімонту ўсе яго злыя ўчынкі, якія ён рабіў над усёю шляхтаю Вялікага княства, а да таго ж яшчэ замысліў быў на сойме ўсіх князёў ды паноў і ўвесь род шляхецкі выкараніць і кроў іхнюю праліць, а сабачую кроў халопскую ўзнесці. І, тыя словы вымавіўшы, сказаў нарэшце: «Што ты прызначыў быў князям ды панам і ўсім нам піць, тое цяпер пі адзін», і кінуліся да яго, хочучы забіць. Але не было чым тое зрабіць, і Скабейка ўхапіў з каміна вілкі, якімі агонь папраўляюць, і тымі вілкамі ўдарыў Жыгімонта якраз тады, калі каплан* прычасце падносіў. І кроў пырснула з галавы на сцяну, яна і да сёння відна на сцяне ў спачывальні ў вежы большага Троцкага замка. І ў той момант кінуўся на Скабейку ўлюбёнец Жыгімонтаў, званы Слаўкам, не хочучы бачыць смерці гаспадара свайго, бо вельмі быў любы вялікаму князю. А яны таго Слаўку ўзялі ды скінулі з вежы праз акно, і ён шыю зламаў. Князь жа Жыгімонт у той час скончыў жыццё паводле волі ваяводы віленскага Доўгерда, ваяводы троцкага Лелюшы ды князя Чартарыйскага і ад рукі Скабейкі-кіяніна забіты быў у Вербную Нядзелю.

А сын Жыгімонтаў Міхайлушка пачуў пра тое і зачыніўся ў малым Троцкім замку, а ў большым застаўся Лелюшы, трымаючы той замак па дамове з Доўгердам для Свідрыгайлы, а сам Доўгерд заняў Ніжні замак у Вільні таксама для Свідрыгайлы; Нарбут жа, праехаўшы па жывым** мосце, заняў Верхні замак для Міхайлушкі.

## [ЯК ЛІТОЎСКІЯ ПАНЫ-РАДА КАРАЛЕВІЧА КАЗІМІРА НА ВЯЛІКАЕ КНЯЖАННЕ ЛІТОЎСКАЕ ЎЗЯЛІ]

А паны-рада Вялікага княства пра тое нічога не ведалі, ні пра задуму князя Жыгімонта, ні пра намеры віленскага і троцкага ваяводаў, бо князь Жыгімонт рассылаў граматы па ўсіх землях ды ўскраінных гарадах і ўсім панам, нічога

* Святар.

** Пад'ёмным.

не паведамляючы пра задуму сваю ліхую. І яны яшчэ не з'ехаліся на сойм, бо былі некаторыя ў дальніх гарадах ды землях Вялікага княства: Кезгайла, стараста жамойцкі, у Жамойці, Ян Гаштольт у Смаленску, бо ён быў у той час намеснікам смаленскім. Князь вялікі Жыгімонт і яму пісаў, каб у час да яго прыехаў, а на яго месца паслаў у Смаленск Андрэя Саковіча. І калі ехаў Ян Гаштольт да князя Жыгімонта, то заехаў засведчыць пашану да князёў валожынскіх, і князі валожынскія бяседу вялікую яму наладзілі. Калі быў ён у Валожыне, прыйшла вестка пра смерць вялікага князя Жыгімонта. Гаштольт як найхутчэй паспяшаўся ў Гальшаны да князя Юрыя Сямёнавіча Гальшанскага, і яны, з'ехаўшыся там, паслалі да пана віленскага, старасты жамойцкага Кезгайлы, да Мікалая Няміравіча і да Радзівіла, маршалка земскага. Усе тыя паны з'ехаліся ў Гальшаны да князя Юрыя і вырашылі аднадушна ўзяць сабе гаспадаром на Вялікае княства каралевіча Казіміра, сына Ягайлавага, спадкаемца Літоўскае зямлі, і паслалі паслоў у Ляшскую зямлю, у Судамір[146], да каралевіча. Адправілі да яго паноў Кезгайлаў, Міхайлу ды Яна.

І раней па загадзе Жыгімонта былі схоплены рускія князі. Князь Алелька пасаджаны быў у Кернаве, княгіня ягоная з двума сынамі, князямі Сямёнам ды Міхайлам, ва Уцене, а князь Юры Лінгвенавіч у Троках. І паны неўзабаве пасля смерці Жыгімонта выпусцілі іх, і князь Юры Лінгвенавіч паехаў у Мсціслаўль, князь Алелька з княгіняю ды з сынамі ў Капыль, а ўсе паны літоўскія і князь Юры Гальшанскі ў Берасце, следам за пасламі сваімі.

Прыехалі паслы ў Судамір да каралевіча і пачалі прасіць яго, каб у іх гаспадаром быў. Але паны ляшскія не хацелі яго адпусціць з зямлі сваёй, бо кароль іхні Уладзіслаў, сын Ягайлаў, які панаваў у кароне Вугорскай і Польскай, загінуў у тым жа годзе на полі бою, у сечы з турэцкім валадаром, невядома дзе. Яшчэ пра яго нічога не ведалі — жывы ён ці не, таму і не хацелі адпусціць каралевіча. Паслы ж літоўскія пачалі распавядаць пра Літву ды пра ловы раскошныя на звяроў, якія ёсць у Літве: на тураў, зуброў ды іншых размаітых звяроў. А каралевіч Казімір вельмі любіў ловы і мысліўства* і таму даў згоду ехаць з тымі пасламі без ведама паноў ляшскіх. Спусціўся ён з замка Судамірскага да паноў літоўскіх, і тыя двое, хутчэй узяў-

* Паляванне.

шы яго, з вялікаю пашанаю прывезлі да паноў у Берасце. І там жа паны-рада: князь Юры Гальшанскі, пан віленскі, стараста жамойцкі Кезгайла, Ян Гаштольт, Мікалай Няміравіч ды Осцік, маршалак земскі, узвялі каралевіча Казіміра на вялікае княжанне літоўскае. А было яму тады не больш за трынаццаць гадоў.

Неўзабаве прыехалі князі Сангушкавічы з Валыні і ўсе князі ды баяры валынскія прыехалі і ўдарылі чалом вялікаму князю Казіміру, што будуць служыць яму, і прысягу далі верна служыць яму і Вялікаму княству Літоўскаму. Князь вялікі Казімір, прыняўшы валынцаў, з усімі тымі князямі ды літоўскімі панамі-радаю паехаў у Вільню на пасад бацькі свайго, караля Ягайлы, і дзядзькі свайго, князя Вітаўта.

## [ПРА КНЯЗЁЎ МІХАЙЛУШКУ ЖЫГІМОНТАВІЧА І ЮРЫЯ НАСУТУ]

Сын жа Жыгімонтаў Міхайлушка, калі пэўна даведаўся, што князі ды паны-рада літоўскія ўжо ўзялі сабе гаспадаром каралевіча Казіміра з Ляхаў і ўзнеслі яго ў Берасці на княжанне літоўскае, з замка Троцкага выехаў і кінуўся наўцёкі ў Мазоўша да цёткі сваёй, княгіні мазавецкай, Янушавай жонкі, бо была яна сястрою ягонага бацькі, мачыхаю княгіні Болкавай. Калі ехаў Міхайлушка праз Рудніцкі бор, то спаткаўся ў тым бары з вялікім князем Казімірам, і ўдарыў яму чалом, і пачаў прасіць ласкі; і князь Казімір сваю ласку яму абяцаў — пры бацькаўшчыне ягонай пакінуць. А потым вялікі князь Казімір паехаў у Вільню і сеў на стальцы бацькі свайго, караля Ягайлы, і дзядзькі свайго, вялікага князя Вітаўта, — у Вільні і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Валынскім.

Калі Казімір сеў у Вільні, старастам дарагічынскім і мельніцкім быў Юры Насута, пастаўлены яшчэ Жыгімонтам. Як толькі ён пачуў, што каралевіча Казіміра пасадзілі на вялікае княжанне, а Міхайлушка Жыгімонтавіч уцёк у Мазоўша, вырашыў ён служыць разам са сваімі гарадамі Міхайлушку Жыгімонтавічу, і яшчэ намовіў шмат княскіх ды польскіх гарадоў, і з усімі тымі гарадамі адкупіўся* ад Вялікага княства, і пачаў іх трымаць для Міхайлушкі і для Мазоўша.

* Адкупіцца — адлучыцца, аддзяліцца.

Пачуўшы пэўна пра тое, вялікі князь Казімір і паны-рада Вялікага княства адразу ж паслалі войска на чале з Янам Гаштольтам, якому даручылі апекавацца Казімірам, бо быў ён яшчэ малы. І Ян Гаштольт па загадзе вялікага князя паехаў да тых гарадоў, і мечам іх здабыў, і ўсё ў цэласці вярнуў Вялікаму княству. А Юры Насута ўцёк у Мазоўша, бо быў родам мазаўшанін. Вярнуўшы ўсе тыя гарады, прыехаў Ян Гаштольт у Вільню да вялікага князя.

І калі Казімір у Вільні быў, пачаў мовіць яму ваявода віленскі Доўгерд, складаючы з сябе віну: нібы не змаўляўся ён з Лелюшым, ваяводам троцкім, забіць вялікага князя Жыгімонта; і мовіў Доўгерд Казіміру: «Лелюшы, кажа, не варты з намі ў думе бываць*, бо, кажа, у ягоным ваяводстве, у Троцкім замку, князя Жыгімонта забілі, відаць, па ягонае волі». А быў Доўгерд моцны ў брацтве, і князь вялікі з намовы Доўгердавай у Лелюшы горад Трокі адняў і даў дзядзьку свайму, Яну Гаштольту.

## [ЯК ЖАМОЙЦЬ СУПРАЦЬ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ КАЗІМІРА ПАЎСТАЛА]

А потым прыйшлі весткі з Жамойці, што жамойты не хочуць паслухмянымі быць вялікаму князю Казіміру, бо трымалі сваю зямлю для Міхайлушкі Жыгімонтавіча, і намеснікаў старасты Кезгайлы выгналі, і паставілі ў сябе старастам Контаўтавага пляменніка Доўманта, бо быў Контаўт родам жамойт.

І князь вялікі Казімір шкадаваў вельмі, што Жамойць адступілася ад Вялікага княства Літоўскага, і, хочучы іх сілаю вярнуць да айчыны сваёй, як раней было, у той жа час граматы разаслаў па ўсіх воласцях Вялікага княства, каб хутчэй рыхтаваліся да вайны. Сабраў ён сілу немалую літоўскую, і пайшоў на Жамойць, і спыніўся ў Коўне. А жамойты, сабраўшыся, сталі на Нявежы, хочучы бой даць Казіміру. Тады пачаў гаварыць яму дзядзька ягоны, Ян Гаштольт: «Гаспадару княжа Казіміру! Не гожа табе біцца са сваімі падданымі, бо калі яны цябе перамогуць, табе ж, гаспадару нашаму міласціваму, сорам будзе, а калі ты пераможаш — табе няслава: сваіх пад-

* Тут: уваходзіць у склад рады.

даных войскам пабіў. Таму ўчыні так: прызнач, твая міласць, ім старасту паводле іхняе волі — Контаўта, бо цяпер у Жамойці Контаўтаў пляменнік справуе*, а той іх саміх і пляменніка свайго намовіць, каб зямлі сваёй не далі пустошыць і каб супраць цябе, гаспадара свайго, не стаялі. Бо калі ты, гаспадар наш, з войскам сваім на іх пойдзеш, то зямлю іхнюю ўсю спустошыш і саміх іх папалоніш, а потым табе, гаспадару нашаму, ніякага пажытку ад іх не будзе».

Князь Казімір, тыя словы выслухаўшы, паслаў у Жамойць пана Контаўта. Контаўт жа, прыехаўшы да войска жамойцкага, найперш паведаміў ім, што Міхайлушка ўцёк, а князь вялікі Казімір сеў у Вільні і ў Троках і на ўсіх княствах літоўскіх і рускіх. А потым намовіў пляменніка свайго, якога жамойты былі абралі сваім старастам, каб не думаў ваяваць супраць такога вялікага гаспадара, а тым больш прыроджанага спадкаемца літоўскага. І той пляменнік Контаўтаў зразумеў, што нельга выступаць супраць такога вялікага гаспадара. І жамойты вырашылі служыць князю вялікаму Казіміру, і ўсе разам прыехалі ў Коўна да вялікага князя, і ўдарылі чалом, хочучы служыць яму верна, і прысягу сваю на тым далі. Казімір прыняў іх і прысягу ім даў, што будзе літасцівым да іх з усёю іхняю маетнасцю. Гэтак умацаваўшы іх прысягамі ды пад сябе іх падбіўшы, Казімір загадаў Кезгайлу, старасту жамойцкаму, каб тры гады старастам у Жамойці быў Контаўт, бо ён наверне іх служыць вялікаму князю. Кезгайла на тое згадзіўся, і, як мінула тры гады, ён па-ранейшаму застаўся старастам жамойцкім, а Контаўта адхілілі. Мы ж да папярэдняга вернемся.

## [ПРА НЯЗГОДЫ Ў СМАЛЕНСКУ]

Калі быў Андрэй Саковіч у Смаленску, пасланы яшчэ Жыгімонтам на месца Яна Гаштольта, пачуў ён пра смерць Жыгімонта і пачаў прыводзіць да прысягі смалян: каго князі ды паны літоўскія гаспадаром абяруць, ад таго і ім не адступаць, а іншага гаспадара не шукаць, «а мяне вам трымаць у сябе ваяводам, пакуль вялікі князь не сядзе ў Вільні». І уладыка смаленскі Сямён, і князі, і баяры, і месцічы, і чорныя

* Справаваць — панаваць, валадарыць, кіраваць.

людзі прысягнулі Андрэю, што будуць годна трымаць яго ў Смаленску ваяводам.

І пасля Вялікадня, на святым тыдні, у сераду, задумалі смаляне, чорныя людзі — кавалі, кажамякі, шаўцы, мяснікі, кацельнікі, — задумалі прысягу пераступіць, Андрэя сілаю з горада выгнаць, і ўзброіліся, з суліцамі, са стрэламі, з косамі ды з сякерамі, і зазванілі ў звон. Андрэй пачаў раіцца з баярамі смаленскімі, і яны яму сказалі: «Загадай дваранам сваім узбройвацца, і мы з табою. Хіба лепш аддацца ім у рукі?» І пайшлі яны з коп'ямі на конях супраць простых людзей, і сышліся яны ў горадзе каля царквы святых Барыса і Глеба, і Андрэй з баярамі пабілі коп'ямі многа чорных людзей да смерці, а іншыя, параненыя, жывымі засталіся. І разбегліся чорныя людзі ад Андрэя. У тую ж ноч Андрэй разам з жонкаю выехаў з горада і баяры смаленскія з ім.

Пасля таго быў мяцеж вялікі ў Смаленску. Схапілі смаляне Петрыка, маршалка смаленскага, і ўтапілі ў Дняпры, а пасадзілі ваяводам у Смаленску князя Андрэя Дзімітрыевіча Дарагабужскага. Баяры ж смаленскія не хацелі, каб той князь Дарагабужскі ў іх ваяводам быў, бо не яны самі абралі яго ваяводам, а простыя людзі. І паехалі баяры смаленскія да вялікага князя Казіміра біць чалом, што простыя людзі без іхняе волі абралі сабе ў Смаленску ваяводам князя Андрэя Дарагабужскага. Простыя людзі, пачуўшы пра тое, што баяры смаленскія паехалі да Казіміра, збаяліся і вельмі таго спалохаліся, і пачалі шукаць сабе большае дапамогі, і аднадушна вырашылі на радзе ўзяць сабе гаспадаром князя Юрыя Лінгвенавіча. І калі прыехаў да іх той князь Юры Лінгвень, гаспадаром стаў. Калі ж баяры вярнуліся ад князя Казіміра, ён адных пакараў смерцю, а другіх схапіў, у ланцугі закаваў і ўсю маетнасць у іх паадымаў і пааддаваў сваім баярам і ўмысліў не слухацца вялікага князя Казіміра. Князю Казіміру таго шкада стала вельмі, і паслаў ён да Смаленска сваіх паноў-раду з войскам. І паны-рада з войскам стаялі пад Смаленскам тры тыдні, але, нічога гораду не ўчыніўшы, пасады і манастыры папалілі, ды шмат людзей у палон павялі, ды крыві хрысціянскае нямала пралілі, і вярнуліся назад да вялікага князя Казіміра. І вялікі князь Казімір, сабраўшы ўсе свае сілы літоўскія, тою ж восенню сам прывёў сваё войска да Смаленска і горад узяў. Князь жа Юры Лінгвень, баючыся гневу Казіміравага, сам з княгіняю ўцёк у Вялікі Ноўгарад. І князь вялікі зноў даў ад

сябе трымаць Смаленск Андрэю Саковічу і назад вярнуўся да стальца свайго, у Вільню.

А князь Юры Лінгвенавіч, будучы ў Вялікім Ноўгарадзе, зразумеў, што крыўду ўчыніў вялікаму князю Казіміру за тую ласку, што ад яго меў, бо бацькаўшчыну ягоную, што быў адняў у яго князь Жыгімонт, вялікі князь Казімір яму вярнуў. Прыгадваючы ласку вялікага князя Казіміра і горка плачучы, вырашыў ён па Божым навучанні паслаць сваіх паслоў да кума свайго, дзядзькі вялікага князя Казіміра, Яна Гаштольта, бо ён у Яна Гаштольта дзяцей хрысціў, і таму яны ў прыязнасці між сабою жылі. І паслаў да яго, на прамілы Бог просячы, каб той за яго перад вялікім князем заступіўся і ўсіх паноў-раду намовіў прыцішыць гнеў княскі на яго і каб Казімір па-ранейшаму ў ласку яго прыняў. І Ян Гаштольт у тое пільна ўмяшаўся і паноў намовіў. Таму князь Казімір з намовы дзядзькі свайго, Яна Гаштольта, і на просьбы сваіх паноў-рады крыўду князю Юрыю Лінгвеню дараваў і да сябе прыехаць загадаў. І калі князь Юры прыехаў, вялікі князь Казімір вярнуў яму бацькаўшчыну ягоную — Мсціслаўль.

## [ПРА ПАДСТУПСТВА КНЯЗЯ МІХАЙЛУШКІ ЖЫГІМОНТАВІЧА І ПРА ЯГОНУЮ СМЕРЦЬ]

У год 6953 [1445] князь вялікі Казімір быў у нязгодзе з вялікім князем маскоўскім. І прыйшлі маскоўцы з татарамі і зваявалі зямлю Вяземскую[147]. Тою ж зімою князь вялікі Казімір у адказ на гэта паслаў сваіх ваяводаў, князёў ды паноў з войскам ваяваць Маскоўскую зямлю, і паваявалі яны Казельск[148], Вярэю[149], Калугу, Мажайск ды багата зла зрабілі маскоўцам. І сабраліся пяцьсот маскоўцаў, пагналіся за літвою. І дапамог Бог літве, пабілі яны шмат маскоўцаў, а астатніх рукамі палавілі і прывялі іх у Смаленск, да вялікага князя Казіміра, і была тады пашана вялікая ды слава яму і ўсёй зямлі.

Потым князь Казімір, гаспадарства сваё супакоіўшы, выклікаў да сябе з Мазоўша Міхайлушку Жыгімонтавіча, шкадуючы яго як брата стрыечнага, і даў яму бацькаўшчыну ягоную — удзел, які меў бацька ягоны Жыгімонт ад братоў сваіх: Бельск[150], Бранск, Сураж, Клецак, Койданаў, Старадуб, і, ушанаваўшы яго, адпусціў княжыць у тых гарадах.

І калі быў Міхайлушка ў Клецку, крыўдна яму стала, і, плачучы, пачаў наракаць і шкадаваць, што брат яго малодшы, каралевіч Казімір, быў узяты на пасад і гаспадарствам валадарыць і кіруе. І надумаў Міхайлушка злое — вялікага князя Казіміра са свету звесці, і падзяліўся задумаю сваёю з князямі валожынскімі, што празываліся Сухты, каб вялікага князя Казіміра забіць на ловах, бо ён вельмі мысліўства любіў. І адправіў князь Міхайлушка князёў валожынскіх з пяцццюстамі збройнымі вершнікамі да Мерача[151] з намерам забіць вялікага князя Казіміра, а самому пасад заняць. І загадаў князям валожынскім, каб употай паехалі да яго і забілі. І калі яны на ловы прыехалі, асочнікі*, якія акружалі аступы**, убачылі ўзброеных людзей і паведамілі пра гэта маршалку дворнаму вялікага князя Казіміра, Андрушку Гаштольтавічу, і той борзда забраў вялікага князя Казіміра, бо князь яшчэ малады быў, і памчаўся з ім да Трокаў, і расказаў пра тое бацьку свайму Яну Гаштольту. І Ян Гаштольт з мноствам людзей спаткаў вялікага князя Казіміра за Старымі Трокамі. І вельмі шкадаваў, што так здарылася, і адразу ж адправіў пагоню за князямі валожынскімі. І дагналі іх паміж Крэвам і Ашмянаю, і там жа ўсіх іх пяцёра братоў схапілі, а пасланых Міхайлушкам людзей — адных пабілі, а іншых злавілі і прывялі да вялікага князя Казіміра ў Трокі ды там жа іх і пагубілі.

У той жа час памёр Доўгерд, ваявода віленскі, і даў Казімір Вільню Яну Гаштольту, а Трокі — Яну Монвіду.

А Міхайлушка Жыгімонтавіч, пачуўшы пра тое, што князёў валожынскіх, пасланых ім на пагубу вялікаму князю, злавілі ды пакаралі смерцю, шкадаваў вельмі, што задума ягоная ні ўва што абярнулася і пайшла на карысць вялікаму князю Казіміру і што быў задумаў супраць Казіміра, тое супраць яго самога павярнулася. І спалохаўся ён вельмі і кінуўся наўцёкі ў дальні свой горад Бранск. Будучы ў Бранску, ён сабраў войска немалое і з дапамогаю маскоўскаю заняў горад Кіеў.

Вялікі ж князь Казімір, сабраўшы свае літоўскія сілы, паслаў борзда дзядзьку свайго Яна Гаштольта. І ён, паехаўшы туды, вярнуў гарады Кіеў ды Бранск Вялікаму княству. Калі Міхайлушка пачуў, што войска літоўскае ідзе, ён спалохаўся і пабег з тых гарадоў у Маскву. І калі быў ён у адным мана-

* Асочнік — лоўчы.

** Месцы ловаў.

стыры і слухаў абедню, ігумен, які не любіў яго, даў яму з прычасцем лютую атруту, і ён, як яе прыняў і праглынуў, адразу ўпаў ды здох. А ігумен, бачачы, што Міхайлушка так хутка памёр, збаяўся кары і сам, прычасце прыняўшы, тут жа памёр. Такі быў канец Міхайлушкі Жыгімонтавіча.

## [ПРА ЦАРА ПЕРАКОПСКАГА АЧ-ГІРЭЯ]

У тым жа годзе, калі быў вялікі князь Казімір у Вільні, прыехаў да яго князь Алелька з Капыля з двума сынамі, князямі Сямёнам ды Міхайлам, і білі чалом вялікаму князю Казіміру праз паноў-раду, просячы бацькаўшчыну сваю — Кіеў, і князь вялікі Казімір на просьбу паноў-рады вярнуў яму Кіеў, бацькаўшчыну яго, з усімі прыгарадкамі кіеўскімі.

На другі год прыехаў з Валахіі князь Свідрыгайла, дзядзька вялікага князя Казіміра, які, уцёкшы ад князя Жыгімонта, прабыў у Валах сем гадоў, авечак пасвіў. Князь Казімір ласкава прыняў яго з вялікаю пашанаю і даў яму да канца жыцця Луцк з усёю зямлёю Валынскаю.

У тым жа годзе прыехалі князі ды ўланы і ўсе мурзы Шырыноўскія ды Баграноўскія[152] ад усяе арды Перакопскае да вялікага князя Казіміра, просячы яго ды чалом б'ючы, каб пасадзіў у іх царом Ач-Гірэя, які прыехаў быў з Арды ў Літву яшчэ за часам вялікага князя Жыгімонта, і Жыгімонт даў яму Ліду. Князь Казімір таго цара Ач-Гірэя, ушанаваўшы і адарыўшы, з вялікаю пачэснасцю да арды Перакопскае на царства паслаў, а разам з ім адправіў маршалка земскага Радзівіла — садзіць яго на царства. І Радзівіл правёў яго з пашанаю аж да яго сталіцы, да Перакопа, і там ад імя вялікага князя Казіміра пасадзіў на царства Перакопскае. І ўсе гады панавання Казіміра і за жыццём таго цара Ач-Гірэя супакой быў паміж княствам Літоўскім і ардою Перакопскаю, бо быў цар Ач-Гірэй вялікі прыяцель Вялікаму княству Літоўскаму за ласку князя Казіміра, што яго на царства пасадзіў, і Ач-Гірэй Літоўскаму гаспадарству спрыяў за тое, што некалі ў Літве хлеб-соль еў. І ў часы ягонага царавання ні разу паганская татарская нага бязбожных ізмаіліцянаў[153] у Літве і ў Ляхах не ступала. У тыя часы сіроты і ўдовы і ўсе хрысціяне радаваліся і Бога хвалілі, што такі доўгі і трывалы мір з паганцамі мелі.

## [ЯК ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КАЗІМІР БЫЎ УЗЯТЫ НА КАРАЛЕЎСКІ ПАСАД, А ТАКСАМА ПРА ПАДКОПЫ ЛЯШСКІХ ПАНОЎ]

Быў вялікі князь Казімір сем гадоў князем літоўскім і гаспадарствы ўсе, што ад Вялікага княства былі залежныя, у цэласці трымаў і ў спакоі, а ўсе тыя землі, якія не хацелі яму паслухмянымі быць, Вялікаму княству падначаліў і супакоіў.

А за тыя сем гадоў паны ляшскія так і не знайшлі караля польскага і вугорскага, брата ягонага, які загінуў яшчэ ў бітве з туркамі, і Карона аўдавела. І, параіўшыся, аднадушна вырашылі яны ўзяць на каралеўскі пасад вялікага князя Казіміра і прыслалі да яго і да паноў літоўскіх сваіх высокіх паслоў: арцыбіскупа гнезненскага[154], біскупа кракаўскага, пана кракаўскага ды шмат іншых ляшскіх паноў радных, — прасіць яго на Карону Польскую. І паны літоўскія, уладары Вялікага княства, зычачы гаспадару свайму гаспадарства вялікага, паноў ляшскіх удзячна прынялі і ўшанавалі і гаспадара свайго, вялікага князя Казіміра, з вялікаю пашанаю і радасцю правялі да Кракава на каралеўскі пасад і там жа яго каранавалі. І стаў Казімір каралём польскім і вялікім князем літоўскім.

Будучы каралём і вялікім князем, Казімір праз год пасля каранацыі склікаў вальны ляшскі сойм у Петрыкаве[155] для спраў земскіх*. І на тым сойме вырашылі ўсе паны ляшскія ўпотай ад караля іншы сойм склікаць у Парчове[156], і каб там жа былі ўсе паны літоўскія, уладары Вялікага княства, і задумалі яны на тым сойме парчоўскім паноў літоўскіх перарэзаць, а княства Літоўскае да Кароны далучыць і так жа ўчыніць, як учынілі яны з панамі рускімі, перамышльскімі, пазваўшы іх на раду, і там перарэзалі, а Перамышль захапілі. І кароль паводле іхняе рады загадаў сабраць сойм у Парчове для ляхаў і літоўскіх паноў. Але пра тое ён не ведаў, што мела быць на тым сойме з літоўскімі панамі. І паны ляшскія ды літоўскія па волі гаспадара свайго, вялікага караля Казіміра, да Парчова з'ехаліся.

Паны ж літоўскія, пра тое нічога не ведаючы, першы і другі дзень на раду да паноў ляшскіх прыязджалі, і нарэшце надышоў трэці дзень, у які ўсіх паноў літоўскіх вырашылі перарэзаць. А быў адзін лях з добрага роду, Андрэй Рага-

* Земскі — тут: дзяржаўны.

тыньскі; і, даведаўшыся дакладна аб смяротнай пагрозе літоўскім панам, патаемна паведаміў ён пра тое Яну Гаштольту і старасту жамойцкаму Кезгайлу. І тыя паны, нічога не гаворачы слугам сваім, зрабілі так: назаўтра запрасілі паноў ляшскіх да сябе на абед, а самі ўночы борзда выехалі да Берасця, а слуг і абозы пакінулі для даставернасці на тым жа месцы ў Парчове. Паны ж ляшскія, пра тое не ведаючы, хацелі іх перарэзаць паводле сваёй задумы і, сабраўшы шмат людзей, паслалі іх да абозу пабіць паноў літоўскіх. І тыя людзі прыехалі і адразу ж наскочылі на абоз, але паноў літоўскіх не знайшлі, толькі абоз ды слуг. І паны ляшскія зразумелі, што нядобра ўчынілі, і, ні абозам, ні слугам нічога злога не зрабіўшы, адпусцілі іх у Літву.

З таго часу ўзнікла варожасць вялікая і непрыязнасць між панамі літоўскімі ды ляшскімі. Тады паны літоўскія — Ян Гаштольт, ваявода віленскі, Івашка Монвід, ваявода троцкі, Кезгайла, стараста жамойцкі, Пятраш Мангірдавіч, маршалак земскі, намеснік новагарадскі, абурыўшыся, гербы ляшскіх паноў ім назад адаслалі, ды сваімі старымі пячаткамі карыстацца сталі, і шмат злога збіраліся ўчыніць. І кароль Казімір за гэтым пільна сачыў і доўга пра гэтае думаў, пакуль іх у згоду звёў.

## [ЯК КАРОЛЬ І ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КАЗІМІР ПРУСЫ ЗВАЯВАЎ]

Будучы каралём польскім і вялікім князем літоўскім, Казімір цвёрда вырашыў з намовы паноў-рады Кароны Польскае скончыць тую вайну з прускімі немцамі, якую распачаў быў бацька ягоны, кароль Ягайла. І кароль Казімір, не хочучы волі ды намеру бацькі свайго не споўніць, вырашыў яго задуму ажыццявіць. Сабраўшы войска ляшскае і літоўскае, пайшоў ён на Прусію і найперш аблажыў сталіцу прускую — горад Мальборк, які быў узброены і ўмацаваны ўсялякім начыннем. Кароль здабываў горад нямала часу і не мог нічога ўчыніць, бо ў тым замку жаўнераў было вельмі шмат; але магістар прускі тым жаўнерам за год грошай не прыслаў, як з імі быў дамовіўся. А ў тым замку між жаўнерамі прускімі былі палякі, што служылі за прускія грошы. Чакалі ўсе жаўнеры заплаты ад прусаў і не маглі дачакац-

ца. І ляшскія жаўнеры, намовіўшы жаўнераў прускіх, разам з імі, аднадушна змовіўшыся, замак каралю здаць ды заплату сваю ў караля атрымаць, бо тыя ляшскія жаўнеры спрыялі гаспадару свайму прыроджанаму, каралю польскаму. Так усе аднастайна змену з каралём змовілі, што яму здадуць і заплату сваю ў яго возьмуць. Але кароль на той час не меў столькі шмат грошай, каб ім заплаціць, таму заклаў гданьскую марскую мытню гданшчанам і млын гданьскі за трыста тысяч залатых і тым жаўнерам заплаціў, а замак Мальборскі ўзяў і ўсе іншыя гарады прускія каля Мальборка, што не здабыў бацька ягоны, таксама пабраў, а потым з Прусіяй мір заключыў.

## [ПРА ВАЙНУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ КАЗІМІРА З ЧЭШСКІМ КАРАЛЁМ ІРЫКАМ]

А пасля, калі быў кароль Казімір у Кракаве, прыслалі да яго врацлаўляне[157] і сілезцы паслоў, просячы, каб у іх гаспадаром стаў і каб ад Ірыка*, караля чэшскага, іх абараніў. І кароль Казімір абяцаўся гаспадаром у іх быць, і сваё рашэнне з панамі Кароны Польскае прыняў, хочучы тыя землі сабе прыўлашчыць, і разаслаў ганцоў па ўсіх замках ляшскіх, каб барзджэй да вайны рыхтаваліся і на месцы вызначанае ў войска збіраліся. І тады ж паслалі паны ляшскія да братоў сваіх, паноў літоўскіх, просячы дапамогі. І паны-рада Вялікага княства Літоўскага на патрэбу братоў сваіх, паноў польскіх, хутка выправілі ім на дапамогу пяць тысяч коннікаў, княжатаў, ды панятаў, ды дваранаў літоўскіх на чале з гетманам панам Алехнам Судзімонтавічам, намеснікам полацкім, які быў падчашым у караля Казіміра. Калі тыя людзі літоўскія да караля прыйшлі, Казімір з усімі сваімі сіламі ляшскімі і літвою, што на дапамогу панам ляшскім прыйшлі, хутка рушылі да Хвойніц.

У Хвойніцах, усе войскі ў гуфы сшыхтаваўшы, кароль Казімір абраў сабе ў ахову шэсць паноў ляшскіх ды шэсць паноў літоўскіх: пана Алехну Судзімонтавіча, пана Багдана Андрушковіча, пана Яна Кучку, пана Станьку Касцевіча і пана Івана Іленіча, і на кожнага з іх, хто павінен яго ахоўваць, як

* Іржы.

на ляхаў, так і на ліцвінаў, усклаў такую ж зброю, як і на сябе, а Валу загадаў за сабою каня на змену вадзіць. І, войска сваё сшыхтаваўшы да бітвы, пайшоў да Вроцлава, а кароль Ірык сшыхтаваў сваё войска чэшскае і сілезскае.

І калі кароль Казімір падышоў з войскам да Вроцлава, падрыхтаваўшы ўсе палкі, тады сышліся з войскам Ірыка і пачалі бітву. І Божым гневам, за грахі нашыя, кароль Ірык разбіў войска ляшскае і літоўскае нагалаву, і кароль Казімір назад пабег, і ніхто за ім не паспеў, толькі тыя пяць паноў літоўскіх, якія яго ахоўвалі, ды шосты Вол з канём зменным. І калі ўцякалі яны, то натрапілі на атрад пешых людзей і сутыкнуліся з імі. А кароль быў найбліжэй да іх, і яго найлягчэй было схапіць. І тут Алехна Судзімонтавіч, каб караля выратаваць, крыкнуў сваім таварышам: «Браты мілыя, ратуйма таго рыцара». Жаўнеры Ірыкавы пачулі тое, і караля адпусцілі, прыняўшы яго за рыцара, і падумалі, што кароль — гэта пан Алехна Судзімонтавіч або адзін з яго таварышаў, і кінуліся да іх, і ўсіх паранілі ды паланілі, а кароль у той час уцёк, а за ім Вол з канём. Прымчаўся ён да нейкага балота, і конь невыразаны* пад каралём у гразь упаў, а чэхі за ім гоняцца. Тады Вол скінуў з сябе адзежу, рассыпаў стрэлы і пачаў страляць, і чэхі не пасмелі на іх напасці. А кароль тым часам цераз балота перабраўся, і Вол яму валаха** падаў і сам, на каня сеўшы, прыехаў з каралём да Хвойніц. Тады ж спаткаў Казіміра перад Хвойніцамі кракаўскі пан Рутвянскі і сказаў: «Хвала пану Богу, што тваю міласць здаровым бачым, а калі ваша міласць, гаспадар наш у здароўі да нас вярнуўся, то на Бога спадзяёмся, што ваша міласць неўзабаве перамогу над гэтым непрыяцелем атрымае». А спаткаў ён караля, у палатно закруціўшыся, бо ў лазні мыўся. І кароль, заплакаўшы, сказаў: «Пане Рутвянскі, вы ў лазні вадою мыліся, а мае верныя слугі ліцвіны ў руках варожых кроўю абмываюцца».

Пасля таго пабоішча каралю Казіміру вельмі цяжка было, і пачаў ён выношваць у сэрцы сваім, як бы з Божаю дапамогаю ворагам сваім як найхутчэй злом за зло адплаціць. І паслаў борзда да паноў літоўскіх, жадаючы, каб яны пазычылі яму грошай на тую патрэбу. І паны ляшскія разам з пасламі каралеўскімі адправілі сваіх паслоў да паноў літоўскіх, да бра-

* Жарабец.

* Валах — тут: легчаны конь.

тоў сваіх, просячы, каб ім людзьмі памаглі, іхнім клопатам пераняўшыся.

А ў той час нікога з паноў літоўскіх не было, толькі Ян Гаштольт, ваявода віленскі, у Вільні ды Івашка Монвід, ваявода троцкі, у Троках, бо тады сойма не было, усе па дамах сваіх раз'ехаліся. І тыя два паны з'ехаліся, бачачы такую пільную справу і патрэбу гаспадарскую, не паведамлялі іншым панам, братам сваім, а хутчэй адправілі падскарбія земскага Вялікага княства Літоўскага, пана Аляксандра Юр'евіча, і з ім паслалі пазыку, узятую са скарбу земскага Вялікага княства, восемдзесят тысяч залатых чырвонцаў, а братам сваім, панам ляшскім, паслалі на дапамогу восем тысяч коннікаў, пяць тысяч княжычаў ды панічоў з двору літоўскага ды тры тысячы татараў. І прызначылі над імі старшым гетманам пана Івана Хадкевіча, намесніка віцебскага. Кароль Казімір, на тыя залатыя наняўшы войска, сабраў усе сілы ляшскія і паслаў іх з дапамогаю літоўскаю на караля чэшскага Ірыка. І праз чатырнаццаць тыдняў пасля першае паразы людзі ляшскія ды літоўскія з ласкі Божае ўсё войска Ірыкава нагалаву разбілі, а самі фартунліва, з малымі стратамі перамогу атрымаўшы, вярнуліся да караля Казіміра. І паланілі ў той сечы шмат паноў чэшскіх ды сілезскіх з войска Ірыкавага, сярод якіх і пана Першынскага. Злавіў яго князь Глашына, княжыч смаленскі, які потым стаў акольнічым смаленскім. І кароль Казімір, бачачы, што ягоныя воі здаровымі вярнуліся, перамогу над непрыяцелем атрымаўшы, хвалу Богу ўзнёс за тое, што за такі кароткі час ад яго святое міласці ўцеху атрымаў.

Потым кароль Ірык прыслаў да караля Казіміра ганцоў, просячы, каб з абодвух бакоў у Глогаў[158] былі высланыя на перамовы паслы. І Казімір, паводле жадання караля Ірыка, паслаў двух сваіх паноў з ляхаў ды двух — з літвы: пана Марціна Гаштольтавіча, намесніка новагародскага, ды Войцаха Монвідавіча, ваяводзіча* троцкага. І тыя паны ляшскія ды літоўскія па загадзе караля Казіміра паехалі ў Глогаў, а чэшскія ды сілезскія паны караля Ірыка ўжо там былі, і там дамовіліся нарэшце між сабою, што каралі самі з'едуцца ў Глогаў. І абодва каралі, Ірык ды Казімір, паводле дамовы паноў сваіх, з'ехаліся з роўнымі** почтамі***, і там сустрэліся, і мір

* Ваяводзіч — ваяводаў сын.

** Роўны — тут: аднолькава вялікі.

*** Почт — світа.

вечны заключылі, і абмяняліся вязнямі, якія былі ў палоне тры гады, чэшскія — у караля Казіміра, а ляшскія ды літоўскія — у караля Ірыка. Заключыўшы мір, яны раз'ехаліся, а потым кароль Казімір прыехаў у Літву.

## [ПРА СЫНОЎ КНЯЗЯ АЛЯКСАНДРА УЛАДЗІМІРАВІЧА, А ТАКСАМА ПРА ВАЛАШСКАГА ВАЯВОДУ СТЭФАНА]

У год 6961 [1453] месяца траўня 29 дня ўзяты быў туркамі Царгорад.

У год 6962 [1454] памёр князь кіеўскі Аляксандар Уладзіміравіч, празваны Алелькам, і пакінуў пасля сябе двух сыноў — князёў Сямёна ды Міхайлу. І кароль пасля смерці іхняга бацькі не даў ім у валоданне Кіеў, бацькаўшчыны іхняе, але ад сябе даў князю Сямёну, а князь Міхайла сеў на бацькаўшчыне сваёй, у Капылі, бо дзед іхні, князь Уладзімір, бегаў у Маскву і праз тое прабегаў бацькаўшчыну сваю — Кіеў.

У год 6966 [1458] памёр ваявода віленскі Ян Гаштольт.

У год 6978 [1470] спачыла пабожная ўдава князя кіеўскага Аляксандра — Настасся, унучка Вітаўтава.

У год 6979 [1471] пасланы быў князь Міхайла Аляксандравіч ад караля Казіміра ў Вялікі Ноўгарад намеснікам.

У той жа год месяца снежня 4 дня спачыў пабожны князь кіеўскі Сямён Аляксандравіч. І па смерці князя Сямёна брат ягоны, князь Міхайла, пакінуўшы...*

Якраз тады, калі біскуп кафінскі сядзеў за сталом у пана Марціна, туркі прыйшлі і захапілі Кафу[159]. І як толькі ён пачуў тую вестку, адразу ж з вялікага засмучэння за сталом і памёр і там жа ў Кіеве пахаваны быў. А потым туркі прыйшлі ў Валахію і ўзялі Кілію[160] ды Белгарад[161].

У год 6994 [1486] прыслаў веснікаў да караля Казіміра ваявода валашскі Стэфан, паведамляючы, што цар турэцкі прыйшоў з вялікімі сіламі ў яго зямлю, хочучы яго з гаспадарства выгнаць і зямлю Валашскую заняць. І прасіў Стэфан, каб кароль яму дапамог і яго і зямлю ягоную выратаваў, абяцаючы разам з усёю зямлёю ягоным вечным васалам быць. Кароль жа Казімір без усякага прамаруджання, сабраўшы ўсе сілы Кароны Польскае ды шмат людзей літоўскіх, пайшоў яму на да-

* Пропуск у тэксце хронікі.

памогу і, прыйшоўшы да мяжы валашскае, стаў у месце, названым Каламыя[162]. Стэфан жа з усімі панамі сваімі ды з колькімі тысячамі людзей прыехаў да яго ў Каламыю. Кароль Казімір прыняў яго з вялікаю пашанаю, і жыў Стэфан у караля два тыдні, і аддаўся з усёю сваёю зямлёю каралю ў рукі, і голд вечны прызнаў, і ўсе валахі перадалі харугвы свае ў рукі каралю. Кароль Казімір, адпусціўшы ваяводу валашскага, паслаў да яго на дапамогу каралевічаў ды шмат людзей сваіх. І як толькі каралёвы людзі пярэднія* ўвайшлі ў зямлю Валашскую, цар турэцкі, пачуўшы пра тое, што каралевічы і войска каралеўскае прыйшлі ваяводу на дапамогу, адразу ж падаўся з зямлі Валашскае ў сваю зямлю за Дунай, а кароль Казімір і каралевіч са сваімі войскамі вярнуліся назад у Польшчу. Ваявода ж валашскі пасля таго на малы час меў супакой ад турэцкага цара.

У тым жа годзе, калі кароль Казімір, пабыўшы ў Ляхах, прыехаў у Літву, прымчаўся да яго вялікі князь цверскі Міхайла Барысавіч, а вялікае княжанне цверычы аддалі вялікаму князю маскоўскаму Івану Васільевічу.

У тым жа годзе месяца траўня 2 дня выпаў снег такі вялікі, што можна было саньмі ездзіць. У тым жа месяцы траўні 21 дня выпаў снег у паўлыткі і была вельмі вялікая сцюжа.

## [ПРА СМЕРЦЬ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ КАЗІМІРА]

А потым быў кароль Казімір у Вялікім княстве Літоўскім сем гадоў, бо з большай ахвотай жыў ён у Вялікім княстве, чым у Ляхах, бо ў Літве вельмі ловы раскошныя — шмат розных звяроў, якіх ні ў адным іншым гаспадарстве няма, а кароль Казімір вельмі ловы любіў. А пасля паехаў ён у Польшчу і быў там год, і вярнуўся ў сталіцу Вялікага княства Літоўскага, у Вільню, і быў там год, а пасля разнямогся і загадаў адвезці яго да Горадні, бо там вельмі любіў жыць дзеля раскошных ловаў і ўсякіх пажыткаў.

Будучы ў Горадні, ён зразумеў, што ўжо з тае хваробы выйсці не зможа, і ён паклікаў да сябе сваіх паноў-раду Вялікага княства Літоўскага ў ложніцу, дзе ён адпачываў, і пачаў прасіць іх умільна і пакорліва, каб паны-рада ўзялі сабе гас-

* Пярэднія людзі — тут: авангард.

падаром на княства Літоўскае яго сярэдняга сына, каралевіча Аляксандра. І паны-рада, бачачы, што ён княствам Літоўскім добра радзіў і спраўляваў, з тым пагадзіліся, каб пасля яго смерці ўзяць на вялікае княжанне літоўскае сына ягонага — каралевіча Аляксандра.

Пасля таго кароль Казімір паклікаў да сябе паноў ляшскіх, якія на той час пры ім былі, і тое ж мовіў ім, патрабуючы імем каралеўскім, каб паны-рада Кароны Польскае не пакінулі без увагі астатняе просьбы гаспадара свайго ды ўзялі пасля яго смерці гаспадаром сабе на Карону Польскую яго старэйшага сына — каралевіча Ольбрахта. І паны ляшскія абяцалі прасіць аб гэтым усіх пралатаў і паноў польскіх. А потым паны літоўскія сказалі: «Міласцівы гаспадару, двум сынам сваім гаспадарствы забяспечыў пасля сваёй смерці, а свайго трэцяга сына малодшага, каралевіча Жыгімонта, з чым пакідаеш?» І кароль Казімір прасіў паноў польскіх, каб яны ад яго імя прасілі сыноў яго старэйшых, Уладзіслава, які быў каралём вугорскім і чэшскім, ды Ольбрахта, які пасля яго быў каралём польскім, каб яны Жыгімонта ўвагаю не абдзялілі, але пры сабе захавалі. І, мудра ўладзіўшы дзяржаўныя справы, там жа, у Горадне, жыццё сваё ў глыбокай старасці скончыў. Было гэта ў чацвер, за тыдзень да Божага ўзнясення.

У год ад Божага нараджэння 1492 месяца траўня 24 дня, перад сёмаю суботаю, узялі яго цела, адвезлі да Кароны Польскае ў горад Кракаў і паклалі ў замку ў касцёле святога Станіслава, у капліцы, якую ён сам пабудаваў. Там жа і ўдава ягоная Альжбета пасля яго смерці нейкі час жыла і па смерці сваёй была пахаваная ў той самай капліцы.

## [ЯК ВЯЛІКІ КНЯЗЬ АЛЯКСАНДАР АЖАНІЎСЯ З МАСКОЎСКАЮ КНЯЗЁЎНАЙ АЛЕНАЮ]

Пасля смерці караля Казіміра ляхі ўзялі сабе каралём сына ягонага каралевіча Ольбрахта, а Літва ўзяла сабе вялікім князем яго роднага брата каралевіча Аляксандра.

У тым жа годзе, пад зіму, вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч пачаў вайну супраць Вялікага княства Літоўскага і горад Вязьму ўзяў ды іншых гарадоў нямала — Хлепень, Мяшчоўск[163], Любуцк[164], Мцэнск[165], Сярпейск[166] — і воласцяў шмат. Вялікі князь літоўскі Аляксандар і паны-рада Вялікага

княства Літоўскага ўбачылі, што вялікі князь маскоўскі, забыўшыся на дагавор і крыжацалаванне, якое было між ім ды ягоным бацькам каралём Казімірам, пайшоў на яго такою вайною безадказнаю і нямала гарадоў ды воласцяў пабраў. Яму, толькі нядаўна стаўшы гаспадаром, у той час цяжка было ваяваць з князем маскоўскім, і ён паслаў да яго паслоў сваіх: ваяводу троцкага, маршалка земскага пана Пятра Янавіча, пана троцкага, старасту жамойцкага пана Станіслава Янавіча, маршалка пана Войцеха Янавіча, пісара пана Федзьку Грыгор'евіча.

Яны, прыехаўшы ў Маскву да вялікага князя Івана Васільевіча, узялі з ім вечны мір і дагавор заключылі, і крыжацалаванне ад сябе ды дзяцей сваіх учынілі, і змовілі ў яго дачку ягоную, вялікую князёўну Алену, за вялікага князя Аляксандра. Горад жа Вязьму і ўсе вышэйназваныя гарады і воласці засталіся за вялікім князем маскоўскім, толькі тых смалян, якія ў тых гарадах былі палонены, адпусцілі ў Смаленск.

Пазней, калі надышоў 7003 год ад пачатку свету, а ад Божага нараджэння 1495-ты, паслаў вялікі князь Аляксандар у Маскву да князя Івана па князёўну Алену — пана віленскага, намесніка горадзенскага князя Аляксандра Юр'евіча, пана троцкага, намесніка полацкага пана Забярэзінскага, Юр'евага сына, намесніка браслаўскага пана Юр'я Зяноўевіча ды пісара, дзяржаўцу стоклішскага пана Федзьку Грыгор'евіча.

Яны ж, прыехаўшы ў Маскву, узялі вялікую князёўну Алену і прывезлі яе ў Літву, а з ёю былі пасланы ад бацькі яе, вялікага князя Івана Васільевіча, паслы — князь Сямён Рапалоўскі, Міхайла Русалка, Іван Скуратаў, дзяк Васіль Кулешын. Прывезлі яе ў Вільню за два тыдні да вялікіх запустаў. І вялікі князь Аляксандар з усімі панамі раднымі і з дваранамі і з многімі людзьмі сустрэў яе, выехаўшы з горада, і разам яны ўехалі ў Вільню. І было там наладжана вялікае вяселле, як вялікім гаспадарам належыць, і было тое вяселле некалькі тыдняў, а пасля таго паслы маскоўскія з вялікаю пашанаю ды з багатымі дарамі былі адпушчаны дадому.

У тым жа годзе прыехалі ў Вільню да князя Аляксандра маці ягоная каралева Альжбета з сынам сваім, братам Аляксандравым, каралевічам Фрэдрыкам, з кардыналам і архібіскупам Кароны Польскае, біскупам кракаўскім і з дзвюма дочкамі — каралеўнамі Барбараю ды Альжбетаю. Вялікі князь прыняў іх з вялікаю радасцю, балі ды забавы на шмат дзён учыніў

ім, як добры сын ласкавай матцы і як верны брат любімаму брату. І жылі яны ў Вільні доўгі час і, пабачыўшы нявестку сваю, вялікую княгіню Алену, з вялікаю пашанаю і вельмі каштоўнымі дарамі ў Польшчу вярнуліся.

## [ПРА ВАЙНУ КАРАЛЯ ОЛЬБРАХТА І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ АЛЯКСАНДРА З ВАЛАШСКІМ ВАЯВОДАМ СТЭФАНАМ]

Тою ж восенню саслаліся* кароль польскі Ольбрахт з братам сваім, вялікім князем літоўскім Аляксандрам, і, параіўшыся, палажылі між сабою сустрэцца на сойме ў Парчове. І тою зімою князь Аляксандар з княгіняю Аленаю і з панамі аб'язджаў зямлю Рускую, і былі яны ў Смаленску, Віцебску і Полацку, і на весну зноў вярнуліся ў Вільню.

У год 7004 ад пачатку свету, а ад Божага нараджэння 1496 паехаў вялікі князь Аляксандар у Берасце, кароль жа Ольбрахт з іхнім братам, каралевічам Жыгімонтам, падаўся ў Люблін, а потым з усімі сваімі панамі-радаю з абодвух бакоў з'ехаліся на сойм у Парчоў, і былі ўсе разам у Парчове два тыдні. А што між сабою ўмыслілі ды ўрадзілі, тое ўсё, у вялікай таямніцы захаваўшы, раз'ехаліся: Ольбрахт — у Кракаў, а вялікі князь Аляксандар — у Вільню.

У год 7005 ад пачатку свету, а ад Божага нараджэння 1497 сабраў кароль польскі Ольбрахт вялікае мноства войска свайго і з усімі сіламі Кароны Польскае, падрыхтаваўшыся конна і збройна, пайшоў вайною на Стэфана, ваяводу валашскага. А князь вялікі Аляксандар па дамове, учыненай з Ольбрахтам на сойме ў Парчове, без ведама ўсіх сваіх паноў-рады, рушыў праз Брацлаў да Сарокі[167], у зямлю Валашскую, а кароль Ольбрахт з другога боку. І калі прыйшоў князь вялікі Аляксандар пад Брацлаў, да ракі Буг, паны літоўскія пачалі яго пытаць: «Міласцівы гаспадару наш! Куды, твая міласць, вядзеш нас?» І князь Аляксандар адказаў: «Калі б ведала кашуля, якая на мне, я і тую спаліў бы». Паны ж сказалі: «Калі ты, гаспадар наш, нам рады і задумы сваёй не паведаеш, мы, воі, не пойдзем за раку Буг».

* Саслацца — абмяняцца пасламі.

І князь вялікі Аляксандар пабачыў, што не можа, як дамовіўся з братам сваім каралём Ольбрахтам, там быць з усёю сілаю, бо паны-рада ды ўсё войска не хацелі туды ісці, таму што ім задумы сваёй не паведаміў. І ён адправіў у Валашскую зямлю брату свайму, каралю Ольбрахту, на дапамогу маршалка свайго, намесніка лідскага пана Станіслава Пятровіча, князя Сямёна Іванавіча Мажайскага, князя Васіля Іванавіча Шамячыча, а з імі колькі тысяч княжычаў да панічоў і адборнай шляхты. А сам князь Аляксандар загадаў Брацлаў адбудаваць нанова, бо горад быў спустошаны і спалены ваяводам валашскім.

Вяртаючыся з Брацлава, ён завітаў у Трокі да ваяводы троцкага, пана Пятра Янавіча, і адведаў яго ў Троках, бо пан Пётр вельмі хварэў, а быў ён у той час і ваяводам троцкім і найвышэйшым гетманам літоўскім. Князь Аляксандар, пабачыўшы яго хворым, пачаў раіцца з ім, каму б пасля яго смерці гетманства перадаць. І пан Пётр раіў, каб далі гетманства князю валынскаму Канстанціну Астрожскаму. І кароль тады ж з парады ваяводы троцкага перадаў гетманства князю Канстанціну.

А тым часам кароль Ольбрахт ужо быў у зямлі Валашскай. І ўведаў Стэфан, ваявода валашскі, з пэўнасцю пра тое, што Ольбрахт з вялікім гневам і з аграмаднаю сілаю прыйшоў у зямлю ягоную. І Стэфан, сабраўшы ўсё сваё войска, умацаваўшы добра сталічны замак свой Сучаву[168] і ўсе іншыя свае гарады, сам жа з усім войскам сваім рушыў у горы, у мясціны цесныя і непраходныя, дзе быў ягоны любімы манастыр, называны Путна[169], і там у вялікай цвёрдасці* з усім войскам сваім схаваўся. Кароль жа Ольбрахт, прыйшоўшы да Сучавы, стаяў пад горадам некалькі дзён і зразумеў, што нічога гораду ўчыніць не можа, бо ўсе валахі, якія былі абложаны ў Сучаве, такі адказ далі яму: «Ведай пэўна, што мы гаспадару нашаму і гораду ягонаму здраднікамі быць не можам, бо гаспадар наш Стэфан-ваявода зараз на полі са сваім войскам. Калі хочаш, пайдзі, перамажы яго, тады гарады і ўся зямля ягоная ў руках тваіх будзе». І Ольбрахт адступіў ад Сучавы і рушыў у зямлю Валашскую, хочучы зацята біцца са Стэфанам. Ваявода ж валашскі, бачачы тое, што адпору Ольбрахту ўчыніць не можа, паслаў да яго паслоў сваіх, і заключыў з ім мір, і згадзіўся з усёю сваёю зямлёю служыць яму, як і бацьку ягонаму, каралю

* Тут: надзейнасці.

Казіміру, служыў. І граматы падпісалі ды прысягу далі, што на тым цвёрда стаяць будуць.

Пра тое дамовіўшыся, кароль Ольбрахт пайшоў з яго зямлі і, не хочучы тою ж дарогаю, якою прыйшоў, назад вяртацца, але хочучы хутчэй простаю дарогаю выйсці, пайшоў праз букавіны* і горы і скалістыя, ледзьве праходныя лясы, бо цераз тыя гарыстыя мясціны была простая, але вельмі благая дарога да мяжы ляшскае. Пачуў ваявода пра тое, што кароль Ольбрахт не хоча тою ж дарогаю вяртацца, якою прыйшоў, але жадае ісці іншаю дарогаю, цераз скалістыя букавіны, і рады ён быў таму вельмі і, не дбаючы аб прысязе і падпісанні вечнага міру, хутка паслаў да цара турэцкага, і да Вуграў, і да мульцянскага** ваяводы. І яны адразу ж прыслалі яму колькі тысяч людзей, а апрача таго, ён і сам усіх сваіх людзей конных ды пешых падрыхтаваў. Ужо як быў кароль Ольбрахт з усім войскам на Букавіне[170], дык ішоў бязбоязна, ніадкуль не чакаючы ніякае небяспекі, бо яны з ваяводам валашскім між сабою прысягалі і вечны мір падпісвалі. А Стэфан быў тады вельмі нямоцны на нагі, але, вельмі хочучы волю сваю здзейсніць, забыўся на свае немачы ды хваробы, загадаў, каб яго ў санях везлі, і прыйшоў з усімі людзьмі сваімі, і з туркамі, і з вуграмі, і з мульцянамі, і ўдарыў у тых лясах і букавінах па войску караля Ольбрахта. І многіх з таго войска пабілі, а іншых жывымі схапілі і шмат вазоў з вялікімі скарбамі і колькі знакамітых харматаў пазабіралі, самому ж каралю Ольбрахту і многім панам ды воям ягоным нічога не ўчынілі. Калі ўжо кароль прайшоў праз лясы і букавіны, ваявода валашскі з усімі сваімі людзьмі вярнуўся назад. Тады ж Стэфан паланіў вялікага маршалка Кароны Польскае пана Тачынскага.

Маршалак жа вялікага князя літоўскага Аляксандра, пан Станіслаў Пятровіч, з усімі людзьмі, якія былі з ім пасланы на дапамогу каралю Ольбрахту, у свой час прыйсці не паспелі, бо, перайшоўшы раку Днестр, спаткалі валахаў і стачылі з імі бой. Міласэрнасцю Божаю яны разбілі валахаў, але не паспелі прыйсці каралю на дапамогу, з'явіліся ўжо пасля пабоішча. Ваявода валашскі назад пайшоў, а кароль Ольбрахт у той час разнямогся, войска ягонае ў вялікім жалі ды смутку было, яшчэ чакаючы за сабою пагоні. І як пабачыў кароль войска брата свайго, што прыйшло яму на дапамогу, рады быў вельмі,

* Букавыя лясы.

** Мульцянскі — румынскі.

узвесяліўся і ўсцешыўся сэрцам, і далей рушыў дарогаю бязбоязна, і, дайшоўшы да Камянца, а потым і да Львова, войскі разышліся кожны да сябе.

Вялікі ж князь Аляксандар стаяў у Брацлаве доўгі час і горад адбудаваў, і ўсе тыя людзі, якія былі зведзены з Брацлава ў Валахію, зноў вярнуліся ў горад. Тады ж на полі за дванаццаць міляў ад Брацлава літва разбіла некалькі соцень татараў. Пасля таго вялікі князь Аляксандар вярнуўся ў Літву.

У тым жа годзе быў голад вялікі ў зямлі Літоўскай і немачы французскія* сярод людзей пачалі множыцца.

А на наступны год увосень прыходзіў Стэфан, а з ім вялікі паша цара турэцкага на імя Малькоч з многімі людзьмі, і паваявалі зямлю Ляшскую, пачаўшы ад Камянца ды Львова і аж да Тарнова, і, не дайшоўшы дзесяці міляў да Кракава, вярнуліся, шмат зла зямлі Ляшскай учыніўшы.

## [ЯК ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ БЫЛО ЗВАЯВАНАЕ ПРАЗ МАСКОЎЦАЎ, А ТАКСАМА ПРАЗ ТАТАРАЎ ПЕРАКОПСКІХ]

У год ад пачатку свету 7008, а ад Божага нараджэння 1499 задумаў вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч пачаць вайну з зяцем сваім, вялікім князем літоўскім Аляксандрам, па змове з царом перакопскім Мэндлі-Гірэем і са сватам сваім, ваяводам валашскім Стэфанам, пераступіўшы прысягу, вечны мір ды кроўны хаўрус. І паслаў таемна да князёў Сямёна Іванавіча Бельскага, Сямёна Іванавіча Мажайскага, Васіля Іванавіча Шамячыча, каб яны са сваімі гарадамі ды воласцямі адступіліся ад зяця ягонага, князя Аляксандра, і разам з усім тым служылі яму, а да таго ж яшчэ абяцаў ім шмат сваіх гарадоў ды воласцяў. На тым дамовіліся і прысягу між сабою ўчынілі, што яны з дапамогаю ягонаю могуць ваяваць Вялікае княства Літоўскае безупынна, і якія гарады і воласці ад Літвы адбяруць, тое ім самім усё трымаць. Дамовіўшыся і моцна ўцвердзіўшы іх, вялікі князь маскоўскі прыслаў ваяводу свайго Якава Захарыніча з многімі людзьмі да Бранска і ў Северскую зямлю, і яны нечакана прыйшлі і сталі непадалёк ад Бранска.

* Немачы французскія — пранцы, венерычныя хваробы.

Ваявода ж бранскі пан Станіслаў Барташэвіч пра тое ніякае весткі не меў, бо ў той час ён быў у аб'ездзе, у двары каралеўскім ва Ушчыжы[171]. I тою ноччу праз здраду бранцаў быў спалены горад Бранск. Маскоўцы ж, як уведалі, што горад Бранск згарэў, борзда паспяшаліся да горада і знячэўку пана Станіслава Барташэвіча ў адным сяле схапілі і з ім шмат іншых бранцаў, а затым, прыйшоўшы, Бранск і ўсю зямлю Северскую занялі, і ўсе бранцы прысягнулі служыць вялікаму князю маскоўскаму.

Калі ўведалі князі Сямён Іванавіч Мажайскі ды Васіль Іванавіч Шамячыч, што маскоўцы Бранск узялі, яны, прыехаўшы да Якава Захарыніча, ваяводы вялікага князя маскоўскага, на раку Контаўт, прысягнулі служыць вялікаму князю маскоўскаму з усімі гарадамі, з Чарнігавам, Старадубам, Гомлем, Ноўгарадам-Северскім, Рыльскам[172], і з усімі валасцямі, што былі пад уладаю Вялікага княства Літоўскага. Князь жа Сямён Іванавіч Бельскі яшчэ перад узяццем Бранска прыехаў у Маскву і з усёю бацькаўшчынаю сваёю перадаўся вялікаму князю маскоўскаму.

Вялікі князь літоўскі Аляксандар, пачуўшы пра тое, што цесць ягоны, вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч, рушыў на яго вайною, і горад Бранск і шмат іншых гарадоў яму здаліся, і разам з тымі названымі князьмі прысягнулі служыць яму, і паслаў князь Аляксандар да Смаленска гетмана свайго князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, маршалка свайго дворнага, намесніка мярэцкага і анікшчайскага пана Грыгорыя Станіслававіча Асціковіча, падчашага свайго, намесніка бельскага пана Мікалая Мікалаевіча, маршалка пана Яна Пятровіча, маршалка, намесніка навагародскага і слонімскага Літавара Храптовіча ды шмат іншых князёў, паноў, дваранаў і баяраў сваіх, і, паслаўшы іх уперад, сам з усімі людзьмі Вялікага княства Літоўскага пайшоў да Менска, а адтуль да Барысава і стаяў там немалы час.

Князь жа Канстанцін Іванавіч Астрожскі з вышэйназванымі панамі і з усімі людзьмі, якія былі з ім, прыйшоў да горада Смаленска. А тады ваяводам у Смаленску быў пан Станіслаў Пятровіч, званы Кішка. Прыйшла вестка ў Смаленск, што ваявода князя маскоўскага Юры Захарыніч стаіць на Ведрашы з вельмі малымі сіламі. I князь Канстанцін з усімі людзьмі і панамі, а яшчэ і з ваяводам смаленскім і з усімі смалянамі, узброіўшыся ды зрадзіўшыся, пайшлі пад Дарагабуж і прыйшлі да Ельні[173]. А ў той час злавілі аднаго языка з войска

маскоўскага, іменем Герман, які, будучы дзякам Багдана Сапегі, уцёк у Маскву. Той язык паведаў ім пра войска маскоўскае так: «Ваявода князя маскоўскага Юры Захарыніч доўгі час быў пад Дарагабужам з малою колькасцю людзей, а тры тыдні назад прыйшлі яму на дапамогу іншыя, большыя ваяводы — князі Даніла Васільевіч Шчэня ды Іван Міхайлавіч Перамышльскі. І ўсе яны з многімі іншымі ваяводамі і людзьмі ўжо стаяць на адным месцы пад Дарагабужам, а таму калі б вы прыйшлі раней, яны не маглі б з вамі ў бой уступіць. Цяпер жа добра ведайце і разумейце, што не трэба ісці на іх. Вярніцеся назад, бо вам не варта біцца з імі — іх шмат, а вас супроць іх вельмі мала». Але князі літоўскія, не хочучы верыць яму і думаючы, што гэта падман ды няпраўда, загадалі языка павесіць, самі ж далей паехалі. Прамінуўшы вёску Лапаціна[174] і не дайшоўшы дзвюх міляў да вёскі Ведрашы[175], уведалі пэўна, што маскоўцы, моцна ўзброіўшыся і падрыхтаваўшыся, стаяць напагатове ў Ведрашы, чакаючы іх. Князь жа Канстанцін і паны і ўсе людзі, якія былі з імі, параіўшыся, так вырашылі: мала ці многа маскоўцаў будзе — усё роўна, толькі, Бога ўзяўшы на дапамогу, біцца з імі, а не біўшыся, назад не вяртацца, але ісці на бітву і прыняць усё, што мае адбыцца і на што будзе воля Божая. І, тое ўмысліўшы і на тым пастанавіўшы, пайшлі яны шляхам сваім з Лапаціна да Ведрашы дзве мілі лесам, па глыбокай гразі, і з вялікаю вымогаю ды цяжкасцю ледзьве прайшлі лес, і хутка выйшлі на поле, дзе сустрэліся з маскоўцамі, і сышліся з імі, і тут пачалі бой між сабою, і з абодвух бакоў шмат людзей пабілі, а іншых паранілі. Маскоўцы назад павярнулі, і, перайшоўшы рэчку Ведраш, да сваіх вялікіх палкоў вярнуліся, і там, апалчыўшыся, сталі. Ліцвіны ж, як прыйшлі да рэчкі, хутка ды спешна за раку пайшлі і пачалі зацята біцца. Маскоўцы ж думалі, што літва вялікаю сілаю на іх з лесу ідзе ды, спадзеючыся на сілу сваю, так смела выходзіць. І гэтага баючыся, маскоўцы не маглі з імі смела біцца і ледзьве не ўсе пабеглі. Потым, калі літва выйшла на поле, яны пабачылі і зразумелі, што ліцвінаў няшмат. Літоўскага войска было не больш як тры з паловаю тысячы конных, апрача пешых, а маскоўцаў было сорак тысяч добра ўзброеных і спраўных коннікаў, не лічачы пешых. І, бачачы, як мужна ды харобра выйшла такое невялікае войска літоўскае, дзівіліся яны, а потым, як ужо ўгледзелі ўсіх, тады дружна ды цвёрда рушылі на войска літоўскае. Ліцвіны ж, пачаўшы біцца і пабачыўшы, што маскоўцаў шмат, а іх саміх мала, не маглі далей устаяць перад

іх націскам, пабеглі. Маскоўцы ж пагналіся за ліцвінамі, многіх пабілі, а іншых жывых палавілі. Тады палонены былі гетман князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, пан Грыгоры Станіслававіч Асцікoвіч, Літавар Храптовіч, пан Мікалай Юр'евіч Глябовіч, пан Мікалай Зяноўевіч ды шмат іншых паноў. Ян жа Пятровіч незаўважна ўцёк, а іншых шмат пабілі і схапілі. Маскоўцы, вярнуўшыся з пабоішча, усіх паноў палонных адаслалі да вялікага князя ў Маскву.

Вялікі ж князь літоўскі Аляксандар прыйшоў з усім войскам сваім і стаў на рацэ Бабры[176]. У той час прыбеглі веснікі, паведамляючы яму, што ягонае перадавое войска маскоўцы пабілі на Ведрашы і гетмана, і паноў, і шмат людзей паланілі. Пачуўшы тое, засмуціўся ён вельмі з панамі і з усім войскам сваім і шмат дзён жалем вялікім быў апанаваны, але потым адкінуў жаль ды смутак, і, Бога свайго ўсемагутнага ўхваліўшы, рушыў з усімі людзьмі, і стаў у Абольцах[177], і там жыў немалы час. Тады з'явіўся да яго ў Абольцы пасол вялікага князя маскоўскага з адпаведнымі граматамі. Князь вялікі Аляксандар прыняў яго ў Абольцах і затым адпусціў, сам жа з усімі людзьмі пайшоў да Полацка, і стаяў там мала не ўсю восень, і, умацаваўшы гарады Полацак, Віцебск і Смаленск, вярнуўся ў Літву.

Тою ж восенню ваявода вялікага князя маскоўскага Якаў Захарыніч, царэвіч казанскі Магністэлі, князь Сямён Іванавіч Мажайскі ды князь Васіль Іванавіч Шамячыч, прыйшоўшы, горад Пуціўль узялі, і намесніка пуціўльскага князя Багдана Фёдаравіча з княгіняю і з усімі пуціўльцамі ў палон павялі, і ўсю зямлю Северскую занялі, і гарады Дарагабуж, Залідаў[178] і Тарапец[179] аддалі вялікаму князю маскоўскаму.

У тым жа годзе вялікі князь маскоўскі зяцю свайму, вялікаму князю Аляксандру, многа зла ўчыніў, пераступіўшы прысягу, вечны мір ды кроўны хаўрус.

Тою ж восенню Мэндлі-Гірэй, цар перакопскі, падбухтораны князем маскоўскім, паслаў сына свайго Ахмат-Гірэя з іншымі сваімі дзецьмі ды з вялікімі сіламі татарскімі ваяваць зямлю Валынскую, Падляшскую і Ляшскую, і яны тыя землі ваявалі, і гарады Уладзімір ды Берасце спалілі, і ваявалі каля Любліна да самае ракі Віслы, і, перайшоўшы Віслу, места Апатаў Вялікі спалілі, і, шмат зла і невымоўнага кровапраліцця хрысціянам у Вялікім княстве Літоўскім і ў Кароне Польскай учыніўшы і шмат гарадоў ды вёсак папаліўшы, з вялікім палонам і здабыткам да сябе адышлі.

Тою ж зімою вялікі князь Аляксандар даў маршальства дворнае мілосніку свайму князю Міхайлу Львовічу Глінскаму, пра якога далей будзем шмат незвычайнага пісаць.

## [ЯК МАСКОЎЦАЎ З-ПАД СМАЛЕНСКА ПРАГНАЛІ]

У год ад пачатку свету 7009, а ад Божага нараджэння 1500 вялікі князь Аляксандар паслаў у Карону Польскую, у Чэхію і ў Нямеччыну ганцоў, і наняў за грошы колькі тысяч вояў, і з усімі людзьмі паўстаў супраць цесця свайго, вялікага князя маскоўскага. Тады прыйшоў да яго ў Літву адзін чэх, Ян Гірнін, а з ім шмат чэхаў, немцаў ды ляхаў. Князь жа вялікі Аляксандар сабраўся з усімі імі і рушыў да Менска. І ў Менску прыйшла яму вестка, што вялікі князь маскоўскі адправіў да Смаленска сына свайго князя Дзімітрыя Жылку з вялікім войскам, з гарматамі ды з усімі прыладамі для здабывання замкаў. І ўжо прыйшлі ўсе маскоўцы пад Смаленск і, аблажыўшы горад, упарта здабывалі яго.

Пачуўшы гэта, вялікі князь Аляксандар паслаў супраць яго пана троцкага, старасту жамойцкага Станіслава Яноўскага з усім войскам Вялікага княства Літоўскага і вышэйназванага чэха з усімі чужаземцамі. І ўсе яны рушылі на маскоўцаў. Тыя ж, будучы пад Смаленскам, ваявалі на ўсе стораны, а горад Смаленск, мала не ўвесь гарматамі аблажыўшы, і дзень і ноч безупынна яго здабывалі і з вялікімі турамі, насыпанымі пяском ды зямлёю, невымоўна яго штурмавалі, але міласэрнасцю Божаю і дапамогаю прачыстае Багародзіцы не маглі ніякае шкоды гораду ўчыніць. І немалую працу ды намаганні прыкладаючы, і вялікую шкоду на сябе прымаючы, і людзей сваіх пагубляючы, з жалем ды са слязьмі ды з вялікім насміханнем пад горадам пераможаны былі і з ганьбаю ды няславаю прагнаны.

Войска ж вялікага князя Аляксандра, пан стараста жамойцкі з усімі сіламі, прыйшоўшы да горада Воршы і перайшоўшы раку Дняпро, падаліся да гор. Як пачуў князь Дзімітры Жылка, будучы пад Смаленскам, пра тое, што літва ідзе на яго, ён, не ўзяўшы Смаленска, вярнуўся ў Маскву да бацькі свайго, вялікага князя маскоўскага. Войска ж літоўскае, даведаўшыся, што маскоўцы адступілі ад Смаленска, пайшлі і сталі на гарах і там стаялі ўсю восень.

У той жа час князь Сямён Іванавіч Мажайскі прыйшоў з многімі людзьмі князя маскоўскага пад горад Мсціслаўль. А

тады было ў мсціслаўскай заставе шмат людзей літоўскіх. Князь жа мсціслаўскі Міхайла, даведаўшыся, што князь Сямён Мажайскі пайшоў з маскоўцамі да Мсціслаўля, акружыў горад, і стаяў доўга, і, шмат зла вакол горада ўчыніўшы, назад вярнуўся. Пан жа стараста жамойцкі і гетман усяго Вялікага княства Літоўскага стаяў немалы час на гарах, а потым адышоў у Літву. Чэха ж Яна Гірніна з усімі чужаземцамі адправілі ў Полацк у заставу.

## [ПРА ЦАРА ЗАВОЛЖСКАГА ШЫХ-АХМЕТА, А ТАКСАМА ПРА ЗАМІРЭННЕ КАРАЛЯ АЛЯКСАНДРА З ВЯЛІКІМ КНЯЗЕМ МАСКОЎСКІМ]

У год ад пачатку свету 7010, а ад Божага нараджэння 1501 у Прусіі, у горадзе Торуні, памёр кароль польскі Ольбрахт, брат караля Аляксандра.

Увосень таго ж года выйшаў цар заволжскі Шых-Ахмет, Ахматаў сын, з усёю ардою Заволжскаю, з вялікімі сіламі, а з ім вялікі пасол князя Аляксандра — пан Міхайла Халецкі. Прыйшлі яны ў зямлю Северскую, і сталі пад Ноўгарадам-Северскім і пад іншымі гарадамі, і напоўнілі зямлю ўсю ледзьве не да самага Бранска незлічоным воінствам. Ноўгарад-Северскі і некаторыя іншыя гарады здаліся цару. Ён жа даручыў тыя гарады пану Міхайлу Халецкаму і, пайшоўшы з усімі сіламі, стаў між Чарнігавам і Кіевам — пасярэдзіне між Дняпром і Дзясною[180]. А пана Міхайлу Халецкага ён адправіў з пасламі сваімі ў Літву паведаміць вялікаму князю Аляксандру, што прыйшоў ён князю на дапамогу супраць Мэндлі-Гірэя, цара перакопскага, і вялікага князя маскоўскага. І прапанаваў яму, Шых-Ахмет князю Аляксандру, каб той, з ім сышоўшыся, пачынаў вайну супраць сваіх ворагаў.

І пан Міхайла Халецкі з пасламі цара заволжскага прыбыў у Літву. Тады ж прыслалі ляхі паслоў да вялікага князя літоўскага Аляксандра і ўзялі яго каралём у Карону Польскую. І ён, пакінуўшы справу сваю з царом заволжскім, тою ж зімою паехаў у Кракаў і там быў каранаваны.

У тую ж зіму, сабраўшыся са сваімі сіламі, цар перакопскі Мэндлі-Гірэй неспадзявана прыйшоў ваяваць цара заволжскага Шых-Ахмета і разбіў яго нагалаву і царыц і дзяцей і ўсю арду ягоную ўзяў. Сам жа Шых-Ахмет з братам сваім Хазак-

султанам і з некаторымі князямі ды ўланамі прыбег да Кіева і, стаўшы непадалёку ад Кіева, паслаў да князя Дзімітрыя Пуцяціча, ваяводы кіеўскага, апавядаючы яму пра сваю злую прыгоду. Ваявода ж кіеўскі князь Дзімітры там яму многія дні пашану вялікую выказваў і багата дароў даваў.

Потым цар Шых-Ахмет таемна з Кіева памчаўся да Белгарада і быў у Белгарадзе, але, ніякае дапамогі, аніякага пажытку не знайшоўшы, вярнуўся да Кіева. Князь жа Дзімітры, ваявода кіеўскі, прыняў яго з радасцю ды пашану вялікую яму пачаў узносіць і паслаў да караля і вялікага князя Аляксандра паведаміць пра гэта. І кароль паслаў сваіх паслоў да цара Шых-Ахмета і загадаў князю Дзімітрыю з ім разам ехаць да Вільні. Князь Дзімітры па загадзе каралёвым правёў цара заволжскага, і брата ягонага, і яго людзей да Вільні.

У тую ж зіму паслаў кароль Аляксандар да цесця свайго, вялікага князя маскоўскага, паслоў сваіх ляшскіх — ваяводу ланчыцкага пана Пятра Мышкоўскага ды пана Яна Бучацкага, ваяводзіча падольскага, а з Літвы — ваяводу полацкага пана Станіслава Глябовіча ды пісара, канцлера яго каралеўскае міласці, намесніка браслаўскага, маршалка пана Івана Сапегу.

Былі яны ў Маскве і ўзялі замірэнне на шэсць гадоў, а гарады і воласці, якія захапіў вялікі князь маскоўскі, ён усё сабе пакінуў, і ўсе вязні літоўскія былі затрыманы ў Маскве. Насустрач жа тым паслам у год 1502 ад Божага нараджэння былі пасланы ад вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча да караля і вялікага князя Аляксандра паслы: Пётр Пляшчэеў, Канстанцін Замыцкі, зяць ягоны Міхайла Кляпік, дзяк Мікіта Галубін, і яны, зацвердзіўшы вышэйназванае замірэнне, дадому вярнуліся.

## [ЯК ТАТАРЫ ПЕРАКОПСКІЯ ЗЯМЛЮ СЛУЦКУЮ ЗВАЯВАЛІ]

Тою ж восенню прыйшла вестка каралю Аляксандру, што татары, перайшоўшы раку Прыпяць, ваюють па воласцях. І кароль напісаў да князя Сямёна Міхайлавіча Слуцкага і паслаў яму на дапамогу ваяводзіча падольскага Яна Бучацкага, а з ім дваран сваіх літоўскіх ды рускіх і радцаў нямала. Князь жа Сямён Слуцкі з панам ваяводзічам і з усімі вышэйназва-

нымі дваранамі гналіся за татарамі і дагналі некаторых за Бабруйскам, за шэсць міляў ад горада, на рацэ Ушы[181]. Было іх усяго паўтары сотні. І, дагнаўшы, пабілі іх і назад вярнуліся.

У тую ж восень князі Фёдар Іванавіч Яраславіч, Юры Іванавіч Дубровіцкі ды Грыгоры Глінскі, стараста друцкі, біліся з татарамі за Оўручам, за сем міляў ад горада, на рацэ Ушы. І Божаю воляю, за грахі нашыя, татары нашых пабілі, тады і князя Грыгорыя Глінскага разам з Гарнастаем забілі.

Тае ж восені месяца жніўня 30 дня нечакана прыйшоў сын цара перакопскага Мэндлі-Гірэя — султан Бітыс-Гірэй — з шасцю тысячамі татараў і найперш з'явіўся пад горадам Слуцкам. Князь жа Сямён Міхайлавіч тады быў у Слуцку і не ведаў ні пра што і, толькі зірнуўшы з замка, з царквы святога Юрыя, на месца за ракою Случчу[182], убачыў, што татары, скачучы на конях, мужчын ды жанчын хапаюць і сцінаюць.

Пабачыўшы тую паганскую навалу, князь Сямён Міхайлавіч з людзьмі, якія былі з ім у горадзе, вельмі здзівіліся такому раптоўнаму і незаўважнаму іх прыходу: пераправіўшыся цераз Прыпяць, татары ў той жа дзень прайшлі да Слуцка дваццаць пяць міляў, частка з іх у той дзень, мінуўшы Слуцак і прайшоўшы яшчэ пяць міляў, дасталася да Капыля. Князь жа Сямён не ведаў, што рабіць, бо людзей з ім на той час у горадзе было вельмі мала, усе былі па сёлах. Татары ўсіх іх адрэзалі ад горада і ўсе табуны конскія пазабіралі, князь жа толькі з вельмі нешматлікаю сілаю ў горадзе зачыніўся і паслаў да караля ў Вільню паведаміць пра тое. А царэвіч Бітыс-Гірэй стаў кашом* пад Слуцкам за ракою Умалем. Татары ж пайшлі ў загоны** на землі навакольныя, і, ідучы, ваявалі каля Клецка ды Нясвіжа, і спалілі горад Клецак, і, не дайшоўшы да Навагарадка шэсць міляў, павярнулі ад Ішкальдзі[183] назад, шмат местаў ды сёлаў папалілі, і невымоўнае кровапраліцце хрысціянам учынілі, і з вялікім палонам і здабыткам сабраліся да Слуцка, і без усякае шкоды ўсе ў цэласці назад вярнуліся.

Кароль жа Аляксандар некалькіх дваранаў сваіх паслаў да князя Сямёна ў Слуцак. З'явіўшыся ў Слуцак і даведаўшыся, што татары ў цэласці з зямлі Слуцкае выйшлі, каралёвы паслы вярнуліся ў Літву.

У год 7012 ад пачатку свету, а ад Божага нараджэння 1503 прыходзілі тры тысячы татараў і, быўшы пад Слуцкам ды пад

* Кош — ваенны лагер татараў.

** Загон — заезд, наезд, набег.

Новагарадком і многа зла ўчыніўшы, пайшлі назад іншаю дарогаю, праз Грычынскае балота, у бок Гарадка[184]. А паны-рада Вялікага княства Літоўскага пра тое не ведалі, толькі гетман Станіслаў Пятровіч, празываны Кішка, пан Ольбрахт Гаштольт ды пан Юры Няміравіч ведалі. Да іх прыехаў князь Сямён Міхайлавіч Слуцкі, і, злучыўшыся ўсе разам, падаліся за татарамі і, пераправіўшыся праз Прыпяць, дагналі іх за Гарадком, за мілю ад места, і стачылі з імі бой. І з Божаю дапамогаю нашы пабілі татараў, палон увесь вызвалілі і са здабыткам ды з вялікаю славаю назад вярнуліся. Тады ж былі забіты дваране гаспадарскія — пан Рак Маскевіч ды Зінявы.

## [ПРА ГНЕЎ КАРАЛЯ АЛЯКСАНДРА НА ПАНОЎ ЛІТОЎСКІХ]

Тою ж восенню месяца лістапада 14 дня, з серады на чацвер, спачыў багаверны і хрысталюбівы князь Сямён Міхайлавіч Слуцкі, унук Аляксандраў.

Тою ж восенню цар казанскі Махмет-Алі перарэзаў у Казані купцоў зямлі Маскоўскай.

У тым жа годзе памёр Іван Васільевіч, князь маскоўскі, і сеў на вялікім княжанні маскоўскім сын ягоны Васіль.

У тым жа годзе памерлі ваявода кіеўскі князь Дзімітры Пуцяціч і князь Сямён Юр'евіч Гальшанскі, стараста луцкі. І далі ваяводства Кіеўскае пану Юрыю Монтаўтавічу, Луцк — князю Міхайлу Іванавічу Астрожскаму, а пасля смерці князя Міхайлы далі Луцк пісару пана Фёдару Янушэвічу.

У тым жа годзе кароль Аляксандар быў на сойме ў Берасці і ўгнявіўся на паноў без падставы. І вось чаму гэта адбылося. Па просьбе князя Глінскага даў ён Дразду Ліду, што была пад Ілінічам. А ў той час паслом у Кракаве, у караля, быў падчашы, намеснік бельскі Мікалай Мікалаевіч Радзівіл. І пан Ілініч звярнуўся да паноў-рады Вялікага княства Літоўскага, да князя Войцаха Табара, біскупа віленскага, да Мікалая Радзівіла, ваяводы віленскага, да ваяводы троцкага пана Забярэзінскага, да пана Станіслава Яновіча, старасты жамойцкага, да ваяводы полацкага пана Станіслава Глябовіча, да пана Станіслава Пятровіча Кішкі, намесніка смаленскага. І ўсе тыя паны паводле прывілею свайго земскага, што ім кароль даў, калі садзіўся на вялікае княжанне, Ліды не саступілі Дразду, про-



Першая старонка «Аповесці мінулых гадоў»



Рагнеда перадае меч сыну Ізяславу.
Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Бітва на Нямізе. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу




Палонены Усяслаў Брачыслававіч з сынамі
пераязджае праз Дняпро. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Вялікі князь Гедымін



Вялікі князь Альгерд



Вялікі князь Ягайла



Вялікі князь Вітаўт



Вялікі князь Свідрыгайла



Пячатка вялікага князя Вітаўта




Вялікі магістр нямецкага Ордэна Ульрых фон Юнгінген

Сенат Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага. 1506 г.




Вялікі князь і кароль
Жыгімонт Стары



Вялікі князь
маскоўскі Васіль III



Гетман
Канстанцін Астрожскі

Друкарня. XVI ст.



Мацей Стрыйкоўскі —
аўтар «Хронікі польскай, літоўскай,
жамойцкай і ўсяе Русі» (1582 г.)

стаму чалавеку, а Ілінічу пакінулі, бо бачылі, што ў прывілеі напісана: гаспадар нікому не можа ўладанняў даваць, акрамя тых, хто з гербам. З таго кароль і ўгняві́ўся. Пачуў пра тое Мікалай Мікалаевіч Радзівіл... Глінскі ж неадступна[185] караля намаўляў, каб за тое панам літоўскім адпомсціў, асабліва Забярэзінскаму. І, будучы на сойме ў Берасці, Глінскі, маючы ласку каралеўскую, дамогся ад яго міласці, каб у Забярэзінскага Трокі забралі і далі горад сыну ваяводы віленскага Мікалаю Мікалаевічу Радзівілу, які быў падчашым у караля Аляксандра і намеснікам бельскім. Ілініча ж, старасту лідскага, кароль загадаў схапіць і ў вязніцу пасадзіць, а панам-радзе загадаў яму на вочы не трапляць...

## [ПРА НОВУЮ НАВАЛУ ТАТАРСКУЮ НА ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ]

У год 1506 прыйшоў царэвіч перакопскі, сын Мэндлі-Гірэя, Махмет-Гірэй-султан з братамі сваімі, Бітыс-Гірэй-султанам ды Бурнаш-султанам, і з усімі сіламі татарскімі. І прыйшлі яны да Дняпра на Лоеву гару, і, там цераз Дняпро пераправіўшыся, сам Махмет-Гірэй-султан рушыў пад замак Менск у сярэдзіну Літвы, а пад Слуцак паслаў двух братоў сваіх, Бітыс-Гірэй-султана ды Бурнаш-султана. І ў пятніцу, у святы дзень — на Унебаўзяцце Панны Марыі — тыя царэвічы прыйшлі пад Слуцак, у якім была княгіня Настасся з дзіцяткам Юрыем Сямёнавічам (дзедам сённяшніх князёў слуцкіх). І так вакол Слуцка ваявалі ўсё ж да замка, ведаючы, што ў ім толькі княгіня была, і штурмавалі замак, падкопы робячы ды агонь пакладаючы. Але мужна бараніліся случчакі, якіх абавязвала клятваю і просьбаю княгіня Настасся, каб адзінага дзедзіча свайго ад гвалту паганскага цвёрда баранілі. Мноства татараў пад замкам палегла, бо шмат шляхты ды іншых князёў на той час у княгіні Настассі ў Слуцку служылі.

А старэйшы цар Махмет-Гірэй у той жа дзень стаў кашом пад Менскам ды пусціў у загоны пад Вільню і ў Завілейскую старану, а таксама да Віцебска, Полацка, Друцка і на ўсе землі літоўскія ды рускія. А тыя два царэвічы, браты Махмет-Гірэя, абмінуўшы Слуцак, пайшлі пад Навагарадок.

Тым часам усе паны літоўскія былі ў Навагарадку, раючыся між сабою, што рабіць, бо кароль праз Глінскага гне-

ваўся на іх, але абяцаў дапусціць іх да ласкі на сойме радамскім[186], калі б пабываў на Літве. Змаўляліся таксама, як бы Глінскаму адпомсціць. Даведаўшыся, што паны ў Навагарадку, татары паспяшаліся да горада і тую нараду, не дзеля справы дзяржаўнае, але дзеля прыватнае скліканую, перапынілі. Паны ж, бачачы з Навагарадка гвалт, паехалі за Нёман. А татары, прыйшоўшы да Навагарадка, нікога не знайшлі і гналіся за панамі да Нёмана і далей і, перайшоўшы за Нёман, у Літоўскую зямлю, вялікую шкоду ўчынілі і з палонам ды здабыткам назад вярнуліся. Але замку Навагарадскому не змаглі нічога ўчыніць, бо на той час у Навагарадку ваяводам быў Ольбрахт Марцінавіч Гаштольт, які, будучы сам у Навагарадку, замак добра ўмацаваў, а пры ім былі гараднічы Маскевіч, Іван Трызна, Няміра ды іншая шляхта навагарадская. Кожнага дня выязджаючы з замка і б'ючыся з татарамі, не далі ім замку і месту шкоды ўчыніць. Вельмі шмат стралянінаю з замка татараў было пабіта. Тады татары, бачачы, што замку і месту нічога не могуць учыніць, адышлі прэч.

А царэвіч Махмет-Гірэй, які стаяў кашом пад замкам Менскім, усе воласці навакольныя спустошыў, горад Менск зруйнаваў, манастыры ды святыя Божыя цэрквы агнём дашчэнту выпаліў у зямлі Літоўскай, і ў Полацку, і ў Віцебску, і ў Друцку многа зла зрабіў, папаліў ды папаланіў амаль усю зямлю і, невымоўнае кровапраліцце і спусташэнне ў зямлі Літоўскай учыніўшы, сваім шляхам без шкоды сабе прэч адышоў. Таксама і браты ягоныя, Бітыс-Гірэй-султан ды Бурнашсултан, вярнуўшыся з-пад Навагарадка з вялікім палонам і здабыткам, пайшлі паўз Слуцак да Петрыкавічаў[187], а потым да Арды. Тою ж зімою быў мор вялікі ў Менску і лютаваў немалы час па ўсім краі.

## [ЯК ТАТАРЫ МАСКОЎЦАЎ ПАД КАЗАННЮ ПЕРАМАГЛІ, А ТАКСАМА ЯК КАРОЛЬ АЛЯКСАНДАР ГНЕЎ СВОЙ НА ПАНОЎ ЛІТОЎСКІХ АДПУСЦІЎ]

Тою ж восенню вялікі князь маскоўскі Васіль Іванавіч паслаў брата свайго князя Дзімітрыя Жылку, а з ім свайго найвышэйшага ваяводу князя Фёдара Іванавіча Бельскага ды шмат іншых ваяводаў з усімі сіламі маскоўскімі, коннымі і

судавымі людзьмі* ракою Волгаю на Махмет-Алі, цара казанскага. Так прыйшлі да Казані і аблажылі горад з усіх бакоў, і з сушы і з вады. І як выйшлі збройныя людзі з караблёў на бераг пад муры горада, то татары конныя, прыйшоўшы, адных пабілі, а іншыя, уцякаючы, у Паганым возеры патанулі, а на тых, што на вадзе ў караблях засталіся, прыйшлі вялікія буры ветраныя, і амаль усе патапіліся.

Толькі князь Дзімітры з ваяводам князем Фёдарам ды з малою дружынаю да канца не загінулі. А тых маскоўскіх коннікаў, што былі прыйшлі пад горад берагам, таксама ледзьве не ўсіх пабілі, вельмі мала іх паўцякала. І сталіся страта вялікая ды шкода нязмерная Вялікаму княству Маскоўскаму, вельмі мала людзей маскоўскіх назад вярнулася, загінула іх незлічона.

Потым, тою ж восенню, на Кузьму і Дзям'яна, кароль Аляксандар прызначыў склікаць сойм у Радаме для паноў ляшскіх, на якім былі і паны літоўскія. А прыехалі паны літоўскія прасіць паноў ляшскіх высветліць прычыну каралеўскага гневу, які на іх, бязвінных, раззлаваўся з намовы і па волі Глінскага. І паны ляшскія пра тое каралю гаварылі, і ён гнеў свой адпусціў.

А потым біскуп віленскі Табар пачаў каралю мовіць: «Міласцівы каролю! Без падставы гнеў твой гаспадарскі на нас быў з нагавору некаторых людзей, бо мы супроць цябе, гаспадара нашага, не стаялі, але баранілі правы ды прывілеі свае, каб яны за намі засталіся. А таму, міласцівы гаспадару, як пастыр ваш і тутэйшага панства я павінен за тым сачыць і цябе адводзіць ад таго, каб ты, гаспадар наш, правы нашыя і прывілеі, выдадзеныя нам, захаваў. А калі хто захоча іх скасаваць, Божа, адпомсці кожнаму такому». І як тое біскуп вымавіў, адразу ж караля паралюш разбіў.

## [ЯК ВОЙСКА ЛІТОЎСКАЕ ТАТАРАЎ КАЛЯ КРАСНАГА СТАВА ПЕРАМАГЛО]

У год 7015 ад пачатку свету, а ад Божага нараджэння 1507, пасля паланення зямлі Літоўскае бязбожнымі татарамі, прыехаў кароль і вялікі князь Аляксандар з Польшчы ў Вільню, вельмі хворы на немач паралітыкавую, і ўчыніў сойм

* Судавы чалавек — матрос.

у горадзе Лідзе. І калі быў ён з усімі панамі ў Лідзе, прыйшла яму вестка, што царэвічы перакопскія Бітыс-Гірэй-султан ды Бурнаш-султан прыйшлі з дваццаццю тысячамі людзей к Слуцку і ідуць пад Новагарадок. Кароль жа, вельмі хворы, не ведаючы, што рабіць, паклікаў да сябе сваіх паноў-раду, і гетмана свайго Станіслава Пятровіча Кішку, і любімага свайго маршалка дворнага князя Міхайлу Львовіча Глінскага і ўсю справу сваю гаспадарскую і справу земскую перадаў у іх рукі, сябе ж загадаў адвезці на насіліцах у Вільню. А паны-рада, гетман і маршалак князь Міхайла Глінскі з усімі людзьмі засталіся ў Лідзе.

Татары, прыйшоўшы да Новагарадка, неўзабаве пайшлі за Нёман, і, не даходзячы да Ліды, каля горада і за мілю ды за паўмілі ад горада нішчылі цэрквы Божыя ды двары вялікія, і вёскі падпальвалі, і людзей хапалі ды забівалі. Паны літоўскія сваімі вачыма бачылі, што паганства з такою вялікаю лютасцю на іх напала, і, узяўшы Бога усемагутнага на дапамогу, з'ехаліся ўсе ў адно месца і, параіўшыся, сабралі дзесяць тысяч вояў адборных, конных ды збройных, — усе, што на той час маглі быць, бо так хутка не магло больш людзей сабрацца, і многа ці мала — усе як адзін вырашылі: узяўшы Бога на дапамогу, толькі пайсці і біцца з паганцамі. І, сваё рашэнне цвёрда і рашуча замацаваўшы, выбралі колькі чалавек, якіх паслалі ў разведку высачыць, дзе ворагі. І за мілю ад Ліды натрапілі яны на татараў і Божаю міласцю пабілі паганцаў, колькіх жывымі злавілі, а іншым галовы паадсякалі ды ў кайстры паклалі. Татары ж, бачачы, што не могуць супраць іх выстаяць, пабеглі. Воі ж літоўскія вязняў да паноў прывялі ды галовы адсечаныя ў кайстрах прынеслі. Тое пабачыўшы, паны ўзвесяліліся і радасцю напоўніліся і тады самі селі на коней і загадалі ўсяму войску пайсці з імі да Новагарадка. Татары ж, убачыўшы гэта, зразумелі, што людзі літоўскія ідуць на іх ды хочуць з імі ў бой уступіць, і пачалі яны з загонаў з-за Нёмана вяртацца.

Паны ж з усім войскам, прыйшоўшы да Новагарадка, сталі ў горадзе тры дні і паслалі здабываць праўдзівага языка, хочучы ведаць пэўна, дзе царэвічы кашом стаяць. Паны ж Няміравічы, Юры ды Андрэй, злавілі пад Гарадзішчам[188] шасцёх татараў і прывялі іх да паноў. Тыя языкі паведалі пэўна, што царэвічы стаяць кашом пад Клецкам і што з загонаў усе ў кош так хутка сабрацца не могуць. Паны ж, пра тое даведаўшыся і аддаўшыся ў рукі міласцівага Бога, рушылі шляхам

сваім, радуючыся, і выехалі з Навагарадка месяца жніўня 4 дня, у панядзелак, увечары — ужо перад прысмеркам, і ішлі з Навагарадка паўз Асташын. А назаўтра, у аўторак, прымчаліся некаторыя дваране з Цырына[189] і з Палонкі[190], апавядаючы, што татары за імі гналіся ды цяпер ходзяць непадалёку ад войска. Паны і ўсё войска, ледзьве адпачыўшы ў Асташыне, рушылі да Палонкі, і, прайшоўшы Ішкальдзь, пярэднія людзі нагналі пяцьсот татараў, якія ехалі з загонаў да Клецка, а нагнаўшы, адных забілі, другіх жывымі пахапалі, а астатнія ўцяклі за раку Ушу[191], на Круты Бераг, і, прыбегшы да Клецка ў станы свае, паведамілі царэвічам, што літва ідзе да іх на бітву. Царэвічы ж, ганарлівасці і пыхлівасці поўныя, зусім аб смерці не дбаючы, з усім стараннем падрыхтаваліся да бітвы.

Таго ж дня, у аўторак, паны з усім войскам, не даходзячы да Малева[192], у сяле Ліпа[193] начавалі і назаўтра, у сераду, месяца жніўня 6 дня, на Перастварэнне Госпада нашага Ісуса Хрыста, устаўшы рана і пашыхтаваўшы гуфы да бітвы, рушылі проста да Клецка.

Гетман жа Станіслаў Пятровіч Кішка ў той час быў вельмі нямоглы, ніяк не мог на каня сесці і з вялікаю цяжкасцю загадаў сябе ў возе везці. Паны, бачачы, што гетман вельмі хворы, і ведаючы, што без яго ніякага парадку ў войску быць не можа, параіліся і даручылі на той час гетманства князю Міхайлу Львовічу Глінскаму і вырашылі ўсе яго слухацца. Князь жа Міхайла Глінскі пачаў камандаваць войскам, і рушылі яны да Клецка, а наперад адправілі колькі сотняў коннікаў. І як прыйшлі пад Клецак, да ракі Лані, ды сталі з поўдня ад Краснага става[194], то, зірнуўшы з гары цераз раку, убачылі палкі татарскія, што стаялі напагатове. І, падышоўшы да ракі, сталі насупраць іх, але з-за цяжкое пераправы праз раку не маглі борзда сысціся з паганцамі і больш як тры гадзіны біліся з імі праз раку. Потым войска літоўскае зрабіла паабапал грэблі стававай дзве гаці, каб пераправу наладзіць. Тады татары пабачылі, што ліцвіны стаяць цвёрда і непарушна, гатовыя да бою, і парабілі гаці, хочучы бараджэй раку перайсці. І пачалі з войска літоўскага страляць па іх з гарматаў, з ручніц і з лукаў. Тым часам некалькі дваранаў крыху паспяшаліся пераправіцца за раку. І татары схапілі пісара пана Забярэзінскага — Копця і, адсекшы яму галаву, насілі яе на дрэўку, глумячыся. Князь жа Міхайла з панамі і з усім войскам, бачачы смех ды здзек, адразу загадаў усім пал-

кам абедзвюма гацямі раку пераходзіць, і войска літоўскае, у трубы затрубіўшы ды ў жалейкі зайграўшы, пайшло за раку. І войска правага крыла, паспяшаўшыся, першае праз гаць перайшло раку.

Татары, бачачы, што не ўсе ліцвіны супольна раку пераходзяць, выбралі між сабою найлепшых людзей, і тыя ўдарылі на літву, і шмат іх на правым крыле пабілі, і амаль усіх іх знішчылі. А потым князь Міхайла з войскам левага крыла паспяшаўся і, перайшоўшы гаці, ударыў упоперак на ўсе палкі татарскія і раздзяліў іх надвое. А потым тыя нашыя людзі правага крыла, паправіўшыся, на іх ударылі і з абодвух бакоў так змяшалі палкі татарскія, што тыя не толькі біцца, але вачэй і рук сваіх на літоўскае войска падняць не маглі.

Князь жа Міхайла з усім войскам гнаўся за імі, ловячы і забіваючы, да ракі Цапры[195]. І як прыбеглі татары да Цапры, то ледзьве не ўсе ў рацэ і балоце патанулі. Так шмат татараў ды коней іхніх у рацэ і балоце было, што ліцвіны пераязджалі на конях і пешкі пераходзілі па мёртвых целах.

А тых нямногіх татараў, што з царэвічамі ўцяклі, перайМалі па дарогах ад Слуцка, ад Петрыкавічаў, ад Оўруча, ад Жытоміра, з Валыні і ўсюды іх білі ды рабавалі; вельмі мала іх да Арды дайшло.

І сталася невымоўная міласэрнасць Божая Вялікаму княству Літоўскаму і невыказнае кровапраліцце роду алькаранскаму[196]. Князь жа Міхайла Глінскі і войска літоўскае, увесь той дзень стоячы на трупах, ездзячы па іх, ганяючыся каля Цапры і за Цапрою за татарамі, мноства іх злавілі ды забілі і вярнуліся да Клецка, ведучы з сабою шмат палонных. І, напоўніўшы рукі золатам ды срэбрам, і зброяй, і адзежаю, і коньмі дарагімі, у невымоўнай радасці і весялосці тую ноч пераначавалі спакойна.

Татары ж, якія не ўдзельнічалі ў бітве, а яшчэ хадзілі па загонах, не ведаючы пра тое, што адбылося, прыходзілі з палонам...[197]



# ПАХВАЛА ПАНУ ВІЛЕНСКАМУ, СТАРАСТУ ЛУЦКАМУ І БРАЦЛАЎСКАМУ, МАРШАЛКУ ВАЛЫНСКАЕ ЗЯМЛІ, ВЯЛІКАМУ ВАЯВОДУ, СЛАЎНАМУ ДЫ ВЯЛІКАРАЗУМНАМУ ГЕТМАНУ, КНЯЗЮ КАНСТАНЦІНУ ІВАНАВІЧУ АСТРОЖСКАМУ

У год 7023 [1515], 2 індыкта, месяца жніўня першага дня вялікі князь маскоўскі Васіль Іванавіч[1], маючы ненажэрную ўтробу ліхвяра, пераступіўшы дамову і крыжацалаванне, з меншага на большае зло падаўся і пачаў здабываць некаторыя гарады, бацькаўшчыну і дзедаву спадчыну вялікага ды слаўнага гаспадара Жыгімонта[2], караля польскага і вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага ды іншых. І ўзяў Васіль Іванавіч вялікі слаўны горад Смаленск, бо няма горшага для чалавека, як прагнуць чужое маетнасці, як ціхмянаму і лагодліваму нялітасціва і нядобра чыніць. Гэты вялікаслаўны кароль Жыгімонт сваё слова, дадзенае князю маскоўскаму, трымаў непарушна і неадступна ўва ўсім, але бачачы яго вераломства і хочучы бараніць сваю бацькаўшчыну, Літоўскую зямлю, узяўшы Бога на дапамогу і сваю праўду чуючы, са сваімі князямі ды панамі і з харобрымі і выдатнымі віцязямі са свайго каралеўскага двара пайшоў супраць Васіля Іванавіча, памянуўшы слова прарочае, што Госпад ганарыстым не спрыяе, а пакорлівым міласць і

дапамогу пасылае. І, прыйшоўшы, стаў у Барысаве на вялікай рацэ Бярэзіне насупраць свайго непрыяцеля, вялікага князя маскоўскага, і адправіў свайго вялікага ваяводу, слаўнага ды вялікаразумнага гетмана князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага[3], пана віленскага, старасту луцкага, брацлаўскага ды іншых, маршалка Валынскае зямлі, з некаторымі магнатамі, князямі ды раднымі панамі сваімі і з выдатнымі ды харобрымі воямі літоўскімі і рускімі са свайго двара.

А ў той час прыехалі да вялікага караля Жыгімонта на дапамогу ляшскія паны і дваране славутыя, рыцары Кароны Польскае і ўсе супольна, узяўшы Бога на дапамогу і ўзброіўшыся наказам гаспадара свайго караля Жыгімонта, дзёрзка рушылі супраць вялікага мноства людзей князя маскоўскага. Калі ж тыя, будучы ў той час на друцкіх палях, пачулі пра сілу літоўскую, то адступілі за вялікую раку Дняпро.

Узгадайма слова вялікага Ніфанта, які піша да верных хрысціянаў: «Таямніцу цараву захоўваць належыць», інакш кажучы: гаспадарову справу патаемную не гожа ўсім раскрываць, але аб учынках і мужнасці добрага ды смелага чалавека гожа ўсім абвяшчаці, каб потым іншыя гэтаму вучыліся і смеласць мелі. Так і ў наш час надарылася нам бачыць такога добрага ды смелага стратылата — князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, найвышэйшага гетмана літоўскага.

Спачатку з Божаю дапамогаю, па загадзе і наказе гаспадара свайго, вялікага караля Жыгімонта, зрабіў неабходную свайму войску падрыхтоўку, па-братэрску любоўна і клапатліва яго аб'яднаў і пашыхтаваў. І як прыйшоў ён, слаўны ды вялікі гетман князь Канстанцін Іванавіч, да ракі Дняпра, пад Воршу, горад каменны, і пабачыў, што нялёгка будзе перайсці шлях водны, то як багабоязны муж і спраўца ваенны прымчаўся да царквы жыватворчае Тройцы і да вялікага цудадзейцы Хрыстовага святога Міколы і, упаўшы на калені, памаліўся Богу. А прыгадайма ўчынкі і смеласць мужнага Антыёха[4], вялікага гетмана цара Аляксандра Македонскага, які войску персідскаму раку Арсінар перайсці загадаў, дзе першы воін сквасіўся, а астатні як пасуху перайшоў. Так і князь Канстанцін пярэднім лю-

дзям плысці загадаў, а астатнія ўжо як па бродзе перайшлі. І так спешна на вялікім полі Аршанскім насупраць маскоўцаў пашыхаваліся.

О, вялікія і выдатныя віцязі літоўскія, прыпадобніліся вы сваёю мужнасцю харобраю да македонцаў, справаю і навукаю князя Канстанціна Іванавіча, другога Антыёха, гетмана войска македонскага. І паказаў сябе князь Канстанцін адважным рыцарам і верным слугою свайго гаспадара разам са шматмагутнымі воямі літоўскімі, якія, не шкадуючы сябе, памкнуліся на вялікую сілу варожую, і ўдарылі, і мноства людзей з войска маскоўскага пабілі, і восемдзесят тысяч усмерцілі, а іншых жывымі ў палон узялі: найвышэйшага ваяводу і гетмана маскоўскага войска князя Міхаіла Іванавіча Булгакава Голіцу, брата ягонага князя Дзімітрыя, Івана Андрэевіча Чаляднiна, князя Івана Дзімітрыевіча Пронскага, Дзімітрыя Васільевіча Кітаева, Данілу Андрэевіча Плешчава, Івана ды Уладзімера Сямёнавічаў, князя Барыса Рамаданаўскага, князя Івана Сямёнавіча Старадубскага, князя Пятра Пуцяцкага, князя Сямёна Янавіча ды іншых, чые імёны тут не ўпісаныя, бо не змесцяцца.

Так сваёй вернаю службаю свайму гаспадару, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс, а самае галоўнае — царкву Божую хрысціянскую і многіх мужчын і жанчын ад маскоўскага гвалту абараніў. Тут спраўдзілася слова святога айца Яфрэма: «Моцны знямогся, а здаровы расхварэўся, а радасны заплакаў, а заможны страціў». Як мне, грэшнаму, бачыцца, цяпер усё тое сталася з вялікім князем маскоўскім Васілём.

Успомнім слова Ісаі, сына Амосавага, што прарочыў пра апошнія дні, азарыўшыся духам святым, кажучы так: «За памнажэнне злосці людзей і многія іх няпраўды кроў іхняя пральецца моцным патокам, харобрыя і ганарлівыя ад мечаў загінуць, адзін справядлівы ратнік пагоніць несправядлівых сто, а ад ста пабяжыць тысяча, і целы іх будуць на з'ядзенне звярам, і косці іх на агляд усяму жывому».

Цяпер жа тым прароцтвам адарыў Бог князя Канстанціна Іванавіча, найвышэйшага гетмана літоўскага, што ягоным кіраўніцтвам ды падрыхтоўкаю войска, яго

смелага сэрца і рукі сягненнем — людзей князя маскоўскага пабілі, і целы тых забітых звяры і птушкі ядуць, косткі па зямлі валочачы, а патопленых у водах рыбы клююць.

О, прачэсная мудрая галава, як цябе назваць ды ўсхваліць?! Беднасцю мовы маёй і слабасцю розуму майго не магу дамысліцца, якую славу і пашану ўзнесці справе тваёй чыннасці: мужнасць твая роўная мужнасці цара індыйскага Пора[5], якому многія цары ды князі супрацівіцца не маглі. Ягоныя ж справы і слава твар тваёй велічы паказваюць. Гэтак жа міласцю Божаю і шчасцем вялікаслаўнага гаспадара Жыгімонта, караля і вялікага князя, вы справаю рук сваіх такому моцнаму пану, вялікаму князю маскоўскаму, адпор далі, і з харобрымі рыцарамі, выдатнымі віця́зямі, з князямі, ды з панамі, ды з дваранамі гаспадарскімі Вялікага княства Літоўскага і Рускага, разам з вялікаслаўнымі і шляхотнымі рыцарамі, панамі-палякамі, з усімі тваімі добрымі ды вернымі як адзін памочнікамі паказалі вы мужнасць добрых вояў, і шмат замкаў дзяржаўных ды местаў слаўных Вялікага княства Літоўскага вы супа́коілі. За тое ты, вялікаслаўны гетмане, варты вялікага і высокага ўшанавання ад свайго гаспадара. Роўныя вы вялікім харобрым рыцарам горада слаўнага Родаса[6], якія сваёй мужнасцю шмат замкаў хрысціянскіх ад паганскіх рук убаранілі. Вашай мужнаю стойкасцю супраць такога моцнага пана заслужыў ты славу і пашану, гэтаю паслугаю гаспадару свайму, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс. За такі ўчынак варты ты не тое што ў тутэйшых вялікіх гарадах дзяржаўных панаваць, але і самім Божым горадам Ерусалімам валодаць. Моц тваёй мужнасці ад усходу да захаду чутная будзе, ты не аднаму сабе, але і ўсяму княству Літоўскаму вялікасць славы ды мужнасці ўчыніў. Яшчэ дадам пра тваю смеласць і адвагу: прыпадобніўся ты да сына Раваава Авія, што ваяваў з дзесяццю каленамі ізраілевымі і выбіў у іх за адзін дзень пяцьсот тысяч самых моцных людзей. І ты ягонае справы спадкаемцам стаў: не за адзін дзень, але за тры гадзіны восемдзесят тысяч маскоўцаў пабіў. Таксама мужнасцю і харобрасцю падобны ты да Тыграніса[7], цара армянскага, пра якога мудры філосаф Фрол Лівійскі піша: «Прыйшоў Тыграніс, цар армянскі, і біўся з Антыёхам, і перамог войска ягонае, і

# ЛІСТ АД ПАСЛОЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА МАСКОЎСКАГА

Божай міласцю цара і вялікага князя Івана Васілевіча ўсяе Русі, уладзімірскага, маскоўскага, ноўгарадскага, казанскага, цара астраханскага, гаспадара пскоўскага, вялікага князя смаленскага, цверскага, югарскага, пермскага, вяцкага, булгарскага і многіх іншых — Стафану, Божай міласцю каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму, рускаму, прускаму, жамойцкаму, мазавецкаму, княжычу сяміградскаму. Раней за гэты ліст па ўзяцці Полацка стасаваліся нашыя баяры з тваімі панамі неаднаразова, а ты нам яўна ведаць не даваў і пісаў у сваіх лістах, і паны твае так складана і хітрамудра пісалі, што таго зразумець нам было немагчыма; па ранейшым звычаі паслоў сваіх прысылаць не хацелі, і тады мы да цябе паслалі сваіх паслоў, а ты праз пасла нашага двараніна Грыгорыя Апанасавіча Нашчокіна тэрмін нам даў, і к таму тэрміну паслам нашым немагчыма было паспець. Мы да цябе паслоў сваіх адпусцілі, а наперад іх паслалі да цябе ганца Хведара Шышмарова з лістом, каб ты з войскам нашых паслоў пачакаў. І ты да нас свайго ганца прыслаў, а сам назад не павярнуў і ідзеш да граніцы з войскам. І паслам нашым загадаў хутчэй вяртацца назад, прагнучы крыві хрысціянскай і жадаючы бачыць праліццё крыві сярод хрысціянаў. І напісаў у сваіх лістах, і праз паслоў перадаў нам тыя словы, каб нам усім згінуць, і гэта табе было б міла альбо люба. Адказу ад цябе не дачакаліся, бо, відаць, ты новую справу распачаў, якая не павінна адбыцца, і мы, зміры́ўшыся перад Богам і табою, загадалі сваім паслам ісці да цябе.

* * *

У 1583 годзе, 8 верасня, яго міласць князь Багдан Саламярэцкі, стараста крычаўскі і луцкі, прыехаўшы з вайсковай службы ад двара яго каралеўскай міласці з-пад Пскова, панну Еву Баркулабаўну, старасцянку дзісненскую, узяў сабе за жонку, а вяселле спраўлялі ў Вільні.

Таго ж году 1585 у Піліпаўку ў Сідараўскай пушчы яго міласць князь Багдан Саламярэцкі ўпаляваў дзесяць вялікіх ласёў і восем вялікіх дзікоў, дзе цяпер вёскі Сутокі ды Махава.

Таго ж году Васіль Сясковіч са службы з'ехаў, а пан Раман Рэўт на службу баркулабаўскую прыехаў.

Таго ж году 1585 каля святога Пятра ці нават на самы дзень святых Пятра і Паўла ў Галоўчыне гаць насыпалі. Недзе апоўдзень у месце Галоўчыне ў астрожнай браме моцны і вялікі гром забіў 12 чалавек, а трох чалавек не знайшлі, невядома, дзе яны падзеліся: ці то вадой знесла, ці то пяском засыпала.

Таго ж году Госпад Бог вялікае мноства страшных і вялікіх цудаў пажадаў паказаць: град і перуны вялікія, засуха, маразы ці не ўвесь год былі ў Літве. Ад вялікіх маразоў жыта ў полі пасохла, а мноства дамоў паноў шляхетных ад вялікіх перуноў пагарэла, зімой жа ад маразоў і завірух загінула на дарогах вялікае мноства жабракоў і купцоў. Улетку ж вялікая спёка была. Жыта, ярына, трава, а таксама гародніна — усё пагарэла ў Літве, а асабліва каля Менска і Вільні. Жабракі па хлеб на Русь падаліся. Мноства моладзі ды жанчын сышло на Русь ды на Украіну.

У 1584 годзе ад нараджэння Божага вялікі князь Іван Васілевіч спачатку сына свайго Фёдара кіем забіў, а потым сам памёр і сын яго старэйшы таксама.

У год 1599 на маскоўскае царства быў каранаваны Стафан Васілевіч Гадуноў. Вясною ў Смаленску была вялікая паводка. У замку вада шворан млынавы змыла ды ставоў і запрудаў шмат папсавала.

У 1585 годзе ў сёмую суботу Хамутоўскі, ураднік пана Любельскага, вёскі Гарбовічы, Хацетаў, Следнакі, Струпішчы, Забалоцце, Батунь і шмат іншых забраў пад валоданне пана Любельскага, а спачатку гэтая воласць была Магілёўскага замка.

У год 1586 вясною на Вялікі пост пан Міхайла Гарабурда быў на Маскве паслом. Адтуль прывёз перамір'е на 20 гадоў, а жыў у Маскве аж да сёмае суботы, а вярнуўшыся ў Літву, памёр.

Таго ж году на святога Юр'я мароз быў, і снег да каленяў выпаў. Тады на Фамінным тыдні людзі ячмень ды авёс сеялі, ураджай, аднак, быў добры.

Таго ж году пан Любельскі ды пан трокскі памёр, а пану Льву Сапегу воласць пана Любельскага дасталася.

У год 1583 каляндар новы выдадзены ў часы караля Стафана, мітрапаліта Дзевачкі, уладыкі полацкага Тарлецкага, ляха, які дагэтуль быў ротмістрам, але век свой аджыў.

У той час была вялікая смута сярод паноў і духавенства, а таксама сярод простага люду. Людзі, убачыўшы, як усталёўвалі новыя святы, як старыя адмянялі, як пазакрывалі купцам таргі ды кірмашы, шмат плакалі, сварыліся, пагражалі, наракалі, рабавалі, праклінalі. Амаль што пачатак прышэсця Антыхрыставага гэтае вялікае замяшанне азначала.

У той самы час пачалі ў Львове, у Берасці і ў Вільні ў школах вучыць і кнігі друкаваць, нейкае брацтва ўсталёўваць і тым самым закон ды веру ўмацоўваць. Кажуць, каб за патрыярха Бога не прасілі і яго не згадвалі, а толькі за папу. Цяпер жа пачалі соймы, саборы чыніць і на іх з'язджацца.

У ліпені 1586 года ў дзень святых Барыса і Глеба ў горадзе Магілёве была дабудаваная царква святой Багародзіцы і ўладыкай асвечаная.

У тым жа 1586 годзе Пятроў пост быў 5 тыдняў. Ячмень ды авёс сеялі на дзесятым тыдні. Летась ураджай быў добры, вялікі: мерка жыта была па 14 грошаў, а чвэрць жыта была тры з паловай грошы.

Таго ж году на Святадухаў дзень ехаў на Маскву і пабыў у Оршы Ерамія — патрыярх антыяхійскі. Са сваёй зямлі ён ехаў да Масквы год, а ў дарозе ўсе ягоныя слугі паўміралі. Размаўляў ён па-антыяхійску.

У год 1586, 4 снежня, а дзевятай гадзіне раніцы вялікі кароль польскі, князь сяміградскі Стафан Батура памёр і быў пахаваны ў Кракаве.

У год 1588 ад Божага нараджэння каралём на Польскае каралеўства быў запрошаны шведскі каралевіч.

У год 1587 была зіма вельмі снежная, з моцнымі маразамі ды вялікімі завеямі. Гэткая ж і вясна была вельмі няўстойлівая, рэдкі дзень мінаў без снегу, аж да святога Юр'я, а Юрый быў на другі тыдзень пасля свята. А потым, на чацвёртым тыдні па вяце, ноччу былі жахі вялікія: навальнічныя дажджы дамы падмылі, дахі пазносілі, людзі ўсю тую ноч спаць не маглі. На палях статкі ў пастухоў градам пабіла, а ў лесе жывёлу дрэвамі пазабівала. У князя Галоўчынскага маланкаю шмат сціртаў з жытам спаліла. Па вёсках амаль усе статкі градам пабіла на палях.

У тым жа 1587 годзе перасяленцы вясной пшаніцу сеялі на 5 тыдні, ярыну на 7-м, ячмень на 8-м ды на 9-м, але не змаглі ўратаваць пасеваў ад вялікіх маразоў, якія пачаліся ад дня Свя-

той Прачыстае. Грэчку не касілі, а хто і касіў, дык мала пажытку меў. У тым жа годзе жыта жалі на Пакровы Святой Багародзіцы, авёс і ячмень жалі на трэцім тыдні па Пакровах. Той год вельмі неўрадлівы і галодны быў.

У год 1587 ад Божага нараджэння, 7 чэрвеня маскоўскія паслы выправіліся ў Варшаву на выбары польскага караля па смерці караля Стафана. У пасольстве былі: баярын ды наместнік каломенскі і велікапермскі Стафан Васілевіч Гадуноў, баярын ды наместнік каломенскі Фёдар Міхайлавіч Траякураў-Яраслаўскі, ахоўнік пячаткі ды бліжні дзяк гаспадарскі Васіль Якаўлевіч Шчалканаў, думны дзяк Дружына Панцялееў Пяцелін.

На тым жа сойме Варшаўскім нічога добрага не пастанавілі, бо паміж панамі была вялікая нязгода, палякі галасавалі за Максіміліяна — цэзара хрысціянскага, ліцвіны ж — за князя маскоўскага, а каралеўская частка галасавала за шведскага каралевіча. А потым раз'ехаліся, не вырашыўшы нічога добрага. На тым з'ездзе было нямала бязлітасных сварак ды забойстваў. Адных забітых налічылі на тым сойме семсот.

Былі на тым жа сойме паслы з многіх і далёкіх земляў: ад цара турэцкага, ад князя маскоўскага Івана Васілевіча, ад Максіміліяна — цэзара хрысціянскага, ад караля шведскага. Усіх паслоў з розных краінаў было дваццаць.

20 верасня адбылася канвакацыя. Соймавыя паслы выправілі пана Кішку па шведскага прынца Жыгімонта III, а з ім каралеўна паслала ад свайго двара 500 выбраных вершнікаў.

У год 1588 ад Божага нараджэння на каралеўства Польскае шведскі каралевіч Жыгімонт III быў каранаваны ў Кракаве ў дзень Узнясення Хрыстовага. У той самы час пахавалі цела караля Стафана Батуры.

Няшмат Госпад Бог спрыяе, гарады памнажае ці спакой дорыць таму, што пачынаецца не з Божага блаславення і старэйшых паноў-гаспадароў нашых, а з жаноцкага капрызу.

Цяпер жа ў гаспадарства караля пана нашага Жыгімонта III усчалася між панамі вялікая нянавісць, усчаўся адыход ад веры і вялікае ганенне на святую веру царквы Хрыстовай, а найболей на веру праваслаўную, хрысціянскую. Адкінуўшы першынства Хрыста, збавіцеля нашага, ставяць на яго месца першым Пятра і найсвяцейшага папу.

Былі розныя вялікія войны з гаспадаром валашскім, з каралём шведскім, з казакамі запарожскімі, амаль цалкам спусцела ўся зямля. Таксама і на збожжа быў неўраджай, голад

вялікі, дарагоўля, паморак і пошасць, гады былі непагодныя ды неўрадлівыя. Бадай усё стала нядобра і не да ладу.

У год 1587, 1 кастрычніка, у часы Жыгімонта Трэцяга, уладыкі полацкага Феафана, мітрапаліта Дзевачкі, у Вендаражы быў асвечаны храм Пакрова Святой Багародзіцы Фёдарам Філіповічам, святаром баркулабаўскім, з Божае ласкі Феафана, уладыкі полацкага.

Гадоў дзве тысячы жылі без закону да патопу, дзве тысячы з законам і абразаннем, дзве тысячы з Евангеллем — гэта значыць, хрысціянства.

У год 1588 пасля дня святога Пятра быў у Оршы патрыярх царградскі па імені Ерамія. Ехаў у Маскву да князя Фёдара Іванавіча, а з ім тры ўладыкі, а было ўсяго пры ім 50 коней. Ён пасылаў лісты ў места Вільню да сабору, да мітрапаліта і да ўсіх епіскапаў.

У год 1588 у месце Вільні, у тых краях, а таксама ў Кіеве і ў многіх краінах вялікі мор быў.

У год 1588 ад сёмае суботы аж да Раства Хрыстовага была вялікая непагадзь і надвор'е няўстойлівае. Улетку дажджу не было, а ўвосень не было снегу, толькі вятры з дажджамі. Увосень на святыя Пакровы вельмі вялікая паводка была, аж па лугах вада пайшла, быццам увесну. Аж да Раства Хрыстовага ў Дняпры вада прыбывала і з берагоў выходзіла.

У той жа 88 год, 18 студзеня, пасля дня святога Афанасія на трэці дзень быў вялікі дождж, аж снег сагнала. Было амаль як увесну: пастухі ў бор статкі пагналі пасвіць, а потым праз тры тыдні — зноў лютая зіма.

У той жа год архіепіскап Феафан, уладыка полацкі, гаспадар добры ў веры, у Полацку аддаў Богу душу. Там жа і цела яго пахавалі пачэсна.

У той жа 1588 год пастаўлены на ўладыцтва полацкае Афанасій Тарлецкі ў часы караля Жыгімонта Трэцяга, мітрапаліта Міхаіла Рагозы.

У той жа год ад гаспадара караля высланыя да Оршы генералы, праўдзівей кажучы, адзін генерал — старэйшы над дванаццаццю вазнічымі — Багдан Біралёнак, такога раней у гэтых мясцінах не бывала.

У год 1589, 30 мая, па запустах святых Пятра і Паўла ў пятніцу яе міласць князёўна Багданава Саламярэцкая, княгіня Еўдакія Баркулабаўна Корсакава, у замку Кры-

чаўскім, у час староства князя, мужа свайго, у дзень Ісакія Далмацкага нарадзіла сына, якога назвалі Багданам, а хрысціў яго адзін жабрак стары.

У той жа 1589 год пан Рыгор Вілянт трымаў Баркулабаў у закупе тры гады. Ён валокі майскія здаваў у арэнду.

У год 1590 лета было сухое, а зіма вельмі марозная. Было так, што ляды аж увосень палілі.

У год 1590 былі казакі запарожскія, Мацюша з палком ды Голы з палком у Магілёве. Аж да Менска даніну па валасцях бралі, а крыўды і шкоды не рабілі, толькі жанчын, якія жадалі, тых падгаворвалі і з сабою клікалі, абы з імі на Ніз ішлі. І ўзялі тых жанчын і дзевак недзе дзвесце.

У год 1592 на мясапуст яго міласць князь Багдан Саламярэцкі, стараста крычаўскі ды алучыцкі, выкупіў Буйнічы і Чайкі ды на валокі падзяліў. А раней гэта была маёмасць розных паноў — князёў Сакалінскіх, князёў Масальскіх, князёў Крошынскіх, пана Філона ды іншых.

У той жа 1592 год сталася вялікае і бязлітаснае ганенне ад рыма-католікаў на святую ўсходнюю грэцкую веру. Пачалі рабіць памесныя саборы, прывабіла Віленскае брацтва да сябе на паратунак вучоных людзей з месца Львова — Рыгора Рагацінца ды Стафана Зізанія. Яны пачалі моцную і вялікую вайну з рымлянамі не толькі ў ратушах, на рынках, ля дарог, але і пасярод святых цэркваў мелі вялікія сутычкі. Але Госпад Бог з-за іх ілжывых статутаў ды законаў, з-за іх упартасці вялікай ніколі не дапамагаў ім і не дапаможа. Тады пачалі яны фальшывыя лісты з просьбамі ды пагрозамі ад гаспадара караля да архіепіскапаў пісаць і пасылаць ва ўсе гарады.

У год 1590, 29 чэрвеня, у Берасці Літоўскім на Раство Іаана Прадцечы быў сабор пры мітрапаліту Рагозе ды епіскапу полацкім Тарлецкім; нічога на тым з'ездзе добрага не зрабілі. На гэты сабор і яго міласць князь Багдан Саламярэцкі, стараста крычаўскі ды алучыцкі, пасылаў папа свайго баркулабаўскага Фёдара Філіповіча.

У год 1592 Жыгімонт Трэці, з Божае міласці кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, інфлянцкі, найбліжэйшы спадчыннік каралеўства Шведскага і прышлы кароль.

Паведамляем гэтым нашым лістом усіх разам і кожнага паасобку, каму належыць навіны ведаць, цяперашнім і тым,

хто будзе. Мы, гаспадар, убачылі прыхільнасць да з'яднання святой веры архіепіскапаў рэлігіі грэцкай, Іпацін, луцкага епіскапа, львоўскага ды холмскага, якія да нас, да гаспадара, з гэтым звярнуліся, жадаючы пад вяршэнства і благаславенства аднаго пастыра, найсвяцейшага айца нашага папы рымскага, перайсці, яго вяршэнства і старшынства прызнаць, захаваўшы цалкам усе законы і абрады ў царквах Божых. Што мы, гаспадар, убачыўшы іх захады патрэбныя на справу дабратворную, ад іх з удзячнасцю прымаем. І за гэта іх жаданне яны вартыя ласкі нашае гаспадарскае, і мы ім ды нашчадкам іхнім, усім епіскапам, што пасля іх будуць, усім прэсвітэрам і ўсяму епіскапству царквы ўсходняе рымскае дорым прывілеі, і запэўніваем, і клянёмся словам нашым гаспадарскім, і абяцаем ад сябе і ад нашчадкаў найяснейшых нашых Каралеўства Польскага, што пасля атрымання прывілею згаданым епіскапам ад патрыярха і мітрапалітаў, якія б ні былі знойдзеныя прычыны для іх неблаславенства, нягледзячы ні на якія прысягі, шкоды ніякае не рабіць — ні епіскапам, ні ўсяму духавенству. Абяцаем і словам нашым каралеўскім аберагаць ад усялякіх абвінавачванняў ды прысягаў, каб ім заўсёды гэта спрыяла ў духоўных і свецкіх справах, і ўладанняў, з якіх яны жывуць і даніну маюць ад продкаў і ад нас, не аднімаць і іншым асобам пры іх жыцці не даваць, а захоўваць іх цалкам і памнажаць ласку нашую і ўзвышаць іх у спакоі на іх уладаннях, як верных падданых і багамольцаў нашых, пакуль яны жыць будуць. І яшчэ абяцаем усім і кожнаму, хто схіліўся да еднасці, такія ж даць свабоды і вольнасці, што іх міласці святары каталіцкія маюць, і будуць мець яшчэ тое, што іншымі мы прывілеямі нашымі падаваць ім абяцаем з прымнажэннем ласкі нашае гаспадарскае.

І гэта ўсё абяцаем мы ад сябе і ад нашчадкаў нашых гэтым згаданым біскупам: Кірыле Тарлецкаму, уладыку луцкаму; Гедыёну Балабану, уладыку львоўскаму; Лявону Пялчыцкаму, уладыку пінскаму; Дыянісію Збаражскаму, уладыку холмскаму; Гермагену, уладыку полацкаму, і трымаць цалкам да іх смерці. А ў пацверджанне гэтых словаў даём ім гэты ліст — прывілей, падпісаны рукою нашаю, да якога пячатку каронную мы прыцiснуць загадалі.

Пісана ў Кракаве, сакавіка 11 дня, года 1592.

## У 1593 ГОДЗЕ 16 КАСТРЫЧНІКА БЫЎ У БЕРАСЦІ СІНОД

Вось што адбывалася ў дзень з'езда 6 кастрычніка паводле старога календара і 16 — паводле новага. Сыходзіліся духавенства і рыцарства, паслы і паны да маёнтка яго міласці ваяводы кіеўскага, у камяніцу пана Раўскага, адкуль пасылалі да мітрапаліта дзвюх асобаў ад духавенства і дзвюх ад рыцарскага кола, паведамляючы, што яны прыехалі на сінод, і просячы, каб указаў месца, дзе б маглі сысціся для перамоваў з ім.

Ён адказаў, што яшчэ не дамовіліся аб месцы, і адклаў сустрэчу да чацвярга, 7 кастрычніка. У саборнай царкве мураванай была прыбітая папера, дзе ўказвалася месца з'езда. У той час мітрапаліту быў выклік ад айца Нікіфара, экзарха, пасланага Гаўрылам, патрыярхам канстанцінопальскім, каб заўтра з'явіўся да яго дзеля апраўдання за такія ўчынкі. Аднак будучы кімсьці папярэджаны, мітрапаліт з уладыкам схаваліся на сядзібе ў ксяндза біскупа луцкага.

У той дзень, у сераду, у Берасце прыехаў яго міласць пан ваявода троцкі і накіраваўся да яго міласці князя ваяводы кіеўскага і паведаміў, што ад яго каралеўскай міласці на гэты сінод паслы, яго міласць пан канцлер і пан падскарбі не прыехалі; і каб яго міласць не пакрыўдзіўся з-за гэтага.

Калі гэтую абразу яго міласць князь у коле рыцарскім раскрыў, дык усе былі зняважаныя паводзінамі людзей, якія не паведамляюць і не паведамлялі, што не прыедуць, чакаючы зыходу часу сіноду.

Сход пачалі ў той жа дзень. На самым пачатку духавенства абрала маршалка, а таксама слухалі некалькі павятовых пасольстваў.

У чацвер засядалі князь ваявода кіеўскі з сынам — княжычам ваяводам валынскім. Вельмі рана на світанку паехалі да яго міласці пана ваяводы троцкага і прабылі там гадзінаў больш за пяць да паўдня. Тым часам прыехаў пан канцлер з падскарбіем ды пайшлі проста да ваяводы троцкага, дзе і заспелі князя, і зноў нямала часу страцілі. Ад сябе слалі паслоў да мітрапаліта — шэсць асобаў з духавенства ды шэсць паслоў з места, перадаўшы яму ліст, у якім напісалі, каб не цягнуў часу, а сустрэўся з імі і дамовіўся.

Калі ж даведаліся, што гэты з'езд, скліканы толькі для рускага народа, адбудзецца, тых уладыкаў пастанавілі лічыць адшчапенцамі, за пастыраў іх не трымаць, абраць іншых, а гэ-

тых пазбавіць сану, калі аб сваіх справах не дадуць справаздачы публічнай — ці стаяць пры старой веры ды дабраслаўленні патрыярха.

Тых паслоў напаткаў князь — яны ўжо ехалі да мітрапаліта. Тыя паслы засталі мітрапаліта ўжо ў згаданых паноў-сенатараў. Яму пасланне тое вясёлае прачыталі і прасілі адказу на цыдулу, але ён не даў. Яны ўсе пайшлі ад мітрапаліта без адказу, абяцаўшы сваіх пасланць, і хутка прыслалі пана Прэцвіца, кашталяна камянецкага, пана Шуйскага і камянецкага інстыгатара. Яны да яго княжацкай міласці шырокія словы гаварылі пра тое пасольства, як быццам перад яго міласцю справаздачу трымалі або дэкрэт, што быў пасланы да мітрапаліта; зняважаныя тым, што ім той ліст не пакінулі. Калі ж яны паведамілі галоўнае аб месцы сходу, дык заключылі, што без яго каралеўскае міласці гэтая справа быць не магла.

Князь раззлаваўся і гаварыў, што быў у іх каралеўскай міласці, аднак гэта чыніць ад імя ўсіх іх і калі што рабілі, то чынілі мудра, на гэтым стаяў і стаяць будзе. Потым ад гаворкі перайшлі амаль да плачу, што яны нікога не абражаюць: «Мы ўсе абражаныя здраднікамі нашымі, якія гэта заварылі, і тымі, хто ім дапамагае, але цярпліва зносім яўныя крыўды, на Бога ўскладаючы помсту ды абарону».

Потым гаварыў пан Гулевіч, чалавек дастаткова годны, абраны маршалкам, якога не толькі яго міласць князь, але мы ўсе паслалі, а яго міласць князь — толькі адна персона. Каб князь ды іншыя паслы ведалі, што мы не да іх пасланыя, а да іх міласцяў княжатаў, а да новахрышчэнцаў ды евангелікаў не маем ніякае справы. І там, дзе яны будуць, там нічога слушнага вырашана быць не можа. Таксама пан Гулевіч сказаў: «Я таксама вас не прашу, каб вы абы-як мне адказалі».

Князь між тым увогуле апраўдваўся, што без іх міласцяў у той справе нічога ні рабіць, ні гаварыць не хоча.

Потым неўзабаве паведамілі іх міласці, што самі хочуць быць у князя. І прыехалі пан ваявода троцкі, пан канцлер, пан падканцлер і пайшлі ў пакой да князя. Паведамілі грамадзе, што маюцца быць у князя гадзіну, бо ўжо змяркалася; чакалі іх некалькі гадзінаў. Гэтае чаканне ўсіх абразіла, што так доўга іх чакаем і не ведаем, пра што яны дамаўляюцца, бо справа тычылася ўсіх нас і нашага сумлення. Дамовіліся з'ехацца ў пятніцу, а 14 гадзіне, каб справы распачатыя скончыць, і раз'ехаліся гуртам з нараканнямі. Усё гэта сенатары маглі чуць

вельмі добра, бо вокны выходзілі на вуліцу і шум між людзьмі быў вялікі.

Назаўтра, у пятніцу, прыслаў па мяне пан падскарбі ды іншых у сябе сабраў, там жа нагадаў, каб тое ведаць, якая будзе з таго радасць у будучым і ці прывядзе гэта да згоды; ніколі нельга нас аб'яднаць з-за адмовы, бо мы не хочам быць такімі, як тыя адшчапенцы. Ён мне так адказаў: «Ты гаварыць не можаш, бо ты ад пана ваяводы смаленскага». А я яму адплаціў тым, што, маўляў, не ад яго міласці прыехаў, а сам ад сябе.

Потым паехалі мы да грамады, да брацііі, там жа былі чытаныя пасольскія лісты ад усіх земляў і паветаў: зямлі Валынскай, з Падолля, з Падгораў, з Русі, з Літвы, са Львова, з Кіева, з Перамышля, з Пінска — многія былі ўзрушаныя іх плачам, бо парушаныя былі прывілеі ці ў самых паслоў, ці ў братоў іхніх. Прыгадвалі пастановы патрыярха канстанцінопальскага і зацверджаныя на той час іх міласцямі каралямі дакументы. Пісана было, што іх міласць ведаюць, як мітрапаліт багата лістоў і адкрытых і закрытых паслаў, дзе запэўніваў, быццам ён і не ведае і не думае пра тое адшчапенства.

Потым казалі прамовы ад духавенства, што тых лістоў слухаць не трэба. Быў напісаны дэкрэт, у якім гаварылася, што калі пан камянецкі і з ім князь ваявода валынскі вярнуліся ад паноў паслоў яго каралеўскай міласці, дык няхай ад кола рыцарскага і ад духавенства будзе паслана па чатыры дэпутаты. Таксама не ведалі многіх са сваіх, якія хацелі да добрых спраў схіліцца, да чаго згадзіліся дамовіцца, але ні ў якім іншым месцы, а толькі там, дзе мы засядалі. І другі дом замацавалі за сабой, каб іхнія дэпутаты ні на што не спакусіліся без ведама ўсёй грамады, але падданыя, пачуўшы пра гэта, паведамілі грамадзе. Там паны сенатары далі нашым ліст на лаціне, а потым князь дзве гадзіны прамаўляў. Нашыя некалькі пасланцоў слалі, клічучы сваіх да сябе, і сенатары, тое ўбачыўшы, загадалі князю скончыць.

Нашы вярнуліся і прынеслі нам звесткі, з якіх мы зразумелі, што сенатары хочуць, каб мы згадзіліся прызнаць за папаю вяршэнства і прыняць новы каляндар. На гэта нашы не адказалі ані словам, а потым адказалі праз пана Дравінскага і пана пісара ўладзімерскага, што з многіх прычынаў не могуць з гэтым згадзіцца, што не могуць з няслушнага кроку пачаць змены ў духоўных справах, казалі, што з такой малой колькасцю асобаў духоўных нічога пастанавіць немагчыма,

таму няхай папа з патрыярхамі аб тым дамовіцца, няхай яны прыйдуць да паразумення, правядуць Сінод і аб гэтым прымуць рашэнне, а мы без сваіх старэйшых духоўнікаў нават і думаць аб гэтым не хочам. Яны прынеслі прамовы жаласлівыя, называючы астатніх. Пасля ад патрыярхавага намесніка быў дэкляраваны дэкрэт. На гэтым і ноч надышла.

У суботу хутка сышліся мы да кола. Патрыярхаў дэкрэт і праклён на мітрапаліта былі прачытаныя па-руску, перакладзеныя з грэцкае мовы вельмі пекнымі ды жаласлівымі словамі. Пан канцлер літоўскі паслаў да месцічаў віленскіх, якія не хацелі пайсці на згоду, клічучы іх да сябе. Ён жа ім сказаў, што будуць мець жаль і клопат праз тое, што сведчылі на коле.

Наш пан маршалак таксама сказаў пану канцлеру, што гэтым, панове літва, мы тое страчваем, што сваю дзяржаву амаль далучаем да Польшчы. Тады хутка ад пана канцлера і ад пана падскарбія прыйшлі да князя ваяводы кіеўскага з інстыгатарам камянецкім і слугамі і абвінавацілі князя, што ён прыняў ад экзарха, пасла патрыяршага, трыццаць тысяч залатых; называлі пасла белгарадскім шпіёнам, а Стафана з папамі называлі вываланцамі. На гэта князь ім адказаў, што прыме не толькі трыццаць, а колькі разоў па сто тысячаў і прадставіць іх на сойме, а тады адкажа, хіба слушна, што вываланцы выдаюць людзей невінаватых, а на таго, хто сапраўды заслужыў, не паклёпнічаюць. А калі колькі віны і было, дык і на грэка пакажуць.

Тут айцец Нікіфар, Азар Пратасій, найбліжэйшы да патрыярха, запытаўся, чаму ўзняўся гвалт. Яму распавялі па-грэцку, што яго падкупляюць. Тады ён стаў на лаву, папрасіў слова і сказаў: «Той здраднік, хто мяне ў здрадзе падазрае». Ён асоба духоўная, жонкі ды дзяцей не мае, а таму падставы, каб браць хабар для набыцця маёмасці, у яго няма, і сам ён няmaла папакутаваў у імя Хрыстова. Тыя здраднікі, што хрысціянаў крадуць, падгаворваюць і розныя падставы шукаюць. І паказаў свае прывілеі ад усіх чатырох патрыярхаў, якія паслалі яго ў гэты край з усялякімі паўнамоцтвамі, бы сам патрыярх прыехаў на сойм па сваёй волі, абяцаючы пастанаўляць, як і адбудзецца.

Тут і яго міласць князь, узрушаны жалем, звярнуўся да пана канцлера і да пана падскарбія, каб тыя яму яго міласцю каралём не пагражалі, бо ён і веру і абавязак свайму гаспадару захоўвае і род яго старадаўні, а не новы. І таму няхай іх

міласці паграажаюць яму ад сябе. І калі яны што да яго маюць, то ён гатовы з'явіцца да іх міласцяў у любое месца, якое яны прызначаць.

Потым прыслалі князя Шуйскага з другім нейкім ляхам паведаць, што ў касцёле ў нас ідзе да згоды і каб ён, калі будзе воля яго міласці, з'явіўся сам і дапамог. Князь адказаў, што дапамогу зараз пашле. Ад кола рыцарскага было выпраўлена дзесяць чалавек, дзесяць ад асобаў духоўных і дзесяць паслоў ад месцічаў, каб аб'явілі пратэст, калі будзе на тое дазвол. З князем былі і возныя і колькі генералаў, але іх, калі яны да касцёла пад'ехалі, дык іх у браму гайдукі пана падскарбія і пана ваяводы троцкага не пусцілі. І паехалі яны назад з вялікім жалем. Гэта здарылася ў суботу пад абед.

У той жа дзень князь ваявода валынскі і шмат валынян ды падалян мелася быць на абедзе ў пана падскарбія. Але іх не запрасілі, і яны гэтым вельмі зняважаныя былі. Ніякіх нашых пратэстаў у замку не прынялі. Мітрапаліта ды ўладыкаў, чулі мы, гвалтам змусілі да прысягі. Яны прасілі дзеля Бога, каб адклалі прысягу да сойма, але архібіскуп львоўскі, біскуп луцкі і пан канцлер запэўнівалі іх ласкаю іх міласці караля ды, абяцаючы каралеўскую ласку, прывялі іх да прысягі. І мітрапаліт з чатырма ўладыкамі прысягнулі на папава вяршэнства, на новы каляндар, на еднасць касцёла, на той артыкул, што Дух Святы ад Айца і Сына сыходзіць.

І ў нядзелю езуіт служыў імшу ў саборнай царкве, а Скарга выступіў з казаннем, Пацей жа службу правіў у касцёле каля ражэйскага алтара. Там жа каля алтара праваслаўнага, дзе служыў рымлянін, віно ў келіху абярнулася ў мярзотную, смярдзючую кроў, і гэтае пітво той езуіт не змог спажыць. Каля алтара ж рымскага ў Пацея віно абярнулася ў простую горкую ваду. Там жа ў Берасці знайшоўся адзін чалавек просты, які гаварыў вялікія прамовы, і жах ягоных словаў працінаў людзей, бо ўсё Пісанне ён на памяць ведаў. Што тут дзіўнага? Пэўна, ён не вар'ят які, якому нешта можа ў галаў зайсці, а — нагадваў людзям, каб яны моц сваёй веры трымалі. А тых лотраў, мітрапаліта ды ўладыкаў, там не бачылі, бо іх туды рымляне не дапусцілі.

У суботу, едучы з касцёла, пан ваявода троцкі заехаў да князя, развітаўся з ім, выказаўшы шкадаванне з-за нязгоды, і паехаў у Чарнаўчыцы. А мы ў нядзелю ўсе раз'ехаліся, завяршыўшы пісьмо; падпісаўшыся пад ім ды запячатаўшы, пас-

лалі гэты наш універсал да яго каралеўскае міласці, выкарыстаўшы дзеля гэтага пана маршалка Гулевіча і людзей годных пана Еламалінскага ды пана Бранеўскага. Першыя два былі евангелісты, а трэці — анабаптыст.

У 1592 годзе, 11 чэрвеня паводле старога календара, у нядзелю была бура вялікая, вельмі жахлівая. Пачаўшыся ў заходніх краях, дайшла да Чарнігава, Гомеля, Любеча, да Белай Царквы, Пераяслаўля, Стрэшына, Рэчыцы, Рагачова, Крычава і да многіх іншых местаў і замкаў. Па сёлах, местах ды мястэчках вялікая бура з градам шмат збожжа папсавала, а ў барах, лясах, лугах бортныя дрэвы з пчоламі, на вадзе сеткі зусім бура паламала, толькі трохі пакінула. Як тады паведамлялі і са спачуваннем казалі, што дзесьці ў аднаго чалавека северскага сто бортных дрэваў паламала, у другога дзвесце, у трэцяга — трыста, ажно страшна было пра гэта слухаць. Дарогі ад сяла да сяла цэлай воласцю прачышчалі. Нават і цяпер па лясах, барах ды балотах можна ўбачыць багата паламаных дрэваў.

Той жа 1592 год быў урадлівы на жыта і авёс, а грэчка хоць і не высокая была, але добрая, а пшаніцу ржа пабіла. Цэны на жыта былі танныя: па пяць грошай за чвэрць, а за меру — дваццаць грошай.

У той жа год Феафанам-уладыкам быў рукапаложаны на епіскапства полацкае Нафанаіл Тарлецкі, пачынальнік новага, беззаконнага ды безыменнага календара. Як імя таго, хто гэта прыдумаў? Ні Майсей, ні Хрыстос. І гэта захоўвалася ў таямніцы ажно да 1596 года. Таго ж 92 года на свае вочы можна было бачыць Божы знак: увосень на Пакровы з дрэваў лісце не падала, а зелянела, быццам увесну, а на іншых дрэвах так і зімавала.

У год 1594 увесну ў Магілёўскім манастыры была закладзеная царква Святога Спаса. Была яна багата ўпрыгожаная абразамі. Потым утварылася там нейкае брацтва Св. Спаса: хадзілі па месту, новыя цырымоніі чынілі не паводле статуту святых айцоў, на асляці некалькі разоў ездзілі. Тады ж згарэла царква Святога Спаса, жарабя воўк заеў, дзіця, якое сядзела замест Хрыста, аслепла.

У той жа год увесну ў Магілёве быў закладзены касцёл святога... на селішчы Аўтушка, нябожчыка багатага, а перад гэтым у Магілёве польскіх касцёлаў не было.

У год 1594, у часы караля Жыгімонта Трэцяга, мітрапаліта Рагозы, уладыкі полацкага Афанасія Тарлецкага, стараннем

ды пільнасцю вялікай яго міласці пана хрысціянскага, яго міласці князя Багдана Саламярэцкага, старасты крычаўскага ды алучыцкага, і хрысталюбівай жонкі яго міласці княгіні Еўдакіі Баркулабаўны Корсакавай, і ўраднікам іх міласці панам Фёдарам Глеціўскім збудаваны быў ды пасвечаны храм святога вялікага пакутніка Юрыя святаром баркулабаўскім Фёдарам Філіповічам, і быў ён перададзены на службы боскія айцу Цімафею Аляксеевічу, каб мог ён далучаць да веры дзяцей духоўных.

Ля царквы быў пастаўлены замёт з бярвення, ды келія пастаўлена, ды закладзены мужчынскі манастыр. Айца Афанасія яго міласць князь Багдан прававерны ўпрасіў, каб брацця пры ім была.

У год 1594 у Берасці сабор быў.

У тым жа годзе памёр пан Астравінскі. У той год вельмі мачыла, былі буры ды сцюжы і на збожжа ўраджай быў сярэднім.

У тым жа 1594 годзе, 17 снежня, у аўторак па ранішняй службе ў Буйнічах яе міласць пані Паланея Крошынская-Баркулабава, прыняўшы цела Хрыстова з рук свайго духоўніка ў святліцы буйніцкай, прыняўшы святыя тайны Хрыстовыя, з бояззю Бога ды з вялікай пабожнасцю душу сваю перадала Госпаду Богу. Паўгадзіны пабыла на руках свайго духоўніка дый памерла. Пахаваная была ў тым жа годзе ў траўні ў нядзелю ў сярэдзіне Пятрова паста ў царкве баркулабаўскай. Яе труна вышэй за левы клірас.

У тым жа годзе па святым свяце Нафанаіл Тарлецкі, уладыка полацкі, на той свет пайшоў. Шэсць гадоў жыцця свайго быў епіскапам, пацiху ўводзіў новы каляндар, бо родам быў паляк і размаўляў па-польску.

У год ад Божага нараджэння 1595, месяца лістапада, 30 дня, у панядзелак, за тыдзень перад святым Міколам, прыйшоў Севярын Налівайка, з ім было 2000 казакоў, 14 гармат, гакаўніц... і Магілёў, места слаўнае, места пабожнае, дамы, крамы, астрог спалілі, усіх дамоў 500, а крамаў са скарбамі вялікімі 400, месцічаў, баяраў, людзей пачцівых, як мужчын, так і жанчын, і дзяцей малых, пабілі, пасеклі, апаганілі, скарбаў незлічона пабралі з дамоў ды крамаў. Тут жа войска літоўскае пана Радзівіла, кашталяна троцкага, гетмана літоўскага на Магілёў у пагоню за казакамі прыцягнулі люду рыцарскага коннага ды збройнага: татар 4 000, літвы 14 000. Над тым людам гетманам быў Мікалай Буйвід.

Налівайка прабыў у Магілёве два тыдні. А калі пачуў, што гетман з вялікім войскам і гарматамі рушыў да Магілёва, тады Налівайка перайшоў з Магілёўскага замка на гару Ільінскую, дзе цяпер царква святога Юрыя стаіць.

На Буйніцкім полі, уладанні яго міласці вяльможнага князя Багдана Саламярэцкага, старасты крычаўскага ды алучыцкага, войска літоўскае ўдарыла на Налівайкава войска ды абкружыла яго. Там жа з ранку і да вечара, пакуль на вячэрнюю службу не зазванілі, была бітва між імі, бо літва з войскам вялікім атакавала Налівайкава войска. Раней войскі адно другому мала шкодзілі, бо вялікую колькасць гарматаў, пулгакаў, гакаўніц ды іншай зброі пры сабе меў Налівайка і людзей сваіх абгарадзіў накшталт табару коньмі ды вазамі, моцна стаяў. З гэтага табару Налівайкавы казакі шляхетнага пана Рыгора Анюхоўскага забілі. Спачатку застрэлілі пад ім каня, а потым, выскачыўшы з табару, казакі яго самога рассеклі.

Літва ад казакоў адступіла, паехаўшы да Магілёва на большую здабычу. А казакі ехалі ўсю ноч да Быхава аж на Ніз. Літва за казакамі гналася да Рагачова, але нічога ім зрабіць не змагла. А частка літвы з татарамі рушылі да Менска, да Наваградка, да Вільні, набраўшы здабычы з тутэйшага краю.

Па выездзе казакоў і літвы было ні зіма, ні лета, ні вясна, ні восень, аж да месяца траўня, да святога Афанасія, снегу не было.

Казакі ж Налівайкавага войска пачалі рабіць вялікую шкоду замкам ды панам на ўскраінах.

У тым жа 1595 годзе літоўскае войска ў сяле Лубны на рэчцы Суле казакоў пабіла. Спачатку сцялі галаву Савулу, Панчоху чацвертавалі, а Севярына Налівайку, злавіўшы на сёмую суботу, паслалі да караля. Там жа яго, замураваўшы, трымалі да восені, а на Святыя Пакровы чацвертавалі.

У год 1596, пасля Святога Духа, пастаўлены быў на епіскапства полацкае пратапопаў сын з Вільні Грыгорый, названы быў Гермагенам.

У тым жа 1596 годзе за мітрапалітам Рагозам, каралём Жыгімонтам Трэцім, канцлерам Львом Сапегам, у Берасці на саборы ўладыка луцкі, уладыка ўладзімірскі, уладыка полацкі ды іншыя амаль усе унію прынялі і падпісаліся за новы каляндар. У тым жа годзе пачалі Бога прасіць за патрыярха канстанцінопальскага Гаўрыіла.

У год 1597 ад Божага нараджэння свята Дабравешчання было ў Вялікую пятніцу. Той год вельмі нядобры быў. Былі хваробы ўсялякія, шматлікія, вялікія. Зіма была снежная ды лютая, на санях ездзілі пасля Вялікадня яшчэ два тыдні. Араць пашу пачалі на пятым тыдні, і то было вельмі гразка. І вада была вельмі высокая, нарабіла вялікай шкоды нізкім месцам, дварам, гаці парушыла, платы ды мноства зрубаў паразносіла. Чвэрць жыта куплялі па 12 грошай, чвэрць аўса — па 5 грошай. Ярыну ды авёс у тым годзе пачалі сеяць на дзевятым тыдні. Ячмень ды авёс дасявалі на 13 тыдні.

У тым жа годзе Пятроў пост быў 5 тыдняў. Тады позняя ярына выкаласілася перад святым Іллёю, а раней яе ўжо ўбіралі. Намалот быў сярэдні — ні дрэнны, ні добры.

У год 1596. Нікіфар, вялікі пратасінкел, экзарх патрыяршага пасаду, пасол ад усіх чатырох патрыярхаў, пасланы ад пасаду канстанцінопальскага і ўсяго сабору.

Паколькі святая, Божая, апостальская, кафалічная царква, або патрыяршая, або прастол канстанцінопальскі аддае канчатковаму адлучэнню мітрапаліта кіеўскага Міхаіла Рагозу і некаторых біскупаў ягоных як адступнікаў і разбуральнікаў царквы сабornай. Дзеля гэтага сілай ды ўладай Духа Святога даводзім да ўсіх добрасумленных іерэяў, дыяканаў, што нашыя мудрыя звычаі ды дагматы ўладу маюць, службы іерэйскія рабіць без перашкоды па ўсёй епархіі і ўсе ключы перадаць айцу Радзівону, пратапопу менскаму, з усімі справамі, падлеглымі яго ўладзе, памінаючы імя патрыярха Гаўрылы, пакуль будуць пастаўлены замест адрынутых, епіскапам прымаць усіх, хто прыходзіць да царквы нашай саборнай, што захоўвае Боскую праўду, абрады і дагматы, якія наяве спавядаем. Так загадваем усім. На гэтым ласка Божая і невымоўная міласць няхай будзе з усімі вамі, хто па-нашаму думае.

Пісаны ў Берасці на сінодзе, у год ад Божага нараджэння 1596, месяца кастрычніка, 10 дня.

Тут подпіс па-грэцку: Нікіфар, протасінкел пасаду вялікага Канстанцінопальскага;

Гедыён, епіскап львоўскі, уласнай рукою;

Кірыла, мітрапаліт сербскі, уласнай рукою;

Міхаіл, епіскап перамышльскі, уласнай рукою;

Нікіфар Тур, архімандрыт кіеўскі, манастыра Пячорскага, уласнай рукою.

У год 1597. На вялікі пост яго міласць князь Багдан Ісак у месце Баркулабаве пачаў вучыцца грамаце па-руску і па-грэц-

ку, а настаўнікам у яго быў пан Лаўрэн Зізані, чалавек вельмі вучоны, прывезены з места Вільні. А нарадзіўся яго міласць князь Багдан у годзе 1588.

У часы гаспадара караля Жыгімонта Трэцяга, канцлера Льва Сапегі, мітрапаліта Міхаіла Рагозы, уладыкі полацкага Гермагена, новага календара, багаславенства першасвяшчэннага найсвяцейшага ўсяленскага патрыярха кіра Рафаіла, у часы архіепіскапа яго Гедыёна Балабана, уладыкі львоўскага, а таксама і свайго духоўнага айца Фёдара Філіповіча, святара баркулабаўскага, прававерны пан яго міласць князь Багдан Саламярэцкі, стараста крычаўскі ды алучыцкі, на сваёй уласнай зямлі ля вёсак Панкоўкі і Навасёлкі, на рэчцы Дашкоўцы ў пушчы Сыры Корань, заклікаўшы і даўшы свабоды або вольнасці людзям прыхожым на пятнаццаць год свабодна мёд сыціць, піва варыць, гарэлку гнаць, пажадаў заснаваць места пад сваім імем Багданава. У той жа час пажадаў, каб і храм заснавалі ў тым месце Багданаве, таксама іменем ягоным і яго сына названым.

У год 1598. У тым годзе былі хваробы розныя, шматлікія. Зіма была маласнежная, хоць рана стала, але дружна сышла.

У тым жа годзе пану Льву Сапегу, канцлеру літоўскаму, дасталося на ўтрыманне староства Магілёўскае. Ураднікам ягоным быў у Магілёве харужы полацкі Галубіцкі.

У год 1599 напярэдадні Раства Хрыстовага паводле старога стылю пажадаў быць прынятым у Баркулабаве ў яго міласці князя Багдана Саламярэцкага яго міласць пан Леў Сапега з многімі шляхетнымі вяльможнымі панамі.

У тым жа 1599 годзе, месяца студзеня, 6 дня, у аўторак, пажадаў князь Пётр Жыжэмскі, стараста рэчыцкі, заручыцца з паннай Хрысцінай у яго міласці князя Багдана Саламярэцкага, старасты крычаўскага ды алучыцкага. А вяселле было ў год 1600 па святым Хрышчэнні ў нядзелю.

У год 1599. Той год быў вельмі галодны. Жыта куплялі — талер за чвэрць, а за меру давалі па дзве капы без дваццаці грошай. Але для людзей год быў здаровы. Купіць збожжа можна было ўсюды і па хатах, і на таргу, толькі дарага.

У год 1599, месяца траўня, 27 дня, амаль у сёмую суботу апоўдні, у месце Баркулабаве прыйшла да царквы Баркулабаўскае дачка баркулабаўскае арандатаркі жыдоўкі Мар'ямкі на імя Сцірка. Слёзна прыпадала да святара баркулабаўскага Фёдара Філіповіча і прасіла дзеля Бога, каб хрысціў яе ў

веру хрысціянскую. Ён, параіўшыся з іншымі панамі, з баярамі, зямянамі, з шляхтаю, зураднікам баркулабаўскім панам Фёдарам Пляцінскім, памінаючы Святым Пісаннем і прыводзячы яе да памяці, запытаўся ў яе, каб праўду сказала, ці сапраўды яна мае намер хрысціянкаю стаць, ці толькі дзеля таго, каб выйсці замуж за якога хрысціянскага чалавека, ці каб атрымаць багацце.

Гэтая жыдоўка Сцірка такімі адказвала словамі, стоячы перад царквою, перад усім шляхетным панствам, перад народам хрысціянскім: «Я, панове мае, ужо даўно ад маладосці маёй, а праўдзівей, ужо паўтара года, як сама на гэта рашылася, просячы слёзна Госпада Бога і кладучы шчыры крыж святы на твар свой, кладучыся і ўстаючы, абы мне дазволіў ён пабачыць сябе хрысціянкаю. З жаданнем і вялікай радасцю прагну мець Хрыстовую веру».

Назаўтра, у дзень сашэсця Святога Духа, з народам Божым, з мноствам паноў, шляхты, людзей пачцівых, як мужчын, так жанчын і дзяцей, у час адкрыцця кірмашу была хрышчаная апусканнем у ванну з вадою і названая тая Сцірка ў святым хрышчэнні Аленаю.

У той жа дзень яе маці Мар'ямка з крыкам, плачам, просячы для Бога, прыходзіла да хрысцільні і, падаючы, прасіла, каб дачку яе не хрысціўшы адпусцілі, абяцаючы за гэта і вялікую пашану, і падарунак.

Некаторыя ж месцічы ўбачылі вялікае чараўніцтва гэтай Мар'ямкі, якое яна чарамі паганскімі егіпецкімі дачцы сваёй рабіла. І тады павезлі яе да іх міласцяў князёў у Буйнічы, а там гэтая Мар'ямка ўлезла ў лазню халодную, галаву адкрыла, валасы распусціла, печку раскідала, чарадзейныя паганскія словы гаварыла, праклінала, абедзвюма рукамі назад махала, ногі сабе вязала, багата іншага зла ды паганства рабіла, праклінала ўсё, каб не жыць.

Той год 1599 быў вельмі ўрадлівы, добры, здаровы, пагодлівы, на ўсё шчаслівы. Жыта куплялі па пятнаццаць грошаў за чвэрць, а меру па 40 грошаў, чвэрць аўса па 4 грошы, мера — па 16 грошаў. І на жыта, і на грэчку, і на авёс — на ўсё ўраджай вельмі добры быў.

У год 1600. Зіма была лютая і снежная. Дабравешчанне было на святым тыдні ў пятніцу. Араць ды сеяць пачалі па свяце на чацвёртым тыдні.

У тым жа годзе, месяцы красавіку, у панядзелак у дзень святога Марціна, папы рымскага, яго міласць пан Багдан Са-

ламярэцкі-малодшы перайшоў ад навукі грэцкай ды рускай Лаўрэна Зізанія да навукі лацінскай пана Максіма Герасімавіча Сматрыцкага.

## ЛІСТ АД НЕЙКАГА ПАНА З РОКАШУ АБ НАВІНАХ РОКАШАВЫХ

Паведамляю вашай міласці навіны, што ў мінулую сераду з Падляшша да мяне дайшлі. Перапіс з ліста, да мяне пісанага, уласнымі словамі вашай міласці выпісваю. Нешчаслівыя навіны вашай міласці паведамляю, што нашыя бітву з ракашанамі прайгралі, каралеўскай міласці прыйшло на дапамогу трыццаць тысяч чужаземцаў. Кароль, маючы вялікую надзею, паслухаў злое парады ды легкадумна захацеў смерці паноў-ракашанаў, якіх не болей за пяць тысяч было. Але яны ўтрымалі пляц. Хаця з абодвух бакоў нямала палегла, аднак з нашага боку найбольш загінула чужаземцаў-немцаў. Гэта бітва была па маім ужо ад'ездзе з-пад Вісліцы. Нашыя мазуры, падляшаны ды з іншых ваяводстваў бягуць разам з паведамленнямі адтуль ад паноў-дэпутатаў, як ад гвалту. Перапіс універсалу тае навіны ад 8 кастрычніка ў панядзелак па ад'ездзе маім быў прынесены.

## УНІВЕРСАЛ РОКАШАВЫ ГОДА 1606, МЕСЯЦА ВЕРАСНЯ, 25 ДНЯ

Мы, рады і станы рыцарскія, якія з'ехаліся на з'езд рокашавы для заактоўвання справаў Рэчы Паспалітай, на тым рокашу дамоўленых, а таксама даводзім да ведама пра адказ яго каралеўскай міласці нашаму пасольству і дэпутацыі. На гэтым месце складзена і даводзіцца ўсім абывацелям, іх міласцям і каронным і ў княстве Літоўскім, што ўчора ад яго каралеўскае міласці нашыя панове паслы вярнуліся з водпаведдзю і адказам нам усім, не толькі вельмі балючым для нас, але і супярэчным на першыя адказы і дэкларацыі яго каралеўскай міласці. Бо замест надзеі, якую мы меліся атрымаць, зараз не маем анічога, ніводнага прамога адказу ні на адзін артыкул, і гэта, вядома, ганьба ўсім пра-

вам нашым, быццам бы мы ўчынілі не слушна, не паважна і нават не набожна. Затым нам прыпісалі парушэнне спакою і звады ў Рэчы Паспалітай, пагражаюць нам і хочуць устанавіць ісціну з той радай злой, якая ўжо вырашыла, што мы вінаватыя.

І гэта ёсць дзеянне словам яго каралеўскай міласці супраць меркавання ягоных сенатараў, гэтыя словы ад тае рады, якая служыць ад абсолютум домінум і бачыць крыўды Рэчы Паспалітай і толькі негатыў знаходзіць, амаль дзейсна выяўляе, каб пры гэтым паступіла тая рэзалюцыя, што на нас пойдзе кароль з войскам, а той рокаш крывёю нашаю залье, а клопат наш пра рэспубліку разарве. Таксама далейшай падтрымкі нашых правоў і вольнасцяў мы атрымаць не змаглі, што выклалі мы ў адказе пасольства каля той Віжліцы і адказалі, што калі нас хочуць разарваць наступам гвалтоўным і калі ім нічога не супрацьпаставіць цнота слаўнага рыцарства, дык хай ведаюць, што і Айчыне і вольнасцям шляхетным дэклараваным канец прыйдзе, хай лепей нам Рэч Паспалітая дапаможа, чым зброю на нас паднімаць, бо тады ўжо амаль да канца ўсё дойдзе.

А іншага паратунку на той час нашай Айчыне не відно. Вашай міласці, нашых міласцівых паноў ды ласкавых братоў просім, каб ваша міласць з тою гатоўнасцю, з якою ідзе на гвалт, лепш усталявала б парадак у Рэчы Паспалітай, але ваша міласць жадае, каб у нас перамаглі тыя, хто зараз недалёка ад нас. Але 19 кастрычніка тут, пад Сандамірам, мы іх адкінулі, хацелі б мы, каб ваша міласць прыбыла да нас дзеля адказу нам і ўсебаковай інфармацыі, якой некаторыя прагнуць, і прыйсці да паразумення, што цалкам згодна з Божым законам той рокаш нам прыйшлося ўчыніць.

Мы ж тым часам, ахоўваючы нашыя правы ды вольнасці, будзем адпор гвалту даваць. Здароўем сваім просім вашу міласць не адмовіць нам у хуткім прыездзе сваім, а таксама і ў грашовай дапамозе. А мы не адмаўляемся прымусіць чыноўнікаў, каб пільнавалі страчаныя правы і вольнасці, а вашу міласць Гасподзь Бог ад крыві нашае асцерагае. Мы самыя, спакутаваўшыся за мілыя свабоды, прыняўшы на сябе цяжар клопату аб радзіме, рызыкуючы жыццём, мусілі бавіць дні нашыя з горкім жалем.

Аднак мы паважна мяркуем, што ваша міласць не будзе супраць Рэчы Паспалітай і супраць нас, брацііі сваёй. З узаемнаю любоўю без ніякага сумнення ўпэўнены ў тым, што

ваша міласць у гэтай, бадай ужо апошняй Рэчы Паспалітай нас, брацііі сваёй, не будзе пазбягаць і будзе добра ставіцца да ўсіх пастановаў мінулых з'ездаў гэтага рокашу, бо нішто іншае так нас не хвалюе, як стан і бяспека Рэчы Паспалітай і захаванне ў цэласці нашых правоў і прывілеяў.

А з другога боку, мы патрабуем, каб лёгка ўзважылі нам учынак наш ды адвялі падазрэнне, з-за якога нас няслушна абразілі, і каб пастанавілі, што Рэч Паспалітая — гэта не праформа без зместу, а каб яе закон поўны быў.

Чыноўнікі артыкуламі сваімі зашкодзілі нашае працы, зараз яны хочуць па-іншаму нас атакаваць, усе ўчынкі нашыя ачарніць ды згодна з сакрэтным загадам пакінуць усё так, як было распачата. Не адказала ваша міласць канфедэрацыі, што была створаная намі за прыкладам продкаў нашых. Мы гэты ліст падпісалі імёнамі нашымі з верай, пачцівасцю, сумленнем, ні ў чым не адступаючы ў змесце і ў словах. І хацелі перадаць гэта вашай міласці ў Сандаміры 20 верасня 1606 года.

Мікалай Забжыдоўскі, ваявода і генерал кракаўскі;

Ян Швяйкоўскі, рукою сваёю;

Самуіл Ташыцкі, дэпутат ад Кракаўскага ваяводства;

Войцах Сасніцкі, дэпутат ад Віленскага ваяводства;

Фёдар Субчаўскі-Праскура, дэпутат кіеўскі;

Пётр Стаброўскі, кашталян пярноўскі, рукою сваёю;

Станморскі з Морску, рукою сваёю;

Ян Сулігастоўскі з Сулігустава, дэпутат ад ваяводства Судомірскага;

Станіслаў Стадніцкі, стараста жыквольскі, дэпутат ад ваяводства Рускага;

Януш Радзівіл, маршалак з'езда рокашавага;

Ян Гарбурт з Тулшчына, харужы львоўскі з ваяводства Рускага;

Мікалай Шчэнец-Сандомірскі;

Войцах, страж з Белахова;

Адровеж, дэпутат ад Апочынскага павета;

Геранім Прыленцкі, дэпутат ад Асваціцка-Заторскага павета;

Ян Лемах, з ваяводства Любельскага;

Геранім Міліша, дэпутат ад ваяводства Бельскага;

Павел Рашоўскі з Рашова, дэпутат ад Высокагорскага павета;

Ян Швяйкоўскі, да кніг прыклаў руку сваю.

## РОКУ 1606.
## АСЕКУРАЦЫЯ, АБО ВОЛЬНАСЦЬ

Мікалай Забжыдоўскі з Забжыдовіч, ваявода і генерал кракаўскі; Ян Харонскі, стараста сняцінскі; Януш Радзівіл, князь біржайскі і дубніцкі, падчашы Вялікага княства Літоўскага.

Даводзім да ведама ўсім і кожнаму паасобку, што спазнаўшы ласку яго каралеўскай міласці, што асекурацыя Вісліцкая сваімі артыкуламі памнажае вольнасць Айчыны і панства нашага і што зацверджаныя яны будуць на бліжэйшым сойме, мы абяцаем прынесці спакой у Рэч Паспалітую і не дапусціць далейшага праліцця братняй крыві. Мы запэўніваем яго каралеўскую міласць, гаспадара нашага міласцівага, што ўсе мы людзей заможных, усіх, якіх сабралі, распусцім і харугваў насіць не будзем, ніякіх з'ездаў ды збораў праз універсалы рабіць не будзем. А тыя універсалы, якія мы ўжо склалі, не толькі спынім, але іншых будзем адгаворваць ад складання новых, намагаючыся з усёй пільнасцю, каб супакоіць усіх узрушаных гэтымі падзеямі, каб надалей не бунтаваць Рэч Паспалітую.

Мы адчуваем сябе вінаватымі перад яго каралеўскай міласцю і прыкладзём усе свае намаганні, каб адудзячыцца Айчыне спаўна за ўсё добрае. Да дамоў сваіх спакойна раз'едземся, ніякіх сходаў больш не ладзячы, і калі дасць Госпад Бог, дык на новы сойм, калі будзем на ім, дык без войскаў прыедзем і да мірных парадаў будзем зычліва ставіцца і ва ўсіх справах Рэчы Паспалітай верна будзем служыць яго каралеўскай міласці. І аб гэтым сведчым лістом сваім, рукамі нашымі падпісаным ды пячаткамі нашымі замацаваным.

Адбылося ў Янаве, у абозе пад Ядлоўцам першага кастрычніка паводле старога і дзесятага паводле новага календара ў годзе 1606.

У год 1600. Паны валынскія, паны літоўскія і запарожскія казакі, змовіўшыся і разам рушыўшы, супакоілі валахаў, пабілі Міхаева войска, аднялі зброю. Ваявода мунцянскі разам з Міхаем уцяклі, за імі доўга гналіся ажно да мунцянскае мяжы і ледзьве не злавілі. Трохі супакоілася. За гэта казакам было дазволена стаць лагерам у Кіеве. Гетманам у

казакоў быў Самуіл Кошка. Стаялі казакі ў Гомелі, Рэчыцы, у Рагачове, у Баркулабаве і на пастой грошы бралі.

У год 1600, месяца жніўня, 8 дня, з панядзелка на аўторак, пан Леў Сапега, канцлер Вялікага княства Літоўскага, староста магілёўскі, распарадзіўся, каб слугі яго міласці пан Галубіцкі,ураднік пячорскі, і Ян Ражноўскі сяло Трыбухі вярнулі да Магілёўскага замка. А тое ўладанне адвеку было аддадзена князямі Буйніцкімі кляштару Пячорскаму Святое Багародзіцы да самай рэчкі Дуброўны. То ўсё буйніцкія землі былі.

У год 1600. У той жа год Звеставанне было на святым тыдні ў аўторак.

У год 1600, месяца верасня, 18 дня, у чацвер, пан Станіслаў Варшыцкі*, а таксама яго міласць пан Леў Сапега, канцлер літоўскі, стараста магілёўскі на Маскву да ўсходняга цара, князя Барыса Гадунова хадзілі пасламі, а з імі мноства княжатаў і паноў шляхетных. Прабылі яны ў Маскве 20 тыдняў і прынялі перамір'е на 20 год.

У тым жа 1600 годзе, 7 кастрычніка, уладыка полацкі Гермаген, ці то за грэх свой, ці то з дазволу Божага, які спачатку хварэў у Полацку, а потым у Вільні лекі спажыў, едучы з Вільні, на дарозе ў Смаргонях ганебнай смерцю жыццё скончыў. Як на пастарства праз дзірку ўлез, гэтак жа ў дзірцы ў дарозе, злопакутна жыццё сваё скончыў.

У тым жа годзе ў самую восень насуперак звычаю 17 верасня ў аўторак з захаду ў нас былі вялікія грымоты і з усіх бакоў вельмі моцна грымела. Таксама і маланка бліскала. А ўначы быў вецер з марозам. І гэта быў знак, аб чым далей прачытаеш пад гадамі ад нараджэння Хрыстовага 1602 і 1603. Вялікія хваробы былі, голад, неўраджай. Была пошасць ці мор на людзей падарожных, што ў мностве ішлі на Ніз. Каля 4 тысяч мужчын, жанчын і дзяцей ад голаду пайшлі туды, і жахліва было бачыць, як на вуліцах, на дарогах, ля гумнаў, у равах сабакі мёртвыя целы елі.

У год 1601. Вялікая вайна была ў Інфлянтах між каралём швецкім і Жыгімонтам Трэцім. У тым жа годзе былі ў Швецыі запарожскія казакі, але нічым не дапамаглі, толькі вялікую шкоду нарабілі гаспадару нашаму, бо места слыннае, места багатае Віцебск заваявалі, месцічаў пабілі, пане-

* У тэксце памылкова — Ян Варшаўскі.

нак зганьбавалі, маёмасць пабралі, шмат людзей пасеклі, незлічоныя скарбы забралі.

У тым жа 1601 годзе па воласці Магілёўскай гайдукоў у выбранцы на Інфлянты набіралі.

У тым жа 1601 годзе пры гаспадары-каралі Жыгімонце Трэцім, пры мітрапаліце Пацеі-адшчапенцы, пры ўсяленскім патрыярху Рафаілу пастаўлены на епіскапства Полацкае Гедыён, які раней зваўся Мікалаем. Ён таксама адшчапенец.

У тым жа 1601 годзе, 5 жніўня, спачыў святар юр'еўскі, айцец Цімафей Аляксеевіч, што быў іерэем 4 гады. Парафія ягоная: палова места, сёлы Былевічы, Хадуцічы, Ліпаўка, Панковічы, Навасёлкі, Трызніна Слабада, Лежнева, Багданава Слабада.

У тым жа 1601 годзе. Той год быў няўстойлівы, пачалі згаладалыя людзі жыта на хлеб жаць перад святам Адсячэння галавы святога Яна Прадцечы, а ў копы пачалі жыта жаць на святога Сымона Стоўпніка. Зерне было вельмі мяккае. Дажалі жыта за два тыдні да Пакроваў, бо дождж бесперапынна ішоў 12 тыдняў. Ярына пачала каласіцца на святога Пятра, і за два тыдні да Пакроваў пачалі тую ярыну жаць, і то была зялёная. Потым пасля святога Сымона Стоўпніка 4 кастрычніка вялікі снег выпаў. Усе палеткі — ярыну, авёс, пшаніцу, ячмень, гарох, боб — усё пакрыла снегам і моцна пашкодзіла ярыне. Зусім кепска было і людзям, і збожжу. А раней цана на збожжа была сярэдняя. Як знак гэтага неўраджаю быў у год 1600 гром увосень на дзень Узвядзення святога крыжа.

У тым жа 1601 годзе ў Швецыі было 4 тысячы запарожскіх казакоў. Гетманам у іх быў Самуіл Кошка. Там жа Самуіла таго забілі, а пахавалі ў Кіеве. Нічога добрага тыя казакі там у Швецыі не зрабілі, не дапамаглі нічым ні гетману, ні гаспадару каралю, а потым адтуль уцяклі. І тут на Русі Полацкай нарабілі шмат шкоды, захапілі места слыннае ды вялікае Віцебск, забралі мноства золата і серабра, месцічаў пачцівых пасеклі. Такой шкоды нарабілі садомскай, што ні ад злых ворагаў, ні ад злых татараў не было.

У тым жа 1601 годзе, 10 кастрычніка, цэлы дзень ішоў моцны ды густы снег, выпаў на паўгалёнкі. Была і моцная бура. Тады пшаніцу, ярыну, авёс, грэчку, гарох ды ўсю гародніну, усё, што было на палях несабранае, а таксама зжатыя копы пазамятала снегам, было балюча і

страшна глядзець і чуць уздыхі і плач людзей убогіх, аратаяў бедных.

Ляжаў той снег два тыдні, ажно да Змітравай суботы. Вялікія маразы скавалі Дняпро, і ездзілі па ім быццам сярод зімы. А потым з ласкі літасцівага Госпада Бога ад плачу і вялікага гора снег растаў і Дняпро разліўся.

А потым пачалі жаць-гараваць па снезе ў сцюжу. Былі маразы вялікія, вогнішчы раскладалі, самі грэліся, аж страшна і балюча было глядзець: два-тры чалавекі за дзень ледзьве 40 снапоў нажыналі аўса ці яравой пшаніцы, бо збожжа вельмі палегла.

Людзі ўбогія яравую пшаніцу ўвесну жалі-гаравалі, але ўжо толькі для жывёлы, і таму многія гаспадары, самыя статнікі, увесну сваё збожжа стравілі. Мак, боб, гарох, проса, рэпа — усё гэта зусім загінула. Некаторыя спрабавалі малаціць яравую пшаніцу, дык ад зерня — толькі знак быў. А як хто змеле ды спячэ, дык так у печы спячэцца, што лапатай не дастанеш; выграбалі з печы апалонікамі. І жыта таксама было вельмі неўмалотнае. А калі жытнюю муку ў печы спякуць, то цеста печанае салодкае, а за скарынку хоць лыжкі кладзі і ў печы не пячэцца. Увосень аралі і жыта сеялі. Хто пасеяў старым жытам, дык яшчэ нічога. А хто новым жытам сеяў, дык і жаць не прыйшлося. Двакроць было болей такіх людзей, хто араў, але не сеяў.

Улетку куплялі жыта — па 35 за чвэрць, яравую пшаніцу — па 40 грошаў, пшаніцу — па 40 грошаў за чвэрць, авёс — па 40, каноплі і гарох — па 20.

Гэта быў гнеў Божы. Непагадзь прайшла ад Менска да Полацка, Віцебска, Оршы, Мсціслаўля, Прапойска, Рагачова, Магілёва, Любашанаў.

Потым у Рэчыцы, у Лоеве, у Кіеве, на Валыні вельмі добры ўраджай быў. Таму потым вельмі многа ўбогіх ад голаду на Ніз з сем'ямі, з жонкамі і дзеткамі пайшлі, аж страшна было на гэта не толькі глядзець, але і цяжка пра гэта пісаць, як зверху са Шклоўскай воласці, з Друцка, Дуброўны, Кругдага, Бабра, Віцебска, з-пад Полацка, Менска і з іншых ускраінаў ішлі людзі.

У тым жа годзе зіма была злая, снягі вялікія, маразы моцныя. Адным людзям каму руку, каму нагу, каму пальцы адмарозіла, а другім — твары, нос, вушы, а некаторыя ад маразоў паўміралі.

Як пачалася вясна года 1602, дык найшоў мор на людзей: ад пяці да трыццаці ў адну яму хавалі. Хворых, галодных, спухлых было незлічона — жах браў бачыць такі гнеў Божы. У вялікіх жа местах кожнага паасобку хавалі ды яшчэ святары праводзілі. А тыя, што на Ніз пайшлі, амаль усе памерлі, мала хто застаўся. Паміралі ў местах, на вуліцах, на дарогах, у лясах, у пустэльнях, на раздарожжах, у пустых хатах, у гумнах. Бацька сына, сын бацьку, маці дзетак, дзеткі маці, мужык жонку, жонка мужыка пакінуўшы, разышліся па местах і па вёсках, адзін аднога пакідалі, нічога не ведаючы адзін пра аднаго, і амаль усе паўміралі.

Калі ж хто стаяў ля варотаў ці нават у доме чыім стоячы хлеба прасілі, ці то бацька з сынам, сын з бацькам, маці з дачкою, дачка з маці, брат з братам, сястра з сястрою, мужык з жонкаю, дык такія словы моцна, слёзна, горка казалі: «Матухна, зязюлюхна, утухна, панюшка, спадарыня, сонца, месяц, звёздухна, дай крошку хлеба!» Тут, каля варотаў, будзе стаяць з раніцы да абеду і да полудня, так просячы. Там жа пад плотам некаторыя і паміралі.

А хто прасіў варыва, дык такія словы мовіў: «Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, сонейка, дай дзіцятку лыжачку варыўца сырога!»

У тым жа годзе куплялі жыта, грэчку, гарох па 40 грошаў за чвэрць, пшаніцу і каноплі — па 50, авёс — па 38, ячмень — па 70. Вядро кіслай капусты куплялі за 3 грошы, цэбар — за 24 грошы.

У тым жа 1602 годзе з Божае ласкі вясна добра распачалася. Яшчэ да святога Юр'я жыта пасеянае пачало з зямлі паказвацца і патроху ўсходзіць. Араць пачалі на Страсным тыдні. Сёй-той яшчэ да свята пасеяў крыху маку і пшаніцы.

У тым жа годзе на Страсным тыдні ў сераду гром загрымеў вельмі грозны з дажджом і бурай немалой. І быў гэта знак нядобры і амаль злы, бо на дзесятым тыдні таго ж 1602 года ў Вялікі чацвер быў страшны мароз. Усе кветкі памарозіла. Пачатак быў грозны, а канец слёзны. Усю агародніну — капусту, буракі, цыбулю, мак, гарох, ячмень, яравую пшаніцу — мароз пабіў. Вялікае гора было глядзець на тых людзей галодных, якія толькі агароды пасеялі, а жыта не пачыналі. Увосень цэны на збожжа былі такія ж, як і ў тым годзе, што вышэй апісаны.

У тым жа годзе ўвосень пасеянае жыта вельмі ўзрунілася. З ласкі Божае восень была пагодлівая, і прыемна было глядзець, як вакол зелена. І сяўба позняя вельмі добрай была.

У тым жа 1602 годзе, вясною і летам, на людзей былі з Божага дазволу хваробы вялікія, гарачкі, паносы. Па местах ды па вёсках многа малых дзетак памерла.

У тым жа 1602 годзе за каралём Жыгімонтам Трэцім, мітрапалітам Пацеем-адшчапенцам, уладыкам полацкім Гедэонам, найсвяцейшым патрыярхам Гедэонам, 7 верасня, апоўначы з аўторка на сераду напрыканцы Раства святой Багародзіцы, слынны пан хрысціянскі, пан пабожны, Божай царквы мілавальнік, князь Багдан Саламярэцкі, Алімп у святым хрышчэнні, яго міласць стараста крычаўскі ды алучыцкі, у сваім старостве ў горадзе Крычаве спачыў у добрым сумленні і памяці. А пахавалі яго пры добрай памяці пану, бацьку Івану ў Саламярэчы ў царкве святога Пакрова. У тым жа годзе князь Іван Саламярэцкі ў Высоцку спачыў.

У годзе ад Божага нараджэння 1603. Былі казакі запарожскія з нейкім гетманам Іванам Куцковічам. З ім было казакоў 4 тысячы. Бралі на пастой з воласці Баркулабаўскай ды Шупенскай 50 копаў грошай, 500 мераў жыта, ялавых кароваў150, 50 кабаноў, 100 свіных салаў, прэснага мёду 60 пудоў, 10 пудоў масла, 500 курэй, 300 вазоў сена.

У тым жа 1603 годзе ў месце Магілёве Іван Куцка склаў з сябе казацкае гетманства, бо ў войску стала вялікае свавольства: што хто захоча, тое і робіць. У той час быў там адмысловы ганец ад яго каралеўскае міласці і паноў-рады. Напамінаў, пагражаў казакам, каб яны ні ў месце, ні па вёсках ніякага гвалту не чынілі. Таму ганцу прыносіў на руках адзін месціч сваю дачку шасцігадовую, змардаваную, згвалтаваную, ледзьве жывую, горка, жаласна і страшна было на яе глядзець. Усе людзі плакалі, маліліся стваральніку-Богу, каб ён меў ласку вымарыць навечна гэткіх свавольнікаў.

Пасля Івана Куцкі гетманам стаў Іван Касы. Казакі былі на пастоі ў Полацку, Віцебску, Оршы, Мсціслаўлі, Крычаве, Магілёве, Галоўчыне, Рэчыцы, Любечы, Чачэрску, Гомелі, Быхаве, Рагачове і па ўсіх іншых местах. А на Валыні, на Падоллі, у Кіеве на той час жаўнеры стаялі, якія прыбылі з Валахіі, і было іх 10 тысяч.

Таксама і ў Менску, і па ўсёй Літве там жаўнеры і татары, якія з шведамі выехалі, у тых местах на пастоі стаялі.

У тыя 1600, 1601, 1602 гады зямля не радзіла, быў голад, пошасць, мор, хваробы, бо летам былі тады моцныя маразы ды грады. У Магілёве чвэрць жыта куплялі па 40 грошаў, а ячмень і пшаніцу — па 50 грошаў за чвэрць, а каля Галоўчына, Полацка, Віцебска чвэрць жыта каштавала 60 грошаў, а чвэрць пшаніцы і ячменю — 70 грошаў.

Грэчкі ж і канопляў нават знаку не было — усё мароз пабіў. Тады насенне куплялі ў Кіеве ды на Валыні і то патрохі, ледзь кожны змог агарод засеяць. А на полі, на лядах, на нагноях ніхто не быў, рэдка хто пасеяў, бо яравога насення кожны меў вельмі мала.

Калі казакі запарожскія адсюль на Ніз выязджалі, дык вельмі шкодзілі па вёсках і местах: жанчын, дзяўчат і падлеткаў многа з сабой забіралі. І коней шмат з сабой пабралі. На кожнага казака прыходзілася па 8, 10, 12 коней, тры-чатыры падлеткі, дзве-тры жанчыны і дзеўкі.

У тым жа 1603 годзе народ Божы з Ніза да сваіх дамоў назад пайшоў. Безліч ішло мужчын, жанчын, дзяцей, але яшчэ больш было тых, што на Нізе памерлі.

У год 1603 вясна была вельмі сцюдзёная, марозлівая, аж да тыдня святога Фамы. У той год святы Юры прыпаў на Вялікую суботу. Аднак з ласкі Божае жыта вясною на палях зелянела, а закрасавала па свяце на сёмы тыдзень і зусім не пажоўкла. Яравыя пачалі сеяць да Вялікадня, а дасявалі на Сёмуху. Хто сеяў на трэцім тыдні, у таго ўсё пасохла, а хто яравыя пасеяў на Сёмуху, у таго яравыя ўдаліся. Ураджай на жыта быў добры, і малацілася чыста. Галодныя людзі пачалі жаць яшчэ да Іллі, а ў копы дажыналі за тыдзень да Іллі.

Той 1603 год быў вельмі сухі і спякотны. Як быў дождж на дзень Святога Духа, дык потым праліўся толькі на дзесятую пятніцу і потым на святога Іллю.

У той год выпаў снег 5 лістапада на маладзіковы месяц і зіма ўсталявалася на два тыдні да Піліпавых запустаў. А потым былі снягі, маразы, вялікія завеі ад святога Юр'я да Вадохрышча. Па Вадохрышчы святым некалькі тыдняў была вялікая непагадзь. Было так: калі выйдзе маладзік, дык пачынаюцца снег, дождж, бура, завея, мароз, галалёд, слізгота, ды так студзёна, што цяжка і пераказаць. Потым на

трэцім тыдні ў вялікі пост ноччу ў аўторак быў такі моцны дождж, што сагнаў снег, і настала вясна.

У той жа год у местах Вільні, Менску, Радашковічах, Оршы, Шклове ды яшчэ па многіх іншых замках быў вялікі паморак на Піліпаў пост, а ў тых замках, дзе паморку не было, дык там вельмі пільнавалі вуліцы і дарогі ажно да Раства Хрыстовага. Аднак Госпад Бог іх у цэласці і здароўі захаваў. А потым з Божае ласкі па ўсіх краінах хваробаў не было.

Цяпер жа з Божае ласкі на ўсё быў добры ўраджай. За меру жыта — капа грошай, за меру ярыны — капа грошай, за меру аўса — 50 грошаў, за меру грэчкі — 60 грошаў. Людзі пілі ды елі і за такую ласку і за вялікую міласць хвалілі ды шанавалі Госпада Бога. А тых, што памерлі, тых паміналі, плакалі па іх, шкадавалі, памінкі рабілі, каб Госпад Бог дараваў грахі ім.

Сталася вялікая радасць, бо мужык жонку знайшоў у далёкіх краінах, бацька — сына, маці — дзяцей, дзеці — бацьку, сябар — сябра, блізкі — блізкага свайго. А пра тых, што памерлі, людзі паведамлялі, дзе пахаваныя.

У год 1604 на святога Васіля, інакш кажучы — на Новы год, была зіма вельмі добрая, пагодлівая да вялікага посту. А потым на пятым тыдні вялікага посту снег з дажджом быў вялікі, ажно Дняпро разліўся і снег сагнала; і вясна непагодная была. Тады жыта і агуркі марозам пабіла. На той час у гаспадарцы мала хто мог агуркамі пахваліцца, хаця іх і добра даглядалі. Ягадаў, яблыкаў ды іншае садавіны мала засталося з-за вялікіх дажджоў, маразоў і граду, толькі грыбы, ababкі летам так багата ўрадзілі, што кожны чалавек па два разы на дзень па грыбы хадзіў. З-за вялікіх дажджоў каля вялікіх рэкаў травы на сена зусім не касілі. Веснавая вада стаяла тыдзень па святым Пятры. А калі веснавая пачала спадаць, дык тры дні спадала. Потым прыйшла вялікая дажджавая вада. Расказвалі, што сярод лета ў Маскве быў вялікі мароз са снегам і колькі тыдняў на санях летам ездзілі.

У нас па нізкіх месцах у агародах капусту, цыбулю, ярыну цалкам затапіла. І стаяла вада амаль да святога Іллі. Зіма была вельмі сухая. Людзям купецкім гэта вельмі пашкодзіла, бо снегу было мала. Жыта, грэчка, пшаніца, авёс, ячмень і гарох былі ў той самай цане, што і ў 1603 годзе, бо ў той год

варыва было мала, толькі грыбы падбярозавікі ды апенькі елі, а вяленай рыбы было мала з-за вялікіх паводкаў. Людзі ж з Божае ласкі хварэлі мала.

У год 1605 вясна з Божае ласкі была добрая. Снег за адзін раз сагнала. Жыта, што сеялі на зіму, як увосень зелянела, так і вясною было зялёнае, з тою зелянінаю і зацвіло. Аднак жыту вельмі пашкодзіла сухмень: было мала дажджу. Як жыту зашкодзіла сухмень, так ярыне зашкодзіў мароз — узыходзіла двойчы. На грэчку ўраджай быў багаты, добры плён мелі людзі.

У тым жа годзе жыта куплялі за чвэрць па 8 грошаў, авёс за чвэрць па 4 грошы, пшаніцы за чвэрць па 18 грошаў, каноплі за чвэрць па 6 грошаў, маку не было ані трохі, не было і цыбулі. На часнок і на той быў вельмі малы ўраджай.

У тым жа 1605 годзе ў Баркулабаве за Лахвою нарэзана было поле на валокі ўраднікам панам Фёдарам Пляцінскім.

У тым жа 1605 годзе знайшоўся нейкі царэвіч Дзімітры Іванавіч на Украіне, пры двары князёў Вішнявецкіх. Будучы пры двары іх міласці паноў радных, сабраў ён войска немалое з люду ніжняга і казакоў запарожскіх, таксама люду рускага мноства, ён тады з тымі людзьмі рушыў і ўзяў маскоўскі горад Старадуб. Лісты разаслаў па ўсёй Маскве, у якіх паведамляў, што ён той маскоўскі цар Дзімітры Іванавіч, якога Гадуноў яшчэ дзіцём хацеў знішчыць, пра што страшна казаць. Дзіця знішчылі і прынеслі да Гадунова, але не Дзімітрыя Іванавіча, а іншае дзіцятка замест яго, а ён сам дзівосна быў схаваны і вывезены на Ніжнюю Украіну. Пра таго Дзімітрыя Іванавіча, пра яго жыццё і побыт, пра ягоныя звычкі ды ўчынкі незвычайныя цяжка было пісаць, тым больш што гісторыя ягоная выкладзена ў іншых летапісах.

Неўзабаве гэты Дзімітры Іванавіч з людзьмі, узяўшы Старадуб і Маскву, там, у Маскве, усталяваўся, а Гадунова з царавання яго маскоўскага прагнаў, і ніхто не ведае, куды той Гадуноў падзеўся. Як толькі Дзімітрыя Іванавіча Масква пазнала па колішніх знаках царавых, дык ён быў каранаваны царом на Маскве, на месцы бацькі свайго Івана, цара маскоўскага. Маскоўцы хоць і каранавалі яго, але поўнай згоды між сабою не мелі. Адна частка маскоўцаў прымала яго як цара, а другая не прымала. Тут жа між імі была

моцная і вялікая нязгода і сварка, і аб ім яны нешта вельмі дзіўна раіліся, хітра, мудра, патаемна, моўчкі раіліся, пра што, далей пачуеце.

У год ад Божага нараджэння 1606. Той год з ласкі Божае быў здаровы, на ўсё больш добры, чым папярэдні мокры. Жыта, яравыя кепскія былі, аднак цэны былі такія ж, як у 1605 годзе. Паводкі дажджавыя былі часта. Для статка сена не хапала. З ласкі Божае людзі не хварэлі.

У тым жа 1606 годзе Дзімітры Іванавіч, будучы каранаваным на Маскве, не параіўшыся, нават не спытаўшы сыноў баярскіх, свавольна і самадумна паслаў паслоў і заручыў за сябе паненку шляхетную ў пана Мнішака, ваяводы сандамірскага з Польшчы. Гэтыя ж паслы, заручыўшы паненку, прывезлі ў Маскву яе і самога пана ваяводу сандамірскага, а з ім таксама шмат добрых і знакамітых паноў, паняў ды паненак слаўных, шляхетных. У тым жа 1606 годзе было ў Маскве вяселле, і на тым вяселлі было шмат ліцвінаў, русі, палякаў, валынцаў; казалі, недзе да сямі тысяч выбраных у золаце, срэбры, у перлах, у дарагіх камянях было, а таго і розум чалавечы выказаць не можа.

Пасля вяселля, за колькі дзён альбо тыдняў, усе маскоўцы, сабраўшыся ды змовіўшыся паміж сабою, ноччу нечакана моцна ўдарылі на палац самога цара Дзімітрыя Іванавіча і на ўсю ягоную світу, на літву, русь, палякаў і на пана сандамірскага. У той час пабілі маскоўцы шмат каго з царскае світы Дзімітрыя Іванавіча — народу знакамітага, службовага, рыцарскага, паноў знаных, шляхетных, а таксама шаноўных паняў ды паненак. Рабілі вялікі гвалт і абразу, што надумалі злое, тое і чынілі. Жаласна і страшна было чуць пра такое нешчаслівае здарэнне з тымі людзьмі шаноўнымі. А пра самога цара Дзімітрыя невядома, дзе ён падзеўся. Адныя распавядалі — забіты, другія казалі — жывы ўцёк. Пра гэта тады ніхто пэўна не ведаў. Самога ж пана сандамірскага не забілі, а з дачкою пасадзілі ў вязніцу. А каго з паноў тады не пабілі, тых мноства з люду службовага, як бедных, так і багатых, парабаваўшы, лепшую вопратку ды зброю ў іх пазабіраўшы, голых і босых выгналі за мяжу.

А сталася гэта ім за вялікія прыкрасці літоўскія і насмешкі польскія, бо збудаваў цар Дзімітры на жаданне жонкі сваёй у Маскве касцёл польскі і манахі служылі Божую служ-

бу, а з рускіх цэркваў вельмі насміхаліся, здзекаваліся з папоў маскоўскіх і насміхаліся над імі. Маскоўцы з-за гэтага вельмі абразіліся і чуліся моцна зняважанымі, не жадаючы ў царстве сваім веры ляшскае, бо яе ў іх адвеку не бывала, і не хацелі яны мець яе ў царстве сваім. Таму маскоўцы іх пабілі і памардавалі ды з царства свайго Маскоўскага прэч выгналі, а сабе на царства памазалі Шуйскага.

Потым таго ж 1606 года гаспадар, кароль польскі Жыгімонт Трэці, паслаў ганца свайго, пана Яна Гансеўскага, у Маскву, а яго там, у Маскве, у вязніцу пасадзілі, і сядзеў той ганец шмат.

У тым жа 1606 годзе, 5 чэрвеня пачаўся быў нейкі рокаш. На той рокаш сабраліся паны рускія, прускія, жамойцкія, мазавецкія, падляшскія, валынцы, ліцвіны, палякі, ці не ад усіх земляў і паветаў паны вяльможныя, паны знакамітыя ад усялякіх веравызнанняў, ад розных моваў. Стаяў той рокаш у Сандаміры месяцаў з шэсць. Загубіўшы, выпаліўшы, спустошыўшы той край ад Пакрыўніцы на дзве мілі навокал, увосень на святыя Пакровы, не зрабіўшы нічога добрага, раз'ехаліся яны прэч.

Той год 1606 з ласкі Божае добры быў, толькі на ліхаманку шмат хварэлі. А на збожжа цэны былі такія: мера жыта — 24 грошы, мера аўса — 14 грошаў, мера грэчкі — 20 грошаў, мера ячменю — 20 грошаў.

Той год быў вельмі багаты на дзівосы. Вада ў рацэ летам стаяла так высока, як звычайна ўвесну. І не толькі ўлетку, але і да запустаў Піліпавых: раз упадзе, потым прыбудзе ды з берагоў выходзіла, таму і сена мала накасілі.

У год 1607 з Божае ласкі людзі хварэлі мала і ўраджай на збожжа сярэдні быў, таму і цэны на збожжа сярэднія былі: чвэрць жыта — 8 грошаў, чвэрць пшаніцы — 6 грошаў, чвэрць аўса — 5 грошаў, чвэрць грэчкі — 4 грошы.

Як у тым годзе 1607 была вялікая нязгода і замяшанне між каралём і панамі, між панамі ды каралём, з ракашанамі; быў вялікі бунт, забойствы, праліццё крыві ад гаспадара караля на дамы спасланае, і была шляхце ўчынена вялікая шкода. Вельмі страшна было аб тым чуць і яшчэ страшней гэта бачыць. Былі выдалі для веры грэцкай прывілей, а потым пад час нязгоды і незвычайных падзеяў скасавалі. Аднак на гэтым не спыніліся, пакуль не ўчынілі вялікіх забойстваў, праліцця крыві, рабункаў сярод рака-

шанаў. І нічога не пастанавілі, як і ў рокашы 1606 года, пра што пісалася вышэй.

У тым жа 1607 годзе былі на хрысціян няміласцівыя лупы ды падаткі на ўтрыманне жаўнераў. Па местах ды па вёсках жаўнеры берасцейскія ды гарадзенскія па каралеўскай воласці капшчызну бралі, а на панскіх ды княскіх землях грошы за пастой ад падданых выцягвалі. Апрача таго, асабліва жаўнеры Лісоўскага, жаўнеры Гродзенскага на падданых каралеўскіх і княскіх, панскіх, шляхецкіх наклалі за пастой вялікую і бязлітасную даніну, або стацыю, і бралі яе па воласцях як збожжам, так і грашыма.

У тым жа 1607 годзе месяца траўня пасля Сёмухі ішоў ад Шклова і ад Магілёва да Паповай Гары нейкі Дзімітры Іванавіч. Мроіў быць тым царом маскоўскім, які раней Маскву ўзяў і там ажаніўся. Той Дзімітры Нагі раней быў у шклоўскага папа, дзяцей вучыў, школу трымаў. Потым пайшоў у Магілёў і таксама ў папа мікольскага Фёдара Сасіновіча ў сяле дзяцей вучыў. Гэты Дзімітры Нагі ў Магілёве меў гасподу ў Цярэшкі, які загадваў вырабам прасвіраў пры царкве святога Міколы. І хадзіў ён да таго Цярэшкі нямала часу, кожнаму прыслугоўваючы. Быў ён адзеты вельмі кепска: кажух стары, шлык барані. І летам у тым хадзіў. А калі былі пачалі пазнаваць гэтага Дзімітрыя Нагога, дык ён тым часам з Магілёва пайшоў на сёлы Аніскловічы ды Сідаровічы і дайшоў ажно да Прапойска. Там жа, у Прапойску, яго злавілі і пасадзілі ў вязніцу. А потым пан Рагоза,ураднік чачэрскі, з ведама пана свайго, яго міласці Зяновіча, старасты чачэрскага, таго Дзімітрыя Нагога на Папову Гару, за мяжу маскоўскую адпусціў, праводзіўшы са сваімі слугамі.

А калі той прыехаў у Маскоўшчыну, іначай кажучы, да Паповае Гары, дык там яго маскоўцы па адзнаках царскіх і па напісаных лістах, што, яшчэ з Масквы ўцякаючы, ён падаваў па замках, па ўсіх тых прыкметах пазналі, што ён сапраўдны той цар усходні Дзімітры Іванавіч, сонейка праўдзівае. Тут жа пачалі радавацца, апранулі яго ў шаты, ва ўборы каштоўныя. Потым прыбеглі да яго семсот вершнікаў. Ён тут жа пачаў лісты пісаць у Магілёў, Оршу, Мсціслаў, Крычаў, Менск, ва ўсе ўскраінныя замкі, каб людзі рыцарскія, ахвотнікі да гэтага Дзімітрыя Нагога прыбывалі ды грошы ад яго бралі. І адразу ад Паповае

Гары Дзімітры Нагі, непраўдзівы цар маскоўскі, маскоўскі замак Старадуб заняў. Тут жа пачаў сцякацца да яго люд гуляшчы, люд свавольны, нават нейкі найміт з Мсціслаўля да яго прыйшоў.

У той жа час у Маскве сеў царом Андрэй Шуйскі. Тады Дзімітры, сабраўшы войска, учыніў вайну з Масквою ды з князем Шуйскім, бо адныя маскоўцы вызнавалі яго царом, і сама Масква, і ўсе вялікія баяры маскоўскія. Другія ж шматлікія маскоўцы, якія ведалі яго раней як цара маскоўскага, называлі яго маскоўскім злодзеем, трэція называлі ашуканцам. Маскоўцы пра гэтага Дзімітрыя Нагога так і пісалі — цар-злодзей, Грышка Атрэпіч, расстрыга.

Потым з'явіўся на Маскве яшчэ адзін цар, якога звалі Нядзведак. Той Нядзведак з мноствам людзей здаўся цару Андрэю Шуйскаму.

Цяпер жа пачалі войскі да цара Дзімітрыя сыходзіцца, войскі вялікія і моцныя. Адсюль з Літвы Руцкі з ротай, Лісоўскі, Велямоўскі, Сапега ды шмат іншых. І з Нізу прыйшлі вялікія роты: князя Вішнявецкага, князя Ружынскага. Туды ж прыйшло мноства валынскіх і падольскіх знакамітых паноў з ротамі. А з Польшчы быў пан Стадніцкі з вялікімі ротамі.

А што ў Маскоўшчыне рабілася, дык адзін Бог ведае: месты, замкі малыя плюндравалі, пад сталіцаю прастаялі цэлае лета, і хоць было многа штурмаў, але сталіцы не здабылі.

Туды ж, у Маскву, ішло шмат купцоў, якія рабілі пажары і тым чынілі гораду вялікую шкоду. І тыя купцы былі жаўнерамі. І тыя жаўнеры і ўсе купцы, якія ў Маскве былі, незвычайна і вельмі дзіўна распавядалі пра цара Дзімітра: як ён дзіўна справуе ў войску: начамі не спіць, і, апрануўшы якую кепскую вопратку...

У год 1608. Улетку вялікія і моцныя войскі ішлі на Маскву да цара Дзімітрыя. І нам учынілі вялікую шкоду ў статках, і найбольш у конскіх. Ішлі тыя жаўнеры, пра імёны якіх напісана за 1607 год. У тым жа 1608 годзе ўгнявіўся Божа — шмат сабак валачашчых ашалела, шмат тыя сабакі пакусалі людзей ды коней, і многія праз тое памерлі.

У тым жа 1608 годзе патрыярх кір усяленскі Рафаіл спачыў. І ў тым жа годзе на месца яго быў пасвечаны ўсяленскім патрыярхам кір Неафат.

У тым жа 1608 годзе лета было мокрае, паводкі былі частыя. Мала хто каля вялікіх рэкаў сена касіў, бо вялікія паводкі аж да восені трывалі.

У тым жа 1608 годзе ад адзёру шмат дзетак малых паўмірала.

У годзе 1633 кароль Уладзіслаў ішоў на Смаленск. Шэйн у той час з вялікім войскам быў пад Смаленскам і каралю Уладзіславу пакланіўся, і гарматы яго, што Смаленск здабываў, каралю Уладзіславу дасталіся, а менавіта:

1. «Адзінарог» — тры сажні з гакам;
2. «Гранат» — чатыры сажні;
3. «Гладкі» — тры сажні;
4. «Крэчат» — тры сажні;
5. «Воўк» — тры сажні;
6. «Цар-гармата» — тры сажні з гакам;
7. «Каваль» — тры сажні;
8. «Юры» — тры сажні;
9. «Пасынак» — дзве сажні з гакам.

Пры гэтым іншых меншых гармат вывезлі са Смаленска ўсіх лікам...*

* На гэтым Баркулабаўская хроніка абрываецца.



Гісторыі горада Віцебска, што дзеяліся на свеце ў даўнейшыя часы, выпісаны тут слова ў слова з кніжкі, пісанай рукою ягамосці пана Міхала Панцырнага, мешчаніна віцебскага, Стафанам Гаўрылавічам Аверкам, мешчанінам віцебскім, у годзе 1768, месяца чэрвеня, 13 дня.

## ПАЧЫНАЕЦЦА НАПІСАНАЕ Ў КНІЖЦЫ ПАНЦЫРНАГА ТАК:

У год 974. Вольга, пабіўшы яцвягаў і печанегаў, пераправілася з воямі праз раку Дзвіну і заначавала, а ўпадабаўшы гару, заклала драўляны замак, які назвала ад ракі Віцьбы Віцебскам. У Верхнім замку змуравала царкву святога Міхала, а ў Ніжнім — Звеставання. Два гады тут пражыўшы, ад'ехала да Кіева.

У год 965. У Гнезне прыняў хрышчэнне польскі князь, названы ў хрышчэнні Мечыславам, і Польшча веру прыняла.

У год 980. Венгерскі князь Гейса, сын Токаў, бацька святога Стафана, прыняў хрышчэнне, а з ім і ўся Венгерская зямля.

У год 956. У Канстанцінопалі прыняла хрышчэнне Вольга; у святым хрышчэнні названа Аленай.

У год 990. У Корсуні з вады прыняў хрышчэнне Уладзімір, а на другі год і Кіеў ахрышчаны быў. Гэты Уладзімір заклаў Полацкае архіепіскапства. Быў унукам княгіні Вольгі, названай у святым хрышчэнні Аленай. З блаславення папы Андрыяна Мяфодзій і Кірыла патлумачылі грэцкія кнігі на мову славенскую, і першая Божая служба ў мове славенскай была адпраўлена ў Рыме года Божага 895.

## З РУСКІХ ХРОНІК

У год 896. Ад стварэння свету па-рускаму лічыцца ў год 6400, грэцкія кнігі патлумачылі на мову славенскую.

У год 1114. Уладзімір, унук Вольгі, віцебскай княгіні, памёр у Кіеве.

У год 1162. Волхаў, вялікая рака, што была ў Расійскай дзяржаве, праз пяць дзён ішла ўверх.

У год 1695. Галіцын хадзіў на Крым.

У год 1697. Хадзіў Галіцын[1] на Крым другі раз. Там далі яму татары водкуп: замест залатых дукатаў некалькі бочак медзякоў.

## ПЕРАПІСАНА З ІНШЫХ ХРОНІК

У год 1171. У Полацку князёўна Еўфрасіння змуравала царкву Святога Спаса і была тут манашкай. Яе цела перавезена ў Кіеў.

У год 1179. Баляслаў, польскі кароль, забіў у касцёле святога Станіслава кракаўскага біскупа.

У год 1199. Ерусалім здабыты і забраны ад князя Готфрыда, каталіка, які, забраўшы яго ад турка, быў у ім каралём. А перад гэтым гадоў праз пяцьсот трымалі горад Ерусалім сарацыны[2].

У год 1189. Ізноў забралі туркі ад каталікаў Ерусалім.

У год 1213. Пры Фрэдэрыку Барбаросе, імператару рымскім, закон святога Дамініка і святога Францішка заснаваны, а папай Ганорыем пацверджаны.

У год 1211. Была на небе вялікая камета. Трывала дзён васемнаццаць, мела хвост, скіраваны на захад сонца. Знакавала першае прышэсце татараў да Польшчы і Русі, якіх перад гэтаю каметаю не бывала.

У год 1323. Гедымін-князь пачаў будавацца, заклаў горад Вільню, а гэта было такім чынам. Гэты Гедымін, будучы ў ловах у тым месцы, дзе стаіць Вільня, забіў вялікай постаці страшнага зубра і пасля сваіх ловаў заначаваў у пушчы на Лысай гары. А праз сон убачыў, што быццам бы вельмі вялікі воўк, стаўшы на самай гары, пачаў выць, а ў ім убачыў і сто іншых ваўкоў, якія таксама вылі. Маючы ад гэтага вялікае здзіўленне, прачнуўшыся, загадаў ён паклікаць для тлумачэння сну вешчуна па імені Лездэйка, якому, калі стаў перад Гедымінам-

князем, князь сон распавядаў і загадаў вытлумачыць. Ён такім чынам пачаў тлумачыць, што на тым месцы, дзе бачыў у сне вялікага ваўка, маецца стаць вялікі горад, а выццё ваўкоў значыць тых мяшчан, што будуць жыць у горадзе, і гэты горад слаўным будзе і стане сталіцай Літвы, а слава яго і голас пашырацца па ўсім свеце. Быў з гэтага вельмі князь задаволены, вешчуна ўзнагародзіў і надаў яму ганаровыя званні і багацці, а за тое, што парадзіў Вільню заснаваць, назваў яго Радзівілам.

У год 1307. Папскі пасад перанесены з Рыма ў французскі горад Авіньён папам Кліментам Пятым.

У год 1376. Папскі пасад з французскага горада Авіньёна перанесены назад у Рым папам Грыгорам Адзінаццатым.

У год 1387. Літоўскі князь Ягайла, пахрышчаны, узяў за сябе польскую каралеву і злучыў Літву з Польшчай.

У год 1452. Месяца верасня забраў турак ад грэцкага імператара Канстанцінопаль.

У год 1439. Ісідар, мітрапаліт кіеўскі, ездзіў на сабор у Фларэнцыю, там яго святы айцец ушанаваў тытулам кардынала, толькі, калі вярнуўся з Фларэнцыі ў Кіеў, неўзлюбіў гэтага маскоўскі князь і загадаў пасадзіць яго ў Смаленску ў вязніцу, ад чаго ратуючыся, уцёк у Польшчу.

У год 1453. У Вільні памёр святы Казімер, польскі каралевіч, сын польскага караля Казімера Вялікага.

У год 1453. Памёр бернардзін Сымон Дзеліпніка.

У год 1332. Літоўскі князь Альгерд узяў за сябе дачку цверскага князя Марыну, альбо Улляну. Дадзена яму ад цверскага князя ў пасаг Віцебск; нажыў з ёю дванаццаць сыноў. Гэтая Улляна змуравала ў год 1345 царкву Святога Духа.

Цэвіўку, віцебскага старасту, і Герасіма-ўладыку спалілі за здраду на жыдоўскім камені ў год 1415.

Загадаў Альгерд павесіць пяць вялебных манахаў, якія зараз усе ў праваслаўных святцах.

У год 1495. Эмануіл, партугальскі кароль, паслаў морам на ўсход сонца, да Індыі, двух дасведчаных у зорнай навуцы, Крыштафа Калумба (так у тэксце. — *В. Т.*). Дзякуючы іх розуму ўпершыню была знойдзена дарога ў падземныя краіны.

У год 1510. Цар Іван Васільевіч мураваў Смаленск гадоў сем. Гэты цар Іван Васільевіч заваяваў і выбіў Ноўгарад.

У год 1523. Марцін Лютар, уцёкшы да саксонскага князя і курфюрста Яна, узняў новую веру.

У год 1543. Венгры паддаліся туркам і аддалі замкі: Будзін, Пешт, Белгарад, Валп, Вышгарад і іншыя.

У год 1562. Быў у нашым краі Шухалей, казак, валюнтарыст. Гэты многа ліхога нарабіў у Польшчы і Белай Русі.

У год 1563. Цар ягамосць Іван Васільевіч узяў Полацк.

У год 1577. Стафан Баторы, сяміградскі князь і ваявода, абраны на Польскае каралеўства.

У год 1601. Быў з-за маразоў вялікі голад.

У год 1602. Казакі з атаманам Дубінам за здраду віцебскіх мяшчан Віцебск выбілі.

У год 1603. У Віцебску і па іншых гарадах лютаваў паморак.

У год 1604. Акаваных Дубіну, атамана, і дванаццаць старшых прывялі да караля, а потым на Заручаўскіх Валатоўках трох з іх пасадзілі на палю жыўцом.

У год 1605. Віцебскі мешчанін Марка Ілініч Лытка, маючы з сабою пяцьсот чалавек мяшчан, хадзіў здабываць Феліч. Іх завёўшы, Фелін (так у тэксце. — *В. Т.*) здабыў.

У год 1606. Віцебскаму мешчаніну Марку Лытку дадзены прывілей на шляхецтва і права называцца Фялінскім, а на Банцы, Сокальскім прадмесці, даў яму кароль ягамосць пяцьсот грыўняў падаравання штогодна і на пяцьдзесят гадоў.

У год 1606. Быў рокаш і вялікая сумятня.

У год 1606. Цар ягамосць Дзімітры ўзяў за сябе панну Мнішкаву з Сандаміра, і калі нашы палякі прыбылі з ёю ў Маскву, тады ў гэтую ж ноч цар ягамосць Дзімітры быў забіты, а нашых палякаў з Мнішкавай ганебна выгналі.

У год 1609. Кароль Жыгімонт Трэці падступіў да Смаленска.

У год 1610. Кароль Жыгімонт, мінамі і порахам падарваўшы Смаленск, яго ўзяў і здабыў.

У год 1611. Палякі заваявалі Маскоўскую сталіцу.

У год 1614. Скапін (Скапін-Шуйскі. — *В. Т.*), прыйшоўшы да Маскоўскай сталіцы, выгнаў з яе палякаў.

У год 1614. Калі ўязджаў ваявода Ракаўскі, тады ў Віцебску згарэлі абодва замкі.

У год 1614. У Глазовічах мелі віцябляне сутычку з маскоўцамі, маскоўцы віцяблян пабілі.

У год 1619. Кароль Жыгімонт заключыў з маскоўскім царом мірны дагавор.

У год 1620. Кароль Жыгімонт пачаў ваяваць з туркам, а на другі год заключыў дагавор.

У год 1620. Блаславёны Язафат[3], адабраўшы ў Полацку царкву Святой Сафіі, загадаў яе паправіць і аздобіць нанова.

У год 1623. Месяца лістапада, другога дня, паводле старога календара, на другі дзень рускага свята Кузьмы і Дзям'яна, у Віцебску мяшчане замардавалі і забілі блаславёнага Язафата.

У год 1629. Напярэдадні свята Ахвяравання Найсвяцейшай Панны, свята рускага, згарэла Саборная царква, у якой згінула незлічоная колькасць сабранага скарбу: золата, серабра, жэмчугу і другіх каштоўнасцяў.

У год 1632. У Варшаве памёр ягамосць польскі кароль Жыгімонт Трэці.

У год 1633. Месяца ліпеня, дзевятага дня маскоўцы напалі на горад Полацк і ўвесь выпалілі.

У год 1635. Кароль Уладзіслаў адагнаў ад Смаленска Шэіна і Прозара (Празароўскага. — *В. Т.*).

У год 1635. У Кашэвічах віцябляне на чале з Клачкоўскім разбілі чатыры тысячы маскоўцаў, за гэта вернуты ім усе вольнасці і магдэбургія, бо за забойства блаславёнага Язафата гэта ўсё, вольнасці і магдэбургія, было ад іх забрана.

У год 1636. Па памерлым мітрапаліце Восіпе Рудніцкім стаў мітрапалітам усёй Русі Сялява, які, прыехаўшы на Віцебскае епіскапства, паздымаў з віцебскіх цэркваў званы і загадаў адліць з іх звон для Саборнай царквы, а Саборную царкву, паводле дэкрэтаў камісараў, збудаваў горад.

У год 1643. Горад Полацк выгараў увесь дашчэнту і да аднаго дома.

У год 1648. У Мерачы, у месяцы маі, памёр ягамосць польскі кароль Уладзіслаў Чацвёрты.

У год 1654. Цар Аляксей Міхайлавіч пачаў ваяваць з польскім каралём Янам Казімерам і ўсе гарады ў Літве і Белай Русі напоўніў сваім войскам, салдатамі.

У год 1657. Цар Аляксей Міхайлавіч пайшоў пад Рыгу.

У год 1661. Паправілі і аздобілі царкву Святога Духа.

У год 1665. Пад Віцебскам, на другі дзень рускіх запустаў, разбіў гетман войска Івана Хаванскага.

У год 1667. Стаў з Масквою мір, і на рускае свята Еўдакіі аддадзены былі Полацк, Віцебск, Дзісна, Дынабург, Орша і Мсціслаў.

У год 1668. Польскі кароль Ян Казімер пакінуў Польскае каралеўства, па ім, у год 1669, абраны Міхал Карыбут Вішнявецкі.

У год 1669. Мая 13 дня кароль Міхал Вішнявецкі каранаваны на Польскае каралеўства.

У год 1669. У Віцебскай кафедральнай царкве створана брацтва пад назваю Успення Найсвяцейшай Панны.

У год 1674. Месяца сакавіка, дваццатага дня кароль ягамосць Ян Сабескі каранаваны на Польскае каралеўства.

У год 1680. Месяца верасня, 16 дня выгараў Віцебск, сам горад, чатыры царквы, ратуша і крамы.

У год 1677. Цар Аляксей Міхайлавіч аддаў нашым паслам, князю Чартарыйскаму і гетману Сапегу, Веліж, Невель і Себеж; на польскае свята святога Міхала з гэтых замкаў адступілі.

У год 1682. Месяца студзеня, 11 дня было ўступленне ксяндзоў базыліянаў у кафедральны віцебскі кляштар.

У год 1684. Ягамосць віцебскі падкаморнік Адам Кісель за свой кошт пераплавіў сялявінскі звон, які быў адліты з трох брацкіх званоў.

У год 1686. Была ў Віцебску ў Дзвіне вельмі вялікая вада, многа шкоды нарабіла віцяблянам, дамоў сто заліла і знясла.

У год 1685. Месяца лістапада, 12 дня Леанард Пацей уехаў на Віцебскае ваяводства.

У год 1689. Збудавана царква Святой Тройцы Маркаўскай.

У год 1690. Месяца снежня, 24 дня памёр бурмістр Давід Фялінскі-Лытка.

У год 1693. На свята Сымона Юды ў Супраслі памёр ксёндз Цыпрыян Жахоўскі, мітрапаліт, віцебскі біскуп.

У год 1694. Калачынскі, старшы віцебскі саборны, уцёк у Кіеў.

У год 1694. Месяца жніўня, 3 дня наўкола Віцебска быў вялікі град, пабіў у полі ўсё збожжа.

У год 1695. Цар ягамосць Пётр Аляксеевіч хадзіў з войскам пад Азоў, многа людзей страціўшы, назад вяртаўся праз Віцебск.

У год 1695. Памёр ваявода Леанард Пацей.

У год 1695. Былі моцныя маразы, а ў год 1696 вялікая дарагавізна на збожжа, бочка жыта каштавала ў Віцебску па два талеры бітыя.

У год 1695. Андрэй Крышпін уехаў на Віцебскае ваяводства.

У год 1695. Месяца мая, 26 дня па старым календары, выпаў па калена снег і ляжаў тры дні.

У год 1696. Як пачаўся новы год, не было саннай дарогі. Дзвіна не замярзала цэлы год, не было ніякіх тавараў, бо ў мінулым, 1695 годзе мароз пабіў усё збожжа.

У год 1696. На свята Звеставання прыехаў у Віцебск мітрапаліт Даленскі.

У год 1696. Месяца чэрвеня, 17 дня памёр ягамосць польскі кароль Ян Трэці.

У год 1696. Цар ягамосць Пётр Аляксеевіч, пайшоўшы пад Азоў, насыпаў на паўтары мілі вал і месяца ліпеня, 17 дня па старым календары, узяў Азоў, а ўвесь люд у горадзе загадаў пасекчы.

У год 1697. Месяца ліпеня, дня пятнаццатага спаліў пярун ноччу Вялікі замак.

У год 1697. Месяца жніўня, 20 дня была ў Смаленску вялікая бура. На вале сарвала з кранштэйнаў дах, з царквы купал з крыжамі і званіцы са званамі паабрывала.

У год 1697. Кароль ягамосць Аўгуст Другі каранаваны ў Кракаве месяца верасня, пятнаццатага дня; месяца лістапада, першага дня было ў Віцебску ўшанаванне.

У год 1698. Месяца жніўня, 15 дня ў Віцебску ў царкве Звеставання згарэлі дах і званіца і 35 дамоў у Ніжнім замку.

У год 1698. У Віцебску была вялікая бура, з дамоў пазносіла дахі, з Заручаўскай царквы сарвала купал.

У год 1698. Андрэй Крышпін уехаў на Віцебскае ваяводства месяца сакавіка, 20 дня; назаўтра быў у ратушы.

У год 1697. Цар ягамосць Пётр Аляксеевіч ездзіў па розных нацыях, вярнуўся ў Смаленск месяца жніўня, 19 дня.

У год 1699. На Звеставанне памёр мітрапаліт Сымон Даленскі.

У год 1699. Заняў мітраполію Сільвестр Лада Пашкевіч.

У год 1699. Цар ягамосць Пётр Аляксеевіч у сваіх гарадах і мястэчках пасадзіў бурмістраў і загадаў, каб усе ўбіраліся панямецку і год ад Нараджэння Божага, а не ад стварэння свету ў сваіх справах пісалі і ставілі.

У год 1699. Кароль ягамосць Аўгуст Другі адабраў ад турка Камянец-Падольскі.

У год 1700. Горад Віцебск і мяшчане разбіраліся з віцебскімі жыдамі. Ваявода яго вяльможнасць пан Крышпін хацеў быў двух жыдоў, Іцку і Меера, павесіць, а ўсіх жыдоў, аж да апошняга, у горадзе Віцебску і на прадмесцях загадаў мяшчанам пасекчы, але мяшчане на такое не адважыліся, бо былі жыды вінаватыя ваявадзянам вялікія грошы.

У год 1700. Месяца ліпеня, 15 дня горад Дзісна выгараў дашчэнту, аж да апошняга дома.

У год 1700. Месяца р-бра (так у тэксце. — *В. Т.*) віцебская шляхта выйшла на паспалітае рушэнне да Чарэі.

У год 1700. Месяца ліпеня кароль ягамосць Аўгуст Другі разбіў у полі шведа і ўзяў Куканаўс[4].

У год 1700. Ішоў праз Віцебск Дзвіною-ракою дваццаццю стругамі з войскам у 17 000 люду палкоўнік, а на Оршу ішоў з войскам другі палкоўнік; віцябляне, паклаўшы стосаў з дзесяць хлеба, цэхамі сустракалі іх у полі і гэты хлеб аддалі.

У год 1700. Каля Ашмянаў сын гетмана Сапегі разграміў у полі войскі Рэчы Паспалітай.

У год 1700. Увосень была ў Дзвіне вада ў два разы большая, чым увесну, многа шкоды мяшчанскім дамам нарабіла і нашкодзіла.

У год 1700. У Вільні гетман Сапега пастраляў княжат Вішнявецкіх.

У год 1700. Месяца лістапада, 18 дня ў Алкініках гетманскае сапежынскае войска было разбіта войскамі Рэчы Паспалітай. Там жа пасля бітвы схопленага сапежынскага сына, канюшага Войну і іншых пасеклі.

У год 1700. Казакі пад Рыгай разбілі шведа.

У год 1700. Рэпнін з 8 тысячамі ад цара ягамосці прыйшоў ад Пскова пад Рыгу на дапамогу каралю ягамосцю.

У год 1700. Пад Дэрптам са здрады немца Адама Адамовіча разбілі шведы войска цара ягамосці.

У год 1701. Месяца лютага, 17 дня каралеўскі палкоўнік і з ім 2000 рэйтараў прыбылі ў Віцебск на сустрэчу цара ягамосці.

У год 1701. Месяца лютага, 19 дня цар ягамосць Пётр Аляксеевіч не вельмі вялікай світай, але стройна ўехаў у Віцебск і стаў у бурмістра Зататая. Амаль усім людзям даўся бачыцца. На трэці дзень ад'ехаў з Віцебска да Біржаў.

У год 1701. Камісар караля ягамосці, дваранін Жыгімонта прыехаў у Віцебск на выбіранне даўгоў, якія віцебскія мяшчане былі вінаватыя Рызе.

У год 1701. У маі гэты ж камісар Рыбінскі прыехаў у Віцебск другі раз, а з ім і 1000 саксонскіх рэйтараў. Стаяў па мяшчанах у Віцебску дзён 14; вялікая была ад іх гораду шкода, жывадзёрства і свавольства. Многа даўгоў выбраў па віцебскіх купцах, што былі вінаватыя Рызе, гатовымі грашыма шэсцьдзесят чатыры тысячы талераў бітых. 40 стругаў наладаваў адною пянькою, 15 каноплямі і стругамі па Дзвіне-рацэ ад'ехаў. Многа ўзяў у віцебскіх купцоў рыжскіх даўгоў гатовымі грашыма, пянькою і каноплямі; тое і другое рахуючы, тале-

раў больш чым на сто тысяч. За гэта ўсяму Віцебску надаў кароль прывілеі, вызваліў яго ад усіх падаткаў, малых і вялікіх. Даў свабоду гадоў на сем, каб нічога не плаціў у скарб яго каралеўскай міласці.

У год 1701. Месяца мая камянецкі палкоўнік праводзіў на пяці стругах 444 бочкі пораху і каля тысячы чалавек царскай пяхоты.

У год 1701. Месяца ліпеня, 8 дня войска Рэчы Паспалітай з іх вяльможнасцямі панамі Пацеямі пабіла пад Дуброўнам 18 тысяч семсот сялян, якія былі сабраліся супраць іх.

У год 1701. Месяца красавіка, на рускі Вялікдзень, пад час начнога набажэнства былі страшныя грымоты, у час якіх запаліла царкву святога Яна Багаслова, але людзі, што былі на начным набажэнстве, затушылі.

У год 1701. Месяца ліпеня, 24 дня саксонцы ўзарвалі порахам Куканаўс і паразрывалі гарматы. Гранатамі сапсавалі мост, а самі, пераправіўшыся з маскоўскім войскам праз Дзвіну, пайшлі ў Курляндыю, а маскоўскае войска ў Друю, а потым пайшлі ў Пскоў. Назаўтра прыбылі шведы і забілі віцебскага купца Ксаверы Александровіча, а яго маёмасць паразбіралі ў лодкі.

У год 1701. Казакі з нашым Юрэвічам у Галоўчыне, пад Магілёвам, пабілі шведаў.

У год 1701. Месяца снежня шведы забралі назад у маскоўцаў Дыямент (Дынабург. — *В. Т.*).

У год 1702. Швед увайшоў у Жамойць, а потым у Літву і Белую Русь і ўсюды браў правіянт.

У год 1702. Месяца красавіка, 5 дня шведскі кароль з 20 тысячамі войска ўвайшоў у Вільню.

У год 1702. На самы Вялікдзень нашы, уварваўшыся ў Вільню, пабілі 1000 шведаў, старшых загінула чалавек 250, за што шведскі кароль помсціўся манахам і мяшчанам: пасадзіў іх у гарачую лазню, загадаў нанасіць і накласці ў яе трупаў і папарыць іх з трупамі ў гарачыні і смуродзе.

У год 1702. У Кракаве шведскі кароль спаліў палац, Торунь зруйнаваў і ўсю Польскую дзяржаву рабаваў без усякай міласэрнасці.

У год 1703. Палкоўнік Пратопаў (так у тэксце, напэўна, Пратапопаў. — *В. Т.*) і з ім 20 000 чалавек ішлі праз Віцебск, а другі з 70 000 чалавек ішоў праз Оршу.

У год 1703. Ішло праз Віцебск 1500 вазоў з кулямі і порахам.

У год 1703. Касцёл дамініканцаў святога Міхала (так у тэксце. — *В. Т.*).

У год 1703. Месяца р-бра (так у тэксце. — *В. Т.*) праводзілі ўніз 8000 гармат, калясніцы і бердышы.

У год 1704. Сакавіка дня, 26 ранкам былі бачны тры сонцы, тое, што было з правага боку, згінула першым, а што на левым, то няхутка.

У год 1704. Ягамосць пан Дзялынскі, хелмінскі ваявода, ехаў паслом да цара ягамосці ў Рагудзеў (Нарву. — *В. Т.*), а пры ім 2500 чэлядзі.

У год 1704. Месяца мая, 6 дня царскі палкоўнік Федасей Навумовіч і пры ім 2500 чалавек праводзілі на стругах грошы, напакаваныя ў мяшкі і бочкі.

У год 1704. У месяцы ліпені генерал яго вялікасці ягамосць пан Багдан Корсак і пры ім, пры Корсаку, два палкоўнікі, Рыгор Рыдванскі і пан Станкевіч, праводзілі трыма палка́мі смаленскую пяхоту.

У год 1704. У месяцы ліпені, у дзень рускага свята святога Іллі, ліпеня дваццатага, з'явілася на небе пры захадзе сонца камета. Спачатку рухалася як куля, а потым гадзіны са дзве стаяла слупом.

У год 1704. Цар ягамосць узяў Нарву, або Рагудзеў. Пасля ўзяцця загадаў усіх пасекчы.

У год 1704. Месяца кастрычніка, 18 дня была ў Віцебску вялікая бура, з дамоў дахі пазносіла, на цэрквах крыжы паламала.

У год 1705. Месяца студзеня, 15 дня ўехаў у Віцебск Барыс Пятровіч Шарамецьеў, фельдмаршал, а з ім дзевяць палкоў войска; сталі па гасподах.

У год 1705. Месяца мая, чацвёртага дня выйшла войска з Віцебска і стаяла ў полі тры дні, а потым пайшло ў Полацк. У гэты ж час праводзілі з Парэчча ўніз 50 стругаў з ваеннымі прыпасамі: кулямі, гарматамі і бердышамі.

У год 1705. Цар ягамосць прыплыў да Лукішак і на чацвёрты дзень паплыў да Полацка. Eodem anno mense iulli 11 die eclessia S.ISofia ipse occisit 4 basilianos in Polocia[5] і пасадзіў у Полацку каменданта. Як гэта было напісана, так тут я яго і перапісаў.

У год 1705. Генерал Баўэр адабраў ад шведа Мітаву, Борск і Ліпаў, нямала там шведаў палажыў, а потым выйшаў з войскам у поле, мінамі гэтыя гарады ўзарваў і зруйнаваў і прыйшоў у Оршу.

У год 1706. Цар ягамосць, сабраўшы сваё войска ў Магілёве, пайшоў з ім пад Белую Царкву.

У год 1706. Выходзячы з Горадні, войска цара ягамосці патапіла ў Нёмане-рацэ порах, кулі і гарматы і прыйшло пад Белую Царкву.

У год 1706. Выгарала большая частка горада Вільні, ратуша, крамы, Святы Казімер і што ў склепах было замуравана, усё гэта патлела і пагінула. Чалавек з пяцьдзесят загінула і згарэла жыўцом. Гэты бок, млыны і за Спаскай брамай (так у тэксце. — *В. Т.*).

У год 1707. Гатовыя грошы цара ягамосці з цла праводзілі на Барысаў, а валюнтарыст Сініцкі, іх пераняўшы, маскоўцаў, што былі пры іх, пабіў, грошы забраў і ўцёк да Быхава.

У год 1707. Цар ягамосць Пётр Аляксеевіч аблажыў Быхаў, а потым быхаўцы здаліся і выдалі Сініцкага, якога з яго братам, акаванымі, праводзілі на Маскву.

У год 1707. У месяцы маі ў Віцебску каля рынку згарэла 45 дамоў.

У год 1707. У месяцы чэрвені прыбыло 40 казакаў, узялі па паўтары бочкі жытняй мукі з дыма, а дзе выходзіла, і больш.

У год 1707. Валахі гетмана яго вяльможнасці ягамосці Рыгора Агінскага прыбылі ў Віцебск, старшына стала ў горадзе, а вайсковыя харугвы ў полі. Узялі з горада 60 тысяч злотых гатовымі грашыма, з архіепіскапскіх маёнткаў — 1120; бралі на Усвяце і па іншых каралеўскіх уладаннях.

У год 1707. Прыслалі з Полацка загад, каб з кожнага дыма далі па паўтары бочкі жытняй мукі. Мусілі даць, і адвязлі да Полацка.

У год 1707. Прыслалі з Менска загад, каб па Люблінскім тарыфе далі коней, з трох дымаў (так у тэксце. — *В. Т.*). Горад і мяшчане мусілі даць 24 коней, далі і адаслалі да Менска. А шляхта і ваяводзяне не далі нічога.

У год 1707. Для Быхава з другога боку Дзвіны выдалі правіянт: па дзве бочкі жыта, па два фунты масла, па чатыры фунты солі, па пяць фунтаў саланіны, па дзве бочкі аўса. А з гэтага боку Дзвіны далі для Себежа аднаму праклятаму капітану ўдзесяцёра больш, ён і Віцебск выпаліў. Гэты правіянт бралі з ваяводства.

У год 1707. Пан гарадскі пісар Боніч задобрыў у Копысі гатовымі грашыма Даўгарукага.

У год 1707. Маёмасць цара ягамосці праводзілі праз Віцебск месяца бра (так у тэксце. — *В. Т.*), дня 19 на Лукі, праводзілі з Польшчы.

У год 1708. Барыс Пятровіч Шарамецьеў выбраў з віцебскіх мяшчан на сваё войска сем тысяч чэцвярцяў збожжа.

У год 1708. Месяца чэрвеня, 12 дня ўсе палкі выйшлі пад Лукішкі ў поле, а потым пайшлі да Чарэі.

У год 1708. На Дзвіне на стругах былі пастаўлены два масты, адзін насупраць пана Мірона Галузы, а другі насупраць Астаховіча. Потым гэтыя масты сплавілі ўніз.

У год 1708. Запоўнілі дзесяць стругаў хворымі салдатамі і адправілі ў Парэчча; для іх праводзінаў даў горад сто малайцоў.

У год 1708. Прыйшла ў Віцебск харугва смаленскай шляхты, выстаяўшы некалькі дзесяткаў тыдняў, пайшла ў Полацк.

У год 1708. 7000 мяшкоў жытняй мукі было прывезена з Полацка і складзена ў пунях пана Галузы і Астаховіча.

У год 1708. У горадзе Віцебску ўзялі з мяшчан на шведскага наёмніка 6000 талераў, потым узялі з ратушы бурмістраў і дванаццаць другіх асоб і завялі да Астроўна, адтуль іх выкупілі мяшчане, даўшы шведскаму дыпламату 1000 талераў бітых цалковымі.

У год 1708. Капітан Салаўёў з 2500 конных казакаў і калмыкаў месяца верасня, дваццаць восьмага дня выпаліў увесь Віцебск, замкі і горад, ратушу і крамы, Узгор'е, Заручаўе і Задунаўе, чатыры касцёлы і дваццаць цэркваў, а за Заручаўем узяў адкупнога — 600 талераў бітых. Ліхі. Ён жа з тымі ж казакамі раней выпаліў Магілёў, Быхаў, Дуброўну, Оршу і Кадзін, панскія дамы, нікога не шкадаваў.

У год 1708. Месяца лістапада ішло праз Віцебск са Смаленска 300 казакаў з капітанам Мерліным; гэты ўзяў з горада і з мяшчан адкупнога — 600 талераў бітых.

У год 1708. Гэты ж капітан Мерлін, вяртаючыся з трыма дзесяткамі коннікаў, узяў з горада і мяшчан адкупнога — 600 талераў бітых.

У год 1708. Месяца бра (так у тэксце. — *В. Т.*) капітан Фёдар, прыбыўшы ў Віцебск, расставіў пошту да Полацка і да мяжы.

У год 1709. Месяца студзеня, 7 дня на захадзе былі бачны тры сонцы.

У год 1709. Месяца студзеня, 19 дня на поўдні былі бачны два слупы, а сонца было пасярэдзіне.

Гэтыя ўсе гісторыі перапісаны мною, Стафанам Гаўрылавічам Аверкам, мешчанінам віцебскім, слова ў слова з кніжкі ягамосці пана Міхала Панцырнага, мешчаніна віцебскага, у

Віцебску ў год Божы 1760 месяца студзеня. Перапісана з кніжкі яго рукі, напісанай потым (так у тэксце. — *В. Т.*), цяпер ізноў, у год 1768, месяца ліпеня, дня 13, я, Стафан Аверка, выпісаў гэтую кнігу.

## А ТУТ ІЗНОЎ ПАЧЫНАЮЦЦА ГІСТОРЫІ, ПІСАНЫЯ РУКОЮ ЯГАМОСЦІ ПАНА ГАЎРЫЛЫ КІРЫЛАВІЧА АВЕРКІ, ВІЦЕБСКАГА БУРМІСТРА І ВІЦЭЛАНДВОЙТА, ТАКІМ ЧЫНАМ:

Справы даўнейшыя, што дзеяліся ў Віцебску і на свеце, перапісаны з кніжкі Яна Чарноўскага і яго дзеда ў год 1733 [месяца] кастрычніка, 25 дня.

У год Божы 1601. Быў голад і вялікія маразы.

У год 1602. Казакі высеклі Віцебск.

У год 1603. Быў вялікі паморак.

У год 1606. Быў рокаш і сумятні.

У год 1607. Цар Дзімітры ішоў на Маскву, на сталіцу, на царства.

У год 1609. Кароль Жыгімонт падышоў пад Смаленск, а на наступны год яго ўзяў.

У год 1614. Віцебск выгараў, і ў Глазовічах прайгралі бітву.

У год 1623. У Віцебску быў забіты ўладыка, блаславёны Язафат.

У год 1653. Маскоўцы ўзялі Віцебск і іншыя замкі.

У год 1661. Аздобілі царкву Святога Духа.

У год 1667. Месяца сакавіка, другога дня, па старым календары, маскоўцы пакінулі Віцебск.

У год 1680. Месяца верасня, 6 дня па старым календары згарэў горад, ратуша, крамы і касцёлы.

У год 1688. Месяца чэрвеня, 17 дня была вялікая вада, якая ўсё пазатапляла.

У год 1708. Месяца верасня, семнаццатага дня цар Пётр Аляксеевіч выпаліў Віцебск.

У год 1733. Мая 31 па старым календары, на восьмы дзень Божага Цела, ад вялебных айцоў бернардзінцаў, якія рабілі арган і зайгралі на цэлы свет, выгараў Віцебск, рынак, крамы і цэрквы.

У год 1733. Лістапада 14 маскоўцы з Юрыем Мікітавічам Рэпніным увайшлі ў Віцебск.

У год 1710. Цэлы год лютаваў у Віцебску паморак.

У год 1737. У месяцы снежні, дзевятага дня тысячу чатырыста талераў, якія належалі з горада вялебным ксяндзам бернардзінам, выплацілі ксяндзу прыёру Восіпу Міхлерскаму.

У год 1736. У горадзе Віцебску на самым рынку віцебскія ксяндзы бернардзіны пачалі муроваць касцёл.

У год 1704. У месяцы ліпені, 20 [дня] на святога рускага Іллю быў на небе знак, камета.

У год 1752. Месяца жніўня, другога дня ад касцёла ксяндзоў дамініканцаў выгараў замак, плябанія, царква Благавешчання, езуіты і многа дамоў.

У год 1752. Месяца жніўня, першага дня паздыхала ў Віцебску быдла, усе каровы.

У год 1743. Ксяндзы базыльяне пачалі муроваць царкву, старшым быў Юстын Чачкоўскі, а вікарыем — Дзюрдзя.

У год 1747. Месяца чэрвеня, 11 дня, а 12-й гадзіне дня, згарэла царква святога Яна Багаслова.

У год 1752. Сакавіка 16, на святога Андрэя Крыцкага, згарэла заручаўская царква Уваскрэсення.

У год 1757. Мая, 12 дня, паводле рускага календара, выгарала Заручаўе і большая палавіна замка, тры царквы і два касцёлы.

У год 1757. Месяца чэрвеня, 6 [дня] ад семінарыі пачаўся пажар, дагарэлі рэшткі замка і дах у касцёле айцоў езуітаў.

Да гэтага месца гісторыі напісаны шляхетна народжаным ягамосцем панам Гаўрылам Кірылавічам Аверкам, віцебскім бурмістрам і ландвойтам. Перапісаны яны тут яго сынам Стафанам Гаўрылавічам Аверкам у Божым 1768 годзе, месяца ліпеня, 13 дня па рускім календары. А тут ізноў пачынаюцца гісторыі, выпісаныя з розных прачытаных кніг Стафанам Гаўрылавічам Аверкам. Гэтыя гісторыі, як у якой кніжцы надрукаваны, так тут і выпісаны ў годзе 1768.

У год 1215. На Ларэтанскім саборы атрымаў гнезненскі арцыбіскуп права на легацтва.

У год 1515. Ян Ласкі, гнезненскі арцыбіскуп, пацвердзіў гэтае права ў папы Льва.

А прымацыяльна, першым, яшчэ гнезненскі арцыбіскуп Мікалай Тромба на Канстанцкім саборы, каб меў права і са сваімі спадкаемцамі на каралеўскую каранацыю. Піша Мехавіта[6] і Кромер[7] пад годам 1416.

У год 1240. За Пудыкам, князем польскім, татары на вайне пад Кігніцай[8] на Шлёнску, на месцы Bonus kompus, альбо

Добрым полем званым, назжыналі ў палякаў, зжынаючы толькі па адным, дзевяць мяшкоў вушэй. А Длугаш[9] піша, што толькі 6 мяшкоў было напакавана тымі вушамі.

У год 1150. Папа Інакенці IV праз свайго пасла Якуба, леадыйскага архідыякана, паслабіў палякам дзевяцітыднёвы пост у шасцітыднёвы і загадаў пасціць чатыры дні.

У Кракаве Маргарыта, жонка графа Вяшчбоўскага, за адным разам павіла трыццаць шэсць сыноў. Пішуць пісьменнікі і летапісцы Кромер, Длугаш, Бельскі[10]. Testantur[11] дня, 21 студзеня, года 1629.

У год 1314. Камета прадказала ў Польшчы такі вялікі голад, што маткі дзецям не саступалі, а галодныя ваўкі — людзям. Бельскі, lib. 2. Длугаш, lib[12]. 3.

У год 1353. На Святую Тройцу выпаў такі вялікі снег, ляжаў шэсць дзён і даў людзям надзеі на багатыя ўраджаі. Мехавіта, Длугаш, Бельскі.

У год 1381. Уладзіслаў, апольскі князь, праводзячы з Бежскага замка ў Аполе цудоўны абраз Найсвяцейшай Панны, справу рук святога Лукі, стаў на Яснай гары як укопаны і не мог зрушыцца. Тут, прывёўшы з Венгрыі айцоў паўлінаў, заклаў іх кляштар. Длугаш, lib. 10.

У год Божы 1474. Любельскі ваявода, прызначаны ваяводам сандамірскім, справы такога вялікага ваяводства не мог ахапіць да гэтага часу. Піша Гербут[13].

У год 1499. У Кракаве, на вуліцы Святога Духа, нарадзіла белагаловая нежывое дзіця, на спіне якога, кусаючы і паядаючы цела, трымаўся жывы вуж. Teste Geste[14], Кромер.

У год 1410. Уладзіслаў Ягайла, польскі кароль, разбіў пад Грунвальдам крыжакоў, якіх было 140 000; 50 000 забіў, узяў 51 харугву і 40 000 у няволю. Магістар загінуў на полі бітвы. Кромер, lib. 16.

У год Божы 1514. Па ўзяцці Вены Цэледын (Саладзін. — *В. Т.*), маючы 80 000 войска, з многімі тысячамі і 25 000 кайданоў пайшоў супраць палякаў, але на рацэ Крапіўне быў разбіты, страціў 24 000 войска, а 2000 і 27 палкаводцаў узята ў няволю, сам Цэледын, закаваны ў кайданы, сядзеў у палоне ў Вільні. Палякаў палягло толькі 400. Піша Вапоўскі[15].

У год 1589. Ян Замойскі, канцлер і каронны гетман, узяў у няволю Максіміліяна, аўстрыйскага вялікага князя, прэтэндэнта на Польскую Карону, толькі з заступніцтва папы, імператара і князёў быў адпушчаны.

У год 1605. Гетман Хадкевіч, маючы толькі 3500 войска, разбіў у Інфлянтах 10 000 войска Карла Гудэрмана; 9000 паклаў трупамі і шмат узяў у палон; харугваў узята 60, гарматаў — 11; сам Карл быў паранены на моры. Палякаў загінула не больш за 800. Бітва трывала тры гадзіны. Піша Пясецкі[16].

У год 1610. Гетман Жалкеўскі, маючы 600 войска, пайшоў супраць турка і, прыблізіўшыся пад Цацору, што каля Магілёва, разбіў 30 000 татараў. А тут пачалася між людзьмі звада, і валахі, мультаны і туркі ўдарылі на палякаў. Жалкеўскаму, які меў 73 гады, галаву адсеклі; Канецпольскага схапілі татары. Пасля гэтай перамогі татары рабавалі Падолле і Русь, бралі незлічоных нявольнікаў. Галаву Жалкеўскага, насаджаную на дзіду, адаслалі аж да Стамбула і насілі з вокрыкамі трыумфу. Піша Пясецкі.

У год 1621. За Жыгімонтам Трэцім палякі пад Хоцімам перамаглі турэцкага імператара Асмана.

У год 1526. Стафан Хмяльніцкі, маючы толькі 9 тысяч войска, забраў да няволі 50 татараў-мірзаў і 1200 паспалітых жаўнераў. У Хмяльніцкага загінула 9 і 50 палонена. Піша Пясецкі.

У год 1621. Палякі пад Батавам бітву прайгралі. Загінулі польны гетман Каліноўскі і Марк Сабескі, брат польскага караля Яна III. Піша Пшыенмскі[17].

У год 1628. У час кірмашу выгараў горад Яраслаў, дзе багатых купецкіх тавараў было страты на 10 мільёнаў залатых дукатаў. Піша Пясецкі.

У год 1635. Ад каралевіча Уладзіслава, потым караля, Ежы Асалінскі, вялікі канцлер каронны, аддаючы ад імя манарха і цэлага каралеўства subiectionem[18], пышна выправіў пасольства да папы Урбана VIII і прывёз каралю рэліквіі святых пакутнікаў Прымаса і Феліцыяна, бо нарадзіўся кароль у дзень іх свят. Піша Квяткевіч[19].

У год 1654. Пад Берасцечкам, калі гналі Хмяльніцкага, явіўся над польскім войскам у выглядзе перуновай стралы святы Міхал, палягло тут казакаў 30 тысяч, а астатнія пайшлі ўрассыпную. Піша Кахоўскі[20], Клімахт[21].

У год 1655. Шведскі кароль Карл, увайшоўшы ў Польшчу, калі выходзіў з Кракава ў Пазнань, убачыў цудоўны абраз, які каціўся па зямлі. Піша Кахоўскі.

У год 1657. У Польшчы лютаваў вялікі паморак, і так моцна, што ў самім Кракаве вымерла 36 тысяч людзей. Не было ўжо каму і хаваць. Пішуць Кахоўскі, Клімахт, lib. 5.

У год 1650. Пад Гданьскам, у Аліўскім кляштары, падпісаны мірны дагавор палякаў са Швецыяй. Піша Кахоўскі.

Быў час фартунны для палякаў, бо на Марсавым полі пад Палонна[22] разбіта 8 тысяч войска хоцімскага гетмана, узята 40 штук гарматаў, 148 харугваў з малымі стратамі палякаў, менавіта: 300 пяхоты і некалькі сотняў знатных асоб. Піша Кахоўскі.

У год Божы 1660. Татары з ваяводамі Магаем і Цэлебулам, уварваўшыся праз замерзлую раку Віслу да Сандаміра, забілі 40 дамініканцаў і абата Садоцкага. У гэтым жа годзе нарадзіўся вол з дзвюма галовамі і сямю нагамі. У гэтым жа годзе на Шлёнску, між рэкамі Одрай і Нісай, падаў крывавы дождж. Пішуць летапісцы Кромер, Бельскі.

У год 1667. Пад Гайцам заключылі з татарамі і казакамі мір, якія, калі ішлі назад, спалілі трыццаць вёсак. Пад Гараевам пабіта Сільніцкім 21 500 людзей. Піша Кахоўскі.

У год 1672. Туркі аблажылі Львоў, але, узяўшы сто тысяч талераў бітых цалковых водкупу, на самага святога Міхала адступілі.

У год 1673. Палякі разграмілі пад Хоцімам 30 тысяч туркаў. У гэты ж час знойдзена ў трупе турка 50 залатых дукатаў. Піша Кахоўскі.

У год 1675. 8 тысяч татараў і столькі ж туркаў, уварваўшыся ў Польшчу, Мікулінцы, Падгайцы і Цярнопаль спустошыўшы, набралі нявольнікаў больш чым на дзвесце тысяч.

У год 1676, дня 2 лютага ўкаранаваны кароль польскі Ян III Сабескі.

Ян Сабескі, кароль польскі, ідучы пад Вену, атрымаў блаславенне ад львоўскага арцыбіскупа, а другое ў Кракаве ад папскага пасла і, стаўшы войскаў хрысціянскіх найвышэйшым ваяводам, разграміў пад Венай 54 тысячы туркаў, як сведчаць Варыскі і Катубскі. Злучаны былі ў той вайне з каралём Янам князі-саксонцы, князь Карл Латарынгскі і Эмануіл, князь Баварскі. Сталася гэтая перамога дня 12 верасня года 1683.

У год 1673. Гетман Ян Сабескі на свята святога Марціна, у дзень смерці караля Міхала, разграміў пад Хоцімам 60 тысяч туркаў.

Ян Сабескі, кароль польскі, памёр на Святую Тройцу, дня 7 чэрвеня года 1696, у той дзень і гадзіну, у які быў абраны каралём.

У год 1704. Шведы ўзялі вялікі польскі горад Пазнань; гэтыя ж самыя ўзялі Львоў.

Станіслаў Ляшчынскі абраны першы раз каралём, каранаваны дня 19 чэрвеня года 1704, а другі раз узноўлена элекцыя 12 верасня 1713 года.

У год 1475. У Польшчы і на Русі было вельмі многа саранчы, на Русі многа, а ў Польшчы яшчэ больш.

У год 1536. Была вялікая, на палец, з галавой накшталт кажановай, саранча. Піша Мехавіта.

У год 1541. Калі была ў Польшчы саранча, вельмі падала і здыхала быдла.

У год 1542. Саранча велічынёй з локаць пакрыла Валашскую зямлю на дзве мілі, а каля Львова выпусташыла ўсё міль на шэсцьдзесят. Піша Квяткевіч.

У год 1660. З Белай Русі і з Літвы завітала саранча да Польшчы і Шлёнска, а ў годзе 1648 і ў годзе 1652 прынесла цяжкі голад. У годзе 1690 многа, але ў годзе 1711 на Падляшшы і Чырвонай Русі было саранчы яшчэ больш.

У год 1205. Быў у Польшчы вялікі паморак.

У год 1318. Быў паморак у Прусіі, Літве, Белай Русі і Віцебску.

У год 1358. Паморак за шэсць месяцаў вымарыў сапраўды палавіну палякаў, найбольш шляхты і багатых мяшчан. У самім Кракаве вымерла 20 000 людзей. Сведчыць і піша Кромер.

У год 1424. Быў такі цяжкі паморак, што Уладзіслаў Ягайла з каралевай і князем Вітаўтам жылі ў лясах. Teste Гербут.

У год 1546. У Гданьску вымерла 40 тысяч, 36 тысяч пайшлі ў лясы, а звяр'ё ішло да вёскаў і гарадоў есці людскія трупы. Test. Кахоўскі.

У год 1709. У Львове вымерла дзесяць тысяч людзей, адсюль лютаваў паморак на Польшчы некалькі гадоў.

У год 1710. У Гданьску вымерла 26 тысяч, у Варме — 12 тысяч.

У год 1710. У Вільні вымерла 20 тысяч хрысціян, жыдоў — чатыры тысячы. У гэтым жа годзе лютаваў паморак і па іншых беларускіх гарадах. У год 1720 з'явіўся і ў горадзе Львове.

У год 1220. Быў у Польшчы вялікі голад. Трываў з вялікіх дажджоў тры гады. Teste Кромер.

У год 1315. З-за дажджоў і вялікай павадзі быў тры гады такі цяжкі паморак, што людзі, дзеці елі трупы, знятыя з шыбеніцаў. Test. Мехавіта.

У год 1404. Такі ж голад. Test. Кромер і Длугаш.

У год 1570. З-за доўгай і цяжкай зімы людзі з лісця рабілі сабе ежу і елі трупы, ішлі ў лясы на з'ядзенне звярам. На Белай Русі сабакі кідаліся на людзей і елі. Teste Каяловіч.

У Вільні памерла з голаду 15 тысяч людзей, а ў аднаго шляхціца збожжа абярнулася ў вужоў.

У год 1386. Лютага, 12 дня кароль Ягайла, які пры святым крышчэнні быў названы Уладзіславам, злучыў Літву з Польскай Каронай.

У год 1597. На сейме, пад выглядам адшукання Інфлянтаў, Полацка, Смаленска, Віцебска, Кіева і іншых забраных Масквою гарадоў, аб'яўлена ёй вайна. Сам кароль Стафан Баторы пайшоў з войскам, здабыў Полацк, замак і цэлае ваяводства, якое гадоў 17 разам з Віцебскам было ў маскоўскіх руках.

У год 1686. З вялікай крыўдай і стратай для Рэчы Паспалітай заключаны пазнанскім ваяводам Гжымультоўскім і канцлерам Агінскім дагаворы з Масквою, бо многія землі, набытыя польскаю крывёю, гарады Кіеў, Чарнігаў, Смаленск, Себеж з цэлымі ваяводствамі Маскве аддадзены.

Дасюль гісторыі сабраны і спісаны Стафанам Гаўрылавічам Аверкам, мешчанінам віцебскім, у Віцебску, у годзе 1768, месяца ліпеня, 13 дня.

А тут ніжэй выпісаў я і змясціў тыя рэчы, якія ў іншых асобаў не ўпісаныя.

За імператарам Лявонам Ізаўрыкам вымерла ад пошасці трыста тысяч людзей. У год 876, піша Стэнгеліюс, быў па ўсім свеце такі вялікі паморак, што ледзьве трэцяя частка людзей ураталалася ад смерці. Людныя чужаземскія гарады і нашыя Кракаў, Варшаву, Вільню, Віцебск зрабіў паморак адной магілай, па паморку як вымела. Што да людзей, то ўсюды стала пуста.

А тут ніжэй змешчаны іншыя рэчы. Запісаў я тут імёны і прозвішчы паноў радных, якія ў год 1597, сакавіка 17 дня былі першы раз абраны да наданай месту Віцебскаму магдэбургіі.

Войт Аляксандар Корвін Сухосаў, староста веліжскі, сакратар яго каралеўскай міласці.

Ландвойт Захар Воўк, мешчанін віцебскі.

Бурмістр Іван Гаўрылавіч Клыха, бурмістр Васіль Сымонавіч Веліжанін, бурмістр Васіль Іллініч Танко, бурмістр Іван Ісікавіч Андронаўскі, райца Канстанты Хамініч Стузакоўскі, райца Сергій Пятровіч Зататай, райца Лаўрын Хадкевіч Галуза, райца Міхайла Колес, райца Фёдар Стафанавіч Спіца, райца Восіп Гаўрылавіч Клыха, райца Якім Юр'евіч Шаўра.

Лаўнік Кузьма Іванавіч Комаса.

Лаўнік Багдан Якімавіч Пякуча.

Лаўнік Фёдар Сымонавіч Вяртошка.

Лаўнік Багдан Сыдзкевіч.

Лаўнік Іван Гутар.

Лаўнік Восіп Нікіфаравіч Шаўра.

Лаўнік Іван Ісакавіч Самуйлаў.

Лаўнік Даніла Рыгоравіч Шулька.

Гэтыя шаноўныя мяшчане былі абраны да ўпершыню наданай гораду рады за панаваннем найяснейшага манарха, пана нашага міласцівага Жыгімонта Трэцяга ў год 1597, месяца сакавіка, 17 дня.

Даўгі, якія былі перад гэтым на ўсім горадзе Віцебску, змяшчаю я тут са старога рэестрыку, напісанага рукою ягамосці пана Боніча, пісара гарадскога віцебскага.

1. Віцебскім бернардзінцам талераў бітых 1750.
2. Вяльможным віцебскім панам базыльянам талераў бітых 1677.
3. Ягамосці пану Альшэўскаму талераў бітых 500.
4. Ягамосці пану Лубашчынскаму талераў бітых 770.
5. Ягамосці пану Рамшы талераў бітых 100.
6. Ягамосці пану Каржанеўскаму талераў бітых 50.
7. Розным панам, віцебскім мяшчанам і купцам талераў бітых 1000. Сума efficit[23] 5247.

Уся гэтая сума, названая вышэй, згаданым іх мосцям вернута і выплачана, а скасаваныя аблігацыі і дакументы маюцца і знаходзяцца ў ягамосці пана Яна Ігольніка, віцебскага бурмістра. Гэтае паведамленне ўпісана сюды ў годзе 1768, а тут змяшчаю я імёны, сабраныя ў адно з вялікай цяжкасцю, хто і калі быў ваяводам віцебскім.

Януш Касцевіч, ваявода віцебскі. Быў ваяводам у годзе Божым 1516, жніўня, 7 дня.

Іван Багдановіч, ваявода віцебскі. Быў ваяводам у годзе 1551.

Станіслаў Кішка. Быў ваяводам віцебскім у 1552 годзе.

Стафан Андрэевіч Збаражскі. Быў ваяводам у годзе Божым 1561.

Мікалай Паўлавіч Сапега. Быў ваяводам віцебскім у годзе 1591. З ласкі гэтага ваяводы і магдэбургія дадзена ад караля ягамосці Жыгімонта Трэцяга ў 1597 годзе.

Ян Завіша. Быў ваяводам віцебскім у 1600 годзе.

Ян Ракоўскі. Быў ваяводам у 1614 годзе.

Сымон Самуіл Сангушка. Быў ваяводам у годзе Божым 1633.

Крыштоф Кішка. Быў ваяводам у 1641 годзе.

Станіслаў Валовіч, польны гетман Вялікага Княства Літоўскага. Быў ваяводам віцебскім у 1663 годзе.

Ян Антоні Храпавіцкі, ваявода віцебскі. Быў у годзе 1683.

Леанард ці Лявон Пацей. Быў ваяводам віцебскім у 1688 годзе.

Андрэй Крышпін. Быў ваяводам віцебскім у 1695 годзе.

Казімір Аляксандр Пацей. Быў ваяводам віцебскім у 1701 годзе.

Марцыян Міхал Агінскі, ваявода віцебскі. Жыў у 1730 годзе.

Восіп Салагуб, няхай шчасліва жыве і цяпер, ваявода віцебскі. Стаў на ваяводства Віцебскае ў 1753 годзе.

Усе ваяводы, яснавяльможныя паны нашы, тут сабраны, толькі ніяк не знайшоў я пецярых. Хоць і з цяжкасцю, але імёны розных асоб, жывых і памерлых, упісаны тут у годзе 1768, месяца ліпеня. Яснавяльможны ягамосць пан Марцыян Міхал Агінскі памёр у год 1750, красавіка, 1 дня.

Пані Зоф'я Пёрава, ландвойтава віцебская, жонка Антона Пёры, памерла ў год 1750, лютага, (?) дня.

Пані Тэрэза Пацеева, троцкая ваяводзіха, памерла ў год 1749, кастрычніка, 18 дня.

Ксёндз Люцыд Аверка Z.S.B.W. (памёр. — *В. Т.*) у Любавіцкім кляштары ў год 1759, кастрычніка, 4 дня.

Ягамосць пан Гаўрыла Кірылавіч Аверка, віцебскі бурмістр і віцэландвойт, памёр у год 1759, месяца кастрычніка, 18 дня па рускім календары.

У год 1755. Месяца лютага, 22 памёр пан Рыгор Пырскі, бурмістр віцебскі.

У год 1755. Сакавіка, 7 дня памёр пан Якуб Сухар.

У год 1753. Месяца студзеня, 29 яснавяльможны ягамосць пан Восіп Давойна стаў на Віцебскае ваяводства.

Вяльможны ягамосць пан Сымон Мількевіч прысягнуў на ландвойтаўства ў год 1750, ліпеня, 7 дня, памёр у год 1768.

Ягамосць пан Мацей Галуза прысягнуў быць бурмістрам у год 1750 ліпеня, 7 дня.

Ягамосць пан Сяргей Сіпко прысягнуў быць бурмістрам у год 1750, ліпеня, 17 дня; памёр у год 1767.

У год 1750, 1 сакавіка, памёр ягамосць пан Восіп Маркаў, бурмістр віцебскі.

Пан Дзімітры Аверка памёр у год 1686, чэрвеня, 19 дня.

Пан Пётр Аверка памёр у год 1718, мая, 12 дня.

Пан Лявон Свіршчэўскі памёр у год 1709.

Пан Мірон Галуза памёр у год 1720, мая, 4 дня.

Пан Мірон Лагошны памёр у год 1724, сакавіка, 24 дня.

Пан Аўрам Ярашэвіч памёр у год 1725, чэрвеня, 6 дня.

Пан Кірыла Аверка памёр у год 1727, кастрычніка, 30 дня.

Пані Еўдакія Аверкава памерла ў год 1728 ...бра (так у тэксце. — *В. Т.*), 23 дня.

Пан Аўдакім Грыгораў памёр у год 1729, жніўня, 13 дня.

Ксёндз Юстын Ліцвінка Z.S.B.W[24]. памёр у год 1732, лютага, 27 дня.

Ксёндз Гальяш, базыльянін, утапіўся ў год 1732, у аўторак, на Каляды.

Ксёндз Гаўрыла Быкоўскі, базыльянін памёр у год 1732.

Пан Амеллянік памёр у год 1732 ...гбра (так у тэксце. — *В. Т.*), 11 дня.

Пан Мацей Амеллянік памёр у год 1732, жніўня, 18 дня.

Пан Ян Боніч памёр у год 1733, мая, 14 дня, на Тройцу.

Пан Андрэй Лапа памёр у год 1732, жніўня, 5 дня.

Пан Казімер Мушчынка памёр у год 1735, ліпеня 25 у Полацку.

Пан Цімафей Мушчынка памёр у год 1735, студзеня, 21 дня.

Пані Хадора Лагошна памерла ў год 1735, чэрвеня 24.

Пан Мушчынка Якуб памёр у год 1737, красавіка, 7 дня.

Гэта перапісаў Стафан Гаўрылавіч Аверка.



# ХРОНІКА

Гэтая кніга ягамосці пана Аляксандра Трубніцкага перапісана Юрыем Трубніцкім, рэгентам[1] магілёўскай гарадской канцылярыі, у годзе 1747, месяца ліпеня, 30 дня з розных летапісцаў, а часткаю са сваёй памяці будучым часам на памятку, што дзеялася ў горадзе Магілёве і па розных гарадах, якія паходы, войны ды іншыя рэчы. Гэта ўсё не хлусліва напісана, а як сама справа была, так прышламу веку да ведама пададзена ў годзе 1747.

... летапісцаў ... пачатку ты...* Як пчала збірае з розных кветак..., так і я, ласкавы чытачу, часткаю з вышэйназваных... ці летапісцаў, або што пасля іх смерці пазаставалася з запісных кніжак..., таксама дакументы, праўдзіва, годнымі, якім можна верыць, людзьмі напісаныя, а часткаю, за некалькі дзесяткаў гадоў, таксама са сваёй памяці, што магло з яе здабыцца, і паводле майго меркавання, і так тады да ведама напісаў я. Хоць таксама не з палітычным сэнсам... невучоны летапісец, а асабліва некаторым здасца як бы і не да смаку маё меркаванне (прашу не лаяцца), бо не падаваць гэта да друку. Толькі ж як звычайна летапісцы, розным хронікам давяраючыся, каб тое, што напісана, не забывалася, пісалі, так і гэты мой летапіс пісаў я, спакушаны ахвотаю (магчыма, хто будзе ўдзячны), прышламу часу на скарыстанне. А так як аўтар паважнай Хронікі Аляксандар Гваньіні[2] аб нашым слаўным горадзе Магілёве ў кнігах апісання зямлі Рускай, а менавіта Мсціслаўскага ваяводства на старонцы 24, якое ні да якага ваяводства не належыць, а толькі да Аршанскага павета, так цьмяна

---

* Шматкроп'е абазначае пропускі ў тэксце.

ўспомніў, што ляжыць між Шкловам і Быхавам... А ад заснавання самога горада паводле не... носці майго розуму апісана. А ты, чытачу ласкавы, прашу, чытаючы, не лайся, калі ёсць добрым, а гэта ўсё дабрадзейна папраў, і аб тым не шкадуй, калі хто ў дабрадзейнасці цябе вышэй, і так спазнаеш сябе самога, а хто ведае сябе самога, не асудзіць другога і мяне, нягоднага летапісца. Дапісаў я тады гэтую маю хроніку ў годзе 1693, у месяцы маі, 29 дня па старым календары.

Трафім Раманавіч Сурта, лаўнік[3] і стараста купецкі.

## КАРОТКАЕ АПІСАННЕ РОЗНЫХ ГІСТОРЫЙ

У год па нараджэнні Хрыста пана 430 заснаванне Кіева так мы апішам. Па ўзнясенні Божым на неба святыя апосталы, паводле жэрабя абраўшы сабе бакі свету, якія каму даталіся па святым евангельскім прароцтве, падрыхтавалі сабе па наканаванні Святога Духа, паводле пісьма Баронія, апостальскі запавет, гэта значыць дванаццаць дагматаў веры. Таму, як звычайна палкаводцы войскам... ... запавет ... між непрыяцелямі са сваімі не заўсёды роўнымі справамі Святога Духа, будучы абранымі для нашага выратавання, кожны, прапаведуючы запавет і святую евангельскую навуку, атрымаў карону вечнай славы. Вяртаюся я тут да сваёй тэмы. Выпала жэрабя святому апосталу Андрэю Першазванаму на ўсходнія краіны расійскія, якія Руссю называюцца ад рассейвання Афетавага па Еўропе, пра што будзе ніжэй. Гэты святы апостал, убачыўшы Днепр, які блізка Херсона ўпадаў у мора, паплыў па ім ладдзёю і, прыплыўшы па Дняпры да высокіх і бязлюдных гор, дзе цяперашні Кіеў, заснаваны потым, гады праз чатыры, іх благаславіў і святы крыж паставіў. Гэтыя горы, не дзелячыся, ідуць паласою аж на некалькі соцень міль уверх Дняпра, на якіх і Магілёў. А калі ў самым вярхоўі Дняпра не змог плысці ладдзёю, перайшоў у возера і пусціўся да Вялікага Ноўгарада, а адтуль у Рым. Не абмінула таксама благаславенне весляра святога апостала Андрэя і горы, дзе стаіць Магілёў. І так, як вышэй пісалася, Кіеў заснаваў, які называецца ад князя Кія, паводле Стрыйкоўскага[4], польскага храніста, які піша, што ў годзе Божым 790 ад святога Кірыла і з благаславення Святога Духа пісьму ў мове славянскай пачалі вучыцца расіяне ці, дакладней, Русь.

У год 1526. Пры Жыгімонце, каралі польскім, калі шэсць гадоў было яго сыну Жыгімонту Аўгусту, горад Магілёў заклалі, а замак і воласць былі ўжо за некалькі соцень гадоў да гэтага. Праз чатыры гады пасля заснавання Магілёва дзесяцігадовы Жыгімонт Аўгуст пры жыцці свайго бацькі Жыгімонта каранаваны на каралеўства. Пасля каранацыі свайго сына Жыгімонт І, кароль польскі, праз дзесяць гадоў памёр, гэта значыць у 1540 годзе[5].

Няма ніякай весткі, адкуль бы мог быць названы Магілёў. Паводле майго розуму, так патрэбна тлумачыць гэтую назву: магутны леў, па-славянску названы, тлумачыцца — моцны, дужы, вялікі леў, бо такі і ёсць, калі несказана меў на сябе розных ваенных навалаў, пра што будзе ніжэй, аж з ласкі ўсямоцнага Бога і найсвяцейшай панны Марыі, Маткі Божай, якую горад адчуваў і адчувае, застаецца ён у сваёй годнасці.

Не ўступае горад Магілёў, з ласкі Маткі Божай, Кіеву (за выключэннем толькі святых рэліквіяў). Але з Божай ласкі і ў гэтым горадзе паказаць целы святых, бо ёсць у царкве святых богаяўленняў Божых бездакорнае жаночае цела гадоў сарака. Ёсць, ізноў, гэты горад Магілёў багаты на людзей вучоных, набожных, гандлёвых і на розныя рамёствы багаты, цэрквамі ўпрыгожаны, цэрквы скарбамі, працамі і штодзённым квітнеючым грэка-рускім набажэнствам аздоблены, з-за чаго варта прыгадаць такі верш:

Богам ратаваны гэты горад Магілёў,
Прабацька і бацька Яфетавых сыноў.

Змяшчаючы гэты верш, тады так я яго патлумачу. Калі пасля патопу патрыярх Ной даў тром сваім сынам Сіму, Хаму і малодшаму Яфету блаславенне і раздзяліў зямлю на тры часткі, з падзелу тады выпала на Яфета Еўропа, на якой аселі русь, альбо славяне, з такімі віднымі гарадамі, не называючы ўсіх, як Кіеў, Чарнігаў і Магілёў; Яфет, паводле кіева-пячорскага Сінопсіса[6] і Стрыйкоўскага, тлумачыцца славянскаю мовою як той, што расцягваецца, распаўсюджваецца і далей пашыраецца. І так з Божай ласкі і Найсвяцейшай Яго Маткі, з пратэкцыі найяснейшага, непераможнага караля ягамосці Яна ІІІ павялічыўся гэты горад Магілёў, які з выпраўленнем людскіх цнотаў можа і больш павялічыцца, бо, як піша Стрыйкоўскі-храніст, тых, што жывуць у Еўропе, называюць унукамі Яфетавымі альбо племенем Яфетавым.

Жыгімонт Аўгуст, які ў гэты час шчасліва валадарыў, бачачы, што, як пчолы, збіраюцца людзі да Магілёва, і каб справядлівасць і слава Божыя шырыліся, прыгожа ўмацаваў горад правам і вольнасцямі ўзнагародзіў. Адпанаваўшы тады гадоў 40, развітаўся ён у 1572 годзе, на вялікую жалобу Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага, са светам, і так intercegnum[7] было аж да Генрыха Француза[8].

У год 1574. Генрых з Францыі з вялікім і неацэнным выдаткам абраны на Польскае каралеўства, які, адпанаваўшы толькі месяцаў сем, уцёк у Францыю, калі ж хто жадае ведаць чаму, няхай не пашкадуе часу і працы, а прачытае хронікі, аб гэтым будзе ведаць.

У год 1576. Стафан Баторы, сяміградскі князь, быў абраны на Польскае каралеўства і каранаваны. Пасля гэтай каранацыі былі высланы да яго ад горада Магілёва паслы-гараджане для атрымання і прысуджэння згодна з парадкам Магдэбургскага права, які, як ласкавы бацька, іх прыняўшы, правам утытулаваў, і атрымалі, аб чым прасілі. Потым, у годзе 1577, пачаў горад Магілёў судзіць Магдэбургскім правам, якое мы і цяпер ужываем.

Гэты ж найяснейшы кароль, пан наш міласцівы, надаў лацінскаю моваю гораду Магілёву права на розныя вольнасці, якія і зараз in archivo civitatensi conservatur[9], а гербам гораду — адну вежу з надпісам наўкола рускім пісьмом: «Пячаць горада Магілёўскага», а надаўшы, і прывілей выдаў, як тут бачыш. Кіеў у гэты час быў ва ўладзе Стафана Баторыя.

У год 1581. Маскоўцы, ідучы на Інфлянты[10], атакавалі Магілёў, а замка ў гэты час яшчэ не было, быў толькі замкавы астрог. А гэтую вайну называюць у нас Пятроўская Масква.

У год 1582. За каралём Стафанам Баторыем рымляне, быццам як свой каляндар паправіўшы, адмянілі рускі.

У год 1586. Памёр кароль Стафан Баторы, караляваў 10 гадоў, 7 месяцаў і 12 дзён. Праз чатыры гады пасля яго смерці, гэта значыць у годзе 1590, прыйшоў да Магілёва з войскам невядома адкуль нейкі казак ці гультай па прозвішчы Мацюша і нарабіў шмат шкоды, было на што паглядзець, аднак горад пан Бог ўратаваў.

У год 1595. Прыйшла ізноў на Магілёў навала ад Налівайкі. Невядома таксама з якіх прычын гэта сталася, ці з гультайства, ці з маскоўскага нацкоўвання, бо ў гэты час міру з Масквою не было. Таму старэйшыя людзі часта ўспаміналі Налівайку, Мазепу і Лабаду. Відаць, нездарма не выходзіла

гэта з людской памяці, бо нарабіла гэтая саранча новазбудаванаму і заселенаму гораду бед нязносных і крыві праліла нямала. Але пан Бог гараджан-мучанікаў бласлаўляў і бласлаўляе. Гэты Налівайка Магілёў зрабаваў і цэрквы папаліў.

У год 1605. Пасля гэтай пятроўскай вайны быў заключаны з Масквою мір на 14 гадоў.

У год 1610. У час каралявання Жыгімонта III, а за войтаўствам у гэты час Яраша Валовіча, падскарбія земскага і пісара Вялікага княства Літоўскага, войта магілёўскага, пачаліся былі ў Магілёве бунты. Зачыншчыкамі гэтых бунтоў былі Іван Харковіч, Мікіта Мілковіч, Максім Талбішаў, Гаўрыла Івановіч, Міхал Чабатар, Лавар Міхайловіч і Ісай Шчасны. Гэтыя бунтаўшчыкі са сваімі хаўруснікамі не ладзілі з магістратам, плаціць падаткі гораду і выконваць розныя павіннасці магістрату не хацелі, на рады і сходы асобам сваім на месцы, асобна, у свой уласны звонік біць загадвалі, на ратушу і на магістрат нападалі, да гвалту перад ратушаю заклікалі, на судовую хату напалі, дзверы адбілі. У гэты ж час вымушаны быў заставацца ў вялікай небяспецы і магістрат. Потым з выданнем уласна каралеўскай граматы вышэйназванаму магілёўскаму войту памянёныя бунтаўшчыкі былі асуджаны, дзе пасля выканання іскавымі бакамі прысягі пяцёра абезгалоўлены, але няма весткі, на якім месцы. Толькі даводзілася чуць ад старэйшых людзей, якія расказвалі, што былі яны пакараны на Ільінскай гары, на гэтым месцы, дзе цяпер стаіць крыж. Некаторыя гаварылі, што пакараныя людзі былі паспалітымі, аднак у пастанове пра гэта нічога не сказана. Калі хочаш пра гэта ведаць дакладна, чытай пастанову, упісаную ў акты магілёўскай магдэбургіі[11] пад датаю года 1610, месяца ліпеня, 23 дня.

Дваіх жа асоб з гэтых бунтаўшчыкоў, менавіта Лавара Міхайловіча і Ісая Шчаснага, ад пакарання памілавана, толькі ім прысудзілі, каб былі, калі адседзяць дванаццаць месяцаў у турме, пабіты ля ганебнага слупа і за горад выгнаны і каб ад яго міль трыццаць circum circa[12] не жылі і не знаходзіліся. Розная ж маёмасць вышэйназваных бунтаўшчыкоў, рухомая і нерухомая, была пазабірана і ахвяравана ў скарб яго каралеўскай мосці. Калі ж за парушэнне законаў гэтым двум было ўчынена пакаранне, ніякага ўпаміну ў гарадскіх магілёўскіх актах я не знайшоў.

У год 1611. Люба Турцянка, жонка Мікіты Мілковіча, Зяновія Харкевічава, Арына Шаўцова і Сцеша Лаўрова з іншымі

жонкамі вышэйназваных бунтаўшчыкоў, з дзецьмі і са сваімі сынамі, хочучы пасля смерці і выгнання сваіх мужоў за горад вярнуць маёмасць у судовым парадку, падалі на супраціўныя бакі іск аб забранай першааснове і падсправаздачных маёнтках да судоў яго каралеўскай мосці. У гэтай справе кароль ягамосць Жыгімонт Трэці паспешны войтаўскі суд адмяніў і дэкрэтам справаздачных судоў жонкам і дзецям усе іх маёнткі загадаў вярнуць, а выгнанцам дазволіў жыць у Магілёве і іх маёнткі ім таксама прысудзіў.

У год 1611. Праз 24 гады пасля каранацыі, бо быў каранаваны ў 1587 годзе, Жыгімонт Трэці Неперыможны, кароль польскі, забраў ад вялікага маскоўскага князя Івана Васільевіча Смаленск, які здабываў гадоў сем, разбурыў, падклаўшы пяцьдзесят цэнтнераў пораху, 4 вежы, альбо, дакладней, башты, і тры сцяны муру. А Смаленск перад узяццем Жыгімонтавым ад вялікага князя Івана Васільевіча пачалі будаваць гадоў за 14, будавалі 7 гадоў. Потым гадоў 7 жылі ў міры. А ўсіх вежаў, альбо баштаў, было вакол Смаленска 40. Князь гэтага Смаленскага замка Іван Васільевіч Тыран памёр у 1584 годзе. Пасля яго царом быў абраны князь Шуйскі, нашчадкі якога царствуюць і цяпер, аднак мужчынскі род у нядаўнія гады звёўся, пануе толькі жаночы род.

У год 1613. Кароль Жыгімонт трымаў маскоўскую сталіцу і манеты з адбіткам сваёй асобы загадаў у Маскве чаканіць. Пра гэта чытай Пралог маскоўскі[13] за месяц кастрычнік, 22 дня.

У год 1615. Ягамосць пан Мацей Сухадольскі быў у Магілёве ландвойтам[14].

У год 1626. На вялікодны тыдзень, з панядзелка на аўторак, адведаў пан Бог горад агнём: увесь астрог выгараў і многа шкоды нарабілася гараджанам і гандлярам горада Магілёва.

У год 1630. Пан Бог адведаў горад паморкам, памерла некалькі сотняў відных людзей.

У год 1632. 29 красавіка памёр, пакінуўшы двух каралевічаў, Уладзіслава і Казімера, Жыгімонт III Неперыможны. Пасля смерці Жыгімонта абраны на Польскае каралеўства Уладзіслаў, які, шчасліва пануючы, валодаў Смаленскам. Захацеў тады маскоўскі цар адпомсціць за крыўды і, каб забраць Смаленск, выправіў з войскам гетмана прозвішчам Шэін. А дзеялася гэта ў годзе 1633. Той Шэін моцна Смаленск здабываў і ўжо быў падарваў сцены, але тут прыйшоў на дапамогу



Маскоўскі цар
Іван Жахлівы



Маскоўскі
коннік. XVI ст.

Баярын
Вялікага Княства Літоўскага.
XVI ст.






Вялікі князь і кароль
Жыгімонт Аўгуст



Барбара Радзівіл
у каранацыйным строі

Панарама Горадні. З гравюры М.Цюндта. 1568 г.



Вялікі князь і кароль Стафан Батура. Медаль 1585 г.

Вызваленне Полацка войскам С.Батуры ў 1579 г.

Ян Кароль Хадкевіч,
віленскі ваявода і вялікі гетман




Аблога Смаленска.
З гравюры Георга Келера. 1610 г.



Крылаты гусар
Рэчы Паспалітай



Найманы мушкецёр.
XVII ст.



Паручнік панцырнай харугвы
Рэчы Паспалітай



Герб «Пагоня»
на гармаце
Вялікага Княства Літоўстага

кароль Уладзіслаў. Пасля яго па сушы і вадою прыбылі вялікім войскам казакі-запарожцы са сваім гетманам па прозвішчы Залатарэнка, якія, як толькі прыйшлі, з каралеўскага дазволу ўзялі лагер Шэіна, і вымушаны былі маскоўцы паддацца, пакідаць зброю і выпрошваць жыццё. Адпускаючы, ім давалі на дзесяць чалавек па нажы і сякеры. Толькі немцы, якіх старэйшыя людзі называлі свавольнікамі, бо чынілі вялікія беды і гвалцілі дзяўчат, не паспяшаліся каралю на дапамогу і былі б пакараны, каб не пайшлі на Запарожжа, у Кадак. У гэтым жа годзе маскоўцы Полацк высеклі.

У гэтым жа 1633 годзе. Уладзіслаў IV вызваліў законам горад Магілёў ад жаўнерскіх пастояў, а гэта за дапамогу з горада гарматамі, порахам, кулямі, рознай амуніцыяй, а найбольш харчамі, для здабывання Смаленска.

У гэтым жа 1633 годзе. Месяца чэрвеня, 2 дня з наканавання Божага і з ласкі караля ягамосці Уладзіслава вернуты да набажэнства магілёўскія цэрквы, якія ўсе былі пазамыканы і апячатаны, гадоў 30 застаючыся без набажэнства. Пан Бог будзе судзіць за занядбанне Яго святой славы. А царква Узнясення Святога Крыжа, гэта значыць Уздзвіжання Чэснага Крыжа, вернута праз год пасля гэтага. Пра тое, як жылося ў час закрыцця святых цэркваў набожным праваслаўным людзям, у творах і летапісах не ўдалося адшукаць ніякіх звестак. Толькі гэта прыйшлося чуць ад старэйшых людзей, што была на выгане, на Віленскім тракце, драўляная хібарка, дзе ў дзень Хрыстова Уваскрэсення благаверны святар, калі збіраліся набожныя людзі, адпраўляў святую літургію, а тады уніяты, ці жаўнеры, напаўшы, людзей разагналі і ў час самай імшы згаданага святара забралі і, звязаўшы, бог ведае куды яго завезлі. Толькі была такая чутка, што быў мучаны, а потым трапіў у кіеўскія пячоры. А прозвішчам той святар быў Зара.

У год 1633. Месяца чэрвеня, 10 дня, у час крыжовага ходу Святой Тройцы пан Бог пасля той радасці, што былі вернуты Божыя цэрквы, адведаў смуткам. Вялікая колькасць людзей, якія плылі паромам на другі бераг Дняпра да Святой Тройцы на набажэнства, патанула. Гаварылі старэйшыя людзі, што гэта уніяты ад зайздрасці ноччу падрэзалі паром. Пан Бог гэта рассудзіць. У гэтым жа годзе Сухадольскі здаў Самсаноўскаму магілёўскае ландвойтаўства. У гэтым жа годзе згарэў Магілёўскі замак.

У год 1636. Месяца жніўня, 1 дня, пасля гэтай духоўнай вайны, што вялі супраць святой праўды і дагматаў права-

слаўнай веры тыя кажаны, альбо уніяты, Брацкая царква асвечана, гэта значыць усё брацтва магілёўскіх месцічаў, запаліўшы ў сваіх сэрцах агонь, падахвочаныя Святым Духам і ўзрушаныя Божаю міласцю, з дастаткаў сваіх убогіх такі слаўны будынак царквы Святога Багаяўлення, альбо, дакладней, па-руску, Хрышчэння ў Іярдане, з правага боку паслання Святога Духа, а з левага — нараджэння найсвяцейшай панны, пачаўшы, збудавалі і свяцілі. Аднак жа з дакументаў, што належаць Брацкай царкве, аказваецца, што калятарамі[15] збудавання гэтай царквы былі Агінскія, якія, застаючыся ў гэты час у праваслаўнай веры, аддалі на збудаванне царквы і на Славу Божую шмат грошай і старанняў.

У год 1648. Месяца мая, 20 дня, адпанаваўшы шчасліва на Польскім каралеўстве 16 гадоў, Уладзіслаў IV, кароль польскі, замяніў жыццё на смерць, а ў час яго панавання і брама, якая называецца Алейнай, у нейкім годзе збудавана. А пасля смерці Уладзіслава абралі каралём Казімера.

У гэтым жа годзе ўзняўся згубны вецер супраць манарха і Рэчы Паспалітай як Польскай, так і Вялікага княства Літоўскага. Багдан Хмяльніцкі, які ў многіх бітвах супраць палякаў даказваў рыцарства, Украіну ад польскага падданства вызваліў. Што ў гэты час адбывалася, адсылаю я да наступных летапісцаў. Праз год пасля гэтага меў Хмяльніцкі пад Пілавай[16] бітву з польскімі гетманамі Патоцкім і Каліноўскім, а пад Збаражам[17] былі заключаны з казакамі дагаворы.

У год 1654. Маскоўскае войска наступіла, сіле якога горад Магілёў не змог працівіцца, быў вымушаны паводле рады правялебнага ў Бозе айца Іаіля Труцэвіча, ігумена Куцеінскага манастыра, паддацца. Яго маскоўскі цар з усёю браццяю-манахамі, і каштоўны алтар з Куцеінскай царквы, гадзіннік таксама, вывез за Маскву, пад Вялікі Ноўгарад, міль за 30 ад Ноўгарада, а ад маскоўскай сталіцы міль 120, на востраў, на возера, якое называецца Святым. Там жа за вялікія грошы маскоўскага патрыярха Нікана манастыр з замкам і горад, названы Валдаем, на беразе заклаў і польскімі людзьмі засяліў.

У гэтым жа годзе месяца лютага, 6 дня маскоўцы пад Шапялевічамі разграмілі Радзівіла. Пакуль Радзівіл цягнуўся пад Магілёў, там жа, каля Новага Быхава, натрапіў ён на Залатарэнку, дзе з ім і змагаўся. Потым пад Старым Быхавам Залатарэнку забілі.

У год 1655. Цела гэтага Залатарэнкі з помпай праводзілі ў Корсунь, дзе яго пышна ў драўлянай царкве і хавалі, што на

яго стан і не варта было б. Ад катафалка загарэлася царква, а людзі, ціснучыся, пазачынялі царкоўныя дзверы, толькі самога Хмяльніцкага выцягнулі, а ўвесь народ, безліч яго, згарэў у попел, толькі потым назбіралі некалькі скрынак пагарэлых падковаў. Такое няшчасце пан Бог дапусціў, што, як гэта гавораць, пры сухім і сырое гарыць.

У год 1655. Месяца лютага, 6 дня, на святога Міколу, рушыўся Радзівіл з Шапялевіч да Магілёва, а Паклонскі хацеў узяць горад раней, з-за чаго магілёўцы, асцерагаючыся, пахаваліся за вал, бо такога замка яшчэ не было. Хутка пасля яго падышоў князь Радзівіл, тыдняў дванаццаць рабіў розныя штурмы, як мог здабываў горад падкопамі, нават гусарыю, глумячыся над ёю, гнаў на штурм, хацеў зраўняць горад з зямлёю. Аж з ласкавым умяшаннем найсвяцейшай панны Марыі, маткі Божай, якая свае гарачыя малітвы і найдаражэйшыя слёзы скіроўвала да маестату Божага, застаўся горад цэлым, якім ён яўлены на абразе найсвяцейшай панны Марыі, што знаходзіцца ў Брацкай царкве. А гэтае цудоўнае яўленне было ў годзе 1655, 19 сакавіка, на святых Фрысанфа і Дар'і. Явіўся гэты абраз у адной удавы-бабкі, пякаркі, якая ў гэты час жыла на тым месцы, якое мы цяпер называем капліцай Яўлення Іконы. Была на гэтым месцы, дзе цяпер архірэйскі сад, драўляная капліца, ад якой цяпер і следу няма, а толькі выбудаваны ў два паверхі дом, унізе якога крамы, а наверсе — пакоі. І явіўся гэты цудоўны абраз якраз тады, калі Радзівіл, не могучы здабыць горад, зрабіў пад яго падкопы і, уставіўшы ў іх некалькі дзесяткаў бочак пораху, хацеў узарваць вал. І калі ўжо ўсё войска стаяла напагатове, чакаючы ўзрыву горада, у гэты час гэтая белагаловая, каб выратаваць канец свайго жыцця, горача малілася перад абразом найсвяцейшай панны. А ў той час, калі пад горадам быў запалены порах, яна ўбачыла, што з абраза цякуць слёзы. І малітвамі найсвяцейшай панны гэтая Божая кара адступілася ад горада, а абярнулася на вайсковы люд, што горад здабывалі. І многа паспалітых людзей у час гэтага ўзрыву загінула, а горад з людзьмі засталіся цэлымі, і адступіў Радзівіл. Потым пачуў Радзівіл пра маскоўскае войска і казака Каробку, якія ішлі на дапамогу гораду, бо ў гэты час маскоўцы трымалі горад і на трыумф у горадзе з гарматаў біць пачата. Затрывожыўся Радзівіл, не ведаючы, адкуль яны маглі мець пра гэта вестку.

У гэтым жа годзе, а менавіта 2 мая, Радзівіл, загадаўшы выпаліць усе прадмесці, павярнуўся наўцёкі і многа людзей роз-

ных станаў за сабою ў чужыя землі забраў блукаць і ўсе прадмесці спустошыў, абрабаваў і зруйнаваў.

Перш чым прыйшоў Радзівіл да Магілёва, Паклонскі, сабраўшы скуль мог гультайства, уцешыўшы сябе фантазіяй узбагаціцца з рабунку, задумаў вывесці жыдоў як бы ў Літву і загадаў усім жыдам рыхтавацца ў дарогу. А яны, выбіраючыся са сваімі скарбамі, дзе маглі хавалі залатыя дукаты, у хлябы запякалі, жанчыны і дзяўчаты ў косы запляталі. І так вывеўшы за Пячорск, усіх жыдоў загадаў пасекчы і ў магілы (капцы якіх ёсць і сёння) пазасыпалі і многа ў іх багаццяў пазнаходзілі. Многа таксама ў гэты час жыдоў, што засталіся, якія не пайшлі з Паклонскім да Літвы, пахрысціліся, з якіх і дзесятая частка не памерлі ў хрысціянстве, ізноў потым іудзеямі сталі. Сцвярджаюць, што гэты Паклонскі быў паповіч з Чарнігава. А жыды магілёўцы і зараз адзначаюць гадавіны па загубленых, ходзяць за Пячорск на іх капцы плакаць.

У год 1655. Хутка пасля адступлення Радзівіла прыцягнуўся да Магілёва з вялікім войскам маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч, які, пабыўшы тут толькі адзін дзень, пайшоў пад Вільню, Вільню ўзяўшы, падышоў пад Рыгу. Рыжане быццам бы падвялі падкоп пад палатку, дзе спыніўся цар, але яго папярэдзілі, і ён адступіў ад Рыгі. А так далася Рыга маскоўцам у знакі, што акружылі яе і спераду, і з тылу. А калі маскоўцы стругі цягнулі, то навучыліся прыгаворваць: «Братцы осударі, сматрыця, гаріць гэтая блядь Рыга, правда, её чорт выдумал». А калі ж плылі стругамі з гарматамі і з правіянтам, не так спявалі, плывучы да Рыгі: «Правда ету Рыгу Бог выдумал, погребай, погребай, да за гушчу, сухаркі в галавах, квасок у нагах», — чаго і цяпер успамінаць не любяць. А пасля гэтага за год і Шклоўскую браму муравацць пачалі. Вярнуўшыся тады з-пад Рыгі да Магілёва, стаяў цар ягамосць два тыдні ў Магілёве.

У год 1657. Брацкую званіцу, фундамент якой быў закладзены перад гэтым, а ў аблогу разабраны для абароны, мураваць пачалі.

У год 1659. Прыцягнуліся да Магілёва тры маскоўскія ваяводы, адзін з якіх — Даўгарукі. Гэты загадаў высекчы ў Магілёве сады, па якой прычыне, няма вестак. Другі — Лабаноўскі, трэці — Сямён Данілавіч Змееў. Адсюль гэтыя трое з войскам падступілі пад Быхаў, стаялі тыдняў трыццаць, а потым з-за здрады і намовы Ільінічаў, Рачкоўскіх і Шульцаў на святую пакутніцу Барбару здаўся горад. Пасля зда-

чы горада Быхава ўвесь люд у горадзе быў высечаны пад корань.

У гэтым жа годзе. Пад Брэстам князь Сямён Урусаў з маскоўскім войскам быў моцна насеў на польскае, якога прасілі на некалькі дзён перадышкі і які не даў, а сказаў: «Нам в Брэстю заговлять». Так і загавелі, што да аднаго палеглі на полі бітвы.

У год 1660. Гетман Чарнецкі, ваявода рускі, і Сапега, гетман літоўскі, на Палонцы, пад Ляхавічамі, дашчэнту разбілі Хаванскага. А, скажам, рупліўца-воін Змееў, спачуваючы яго паразе пад Ляхавічамі, загадаў намаляваць гэтую бітву мастаку Марыяну, італьянцу, які ў той час у сваім доме жыў у Магілёве, там, дзе ва ўласнасцях магілёўскіх ксяндзоў-езуітаў пабудавана Тычынава камяніца. Выпісаў ён тады гэта па-маскоўску, паказаўшы сутычкі гусарыі панцырнай, казацкай, райтарскай, венгерскай, драгунскай і іншых як след, як уборам, так і дзеяннем, з рыштункам харугвы літоўскія і каронныя, маскоўскія, таксама конных райтараў і салдатаў. Толькі здалося Змееву, што неяк не па форме ў маскоўцаў уборы, таму, сеўшы каля карціны, гаворыць мастаку: «Марыян, такія тут у цябе прамыя, хітрыя ляхавскія глаза (гэта значыць, вочы), нашых тут хужэй выпісал, а сваіх ляхов лучшы, а калі б сам быў у гэтай бітве, дазнаўся б самой сутнасці».

У гэтым жа годзе. Магілёўская брама, якую мы называем Каралеўскай, дакончана, змуравана і накрыта.

Адтуль уцякаючы, быў Хаванскі біты, пачынаючы ад Друцка аж да Чарэі, аж прыходзіць царская грамата, у якой жадаў цар ведаць пра бітву, як Хаванскага пад Кушлікамі Кміціц, Чарнаўскі і Лісоўскі пабілі.

Чарнецкі тады з Сапегам у гэтым жа годзе, месяца чэрвеня, 18 дня прыйшлі пад Магілёў, у Пятроўку. Чарнецкі стаў лагерам на гары ў Буйнічах, а Сапега за Лупалавам, за гарою, потым пабудавалі на Дняпры мост і для абароны маста ўмацавалі гарадок. Потым з горада маскоўцы і ахвотнікі-гараджане пайшлі раскапаць гарадок і разбурыць мост, якіх Сапегава войска, якое ішло ад Мышаковай гары, прыціснуюўшы да берага, днём пасцінала ўсіх пад корань і патапіла. А потым усе прадмесці, дорага брусаваныя цэрквы Успення найсвяцейшай панны Марыі і новазбудаваную Пакрова і іншыя папалілі, цэлаю засталася толькі Узнясення Святога Крыжа, хоць і яна была некалькі разоў запалена, але адратавана. У гэтым жа годзе меў Даўгарукі з Чарнецкім і

Сапегам бітву на Басі-рэчцы, дзе таксама быў і Аскірка, там Даўгарукага разбілі.

У год 1660. У Магілёве гвалтоўна забілі Ганжэўскага-Корвіна, за якога пяцёра паноў асуджана на ганебную смерць. Іх імёнаў, дзеля пакінутых дзетак, я не змяшчаю.

У год 1661. У Копысі губернатар пан Скарбэк загадаў пану Бахановічу, паручніку, чалавек сто дваццаць магілёўцаў, якія там гандлявалі, забіць і пад лёд утапіць.

У год 1661. Месяца лютага, 1 дня, на святога Трыфана, высеклі ў Магілёве гараджане-магілёўцы маскоўскі гарнізон, а траіх ваяводаў, Сямёна Савіча Гарчакова, Мацвея Андрэевіча Палуэктава і Сямёна Іванавіча Чэкіна, стралецкага галаву, паланілі і да караля Яна Казімера з пасланымі ад горада панамі Пятром Казановічам, войтам, Базылём Леашкевічам, Юзафам Порам, бурмістрамі, адвезлі і аддалі. За такую значную паслугу і адвагу для ўсёй Рэчы Паспалітай і пячатку вялікую гораду зацвердзілі: на чырвоным полі адчыненая брама і ў ёй тры вежы, узброены рыцар з узнятым мечам, а наверсе, над сярэдняй вежай, літоўская пагоня з надпісам круга ў лацінскай мове: «Sigillum civitatis Mohiloviensis»[18], як тут бачыш. Гэтага вынішчэння маскоўскага гарнізона з рады на той час галоўных гараджан атаманам быў Пора, бурмістр, са сваімі памочнікамі на такое адважнымі. Аднак была тады і таемная змова паміж гараджанамі, што кожны гаспадар ноччу ў сваёй гасподзе выкруціць салдату з ружжа крэмень. І калі ўжо надыходзілі час і гадзіна, Пора, бурмістр, меў схаваны пад адзеннем катаўскі палаш, а калі ўбачыў, што маскалі гвалтам адбіраюць пірагі ў гарадскіх пякарак, перахрысціўся і пачаў маскоўцаў секчы, а гэтым часам на гвалт у брацкі звон ударылі, стаў галас, разруха, бойка, вайна. І пачалі былі маскоўцы браць верх, але нейкі гараджанін адамкнуў турму, у якой знаходзілася многа вязняў палякаў. Гэтыя вязні добра дапамаглі, бо за некалькі гадзін маскоўцаў збілі і абрабавалі. І так большую частку тут, дзе на Самусёвай гары стаіць крыж, голымі пахавалі, а частку каля Пакроўскага шпіталя, дзе лужына, а другіх пахавалі дзе было можна. Гараджан у гэтай бітве загінула мала, толькі некаторых паранілі. Герб за гэтыя заслугі такі гораду дараваны[19].

У гэтым жа годзе. Летам рабілі маскоўцы з Быхава наезды на Уструшню. А тады з горада баявая варта, якой у гэты час было некалькі сотняў, і ахвочыя гараджане легкадумна пайшлі на іх. А маскоўцы ж, зрабіўшы засаду, усіх пагалоўна

пасеклі і толькі некаторых, якія пакідалі зброю, жывымі забралі ў Быхаў. А купцоў, што заехалі у Смаленск пагандляваць, пакавалі і тавары ў іх паадбіралі. А было іх усіх пяцьдзесят чалавек, і сядзелі яны ў палоне два гады. І хацеў іх ваявода Рэпнін павесіць. Але з Божай ласкі і найсвяцейшай панны Марыі ягамосць пан Сурын, палкоўнік яго каралеўскай мосці, пайшоўшы ў дазор, трапіў пад Бранскам (хоць і не запрошаны) на вяселле да князя Мяшчэрскага і да другіх вядомых людзей, што на вяселлі балявалі, запрасіў іх да сябе на пераносіны, хоць ім за граніцу і не хацелася, і трымаў іх у сябе і мучыў колькі мог. Бачачы тады невыносныя мукі гэтых палоненых вязняў, вымушаны былі іх крэўныя ў палкоўніка за вялікія грошы і ў абмен на нашых купцоў, пакаваных у Смаленску, выкупіць.

Зноў Хаванскі з Пацам, які ў гэты час быў рэйментарам[20], меў пад Віцебскам, на Вобалі, такую вялікую бітву, што Хаванскага разбілі дашчэнту. І калі б сам Хаванскі не схаваўся пад мост, быў бы палонены. Пазней ён, калі прыйшла ад цара грамата, каб паведаміў пра бітву, так загадаў паддзячаму: «Пішы, што быў роўны бой з панам Пацам, да д'ябла роўны, калі пад мост схаваўся». Потым гэтаму ж Пацу, калі ўжо стаў гетманам, трапілася, што быў злоўлены маскаль-шпег, якога ён загадаў павесіць. Паслаў Пац да яго жаўнера, каб спытаўся, як бы хацеў памерці. Той адказаў: «Право, ни на что охота не берет». І так, дзеля смеху, вызвалілі яго ад смерці.

У год 1664. Месяца лютага, 24, на першым тыдні Вялікага посту, адведаў пан Бог горад агнём. Пачало гарэць ад дома Савы Ціхенкіна, дзе цяпер за важніцаю камяніца. Крамы пагарэлі ўсе, а дамоў мала.

У гэтым жа годзе. Месяца сакавіка, 20 дня прыйшоў з-за пушчы кароль Ян Казімер. Потым, пры ягонай бытнасці, месяца aprila, 6 дня ізноў адведаў пан Бог горад агнём ад дома, што недалёка ратушы, дзе ў той час жыў Гаўрыла Прэкста, а цяпер камяніца Васілеўскіх (якая ў 1740 годзе разабрана і аддадзена на змураванне кармеліцкага касцёла). Тады згарэлі ратуша, крамы, царква і званіца, а званы нават паплавіліся. Гарэла аж да жаночага манастыра, у якім была цудоўная студня, ад таго часу згінула. Кароль жа, бачачы, што пры ягонай бытнасці гораду нешчасліціць, месяца красавіка, восьмага дня ад'ехаў з горада.

У год 1665. Зімой ізноў адведаў пан Бог горад агнём. Каля сабора святога Спаса пагарэлі высокія, вельмі каштоўныя будынкі, таксама частка дамоў, а царкву святога Спаса (якая

была збудавана з дрэва, прывезенага з Гвaздоўкі, з бору, дзе цяпер жывуць людзі) дзіўным чынам гараджане з Божаю дапамогаю, снегам кідаючы, адратавалі.

У гэтым жа годзе. Князь Якаў Кудэнекавіч Чаркаскі з Прарароўскім і з Баратынскім аблажылі Копысь і Шклоў. А Міхал Пац, ваявода віленскі, стаў з войскам лагерам пад Шкловам, дзе маскоўцы, патаемна пераправіўшыся праз Дняпро, наступілі вялікім войскам месяца чэрвеня, 15 дня. Гэта бачачы, адступіў гетман да Магілёва, а князь Якаў следам з усім войскам таксама падышоў пад Магілёў, дзе маскоўскія войскі сталі за дальнім валам. З'язджаліся цэлы дзень. А маскоўцы моцна білі з гарматаў аж пад самы горад, туды, дзе са сцяны Шклоўскай брамы глядзелі людзі, і нямала гэтых, што глядзелі, напалохалі, бо брама была яшчэ не накрыта. Бачачы каля горада такую частую стралянiну, назаўтра загадалі гарадскім збройнікам нарыхтаваць разбуральныя гарматы. І калі апоўдні ў лагеры пад намётам князь Якаў Кудэнекавіч з другімі абедаў, гарадскі пушкар навёў з круглай вежы малельні, з бакавога выхаду (бо войска стаяла на Віленскім полі), гарматы і, даўшы агню, забіў князя Якава Кудэнекавіча Чаркаскага. Убачыўшы гэта, затрывожыліся маскоўцы і, забраўшы целы забітых, у тую ж ноч кінуліся наўцёкі. І калі б у гэты час насеў на іх гетман, усіх знішчыў бы пагалоўна. А так прастаяў гетман лагерам за Дуброўнам у дальнім вале тыдняў 14. У бытнасць гэтую гетманаўскую забракавала яму здагадкі, а ў караля Казімера ў той час з'явіліся шэлегі[21].

У год 1655. Палякі ў вёсцы, называнай Андросава, заключылі з Масквою мір на 13 гадоў. Не называю я з абодвух бакоў паноў камісараў, пакідаю гэта, з-за недахопу часу, дасканалейшым летапісцам.

У год 1666. Ягамосць пан Любамірскі ваяваў супраць караля Яна Казімера як быццам з такой прычыны. Каралева, яе мосць Казімерава, мела брата, якога розныя сенатары (што згаварыліся) меліся абраць за караля, а кароль Казімер, яе муж, меўся яму каралеўства ўступіць і ўступіў, пра што будзе ніжэй. Падпісаліся тады панове на такое, чаго ягамосць пан Любамірскі не дазваляў. Каралева, каб Любамірскі падпісаўся, прыдумала такую хітрасць, паабяцала з сабою прыяцельства, што «я за свайго брата вазьму тваю дачку, і так будзе ў Польшчы каралеўнічаць». Любамірскі, згадзіўшыся на такое, падпісаў. Потым, помнячы абяцанне каралевы, доўга не мог прывесці яго да выніку. Бачачы, што з гэтага

нічога не будзе, і прыдумаў хітрасць на хітрасць. Калі кароль Казімер паехаў на курорты, ён, выбраўшы час, з прыхільнымі панамі прыехаў у палац і кажа: «Міласцівая каралева, нямаш тут яшчэ ўсіх». Яна ж, узяўшы арыгінал, паказала яму, які, чытаючы, і пытае: «Калі ж наступіць абяцаная прыязнь?» Аж адказвае каралева: «Як свет светам, не будзе Любамірскі сватам каралевы». Ён, бачачы такі вынік, парваў арыгінал. І так быццам бы з такой прычыны была тая вайна. Праўда гэта ці не, я не ведаю.

У год 1677. Месяца ліпеня, 20 дня, на святога Іллю, ізноў адведаў пан Бог горад агнём. Пагарэлі крамы і частка дамоў. У гэты ж час прыбыў да Магілёва ягамосць айцец Восіп Нелюбовіч Тукальскі, кіеўскі мітрапаліт. Зімаваў у Магілёве, а потым вадою ад'ехаў да Кіева. У Кіеве, у Брацкім манастыры, быў нядоўга, з квадранс, і хутка, не ведаю чаму, ад'ехаў у Чыгірын, дзе жыў з Дарашэнкам, там і памёр. А Дарашэнка, які бунтаваў супраць караля, знюхаўшы нешта не да смаку, перакінуўся да маскоўскага цара Аляксея. Жыў пад маскоўскімі царамі ў спакоі, але не было яму вольна выехаць дзе за граніцу. Згаданы мітрапаліт Тукальскі тры гады сядзеў у Мальборку ў замкавай вежы, а гэта з той прычыны, што быў ён дарадцам адлучэння казакоў ад палякаў. А калі вызваліўся з Мальборка і ехаў да Магілёва, у час ягонай бытнасці ў Вільні, у праваслаўным манастыры, было прывезена з Рыма, з кансервацыі, цела святога Язафата, і з такога выпадку жадалі, каб у праваслаўнай царкве Святога Духа званілі. Тады гэты мітрапаліт, ведаючы, што быў Язафат галоўным непрыяцелем благавернасці, загадаў не званіць. З-за гэтага хацелі ізноў узяць яго ў турму, але ён, папярэджаны, патаемна выехаў з Вільні ў Магілёў.

У год 1668. Кароль Ян Казімер, не ведаю чаму, карону з Польскага каралеўства склаўшы, падаўся ў манастыр, бо і на каралеўства пасля свайго брата Уладзіслава быў узяты з манастыра, а стаўшы каралём, узяў за сябе брату жонку, з-за чаго не вельмі шчасліва вялося ў Польшчы і Літве. Пан Бог гэта ведае. А пасля яго па ваяводствах і паветах каптуры судзілі, таму з-за гэтых судоў, пакуль згадзілася на элекцыю караля, было вельмі цяжка гарадам і мястэчкам, а таксама і розным людзям, якія ў той час мелі справы.

У год 1668. Царкву Узнясення Хрыстова, альбо Пакрова найсвяцейшай панны Марыі, муравацць пачалі, бакавыя скляпенні закончаны потым, у годзе 1687 і пазней.

У год 1669. Вялікі брацкі звон, вядомы як Рэбравічоўскі, адліты. У гэтым жа годзе пачалі мураваць царкву святога Міколы Цудатворцы. У гэтым жа годзе з'явілася брацтва святога Яна Багаслова, гэта значыць меншае брацтва. У гэтым жа годзе рыхтавалі матэрыял, а ў 1670 годзе пачалі мураваць царкву Успення найсвяцейшай панны Марыі.

У год 1670. Міхала Карыбута Вішнявецкага... за караля абралі, верасня, дня 19 каранавалі. Хутка і вайна з туркам паўстала. У гэтым жа годзе Міхал Пац, вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага, атрымаў пад Хоцімам перамогу над туркамі. Пасля гэтага і Камянец-Падольскі страцілі. Пан Бог будзе судзіць, як ён дастаўся турчыну. У гэтым жа годзе дрэвы і птаства, людзі і быдла мёрзлі, а потым настала дарагавізна на збожжа. Нядоўга панаваўшы, кароль Міхал развітаўся са светам, пасля яго ізноў па ваяводствах і паветах, пакуль згадзілася на элекцыю караля, каптуры[22] судзілі.

У гэтых жа вышэйназваных гадах з'явіўся ў турэцкай дзяржаве нейкі самазванец, жыдовін па імені Сапсай Гершанавіч, які называў сябе месіяй і які сваім шарлатанствам ці чарадзействам быў вядомы амаль ва ўсім свеце. Бо калі падыдзе ён пад горад і падман свой пусціць, загадае ў трубы затрубіць народу жыдоўскаму, тады са страху некалькі дзесяткаў гарадоў паддалося. А жыды тыя смярдзючыя былі ў гэта так уверылі, што з жонкамі і з дзецьмі пасцілі, па снезе качаліся, у рэках зімой купаліся. Потым з ласкі Божай і малітвамі канстанцінопальскага патрыярха ў Канстанцінопалі, у царкве, у прысутнасці турэцкага імператара, калі ён быў акаваны і прыведзены, ягоны падман закончыўся. І загадаў імператар злупіць з яго жывога скуру і павесіць на круку. І так псота скончылася, а падманваў чатыры гады, бо стаў чуцён яшчэ ў годзе 1667.

У той жа час, невядома, ці не з-за гэтага д'ябла Сапсая... турэцкія знакі, пачаліся такія страхі. Як у Кароне Польскай і ў Вялікім княстве Літоўскім, так і ў розных краях і гарадах і ў Магілёве няведама кім былі пісаны чырвонай крэйдай надпісы на касцёлах і цэрквах так высока, аж на некалькі сажняў уверх, у скрынях пад замкамі, што ніхто таго напісанага не мог прачытаць. Таксама ў розных месцах людзям, якія выхваляліся, што гэтага страху не баяцца, валасы абстрыглі, бароды мужчынам стрыглі, а нявестам сорамныя члены тады пастрыгалі.

У год 1674. Паказвалі ў Вільні юнака з залатым зубам, паказвалі людзям за грошы, пра што сведчыць ягамосць ксёндз Катовіч; загадаў віленскі біскуп залатніку спрабаваць зуб на

камені з залатым дукатам. А нарадзіўся быў гэты юнак у вёсцы недалёка ад Вільні. Потым ад урокаў адной жанчыны-чараўніцы юнак і матка памерлі.

У год 1676. У месяцы чэрвені Яна III, караля польскага, нам шчаслівага ў панаванні, каранавалі, які, дай Божа, каб шчасліва пануючы, жыў доўгія гады. Avditum[23], за морам немец, які страляў у неба, абярнуўся ў сабаку.

У год 1676. Патрыярхі Паісій александрыйскі, Макарый антыяхійскі былі ў маскоўскай сталіцы ў цара ягамосці Аляксея Міхайлавіча і са згоды маскоўскага патрыярха Іосіфа змянілі ў царкоўных кнігах малітву «Госпадзе Ісусе Хрысце» (Сыне Божы выкінулі). Ад таго часу многія, такога не прымаючы, паканалі смерцю. У гэты ж час у Бароўску спалілі княгіню Урусаву, ужо старую жанчыну, якая за гэтую малітву ішла на агонь як пад вянец. За гэтую ж малітву Салавецкі манастыр праз штурм выразалі. У гэты ж час памёр Аляксей Міхайлавіч, цар маскоўскі. І так з гэтага часу пачалося блюзнерства, якое называюць Піліпаўцамі, і так гэтых блюзнерцаў у розных краінах размножылася... У гэтым жа годзе моцна выгарала Рыга, але магілёўскім купцам мала што нашкодзіла.

У год 1678. Горад Старадуб і вал з дубовага дрэва згарэлі.

У год 1679. 24 чэрвеня, на святы Ян, адабраў горад ад жыда Лейбы Зушманавіча карчму. У гэтым жа годзе месяца septembra, дня 9 пачалі мураваць ратушу, дзе, капаючы пад фундамент вялікія ямы, пазнаходзілі мноства быдлячых касцей. У гэтым жа годзе быў на рагатае быдла вялікі паморак.

У год 1681. На рымскае Божае Нараджэнне з'явілася з зоркі страшна вялікая камета, якая ўсяму свету была бачна, і відна яна была некалькі тыдняў. Праз год пасля гэтага ў Маскве пасеклі самых знакамітых баяраў, з палацаў выкідвалі безліч, шкадуючы час, не называю я гэтых людзей.

У гэтым жа годзе. Перад Дзесятаю Пятніцаю[24] гаспадарылі страшныя перуны; у Камаровічах, пад Крычавам, забіта рагатага быдла 113 галоў, што мы самі бачылі. У гэтым жа годзе ў Маляцічах у возеры выбіты ляшчы, і кожны ў правы бок. Усё гэта як быдла, так і рыба, каб не смярдзелі, пазакопвана ў зямлю.

У год 1682. Міхал Пац, ваявода віленскі, гетман Вялікага княства Літоўскага, дасканалы палкаводзец і знаўца ў ваенных справах, развітаўся са светам. Даўся гэты палкаводзец у знакі розным народам, нямецкім, туркам, татарам, і маскаль яго некалькі соцень гадоў не забудзе, якому дай, Божа, веч-

ную святасць. У гэты ж час былі багатыя ўраджаі, што мерка жыта ў 10 гарнцаў[25] каштавала па 13 і 14 грошаў.

У гэтым жа годзе. На малым кавалку... езуіты, з пратэкцыі ксяндза Здановіча, у той час магілёўскага плябана[26], заселі ў Магілёве, а потым, час ад часу пашыраючыся, за нашым векам рознымі спосабамі набылі за валам амаль чацвёртую частку гарадскіх зямель і абнесліся кругом мурам.

У гэтым жа годзе. Туркі, падкапаўшыся пад раку Цясмін, зруйнавалі з зямлі горад Чыгірын, украінскую сталіцу, што была пад уладаю Масквы.

У год 1683. За мілю ад Магілёва, у вёсцы пана Каркоўскага Катушы, нарадзіўся вырадак жаночага полу з дзвюма галовамі і адным целам, які нежывы быў паказваны ў Магілёве ў касцёле і якога невядома дзе закапалі.

У гэтым жа годзе 1683. Месяца жніўня, 10 дня ў Свінску на ярмарцы пагарэла невымоўнае мноства купцоў з розных народаў: грэцкіх, рускіх, маскоўскіх і іншых, якіх і пералічыць цяжка. Там жа стала людзям вялікая страта ў гандлі, і маскоўскіх людзей пагарэла нямала.

У год 1684. У верасні пад Венай атрымана з вялікім трыумфам палякамі перамога над туркам.

У гэтым жа годзе 1 кастрычніка, на святы Пакроў, праз пажар на кірмашы ў Астравенскім, розныя купцы панеслі страты, а некаторыя прайшлі і да значнай беднасці.

У гэтым жа годзе 1684. Камісары, ягамосць пан Гжымалтоўскі, пазнанскі ваявода, ягамосць пан Агінскі, канцлер Вялікага княства Літоўскага, ягамосць пан Гэмбіцкі, стараста ускі[27], ягамосць пан Пшыенмскі, стараста калішскі, што ездзілі ў Маскву дамаўляцца аб вечным міры, вярнуліся назад. А ў Маскву ехалі ў 1683 годзе. У гэтым жа годзе баярын Чадаеў, другі — Шарамецьеў, трэці — Волкаў, маскоўскія камісары, ехалі ў Польшчу.

У гэтым жа годзе. У Магілёве за валам, на Шклоўскай вуліцы, жыдоўка па імені Шэйна, дачка чашніцкага арандатара Вульфа, жонка Азіка Габрыяловіча, нарадзіла дзіця нечалавечага выгляду, з кіпцюрамі, падобнае на калматае медзведзянё. Гэтага вырадка жывога тут да д'ябла і закапалі.

У год 1685. У вёсцы Бардзілах гусарскі таварыш Бардзілоўскіх напаў на стрыечнага брата Захара Бардзілоўскага і забіў, а потым каля Лубужы ў Дняпры ўтапіў. Потым Бардзілоўскія, сабраўшыся, ноччу, перад світанкам, ягоны дом аблажылі саломай і запалілі, а самі з-за завалу з ружжа за-

стрэлілі яго самога і Залескага, які там гасцяваў. І так гэты труп у агонь укінулі, а чэлядзь паўцякала, а труп тапельца быў знойдзены ў Магілёве.

У год 1686. У Магілёве, у самім горадзе, было мноства рысяў, якіх некалькі дзесяткаў забіта на прадмесці і ў горадзе некалькі забіта, а гэта, напэўна, з незвычайна вялікіх снягоў (бо ў гэтую зіму гаспадарылі шчодрыя снягі і лютыя маразы), што не маглі мышкаваць, а магчыма таксама і з якой іншай прычыны.

У гэтым жа годзе памерлі айцы-намінанты Трызна і Валчанскі. У гэтым жа годзе вясною была нечувана вялікая паводка. У гэтым жа годзе з'явілася каваная д'ябальская фальшывая манета, якая моцна нашкодзіла людзям у гандлі і нямала з-за недахопу і на здароўе.

У год 1688. З напісанага авізо[28] зрабіў я для памяці копію. У Неапалітанскім каралеўстве, у святочны калядны дзень, адбылося нечуванае і страшнае трасенне зямлі..., бо ў самім слаўным горадзе Неапалі зруйнавала самыя слаўныя касцёлы і каля тысячы палацаў, ...дамоў, духоўных камяніц. У час такога жахлівага трасення, якое працягвалася да віншавання панны Марыі[29], зямля ў розных месцах трэскалася і правальвалася, горы і скалы разыходзіліся, торачы енкі і мукі ... у людзях і неацэнныя страты. Inter alias[30]: касцёл айцоў езуітаў упаў разам з купалам і з тысячы людзей забіў трох айцоў езуітаў. І не толькі ў Неапалі нарабіла такой вялікай бяды, але і ў іншых гарадах гэтага каралеўства і ў другіх месцах. Горад, званы Беневента, праваліўся цалкам, акрамя аднаго касцёла, дзе цудоўным Божым чынам кардынал Гравані, біскуп гэтага горада, крыху паранены, выратаваўся. Лічаць, што ў гэтым горадзе загінула каля васьмі тысяч чалавек. Аднак у самым Неапалі не маглі яшчэ ведаць лічбы загінуўшых, толькі знойдзена іх сярод руінаў нямала. Пашырыўшыся потым далей па Неапалітанскім каралеўстве, гэтае трасенне зямлі, акрамя шкоды, што нарабіла ў горадзе Капны і ў другіх гарадах, вывернула з грунту чатыры воласці князя Міланскага. Вось проста такая гісторыя. Каля тысячы гадоў не пішуць пра такое страшнае трасенне зямлі. І думалі ўсе, што наступіў гэта ўжо дзень Божага Суда. Дасталося таксама гэтага трасення і Рымскай зямлі, толькі тут было яно слабейшым і з меншай шкодай. Болей нашкодзіла ў Ферары, бо ў гэты ж час тут, як і ў самім Рыме, бесперапынна панавалі дажджы, вятрыскі і халады, што было вельмі страшна.

У гэтым жа 1688 годзе. У месяцы маі і чэрвені спалена ў Быхаве каля дзесяці чараўнікоў, а іншыя паўцякалі на Украіну, імёнаў іх, дзеля нашчадкаў, я не называю. У гэтым жа годзе 1 верасня абвалілася ратушная вежа, змураваная ўжо на сорак локцяў вышэй за самую ратушу. З гэтага друзу змураваны цэйхгаўз, а вежа змуравана нанова.

У гэтым жа 1688 годзе. Паводле заключаных дагавораў з каралём, панам нашым міласцівым, выправілі іх мосці царове на Крым гетмана маскоўскіх войскаў Васіля Васілевіча Галіцына, пляменніка іх царскіх вялікасцяў, з Іванам Паповічам, тады ўжо былым северскім гетманам. Калі яны зайшлі за Сумар-раку, пад замак, пастаўлены над гэтаю ж ракою, называны Багародзічын горад, згаварылі на Паповіча нейкую здраду і яго, узяўшы, закавалі і з сынамі вярнулі назад. Паповіча саслалі ў Сібір, а Рыгору, яго сыну, загадалі адсекчы галаву, Якава, малодшага сына, цесць пан Швайкоўскі выкупіў. Пасля гэтага казакі, бачачы зычлівасць Мазепы, адзінадушна абралі яго гетманам, пра якога будзе напісана ніжэй.

Тады маскоўскія царове, выпрабоўваючы вернасць новаабранага гетмана, выправілі на наступны год ізноў гэтага ж Галіцына з гетманам Мазепам, якія добрасумленна пайшлі на нечуваную адвеку вайну, бо, каб хто да Крыма дайшоў, і хронікі пра тое не сведчаць. Прыйшоўшы да Перакопа, сталі яны з войскам на полі, называным Бычыным востравам альбо Малочным полем, а паганыя, убачыўшы з перакопскіх валоў такую нечуваную на сябе навалу, пачалі самі, як дзяўчаты, так і жанчыны, сябе забіваць, тапіць і вешаць. А хан з мужамі, з жанчынамі, пасля амавення, пачаў перагаворы, і так у п'яных размовах падарункамі, засыпаўшы ў бочках медныя пласціны золатам, сквапнага палкаводца Галіцына ашукалі. Тады царове, даведаўшыся, што паквапіўся Галіцын на ласунак, бочкі з меднымі пласцінамі, засыпаныя залатымі дукатамі, пазабіраў, а Галіцына, акаваўшы, загадаў заслаць туды ж, куды і Паповіча, і яшчэ ў сто разоў горшае месца.

У год 1688. У Варшаве на вальным сейме аб'явіўся супраць пана Бога, супраць Яго святой волі, блюзнерца, атэіста па прозвішчы Лышчынскі, брэсцкі падсудак, якога, хоць і бунтаваў, асуджана на агонь і спалена. Блюзнерства яго было цяжка і слухаць, якое я, каб не распуснічаць, апісваць пакідаю. У гэтым жа годзе, у маі, быў адліты звон царквы святога Міколы.

У год 1690. З Божай кары на Украіне, за Дняпром і на Севершчыне, таксама на Палессі і каля Слуцка на Чорнай Русі,

саранчы, адвеку малачуванай, так было многа, што калі яна на што нападала, ці на збожжа якое, ці на травы, то ўсё з'ядала, што не было чаго ані жаць, ані касіць. Каля Магілёва і ў горадзе яна нічога не шкодзіла. Аднак жа злавіў я ў самім горадзе такую вялікую, як малы палец на руцэ, галава, як лясны арэх, прадаўгаватая, вочы, як гарчычнае зерне, зубы белыя, вострыя, як канец іголкі, крылаў чатыры, ног шэсць, пярэднія меншыя, сярэднія большыя, а заднія — як у вераб'я, таўсцейныя і даўжэйшыя. І калі б пан Бог не даў дажджоў, то за некалькі дзесяткаў тыдняў моцна яна і ў нас нашкодзіла б, аж з макрэчы ўся пагінула, што было тут яшчэ і ў мінулым годзе, чаго я сам сведка.

У гэтым жа годзе перанёс кароль ягамосць мошчы святога Яна Сачаўскага з Сачавы ў Стрый, а потым у Жоўкву, дзе яны і цяпер застаюцца.

У гэтым жа годзе. Пан Бог адведаў агнём горад Шклоў, амаль увесь замак з вялікай вежай, фара і крамы пагарэлі. Пасля гэтага, месяца 15 жніўня, панамар Даніла забыўся патушыць у царкве свечкі, ад якіх згарэла багатая шклоўская царква з усімі скарбамі: кнігамі, начыннем, званамі, нічагусенька не засталося. І так гэты здрайца ўцёк, бо быў бы сам спалены.

У год 1692. Кароль ягамосць, пан наш міласцівы, з сілаю каронных і літоўскіх войскаў хадзілі на туркаў і Арду, дзе, прайшоўшы валашскія землі каля гарадоў Сачавы і Ясы і пакінуўшы ў замку, называным Немец, гарнізон, пусціліся шукаць непрыяцеля далей. А да таго яшчэ неспадзявана, знянацку, выпаў страшэнна вялікі снег, і так ад голаду, без корму, коні іх паздыхалі, і самі таксама досыць нацярпеліся голаду. Нямала людзей тады загінула. Папакідаўшы падводы, намёты і другія беззваротныя скарбы, у вялікай нэндзы вярнуліся назад, адкуль таварыства прыходзіла і пешшу.

Годную да ведама рэч тут запісаў я. Каля маскоўскай сталіцы, у адным гарадку, жанчына, будучы цяжарнай, калі прыйшоў час родаў, некалькі дзён цяжка мучылася, а калі ўжо не мела надзеі быць жывою, загадала прывесці святара, каб перад смерцю паспавядаў, тут жа адказала спаведніку сто рублёў, калі б памерла, і так з вялікага болю ў гэты ж самы дзень памерла, якую, каб не трымаць у доме, вынеслі ў труне ў царкву. Аднак з Божай ласкі і найсвяцейшай панны Марыі ноччу разрадзілася. І калі званар прыйшоў званіць да ютрані, то пачуў, як стогне жанчына і дзіця плача, і так бягом, хуценька даў пра гэта ведаць папу, што яны, з Божай ласкі, жывыя. Пас-

ля такой весткі гэты няўдзячны поп, спакушаны сквапнасцю, убег у царкву і паленам, ці завалам, якім падпіралі царкоўныя дзверы, яе з-за завешчаных грошай забіў. Яго тут жа злоўлена і ў сталіцу адпраўлена, а потым царкоўны сан адабрана і жывым спалена.

У год 1692. Французскі кароль, маючы змову з туркам, падкупіў быццам бы грашыма гетмана англійскага караля і галандцаў, аднак змова была папярэджана англійскім каралём і ліквідавана. Між тым галандскія і англійскія караблі, быццам бы ўжо як прыхільнікі французаў, разыгралі бітву, а потым, вывесіўшы харугвы крывавага колеру, ударылі на француза і знішчылі 35 караблёў. Пазней розныя на француза сваякі атрымалі перамогу і на зямлі. У час гэтай вайны з-за таго, што не было шляху па моры, бочка солі каштавала па пяць і болей талераў.

У гэтым жа годзе ў Польскім каралеўстве з'явіліся між маскоўскім і польскім манархамі махляры, якія падрабілі царскія пячаткі. Пісалі па розных выпадках да ягамосці караля лісты, пабуджаючы манархаў да варожасці. Між іншым, гэтая хімера быццам бы была знойдзена ў Польшчы, у манашскай расе лжэзаконніка па імені Саламон, у яго ж і пячаткі былі знойдзены. Закаванага яго прывезлі ў Магілёў, і ён доўга сядзеў у замку. Потым быў ён аддадзены царам іх мосцям, якога ў Маскве мучылі і пакаралі ганебнай смерцю. З-за гэтага здрайцы невіноўны пан Дамарацкі выцерпеў вялікія пакуты, якога кароль ягамосць з Масквы выкупіў і як пан міласэрны ўзнагародзіў, як яму і належала.

У тыя ж часы і перад гэтым некалькі дзесяткаў гадоў быў з дазволу караля ягамосці за Кіевам вартавым татарскіх межаў Сямён Палей, які пусты Фастаў засяліў людзьмі і збудаваў замак і татарам не дзесяць разоў даўся ў знакі, за што яго арда называла д'яблам. Шкадуючы час, аб гэтым я апускаю.

У год 1694. Месяца жніўня, 11 дня па старым календары, у мястэчку, названым Крэнпак, які належаў Спіскай сталіцы, выпаў такі вялікі град, што людзям, дамам, збожжу і другім рэчам нарабіў нечуваныя шкоды, столі ў хатах папрабіваў. І нечуваныя цуды на свеце ў розных народах адбыліся, пра што будзе напісана ніжэй. А што маляваныя знакі з друкаваных авізо былі напісаны, то я сам бачыў.

У горадзе Магілёве ў гэтым жа 1694 годзе, месяца жніўня, 11 дня па рускім календары, у суботні дзень, а другой гадзіне папалудні, наплыла нечакана з паўночнага боку такая страш-

ная, цёмная і вялікая, як ноч, хмара, якая навяла жах як на горад, так і на ваколіцы, мястэчкі і вёскі чутнымі і бачанымі грымотамі, градам, які спачатку падаў дзіўнага выгляду, як чатырохвугольны арэх. Таксама на паветры, у ваколіцах, быў такі вялікі буран, што, ведаем, панскія стадолы, вясковыя хаты з зямлі павырывала, збожжа месцамі з грунту павыбівала. У гэты ж час розныя купцы, якія ехалі з Рыгі, такое ж самае расказвалі, а менавіта — мілі за чатыры ад Рыгі разваліла мураваны замак курляндскага князя. У той жа час расказвалі відныя людзі шляхецкага і купецкага станаў, што ў дарозе карэту пасла прускага князя з коньмі і саміх віхрам так далёка занесла, што ад страху не ведаў, у які бок і ехаць.

У год 1695. Іх мосці маскоўскія царове Іван і Пётр Аляксеевічы паводле веры і выканання сваёй справядлівай прысягі, дадзенай каралю пану і Рэчы Паспалітай абодвух народаў, а асабліва грэка-русам, што былі пад басурманам, таксама будучы ўзрушаны хрысціянскаю міласэрнасцю, выправілі нечуванымі ваеннымі выдаткамі, вадою і сушаю вялікую колькасць людзей, некалькі разоў па сто тысяч, пад горад Азоў. Там жа дзве магутныя каланчы, якія закрывалі выхад з Дона ў мора, і некалькі ланцугоў, замкнутых праз Дон, зламалі і быццам бы няцяжка праход зрабілі. Без перапынку, днём і ноччу, штурмавалі, многа людзей страцілі, страхам горад напоўнілі. Аднак жа толькі лагер добра ўмацаваўшы і пакінуўшы ў ім гарнізон, на зіму, страціўшы мноства людзей і багацця, вярнуліся ў Маскву.

У гэтым жа годзе. Па загадзе выправіла Масква ў Татарскія землі з Шараметам[31] другую, не меншую сілу, маскоўскае і казацкае войска, якія, калі туды ўвайшлі, моцна змураваны замак Казікерман, за Запарожжам, над Дняпром, другі — Дыван, трэці — Ослаў і яшчэ, назвы якіх я не помню, таксама і Стараград, з зямлі вывернулі. Тут жа, пабраўшы гарады, нечуваную здабычу, туркаў, татараў абодвух полаў з дзецьмі вывелі і, пакінуўшы ў невялічкіх замачках гарнізоны, вярнуліся назад. Якія там былі паходы, пакідаю я больш дасведчаным сведкам і летапісцам.

Копія царскага ліста з Азова да найсвяцейшага маскоўскага патрыярха, пісанага ліпеня, 13 дня.

Найсвяцейшаму кір Андрыяну, з Божай ласкі архіепіскапу маскоўскаму і ўсяе Русі і ўсіх краёў патрыярху, ад Найвышэйшага Бога ў святым духу моцнага міру і непахіснага старання вакол царквы Хрыстовай усходняй, здароўя, доўгіх гадоў жыц-

ця і разам душэўнага збавення ад пана Бога ў Святой Тройцы пахваленага ад сэрца жадаем дасягнуць. Як перад гэтым пісана ў нашай вестцы Вашай Светласці, аб цэласці здароўя нашага і дастаткова аб працах нашых паведамлена, а цяпер знамянуем ласкай Бога ўсявышняга хвалебнага і малітвамі найсвяцейшай Маткі Божай, панны Марыі, і малітвамі ўсіх святых, радасныя пацехі нашых ваенных прац атрымалі мы наступным чынам. Па загадзе і волі сэрца нашага і ўдалымі справамі баярына вялікага палка, ваяводы Вялікай Русі і Малой Русі, Аляксея Сямёнавіча Шэіна, які быў у аблозе каля замка Азова, земляны вал да непрыяцельскага рова і горада насыпалі і з гэтага вала закідалі перакоп і зраўнялі. Гэтым жа валам прыйшлі да непрыяцельскага вала і злучылі іх так блізка, што можна было з імі сіламі мерыцца не толькі зброяй, але і самімі рукамі, бо была ўжо зямля кіданнем за іх валы насыпана. А цяперашняга месяца jula, 14-га, у пятніцу, нашы казацкія северскія войскі, адпаведна ў гэтых працах будучыя, пры якіх неадступна знаходзіўся муж, у дабрачынных справах дасведчаны, наместнік гетмана Якуб Лізагуб, разам з другім вайсковым атаманам Фролам Мінеевым і з данскімі казакамі апярэдзілі непрыяцеля падкапацца, і мужна на яго населі, і біліся з непрыяцелем вельмі моцна, сцяною авалодалі і, дачакаўшыся ночы, ліквідавалі з яе чатыры гарматы. А 18 дня, у суботу, у полудзень, непрыяцель, што сядзеў у Азове, бачачы мноства надыходзячых нашых войскаў і іх сардэчнае старанне аб промысле і, вядома, сваю пагібель, пачалі скідаць шапкі і, схіліўшы харугвы, выслалі ад сябе двух найслаўнейшых мужоў і прасілі, каб даравалі ім жыццё і каб з жонкамі і з дзецьмі іх адпусцілі, а на знак лепшай веры і захавання дамовы пакінулі сваіх двух заложнікаў-аманітаў. Таксама аддалі немца Якуба, які ў мінулым годзе быў з нашых войскаў перабег да іх, да Азова, і стаў басурманам. Тады, а менавіта ў нядзелю, а другой гадзіне на дзень, азоўскія гараджане і гарнізон найбольшаму палку і баярыну нашаму, ваяводзе Аляксею Сямёнавічу Шэіну, замак з харугвамі, з гарматамі і цэйхгауз з гарматамі, і з порахам, і з усім, што ў ім было, аддалі да астаткаў, пасля чаго ім самім, іх жонкам і дзецям дадзена была воля і праводзілі іх на 18 бударах[32] уніз Донам-ракою да рэчкі Габлані. У гэты ж дзень, 20-га, атрымаўшы вестку, што выйшлі тыя, што сядзелі ў Азове, адвялі іх усіх конныя войскі да турэцкіх караблёў, якія стаялі ў моры насупраць нашых караблёў. І тады іхнія караблі адступілі далёка ў мора, а арда і нагайцы ўсе паўцякалі. Хвала Богу,

стваральніку нашаму, які творыць дзіўныя рэчы па Сваёй святой волі, за якія Яго святую і нечуваную міласэрнасць хвалілі мы хрысціянскаю крывёю ва ўцешных слязах і малітвах. Пра гэта весткаю і Вашага Найсвяцейшага ў Духу Святым Айца нашага і багамольца просім, каб за такую нечуваную Божую ўрачыстую міласэрнасць і ў царкве хвалебныя малітвы адпраўлялі і за панаванне наша і ўсё войска Бога прасілі. Дадзена ў заваяваным намі замку Азове года ад стварэння свету 7204 ліпеня 20-га, а па-руску ад Нараджэння [Ісуса Хрыста] 1696-га ліпеня 30-га. Пераклаў з маскоўскай на польскую Трафім Сурта, гарадскі лаўнік.

У год 1695. Страшна вялікая вада была вясною, якая шкоды нарабіла і нямала людзей з дамоў павыганяла, агароды, замёты і тыны пазносіла. Потым, у гэтым жа годзе, месяца ліпеня, 4 дня, па Божым Целе[33], у суботу вечарам, выпаў вялікі снег, які ляжаў у Магілёве некалькі дзён. А за Беразіною, за Нёманам і далей было яшчэ ў тры разы горш. Цэлае лета холаду і марозаў нашкодзілі збожжу, з-за чаго і дарагавізна стала, бо з тых краёў прыязджалі, каб купіць жыта. А потым халоднай дарогі, а болей голаду, нацярпеўшыся, пазаходзіла некалькі дзесяткаў тысяч людзей з жонкамі, з дзецьмі ў рускія землі, ад чаго пачалася яшчэ большая дарагавізна, бо мерка жыта ў пятнаццаць гарнцаў пад святы Ян у 96 годзе каштавала па два з палавінаю злотыя і болей, але і гэта было не многа. Пшаніца была па талеры бітым, ячмень па 3 ф., авёс па 2 ф. Але каля Слуцка, Мінска і на літоўскім пагранiччы дарагавізна была ў тры разы большай, таму адны кідалі сваіх дзетак на дарогах, а іншыя, на лаўку пасадзіўшы ля сцяны, адыходзілі.

У гэтым жа 1695 годзе. Некалькі дзесяткаў тысяч татар, пракраўшыся, напалі пада Львоў, дзе, мужна адбіваючыся, ягамосць пан стараста луцкі, надворны падскарбі пан Мэнчынскі, паклаў іх на полі бітвы вялікую колькасць, а потым татары так моцна навaліліся, што адзін, гонячыся, мала не прабіў дзідаю і яго самога. І калі б хрышчаны турчын, нейкі Багдан, не адбіў дзіды шабляю, было б па ім, аднак жа апанчу, якую меў на сабе, пашкодзілі так, што абарваліся спонкі, аднак уцёк.

У год 1696. Месяца студзеня па рускім календары, 30 дня, у дзень трох святых свяціцеляў, на маскоўскай сталіцы цар ягамосць Іван Аляксеевіч развітаўся са светам і быў пахаваны. Пётр, таксама Аляксеевіч, цар маскоўскі, прыстойна пахаванне свайму брату адправіўшы, ізноў з вялікім войскам выпраўляючыся пад Азоў, кінуў кліч на ахвотніка. А між тым з баярскіх

дамоў за некалькі дзён стала ў спісе сорак тысяч прыгонных юнакоў як адзін. З гэтым войскам, з французскімі фузеямі[34], прывезенымі з-за мора і ваенным чынам уладкаванымі, выправіў пад Азоў за галоўнага гетмана і палкаводца Шэіна Аляксея Сямёнавіча, а ў Крымскую зямлю за старшага палкаводца знакамітага ў рыцарскіх справах Шарамета і казацкія войскі без гетмана Мазепы, які быў захварэў на ногі, з наказным Якубам Лізагубам. Сам жа цар ягамосць, сваёй асобай, таксама на маслянай нядзелі выправіўся пад Азоў. Там жа, абкапаўшыся ад рознай арды валам, якая штодзённа і па некалькі разоў нападала, Азоў здабывалі. Да самага замка з усіх бакоў земляную гару роўна з валам насыпалі і злучылі, мора таксама, дзе маглі, сваімі маскоўскімі караблямі з гарматамі закрылі, каб не змаглі прыйсці на дапамогу турэцкія караблі, і моцна абараняліся. Потым, месяца jula, дня 17, зранку, даверыўшыся лёсу, пачалі і Аляксей Сямёнавіч Шэін, наказны гетман Лізагуб, чарнігаўскі і данскі атаман Фрол Мінееў з войскамі ўзялі Азоў. Тут бы патрэбна было ўпісаць царскі ліст да патрыярха, але праз памылку ўпісаны ён вышэй.

У гэтым жа годзе ў месяцы лютым, на Гасподне Стрэчанне, Герасім, сын Пазняковай, члена магістрата, выкраў некалькі дзесяткаў грыўнаў серабра, якога з рэчавым доказам асудзілі на тартуры[35], і быў ён выгнаны катам за горад. Потым, ізноў злоўленага, загадана яго павесіць, але ўцёк з турмы ці быў выпушчаны, Бог ведае.

У гэты ж час і тыя здрайцы, смярдзючыя жыды з Высокага, з Расны, з Бярэсця і з Даўгінава, сам зачыншчык Азік з Высокага перад вялікай жыдоўскай ноччу[36] паўцякалі з ратушнай вежы, папаіўшы ахову і замкнуўшы яе ў палон. А гэта са стараннеяў жыда Натана Гонажа, слаўнага злодзея, паскудствы якога калі б выпісаць, не паверылі б людзі. Да справы вяртаюся. Выкралі пана Малахія Казкевіча, магілёўскага бурмістра, і мур з тылу цёмнай ноччу, у час грымоты, прасвідраваўшы на паўтара локця, значную суму ў золаце, серабры і каштоўнасцях і ў гатовых грошах са скрыняў пазабіралі. Пасля такога іх тады зладзейства праз некалькі дзён злавілі ў Магілёве з рэчавым доказам Зелмана з ягоным зяцем, паважных, ніколі як быццам неспадзяваных злодзеяў. Судзілі іх потым у замку перад панам Замойскім і загадалі катаваць, ды нічога не дазналіся. Аж потым, праз некалькі тыдняў, Зелман здох, і другі жыд потым таксама здох, а трэці вылечыўся. Потым гэтага ж жыда Азіка злавілі, касцёл, які

ведалі, абакралі. Павесілі, потым іх некалькі ў Гродне і спалілі.

У гэтым жа годзе ў Канстанцінопалі турэцкі імператар дазволіў пакараць смерцю патрыярха па імені Каленік, а гэта як бы па той прычыне, што быццам з ягонай прыхільнасці ўзяў цар ягамосць Азоў, які, як пакутнік, пацярпеў бязвінна.

У гэтым жа 1696 годзе. Тыя ж смярдзючыя жыды-магілёўцы на чале са сваім пэйсахам Азікам Габрыяловічам, жонка якога некалі нарадзіла пачвару, пра што было напісана вышэй, угаварылі пазументніцу Алону і звялі яе, як бы на гандаль, у свой дом, дзе яе замардавалі і грудзі абадралі, нажамі ў некалькіх месцах глыбока пакалолі і пад фарны касцёл, у пусты дамок, як бы не імі замардаваную, падкінулі, якую паказвалі па ўстановах і ў Оршы, а потым гэтая справа стараннямі войта заціхла. Хто ведае, ці будзе за гэта пан Бог судзіць суддзяў.

Ізноў, праз некалькі гадоў пасля спальвання Лышчынскага, адазваўся другі, яшчэ горшы блюзнерца, атэіст, якійсьці Пшыбароўскі, якога таксама спалена.

У гэтым жа годзе хрысціянскі імператар атрымаў значную перамогу над туркамі і адабраў Марэйскае каралеўства. У гэтым жа годзе падфартуніў пан Бог імператару, бо знішчыў на моры некалькі французскіх караблёў, іншыя пабраў альбо патапіў, а гэта ваеннай хітрасцю, што, шкадуючы часу, пакідаю я іншым [распавесці].

У год 1696. Месяца чэрвеня, 17 дня па рымскім календары, у тыдзень па святым духу, на святую Тройцу, у полудзень, а па рускім календары сёмага дня, святло Польскай Кароны і Вялікага княства Літоўскага, кароль, пан наш міласцівы, Ян III развітаўся ў нядзелю са светам на вялікую жалобу гарадоў каралеўскіх, а менавіта нас, магілёўцаў, які над намі і іншымі гарадамі, як ласкавы бацька, панаваў ад каранацыі гадоў дваццаць, а ўсіх гадоў... Быў гэты пан кемлівы, відны, разважны, здаровы, набожны, да народу рознага стану міласэрны, толькі высокія станы, што не даваў дарма вакансій, былі ім незадаволены. Кіраваў дзяржавай як у міры, так таксама і ў час вайны, а менавіта калі ў годзе 1684 растаптаў пад Венай такую вялікую і нечуваную сілу туркаў. А іншыя яго цноты, пакідаючы сябе ў спакоі, давяраю я [апісваць] знакаміцейшым летапісцам. У гэтым жа годзе пачалі мураваць пакроўскую званіцу, а закончылі ў годзе 1698. Праз тыдняў шэсць пасля смерці манарха па ваяводствах і паветах выбірана каптуровых суддзяў. У Аршанскім

павеце таксама выбрана шаснаццаць паноў суддзяў, імёнаў іх, шкадуючы часу, я не змяшчаю.

Пасля смерці караля ягамосці ад ягамосці пана вялікага падскарбія Вялікага княства Літоўскага Сапегі быў зроблены на Магілёўскі замак і эканомію набег. Потым ад ягамосці пана гетмана Сапегі, віленскага ваяводы, пан Замойскі, аканом ягамосці пана вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага, зрабіў набег на эканомію і пакінуў ад сябе кіраванне. Трымалі замак і эканомію з паўтара года, а потым, пасля абрання караля, саксонскага князя, з волі караля ягамосці іх мосці панове Пацы і іх мосці панове Валовічы гэтых уладальнікаў выгналі і эканомію захапілі. Пра гэты рабунак будзе ніжэй.

У год 1696. У горадзе Полацку з жыдоўскага падпалу пагарэлі крамы, ад чаго багатыя купцы прыйшлі да беднасці. Таксама ў гэтым годзе шкодзіла на збожжа саранча. У гэтым жа годзе ў Дуброўне згарэлі крамы і многа дамоў.

У год 1698. У Кракаве на элекцыі[37] абралі за караля Фрыдэрыка Аўгуста, князя і электа саксонскага Княства, хоць і быў перашкодаю князь дэ Конці з Бурбонаў, які кінуў вялікія багацці сенатарам і іншым станам, з-за чаго пачаліся як у Кароне, так і ў Літве па ваяводствах і паветах вялікія сваркі; нарабілася змоваў супраць паноў Сапегаў, з якімі, рабуючы маёнткі, абыходзіліся як з непрыяцелямі, толькі што агнём і мечам нічога не рабілі. Аднак жа нямала, хоць і патаемна, пагінула народу як рыцарскага стану, так шляхты і паспалітага. Потым гэтая саранча, што была ўзбунтавалася на іх мосцяў Сапегаў, як то здаўна гаворыцца, разгневаўся гданьскі бурмістр на польскага караля, паразбягалася хто куды мог. Аднак жа быў у Быхаве моцны Сапяжынскі гарнізон. Аднаго часу ў гэтай сварцы каля Быхава, між Сеннам і Будзішчам, ротмістр валашскай харугвы і добра спрактыкаваны ў ваенных справах афіцэр, што быў выйшаў з пяхотаю і з конніцаю з Быхава, мужна мерыліся сіламі. Было толькі шэсцьдзесят коней і тры мяцежныя харугвы. Выйгралі, і самога Ганцкофа, верхавога, засек Мужэнка, якога нёс конь у сядле некалькі сотень крокаў. Потым, неўзабаве, Мужэнка таксама загінуў. Вяртаюся я да года 1697.

У год 1697. Перад Вялікаднем, у Вялікі пост, цар ягамосць Пётр Аляксеевіч выслаў самых адборных баярынаў за мора па розных княствах і нацыях для ваеннай навукі, дзейнасці і назірання за палітыкай і замежнымі звычаямі. Імёнаў іх, шкадуючы часу, я не змяшчаю. І сам таксама пайшоў за імі ў Ры-

гу, дзе быў некалькі дзён, а потым, бавячы час пацехамі, быў некалькі тydняў у князя і курфюрста, якога добра раскашэліў, на мільён і болей... Адтуль потым праз розныя княствы да ягамосці хрысціянскага імператара аж у Рым. І там, нямала бавячыся, прыглядваўся ў розных народаў да нямецкіх ваенных і юрыдычных парадкаў. Там жа, падарожнічаючы па розных каралеўствах і княствах, не зважаючы, ва ўсе дні абедаў з мясам, аж пакуль не вярнуўся ў Маскву і ва ўсёй сваёй манархіі не ўвёў Магдэбургскае права, пра што будзе ніжэй. Вяртаючыся тады з нямецкіх краін, быў ён у ягамосці караля Аўгуста, бавіўся кампаніяй і пацехамі, потым ішоў на Шклоў і на мяжы, за Кадзінам, загадаў паставіць на памяць слуп.

У гэтым жа годзе 1697. Месяца сакавіка, 6-га [дня] гэты ж цар ягамосць штонайзнатнейшым баярам Аляксею Сакаўніну, думнаму, Яну Цыклеру, стольніку, Фёдару Пушкіну, які быў смаленскім ваяводам, зяцю Яна Цыклера Ваську Філіпаву, са стральцоў, і Федзьку Разіну за тое, што хацелі загубіць цара ягамосця, а здрада гэтая ішла ад стральцоў і вышэйназваных баяраў, якую выкрыў старшы сотнік Іларыён Елізар'еў, паадсякаў усім галовы, загадаў змураваць у публічным месцы высокі слуп і на ганьбу іх галовы на жалезныя палі панасаджваць, якія віселі некалькі гадоў з надпісам, як да такога дайшлі. На ім, на слупе, быў прыбіты і ліст, напісаны па-маскоўску, які я, шкадуючы часу, апускаю.

У год 1699. Месяца студзеня, 11-га [дня] па-рымску, прыйшоў да Магілёва з загадам ад караля ягамосці Аўгуста Першага генерал дэ Беўст і з ім дванаццаць карнетаў[38] саксонскага войска. Сам, лоўка выгнаўшы Перуту, таксама немца, які быў пакінуты ў Магілёўскім замку ад іх мосцяў паноў Сапегаў, стаў у замку, а ўсё войска стала па эканоміі, зімавалі ў Чавусах і Чэрыкаве. Аж вясною прыцягнуліся да Магілёва, сталі лагерам на Лупалаве, над Дняпром, за змураваным слупом, які называўся Мялешкі Красоўскага, сталі вельмі добрым парадкам, такім асцярожным, што хоць бы прыйшло на іх і некалькі тысяч, нічога не зрабілі б, так і было. Калі за Дзебраю пераправіліся на гэты бок, дзе Магілёў, сталі за гарой такім жа парадкам, што і на Лупалаве, не робячы ў лагеры і найменшай крыўды, хоць нам потым, за каралеўскім загадам, хапіла крыўды. Аднаго разу нейкія гультаі, сабраўшыся, былі на іх напалі, але нічога не зрабілі і паўцякалі, бо цяжка было супраць іх парадку як у конях, так у гарматах, пісталетах і іншых ваенных рыштунках выступаць. Але гораду бы-

ло цяжка, чаго, Божа, больш на нас не дапускай. Кароль Аўгуст, пан наш міласцівы, ці з якога ліхога нагавору, ці са здрады, ці з нестарання тых, хто ў гэты час горад апекаваў (Бог будзе гэта судзіць), быў на горад цяжкім, таму мусілі вылічыць з горада саксонцам порцыю ў сто тысяч тынфаў[39] гатовымі грашыма, апрача іншых значных паднашэнняў для генералаў і афіцэраў. І хоць па гэтай справе два разы ездзілі да караля, але нічога не змаглі дамагчыся. А што засталося страўленых земляў, сенажацяў і збожжа, што былі паблізу лагера? У той час быў ухвалены на гараджан вялікі і цяжкі падатак, якога перад тым ніколі не бывала. Назначаныя зборшчыкі Стафан Гутаровіч, Чортак і Увар (але іх дамы ўжо пазводзіліся) былі вельмі неміласэрнымі. Калі хто не мог выплаціць назначанага падатку, такіх садзілі ў вежу і пад вежу ў вязніцу. А з такой значнай няўвагі жанчыны, знаходзячыся ў турме, нараджалі дзяцей. І нямала ўбогіх людзей прыйшло да апошняга ўбоства.

У год 1699. Месяца жніўня, 15 дня саксонцы, пабраўшы з горада грошы і ўпарадкаваўшыся на вазы, караванам і іншым парадкам рушыліся ўсе разам, за якімі выехаў, не без гарадскіх грошай, і сам генерал дэ Беўст, пакінуўшы на месцы ў замку за аканома пана Глэмбоцкага, які быў перад іх выездам прыбыў у замак па загадзе двара яго каралеўскай міласці. Хутка пасля гэтага прыехалі з той жа Саксоніі як бы немцы, а між іншым, жыды, імёнамі Бейман і Лейман, браты, якія пазычылі каралю ягамосці некалькі мільёнаў гатовых грошай і якім, пасля прыезду, паводле прывілея яго каралеўскай міласці былі аддадзены замак і эканомія, з якіх жыды бралі розныя грошы, таксама заарандавалі на некалькі гадоў, пакуль выбралі свае грошы і з барышом, і іншыя эканоміі ў Літве і Жмудзі. Доўга не забудзе Магілёў гэтую саранчу, і таксама ва ўсёй Польшчы і ў Вялікім княстве Літоўскім ліха будуць іх успамінаць, горш чым тых немцаў, што ішлі з-пад Смаленска пад час Шэйнаўскай вайны. І хоць меў я пісаць пра іх больш, але пакідаю гэта лепшым летапісцам.

У год 1699. У Вялікі пост у Лубужы, у фальварку Базыля Зянковіча і жонкі, нехта, напаўшы, пазабіваў старушак праваслаўнай веры, якія яшчэ пры жыцці адказалі сваю ўласнасць брацкім манахам, а потым з-за гэтай маёмасці меў горад многа валакіты, і ізноў дасталася яна Зянковічам, пра што будзе ніжэй. У гэтым жа годзе месяца junia, па святым духу, падобна ад немцаў-саксонцаў, бо былі нездаровымі, у Чэрыкаве і па

іншых вёсках заразіліся людзі паветрам і нямала людзей памерла. У гэтым жа годзе на Украіне была вялікая дарагавізна.

У гэтым жа годзе 1699. Перад Божым нараджэннем жаданая жамчужына Белай Русі ягамосць Серафіён Палахоўскі, епіскап мсціслаўскі, аршанскі і магілёўскі, архімандрыт слуцкі, намеснік мітраполіі кіеўскага і канстанцінопальскага трона, шчасліва прыбыў да Магілёва, якога сустракала духавенства крыжовым ходам, сам магістрат увесь і асабліва гарадская купецкая моладзь з харугваю гандлёвай хаты, конна і ўрачыста, з немалою, у некалькі соцень коней, світаю. Як ніколі харугвы жаўнерскія былі ўпрыгожаны, што лепш і быць не маглі, да гэтага яшчэ ўсе цэхі, убраныя, з харугвамі, са зброяй, і некалькі дзесяткаў разоў адсалютавана з гармат.

Вяртаюся я ізноў да справы; дай, Ісусе Хрысце, каб гэтае сонца пасля яго доўгага жыцця ніколі не заходзіла, але на ўсіх свяціла. У гэтым жа годзе каронныя і літоўскія войскі адабралі ад туркаў Камянец-Падольскі.

З паведамлення. У гэтым жа 1699 годзе за морам немец, які гандляваў жытам, калі ўпала цана на збожжа, у гаворцы, лаючыся супраць пана Бога, пажадаў: «Няхай свінні паядуць і не будзе». І так сам у свінню абярнуўся, толькі свайго збожжа не еў, а еў чужое, за што ўсюды па касцёлах хвалілі Бога, але пра яго канец мы не ведаем.

У год 1700. На першым тыдні пасля Божага нараджэння, у Вялікодны пост, прыйшло каралеўскае войска пад Рыгу, дзе не без страты пераправіліся, а потым, не без страты саксонскага і іншых войскаў, узялі Дыямент.

У гэтым жа годзе цар ягамосць Пётр Аляксеевіч з маскоўскім і казацкім северскім войскам прыйшлі пад Рэвель, які Масква называе Ругадзевам. Там жа моцна маскоўцы і казакі прайгралі, бо на Нарве-рацэ было іх пабіта і патанула каля сямідзесяці тысяч, і частка казакоў загінула, бо больш біліся дроцікамі, таму шведы былі вельмі задаволены, забраўшы яшчэ семдзесят гарматаў, семдзесят мінамётаў і шэсцьдзесят бочак капеек. Адтуль вяртаючыся, памёр у Пскове з атруты, дадзенай у Пячоры, недалёка Пскова, наказны гетман Абідоўскі, пахаваны ў Кіеве, а віну за гэта звалілі на кіеўскага палкоўніка, за што і з палкоўніцтва знялі. Да гэтага войска пад Рыгу прывёў каралю паўтары тысячы запарожскіх казакоў нейкі Мюнштэр, які на дарогах па-разбойніцку рабаваў, гвалціў і моцна мучыў магілёўцаў, на некалькі тысяч нарабіў страты; хутка пасля гэтага там жа, пад Рыгай, і сам загінуў.

У год 1700. Перад тою няшчаснаю міжусобіцаю альбо перад тым, што пачалося было, але таксама зацiхла, нiколi не чуванае i не бачанае дзіва, што мы бачылі самі, калі на Дняпры сабакі сабаку парвалі і з'елі і, косці пагрызшы, кроў на снезе вылізалі. Прыгадваецца даўнейшая прытча: ліха, калі сабака сабаку або воўк воўка есць. Што пасля гэтага і настала: кампутовыя[40] з сапяжынскімі між сабою, нападаючы з абодвух бакоў брат на брата, бацька на сына, сын на бацьку, рабавалі, забівалі, пра што і расказаць цяжка. Толькі будучы дасведчаным у некаторых справах, коратка мы іх апішам, што будзе ніжэй.

У гэтым жа годзе. Брацкую царкву накрылі, зрабілі тры купалы, два белыя, а трэці, верхні, пазалочаны, бо перад гэтым мела яна толькі два купалы. Быў гэты купал вельмі прыгожы, архітэктарам быў нейкі манах.

У гэтым жа годзе. Задняпроўцы-казакі забралі ад шведаў гарады і замачкі: першы — Драніна Мідза, другі — Аліста, трэці — Стрынін, чацвёрты — Новы Гарадок, адкуль невымоўна шмат вывезлі здабычы і забралі з сабою палону абодвух полаў, старых і малых, што мы самі бачылі.

У год 1700. Месяца снежня, 1 дня, па Піліпавых запустах, у чацвер, на рускае свята ахвяравання найсвяцейшай панны, нямала кампутовых харугваў, што стаялі ў Алкініках, хацелі мець бітву з Сапегамі. А калі схапіліся пад Лейпунамі, дзе былі і самі Сапегі, падскарбі і канюшы, то пасля моцнай бойкі не далічыліся многіх з абодвух бакоў, аднак Сапегі прайгралі, а канюшага з артылерыяй акружылі. Дзе, нібыта беручыся да згоды, віленскі біскуп Бжастоўскі і канонік Белазор узялі канюшага пад слова гонару, аднак, не датрымаўшы слова гонару, кампутовыя канюшага пасеклі. І з таго часу ўсчаўся ў Польшчы і Літве агонь, далейшыя канфедэрацыі і змовы. Сапегі, помсцячыся за смерць канюшага, задумалі быццам бы прывесці ў Польшчу шведаў, а кампутовыя праз свае закулісныя перагаворы па-змоўніцку запрасілі да сябе на банкет цара маскоўскага, якія ў Польшчы толькі паабедалі, а на вячэру нічога не пакінулі, як пра гэта будзе ніжэй.

У год 1700. На Маскве адменены каляндар, які пісалі ад стварэння свету, тады пачалі пісаць ад нараджэння пана Хрыста і судовых людзей, гэта значыць, як у нас, бурмістраў, пачалі выбіраць.

Пасля смерці канюшага і па ўчыненай той няшчаснай выправе панове кампутовыя ў Алкініках збіралі розныя сходы і

розным панам раздавалі пасады, потым, ходзячы па сапяжынскіх уладаннях, бралі маёмасць як са сваіх маёнткаў і па розных ваяводствах і паветах устанаўлівалі свае законы. Сапяжынскія маёнткі пустошылі, аднак і іншым гарадам і мястэчкам і вёскам як кампутовыя, так і сапяжынцы чынілі многа крыўды.

Год 1701

Пачынаючы век васемнаццаты па Хрысце-пане, спадзяваліся на жаданы спакой, аднак яшчэ горшыя насталі разлады, пакуты, рабаўніцтвы і разбоі на дарогах, што цяжка было каму і ў дарогу выехаць, бо гэтае гультайства пастаянна, атрады на атрады, нападала.

У гэтым жа годзе. Шклоўская царква змуравана і дакончана панам Базылём Аўсяевічам, шклоўскім купцом, ягоным коштам, толькі, падобна, не без дапамогі іншых.

У гэтым жа годзе, зімою, каралеўская пяхота і кавалерыя, 15 карнетаў з конніцай, прыйшоўшы без каралеўскага загаду да Магілёва і на воласці, гэта значыць на эканоміі і таксама на замкавую юрысдыкцыю[41], стаялі некалькі месяцаў, а потым, акружыўшы вёскі, і на Лупалаве сталі, дзе нямала насвавольнічалі, але, заключыўшы прымірэнне, адступілі.

У гэтым жа годзе. Месяца красавіка, 31-га [дня], за паўмілю ад Новага Быхава, пазабівана некалькі дзесяткаў кампутовых, пазабівана выскачыўшымі са Старога Быхава, але Старому Быхаву кампуты нічога не змаглі зрабіць, бо быў ён добра ўмацаваны людзьмі і артылерыяй. А старшымі былі Більдзюк і Юрэвіч, якія, замак пільнуючы, часта нападалі на кампутовых.

У гэтым жа годзе. На першым тыдні ад дзевятай гадзіны аж да адзінаццатай былі бачны тры сонцы, адно было вышэй, а два ніжэй. Вышэйшае было звычайным, а ніжэйшыя былі цямнейшыя і мелі прамені, як бы трубы, адзін на ўсход, а другі на захад. Потым гэтыя два згінулі, на што мы самі глядзелі.

Месяца мая, 3 дня, у суботу, пасля велікоднай нядзелі, у Сапяжынскім маёнтку Гойшыне пан Юрэвіч, ізноў напаўшы з Быхава на кампутовых, разграміў 5 харугваў і 200 паклаў трупам, а ротмістра пана Янушэвіча з некалькімі дзесяткамі і са здабычаю забралі ў Быхаў. Пасля гэтага, месяца чэрвеня, 2 дня, пан Такарэўскі з казакамі і з іншымі, напаўшы з Лоева на Холмеч, яго зрабавалі і адступілі на Клюшыцы, мілі дзве ад Лоева, а здабычу прадаўшы, вельмі цешыліся.

Гэтым часам пан Плотніцкі, кіруючыся ад пана Валовіча ў Холмеч, сабраў 200 стральцоў са стрэльбамі, а іншых з косамі, тут жа на іх напаўшы, усіх, як волава, пагрузілі ў Дняпро, а некаторых, пазабіваўшы і сабраўшы 80 трупаў, пазакопвалі ў капцы.

У гэтым жа годзе. Месяца ліпеня, 26-га [дня] падступілі за некалькі міляў пад Дуброўна дваццаць шэсць кампутовых харугваў. Гэта пачуўшы, выйшаў з Дуброўна з некалькімі татарскімі і валашскімі харугвамі пан Корша і з імі некалькі тысяч стральцоў сялян са стрэльбамі і з розным рыштункам. Спачатку з'ехаліся на перагаворы, дзе кампутовыя патрабавалі падаткаў паводле алкініцкіх дагавораў. Аднак упартыя сяляне, хоць пан Корша і ўгаворваў, нічога даваць не хацелі, жадалі пабіцца. Дзе, з-за няўмельства, сяляне, даўшы агню, разам бітву не пачалі, палягло іх 1674, акрамя параненых, сярод якіх мала што засталося недабіткаў. Самі мы гэта чулі. А іншыя пахаваліся ў вёску, у хаты і гумны, адкуль моцна шкодзілі кампутовым, тады вымушаны былі запаліць вёску і гумны. І так сялян, жанчын і дзяцей, згарэла некалькі соцень, а самога пана Корша паланілі і адправілі ў Вільню да іх мосцяў паноў старшых кампутовых. Там жа загінула і некалькі дзесяткаў гараджан-дубровенцаў. А гараджане-дубровенцы, яшчэ перад гэтым, спадзеючыся на паражэнне, пахавалі свае скарбы ў купале большай царквы, нават і падумаць было немагчыма, што там могуць быць грошы, аднак з нечыйга здрадніцтва кампутовыя, напаўшы на Куцеінскі манастыр і знайшоўшы ў купале вялікія скарбы, іх пабралі і манастыру нямала нашкодзілі і многіх гараджан давялі да жабрацтва.

У гэтым жа годзе і ў той жа час усяго Северскага княства амаль усё яго войска ішло праз Магілёў; палкоўнікі, старадубаўскі Міхал Міклашэўскі, лубенскі Зяленскі, Іван Іскра палтаўскі, Даніла Апостал міргарадскі, якому было дадзена наказное гетманства, Ян Мірэвіч пераяслаўскі, Пашкоўскі, які праводзіў сатаварышаў, пры якіх было і дзве тысячы белагародскай і нагайскай арды, некаторыя пахрышчаныя, сіла была. Пайшлі з Магілёва на Смаленск, пад Рэвель. У Магілёве, зрабіўшы на Дняпры насупраць самай Дзебры на палях мост, пераправіліся. Сам гетман Мазепа з-пад Магілёва вярнуўся за некалькі міль назад, а з ім і Міклашэўскі. А іншыя палкі пайшлі з Украіны ў маскоўскія землі. Адсюль цар ягамосць даў некалькі дзесяткаў тысяч каралю Аўгусту пад Рыгу, дзе

такую перамогу атрымалі, што мала хто ўцёк. Гэтыя недабіткі, жабруючы, самі расказвалі, як моцна атрымалі ад шведа і як кнута паспрабавалі.

У гэтым жа годзе з-за неўраджаяў была вялікая дарагавізна, а пасля гэтай дарагавізны даў пан усявышні ўраджаі на розную збажыну. Мерка жыта ў 20 гарнцаў прадавалася па пяцьдзесят грошаў, аднак з сенам было вельмі цяжка, бо казакі пайшлі ў маскоўскія землі, а кампутовыя, пастаянна з сапяжынскімі сварачыся, травілі лугі... Ізноў рыхтуючыся на шведа, цар ягамосць Пётр Аляксеевіч ... страчаныя ў бітве 700 штук гарматаў і 70 мінамётаў, там жа і грошай нямала, помсцячы за сваю крыўду, па ўсім Маскоўскім царстве, па гарадах, манастырах, мястэчках забіраў чацвёртую частку званоў, з якіх рыхтаваў гарматы і іншую ваенную амуніцыю, з якімі выправіў войска з усяго царства і з чужых земляў, яму падуладных, пад Рыгу. Але і тады Рыгі не здабыў.

Дасюль пісаў нябожчык Трафім Сурта.

Гэта ўсё, што будзе напісана ніжэй, ласкавы чытачу, гэта часткаю з іншых летапісцаў, часткаю з аповяду і сведчанняў годных людзей, часткаю, што мы на свае вочы бачылі, гэта коратка, у купу сабраўшы, мы апісалі.

У год 1701. Прыцягнуліся ў лістападзе да Магілёва дванаццаць кампутовых харугваў, сталі па гасподах ва ўсім горадзе, а сапяжынскія, бывала, дазорам наязджалі на Лупалаў. І перастрэльваліся праз Дняпро, але адныя адным нічога не маглі зрабіць. А потым пад Буйнічамі ўчынілі бітву, гэтая бітва, ці баталія, адбывалася на Магілёўскім полі 30 лістапада, у дзень святога Андрэя. І ў гэтай бітве з абодвух бакоў нямала пагінула шляхты і шмат паранена, аднак жа перамога засталася за кампутовымі. З сапяжынскага боку старшымі былі Більдзюк і Юрэвіч. У час гэтай бітвы, а была яна за Быхаўскай брамай, ледзь не нашкодзіла і магілёўскім гараджанам. Калі харугвы выходзілі за браму (а ў кожнага таварыша грудзі былі перавязаны ручніком), сёй-той з цікаўных гараджан ішоў паглядзець. І калі на вале скупілася шмат людзей, тады з сапяжынскага, з правага боку, былі падцягнуты гарматы. І так меркавана, каб па стужцы людзей, што стаялі на вале, ударыць з гарматаў, якія былі набіты кулямі і жалезам. І калі ўдарылі, з Божай дапамогай, панізілі на паўлокця, і кулі ланцугом пайшлі ў вал, а калі б узялі вышэй, то была б вялікая страта ў людзях.

Тут, адступіўшы ад падзей, што адбываліся ў горадзе яго каралеўскай мосці Магілёве, змяшчаю я з дакладна друкаванай кніжкі гісторыка праўдзівыя нататкі аб падзеях ваенных, якія адбываліся ў Кароне і ў Літве, як тут змяшчаю.

Выпіска з гісторыка, што адбывалася ў Польшчы на пачатку панавання караля Аўгуста II.

Пасля смерці караля Яна Трэцяга быў прымасам ксёндз Міхал Радзяёўскі, гнезненскі архіепіскап. Як піша гісторык, амбіцыі і скваппасці ненасытнай, у хітрасцях і падкопах недасягальны. Меў ён такую ахвоту, каб пасадзіць на каралеўскі трон князя Дэконта, бо меў абяцаную князем Дэконтам вялікую суму грошай. Але гэтая задума прымаса не здзейснілася, бо польскім каралём быў абраны Аўгуст Другі, саксонскі князь, а таму, помсцячы князю, прымас зрабіў такое, што давёў караля да страты міру і кароны, а цэлую дзяржаву да нешчаслівага канца.

Гэты прымас праз сваю хітрую здраду падгаварыў караля Аўгуста забраць ад шведа заваяваныя Інфлянты, а ў сваёй прагнасці далейшай помсты ўвайшоў у таемную змову з інфлянцкім аблегатам[42], паабяцаўшы яму вызваленне з-пад шведскага ярма, за якое абяцанне інфлянцкі аблегат прыслаў праз Карла Падкуля прымасу обліг на сто тысяч талераў бітых, і адсюль распачалася са шведскім каралём Карлам нешчаслівая вайна.

У гэты ж час таксама і ў Літве працягвалася вялікая сумятня між Сапегамі, Агінскімі і іншай шляхтай. І сапяжынскі дом быў ужо заняпаў. Тады гэты прымас параіў Сапегам, каб паддаліся яны пад пратэкцыю шведскай кароны, гэтак і зрабілі, і зазвалі шведскага караля ў Польшчу, які ў 1702 годзе з вялікім войскам і прыйшоў пад Варшаву. Кароль Аўгуст, з прыходам шведскага войска і шведскага караля да Варшавы, з саксонскім войскам адступіў пад Кракаў.

Гэты прымас, жадаючы далейшага прагрэсу вайны, хітрасцю давёў каралю Аўгусту, што шведскі кароль прагне міру. І тады кароль выправіў прымаса для заключэння дагавору аб міры. А прымас, прыбыўшы ў Варшаву, давёў да шведскага караля свае словы, што палякі, пакуль не абяруць іншага караля, не жадаюць міру, што без вайны такая махінацыя абысціся не можа. І так пачалі зачынацца бітвы.

У год 1702. 19 ліпеня кароль Аўгуст меў пры сабе дваццаць чатыры тысячы войска і недалёка Кракава, пад Пінчовам, учыніў са шведамі бітву, але шведскі кароль выстаяў і

потым адначасна ўзяў Кракаў. І калі б шведскі кароль у час гэтай бітвы не затрымаўся з-за падзення каня ад замацавання сваёй перамогі, вельмі ўжо дрэнна было б тады каралю Аўгусту.

У гэты ж час настойліва думаў прымас, як бы скінуць з трона караля Аўгуста. Сама Варшава была ўся апаясана вартаю і шведскім войскам. І быў ужо прымас праз сваю змову сабраў многа паноў і паслоў, на той час аб'яднаных у канфедэрацыю, каб адмовіць каралю ў каралеўстве і абраць іншага караля. Паслом ад варшаўскай канфедэрацыі, прымасаўскім і канфедэратаўскім давераным пры шведскім каралю, што хоча Польшча дэтранізаваць Аўгуста, быў тады Станіслаў Ляшчынскі. Будучы паслом, Станіслаў Ляшчынскі выконваў сваю справу прыгожа і пачціва, мінамі і жэстамі да таго схіліў шведскага караля, што яму спадабаўся, што годзен ён польскай кароны, гэта і даказаў, калі быў абраны каралём.

І гэты артыкул змяшчаю я тут для інфармацыі. Калі Станіслаў Ляшчынскі быў у маладых гадах, меў ён пры сабе мудрага і вучонага гувернёра, духоўную асобу, якая яму так прарочыла: «Два разы каралеўскі трон дасягне і жыццё, змешанае са смуткам, мець будзе». А яго бацька на гэта сказаў: «Няхай Бог ад такога ратуе». Ізноў сказаў: «Калі ён урэшце праз вайну дасягне каралеўскай кароны, з вялікім заспакаеннем сэрца з гэтага свету адыдзе». Бацька ж адказаў: «Няхай станецца воля Божая».

У гэты ж час было вельмі цяжка Гданьску і Эльблонгу, бо мусілі адкупліваца грашыма, а Эльблонг прыняў шведаў і на пастоі, якія забралі з горада дзвесце штук гармат. А было гэта ў годзе 1703.

У год 1704. Дня 19 ліпеня Станіслаў Ляшчынскі пры падтрымцы шведскага караля і пад шведскімі стрэльбамі, хітрай змовай і пры прымасаўскім пратэктарстве, абраны ў Варшаве за польскага караля. І так стала ўжо два каралі.

У год 1704. 6 верасня шведскі кароль са сваім войскам пайшоў пад Львоў, дзе, як ён чуў, меўся недзе там знаходзіцца скарб караля Аўгуста, што найважнейшыя паны сваю найкаштоўнейшую маёмасць туды звезлі, здабыў штурмам гэты горад у дзень і год вышэйназваныя і знайшоў тут намнога больш, чым думаў. Вельмі многа людзей пад корань высек, забраў у няволю цэлы гарнізон, сто шаснаццаць штук жалезных гармат загадаў разарваць порахам, бо з-за недахопу коней не-

магчыма было забраць іх з сабою, а 24 штукі засталіся ў замку каралю Станіславу. І, апрача рабунку, накінуў на горад падатак у чатырыста тысяч талераў, ад чаго прыйшоў Львоў у занядад.

У гэтыя ж часы дзесяць тысяч палякаў ад кароннага кампутовага войска і ад знатнейшых паноў пачалі службу ў караля Станіслава, якім кароль Станіслаў, пасля таго як прыняў на службу, загадаў адлічыць дзвесце тысяч талераў бітых, з-за чаго адзін горад Варшава мусіў аддаць шаснаццаць тысяч талераў.

У год 1705. Абраны кароль Станіслаў з жонкаю быў каранаваны 4 кастрычніка ў Варшаве ў прысутнасці многіх з сенатарства, перад шведскімі пасламі, і сам шведскі кароль быў інкогніта на гэтай каранацыі, але прымаса Радзяёўскага не было, а гэта з папскай і каралеўскай адмовы, быццам бы не ён быў тым неданоскам, праз хітрасць якога і сталася каранацыя другога караля. Кароль Станіслаў з жонкай, як быў каранаваны, прымаў найсвяцейшае прычасце пад дзвюма асобамі.

У год 1705. 13 кастрычніка прымас Радзяёўскі, з-за якога ў Польшчы пачаліся ўсе беспарадкі, у Гданьску гэты свет пакінуў. Гэтаму прымасу пры яго жыцці быў напісаны такі пасквіль, які я, для памяці, змяшчаю тут.

Выдумка пад песню спяваючага падарожніка, і не на цяпер у адказ.

Слухай, што жыва, як прымас ласкавы
За гэтыя ўсе гады прыбавіў Польшчы славы.
Заспявайце яму гэтае непрыгожае пенне,
ўсе стварэнні.
Ці яго на гэта д'ябал падбухторыў,
Што так некаторую шляхту звергнуў,
Што вядзе ўжо да апошняе руіны
мілую айчыну.
Паўстань, Замойскі, баявы гетмане,
Няхай цябе паднімуць людскія звады,
Што ў мінулым веку цябе не настрашылі.
Пабудзі палякаў да такой мужнасці,
Каб не дазволілі прымасу псаваць
Бацькоўскую спадчыну — маладзецкасць
і волю.
Дзе хаваецеся, заступнікі-палякі,
Храбрыя Карэцкія, мужныя Канецпольскія,
Зараз нам на дапамогу прыбывайце,
моцы дадавайце.

О Станіславе, святы біскупе кракаўскі,
Выгані біскупаў-прастытутак з Польшчы,
Зрабі, каб мелі мы жыццё такое —
пры згодзе і здаровы.
Уваскрасі бясспрэчныя рады Баляслава,
Бо хоча нам знішчыць і вольнасці, і права,
Пазбаў яго гонару, пыхі.д'ябальскай і
тавянскай[43].
Хто горшы? Не ведаю, прымас ці прымаска.
Няхай гэта вызначыць твая святая ласка,
Каб прагнаў ты гэтую гатовую
Ірадаву здраду.
Каб не былі мы, як Давід, пакараны,
Бо, праўда, ужо знаецца з ёю прымас,
А потым што захоча, тое з гэтага выводзіць
і нас за нос водзіць.
Што далей рабіць з гэтаю змоваю новаю,
Хоча быць, вядома, як Ванда-каралева,
Толькі Ванда, баронячы цноты, ваявала,
край сплядравала.
Уздыміцеся на гэта, заступнікі нябесныя,
Пад уладу мужнюю спрэчкі жаночыя
Аддайце, каб вечнымі здаліся,
а нічуць не трывалі.
А гэтыя, зразумела, так у розум прыбраны,
Ва ўпартасці сваёй сапраўды ашуканы,
Ужо напаследак слухаць гатовы
жаночыя парады.
Што захоча Ленчыцка, справіць у прымаса.
А ён толькі гаворыць: «Ёсць гэта воля наша».
Каб усе мы станавіліся пад Тэнчыцу.
Цалаваць яе ў мускусныя шчокі
і багатую спадніцу.

## Адказ

Зачаў пасквілі пісаць, пілігрыме,
Якому ледзь грахі адпушчаны ў Рыме.
Мог бы прыдумаць сабе іншую забаву,
а не ганьбіць славу.
Няма ў гэтым ніякай справы д'ябла,
Бо вольна вольным мець у Айчыне пана
Кожнаму, каго хто захоча, як шляхціцу,
так і прымасу.
Толькі што думкі твае — ліхая рада,

Труну Замойскага трывожыш у склепе,
Але цяжка каго ўваскрасіць са смерці
да гэтай вечнасці.
Заняўся забаўкамі ў цяжкім часеI—
Грэх пісаць аб слаўным прымасе.
Апошні ён у доме на ўсю будучыню,
пакутнік вольнасці.
Карэцкіх няма, Канецпольскіх мала.
Нічога такога ў Кароне не стала,
Каб слаўных людзей магілы
абаронаю былі.
Ужо мінула тая цудоўная гадзіна,
Калі Станіслаў уваскрасіў Петравіна.
Ужо біскупа, прозвішчам Прастытутка,
пан Бог забраў са свету.
Знікла свету смеласць Баляслава,
Вялікая спраўнасць Чацвёртага Уладзіслава,
Толькі што думкі твае — ліхая выдумка,
д'ябальская і тавянская.
Іншая Давіда справа з Ірадам,
Іншая забава з пачцівым прымасам,
На сябе глядзі лепей, а на памаранец
не стаў каганец.
Не ведаю, дзе гэта так вельмі глыбока,
Па тым свеце тваё блукала вока,
Відаць, наглядзеўся праз акуляры
на гэтыя ахвяры.
Ванда, гэтая Богам чысціню пашлюбіла,
Гэтая сваю пачцівасць шлюбам заручыла,
Сама сябе топячы, чорту аддалася,
а гэтая мужчыне.
Навошта нябесныя брамы рушыць,
Мужнімі лёсамі жанчын абцяжарваць,
Ведаем, што яшчэ ў раі падманула ля дрэва
Адама Ева.
А гэта інакш і ўспомніць трывожна,
Бо годны прымас з'яўляецца пестуном Бога,
А ты яго раўняеш любоўнымі словамі
да жанчыны.
Відаць, што не трымаў язык у цуглях,
Калі асмеліўся падаць пасквіль да друку,
У пекле той будзе, хто яго пісаў
і друкаваў.

Каралю ж Аўгусту II перад пачаткам вайны са шведамі быў прысвечаны такі пасквіль.

Гадзіннік, б'ючы праз чвэрць vanitatem[44], праз гадзіну выбіваў за караля ягамосця Аўгуста II varietatem[45], які ў 1701 годзе жадаў вайны са шведамі.

| | |
|---|---|
| *Кароль ягамосць:* | Марс ваяўнічы гаворыць намі,<br>Яму не да бітвы з музамі Венеры. |
| *Гадзіна 1:* | Забаўся лепей камедыямі. |
| *Кароль ягамосць:* | З маскоўскім царом заключыўшы лігу,<br>З саксонамі пайду пад Рыгу. |
| *Гадзіна 2:* | Публічна шведы пакажуць фігу. |
| *Кароль ягамосць:* | Буду гетманаў з войскам клікаць,<br>Каб сілы польскай паспрабавалі. |
| *Гадзіна 3:* | Раю схаваць лепей грошы. |
| *Кароль ягамосць:* | Учыню я мудрую раду з сенатам,<br>Каб разбіць шведаў яшчэ да лета. |
| *Гадзіна 4:* | Хіба будзеш et cetera[46] перад цэлым светам. |
| *Кароль ягамосць:* | Калі сенат мне не дазволіць,<br>Мушу я дазволіць, хоць і па няволі. |
| *Гадзіна 5:* | Не дапушчай у Польшчы такой сваволі. |
| *Кароль ягамосць:* | Вось чаму мне сенат усё супраць радзіць,<br>А прымас сваім розумам судзіць. |
| *Гадзіна 6:* | Малодшаму слухаць старэйшых не ва́да. |
| *Кароль ягамосць:* | Нават гетманы мяне не слухаюць<br>І войска мне даць не дазваляюць. |
| *Гадзіна 7:* | Бо такія правы ў Кароне маюць. |
| *Кароль ягамосць:* | Вазьму палякам з цэйхгаўзаў гарматы,<br>Як гэта, каб Польшча гарматаў не мела. |

*Гадзіна 8:* Чую, што не затупілася іх шабля.

*Кароль ягамосць:* Гэта накліча на іх гнеў і лютасці,
Адменіць законы, пагубіць вольнасці.

*Гадзіна 9:* Эй, не зацягвай на свой карк гасцей.

*Кароль ягамосць:* Датчанін падмогі прыслаць не можа,
Брандэнбурчык таксама, імператар
паможа.

*Гадзіна 10:* Рыхтуй жа сабе труну, нябожа.

*Кароль ягамосць:* Што захоча, тое творыць над саксонамі,
Захоча ўлады і над палякамі.

*Гадзіна 11:* Білі каралёў і пад Монтвамі[47].

*Кароль ягамосць:* Будзе каралеўству хрышчэнне
І гэтую карону прэч прагонім.

*Гадзіна 12:* Навошта яе так дарага купляў?

*Маятнік выбівае:* Не з'яўляецца такой дарагой цана
кароны,
За якую многа аддаў я мільёнаў
І пакінуў у Дрэзне сваю жону.

*Адказ:* Разарваная пара, роўная яе мера.
Якая вера, такая і ахвяра.
Чакае цябе пакаранне ў пекле.

У гэтым жа годзе 1705, калі кароль Аўгуст цягнуўся з войскам да Гродна, загадаўшы, каб яго сталовае серабро і вайсковая казна дзеля бяспекі былі перавезены праз гарадок Аўгустаў у прускі горад Хелк, натрапілася няшчасце, што шведы ўсё гэта забралі і займелі, апрача двухсот тысяч талераў гатовых грошай, багатыя трафеі. У гэты ж час пашчасціла і каралю Станіславу, калі яго дывізія ў князя Меншыкава[48] ўзяла вайсковую касу, у якой было восемсот тысяч залатых дукатаў. У гэтыя ж часы ў Нясвіжы стаяла трыста казакоў маскоўскага войска, якіх шведы, напаўшы, высеклі ўсіх пад корань і знайшлі пры іх багатую здабычу і яе за-

бралі. Тады ж там загінуў Міклашэўскі, старадубскі палкоўнік.

У год 1705. Дня 1 верасня шведскі кароль з цэлым корпусам свайго войска прыбыў у Саксонію і паўсюдна нарабіў вялікай трывогі. А кароль Аўгуст, бачачы, што цяжка было ў Саксоніі, мусіў паслаць да шведскага караля двух сваіх баронаў з лістамі, напісанымі каралеўскаю рукою, з жаданнем міру. Абяцаў шведскі кароль мір, але з такімі ўмовамі, каб кароль Аўгуст назаўсёды адрокся ад польскай кароны, прызнаў Станіслава за праўдзівага караля, каб абяцаў, што ніколі, нават і пасля смерці Станіслава, не будзе дамагацца польскага трона; каб адмовіўся ад усякіх іншых саюзаў, а асабліва ад таго, які заключыў з Масквою; каб каралевічаў Сабескіх і ўсіх вязняў, якія ён мог узяць у час вайны, адаслаў парадкам, як і належала іх стану, у шведскі лагер; каб выдаў усіх беглякоў, якія прынялі ў яго службу, а асабліва Яна Райнгольда Падкуля, і каб, наадварот, перастаў шкодзіць тым, якія з ягонай службы перайшлі да шведаў. Пасля такіх пунктаў кароль Аўгуст, будучы ў вельмі цяжкім становішчы, узяў на абдумванне гэтых умоваў шэсць тыдняў міру. Але саксонцам і ўсёй Саксоніі ад шведаў вельмі прыпякала.

А калі ж кароль Аўгуст убачыў, што як у Саксоніі, так у Польскім каралеўстве і Літоўскім княстве сталася вялікае бязладдзе, і шкадуючы сваёй бацькоўскай Саксоніі, мусіў адрачыся ад каралеўства і польскай кароны на карысць Станіслава Ляшчынскага паводле вышэйназваных пунктаў і дагавораў, абгавораных з абодвух бакоў у Саксоніі, у Траншульце, і асобны дакумент выдаў аб гэтым у Петракове 20 кастрычніка 1706 года. І гэты дакумент рукою сваёю і пячаткаю падмацаваў і ўсё паводле вышэйназваных пунктаў павінен быў, хоць і паднявольна, выканаць. Аднак шведы лайдачылі ў Саксоніі яшчэ доўга і вялікія грошы адтуль вывезлі.

Пасля каралеўскага адрачэння маскоўскі цар, будучы з войскам у Варшаве і адыходзячы ў Літву, загадаў забраць з Варшавы, з палацаў варожай партыі, галантарэю і каштоўнасці і завезці іх у Маскву. Нават выяву караля Жыгімонта, адлітую ў рост з жоўтай медзі і пазалочаную, з пастамента перад Варшаўскай брамай, хацеў забраць у Маскву, але сенатарства выпрасіла. У гэты ж час у Польшчы і ў Літве, з-за пастаяннага маршырунку войска, была вялікая нястача на хлеб, але на Русі хлеба хапала аж да прыходу шведскага войска.

У год 1707. 13 чэрвеня шведскі кароль з каралём Станіславам Ляшчынскім, паабяцаўшы добрую між сабою дружбу, развіталіся і раз'ехаліся. Шведскі кароль праз Літву на Русь у бок Масквы, а кароль Ляшчынскі са сваёй дывізіяй у Карону.

Шведскі кароль Карл, будучы ўзрушаны шчаслівым пачынам і гэтым ганаровы, задумаў такім жа чынам, як скінуў з трона караля Аўгуста, такое ж, і як найхутчэй, даказаць на цару Пятру Аляксеевічу, каб і яго з трона скінуць і пасадзіць іншага цара, а самому стаць маскоўскім самадзержцам. Але шчасце адвярнулася, і гэтага зрабіць ён не мог. І хоць маскоўскі цар схіліўся да прымірэння, да міру, аднак шведскі кароль, як піша гісторык, будучы, хоць і з нагавору сваіх найзычлівейшых і найвярнейшых міністраў і генералаў, нялюдскім, прыкрым, гарачым, незгаворлівым і ў сваіх задумах быццам бы ненайпадобнейшых непарушным, прычым такі люты, што яго лютасць сапраўды пераходзіла ў жорсткасць, нічога не дбаючы пра склізкасць урачыстай каралеўскай годнасці, у сувязі з заключэннем прымірэння з царом, што заключыў яго ў маскоўскай сталіцы, публічна, перад сваімі міністрамі, хваліўся. А цар на гэтыя словы адказаў: «Брат мой Карл хоча быць Аляксандрам Вялікім на Дарыя ў маёй асобе».

Пасля адрачэння ад Польскага каралеўства каралём Аўгустам паводле вышэйназваных умоваў, генерал Падкуль з вялікім жалем быў аддадзены ў рукі шведскага караля, які гэтага генерала Падкуля загадаў жывым уплесці ў кола і чацвертаваць. А гэта адбывалася ў Польшчы, паміж Познанню і Слупскам. Гэты генерал Падкуль быў агідным шведскаму каралю з той прычыны, што, будучы шведскім падданым, верна служыў каралю Аўгусту і да тых сапяжынскіх сварак дапамагаў нямала, і за гэта загадаў яго чацвертаваць жывым. І хоць кароль Станіслаў за гэтага генерала моцна заступаўся, нічога не дапамагло.

Пра Мазепу, які пасля бітвы пад Галоўчынам праз сваю здраду завярнуў шведскае войска на Украіну, гісторык піша так. Мазепа, польскі шляхціц, родам з Падольскага ваяводства, быў выхаваны пры двары Яна Казімера як паж і з такога выпадку ўзяў крыху навукі і добрых манераў. У сваёй маладосці ён кахаўся з жонкаю аднаго шляхціца, што потым вылезла на свет. Тады шляхціц, муж гэтай жанчыны, спачатку загадаў высекчы яго розгамі, голага смалою памазаць і ў чан, поўны надзёртага пер'я, укінуць, а потым

пасадзіць на неаб'езджанага каня, перавязаць яму ногі і выгнаць у Дзікае поле. Гэты конь, які быў з Украіны, туды ж з ім і вярнуўся, і прынёс яго напалавіну мёртвым ад язды і голаду. Тады там яму дапамаглі нейкія сяляне, у якіх ён знаходзіўся доўгі час. А ў час паходаў супраць туркаў ён нават заслужыў пашану сярод казакоў, чаму шмат дапамог нейкі высокі розум, які вынікаў у яго з вачэй, і гэтая яго слава і пашана сярод казакоў штодзённа памнажаліся. Таму цар не мог абысціся без таго, каб не зрабіць яго гетманам усёй Украіны.

Калі ён аднаго разу сядзеў у сталіцы з царом за сталом, тады цар сказаў, што хоча прывучыць казакоў да лепшай дысцыпліны і парадку і мацней узяць гэты народ пад сваё ярмо. На што Мазепа, адказваючы, выказаўся пра вялікія ў гэтым цяжкасці як з пункту погляду размяшчэння Украіны, так і з прыродных схільнасцяў яе народа. Тады цар, маючы разгарачаную віном галаву, хоць і без гэтага ніколі ў гневе не быў ён памяркоўным, так за гэта наваліўся, што не толькі аблаяў яго як здрадніка, але і прыгразіў яму, што загадае пасадзіць яго на палю. Ад таго часу шукаў Мазепа, як бы вызваліцца з-пад маскоўскага ярма і застацца на Украіне ўдзельным князем. Але гэта яму не ўдалося.

Другая прычына, падобная першай, змяшчаецца тут. Калі цар Пётр Аляксеевіч сабраў вялікае войска і ўмацаваўся ў сваім царстве, меў ён Мазепу, як спраўнага гетмана, у вялікіх пашанах і ў вялікай ласцы. А калі ў Літве і ў Польшчы з нападам шведаў пачаўся ваенны вэрхал, Мазепа пачаў думаць аб здрадзе. Гэта заўважыўшы, Качубей, Іскра і Палей, панове ўкраінцы, данеслі цару. Мазепа, даведаўшыся пра такое, паехаў у Маскву і хітра з гэтага даносу выкруціўся. І так Качубею і Іскры галовы адсеклі, а Палея саслалі ў ссылку, але потым, калі ўсё змянілася, цар аб гэтым вельмі шкадаваў. Потым, калі цар Пётр Аляксеевіч пачаў памаленьку заняволь-ваць казакоў, Мазепа, саманадзейны з царскіх пашанаў і ласкі, пабраўшы правы, прывілеі, дадзеныя польскімі каралямі і маскоўскімі царамі на вольнасці, і не спадзеючыся на ніякі падман, паехаў у Маскву, жадаючы гэтыя правы і прывілеі прадставіць цару і іх пацвердзіць. А калі прыехаў у Маскву, быў у маскоўскага цара на пачастунку. Назаўтра парaскладваў гэтыя правы і прывілеі на стале ў сваім пакоі для прагляду. Гэтым часам неспадзявана прыбыў да яго ў пакой цар Пётр Аляксеевіч і, даведаўшыся, што гэта былі за

паперы, адразу ж загадаў свайму афіцэру забраць іх да сябе. І так Мазепа і ўся Украіна застаюцца без тых прывілеяў цяпер. І Мазепа выехаў з Масквы не са смакам, што найболей падштурхнула яго да выхаду з маскоўскага падданства. Гэты Мазепа ў час шведскай змовы быў ужо бязногі, і яго ўжо насілі на насілках, бо меў ён у назе чарвяка-воўка, які ў дзень з'ядаў па дзве печаныя курыцы, а калі б хто гэтага чарвяка забіў, з гэтага часу Мазепа адразу ж памёр бы.

Калі маскоўскі цар разбіў шведа і Мазепу, якія ўцяклі ў Бендэры, пра што дастаткова апісана ніжэй, кароль Станіслаў занепакоіўся, а Аўгусту адлягло ад сэрца, бо цар, пабіўшы шведа, хоць сам і меў вялікія цяжкасці з туркам пад Прутам, але, там закончыўшы, ізноў уварваўся са сваім войскам у Польшчу. І хоць кароль Станіслаў шукаў парадаў і сілы, якім бы чынам утрымацца на троне, але не сумеў, бо не змог устаяць супраць значнага маскоўскага і саксонскага войска. Аднак імкнучыся бяспечна адступіць з Польшчы, прасіў у лістах праз генерала Грасава дазволу праходу праз Прусію, але прускі кароль ні ў якай меры не дазволіў і сваю заключаную са шведскім каралём дружбу разарваў. І так генерал Грасаў з каралём Станіславам і з усёй дывізіяй мусілі ўскрайкам Брандэнбургскага краю, не нарабіўшы ніякай шкоды мястэчкам і вёскам, забрацца ў шведскую Памеранію.

Пасля выезду караля Станіслава з Польшчы ў Памеранію кароль Аўгуст Другі ізноў сеў на сваім каралеўскім маестаце, якога ўсё панства, польскае і літоўскае, вітала і сваю павінную, паводле ўмоў, аддало і прызнала першым каралём. Пад час такіх беспарадкаў у Польшчы і Літве палякі і кароль Аўгуст, не маючы на што нанімаць войска і яму плаціць, засталіся вінаватымі цару Пятру Аляксеевічу такую суму. Найперш:

1. Кароль ягамосць праз Карла Падкуля ўзяў на Літве шэсцьсот тысяч талераў добрай манеты.

2. Князі ягамосць Вішнявецкі, Пацей, Агінскі, Валовіч, Халецкі ўзялі на ваяводствы, менавіта на Віцебск, Полацк, Мсціслаў, Оршу, шэсцьсот тысяч талераў бітых.

3. На сапяжынскія ўладанні праз Пашкоўскага ўзялі чатырыста тысяч рублёў.

4. На сапяжынскую Друю, Іказнь на склад узялі сорак пяць тысяч талераў.

5. Князь Аляксандар Меншыкаў на сапяжынскія і нейбургскія маёнткі даў гэтым жа чатырыста пяцьдзесят тысяч.

6. На маёнткі Любамірскага і на кароннае войска ўзялі ад князя Меншыкава шэсцьсот тысяч талераў бітых.

7. На рускія і валынскія гарады, на Камянец-Падольскі і на кароннае войска ўзялі шэсцьсот тысяч талераў бітых.

8. Пры наёмніцтве ягамосця пана Шаняўскага ўзята на кароннае войска 1 мільён 200 тысяч.

9. З Сікорскага прыказа дадзена ксяндзу Шэмбеку і Сяняўскаму праз Чахоўскага і Драздзецкага на кароннае войска семсот дваццаць тысяч рублёў.

10. Гэтым жа на Украіне, у Брашаве, у годзе 1709 дадзена на кароннае войска сто тысяч талераў бітых.

Чынім суму — трыццаць сем мільёнаў трыццаць тысяч. Пра гэтыя мільёны і дагэтуль успамінае Масква на сеймах у палякаў, з-за чаго часта і сеймы не заканчваюцца, і таму ўжо даўно носіцца рэха, што хоча Масква пакінуць мяжу сваю па Бярэзіне.

У час такіх падзей, што адбываліся ў Кароне і Літве, гэтыя ваенныя маршырункі і вялікія шкоды цэлай Польскай дзяржаве нехта, ведаючы, што кароль ягамосць Аўгуст II вельмі любіў танцы і маскарады, апісаў пад выглядам карнавала, гэта значыць танца.

Карнавал замежны ў Польшчы ab anno[49] 1701-га ad annum[50] 1705-га.

Закрычаў нейкі вар'ят: «Калі гуляць, дык гуляць, хутчэй за маскі». Тады Польшча і Літва надзяваюць на сябе маскі ўбогіх сіротаў, апекуноў цара маскоўскага і караля шведскага; ксёндз-прымас — Генрыха французскага; ваявода пазнаньскі, вядома, маску караля Аўгуста, ноччу архітэктара, пры якім пан Чаракоўскі звяртаўся да Божай міласці на элекцыю, каб не евангельскае hic homo cepit edificare et non potuit consumare, гэта значыць — тут чалавек пачаў будаўніцтва, але не змог закончыць; матка яго — маску маткі Нерона змяніўшы, occidat opercat modo imperet[51]; сенатары — маскі сляпых, глухіх, накульгваючых дзядоў; гетманы — жыдоў з сумкамі каля пояса; жаўнеры — баязлівых жанчын у плашчыках, тхарынымі шкурамі падшытых[52], і з кудзелямі; Сапегі — збяднелай шляхты з палашамі і босых; шляхта — сялян; маршалак варшаўскай канфедэрацыі — Фабія рымскага, манаха ў каўпаку; польскія дамы, шукаючы бяспечнага кута, цыганак-гадалак, але адна з іх чараўніца; гараджане — шведскіх маркітантаў.

Так убраўшыся, гуляюць у Польшчы і Літве, адны пеша, другія конна, іншыя ўсляпую, без вазакоў, на вазах і санях, і толькі дзе сутыкаюцца, там людзі больш плачуць, чым смяюцца. Аж таксама адна кампанія ўварвалася ў палац князя-прымаса і, трапіўшы ў пакой, застае яго ўжо ў іншай масцы, менавіта Пілата, панційскага старасты, які так ім сказаў: «Innocens ego sum a sangvine isto», гэта значыць — «невінаваты я ў гэтай крыві, даволі гэтых гульбаў, не я сам гэтага ліха прычына». Пачуўшы гэта, адышлі з агідаю. Аж ізноў урываецца іншая кампанія, але ўжо і князя знаходзяць у іншым пакоі і ў іншай масцы, менавіта святога Пятра-мучаніка, які запрог караля Аўгуста, як Пётр Хрыста. Пачуўшы яго набожныя стогны: «Ach, qvantum deo, qvantum mundo, qvantum celo animas saluti proprias, qvantum vanitatis corporis et fortunis hujus mundi sum reus»; гэта значыць — «Ах, як шмат Богу, як шмат свету, як шмат небу на збавенне ўласнай душы, як шмат марнасці цела і фартунам гэтага свету я вінаваты», былі такія здзіўленыя, што хутчэй уцяклі. А пасля гэтага ўрываецца ў палац трэцяя кампанія і застае ксяндза прымаса ў трэцім пакоі, дзе былі раскладзены ўсе яго багацці, таксама мяшкі з грашыма, аж бачаць, сядзіць ён у масцы Заліхвея-цэльніка, а хлопчык яму прыгожа спявае: «Qvid prodest homini si universum mundum lucretur, animas vero suas detrimetum patiatur»; гэта значыць — «Што ж будзе спажыткам чалавеку, калі ён цэлы свет у спажытак сабе адшукае, а душу сваю загубіць». А ён на гэта басам адказвае: «Ecce dimidium honorum meorum do cosacis pavperibus et Polonecio, et si qven defravdavi reddo qvadruplum»; гэта значыць — «Гэтую маю палову я дам убогім казакам і Паланецкаму, а каго пакрыўдзіў, вярну ўчацвёра». Адзін з пакаёвых тады распісвае багацці, забраныя шведамі, — якія якому касцёлу дастануцца, ці шведскаму, ці польскаму каралю, ці каралевічам. Другі лічыць грошы і запісвае ad restituendum[53]. Аднак гэтыя зневажальнікі разышліся па гарадах і вёсках і найбольш гуляюць, а пазнаньскі біскуп і лянчыцкі ваявода так зацягнуліся далёка, што агледзеліся аж у Саксоніі, дзе засталі і караля Аўгуста, а ён pertubam opticam, гэта значыць — гледзячы ў падзорную трубу, з польскага шаленства пасмейваецца, п'е добра і на дзіках супраць шведа закіроўвае.

## ТАНЕЦ

У танцы першынство трымаюць шведы, бо скачуць па-французску, якім на лютні падыгрывае Бонаш, французскі пасол:

Bellonas martisqve favores narremus
Poloni victores orbis decantemus
Nostras suma fortunas fama decantatur
Orbus svascus polono victor proclamatur
Disce prope psallos principesqve tuos
Venerari to par est mores lue stultos[54].

Адны палякі скачуць па-шведску, другія — па-саксонску, толькі што дрэнна, і ад гэтага ўсе смяюцца. Дудары-палякі на дудах ім падыгрываюць, а хлопчык дыскантам спявае:

Скачыце, дурні, польскія панове,
Так дурням граем, бо вас ужо знаем.

Ліцвіны скачуць па-маскоўску, а казакі на кобзах перабіраюць, казачок спявае:

Го, го, гой, ужо тры літа і тры нядзелі,
Як майго мужыка камары з'елі,
А я, сірацінка, перад смерцю захрыпеў,
Конаўкамі, шклянкамі, кубкамі абставіўся.

Саксонцы, паводле сваёй грубай манеры, скачуць па-нямецку, якім палякі басам гудуць:

Liber Hans[55] хутка чарку выпівае,
Каптан, порткі аблівае, аж цячэ яму па шыі.
Выеў пан сас, як тхор, куркі, гускі, парасяты,
Забраў ключы, павымятаў кладоўкі дачыста!
Каб ён д'ябла з'еў.

Усе потым весела танцуюць, і ўсе ў коле, з Прусіі да Малой Польшчы, з гэтай на Русь, з Русі ў Вялікую Польшчу, з гэтай у Прусію, а з гэтага ўсяго адно вынікае, што палякі, дапамагаючы ў гэтым танцы, заўсёды альбо п'яныя, альбо завarожаныя. А сяляне і жабракі, лямантуючы і плачучы, пра сябе думаюць:

Шкада нам зараз гэтых нашых панаў,
Што нашы шкуры, і з іх саміх, як з тых баранаў,
То сас, то шведы лупяць.
Ці дурныя галовы маюць,

Ці не хапае сіл і рады.
Каралеўства ў тло з-за гэтых звадаў.
Ах, і сквапнасць гіне, і думаюць,
Што людзі баюць.

## ВЯЧЭРА

Потым шведскі кароль адну вячэру ў Польшчы, другую маскоўскі цар у Літве спраўляюць. Каля стала шведскага караля ўсё толькі шведы і афіцэры, з палякаў не відаць нікога. Толькі гербавы польскі арол, вараны і печаны, на стале. Панове Сапегі з талеркамі прыслугоўваюць, выглядаюць жвавымі, якім шведы, што з вуса ўпадзе, альбо што шведскі кароль на талерцы пададуць. Пан Кавячынскі што хутчэй талеркі мые, а, між іншым, пры поясе мае хвост. Вялікапаляне стаяць з бутэлькамі, адным віна, другім піва, якога наварылі, наліваюць, а шведы крычаць: «Gib wein, beynanter![56]» А калі шведы так весела выпіваюць,у Львове з гармат на vivat так моцна ўдарана, што аж затраслося. Толькі калі віна не стала, нясе пан пазнаньскі ваявода касцельны келіх, поўны людской крыві; пан жа падскарбі літоўскі — чару людскіх слёз, і падалі шведам, каб пілі. Шведы, упіўшыся віном і не менш музыкай дудароў-палякаў, не пазналі напіткаў, п’юць ненасытна, штораз выкрыкваючы: «Gib win, szelmpolak!» П’яных панове прусы да сваіх палацаў на начлег просяць, двары ім аблілі і асмуродзілі, бо ім такое міла, што не саксонцы, але госці і прыяцелі шведы, за што ім прускія гарады міла апладзіруюць.

## ВЯЧЭРА ДРУГАЯ

А пры стале маскоўскага цара ўбачыш князёў Вішнявецкіх, паноў Агінскіх, Пацеяў, Заранкаў, Валовічаў, Катлоў і іншых. Усе п’юць за здароўе караля Аўгуста, што раз літоўскі каравай, па-татарску карваш, кроячы, баючыся толькі на канец бойкі, хутка яе не стане, толькі б самі з-за хваста не пабіліся. На абодвух сталах прысмакаў і марцыпанаў удосталь, толькі гэта дзіўна, што ўсё ў выглядзе чорта альбо д’ябла, пэўна, з-за людского праклёну, каб цябе д’яблы з’елі, каб вас чорт трос, каб вас д’яблы парвалі.

Танец паўтараюць пасля вячэры не раз і не дзесяць. А на ўсё гэта прыглядваецца брандэнгбурчык, са шведаў дзівіцца, маскаля паважае, а з палякаў смяецца. Аднак жа гэта яшчэ не канец карнавалу, бо і вясною пачнуцца оперы.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Прачытаўшы гэты праект, пэўна, на розум прыйдзе:

Хто ж яго такі пісаў, адганіце, мосці пане?
Ці італьянец? Не італьянец. Гэта немец? Не немец.
Гэта з Русі?
Хоць не з Русі. То паляк-франт нейкі быць мусіць?
А не паляк. Хто ж такі? Было б па каце,
Калі б аб ім ведалі. Досыць, што гэта знаеце.

Гэты карнавал, калі каму мудраму трапіцца прачытаць, ёсць выдумка, напісаны быццам бы як пасквіль, што ўсё гэта дзеялася ў Польшчы, таму для лепшага ведання адсылаю я да кніжкі жыцця Станіслава.

Пасля нататак аб гісторыях ваенных, што дзеяліся ў Вялікай Польшчы і ў Літве з уварваннем у Польскую дзяржаву шведскага войска, вяртаюся я тут да падзей, якія дзеяліся на Русі і ў Магілёве.

У час такіх ваенных звадак у Польшчы не меншая таксама калатнеча адбывалася на Русі і ў Магілёве, а асабліва пад час асады Быхава сапяжынскай кампаніяй, бо калі памёр атаман Юрэвіч, то Більдзюк, быхаўскі адміністратар, ці губернатар, часта сваёй дывізіяй нападаў на кампутовых, але супраць гэтага Більдзюка, паколькі Быхаўскі замак быў добра ўмацаваны ад Сапегаў гарматамі і вайсковым людам, нічога не маглі зрабіць.

У гэты час (хоць тут я дня і года не называю) прыбыў да Магілёва з літоўскім войскам, з татарамі ягамосць пан з Бонча Сініцкі, мечны Вялікага княства Літоўскага. Магілёўскі замак і эканомію ўзяў пад сваю ўладу, яму ж на дапамогу па загадзе маскоўскага цара Пятра Аляксеевіча прыбыло некалькі палкоў казакоў. Гэты, мала што знаходзячыся ў Магілёве, забраўшы замкавыя гарматы і кулі, пра што апісана ніжэй, аблажыў Быхаў. І так моцна насеў, каб яго здабыць, і так вакол горада атакаваў, што ані з Быхава, ані да Быхава праз войска ніхто не мог прабіцца. І хоць Більдзюк з горада даваў Сініцка-

му моцны адпор, аднак меў Сініцкі пры сабе бамбардзіра і бомбамі ламаў гарадскія будынкі, дзіравіў горад ядрамі. А час ад часу ўсё болей войска прыбывала на дапамогу, а ў горадзе з-за войска правіянту ўбывала. І так Більдзюка, аслабленага ў сілах і прыпасах, і многа пры ім вайсковых людзей ... ці пабрана, а самога Більдзюка з двума яго хаўруснікамі закавалі і адправілі ў Сібір.

Сініцкі, умацаваўшыся ў Быхаўскай губерні як у заваяванай, ваенны люд, што быў пры Більдзюку, узяў пад сваю каманду, горад прывёў у парадак, акружыў гарматамі і вартай, а сам часткова знаходзіўся ў Быхаве, часткова ў Магілёве, часткова ў сваім Палуйкевіцкім доме, раз па-нямецку, другі раз па-польску, як яму падабалася, убіраўся, бо пасля ўзяцця Быхава і ўзяцця пад сваю ўладу магілёўскай эканоміі вельмі распанеў. І так кожны імкнуўся да яго на службу, вербаваўся да яго войска, трымаў ён пакаёвых слуг і розных чыноўнікаў, вельмі ўбраных у строі (якіх мы бачылі пасля заканчэння вайны, служачы пры Сініцкім, атлас на суднях здаваўся ім цяжкім, а пасля службы ледзьве мелі вывернуты кажушок і той латаны). А гораду, пра што ніжэй гаворыцца, чыніў вялікія цяжкасці згаданы ягамосць пан Сініцкі.

Гэты Сініцкі для ўласнага адпачынку пабудаваў у Палуйкевічах на раўніне па-майстэрску і ўмела відныя палацы, вельмі прыгожыя, вымаляваныя, з балясамі, з заламі, брамамі, стайнямі і з высокім вакол парканам. Калі муляры альбо печнікі не маглі адразу пабудаваць адамашкавыя паліваныя і іншыя печы, тады для гэтых палацаў печы, якія ім падабаліся, забіралі ў гараджан і перавозілі ў Палуйкевічы, і гэтыя печы там ставілі, з-за чаго чынілася гараджанам вялікая крыўда.

Быхаўскі замак*, пабудаваны крываваю людскою працаю, заставаўся нядоўга. Ягамосць пан Сініцкі, як учыніў супраць найяснейшага маскоўскага цара здраду, замкнуўся ў Быхаве. Хутка гэты палац апусцеў, а пасля пажару ў горадзе Магілёве яго руіны былі перавезены ў Магілёўскі замак, а другі, абрабаваны вайсковымі маскалямі, абпалены, згніў, а рэшткі гэтых будынкаў сяляне-палуйкевічаўцы пазабіралі на дровы.

Пасля падзення Быхава гэты ж Сініцкі, праз год ці праз паўтара, пасылаў у Маскву з вялікай світай і аксесуарамі свайго роднага брата патрабаваць грошы на вярбоўку войска, які

* Тут, пэўна, летапісец памыліўся, бо размова далей ідзе пра палац у Палуйкевічах.

па вяртанні з Масквы прывёз вельмі многа луданаў, прынамсі, некалькі тысяч штук. Прадаваў гэтыя луданы жыд у краме на вялікім рынку, дзе людзі з замка перапрадаюць збожжа. Дзе яны падзеліся, я не маю весткі.

У год 1703. У лютым патухла свяціла святога праваслаўя, бо з дэкрэта найвышэйшага трацейскага суддзі айцец Серафіён Палахоўскі, епіскап Беларускі, як добры кіраўнік святога праваслаўя, прахварэўшы некалькі тыдняў, аддаў у Пячэрску сваю душу ў Божыя рукі і з гэтым светам развітаўся. А калі пранеслася рэха, што каталікі хочуць забраць цела (аднак гэтыя чуткі былі непраўдзівымі), адразу ж у час, на гэта вызначаны, загадана было ўсім цэхам рушыць са зброяй і харугвамі. Рушылі цэхі са спушчанымі харугвамі, накрытымі жалобным кірам[57], і барабаны таксама былі накрыты чорным кірам. А з выпадку рушэння білі ў барабаны, але мала і ніцма, і так выйшлі аж за апошні вал. А потым цела на санях у скрыні, альбо труне, шасцю коньмі было прывезена і пастаўлена ў Спаскай кафедральнай царкве на пышна ўпрыгожаным катафалку, на якім стаяла шэсць тыдняў. А потым яго цела было перавезена ў склепік пры драўлянай Спаскай царкве, які быў вымураваны для пахавання беларускіх айцоў-епіскапаў, дзе, па даўніх звычаях, епіскап-спадкаемца павінен быў з рознымі святадзействамі і ўрачыстасцямі памерлага айца-епіскапа пахаваць і адправіць царкоўныя цырымоніі. І хоць яснаасвечаны князь ягамосць Чацвярцінскі, епіскап Беларускі, пасля смерці айца Серафіёна Палахоўскага атрымаў епіскапскі прастол, аднак у сувязі з ваеннымі заварухамі памерлага айца, епіскапа Беларускага, пахаваць не змог, а ў час усеагульнага пажару гэты айцец, епіскап Палахоўскі, згарэў, і пахаванне яго не адбылося.

У гэтым 1703 годзе горад, учыніўшы з паспольствам раду, забыўшыся пра загад караля ягамосці Аўгуста Другога аб выплаце вялікай кантрыбуцыі саксонскаму войску, бо знаходзіўся ў гэты час горад і гараджане ў дастатку і пры фартуне, і кабачны даход у гэты час быў у выйгрышы, па прычыне таго, што ў Польскай Кароне, як вышэй згадвалася, так у Літве і на Русі пачыналіся вялікія беспарадкі, вайсковыя маршы, з учыненай рады, а найбольш з пратэкцыі старшых, быццам бы для большай бяспекі горада і гараджан (а гэта, не памеркаваўшы даходаў з расходамі), завербавалі да гарадскога гарнізона чалавек сто людзей рознага стану, выдалі ім зброю, а менавіта: шпагі, мушкеты і мядзведжыя шапкі. У гэтым гарнізоне, як і

належыць, былі афіцэры харужыя, сяржанты, капралы, а палкоўнікам быў Тэафіль Фёдаравіч Шаўня, іх харугва была асвечана ў Спаскай царкве.

...нёны гарнізонны жаўнер ме..., бо адных завербавалі, а другія ў ...* было махлярства са сваімі афіцэрамі, пакуль даходзіла плата. А калі наступілі на горад цяжкія часіны і сціснулі горад ваенныя пераварoты, а плата пачала не даходзіць, гэты гарнізон разваліўся і паўцякаў, засталіся толькі ягамосць пан палкоўнік і белая, з абразам найсвяцейшай брацкай панны, харугва.

Калі ўжо, як я вышэй згадваў, гарнізон быў набраны і ў самім горадзе і па дальніх брамах расстаўлены, горад, адчуваючы, што будзе хутка ў абароне, атрымаў ад Аршанскага павета шос[58] і павысіў тарыфы на выбіранне шосу і кабачнага рознымі таварамі. (А гэта ўсё было зроблена з рады і волі старшых асоб, бо паспольства гэтым не цікавілася.) А адбывалася гэта з 1703 на 1704 год. Да гэтага, з волі і загаду магістрата і шосавых контрагентаў, будавалі, пачынаючы ад гары Гвоздоўкі аж да самага Дняпра, драўляныя валы з брамамі і вежамі, а дубовыя палі забівалі аж да сярэдзіны Дняпра. З другога берага, у Папінцы, тое ж самае рабілася, матэрыял, ці дрэва, на гэтыя валы бралі, у каго толькі знаходзілі, багатым плацілі, а ўбогіх крыўдзілі. А гэта ўсё будавалася за кошт гарадской ратушнай казны. Наглядчыкам і архітэктарам усяго гэтага быў вышэйназваны ягамосць пан палкоўнік Фёдаравіч[59].

На выбіранне шосавага даходу было прызначана месца ў камяніцы паноў Лапіцкіх, дзе паны контрагенты выбіралі падатак... гарадскога, іншых харчовых рэчаў, мераючы квартаю паводле зробленага ... торгам рэестру, аж тут шмат паноў ..., хто толькі якую суму заклаў на ўтрыманне ... хацеў як найхутчэй атрымаць барыш. А калі вы... утрымання гэтага шосу і адамкнулі ў сто..., нічога тут не знайшлі, толькі адны паперкі, што ... сабе браў, што стала вядома іншым, а пану Яну Карабанку не было вернута некалькі соцень талераў. Гэты, не гаворачы контрагентам, аформіў на ўвесь горад судовы іск, пацягнуў горад Магілёў да розных судоў, прыводзіў у ратушу камісіі, рабіў расследаванні, экзекуцыі, многа гэта гораду каштавала, бо ўцягнуў горад у суды. І па сённяшні дзень гэтая справа ніяк не магла скончыцца, аж пакуль згаданы бурмістр

* Тут шматкроп'е абазначае, што тэкст пашкоджаны.

Ян Карабанка ў годзе 1736 разам з жыццём і дакументамі не апеляваў на той свет.

Тады пасля атрымання шосу, праз адзін год, гэты барыш ізноў трапіў у жыдоўскія рукі, якія па інвентары, зробленым гараджанамі, моцна горад мучылі і прыціскалі, праз што і кабачны даход, які заставаўся ў гарадской уладзе, прыйшоў да руіны, а з-за нявыплаты горадам квоты каралеўскаму скарбу быў забраны, як пра гэта будзе ніжэй расказана.

А з гэтых валоў, якія былі збудаваны для шосу, каб не праязджалі патаемна купцы, у час маскоўскай навалы былі падрамантаваны насцілы на дняпроўскіх паромах, што апісана ніжэй, і з-за гэтага шосу панёс горад надзвычай вялікія страты.

У гэтым жа годзе выйшаў з маскоўскай сталіцы строгі ўказ на вярбоўку і таксама загад маскоўскага цара Пятра Аляксеевіча, які, вывучыўшы і зведаўшы ўласнай асобай розныя нацыі, дзяржавы і народы, упадабаў нямецкі строй і для гэтага загадаў, каб ваенныя людзі і гараджане ўбіраліся па-нямецку і галілі бароды (бо перад гэтым быў у Маскве звычай, што не кожнаму было вольна галіць бараду). Але гэты загад быў не даспадобы паспалітым людзям, якія ў гэты час заставаліся ў прастаце. Адны з-за галення барадаў уцякалі за граніцу (адкуль была з'явілася вялікая, побач з іншымі, слабада), пра што будзе сказана і напісана ніжэй. Іншыя за бароды плацілі ў царскі скарб па некалькі дзесяткаў рублёў пошліны. А які б з гараджан не хацеў убірацца ў Маскве па-нямецку і ішоў бы які праз браму каля варты, якая там стаяла, таму загадвалі прыкленчыць і па калена кафтан абразалі. І адсюль уведзены на Маскве нямецкі строй, і ад гэтых часоў пачалі курыць і нюхаць табачны напітак публічна, а перад гэтым курылі і нюхалі патаемна. І толькі ў горадзе Магілёве ёсць такі старасвецкі закон, каб ад Магілёва да Смаленска пад страхам смерці ніхто не адважваўся правозіць ні тытуню, ні гарэлкі.

У гэтым жа 1704 годзе. На святога Ілллю, гэта значыць 20 ліпеня, у вячэрні час, як гналася быдла, паказалася на небе камета, з'явілася з малой зоркі, а потым, павялічыўшыся, вяла свой хвост на поўнач, і страшна гэта было. У гэты час, увечары, былі адслужаны ў цэрквах усеагульныя малебны. Трывала гэтая камета аж да апоўначы. Тады ж гаварылі, што ў гэты момант цар ягамосць Пётр Аляксеевіч узяў шведскую Рыгу ... невядома.

У гэтым жа годзе. Быў гораду вельмі вялікі цяжар ад Сініцкага, бо з выданай ад гетмана асігнацыяй, каб выплаціў яму горад сто тысяч, цяжка горад мучыў. А ў гэты час не мог горад бараніцца і ратавацца, бо стаялі ў ім на ратушы некалькі харугваў, прысланыя ў горад для пакарання. І так, калі пачалі прасіць Сініцкага, каб быў міласцівы на горад і цяжка не караў, тады гэты ж Сініцкі нараіў і рэкамендаваў свайго таварыша, які пры ім жа заставаўся, ягамосця пана Краеўскага, кароннага рэгента, каб пазычылі яму пяць тысяч талераў бітых і аплацілі асігнацыю. І так магілёўскі магістрат, хочучы не хочучы, бо іншых такіх спосабаў для вытрывання гэтых цяжараў не было, мусіў гэтыя пяць тысяч талераў бітых узяць на гарадскі карк і ад цэлага горада даць распіску. Гэтыя грошы на адным канцы стала былі паказаны, а на другім канцы была падпісана распіска. А рэшту, паводле асігнацыі, выплацілі гэтаму ж Сініцкаму горадам як з кабачнага скарбу, так і з падаткаў, ускладзеных на горад і гараджан.

Гэтыя грошы, пяць тысяч талераў бітых, калі пэўнага года і дня вышэйпамянёны Краеўскі, каронны рэгент, памёр, скарысталі наступным чынам: тысячу талераў ён завяшчаў магілёўскім айцам езуітам, тысячу талераў магілёўскім бернардзінцам, тысячу талераў аршанскім дамініканцам, тысячу талераў магілёўскім кармелітам і тысячу талераў бітых віленскім місіянерам. З гэтай сумы па канвенту[60] мусіў горад штогод выплочваць, аж пакуль не збяднеў да апошняга, па сто талераў камісійных. Потым некалькі гадоў не плаціў, за што канвент уцягнуў горад у суды трыбунальскія. І так па сённяшні дзень вісіць гэтая сума, пяць тысяч талераў бітых, на гарадскім карку, і штогод, паводле асобных пастановаў, выплочвае горад працэнт. Толькі набраўшы ў рознай шляхты крэдытаў, выплацілі адну тысячу талераў бітых віленскім ксяндзам-місіянерам, і гэта з вялікай цяжкасцю, бо была яна аддадзена ў рукі ягамосці пана Гурка.

У гэтым жа 1704 годзе. Яшчэ перад жывадзёрствам, што стала над ґорадам ад Сініцкага, у самым пачатку года, ехаў праз Магілёў да цара ягамосці Пятра Аляксеевіча па розных справах усёй Айчыны, Польскай і Вялікага княства Літоўскага, польскі пасол, аднавокі хелмскі ваявода, якога горад, як служылы, сустракаў рамеснікамі і купецкімі харугвамі, як сенатара. Гэтага пасла, калі ён з вельмі вялікай світай знаходзіўся ў Магілёве, мусіў горад трымаць на харчах, а потым прасіў ён

у гарадскога магістрата, каб пазычылі яму на дарогу з горада тысячу талераў бітых, абяцаючы выплаціць іх пасля вяртання з Масквы ці прыслаць са сваім надзейным дваранінам. Магістрат, бачачы, што ягонае нахлебніцтва дорага гораду каштуе, мусіў з кабаку, каб не затрымліваўся даўжэй, пазычыць яму тысячу талераў бітых, якія, узяўшы, не аддаў ён ні сам, ні з пасланцом з Масквы...

Год 1706

Год, шчасліва наступіўшы тысяча семсот шосты пакінуў гораду нешчаслівую спадчыну, бо адбываліся ў гэтым годзе пераходы і пераезды розных войскаў, будаўніцтва мастоў праз Дняпро, прысутнасць у горадзе знатных асоб, засыланне інспекцый з павета, зборшчыкаў падаткаў і дэпутатаў, з-за чаго была ў горадзе вялікая неразбярыха, якую і апісаць цяжка, хіба што самае вартае кораценька апішам мы ніжэй.

У гэтым жа годзе быў аканомам Сініцкі і са сваім братам падстолім невыносна цяжкімі былі на горад, якім магістрат, калі пайшоў на Каляды віншаваць з Новым годам, аднеслі, каб былі літасцівымі, сярэбраны пазалочаны кубак аўшпурскай работы, які каштаваў талераў 50.

У гэтым жа годзе ў студзені ягамосць пан Пішчала, намеснік гетмана кампутовага войска, даслаў гораду ад гетмана асігнацыю, каб выплаціў дваццаць тысяч, і калі на горад люта насеў, мусілі выплаціць. У гэты ж час быў заказаны гораду і правіянт на маскоўскае войска. І смаленская вайсковая шляхта стала па лепшых гасподах, харчавалі яе гараджане.

20 лютага маскоўскі цар Пётр Аляксеевіч быў у Оршы, да якога прасіць манаршскай міласці, каб не абрабавала горад войска, ездзіў магістрат. Адвезлі паклоны і пры другіх падна-шэннях адвезлі і паклалі на сярэбраных пазалочаных падносах тры вялікія караваі, за якія заплочана з горада пекару дзесяць злотых. Прыняў цар магістрат ахвотна і абяцаў рабіць гораду розныя палёгкі, аднак жа мусілі ў гэты час даць на маскоўскае войска правіянт сенам і аўсом.

Пры бытнасці нашых магілёўскіх дэпутатаў у Оршы прыбылі да цара ягамосці два бернардзінцы прасіць ялмужны[61] і спавядаліся перад царом, што «мы, убогія манахі, не маем з чаго жыць, толькі з ялмужны». Спытаў цар: «Многа лі вас?» Адказалі, што ўсіх шасцёра. Адказаў на гэта: «Цьфу ты, растакая маць, Бог всю вселенную пітает, а вас шасцярых не прапітает». І, дастаўшы з кішэні жменю капеек, даў бернардзінцам, а даўшы, сказаў: «Падзі к чорту».

Лютага, 25 дня ішла праз Магілёў харугва ягамосці пана Агінскага, жамойцкага старасты. Тады нямала з горада раз'язджалі, стараючыся ад караля ягамосці Аўгуста Другога ахоўных грамат, але і ахоўныя граматы нічога гораду не дапамаглі.

У гэты час былі накіраваны з павета ў горад інспектары Падбярэзскі, Лукомскі і Галімскі для інспекцыі гарэлкі, таму рэвізавалі карчмы і цэйхгаўзы, і шмат гэта каштавала гораду, бо мусілі падносіць ім падарункі.

10 красавіка маскоўцы праводзілі ў Польшчу некалькі дзесяткаў штук гармат. У гэты ж час пасылалі з горада чыноўнікаў з віном, з мёдам, з хлебам і іншымі харчовымі прыпасамі да гетмана Мазепы. Гэты казацкі гетман Мазепа ў Магілёве не быў, але тры дні стаяў у вёсцы Брылях, недалёка Магілёва, а потым паехаў да цара ягамосці. Тады ж быў у Магілёве і аднавокі Заранак.

3 мая праводзілі маскоўцы праз Магілёў у Польшчу некалькі дзесяткаў штук гармат.

5 мая Іскра, палтаўскі палкоўнік, стаў з казацкім войскам у полі за Віленскай брамай, якому горад даваў правіянт на людзей і коней. Тады ж праводзілі ў Польшчу і казацкія гарматы.

У гэтым жа годзе 1706. 14 мая быў заказаны гораду правіянт на дывізію генерала Баўра, да якога ў Шклоў ездзілі панове магістратавыя і, каб не даваць правіянту, задобрылі генерала Баўра тысячаю тынфаў. У гэты час пачулася рэха, быццам бы прыбліжаецца і кіруецца да Магілёва швед, з-за чаго з горада к Слуцку, Менску і далей пасылалі шпегаў, але не атрымалі ніякай весткі, бо швед у той час яшчэ не ўвайшоў у Польшчу. Мечны і падстолі Сініцкія хоць горад і рабавалі, аднак называлі сябе яго заступнікамі, з-за чаго падстолему Сініцкаму, за апякунства, быў вымушаны горад заплаціць тысячу тынфаў.

15 мая князі Валконскі і Гагарын з некалькімі палкамі ваеннага люду прыцягнуліся к Магілёву і сталі пад Пашковам, дзе для гэтай маскоўскай старшыны быў арганізаваны ў купецкім доме за гарадскі кошт банкет. А калі іх на банкет не дачакаліся, усё прыгатаванае аднеслі ім у лагер, а на войска, пабраўшы ў гаспадароў, далі пяцьсот боханаў выпечанага хлеба. Гэтае ж войска, пераправіўшыся праз горад і Дняпро, стала лагерам каля Затраечча на лугах. У гэты ж час будавалі маскоўцы праз Дняпро мост, на што давалі з горада людзей і грошы. Было гэтае будаўніцтва для горада вялікай мукай. Та-

ды ж аканом Сініцкі за сваё апякунства выцягнуў з горада 3000 тынфаў.

21 дня гэты ж апякун, ягамосць пан Сініцкі-старшы, па гетманскай асігнацыі, праз сваё жаўнерства, мучыў спаскіх, брацкіх манахаў і ўсіх магілёўскіх папоў, таму мусіў магістрат ездзіць да яго ў Быхаў (бо тады меў ён Быхаўскае графства пад сабою) маліцца за святароў, а службы ў цэрквах не было два тыдні, і мусілі згаданага Сініцкага задобрыць. У гэты ж час, на Божае цела, маршыравалі сваім строем рамеснікі і салютавалі з гарадскіх гармат, але была гэта няўвага магістрата, бо ў такіх недамаганнях загадалі біць з гармат.

24 мая генерал Баўр са сваім генеральствам, гэта значыць з некалькімі палкамі маскоўскага войска, прыбыў да Магілёва. Сам меў пакой у горадзе, а войска стала ў полі пад гарою Мышакоўкаю. У гэты ж час ягамосць пан Кацёл, троцкі ваявода, чакаючы на прыезд цара ягамосці, быў у Магілёве, а потым, праз некалькі тыдняў, не дачакаўшыся, выехаў у Шклоў. Тады ж на самым паравозе, насупраць Лупалава, будавалі маскоўцы на байдаках праз Дняпро другі мост.

30 мая кур'ер з лістамі ад цара ягамосці бег праз Магілёў у Быхаў да генерала Сініцкага, які ў час бытнасці ў Магілёве маскоўцаў найбольш са сваім войскам і хаўруснікамі нахлебнічаў у Быхаве. У гэты ж час Аляксандар Данілавіч Меншыкаў з маскоўскім войскам, са сваёй дывізіяй, стаў у Гомелі. Тады ж прыбыў к Магілёву з войскам і генерал Кікін, а потым спадзяваліся на прыезд у Магілёў і цара ягамосці.

8 чэрвеня, чакаючы на прыезд цара ягамосці ў Магілёў, нарыхтаваў горад розных напояў, закупілі віна, сыцілі мёд, варылі рознае піва і рыхтавалі розныя харчы. А генерала Баўра, які нахлебнічаў у Магілёве і меў пакой у камяніцы Захара Аўтушкевіча, абцяжарваючы горад сваёй кухняй, задобрылі, каб быў літасцівы да горада, пры другіх падарунках, двумастамі талерамі бітымі.

У гэтым жа годзе 1706 15 чэрвеня Аляксандар Данілавіч Меншыкаў з некалькімі тысячамі маскоўскага і казацкага войска прыбыў да Магілёва. Усё гэтае войска стала пад гарою Мышакоўкаю.

16 чэрвеня для сустрэчы цара ягамосці Пятра Аляксеевіча пяклі чатыры караваі, за якія заплацілі пекару шаснаццаць злотых. Тады ж, перад царскім прыездам у Магілёў, выдалі з горада на маскоўскае войска чатырыста мерак[62] жыта правіянту. З гэтага часу пачалі маскалі ноччу красці з крамаў, а днём

чыніць крыўду і страты крамнікам, таму, каб не было нікому шкоды, была пастаўлена ў крамах маскоўская варта.

21 чэрвеня ўдалося пачуць, што едзе цар ягамосць у Магілёў вадою, гэта значыць Дняпром. Тады магістрат, хуценька сеўшы ў лодкі, ездзіў у Холм на паклон, але, не дачакаўшыся, вярнуўся ў горад. І гарадская артылерыя была ўжо пастаўлена на выхадах, і пушкары з гарадской вартай, якім для стральбы на царскі прыезд выдалі з ратушы трыста фунтаў пораху.

Назаўтра, як толькі летні дзень настаў, пачалі ў лагеры барабаніць, маскоўскае войска, некалькі дзесяткаў тысяч, выстраілася з рыштункам, і далі знаць, што едзе цар ягамосць у Магілёў байдаком. Магістрат адразу пайшоў на сустрэчу. Прыбыў цар ягамосць у графства байдаком. Быў у гэтым байдаку і ягоны францымер[63], але не высядаў. Хутка шмат генералаў, афіцэраў і нямала польскіх паноў прыбыло на бераг на сустрэчу, і каня для цара прывялі. А калі цар ягамосць высядаў з байдака, магістрат на сярэбраным пазалочаным падносе вялікі каравай, а на другім сітны хлеб з паклонам падалі, але тут, на беразе, не прыняў, а загадаў стаць з хлебам каля кватэры. А сам, сеўшы на каня, з вялікай світай афіцэраў, немцаў і палякаў, бо тут прысутнічалі ягамосць пан Агінскі, Заранак і многа польскіх паноў, паехаў паміж палкамі, а праехаўшы раз і другі, тут і там, з канца ў канец, загадаў даваць агню, таму і стралялі беглым агнём тры разы, і з палкавых гармат таксама ў лагеры білі.

Аб'ехаўшы сваё войска, ехаў цар ягамосць Пётр Аляксеевіч з усёю світаю ў горад Магілёў. А калі прыехаў, далі з гарадскіх разбуральных гармат на вуглавым выхадзе накрыж агню, потым conseqventer[64] на ўсіх выхадах. А калі ўехаў у Алейную браму, далі агню з гармат каля ратушы. Уязджаючы, такія літаральна сказаў словы: «Права, ізрядна». А едучы праз рынак, зайшоў у Брацкую царкву, дзе ў гэты час айцец Трацэвіч, брацкі ігумен, пасля Божай службы адпраўляў малебен, і, мала ў царкве забавіўшыся, ехаў да кватэры генерала Баўра. А Баўр тады кватараваў у магілёўскага бурмістра пана Захара Аўтушкевіча. І калі ссеў з каня, хуценька магістрат ушанаваў цара хлебам і падаў на сярэбраным пазалочаным падносе вялікі каравай і сітны хлеб. Быў ён з гэтага вельмі задаволены, і магістрат прыняў цар ягамосць спагадліва. Прыйшлі таксама з хлебам і магілёўскія жыды і жывога асятра прынеслі ў чане, але цар ягамосць на іх і не глянуў, загадаў толькі прыняць ад іх хлеб.

Паабедаўшы ў генерала Баўра і мала што забавіўшыся, пад вечар ехаў цар ягамосць да байдака і заехаў да генерала Кікіна, а Кікін меў гасподу ў пана Фёдара Казановіча, дзе, калі прыехаў, гаспадар з гаспадыняю, сустрэўшы яго хлебам і соллю, упалі ў ногі. А калі спытаў у гаспадара, як бы зваўся, гаспадар, крыху сумеўшыся, адказаў, што Фёдар Казановіч, Пятровіч. Тады цар, паклаўшы рукі на яго плечы, сказаў: «Полна, не пугайся, я знаю, што за тваім бацюшкам маскву высеклі, на то вайна была, а масква тагда дурна была...» І тут, мала бавячыся, аб'ехаўшы палкі, сеў у байдак.

У гэты ж самы час на другім беразе Дняпра, на Лупалаве на лугах, стаяла тры тысячы рэкрутаў, якія, калі цар сядаў у байдак, закрычалі, просячы падаравання: «Асудар праведный, пожалуй». Ад гэтага крыку быў горад перапалоханы, бо людзі падумалі, што пачалі маскалі высякаць горад. А потым цар ягамосць хутка, у гэтую ж ноч, узяўшы праваднікоў, паплыў з Магілёва да Кіева.

А калі плыў Дняпром і прыплыў да Быхава, Сініцкі, які ў гэты час тут нахлебнічаў, загадаў на царскі прыезд біць з гармат. А ўся быхаўская артылерыя і ўся тая, што Сініцкі пабраў з Магілёўскага замка, была пастаўлена каля быхаўскага вала. Потым сам Сініцкі з братам і з вялікай світай сваіх вайскоўцаў выехаў на бераг, прасіў цара ягамосця да сябе на абед. Але цар ягамосць не высеў, аднак прасіў Сініцкага ў байдак, і там яго шчодра частаваў, і напамінаў яму, каб быў верны цару, каралю ягамосцю і Рэчы Паспалітай. А гэтага цар ягамосць не ведаў, што быў Сініцкі шведскай і сапяжынскай кампаніі. Пасля царскага ад'езду ўсё маскоўскае войска выйшла з Магілёва ў Літву і масты, дзеля праходу маскоўскіх плытоў і байдакоў, былі паразбіраны.

29 чэрвеня, на царскія імяніны, з падлізвання ці з боязні, білі з гарадскіх гармат, расстралялі 180 фунтаў пораху.

7 ліпеня дваццаць маскоўскіх байдакоў з фуражом і з людзьмі ішлі Дняпром праз Магілёў.

9 ліпеня Сініцкі падстолі з пяхотным і конным войскам прыбыў да Магілёва, сталі ўсюды па гарадскіх гасподах, што было людзям вялікай надакучлівасцю. Гэты ж Сініцкі загадаў даць з ратушы тры карматкі і дваццаць пяць фунтаў пораху для стральбы на прыезд Сініцкага-старшага. У гэты ж час правезлі праз Магілёў у Літву царскую аптэку.

12 ліпеня прыбыў у Магілёў Сініцкі-старшы. На прыезд стралялі ў замку з гармат. Тады ж хацелі паставіць у гарадскіх

стайнях і на гарадскім пляцы шэсць цугаў[65] коней, ад чаго ледзьве адпрасіліся падарункамі. З гэтым жа Сініцкім прыбыло пяць татарскіх харугваў, якія размясціліся ў гараджан па гасподах.

У гэтым жа годзе 1706. 14 ліпеня ягамосць Сініцкі-старшы, маючы паведамленне аб тым, што на царскія імяніны білі ў горадзе з гармат, загадаў, каб і на яго імяніны ў горадзе стралялі. І так, хачу не хачу, мусілі ў горадзе біць з гармат; расстраляна 250 фунтаў пораху. А калі магістрат пайшоў віншаваць гэтага Сініцкага з патронам, аднеслі яму штоф і сярэбраны пазалочаны кубак, якія каштавалі талераў восемдзесят. А Сініцкаму падстолему аднеслі кілім.

17 ліпеня гэты ж Сініцкі загадаў гораду, каб па гетманскай асігнацыі выплацілі татарскім харугвам трыццаць тысяч. А татары з дня на дзень мучылі гараджан усё цяжэй, з-за гэтага быў узбунтаваўся народ, на гвалт клікалі, беглі людзі, каб, канешне, выгнаць татараў з горада, а татары па трывозе збегліся ў купы. Сам старшы татарскі ротмістр (які ў гэты час стаяў у гасподзе гадавога войта пана Хука) выйшаў супраць гвалту з немалою колькасцю татараў і пачаў страляць з пісталета ўверх, і так на гэты раз гвалт папярэдзілі. І магістрацкія асобы, прыбегшы, гвалт стрымалі. І хутка ўзялі татары магістрат у дом гадавога войта пад варту і прысудзілі на ратушу цяжкае пакаранне. І так у доме пана войта пад вартаю ўвесь горад ацанілі і хутка падатак выбралі. Гэтыя татары, узяўшы з горада грошы, пайшлі з Магілёва на сапяжынскія маёнткі.

22 ліпеня маскоўскі полк, называны Тасмантаў, ішоў праз Магілёў, якому, выбраўшы з соцень, далі дзвесце боханаў хлеба.

У гэты ж час, як выйшлі татары, завербаваныя жаўнеры Сініцкага, пяхотныя і конныя, стаялі яшчэ па гасподах, а ў такім інтарэсе, каб загадаў адступіць, хадзілі да Сініцкага падстолія. І так, дзякуючы ўручэнню паднашэння ў тысячу тынфаў, адступіла войска з Магілёва прэч.

Гэтымі ж днямі, менавіта 6 ліпеня, ішлі байдакі генерала Нарышкіна, таксама генерала Галаўкіна, розныя плыты, на якіх было розных прыпасаў і ваеннай амуніцыі, таксама і народу маскоўскага, старшым быў Прэнт Фандыарф, палкоўнік маскоўскай артылерыі, і ўсім быў вымушаны горад даваць хлеб.

Бачачы і церпячы вялікія цяжары, пастанавіў горад выслаць ад магістрата паслоў да цара ягамосці і да Меншыкава,

дзе б можна было іх знайсці, старацца аб ахоўных граматах, таму 20 жніўня і выправілі са свайго асяроддзя знатнейшых людзей.

2 верасня ішоў праз Магілёў полк пешых рэкрутаў, усе ў парваных мундзірах і з драўлянымі мушкетамі.

18 верасня прыбыў у Магілёў з некалькімі сотнямі коннікаў ад царскіх палкоў камендант Гаўрыла Васілевіч Носаў, які хутка ад царскага імя параспісваў універсалы па ўсім павеце, а гораду загадаў, каб, паводле падымнага тарыфу, горад і Аршанскі павет ад кожнага дыма рыхтавалі па універсалу сена, аброк, крупы, розныя харчовыя прыпасы і прывозілі ў Магілёў. Тады ў гэты час сена і салому адбіралі на вагу, а авёс і крупы на мерку. А гэта ўсё на маскоўскія палкі, якія меліся прыцягнуцца ў Магілёў з Кіева. У гэты ж час для пераходу палкоў пачалі маскалі будаваць праз Дняпро мост, якім для хутчэйшай работы дадавалі з горада людзей.

10 кастрычніка прыцягнуліся да Магілёва маскоўскія палкі, менавіта Праабражэнскі, Сямёнаўскі і Шарамецьеўскі, якія сталі па гасподах па ўсім горадзе, у найменшай хатцы было па чалавек дзесяць, харчаваліся з правіянту. А полк Келіна, у якім было 3000 чалавек, стаў на Лупалаве, грашовая казна размясцілася ў гарадскім цэйхгаўзе. Баявая варта з артылерыяй, порахам і кулямі стала каля купецкага дома на гарадскім рынку. Каманду над гэтымі палкамі меў генерал Чамбарсаў, вельмі цяжкім быў на горад, таксама падпалкоўнік Праабражэнскага палка Марк Багдановіч, які быў дазволіў жыдам прадаваць гарэлку, але горад, гэтаму працівячыся, задобрыў яго двумастамі рублямі. У гэты ж час, за недаванне з горада правіянту, былі пакараны паны радныя і ўвесь магістрат знаходзіўся пад вартаю. Але тады, як прыбылі ад цара ягамосці паслы-гараджане з ахоўнымі граматамі і паказалі іх генералу Чамбарсаву, стала гораду крыху лягчэй.

9 лістапада маскоўскія палкі давалі агню і з гармат білі, а гэта з той прычыны, што недзе ў Польшчы разбілі маскоўцы шмат шведскага войска. Пораху для гармат выдалі з горада фунтаў шэсцьдзесят. У гэты ж час хоць і меў горад ахоўныя царскія граматы, але perpartum[66] мусіў выдаць на маскоўскія палкі правіянт, і генералу Чамбарсаву далі паднашэнне ў сто залатых дукатаў. У гэтым жа месяцы спадзяваліся на прыезд да Магілёва на цара ягамосця, але не быў. А маскоўскія палкі стаялі ў Магілёве цэлую зіму, аж да вясны, пакуль не спала

паводка. У гэтым годзе была таннасць на збожжа і на ўсе харчовыя тавары.

У гэтым жа годзе, пэўнага дня і месяца, быў цар ягамосць у Менску. А тут, у Менску, жыў ксёндз Караль Панцяжынскі, які меў тытул неапалітанскага біскупа (які потым быў віленскім біскупам). Прасіў ён тады цара ягамосця да сябе на банкет. Ягамосць цар, як разважлівы і цікаўны, імкнучыся паглядзець на гасціннасць гэтага біскупа, са сваёй немалой світай прыбыў на абед, дзе, убачыўшы багацце ў ежы і дастатак у напоях, пасля банкета спытаў у біскупа: «Многа лі ў цебя есць подданых?» Адказаў біскуп, што не вельмі многа. Гаворыць: «Аткудава імееш такія дастаткі і прэпітаніе?» Тады біскуп на гэта адказаў: «Адсюль я жыву, што адных свару, другіх міру». На гэтыя тады словы цар ягамосць, плюнуўшы, сказаў: «Цьфу, растакая маць, худ твой промысл. Дайце ему за абед сто рублей». І, болей не дыскутуючы, адышоў ад біскупа.

Пасля мінулай зімы, калі ўжо наступіла вясна і спала вада, па царскім загадзе, палкі, якія былі на пастоях у Магілёве, выйшлі ў Літву. І нямала палкоў ішло праз Магілёў, бо была чутка, што швед выйшаў з-за прускай граніцы ў Літву.

У год 1707.

У гэтым годзе пастаянна то ў Літву праз Магілёў, то з Літвы за Магілёў прагульваліся маскоўскія войскі, адсюль штодзённа бралі коней на падводы, давалі правіянты, кармілі праезджых драгуноў і пяхотных салдатаў, чынілі масты, кватэры па знатных і нязнатных гараджанах трывалі штодзённа. А пад Копысем стала немалое, некалькі дзесяткаў палкоў, пяхотнае і коннае войска, і тут капалі акопы. Для капання гэтых акопаў давалі сялянскага люду з рыдлёўкамі і сякерамі з усяго Аршанскага павета па некалькі соцень на тыдзень, таксама і з Магілёўскай эканоміі і з самога Магілёва ў тыдзень давалі і высылалі на капанне гэтых акопаў па дзвесце чалавек. А гэтыя акопы капалі па такой прычыне, што меўся швед, перайшоўшы ў Копысі Дняпро (бо ў Копысі ў гэты час Дняпро быў неглыбокі і войска магло перабрацца на другі бок уброд конна), ісці на Маскву. І так тут маскоўскае войска, каб не прапусціць у Копысі праз Дняпро шведа, умацоўвалася.

У гэтым жа годзе. Нейкі маскоўскі палкоўнік Вайейкін, які меў пад сабою тры тысячы пяхоты, атрымаўшы ад цара ягамосці загад, прыцягнуўся да Магілёва і адразу, паводле царскага ўказа, абавязаў горад выплаціць на маскоўскія палкі дзесяць тысяч тынфаў, якога, калі прасілі, малілі, ні ў якім разе не

ўпрасілі. I калі прысудзіў на горад цяжкае, невыноснае пакаранне, пагражаючы біццём, мусілі за адну ноч сабраць яму з усяго горада і аддаць дзесяць тысяч тынфаў.

У гэтым жа 1707 годзе. Сініцкі, мечны, і другі, падстолі, ужо здрадзіўшы цару ягамосцю і маскоўскаму войску, моцна асталяваліся ў Быхаўскім замку, маючы пры сабе ў самім горадзе нямала кавалерыі і пяхоты, а таксама і сваёй дворнай світы, замак і брамы быхаўскай артылерыяй і той, якую забраў у Магілёўскім замку пад час здабывання Більдзюка, акружыў і ўмацаваў, пры артылерыі, на вале, густа паставіў варту, загадаў навазіць у Быхаў вялікіх калодаў і больш дзесяці вазоў вялікіх шрубаваных нажоў, а конныя татарскія харугвы, якіх меў пры сабе больш дзесяці, выправіў у Магілёўскую эканомію і ў сапяжынскія маёнткі на выбранне грошай. I, ужо добра ўмацаваўшыся ў замку, пачаў сакрэтныя сувязі са шведам, даносячы, што хоча з усім сваім войскам дапамагаць шведам супраць маскаля. Шведскі кароль яму за гэта падзякаваў і абнадзеіў, што ў хуткім часе будзе з войскам на Русі. Потым гэты ж Сініцкі пісаў сакрэтныя лісты аб сваім пачыне да Сапегаў, у якіх паведамляў, што гатовы дапамагаць ім супраць Масквы і Рэчы Паспалітай. I так за гэтую зычлівасць Сапегі Сапяжанку, дачку Сапегі Марэцкага, абяцалі аддаць за яго замуж, пры гэтым абяцалі пад pretextem[67] Рэчы Паспалітай прысланць яму на дапамогу, надзейна і ў хуткім часе, некалькі палкоў сапяжынскай кавалерыі і пяхоты.

Гэты ж Сініцкі, будучы падтрыманы надзеяй як ад шведскага караля, так і ад Сапегаў, маючы ўжо напагатове вайсковыя прыналежнасці, порах і кулі, штодзённа ўзбройваўся, et id genus[68] пры трубах, барабанах, пры віне са сваімі хаўруснікамі і дарадцамі гуляў і весяліўся, бо меў у Быхаве ўдосталь збожжа і розных харчовых прыпасаў для сябе і для вайсковых людзей. А калі захацеў ведаць, што дзеецца ў Літве і на Русі, разаслаў па гарадах і мястэчках патаемных шпегаў, а сам са сваімі дарадцамі пачаў раіцца, якім бы чынам зачапіцца з маскалямі, і прыдумваў розныя падкопы. Аж пад час гэтай рады прыбыў адзін шпег, які паведаміў, што спаткаў ён пад Барысавам царскую казну, менавіта некалькі дзесяткаў кадушак капеек (а гэтыя капейкі былі везены да маскоўскіх палкоў на выплату падаравання войску), якія маскоўцы праводзяць з даволі малой аховай. Гэтая навіна прыйшлася да смаку кожнаму, і адразу выправілі з Быхава паўтараста коннікаў старшых і ахвотніка, якія, днём і ноччу гоня-

чыся, напалі на гэтую казну ў лесе, маскалёў, чалавек трыццаць з лішнім, што былі пры ёй і таксама давалі адпор, забілі, а астатнія паўцякалі. А гэтыя супраціўнікі некалькі кадушак пасеклі і хто колькі хацеў, столькі сабе капеек хапаў і, цешачыся з такой багатай здабычы, капейкі, што былі ў кадушках, завезлі ў Быхаўскі замак. З гэтай здабычы, а таксама з зачэпкі быў Сініцкі вельмі задаволены і толькі з гадзіны на гадзіну чакаў дапамогі ад Сапегаў і шведскага прыходу, але ўсё гэта размінулася з надзеяй.

Тыя маскалі, што жвава паўцякалі ад казны, прыбегшы да бліжэйшых палкоў, а ў гэты час усё маскоўскае войска было выпраўлена ў Літву, далі знаць пра нападзенне атрада Сініцкага на казну, пра яе забранне і праводзіны ў Быхаў (бо адзін маскаль патаемна гнаўся на кані за казною, дзе б яна магла падзецца). З гэтых палкоў, за дзень і ноч, кур'ерам далі знаць старшаму генералу, ад генерала выправілі з лістамі да самога ягамосці цара, але пакуль прыйдзе ад цара ягамосці вестка, што б з гэтым рабіць. З парады старшыны генерал Баўр са сваёй дывізіяй у некалькі дзесяткаў палкоў, таксама са сваёй дывізіяй генерал Валхонскі прыцягнуліся пад Быхаў і, стаўшы воддаль Быхава, пачалі пакуль капаць акопы. Тым часам вялікія грошы, якія татары выбралі ў сапяжынскіх маёнтках, ноччу патаемна везлі ўсе ў Быхаў. Але татарскія харугвы не маглі вярнуцца да Сініцкага, бо маскоўцы густа заляглі на дарогах і сцежках, не дапускаючы ніякага праезду да Быхава ні пешаму, ні коннаму. І так Быхаў замкнуўся.

Сініцкі, бачачы, што ўжо пачаў з маскоўцамі суперніцтва, і ні на якую дапамогу ад Сапегаў не спадзеючыся, бо з-за мноства маскоўцаў цяжка было дапамозе прыйсці да Быхава, аднак не падаючы духам, мужна стаяў на сваім. Загадаў, адразу нашрубаваўшы ў калоды і ў іншыя для гэтага прыгодныя бярвенні нажоў, гэтымі калодамі абставіць вал і патаемна ў некалькі радоў паставіць іх вакол вала, каб у час штурму не маглі маскоўцы легчы на вал. І, добра ўмацаваўшыся, загадаў з некалькіх дзесяткаў фугасных гармат даць па маскоўцах агню, публічна гэтым апавясціўшы, што ёсць ён ужо іх яўны непрыяцель. Але маскоўцам гэтая страляніна мала што шкодзіла.

А маскоўцы, выгледзеўшы для штурму і ўзяцця замка вярнейшае месца, дзень за днём памаленьку лагерам пад горад падсоўваючыся, прысунуліся так блізка, што можна было з маскоўскага лагера біць па горадзе з гармат, кідаць бомбы і гранаты, і Сініцкі, з-за ваенных фокусаў, не мог ім нічога зрабіць.

Гэтым часам прыйшоў да царскіх генералаў загад, каб усё яго войска, гэта значыць Сініцкага, было ўзята, а калі будзе ўзята, каб было прыведзена ў Маскву.

Маскоўскае войска, не пайшоўшы адразу на штурм, найперш пачало даваць агню па замку з лёгкіх гармат, потым пачалі кідаць малыя гранаты і бомбы, але нічога замку не маглі нашкодзіць, бо малыя бомбы, дзе хоць ля будынкаў і падалі, чынілі і малую шкоду. Гэтае ж самае рабіў і Сініцкі, найболей біў па лагеры з фугасных гармат і ядрамі, і не без таго, каб каго не параніў.

Маскоўцы, бачачы, што замак ні бомбаў, ні малых гранат не баіцца, пачалі пускаць з мінамётаў у горад вялікія бомбы і гранаты, якія, калі дзе падалі, прыносілі вялікую шкоду як людзям, так і будынкам. Таму гараджане ў гэтай аблозе вельмі пакутавалі, але мусілі разам з жаўнерамі стаць на вале, і жыды таксама, быхаўцы, у шабас[69] мусілі са стрэльбамі пільнаваць вал.

Аднаго дня, калі з абодвух бакоў страляніна прыціхла і ніхто са стрэльбаў не адзываўся, а маскоўцы атрымалі вестку, у якім палацы Быхаўскага замка знаходзіцца Сініцкі, тады ў час самага полудня адзін умелы немец, які пускаў бомбы (а ў Быхаўскім замку пастаянна сядзеў на гары чалавек, і калі бачыў, што ляціць бомба, даваў знак, каб хаваліся па склепах), выбраўшы час полудня, падрыхтаваў вялікую бомбу, каб яна ў гэты самы палац, дзе палуднавалі, упала. І калі падрыхтаваў, з вялікай акуратнасцю прыцэліўся і запаліў мінамёт, адразу гэты чалавек, што пільнаваў лятучыя бомбы, даў знак тым, хто быў за сталом і абедаў, што ляціць бомба. Усе ад стала прэч і дзе хто мог пахаваліся па склепах, а бомба, упаўшы на сярэдзіну гэтага палаца, праламала дах і столь і на самы стол, дзе стаялі стравы, папаўшы, усё параскідала, і ўсе вокны ад выбуху павыляталі, і тут жа, у палацы, абадрала і прадзіравіла сцяну, а пасля выхаду энергіі, у ёй запраўленай, уціхамірылася. Праз некалькі гадзін усе і Сініцкія самі, застаючыся ў вялікім страху і баючыся, каб ізноў ужо большай бомбы на полудзень не прыслалі, павылазілі са склепаў і, павесіўшы насы на квінту, ужо не змаглі абедаць, а, адлажыўшы раду да наступнага дня, па-рознаму паразыходзіліся.

Назаўтра, калі ізноў пачалі маскоўцы бесперапынна закідваць горад бомбамі, Сініцкі стаў раіцца са сваімі хаўруснікамі, пытаўся, што тут рабіць. Адны, нягледзячы ні на што, спадзяваліся перачакаць час, другія суцяшалі, што калі

прыйдзе з сапяжынскага боку дапамога, але ўсе разам абяцалі, на колькі хопіць сіл, падтрымку. І хоць кожны ўжо сумняваўся, але ніякага сумнення не паказваў. Аднак пастанавілі — паслаць па ваеннаму парадку пасланца з барабанам прасіць у маскоўскага войска два тыдні часу на роздум. Маскоўская старшына, выслухаўшы гэтага пасланца, адказу не дала, але яго з мірам адпусцілі.

А на другі дзень па загаду маскоўскай старшыны выправілі з барабанам барабаншчыка, які спачатку забарабаніў здалёк, потым, прыбліжаючыся да брамы, другі раз і перад самаю брамаю — трэці раз. І адразу быхаўскія афіцэры, выйшаўшы за браму, цесна завязалі барабаншчыку вочы хусткай, каб нічога, што адбываецца ў горадзе Быхаве, не бачыў, і хутка прывялі яго ў замак. Тут усюды, па ўсім замку, па вуліцах і завулках гэтага барабаншчыка вадзілі з завязанымі вачыма, загадваючы афіцэрам паказваць зброю, а гэта па такой прычыне, каб маскалі падумалі, што тут, у Быхаве, знаходзіцца вялікая сіла markaga войска. І каля адной варты згаданага барабаншчыка правялі разоў дзесяць, а мо і болей. А калі ўжо прывялі ў замак да Сініцкага, у сенях, перад палацам загадалі развязаць барабаншчыку вочы, які, глянуўшы на світу Сініцкага, убачыў, што адны стаяць у сенях з выцягнутымі палашамі, другія, і вельмі многа, са стрэльбамі, а ў самім замку добры натоўп польскай кавалерыі, а гэта ўсё было зроблена для падману, што кампанія Сініцкага можа даць маскалям адпор. І калі згаданы барабаншчык увайшоў у палац Сініцкага, тут ён убачыў шмат прыгожа прыбраных нямецкіх афіцэраў і зграю палякаў, буфеты з серабром і многае іншае. І перш чым яго спыталі, з якой весткаю прыйшоў, далі барабаншчыку кілішак добрай гарэлкі, які, выпіўшы, пачаў смялей гаварыць гэтыя словы: «Гаспадін Сініцкай, не прагневайся, я, барабаншчык, здесь к вашай міласці пріслан, што нашы гаспада енералы не дают вам сроку на два тыдні, а понеже імееш размысляціся, даётся тебе срок на трі дні. Па трох днёх, ашче не смірітіся, пріступ к гораду всею сілою будет, а понеже насільством достанут город, огнём да мечем поражен будет».

Сініцкі са сваімі хаўруснікамі, сумнення не выказваючы, адказаў барабаншчыку: «Стане нам так многа сіл, дамо адпор». А потым, пачаставаўшы барабаншчыка, моўчкі даў яму з кішэні некалькі залатых дукатаў і загадаў вывесці яго за браму. Гэтаму барабаншчыку, калі яго вывелі ў сені, ізноў завязалі вочы хусткаю і тымі ж вуліцамі і завулкамі, як і спачатку,

прывялі да брамы, развязалі вочы і выпусцілі за браму. Барабаншчык, аддаўшы барабанам ушанаванне, проста ад брамы пайшоў да акопаў у лагер і тут далажыў сваёй старшыне аб адказе Сініцкага.

Сініцкі, пасля таго як адправіў барабаншчыка, стаў са сваімі шчыра радзіцца, чым бы гэта ўсё можа скончыцца, бо бачыў, што адусюль акружаны і што няма адкуль спадзявацца на дапамогу. Тады ўсе разам пастанавілі — згадзіцца на перагаворы на ўмовах, якія былі прапанаваны. А на трэці дзень выправілі з Быхава пасланца, каб, сышоўшыся з абодвух бакоў, праводзіць цырымонію перагавораў. У назначаны дзень сышліся з абодвух бакоў афіцэры і, дамовіўшыся аб перагаворах, адклалі іх завяршэнне і рэзалюцыі вышэйшым у гэтай справе чынам.

Пасля такіх з абодвух бакоў спрэчак, калі ўжо ішло ў гэтай справе да пагаднення, выслаў Сініцкі са свайго боку даверaных афіцэраў з такімі ўмовамі: найперш, што іхні атаман Сініцкі каецца ў гэтым граху, што непраўдзіва з парады сваіх прыхільнікаў абрабаваў царскую казну і пачаў супраць цара ягамосці бунт, гэта прыпісвае ён сабе як непаслушэнства; падругое, каб без ніякага канфузу быў вызвалены з рэчамі, з коньмі, чэляддзю, з афіцэрамі і ўсім яго войскам і каб вольна было яму падацца ў які захоча край пад прысягай, што да смерці са сваімі хаўруснікамі не будзе падымаць рукі супраць цара ягамосці; трэцяе, каб горад Быхаў не быў абрабаваны, каб быхаўскую артылерыю не бралі, і іншыя ад сябе ставіў умовы, якія я, каб доўга не пісаць, апускаю.

Маскоўскія генералы, ужо маючы ў сябе прысланы ад цара ягамосці ордэр, каб Быхаў узяць і Сініцкага саслаць у Сібір, хітрасцю пайшлі на ўсе ўмовы і, робячы Сініцкаму і свайму войску палёгку, каб у час штурму не гінулі з абодвух бакоў нявінныя людзі, абгаварылі і назначылі на пэўную дату дзень здачы горада і замка Быхава.

Сініцкі, верачы дагаворам, заключаным з маскоўцамі, і спадзеючыся, што, здаўшы горад і замак маскоўцам, сам выедзе ў які захоча край, загадаў грузіць трайні, экіпажы, вазы грашыма, харчовымі прыпасамі, розным вінoм і зброяй.

А калі наступіў дзень, назначаны Сініцкаму паддавацца з войскам, горадам і замкам маскоўцам, загадаў ён сваім афіцэрам і войску як найлепей стаць у шыху. Маскоўцы таксама, як меліся ісці на штурм, так з рознымі прыналежнасцямі сталі каля вала. Хто быў пры чым прыстаўлены, так

палкамі і ішлі, адны везучы фугасныя гарматы, другія — малыя палкавыя гарматкі, бамбардзіры везлі ў мінамётах бомбы, грэнадзёры — вялікія гранаты, іншыя малыя ручныя, драбіны на калёсах, як пад вал падкаціць, іншыя ішлі з сякерамі і з усімі прыналежнасцямі, падрыхтаванымі для штурму замка. Апошняй стаяла пяхота з выцягнутымі палашамі, каб, калі ўжо горад будзе ўзяты, высекчы ўсіх пад корань. І так у шыху прыблізіўшыся ўжо пад вал, немалы час, пакуль былі адчынены брамы, стаяла як войска, так генералы і афіцэры. Сініцкі таксама са сваімі прыхільнікамі, світай і вайсковымі, загадаў (думаючы, што яму за гэты фокус выйдзе) паадкрываць у замку ўсе брамы і паставіць сваё пяхотнае і коннае войска ў баявы парадак. А прывітаўшыся ў браме з абодвух бакоў, павіншавалі адзін аднаго, што без ніякіх марсавых спрэчак, без шкоды замку і быхаўскім гараджанам будзе закончана гэтая сварка. І адзін аднаму пажадаўшы розных удалых поспехаў, абяцалі адзін аднаго ўзнагародзіць і служыць у дружбе і добрай кампаніі. І так маскоўскі бок, адразу не ідучы ў замак, але як самі, так і Сініцкія са сваімі афіцэрамі, сеўшы на коней, аб'ехалі вакол замка і агледзелі войска (дзе Сініцкія дзівіліся на маскоўскую конную збрую і вайсковы строй). А калі ўжо ўязджалі ў тую браму, дзе віталіся, генерал Баўр, як старшы начальнік, толькі махнуў капялюшам, і адразу ўсё маскоўскае войска, што стаяла каля замка, адсалютавала беглым агнём. А калі ўжо ўсе набліжаліся да Быхаўскага замка, менавіта з абодвух бакоў генералы і афіцэры, адразу войска Сініцкага, што стаяла на валах і вуліцах, адсалютавала са стрэльбаў і малых фугасных гармат без куляў.

Як толькі ўся зграя маскоўскіх генералаў, афіцэраў і польскіх Сініцкага, патрэбных і непатрэбных, уехала ў Быхаўскі замак і ўвайшла ў палацы, а сталы былі ўжо накрыты напіткамі і markрознымі, надзвычай багатымі стравамі, так і пачала пад розныя аркестры, для гэтага прыгатаваныя, піць, гуляць, балявацьі абедаць. Гэтым часам, пад час гэтага балю, маскоўскае войска памаленьку падсоўвалася пад Быхаўскі замак, палова якога засталася перад замкам, а палова густа стала ў самім замку пры экіпажах, трайнях і вазах. Пасля гэтай гулянкі, як наступіла ноч, кожны чыноўнік падаўся да свайго палаца, а панове Сініцкія са сваімі памочнікамі ў замкавых палацах, у прызначаных пакоях, дзе хто меў месца, уклаліся спаць.

Пасля такога значнага балю, як гэта летам ноч кароткая, кожны, апрача маскоўскага войска, мусіў смачна заснуць, а тут зараз выпраўлена некалькі соцень маскоўскіх людзей, якія па некалькі дзесяткаў, з выцягнутымі рапірамі і штыкамі, сталі каля кожных дзвярэй і па другіх гасподах, вельмі пільна несучы варту ў Быхаўскім замку і каля пакояў, дзе хто знаходзіўся. А пакуль панства адпачыла і выспалася, бо, напэўна, у кампаніі Сініцкага не ўсё прайшло ў галовах, калі ўсе пасля сну паўставалі, бачаць, што дрэнная справа, бо ўжо кожны свае варты не мае, але маскоўскую. Назаўтра аполудні ізноў з'ехалася маскоўская старшына ў Быхаўскі замак, дзе, не ўступаючы ні ў якія спрэчкі, бяспечна пілі, гулялі, балявалі і зноў раз'ехаліся.

На трэці дзень маскоўскія генералы і афіцэры, ранютка аб'язджаючы замак у самім горадзе, адразу загадалі войску Сініцкага, каб зброю з сябе знялі, ад гармат і іншых вартаў адышлі, і, маючы ў гэтым першынство, загадалі свайму войску мець штонайпільнейшыя варты. Вайсковых людзей Сініцкага загадалі ўзяць пад варту, фугасныя і палкавыя гарматы перавезлі ў замак, частку якіх паставілі пасярод быхаўскага рынку. Пасля аб'езду замка генералы і афіцэрская світа, з'ехаўшыся ў Быхаўскім замку, афіцыйна загадалі панам Сініцкім рыхтавацца з усімі памочнікамі, дарадцамі і з войскам у дарогу. Сініцкі, усумніўшыся паабяцаным і заключаным дагаворам, не ведаючы, у якую дарогу рыхтавацца, хацеў параіцца са сваімі прыхільнікамі, але не выйшла, бо маскоўцы на раду аднаго да другога не дапусцілі. І так стала ў Быхаве вялікае замяшанне.

Праз два дні генерал Баўр, прыехаўшы з вялікай вайсковай світай і з другімі генераламі экіпажамі, трайнямі і вазамі ў Быхаўскі замак, узялі яго пад сваю ўладу. А панам Сініцкім, наказаўшы прыгатаваць параконны паланкін і ўсадзіўшы іх да гэтага паланкіна, загадалі акаваць рукі і ногі і прыставілі вельмі пільны канвой, каб праводзілі іх у Сібір.

Браты Сініцкія, мечны і падстолі, будучы акаванымі і застаючыся ў вялікай небяспецы, напрамілы Бог прасілі генералаў, каб іх слугі, памочнікі і дарадцы, пяхотнае і коннае войска засталіся, паводле дагавораў, вольнымі. Што з імі сталася, ніякай весткі я не атрымаў, толькі тое добра ведаю, што абодвух Сініцкіх, акаваных, на параконным паланкіне праводзілі праз Магілёў, а за імі, як першага дарадцу, на звычайных калёсах везлі Міхала Петуха і ніякай світы Сініцкага не было. Як іх праводзілі праз Магілёў, ніжэй апішам. Маскоўскія

генералы, прыдаўшы для канвою Сініцкіх да смаленскай граніцы некалькі палкоў маскоўскага войска, самі з немалым войскам, да далейшага распараджэння замкам, знаходзіліся ў Быхаве.

У апошнія дні ліпеня праводзілі Сініцкіх са значнаю маскоўскаю світаю праз горад Магілёў. Наперадзе ішла ў поўнай выкладцы і па-ваеннаму ўрачыста, з музыкай і барабанамі, пяхота, потым, з выцягнутымі палашамі, некалькі палкоў драгуноў, потым, перад паланкінам, у якім сядзелі акаваныя Сініцкія, неслі маскоўскія падпрапаршчыкі, паклаўшы на плечы дрэўкі і трымаючы іх каля грудзей, узятыя харугвы Сініцкага, якіх было восем доўгіх і шэсць кароткіх, а самі харугвы валакліся краямі каля конскіх хвастоў па самай зямлі. А гэта было зроблена па ваеннаму звычаю, дзеля ганьбы і крыўды, што непрыяцеля перамаглі. Абодва Сініцкія ехалі ў паланкіне акаванымі, так што і шапкі ні перад кім не маглі зняць. А за імі на звычайных калёсах везлі Петуха, пры Сініцкіх прыслужваў нейкі пакаёвы. Праводзіўшы гэтых Сініцкіх праз горад, сталі маскоўцы ў горадзе і на прадмесцях на адпачынак. І як сталі на адпачынак, старшы Сініцкі спавядаўся і прычашчаўся, а малодшы, падстолі (бо быў кальвінам і блюзнерцам абразоў), хоць і ўгаворвалі, адмовіўся. І так у Магілёве абедалі.

У час абеду Сініцкі-старшы прыслаў свайго пакаёвага да магістрата, каб купілі яму з горада шапку для начнога сну. Магістрат, купіўшы яму новую шапку і помнячы на такую запаведзь, што калі пана вядуць вешаць, кланяйся яму, каб, пэўна, калі выратуецца ад віселіцы, не помсціўся (а Сініцкія былі на горад вельмі лютымі, горад мучылі і давялі да ўбоства, страшна каралі), уклалі ў гэтую шапку дзвесце злотых грошай капейкамі і з аканомамі адаслалі. Сам магістрат ушаноўваць не пайшоў, бо баяўся трапіць у няміласць да маскоўцаў.

Пасля заканчэння абеду маскоўцы з Сініцкімі хутка рушылі з горада. Згаданыя Сініцкія былі адпраўлены да смаленскай граніцы, а адтуль праз Маскву саслалі іх у Сібір, яны там доўга жылі ў вялікіх нястачах, і там адзін з іх памёр, а другі, калі звар'яцеў, быў адасланы ў Польшчу. А Пятух неўзабаве быў вернуты са сталіцы на Русь, прыбыў у свае маёнткі, якія былі ў Магілёўскай эканоміі.

Праз некалькі дзён пасля выезду з Магілёва Сініцкага і маскоўскага войска ішло з Быхава да Смаленска чалавек сто з лішнім пяхоты, якія служылі пры Сініцкім пяхотна. Былі яны

ўсе без мундзіраў, толькі ў бедных сярмягах і тых парваных. Былі гэтыя людзі папарна, рука ў руку, павязаны, а за трыма парамі, якія ішлі строем, ішоў з выцягнутай рапірай маскоўскі жаўнер. Іх таксама праводзілі праз горад Магілёў да смаленскай граніцы.

Пасля ўзяцця Быхаўскага замка маскоўскім войскам хутка размясціўся ў ім маскоўскі гарнізон, вартаю вал быў акружаны і па брамах густа паставілі каравулы, што (як гавораць) і пташка без папярэджання не магла праляцець. Ва ўсе воласці Быхаўскага графства прыйшоў загад, каб усе даходы, што належалі Быхаўскаму замку з Быхаўскага графства, аддавалі маскоўскаму рэзідэнту Быхаўскага замка.

Праз немалы час маскоўскі гарнізон, умацаваўшыся ў Быхаўскім замку, па ўказу найяснейшага цара ягамосці Пятра Аляксеевіча ўсю быхаўскую артылерыю, якой было некалькі дзесяткаў штук, таксама замкавую магілёўскую, штук пятнаццаць, якую Сініцкі пабраў пад Быхаў у час яго здабывання, калі там гаспадарыў Більдзюк і з Быхава на сапяжынскім боку шмат шкодзіў Рэчы Паспалітай, у гэты час падзеленай на дзве часткі, пагрузіўшы ў байдак, адправілі ўніз Дняпром да Кіева. Там гэтая артылерыя, як заваяваная, прапала навекі.

Між гэтых гармат, што Сініцкі, здабываючы Більдзюка, пабраў з Магілёўскага замка, была вельмі вялікая разбуральная гармата без лафета, бо з-за яе вялікасці немагчыма было прыстасаваць лафет цудоўнай работы. Называлася яна Галанка. Такой гарматай як раней, так і цяпер не пахваляцца ані Вялікая Польшча, ані Літва, бо гэтай Галанкай забраў Сініцкі ад Більдзюка Быхаў, і была яна вельмі разбуральнай, брала на сябе на адзін выстрал тры камені пораху. І так гэтая Галанка там жа прапала. Гаварылі, што была яна адваявана ў маскоўцаў gvondam.

Тады ж, у час здабывання Більдзюка, Сініцкі, будучы вялікім непрыяцелем горада, хацеў узяць з горада пад Быхаў пяць штук гарадскіх разбуральных гармат. Але горад у гэтым моцна ўпарціўся і адпіраўся, аднак мусілі, як у пазыку, дзве гарадскія гарматы даць. Адна мела за герб змяю, а другая — сокала, так і называліся: Змей і Сокал. І так і гэтыя дзве гарматы там жа, у Быхаве, прапалі і згінулі. А ў Быхаве засталася толькі жалезная артылерыя.

Пасля ўзяцця маскоўцамі Быхава маскоўскі гарнізон у некалькі тысяч людзей знаходзіўся ў ім некалькі гадоў. У час шведскага нашэсця, калі швед ішоў праз Магілёў, Быхава не

чапаў, бо быў ён добра ўмацаваны. І пасля шведа стаялі ў Быхаве маскоўцы два гады. А калі прыйшоў дазвол пакінуць Быхаў, тады гэтыя маскалі паразбівалі на быхаўскіх мураваных брамах вярхі да асновы, а вывады, якія былі ў вале наймацнейшымі, павыкапаўшы ямы і падклаўшы бочкі з порахам, паўзрывалі, горад хацелі спаліць, але бедныя гараджане ледзьве са слязьмі адпрасіліся. І так ад таго часу Быхаўскі замак заняпаў і не адноўлены.

У год 1707. [Месяца] ліпеня, 24 дня прывялі ў Магілёве на гарадскі рынак, дзе прадаюць збожжа, у атачэнні значнай вайсковай світы, чатырох маскоўскіх канторшчыкаў на пакаранне. Тут таксама чыталі маскоўскаю моваю вырак. Адразу пасля прачытання выраку старшага расстралялі такім чынам, што дваццаць салдатаў далі па гэтым асуджаным агню, але без куляў, які з завязанымі вачыма ўпаў на калені, а адзін выстраліў у сэрца, дзе быў прышпілены папяровы знак. І так у адно імгненне ён памёр, быў пахаваны тут жа, на гарадскім рынку, каля Брацкай царквы. Паводле гэтага выраку, двое былі асуджаны на вечную катаргу, а чацвёртага павесілі на віленскім слупе на ланцужку за рабрыну (які, пакуль памёр, доўга мучыўся). Але за якую гэта правіннасць [іх пакаралі], ніякай весткі я не атрымаў.

У год 1707. Месяца жніўня, 3 дня па загадзе і ўказе вялікага маскоўскага цара Пятра Аляксеевіча быў прысланы з Менска ў Магілёў ад генерала Рэпніна нейкі маскоўскі маёр з дзвюма сотнямі конных, якія, прыбыўшы, размясціліся па гасподах. Потым, на трэці дзень пасля свайго прыезду, у нядзелю рана, як толькі пачало світаць, узяўшы чалавек сто пяхоты, якая стаяла ў Магілёве, пабралі яны дзеля бяспекі пастаўленую на вале па вывадах уласную гарадскую артылерыю і пазвозілі яе ў Магілёўскі замак у купу, у чым шукаў магістрат паратунку і дапамогі, але цяжка было гэта зрабіць, застаючыся ў руках непрыяцеля. Тады і ў эканоміі не мелі сваёй улады, і Аршанскі павет, які павінен быў ахоўваць горад, маўчаў. І так было забрана васемнаццаць разбуральных гармат розных гербаў, а палкавых — сем, а ўсіх разам — дваццаць пяць. Пры гэтай артылерыі было і тры мінамёты, на якіх кругом было напісана рускім пісьмом, але ў гэты час былі яны прыхаваны і ў маскоўскія рукі не трапілі, а былі яны медныя і вялікія. Забраную артылерыю везлі ў Магілёўскі замак, адразу з калёсаў, гэта значыць з лафетаў, паздымалі, калёсы пасеклі, жалеза паабдзіралі, а самі гарматы, складзеныя ў байдак, былі адпраўлены ў Смаленск.

Маскоўцы,за некалькі дзён даведаўшыся (гаварылі, быццам гэта са здрадніцтва аднаго маскаля, які называўся Стэнка Панарскі і які некалькі гадоў служыў у горадзе стражнікам і ведаў аб усіх гарадскіх парадках), што ў Алейнай браме, унізе, у бакавым цэйхгаўзе былі замураваны гарадскія порах, кулі і некалькі соцень зліткаў волава, што і не знаць, і не відаць было гэтых замураваных дзвярэй, адбіўшы замураваныя дзверы, усе гэтыя прыпасы патаемна пабралі. Была тады такая пагалоска, што порах і волава раздалі па палках, а ўсе кулі, з-за цяжкасці, патапілі ў Дняпры. А рабілася гэта дзеля таго, каб не дасталася ў рукі шведам. Таму і Стэнка Панарскі пайшоў з маскоўцамі і болей у Магілёве не паказваўся.

У год 1707. [Месяца] жніўня, 22 дня па ўказу палкоўніка Міхаіла Барысавіча Шарамецьева было выдана з горада на вайсковыя коні тысяча трыста пяцьдзесят вуздэчак, а гэта з такой прычыны, што пяхотным жаўнерам было загадана сядаць на коней, каб былі коннымі.

У гэтым годзе маскоўскі царэвіч Аляксей Пятровіч ехаў праз Магілёў, але не пышна, з малой світай, быў у Брацкай царкве, потым, пераначаваўшы, выехаў з Магілёва. Магістрат хадзіў з паклонам і з хлебам, адмыслова дзеля гэтага выпечаным. Прыняў хлеб ахвотна і з падзякай.

У гэтым жа годзе князь Сільвестар Святаполк Чацвярцінскі, епіскап Беларускі, прыбыў у Магілёў на епіскапства да магілёўскай кафедры. Сустракалі яго, паводле звычаю, з рамеснікамі, харугвамі, са зброяй і з царкоўнай працэсіяй, толькі ж не так пышна, як заўсёды, а гэта з-за з'яўлення маскоўскіх палкоў, перад якімі тады заставаўся горад у страсе, з-за іхняй у той час сілы. Згаданы князь Чацвярцінскі, епіскап Беларускі, бачачы ў Айчыне вялікую сумятню: у Кароне — швед, у Літве і на Русі — маскоўцы, з-за небяспечных часоў, мала што пабыўшы на магілёўскай кафедры, ад'ехаў у свае родавыя маёнткі ў Чацвяртню.

У год 1707. У месяцы кастрычніку па ўказу князя Рамаданаўскага выдалі з горада на маскоўскае войска з кожнага дыма, паводле Аршанскага тарыфу, па бочцы жытняй мукі, па тры аўса, па тры вазы сена, кожны з якіх павінен быў важыць па дванаццаць пудоў. І гэты правіянт адправілі ў Копысь, бо ў той час там, пад Копысем і ў самім Копысі, стаялі маскоўскія палкі.

У гэтым годзе горад, бачачы, што знаходзіцца ў вялікіх і невыносных павіннасцях, пасылаў са значнымі гарадскімі вы-

даткамі сваіх дэлегатаў да цара ягамосці Пятра Аляксеевіча (які ў той час меў рэзідэнцыю ў Літве), але ў сувязі з пачаткам пастаянных ваенных баталій нічога не змаглі справіць і вярнуліся з пустым.

У гэтым жа 1707 годзе нейкі Сузін меў у Магілёве кіраванне, толькі ж гэтага я не магу тут растлумачыць, ад якой партыі быў прысланы, які тут, у Магілёве, вербаваў у войска ягоднікаў. З-за грошай быў на горад лютым і шмат іх выбраў з горада. Потым, загадаўшы прынесці ў замак некалькі адрэзаў сукна на мундзіры, заплаціў справядлівую цану. Пазней загадаў прынесці некалькі дзесяткаў адрэзаў сукна і іншым крамнікам і, калі прынеслі, не даў і шэляга, а ўсё пазабіраў бясплатна і гразіўся гвалтам забраць крамы. Таму крамнікі мусілі сукно перахоўваць, а тое, што забраў, прапала.

У гэтым годзе ў decembre, перад Божым нараджэннем, правозілі праз горад надта вялікую бялугу, якая ляжала на двух санях і мела галаву і жывот такія вялікія, што ледзьве можна было абмераць двума сажнямі, а ў хвасце была плашчэй. Правозілі гэтую бялугу ў Літву да князя Меншыкава.

Год 1708.

О, горад, горад Магілёў! Першы летапісец, не могучы знайсці ніякай весткі, адкуль бы горад назваўся Магілёвам, растлумачваў, што ёсць гэта магутны леў, але ў год тысяча семсот восьмы Марс, завастрыўшы свае клыкі і зубы, аблупіў з цябе аздобную львіную шкуру і абвалок цябе чорным і грубым мяшком, які і ў будучым не забудуць, і з гэтага часу не можаш ты называцца магутным ільвом, хіба магілаю фартун тваіх грамадзянаў, пра што будзе ніжэй.

На пачатку гэтага года прыйшлося чуць, што шведскі кароль у сто тысяч войска пяхоты і драгуноў цягне праз Вільню на Русь. І хоць тут я не змяшчаю, у які час і пару быў у Вільні, аднак, будучы ў Вільні, шведскі кароль моцна абрабаваў горад, бо загадаў даваць на войска вялікі правіянт. Таксама, выбіраючыся з Вільні, забраў у няволю ў лагер віленскі магістрат. У гэтай няволі Мароз, віцебскі войт, памёр, а астатніх адпусцілі.

У гэтым годзе былі ў горадзе Магілёве бесперапынныя пераходы, пераезды, пастоі маскоўскага войска, даванне фуражу, правіянтаў, сухароў, гвалтоўнае бранне коней, прымус на будаўніцтва мастоў, і сапраўды ў гэтым годзе кіпела як у катле з той прычыны, што шведскі кароль ужо ўвайшоў у Літву і моцна заняволіў яе правіянтамі, а маскоўцы — Беларусь, ад-

нак у Беларусі і ў Магілёве харчовыя рэчы былі таннымі. Маскоўская баявая варта з артылерыяй пастаянна стаяла на рынку ў пільнай асцярожнасці.

У гэтым годзе стаў у замку нейкі маёр Ваейкін і выбіраў усе гаспадарчыя даходы, таксама грошы з кабачнага даходу, харчавалі яго з горада, а потым пастанавілі даваць яму з ратушы ў тыдзень пяцьдзесят злотых. А гэтыя даходы, што выбіраў, ішлі на царскае войска.

У гэтым 1708 годзе. Месяца студзеня, 10 [дня] быў цар ягамосць Пётр Аляксеевіч у Копысі, бо тут скупілася ў грамаду вялікае маскоўскае войска, і тут, пад Копысем, стаяла ў акопах для адпору шведу, які цягнуўся на Русь. Спадзяваліся цара ягамосці да Магілёва, і харчовых прыпасаў, віна, піва, мёду, з ратушы нарыхтавалі, але не быў.

У гэтым годзе быў у Быхаве моцны маскоўскі гарнізон з неабходным, калі б хто меўся яго ваяваць, абсталяваннем для адпору. З Копыся бесперапынна ішлі ў Магілёў указы, каб давалі на маскоўскае войска правіянты, сухары, падводы etcet., таму пастаянна пасылалі з ратушы дэлегатаў, каб хоць крышку мець палёгку, што гораду дорага каштавала, бо кожнаму трэба было падносіць.

22 студзеня, як цягнуўся праз Магілёў Сямёнаўскі полк, тады загадалі выдаць з горада вялікі правіянт, таму горад, не могучы выдаць, загадзіў Яфіма Міхайлавіча, маёра гэтага палка, які меў у гэтай справе камандаванне, грашыма і адразу адлічыў восемсот рублёў, гэта значыць 800.

28 студзеня. Прыйшоў з Копыся ад князя Рамаданаўскага загад, каб выдалі з горада, паводле падымнага Аршанскага тарыфу, восемсот вазоў сена і семсот мерак аўса і каб гэта ўсё было дастаўлена ў Копысь на палкі, якія там стаялі, таму за гэты фураж задобрылі грашыма ў тысячу злотых, dico 1000.

29 студзеня. Генерал Алерт з тысячай коней маскоўскага войска цягнуўся праз Магілёў і стаяў у Магілёве тры дні.

3 лютага. Загадалі з Копыся, каб выдаў горад на маскоўскае войска сухары і вельмі вялікі правіянт, па якой справе пан гадавы войт і людзі з магістрата з паднашэннямі прасілі аб палёгцы і ледзьве ўпрасілі, але палавіну сухаровага правіянту мусілі выдаць. У гэты ж дзень нейкі ўкраінскі кур'ер ехаў праз Магілёў да цара ягамосці, дзе б мог знайсці. У Копысі пры выбіранні правіянтаў з Аршанскага павета камісарамі былі паны Восіп Васілеўскі і Куроўскі. У гэты ж час прыбыў да Магілёва полк Шарфава і стаў на Лупалаве.

11 лютага. Прыбыў да Магілёва капітан Волкаў, каб выплаціў горад на маскоўскае войска грашовую долю, якому, некалькі дзён з камандаю прахарчаваўшы, адлічыў горад суму ў пяцьсот талераў бітых, бо цяжка мучыў горад драгуніяй.

У год 1708. 18 лютага цар ягамосць Пётр Аляксеевіч з немалым войскам быў у Беліцы, пра бытнасць якога пачуўшы, пасылалі да яго з горада паслоў прасіць аб літасці, таму што ў гэты час было гораду ад маскоўскага войска вельмі цяжка. У гэты ж час нейкі Міхал Судзін быў упраўляючым Магілёўскай эканоміі і меў кватэру ў замку.

29 лютага. Палкоўнік Шарамецьеў з некалькімі сотнямі коней прыбыў да Магілёва. Таксама прыбыў з вялікай вайсковай світай падпалкоўнік Бутырскага палка Іван Васілевіч Сонцаў.

5 сакавіка. Ад Катла, падскарбніка, быў прысланы харужы з квітанцыяй, каб выплаціў горад на польскае войска 75 тысяч, але горад, прысягнуўшы цяжкасцямі ад маскоўскага войска, адправіў яго ні з чым. У гэты ж дзень прыйшоў указ, каб рыхтаваў горад на правіянт для маскоўскага войска сухары. У гэты ж час пасылалі да Слуцка шпега, каб даведаўся пра шведаў, які прынёс вестку, што ў Вільні рэзыдуе войска і сам кароль.

6 сакавіка. Прыбыў у Пячэрск на епіскапскі прастол магілёўскай кафедры князь ягамосць Сільвестар Святаполк на Чацвяртні Чацвярцінскі, епіскап Беларускі, да якога, як да свайго біскупа, хадзіў аддаваць honorarium[69] увесь магістрат.

9 сакавіка. Як прыбыў да Магілёва яснавяльможны ягамосць пан Агінскі, вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага, хадзіў магістрат з паклонам, дзе пры іншых паднашэннях паклалі honorarium сто талераў бітых. Вышэйзгаданы князь ягамосць Чацвярцінскі, епіскап Беларускі, мала пражыўшы ў Магілёве, больш у Пячэрску, з-за ваеннай небяспекі і сварак, а найхутчэй пачуўшы аб шведскім нашэсці, ад'ехаў у свой край, у Чацвяртню.

У гэтым жа годзе, месяца сакавіка, 14 дня Аляксандар Данілавіч Меншыкаў, маскоўскі князь і першы царскі дарадца, з вельмі пышнай кавалькадай і помпай, з многімі вайсковымі аксесуарамі і з немалой вайсковай світай уехаў у Магілёўскі замак. Шасціконных экіпажаў ішло некалькі дзесяткаў, на вярблюдах і мулах везлі ўюкі, вакол рабы. І так заняў сабе і свайму двару пакоі ў замку, а іншыя афіцэры сталі па багатых і сярэдніх дамах.

Тады магістрат, ведаючы і чуючы, што гэты чалавек ліхі, чэрствы масквіцін і вельмі на горад няміласцівы, каб быў літасцівы, пайшлі да яго ў замак з хлебам-соллю, з прыправамі, віном і цукрам. Яму ж, пры іншых паднашэннях, завезлі бочку венгерскага віна і падаравалі апраўленую ў серабро крыштальную шкатулку гданьскай работы, якая каштавала тысячу злотых.

Назаўтра сакратар князя Меншыкава, прыбыўшы ў ратушу да ўсяго магістрата, загадаў, каб тут жа і штодзённа выдавалі з горада ўсе харчы ад самай вялікай і аж да найменшай рэчы. Таму горад, сціснуты адусюль бедамі, мусіў, што толькі было з харчоў, загадам князевым выдаваць і карміць двор. І як толькі выйшаў загад, давалі фураж, бочкамі французскае і венгерскае віно, мёд і піва, вараныя буракі, капусту, соль таксама бочкамі, штодзённа жывога вала, некалькі дзесяткаў бараноў, гусі і куры давалі чародамі, хлеба сітнага і свежага па буханак сто, гарэлку звычайную і сівуху мернікамі, мыла на хусткі штотыдзень па некалькі дзесяткаў фунтаў, рыбы мёрзлай вазамі, а жывой — сколькі можна было дастаць. А калі чаго не давалі, адразу бралі магістрат пад варту і каралі. Вэнджанай рыбы давалі штукамі, масла пастаянна кадушкамі, баравікі тысячамі, розныя прыправы, разынкі, міндаль дзесяткамі фунтаў, крокусы, кветкі, мускатавыя арэхі латкамі штодзённа, жалеза на каванне коней і экіпажаў пудамі, цыбулю, пятрушку і іншую гародніну ношамі, перац, імбір і іншыя вастрэйшыя прыправы фунтамі, цытрыны і алівы скрынямі, муку пшанічную, як найлепшую, меркамі, цукар штодзённа галовамі, асятрыну цэлымі і пасечанымі асятрамі, таксама і саміну, па некалькі дзесяткаў фунтаў, выпечаныя ў горадзе пірагі штодзённа, у гэты час, нават excepto на дні святых, штодзённа давалі з рынку па некалькі дзесяткаў грэцкіх печаных аладак. Таксама давалі і харчавалі з горада краўцоў, рымараў, якія шылі для двара сукні, рабілі шоры, і за работу ім з горада плацілі. І юфты, і шкуры для абіўкі экіпажаў, калёсаў і шораў куплялі.

Вось так проста, ласкавы чытачу, і немагчыма тут усяго выпісаць, адсылаю я да скарбовага рэестру, які знаходзіцца ў ратушным архіве, дзе, прачытаўшы, мусіш ты са слязьмі здзівіцца, як мог горад Магілёў вынесці такія цяжары і іншае на гэта падобнае, калі гэты пракляты чарвяк са сваім дваром, стоячы ў замку ад 14 сакавіка да 19 мая, тачыў і аб'ядаў горад, і якому на харч і на паднашэнні страчана вялікая сума.

Але хоць пан Бог быў разгневаны на горад і караў такімі цяжарамі, аднак найсвяцейшая Божая маці на цудоўным брацкім абразе, якая горад у асадзе, праліваючы найдаражэйшыя слёзы, абараніла, так і цяпер горад абараняла, і апекавала, і ад непрыяцеля нябачна асцерагала.

Гэты князь Меншыкаў, жывучы ў Магілёве, меў такі намер і часта думаў, якім бы чынам адпомсціць гораду Магілёву за знішчэнне перад гэтым у Магілёве маскоўцаў і якім бы чынам, каб высекчы горад пад корань, нацкаваць на гэта цара ягамосця. А калі на банкеце аб'явіў пра свой намер князю Шарамецьеву, старому кавалеру і з даўняга знакамітага роду, і іншым чыноўнікам, што былі пры весялосці, тады стары князь Шарамецьеў літаральна сказаў гэтыя словы: «Аляксандэр Даніловіч Менчык, полна гаваріть, на то тут вайна была, можна разуметь полна, шта і нашы былі вінаваты. Сматрі нонячы, ня многа лі в Польшчы нашых пабіта, да будім лі мсцітса, да на всём Божые ізволеніе. Плюнь на ета. Пасматрі, нонячы места Магілёв і нас саміх, і салдат, драгон і афіцеров царскіх хлебам і соллю корміт, абіды нам не творіт, а мы ат ніх благадарны. Нехай сабе здравствуют». Таксама і другія значнейшыя афіцэры яго задуму зганілі, а тыя, што былі да горада зычлівымі, гэты сакрэт гораду адкрылі.

Гэты князь Меншыкаў, маючы свой ліхі намер высекчы горад Магілёў укараненым у сэрцы, калі адзін раз (бо меў прывычку заходжваць на набажэнства да Божай Брацкай царквы) стаяў перад абразом найсвяцейшай панны Багародзіцы, ізноў задумаўся, як бы давесці свой намер да выніку, і, пра гэта думаючы, страціў прытомнасць і ўпаў. І ад гэтага часу перастаў хадзіць да Брацкай царквы, але ўжо хадзіў да святога Спаса. Толькі з пратэкцыі панны Марыі гэты яго ліхі намер не здзейсніўся.

З паведамленняў гэтых жа чыноўнікаў маскоўскага войска і розных людзей прыйшлося чуць, што гэты Аляксандар Данілавіч Меншыкаў быў з маладых гадоў са стану нізкага, быццам бы пекарскі сын, што бацька яго пёк бліны, а ён па Маскве, альбо сталіцы, іх разносіў і паводле звычаю крычаў такія словы: «Гарячые, вот бліны гарячые». А калі аднаго разу пад час пацехі праязджаў па сталіцы цар Пётр Аляксеевіч, згаданы зараз Меншыкаў, які тады называўся Алёшкам, носячы на галаве ношу з блінамі і смела спаткаўшы цара, вельмі моцна крыкнуў: «Гарячые, вот бліны гарячые». Затрымаўся цар ягамосць і спытаў, хто бы быў. Смела адказаў: я сын таго і

таго пекара. Цар ягамосць, бачачы яго смеласць, загадаў сесці ў свае сані. Ён, пакідаўшы ношы з блінамі, сеў у царскія сані і, застаўшыся ў двары царскім нахлебнікам, стаў князем і першым царскім дарадцам. Але з-за сваёй пыхі заставаўся ён у няміласці іншых, радавітых князёў, таму калі слаўны на ўвесь свет манарх Пётр Аляксеевіч гэты тленны свет павітаў, багацці князя Меншыкава былі адабраны ў царскую казну, а яго самога саслалі ў Сібір, дзе ён і памёр.

Хоць і не атрымаў я весткі, калі гэта і ў які час адбывалася, аднак чуў ад аднаго манаха гэтага ж уніяцкага кляштара па імені Пафнуцій, які ў час гэтай звады ўцёк да Фадрона, што калі цар ягамосць Пётр Аляксеевіч са сваімі князямі, дарадцамі і з немалым войскам быў у Полацку, наступіла свята святых апосталаў Пятра і Паўла, рускае свята. Таму пасля ранішняга набажэнства, выслуханага ў праваслаўнай царкве, цар ягамосць прымаў віншаванні ад сваіх афіцэраў, князёў і генералаў са святам святога Пятра, якіх потым крыху частаваў напоямі і развесяліўся сам, там жа быў і Аляксандар Данілавіч Меншыкаў, які, не чакаючы на банкет у цара ягамосці, па сваіх справах на невялікі час адлучыўся да сваёй кватэры. І, ідучы каля уніяцкай царквы, як бы выпадкам увайшоў у яе і застаў у ёй святара, які правіў казань на пахвалу святога Пятра, што ёсць галава царквы, а потым яго спадкаемцы папе. А ўбачыўшы ў царкве Меншыкава, пачаў надта выходзіць з берагоў, выхваляючы рымскую еднасць і прыніжаючы святое праваслаўе, называючы яго праклятай схізмай. Калі святар закончыў казань, Аляксандар Данілавіч Меншыкаў, распаліўшыся гневам, ідучы каля святара, які яшчэ стаяў на амбоне, махнуў капелюшом і сказаў такую фармальнасць: «Пажджы, растакая твая мать». І, не ідучы да сваёй кватэры, вярнуўся да цара ягамосці, дзе цар ягамосць, будучы падпітым, спытаў у Меншыкава, дзе быў. Адказаў, што быў ва уніяцкай царкве і слухаў казань. Цар спытаў: «Какава была проповідь? На пользу лі нам, хрыстіанам?» Сказаў: «Какава польза, понеже тот казнадей рымскую і уніацкую веру восхвалял, святую же благочестію хуліл і по премногу унічыжал». Раззлаванага гэтымі словамі цара ягамосця чорт узяў, і адразу, не супакоіўшыся, пайшоў ён з Меншыкавым і з іншымі да царквы. А набажэнства было ўжо закончана, толькі царква была яшчэ не зачынена. І, увайшоўшы ў гэтую царкву, глянуў на святара і, не сказаўшы яму ні слова, пайшоў проста да алтара, а ўбачыўшы келіх з накрыўкай, у якім было ягня, адкрыў і глядзеў.

(А гэта шукаючы прычыны да сваркі.) Калі ж святар сказаў цару, што не гадзіцца мірскім кранаць святасць, адказаў цар, што і я ёсць памазаннік Божы, і, паставіўшы келіх на прастол, выйшаў з алтара. Убачыў абраз святога Іасафата і, добра прыгледзеўшыся, спытаў у гэтага святара: «Какой ета святой?» Адказаў святар: «Святы мучанік Іасафат». — «Да хто ево замучыл?» Сказаў святар, што замучыла праклятая схізма. «Да хто то схізма?» Святар паўтарыў: «Схізматыкі праклятыя». Ізноў цар: «Да как оні верят?» Сказаў: «Так верацъ, як вы верыце». Пасля гэтых слоў запаліўся цар вялікім і неўтаймаваным гневам і скамандаваў сабаку, які быў пры ім, чорны, чужаземскі і вельмі паганы, паказаўшы пальцам на святара: «Ату!» У гэты ж момант у царкве кінуўся сабака на святара і кусаў яго да смерці. А калі далі знаць старшаму, прыбег старшы на царкоўны парог, а цар, выцягнуўшы шпагу, ці шчіблет, пхнуў яго ў грудзі пад рабрыну, які ў гэты ж час свой дух і выпусціў... А калі царскі сабака замучыўся, але яшчэ не даеў святара, загадаў яму кінуць, а святара павесіць на варотах. У час гэтай звады хаваліся манахі па кутах дзе было можна, толькі чацвярых схапілі, і іх разам са святаром загадаў [цар] павесіць. Уніяты гэтых пецярых законнікаў шануюць за святых і ў святцы, ці ў царкоўны каляндар, упісалі. У той час і ўвесь горад заставаўся ў небяспецы і страху. А калі збегліся да цара афіцэры, з іх угавораў адышоў ад гневу, і пайшоў у гасподу, і гуляў, і піраваў. Назаўтра ж, прачнуўшыся, папракаў Меншыкава, што падбухторыў яго на такую справу, гаварыў: «Аляксандар, права, худа мы вчарась здзелалі, вчарась полна, в другой раз не данасі мне нічаво». А потым гэтую уніяцкую царкву загадаў напоўніць правіянтамі, у якой некалькі гадоў, аж пакуль не заціхлі ліхія часы, не было набажэнства. Гаварылі пра таго сабаку, які парваў святара, што быў ён чужаземскім, дзіўнай масці, пастаці і паганасці. Калі здох, загадаў цар ягамосць яго аблупіць, шкуру напхаць бавоўнай і паставіць сярод пачвараў у тым доме ў Маскве, дзе стаяць розныя пачвары.

16 сакавіка прыйшоў у горад указ, каб гатавалі для войска сухары і некалькі дзесяткаў тысяч пар конскіх падковаў. Сухары з горада выдалі, а падковы, дзякуючы паднашэнням розным афіцэрам, адмянілі.

У гэты ж час, калі ўжо надыходзіла вясна і ўскрыўся лёд, пачалі маскалі будаваць масты, адзін на Лупалаве, а другі на самым рагу горада, менавіта там, дзе перад гэтым быў драўля-

ны вал і стаяла на беразе вежа. А пакольні тады была вялікая вада, то будавалі масты з байдакоў. А з маста, што насупраць Лупалава, ездзілі вышэй па сушы, і хоць бы дзе ад бернардзінскага касцёла аж да самага пекла[71] на высокай зямлі стаяла хата, то яе разбіралі і масцілі масты. А другі мост, плывун, будавалі ад лупалаўскіх слупоў аж пад Гваздоўку. Пастаянна на будаўніцтва мастоў дадавалі людзей сотнямі, і былі гэтыя масты для бедных людзей вялікім цяжарам. А драўляны вал і вежу разабралі на масты поўнасцю.

У гэты час пастаянна праз Магілёў насустрач шведу ішло маскоўскае пяхотнае і коннае войска, бо швед быў ужо пад Менскам. Пастаянна па гараджанах кватаравалі, штодзённа выбіралі ў гараджан правіянты, і ўсё гэта рабілася з вялікім закабаленнем усяго горада.

19 мая князь Меншыкаў з помпаю і са значнаю світаю сваіх целаахоўнікаў і дваран, караванаў вярблюдаў і мулаў, якія неслі ўюкі, выехаў з Магілёўскага замка прэч, а на яго месца ўехаў у замак Маскоўскі палкоўнік Андрэй Вілліч Шарфаў, якога таксама быў вымушаны горад штодзённа харчаваць за свой кошт. Аднак мала пабыўшы ў замку, баючыся шведа, займеў кватэру на Лупалаве. У гэты ж час у Палуйкавічах за гарадскі кошт будаваўся для пераправы маскоўскага войска мост.

20 чэрвеня князь Меншыкаў з невялікаю світаю ехаў праз Магілёў, але, мала ў горадзе пабыўшы, выехаў за Дняпро, бо швед быў ужо недалёка Бабра, аднак быў гораду цяжкім, бо мусілі праводзіць яго ўрачыста, з грашыма і фуражом. У гэты ж час ехаў праз Магілёў фельдмаршал Барыс Пятровіч Шарамецьеў-стары. Выдавалі з горада вельмі вялікі правіянт, а гэта з-за таго, каб не заставаўся шведам. Выдалі і бочак дзвесце солі.

3 ліпеня яснавяльможны ягамосць пан Агінскі, вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага, быў у Магілёве. У гэты ж час хацелі маскоўцы спаліць горад, але дзякуючы значным паднашэнням гэтую справу супакоілі. А той, хто хацеў паліць, зваўся генерал-ад'ютант Шылінк.

У тыя ж дні пастаянна маскоўскае коннае і пяхотнае войска, таксама татары, калмыкі валакліся праз Магілёў пад Галоўчын, бо швед з усім войскам быў ужо ў Галоўчыне. Там, у Галоўчыне, каб не прапусціць шведа праз раку Вабіч, якая працякала ў Галоўчыне, збіралася маскоўскае войска, але шведы, выступіўшы супраць маскоўцаў усімі сіламі, бо былі галоднымі,

іх здужалі. І шмат у гэтай бітве было маскоўцаў пабіта, бо аж тры дні маскоўскі люд, і пераважна параненыя, ішоў праз Магілёў, а другія палкі іншымі дарогамі, і ўсе пабітыя шведам. Паступалі данясенні, што калі б маскоўцы змаглі пратрымаць шведа ў Галоўчыне яшчэ тры дні, то шведскае войска падохла б з голаду, бо з-за мноства людзей, калі ішлі дарогамі, не было хлеба.

У гэты ж час не засталося ў Магілёве маскоўцаў, і ў замку нікога не было, усе пераправіліся на Лупалаў і чакалі прыходу шведаў. Толькі чалавек 12 маскалёў засталіся ў замку для атрымання паведамлення аб прыходзе шведскага войска ў Магілёў.

Вяртаюся я да тэмы, што была вышэй. Паколькі прыйшоў час Галоўчынскай бітвы, маскалі каля лупалаўскіх слупоў варажылі, запалілі порах і, паводле ваеннага звычаю, угледаліся на дым (а адбывалася гэта ў нядзелю пад вечар). З гэтай варажбы стала ліхая надзея, таму войска, калі ішло пад Галоўчын супраць шведа, было вельмі невясёлае.

Перад прыходам да Магілёва шведскага караля з войскам, як, бывала, пойдзе ўлетку невялічкі дождж, тады бог ведае адкуль узялося страшнае мноства маленькіх жабак, і ўсе скачуць у горад, а не з горада. І так, бывала, зямлю накрыюць, што і ступіць нельга, але як стукнулі гарачыя дні, то ўсе пагінулі.

У год 1708. Месяца ліпеня, 3 дня на пяцістах конях уварваліся ў горад валахі і кожны для знаку меў ушыты ў шапку пучок саломы. Шукаючы маскоўцаў, рассыпаліся па вуліцах. Але тыя чалавек дванаццаць маскалёў, што былі ў замку, згледзеўшы іх, насупраць Гараніна каля слупа пераправіліся і далі знаць тым маскалям, якія былі ў абароне насупраць маста і мелі з сабою тры гарматкі, і адразу байдакі, на якіх быў мост, паадсеклі і мост развялі. Таму валахі, прыбегшы да маста, нічога маскоўцам не маглі зрабіць, і хоць праз Дняпро стралялі, але не даставалі. А маскоўцы толькі адзін раз далі з гарматкі і забілі аднаго нявіннага чалавека, магілёўца. Тым часам, як паплылі байдакі, загадана было захапіць ратушу.

У гэты ж час, калі валахі прыбеглі на рынак, адна відная гарадская асоба заклікала: «Эй, мосці панове, бараніце нас ад гэтых ... маскалёў, бо даставалі яны нас ужо да жывога», але трапіў з агню ды ў полымя, пра што ніжэй раскажацца. У гэты ж час увесь валашскі корпус ар'ергардам прыйшоў да Магілёва і стаў лагерам на Лядзкоўскай мяжы, над Дубровенкай. Камандаваў валахамі генерал Каніфер.

Праз тры дні пасля валахаў прыцягнуўся з усім сваім войскам шведскі кароль і стаў лагерам на Буйніцкім полі. Абоз з усім абсталяваннем быў даволі вялікім. У гэты ж час, як толькі прыбыў шведскі кароль, хадзіў да яго магістрат прасіць аб літасці. Адказаў праз перакладчыка: «Паколькі давалі вы правіянт маскалям, патрэбна, каб далі і мне». І прынцыпова загадаў, каб усё шведскае войска было пад страхой. І адразу быў падзелены горад Магілёў на шаснаццаць кварталаў. Важныя чыноўнікі і кватэрмайстры размясціліся па пакоях у багацейшых дамах, сам кароль жыў у лагеры, а ягамосць пан Панятоўскі, шведскі камісар, кватараваў у замку. З прыходам шведскага войска хутка стала на розныя рэчы, а найбольш на харчовыя, невыносная дарагавізна, пра што буду я пісаць ніжэй.

Пасля падзелу горада не на сотні, а на кварталы выйшаў каралеўскі загад, каб з кожнага кварталу выдавалі ў дзень дванаццаць з паловай тысяч фунтаў хлеба і 960 гарнцаў піва. Адсюль з'явілася дарагавізна на збожжа, і нікому ў той час, ні князям, ні папам, не было палёгкі, толькі шпіталям. А паколькі немагчыма было штодзённа выдаваць столькі хлеба і піва, тады за ўсю бытнасць шведскага войска кожны квартал выдаў сем разоў па дванаццаць з паловаю тысяч фунтаў хлеба і па 960 гарнцаў піва, апрача гэтага, у знатнейшых дамах харчавалі ад ратушы афіцэраў. А калі які квартал выдаць не мог, тады дадавалі з ратушы. Тады ж у некаторых кварталах ад фунта хлеба бралі на піва 3 грошы, а ў іншых па 6 грошаў. У той час шмат людзей зведалі бяды, а некаторыя са сваіх халупаў уцякалі, тады іх халупы і хаты разбіралі і вазілі ў лагер на дровы.

Рахунак, як многа выпала на кожную сотню выдаць на войска хлеба за адзін дзень, а такіх порцый выдана сем:

1. Папінская 4000 фунтаў.
2. Каскоўская 6000 фунтаў.
3. Трыснінская 16 000 фунтаў.
4. Выганская 9000 фунтаў.
5. Дабрасолаўская 15 000 фунтаў.
6. Лядзкоўская 15 000 фунтаў.
7. Нагорская 8000 фунтаў.
8. Курдземаўская 12 000 фунтаў.
9. Грыўлянская 16 000 фунтаў.
10. Перахрэсцінская 12 000 фун таў.
11. Слабодская 4000 фунтаў.
12. Бярэзская 12 000 фунтаў.
13. Астрожская 47 000 фунтаў.
14. Лупалаўская 15 000 фунтаў.
15. Траецкая 15 000 фунтаў.

Чынім суму порцый хлеба — дзвесце тысяч фунтаў, dico 200 000.

Шведскі кароль, калі быў яшчэ нікому не знаёмы, бо ездзіў па горадзе без світы з адным юнаком, прыехаўшы да ратушы,

дзе прадаюць хлеб, праз перакладчыка спытаўся: «Колькі хочаш за гэты каравайчык хлеба?» Жанчына назвала, якая гэтаму цана. Тады кароль загадаў перакладчыку зважыць. Перакладчык, выняўшы з кішэні нямецкія вагі, зважыў, а між тым каштаваў фунт па 9 грошаў. Адсюль кароль загадаў, што хто не выдасць хлеб, каб плаціў за фунт па 9 грошаў.

Шведы, калі прыбылі да Магілёва, адразу да апошняга абрабавалі Буйніцкі манастыр, манахаў паразганялі, што не засталося ў манастыры ніводнай жывой душы, драўляную старадаўнюю царкву Успення найсвяцейшай панны Буйніцкай разабралі і гэтым зрубам наслалі масты, што былі перад узгоркам. А калі аднаго часу шведскі кароль аб'язджаў войска і фарпосты і ехаў па адным масце, які іншыя афіцэры, паехаўшы наперадзе, праехалі, то каралеўскі конь, які меў на сабе талісман, ні ў якім разе не хацеў пускацца праз мост. Кароль, вельмі гэтаму здзівіўшыся, прыгледзеўся да маста і, убачыўшы на ім дзве дошкі, загадаў іх перавярнуць. Аж на адной дошцы быў абраз Спаса, а на другой Багародзіцы, абодва абразы з разабранай Буйніцкай царквы. Загадаў адставіць іх убок, і ў гэты ж час конь пайшоў праз мост. Потым кароль, даведаўшыся аб тым квартале, чый ён быў, за гэты ўчынак дваіх вінаватых загадаў павесіць, а абразы занесці ў пусты манастыр.

Шведы, пяхота і найбольш усё ўпартыя фіны, мала што адпачыўшы, пачалі ў Папінцы, насупраць Гараніна, будаваць мост, на які было разабрана нямала вялікіх будынкаў, што стаялі над Дуброўнаю, а бярвенне сплаўлялі Дуброўнаю, а потым Дняпром аж да самага маста. А пабудаваўшы мост, паставілі каля яго дзесяць гармат і накрылі галлём.

У гэты час у Холме і па іншых месцах стаялі калмыкі і татары, якія, бывала, часта, па некалькі соцень коней, набягалі на Лупалаў, але, прыбягаючы да маста і страляючы, нічога Лупалаву не шкодзілі. Шведскі кароль, з гэтага пацяшаючыся, прыедзе, бывала, на рынак і, дастаўшы падзорную трубу, глядзіць на іх, размаўляе з афіцэрамі, смяецца і гаворыць: «Шэльм, татар масквіцер». Гэтыя ж татары, як толькі згледзяць з другога берага Дняпра, што пад Холмам шведы або валахі косяць траву, пераправяцца праз Днепр, наваляцца і дзідамі і шаблямі хутка іх паколюць. Таму шведам і валахам ездзіць па траву малой кампаніяй было небяспечна, ездзілі вялікаю, аграмаднаю кампаніяй.

Шведскі кароль быў малады, не меў гадоў трыццаці, росту быў высокага, грузны, твар меўваспаваты і прадаўгава-

ты, нос доўгі, быў плячысты, валасы былі падстрыжаныя нажніцамі. І хоць бачылі мы яго больш дзесяці разоў, быў усё ў адным строі, меў пад нізом порткі і ласіную камізэльку, а верхнюю — цёмна-сінюю, суконную, толькі абшытую галунамі, і на адным, не надта ўбраным, кані, які толькі што меў талісман, выязджаў.

Пра дарагоўлю, якая была ў гэты час.

Калі ўжо гарадскую скарбовую гарэлку забралі на войска, зачалося такое, што кожнаму, як то гультаям, так і іншым, вольна было трымаць шынок. У гэты час за глыток гарэлкі плацілі 10 грошаў, а за кварту — тры злотыя, крынка малака — 3 грошы, кварта крупаў — 15 грошаў, гарнец піва — злоты, грашовы пірог — 6 грошаў, двушэлегавы абаранак — 3 грошы, звычайны сыр, што па 10 грошаў, 3 злотыя, масла, што перад гэтым давалі за гаршочак 15 грошаў, каштавала 3 злотыя, і за ўсе харчовыя тавары вельмі і вельмі дарага плацілі шведы і ў горадзе, і ў лагеры. А так як народ быў галодны і хутка накінуўся на ежу, таму шмат шведаў паўмірала, коні, якіх паілі ў Дняпры, здыхалі, але часцей паілі ў Дуброўне. Для выдачы хлебнага правіянту найбольш скуплялі печаны хлеб у Лупалаве, бо там народ быў запаслівым на збожжа.

У час выдачы хлебнага і піўнога правіянту з'явіліся па загаду шведскага караля квітанцыі, каб плаціў горад на шведскае войска і грашовую кантрыбуцыю, і мусіў горад траціць свае апошнія багацці і выдаваць на шведскае войска суму, якую бачыш тут:

№ 1. На рэгімент[72] Вестэрботэнс вылічана 1743 талеры бітыя.
№ 2. На пяхотны рэгімент Уасмаланс — 500 талераў бітых.
№ 3. На пяхотны рэгімент Остгётэ — 977 талераў бітых.
№ 4. На рэгімент Уппландс — 700 талераў бітых.
№ 5. На рэгімент Дагг — 550 талераў бітых.
№ 6. На рэгімент Ніландс — 1743 талеры бітыя.
№ 10. На рэгімент Драбант — 443 талеры бітыя.
На Эспэннэр кампанію — 240 талераў бітых.
№ 12. На Лейбрэгімент — 1025 талераў бітых.
№ 15. На Лейб-гвардыю — 501 талер біты.
№ 11. На Валашскі рэгімент — 1200 талераў бітых.
На рэгімент Дагг — 200 талераў бітых.

А калі ўжо гараджане і ўвесь горад пад цяжкімі пакараннямі выклаліся і сапраўды не было ўжо дзе ані ўзяць, ані пазычыць грошай, патрэбна было яшчэ выплаціць грошы пяці рэгіментам, менавіта:

15—2412

№ 7. Рэгімент Смоленс.
№ 8, 15. Гвардыя.
№ 9. Нэрке і Вермалендс.
№ 13. Асціётэ кавалерыя.
№ 14. Артылерыя.

Пасля выдання ад караля на гараджан квітанцый і вялікіх падаткаў самых заможных гараджан каралі, у склепы саджалі, марылі голадам, у ваду голых саджалі, на бэлькі падвешвалі і проста невыносна мучылі. І так на згаданыя палкі вымучылі 1132 талеры бітыя.

Шведскі кароль, не задаволіўшыся такімі правіянтамі і кантрыбуцыйнымі грашыма, сам аб'ехаў найлепшыя цэрквы, але мала ўбачыў у іх серабра (бо што лепшае было пахавана ў зямлю). Аднак жа, маючы ад жыдоў вестку, што ў лепшых цэрквах серабро ёсць, загадаў, каб тут жа выдалі ад царквы некалькі соцень фунтаў серабра (бо ў шведскім лагеры заўсёды чаканілася шведская манета), і пагразіўся, што, калі не выдасць, загадае ўсё зрабаваць, а горад спаліць. І так гараджане, застаючыся ў руках суровага непрыяцеля, мусілі выдаць царкоўнага серабра, менавіта з магілёўскай Брацкай царквы: адну сярэбраную пазалочаную аправу з абраза найсвяцейшай панны Марыі, тры меншыя аправы, шэсць падвясных лямпаў, дзве кадзільніцы, сто вялікіх скрыжалеў і раму з абраза найсвяцейшай панны Багаслоўскай, якая стаяла каля кліраса, трыццаць скрыжалеў, ломанага серабра ў розных рэчах, у кубках, чарках, якое збіралася на аправу найсвяцейшай панны Марыі Брамнай. З царквы святога Міколы: аправу з абраза святога Дзімітрыя і вялікую сярэбраную кадзільніцу, чатыры падвясныя лямпы, пяцьдзесят вялікіх скрыжалеў. Таксама з іншых цэркваў узялі нямала аправаў, лямпаў, кадзільніц, крыжоў, скрыжалеў, келіхаў і іншага сярэбранага начыння і выдалі на шведскае войска. Гэта ўсё вышэйназванае серабро важыла трыста шэсцьдзесят чатыры фунты, dico фунтаў 364.

А калі шведы ўжо добра перад адыходам войска за Дняпро адпачылі, без ніякага загаду, што дзе ў каго з харчовых прыпасаў было знойдзена, ці гэта збожжа, тлушч, саланіна, пшаніца, авёс — усё пазабіралі ў лагер, а пасля гэтага пачало войска па мосце перапраўляцца за Дняпро. У той час, шукаючы харчовыя тавары і грошы, рэвізавалі і крамы, а магістрат сядзеў пад пільнай вартай.

Чатырнаццатага жніўня па старым календары шведскі кароль перабраўся на той бок ракі Дняпро і начаваў лагерам

пад гарою на гарадскіх валоках, якія і цяпер называюцца Шведскай Зменай. Назаўтра гадавы магістрат, што быў пад вартаю, пабралі і адвялі ў няволю ў шведскі лагер, якія, пабыўшы ў ім некалькі дзён, з заступніцтва ягамосці пана Панятоўскага, камісара, ледзьве выбраліся, за што заплацілі сто залатых дукатаў і сто талераў бітых. Калі ўжо рэштка шведаў і валахаў пераправілася на той бок Дняпра, адразу загадалі масты, што былі адзін каля другога, паразбіраць, таму і паразбіралі.

У гэты ж час пранеслася пагалоска, што шведскі кароль з усім сваім войскам меўся цягнуцца на Смаленск, але займеў патаемных паслоў ад Мазепы, якія клікалі яго ў маларасійскія землі, бо Мазепа хацеў выбіцца з маскоўскага падданства і стаць удзельным князем, і абяцалі, што калі казацкае войска злучыцца са шведскім, будзе непераможным. І так шведскі кароль, паслухаўшы ўкраінскага гетмана Мазепу, пацягнуўся са сваім войскам на Украіну.

Тут, на памяць прыйшламу часу, змяшчаю я, як шмат каштавала гэтая шведская навала гораду, не лічачы прыватных выдаткаў. З шаснаццаці кварталаў выдалі на шведскае войска дзевяноста дзве тысячы сто шэсцьдзесят гарнцаў піва, гарнец па 12 грошаў, заплацілі 36 864. Хлеб таксама, які выдавалі ад кварталаў фунтамі, рахуючы па 9 грошаў, чыніць 360 000. Гатовых грошай на рэгіменты, разам з выкупам са шведскай няволі магістрата, выдалі з горада дзесяць тысяч дзевяцьсот сорак восем талераў бітых, dico 10 948.

Апрача ўсіх гэтых гвалтоўных і значных выдаткаў, асобна ўспомню я тут таксама будаўніцтва мастоў, выдачу жалеза на масты і ў лагер, даванне юхты, грашовыя паднашэнні генералам, маёрам, палкавым кватэрмайстрам, валашскай старшыне і іншым чыноўнікам, харчаванне гэтых жа чыноўнікаў, якія стаялі па розных гасподах і якім асобна давалі віны, розныя мёды. А гарнец медавухі быў па пяць злотых, індыкі па талеры бітым, гусі па чатыры злотыя, кадка масла па семдзесят злотых, цяжка ўсё і пералічыць, курыца па 2 злотыя, кураняты — адзін злоты. Таксама па нараду давалі валахам сукно, персідскія паясы, шапкі, таксама і шведскім чыноўнікам сукно, хаджэнне некалькі разоў да шведскага караля з прашэннямі шмат каштавала. Тут жа, праз усю бытнасць, папераменна шведскае і валашскае ўтрыманне з коньмі на ратушы, якіх таксама многа кармілі на працягу трох тыдняў, што ў той час на аднаго афіцэрскага каня і на тых, якія былі на

ўтрыманні, куплялі травы на шэсцьдзесят, найменш на пяцьдзесят злотых у дзень. А касіць траву ў лугах не давалі маскоўскія калмыкі. Авёс па господах, піва і мёд бочкамі, розныя прыправы і іншыя харчовыя тавары, што толькі было загадана, мусілі даваць з горада, так, усё добра падлічыўшы, думаю, што каштавалі гэтыя выдаткі гораду сама менш сто тысяч, dico 100 000.

А калі ўжо гэты Люцыпар[73] са сваім войскам пайшоў на Украіну, то па розных мястэчках, як то ў Смалянах і іншых, было многа маскоўцаў. Тады гараджане, калі хто меў што з тавараў, ці з закладаў, ці з іншых рэчаў, схаваных у зямлю, пачалі іх даставаць, не баючыся на сябе ніякага няшчасця.

2 верасня дзікі мядзведзь, даволі вялікая махіна, чарнюткі, бліскучы, поўсць на ім была малая (бо яго забітага прывезлі да ратушы, што мы бачылі самі), убег пасля ўзыходу сонца ў горад, задзёр у садзе юнака, параніў жанчыну і ўцёк у Шклоўскую браму. А калі ў адным садзе ўлёгся, абступілі яго людзі з мушкетамі, і забілі і, палажыўшы на воз, прывезлі да ратушы. Была гэтая пачвара на здзіўленне людское, але старэйшыя людзі ўбачылі ў гэтым ліхі знак.

У год 1708, месяца верасня, 8 [дня], на святога пакутніка Сазонта, напярэдадні нараджэння найсвяцейшай панны, пан Бог, які доўга цярпеў, караючы горад за нашы цяжкія грахі, дапусціў так, што горад Магілёў, нягледзячы на тое, што быў зрабаваны шведам, але застаючыся забудаваным дамамі, крамамі, на Божае свята абярнуўся за адзін дзень праз агонь у попел і тло, бо, паводле ўказу цара Пятра Аляксеевіча, маскоўцы, калмыкі і татары ў вышэйпамянёны дзень, разам з усходам сонца, акружылі горад з усіх бакоў. Пазачынялі брамы, па трывозе ўдарылі ў барабаны, а калі заўважылі, замак ужо гарыць. Адчынілі брамы, прасілі літасці, але дарэмна, толькі далі гадзіну вольнага часу і прыставілі варту, пакуль пазносілі з ратушы ў склеп гарадскія кнігі. Тут калмыкі крамы адбіваюць, рабуюць, з другога канца паляць, заўважым, між іншым, людзей з адзення абіраюць, грошы мацаюць, цэрквы адбіваюць, рабуюць і, калі ўжо, адным словам кажучы, загарэўся астрог, кінуліся на прадмесці і найперш абрабавалі багатыя дамы. А калі агонь заняўся з усіх бакоў, зрабаваўшы горад да асновы, ад'ехалі прэч. Калі калмыкі адбілі царкву святога Міколы і павыцягвалі сундукі, то некаторыя з-за агню ад'ехалі прэч, а астатняе дакончылі смялейшыя гараджане самі. Нават мікольскія папы і панамары тады добра ўзбагаціліся. У той

час кожны нясмелы ад сваіх рэчаў уцякаў, а той, хто нічога не меў, падмацаваўся чужым дабром.

У гэты ж час, калі ўжо Божы гнеў, гарачнасць Божая за грахі людскія расплыліся агнём па ўсім горадзе, муж пра жонку, а жонка пра мужа нічога не ведаючы, хапалі толькі малых дзяцей, куды маглі, прэч з горада ўцякалі, да лясоў, да яроў, да Буйнічаў, да Котуша, хаваліся, дзе хто мог. А так як горад быў запалены, то некаторыя крычалі: «Гэта ўжо маскоўцы выразаюць горад». Не ў аднаго тады з такога вялікага страху вырываліся з сэрца апакаліпсічныя словы: «Горы-горы, прытуліце нас, бо хто ж сцерпіць дзень гневу Божага...» У гэты час набожны і акамянелы люд мусіў выплакаць апошнія слёзы, бачачы, як аздобныя Божыя святыні гараць, арнаментаваныя крыжы, Божыя цэрквы памаленьку, разгарэўшыся ў агні, валяцца на зямлю, царкоўныя купалы, адрамантаваныя з немалым выдаткам, гараць, а бляхі ад агнёвага імпэту лятаюць па паветры, як птахі, званы самі звоняць, гаспадарскія дамы без ніякага паратунку ў агні ў тло абарочваюцца, страх гэты цяжка і выпісаць, ласкавы чытачу. Дай, міласэрны Божа, каб да апошняга дня такое няшчасце мы на сабе не зазнавалі.

У гэты час згарэла кафедральная царква святога Спаса, збудаваная яшчэ ў старасвецкія часы, на якую вазілі бярвенне з Гваздоўкі, бо ў той час там была пушча, а цяпер жывуць людзі. І вялікія меладычныя спаскія званы парасплаўляліся. Згарэлі таксама аздобленыя верх і купал Брацкай царквы, алтар у царкве, адратаваны людзьмі, застаўся цэлы, у званоў пагарэлі калодкі, але званам нічога не нашкодзіла, бо стаялі пры вокнах. Згарэў таксама і брацкі гадзіннік. Абраз найсвяцейшай панны брамнай, які быў маляваны на сцяне ў старасвецкія часы, згарэў, бо ад агню паадпадаў ад сцяны тынк. Бліжняя Вазнясенская царква згарэла да funditus[74], а званы парасплаўляліся. У царкве святога Міколы пагарэлі таксама аздобныя і прыгожыя купалы. У самой царкве пагарэлі ўсе хоры і дзверы, зачаліся былі гарэць і лаўкі, але людзі лаўкі паразбіралі і алтар абаранілі. У званоў пагарэлі калодкі, а большы звон, калі падаў на акно, стукнуўся аб поручні і моцна ад гэтага падзення зверху патрэскаўся. А іншыя Божыя цэрквы, менавіта Уваскрасення, Глебабарысаўская, Прачысценка, Ільінская, Пакроўская, з Божага заступніцтва засталіся цэлымі. Лупалава не палілі, бо чоўны і паром былі адразу спушчаны ўніз Дняпра, таму не маглі перабрацца.

І гэта таксама напомню, бо потым была такая вестка, што калі б гараджане гэтым прысланым для спальвання горада калмыкам, татарам і маскоўцам паспрабавалі працівіцца альбо ўзброенай рукой абараняцца, то мілі за дзве стаяла некалькі палкоў, якія мелі загад спустошыць горад агнём і мечам да асновы, але ад меча пан Бог уратаваў. Тут вяртаюся я да першага сказу.

Назаўтра, пасля нешчаслівага спальвання горада, калі ўжо ўсё стала тлом, агонь супакоіўся, бо не было ўжо чаму гарэць, адзін другога шукалі, малыя дзеці без малака, без калысак плакалі, падрослыя дзеці есці прасілі, але дарэмна, бо ўсё пагарэла, і калі, адзін аднаго знайшоўшы, прыходзілі на сваё дамашняе папялішча, не маглі пазнаць, дзе жылі, хіба што знаходзілі па печах, бо і ўсе сады згарэлі пад корань, так што не было дзе і прытуліцца ад дажджу і холаду. І так некаторыя, калі дзе якая халупа ацалела, прасіліся ў суседства, убогія капалі зямлянкі і рознага адведвалі, пакуль агледзеліся. А некаторыя, каму выпадала, пачалі будаваць невялічкія хаты.

На трэці дзень пасля пажару кожны пайшоў шукаць свае тавары, а найболей тыя, што жылі каля царквы святога Міколы, бо ўсе сундукі былі паадбіваны і абрабаваны, а тут купа рознага адзення і ў іншых месцах таксама розныя заклады, бо за такі хуткі час немагчыма было схаваць іх у зямлю, і так, хто што са свайго апазнаў, браў сабе. Толькі найболей было сварак між жанчынамі за сукно, бо і тая, якая не мела, гаварыла, што гэта маё, а другая гаворыць — маё. Таму цяжка было ў іх сварках разабрацца. Аднак жа ўсё, хто што апазнаў, паразбіралі. Тады ў царкве святога Міколы два тыдні не было набажэнства, бо і жанчыны, шукаючы свайго ўбоства, хадзілі па алтарах. І так прыйшлося de novo[75] царкву асвечваць.

У гэты ж час была рэвізія па дамах, якія засталіся цэлымі, шукалі таксама ў Лупалаве і ў Затраеччы, штыхавалі па хатах, па каморах, па склепах. І нямала так закладаў і крамных тавараў у розных людзей пазнаходзілі і так, хто што сваё апазнаў, паразбіралі.

Пасля спальвання горада давялося чуць, што цягнецца ўслед за шведскім каралём з шведскім войскам генерал Леанхофт, маючы пры сабе дваццаць пяць тысяч коннага і пяхотнага ваяўнічага народа, бо адным войскам ісці было цяжка, так як у Літве і на Русі было скупа на харчовыя тавары.

Адразу пасля спальвання горада аб'явіўся нейкі палкоўнік Хмара, паляк, які са сваёй вашывай дывізіяй выступіў супраць

Масквы, але найбольш нападаў дзе на каго на дарогах і граміў. І гэтага, калі ў некалькі дзесяткаў коней прыбыў да Магілёва, мусіў горад карміць і ўлагоджваць.

У гэтым 1708 годзе трымаў мытніцу Моўша Гарэлік, які пасля спальвання горада наняў сабе для жытла дом у айца Яна Бабковіча, прэсвітэра царквы Уваскрэсення бліжняй, і там жыў. Тады хутка пасля пажару магілёўскі грамадзянін па імені Радзівон Хоміч Падпісак прывёз некалькі падводаў розных тавараў, менавіта гарэлкі, солі, тытуню et cetera. І калі пайшоў на мытню, там пасварыўся ці звадзіўся з пісарам Моўшам Гарэлікам (а гэты Гарэлік быў вялікім напаснікам на гараджан). Забралі тады ў яго да скарбу, у мытню, воз ці другі тавараў. Ён, памянёны Радзівон Падпісак, жадаючы адпомсціць (бо спадзяваўся, што пасля спальвання горада не будзе ані ўлады, ані справядлівасці), сабраў кампанію свавольных людзей, між якіх былі і гаспадары, і хацеў забіць Моўшу-пісара. І, добра напаіўшы гэтую сваю кампанію гарэлкай, пайшлі яны ноччу з палкамі, дом, дзе жыў гэты Гарэлік, акружылі, а калі пачалі пад вокнамі шаптацца, Гарэлік, бачачы, што ліха, тыльным каморным акном з жонкаю ціхутка вылез і ўцёк. А памянёны Радзівон Падпісак са свавольнымі людзьмі сваімі, у хаце вокны і дзверы павыбівалі, улезлі, жыда, што ляжаў моўчкі, цесця згаданага Моўшы, Ірыяша, узялі прыдушылі і, думаючы, што гэта Моўша Гарэлік, забітага на воз паклалі і, прывёзшы да Дняпра, утапілі. А пасля злачынства, ізноў гарэлкі напіўшыся, пакладіся спаць. А некаторыя, бачачы і разумеючы, што дрэнна, не чакаючы дня, з Магілёва — у ногі. А калі ноччу ўжо гэты вэрхал прыціх, Моўша Гарэлік адразу да войта і расказаў пра такі несправядлівы крымінальны ўчынак. Далі з ратушы жаўнераў і зараз гэтых вінаватых спячых пабралі і пасадзілі ў зладзейскую турму. Назаўтра і жыда з Дняпра выцягнулі. Сядзелі гэтыя злачынцы ў турме два альбо тры тыдні, а потым перадалі Радзівону запечаны ў пірог ключ, ён гэтым ключом адамкнуў аковы, выламаў краты і цёмнай ноччу з двума [іншымі] ўцёк на Украіну.

Калі ж вартаўнік, ці судовы гаспадар, гэта пачуў, іншым уцячы перашкодзіў, а хутка і дзень, калі гэтых злачынцаў, дзе былі і жонкі з малымі дзецьмі, бо мужы паўцякалі, а гэта адбывалася перад нядзеляю, забралі з турмы і пасадзілі ў Алейную браму, дзе перад гэтым былі складзены гарадскія порах і кулі. Гэтыя вязні, ні пра што не ведаючы, сядзелі ў цемнаце і курылі тытунь. Аж выпадкова ўпаў кавалачак попелу на зям-

лю, а там на зямлі, у куце, быў ненакрыты порах. Ад гэтага попелу спачатку ўзялося гарэць пamаленьку, а потым гухнула, нібы з якой гарматы, і ў гэтым сховішчы вырвала скляпенне і той вугал брамы, які стаіць над Дняпром, з абодвух бакоў. Толькі моцны фундамент не даў зусім упасці гэтаму вуглу. Жанчын забіла з дзесяць, мужчын двух, іншых пакалечыла. Тады пакалечаных і здаровых, якія засталіся, ізноў пабралі ў турму, а загінуўшых дазволілі пахаваць. Тады пачаў быў народ клікаць выразаць усіх жыдоў пад корань, каб не цешыліся з крыві хрысціянскай, але гэта супакоілі.

18 верасня прыбыло некалькі соцень коннікаў ад генерала Леанхофта, каб рыхтавалі з горада правіянт на шведскае войска дывізіі генерала Леанхофта[76], але быў горад змучаны пажарам, голадам і недастаткам. Аднак гэтых прысланых мусіў улагоджваць, і адразу выслалі да генерала Леанхофта двух бурмістраў з просьбай, каб не ішоў на Магілёў. І так генерал, праінфармаваны сваімі і гарадскімі пасланцамі, павярнуў ад Магілёва і пайшоў на Шклоў, узяў у Шклове вялікі правіянт і грашовую кантрыбуцыю, а са Шклова пацягнуўся ўслед за каралём пад Лясную, у маёмасці іх мосцяў Серафіновічаў.

У гэты час немалое маскоўскае войска сабралася на тым беразе Дняпра, непадалёку Лясной, і сам цар ягамосць Пётр Аляксеевіч быў у той бітве. А адбывалася гэта ў самыя замаразкі. Агарнулі адусюль маскоўцы Леанхофта, змагаліся з абодвух бакоў па-рыцарску. Сам цар ягамосць, бегаючы сярод палкоў, літаральна казаў такія словы: «Радейте, братцы, Богу і государу». На сваім кані моцна ўвіваўся. А калі ўжо войскі змяшаліся, узяліся за штыкі. І хоць маскоўцаў досыць было набіта, аднак перамога засталася за маскалямі, бо многа шведаў паўцякала ў лясы і пушчы, а калі ўжо наступіла ноч і выбарабанілі на мір, гэтым часам бітва і закончылася. Генерал Леанхофт з чатырма тысячамі апынуўся далёка. Там шмат шведскіх скарбаў, коней, адзення, вазоў, стрэльбаў, куляў et cetera і рознай амуніцыі пазаставалася мясцовай шляхце і сялянам. Гэтае шведскае войска везла з сабою для пераправы праз рэкі і скураныя масты, але ўсё гэта пагінула пад Лясною. Некалькі тыдняў нельга было там з-за мноства трупаў ездзіць дарогамі, бо былі разбэсціліся над імі сабакі і звяр'ё, хіба што вялікай кампаніяй і са стрэльбамі.

У гэты ж час шмат шведаў-недабіткаў, якія паўцякалі ў лясы, не мноствам, але па дзесяць, па пятнаццаць чалавек вярталіся праз Магілёў назад, рэдка хто ў мундзіры, але на-

крыўшыся рагожамі. Аднак пад сумненнем, каб меўся каторы са шведаў прыцягнуцца да сваёй айчыны, бо шляхта і сяляне па вёсках іх забівалі за тое, што шведы, ідучы дарогамі на Украіну, мучылі тутэйшы народ правіянтамі.

І хоць шведская навала прыціхла, бо ўжо шведскі кароль з Леанхофтам апынуліся ў маларасійскіх землях, аднак былі ў Магілёве праездам і па пастоях маскоўцы, якім таксама даваў горад правіянт і якіх харчавалі. А ў Быхаве было многа маскоўскага гарнізона, над якім камендантам быў палкоўнік Варанцоў, і гэты за правіянт, каб везлі з Магілёва ў Быхаў, хацеў пасля пажару горад мучыць, яго за правіянт задобрылі двумастамі рублямі.

Абраз найсвяцейшай панны Марыі Багародзіцы, маляваны мастаком Міронам Пігарэвічам, з усялякаю пашанаю, з крыжовым ходам, з малебнам і казаннем быў пастаўлены на Алейнай браме. Горка народ плакаў, успамінаючы пра такія моцныя прыцясненні, і прасіў у найласкавейшай Маткі аб міласэрнасці і заступніцтве, каб горад ад такіх прыцясненняў і бедаў ахоўвала і заступалася. А пасля гэтага наступіла суровая і лютая зіма, якая не аднаму далася ў знакі.

І гэта, што з людскога расказу, не абміну я тут прыкласці. Давялося чуць, што пасля шведскіх кампаній сяляне, шукаючы ў пэўнай вёсцы якіх трафеяў, прыйшлі да аднаго завала, альбо засыпанай ямы, і пачалі яе раскопваць, аж бачаць, што ў яме поўна жыта, капаюць далей, аж ляжыць у жыце на баку, вылупіўшы вочы, мёртвы швед, якога яны дасталі і на развітанне спалілі разам з жытам. Бо дзе толькі швед ішоў, там усюды быў голад, на полі неўраджаі праз многія гады, таму сяляне свае нівы асвечвалі святою вадою і маліліся, і не хутка, а праз некалькі гадоў паслаў пан Бог ранейшы ўраджай. І гэта таксама дадам, што пасля спальвання горада Магілёва шмат магілёўскіх людзей выйшлі з горада да замежных гарадоў і мястэчкаў, таксама і ва ўкраінскія землі.

Год 1709

У гэтым годзе была лютая зіма, стаяла доўга, снягі былі невыносныя і нечувана вялікія, што не толькі звяр'ё, птаства, але і людзі на дарогах мерзлі. І была дарагавізна на збожжа і на розныя харчовыя тавары.

У гэтым годзе, які пачынаецца ў месяцы студзені, хутка, дачасна, была пабудавана з карабельных дошак Спаская кафедральная царква, вельмі нязграбная, а потым, праз некалькі гадоў, з такіх жа дошак дабудавана. Гэтая ўся царква стаяла

на падпорах, і заўсёды пад час ветру было ў ёй небяспечна, і прастаяла яна аж да 1740 года, да залажэння мураванай кафедральнай царквы. У гэтай царкве архіепіскапы богаслужэнняў не адпраўлялі, бо было цесна, адпраўлялі набажэнства толькі ў мураванай Брацкай царкве.

Тут, крыху адступіўшы ад спраў горада Магілёва, коратка дадам я аб шведскім войску і каралю. З-за адсутнасці вестак не маю я магчымасці называць дні, аднак што ўдалося пачуць, то тут, у гэтым летапісе, коратка раскажу, а цэлае пакіну для дасканалейшых летапісцаў. Калі шведскі кароль з усёю сілаю свайго войска зацягнуўся ў маларасійскія землі, то ўсюды браў збожжавы правіянт і за гэта гетмана Мазепу шанаваў і быў да яго прыхільны. А калі ў гэты час, у гэтым жа 1709 годзе, быў недалёка ад Батурына (а гэты горад Батурын быў седалам альбо сталіцаю гетмана Мазепы), моцна абароненага валам, гетман Мазепа з чатырма тысячамі ўзброеных казакоў і з усімі сваімі скарбамі выехаў у шведскі лагер. А тыя, што пазаставаліся ў горадзе Батурыне, менавіта вайсковае і рэестравае казацтва, з наступленнем і прыходам пад Батурын маскоўскага войска, ужо не могучы з горада ні выйсці, ні выехаць, моцна ўзброіліся, акружылі вал гарматамі і падрыхтаваліся памерці да апошняга, але не дацца ў маскоўскія рукі.

Тады маскоўскімі войскамі, што прыйшлі пад Батурын, камандаваў святлейшы князь Аляксандар Данілавіч Меншыкаў. А царскі загад быў такі, каб усю сілу горада Батурына здабыць і знішчыць яе агнём і мячом, бо ўжо спазнаў вялікі маскоўскі цар Пётр Аляксеевіч такую вялікую здраду гетмана Мазепы. І хоць усе панове казакі раіліся з гетманам Мазепам як бы выбіцца з-пад маскоўскай улады, аднак, бачачы, што справы ідуць наадварот і што сабралася на Украіне немалое маскоўскае войска, адступіліся ад Мазепы і трымаліся царскай рукі, выяўляючы сакрэты закулісных махінацый і ўчынкаў гетмана Мазепы.

Шведскі кароль з войскам, з гетманам Мазепам і казакамі, не даючы адразу бою маскоўцам і не могучы ратаваць Батурын, пайшоў далей у маларасійскія землі, у стэпы. А тым часам Аляксандар Данілавіч Меншыкаў вялікім войскам аблажыў Батурын і здабываў. І хоць казакі з горада Батурына далі маскоўцам моцны адпор, аднак адбіцца не змаглі, бо калі войска люта пайшло на прыступ (ёсць паведамленне), адзін немец здрадзіў гораду, бо, маючы ў адным квартале каманду над артылерыяй, у час прыступу на валы страляў з гармат не

па войску, а ўверх. І так маскоўцы праз гэты квартал увайшлі і ўзялі горад і па царскаму загаду ўвесь вайсковы і гарадскі люд высеклі і пакалолі пад корань. А па сховішчах і таемных месцах, дзе хто знаходзіў прыгожых жанчын і нявінных дзяўчат, іх гвалцілі, а згвалціўшы, калолі і так усё да асновы зрабавалі і высеклі.

У гэты ж самы час, пад час аблогі, самыя знатныя людзі-гараджане, ратуючы сваё жыццё, са скарбамі, з жонкамі, з дзецьмі паўцякалі да батурынскай царквы, збудаванай за кошт гэтага ж гетмана Мазепы, і ў ёй зачыніліся. Але маскоўскае войска, азвярэўшы, як драпежныя львы і ваўкі, спадзеючыся здабыць у царкве багаццяў, навялі разбуральную гармату і дзверы, хоць былі і моцнымі, выбілі і, што знайшлі тут свецкага і духоўнага люду, высеклі пад корань, дзяўчат гвалцілі на алтарах і схаваныя тут багацці парасхапалі, зрабілі пустое месца і спалілі. У гэтым горадзе Батурыне і па сённяшні дзень нікому з людзей не вольна будавацца і жыць. Застаецца [горад] пустым, парослым хмызняком, людзі толькі на прадмесцях, і то мала хто, маюць сваё жытло.

Калі ўжо шведскі кароль з усім сваім войскам прыйшоў праз Украіну аж у стэпы пад Палтаву, тут умацаваўся акопамі. Услед таксама і маскоўскае войска ў вялікай колькасці і сіле накапала насупраць шведа сваіх акопаў. І дамоўлена была генеральная бітва на дзень 29 чэрвеня, гэта значыць на святых рускіх апосталаў Пятра і Паўла, у гэтым жа 1709 годзе.

Перад пачаткам гэтай бітвы прыпомніў сабе цар ягамосць Пётр Аляксеевіч, што, з нагавору гетмана Мазепы, дасведчаны рыцар і кавалер, украінскі пан Палей, застаецца ў Сібіры ў ссылцы, паслаў па яго, каб станавіўся перад бітваю на дапамогу вайсковым парадкам. Гэты пан Палей, калі прыбыў за некалькі дзён перад бітвай, ушаноўваючы цара, прасіў за свае ўчынкі літасці. Узаемна цар ягамосць суцяшаў яго, што адбылося гэта з нагавору гетмана Мазепы, аднак, сведчаць, абяцаючы яму сваю ласку, гэта казаў: «Пожалуй, Палеюшка, парадей Богу і асудару в нынешней беталіі».

Палей жа быў хітрым у рыцарскіх справах. А да таго хадзіў пра яго такі погалас, што быў ён незвычайным ваенным прадказальнікам. Мала што адпачыўшы пасля дарожных клопатаў, за некалькі дзён перад бітваю, з царскага дазволу загадаў ён прывесці сабе надзейнага каня. А калі пачаў на яго сядаць, конь яго не стрымаў і ўпаў на калені; на другога — і гэты не стрымаў. Аж ледзьве трэці конь датрымаў,

на якім, калі ўзыходзіла ранішняя зорка, аб'ехаў ён тры разы маскоўскае войска, а аб'ехаўшы, далажыў цару, што патрэбна быць маскоўскаму войску ў вялікай асцярожнасці, бо гэтая бітва назначана не на час і што можа яна закончыцца дачасна.

Так і сталася па яго сказу. Калі з абодвух бакоў войскі ў назначаны тэрмін і час рыхтаваліся і заставаліся ў вялікай пільнасці, гетман Мазепа са сваімі дарадцамі нагаварыў шведскаму каралю, што ягамосць цар Пётр Аляксеевіч заўсёды дае бітву на свае імяніны і перамагае, а таму задумалі каварным чынам дачасна і хітра ўдарыць на маскоўскае войска.

Таму так у самым выніку і стала. Шведскі кароль, не чакаючы часу, прызначанага на бітву, ноччу, перад днём 27 чэрвеня, на рускае свята святога Самсона, адразу ўдарыў на маскоўскае войска і два акопы ўжо выразаў. Маскоўскае ж войска адразу не пайшло на шведа, але калі пачало з усіх бакоў даваць агню з гармат, то зрабіла ў шведскім войску вялікую дзірку і пачалі маскоўцы браць верх. А калі ўжо швед пачаў курчыцца, а маскоўцы час ад часу бралі верх, Палей, пільнуючы войска з левага крыла, у бітву ўсё роўна не ўступаў. А цар ягамосць, аб'язджаючы войска, літаральна казаў такія словы: «Братцы, радейте Богу і гасудару». Пасля гэтага пачалася вялікая бітва, што ні адзін свой свайго штыком параніў і пакалоў.

Калі шведскае войска, якое стаяла даволі моцна, пачало ўцякаць, шведскі кароль і гетман Мазепа, бачачы, што ўжо ў войску дрэнна, што маскоўцы выігрываюць, а швед падае, з поля бітвы з чатырма тысячамі змешанага войска, шведскага і казацкага, уцяклі за Дняпро, а за імі таксама пайшлі той жа дарогаю наўцёкі і вайсковыя скарбы. А адбывалася гэта ў час самай бітвы.

Толькі калі ўжо войскі з абодвух бакоў змяшаліся, тады ўдарыў на шведаў са свайго крыла Палей, але ўжо было дарэмна, бо некалькі дзесяткаў тысяч шведскага войска, бачачы, што іхні кароль з Мазепам і са скарбамі ўцяклі і што з усіх чатырох бакоў акружаны маскоўцамі, паклалі перад імі зброю і ўчынілі паклон.

Пакуль гэтая бітва супакоілася, шведскі кароль з гетманам Мазепам апынуліся за некалькі міляў ад Палтавы, каля Дняпра, і засталі на гэтым беразе ракі Дняпро турэцкі паром, на якім пераправіліся за Дняпро, у турэцкі бок. А шведскія скарбы і хто змог уцякчы з бітвы жывым, калі на перавоз аль-

бо на паром не паспелі, уцякалі, хто як мог, на конях праз Дняпро ўплаў (але тут Дняпро быў вельмі глыбокі). Шведскія бочкі з грашыма, з золатам, з серабром парассякалі. Вольна было, хто хацеў, браць гэтыя скарбы сабе, а некаторыя вайсковыя людзі, абцяжарыўшыся грашыма, там жа, у Дняпры, і пахаванне сваё справілі.

Пераправіўшыся цераз Дняпро, шведскі кароль і Мазепа прыбылі да значнага турэцкага горада, які называўся Бандэры, і там, маючы ахоўную грамату ад турэцкага імператара, заставаліся ў бяспецы. Там гетман Мазепа, упаўшы ў роспач, шкадуючы аб сваіх няўдачах, гэты свет павітаў, там жа, у Бандэрах, і пахаваны.

Цар ягамосць Пётр Аляксеевіч загадаў па ўсёй Маларасіі альбо па Украіне Яна Мазепу аддаць анафеме, альбо праклінаць, якога па ўсіх цэрквах і праклінаді. Пасля пракляцця царградскі патрыярх адпусціў Мазепе грахі і загадаў яго пахаваць. І пасля адпушчэння грахоў Мазепе быў прызначаны ў Маскве і Пецярбургу свяцейшы Сінод без ніякага падпарадкавання Усяленскім Патрыярхам. Гэты Сінод і па сённяшні дзень судзіць у духоўных справах сваім шляхам.

Вяртаючыся да першай справы, гэта я патлумачу, што баталія альбо перамога засталася за маскоўцамі. Шведскае войска было разбіта, разгромлена, у Маскву ў палон пагнана, уся шведская артылерыя і амуніцыя былі пазабіраны маскоўцамі, а сам цар ягамосць Пётр Аляксеевіч пагнаўся ўслед за шведскім войскам, гэта значыць за каралём, і быў пад Прутам. Але што там адбывалася, адсылаю я, дзеля большай праўдзівасці, да маларускіх летапісцаў.

У той час за такую мазепінскую здраду каралі на Украіне шмат старшыны. І з-за гэтага страціла Украіна многа сваіх даўнейшых вольнасцяў. Пасля гэтай перамогі Палей хутка памёр, а гетманам стаў Скарападскі, старадубскі палкоўнік.

Шведскі кароль з рэшткамі свайго беглага войска немалы час знаходзіўся ў Бандэрах, а калі задумаў вярнуцца да сваёй сталіцы, да Стакгольма, пазычыў у турэцкага цара вялікую суму грошай на харчы і, маючы дазваленне і прыданы ад цара канвой, выехаў за турэцкую граніцу, у нямецкі край.

Старшына, якая была з Мазепам, атаманы Іскра і Орлік з іншымі казацкімі прыхільнікамі, бачачы, што ўжо цёмна на Украіне, бо мусілі б тут ганебна праводзіць сваё жыццё, хто як і дзе мог парассыпаліся па розных нацыях і там сваё жыццё закончылі.

Шведскі кароль, доўга цягнучыся з войскам праз розныя нацыі, дзе як мог, пагрозаю, просьбамі, пазыкамі выбіраў з гарадоў на войска правіянт і кантрыбуцыйныя грошы, ідучы да сваёй шведскай дзяржавы ў Стакгольм.

Калі шведскі кароль прыцягнуўся да аднаго нямецкага гарадка, які быў малалюдным, але асцярожным, кругом акружаным вадою, што цякла з азёраў і рэк, паслаў ён сваіх кур'ераў, каб хутка рыхтавалі правіянт. Старшыя гэтага горада, не спадзеючыся на такое няшчасце, афіцыйна гэтых кур'ераў затрымалі, абяцаючы ўсякую палёгку каралю, і адразу загадалі пападнімаць масты і выправіць на вал узброены народ, а самі, параіўшыся, пастанавілі, што лепш абараняцца, чым выдаць каралю правіянт. У гэты час шведскі кароль, бачачы, што яго кур'еры не вяртаюцца і што горад невялічкі, уздумаў яго здабываць. А ранкам аднаго дня, устаўшы, патаемна выехаў ён толькі з адным юнаком са свайго войска агледзець воды, якія цяклі каля горада, і прыгледзець лепшае месца для штурму, і, не спадзеючыся сабе ніякага няшчасця (бо толькі ў летні дзень віднела), бяспечна ехаў, аж далі з горада з фугаснай гарматы агню і застрэлілі яго куляй так, што ў адзін момант упаў з каня і аддаў душу. Перапалоханы юнак хутка пабег даць знаць у лагер, а жаўнер, які недалёка гэтага месца стаяў на варце, прыкрыў караля сваім плашчом. Хто хоча пра гэта ведаць больш, чытай лацінскую кніжку, якая называецца «Flosculi historiarum»[77].

Калі далі знаць у лагер пра каралеўскую смерць, узнялася ў войску вялікая сумятня, бо без караля ўсе разгубіліся, а старшына адразу пабегла па каралеўскае цела, а як толькі схапілі труп, бо ўжо развіднела, пачалі добра даваць агню з фугасных гармат, так што ледзьве змаглі адысці ад горада. І так шведскае войска, адступіўшы ад горада, пайшло ў Швецыю, у Стакгольм. І там караля з вялікай урачыстасцю, як слаўнага кавалера, пахавалі. А на яго месцы каралявала яго незамужняя сястра.

З людскіх расказаў. За некалькі гадоў перад выхадам шведскага караля са сваёй дзяржавы ў чужыя народы рыбакі, ловячы пад прускім Каралеўцам у заліве рыбу, калі раз, другі і трэці закінулі сетку, мала што злавілі. Крыху адышоўшы, на другім месцы таксама закінулі сетку і з вялікай цяжкасцю (думаючы, што цягнуць рыбу) выцягнулі вужа, ніколі не бачанага, таўшчыні і даўжыні вялізнай, галава з некалькімі джаламі, вельмі лютая, луска на ім была розных колераў, дзіўных і

рэдкіх, вочы — быццам агнём палаючыя. Адным словам кажучы, была гэтая пачвара дзівам, якая, калі вытраслі з сеткі, пачала на лёдзе страшна біцца і хацела ўлезці ў палонку ізноў, пад лёд, але рыбакі, напалоханыя яе выглядам і баючыся, каб іх не пакусала, сякерамі, што сякуць лёд, яе забілі і ў палонку вярнуцца не дазволілі, а бачачы такое страшнае дзіва, паклалі яе на сані і адвезлі ў Каралевец.

Калі ж прывезлі гэтага вужа ў Каралевец, дзівіўся народ на такога страшнага, ніколі не бачанага вужа. Аднак вучоныя людзі, а таксама бывалыя, старэйшыя прарочылі, што з'явіцца моцны і страшны кароль, які са сваёю сілаю пройдзе розныя нацыі (але так як таго вужа забілі і не пусцілі ў палонку), то не вернецца ён у сваю сталіцу. Таму гэтае прароцтва і спраўдзілася, што шведскі кароль прайшоў са сваім войскам розныя каралеўствы, княствы, нацыі, манархіі, але ў сваю дзяржаву не вярнуўся. Гэтага вышэйназванага вужа загадана ў Каралеўцы для выставы аблупіць, а шкуру, высушыўшы, напхаць бавоўнаю, які і цяпер вісіць у Каралеўцы ў старой ратушы.

Пасля смерці шведскага караля далі знаць маскоўскаму цару, што памёр. Цар ягамосць, даведаўшыся, што гэта праўда, горка па ім плакаў. А калі сенатары гаварылі, што нядобра плакаць па сваім непрыяцелю, адказваў, што з чужой смерці не трэба цешыцца, бо ўсе мы смяротныя, а што быў мне непрыяцелем, на гэта ёсць вайна, а чаму плачу па ім, плачу, што быў адважным кавалерам і дасведчаным у ваенных справах рыцарам, з якім, калі б заключылі мы мір і мелі адзінства, то ўсе народы перад намі дрыжалі б.

Пасля такой значнай Палтаўскай перамогі, атрыманай над шведам, цар ягамосць Пётр Аляксеевіч пачаў пісацца імператарам, гэта значыць цэзарам, якому гэтае імператарства прызналі розныя народы, толькі адна Польшча не прызнала. А потым прызнала і Польшча.

Тут вяртаюся я да гісторыі горада Магілёва. У гэтым 1709 годзе пастаянна як маскоўскае войска, так і польскае абцяжарвалі горад пераходамі, пастоямі, выбіраннем правіянтаў і грашовых кантрыбуцый.

У год 1709. Месяца лютага, 5 дня паслалі з горада ў Варонеж да найяснейшага цара Пятра Аляксеевіча паслоў прасіць міласэрнасці і заступніцтва, а таксама, каб дазволіў гораду пасля пажару будавацца, ды ў той час і маскоўцы абцяжарвалі горад пераходамі, таму і атрымалі абарону, гэта значыць ахоўны ліст. Тады ж пасылалі ў Варонеж паслоў з Аршанска-

га павета, а для лепшай павагі ўпрасіў павет князя Чацвярцінскага, епіскапа Беларускага, каб ехаў з імі. Князь Чацвярцінскі не адмовіўся і ездзіў з аршанскімі пасламі да цара ягамосці. У гэтым жа месяцы лютым ішла праз Магілёў смаленская шляхта з маскоўцамі, якім горад даваў правіянт, а старшых харчавалі па дамах.

Месяца сакавіка, 5 дня палкоўнік гетмана Сапегі Хмара меў пастоі харугваў у Копысі і ва ўсёй Капышчыне.

... і права на Беларускую епіскапію, ганаровую грамату, пісаную на імя ягамосці айца Ераніма Валчанскага, да рук гэтай аддаў, за якую моцна яна яму дзякавала і адразу кур'ерам адаслала ў Маскву, знамянуючы, каб Еранім Валчанскі быў гатовы на Беларускае епіскапства.

На схіле гэтага года быў адпраўлены ў Гродне сейм, але з гэтага сейма нічога добрага для айчыны не стала, бо хацеў кароль ягамосць, каб было сабрана войска, а Рэч Паспалітая гэтага не дазволіла. І так згаданы сейм распоўзся без ніякага выніку.

Год 1745

У год 1745. 9 студзеня выслалі з горада ў Маскву двух паслоў духоўнага стану і двух са стану свецкага прасіць ягамосця айца Ераніма Валчанскага на прастол Магілёўскай кафедры, аж панове паслы спазніліся, да Масквы не даехалі, а спаткалі яго, едучага ў Магілёў, за Смаленскам.

Дня 23, з суботы на нядзелю, пастар з малою світаю прыбыў у Буйніцкі манастыр.

Дня 25 магістрат з паслугамі аддаваў візіт і назначыў тэрмін уезду на дзень 27 студзеня.

Дня 26 у ратушы быў абнародаваны наданы айцу епіскапу прывілей, які, для ведання прыйшламу веку, змяшчаю я тут слова ў слова.

Аўгуст III, з Божай ласкі кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі et cet[78]. Знамянуем гэтым лістом, прывілеем нашым, каму аб гэтым ведаць належыць, што мы, маючы рэкамендаваную панамі дэпутатамі і служачымі, што знаходзяцца пры нас, вялебнага Ераніма Валчанскага прыкладную набожнасць і здольнасць да стану пастарскага, надумалі яму паводле згодных духоўных і свецкіх выбараў, utriusqve status et conditionis[79] да гэтага належачых, людзей старажытнай грэчаскай рэлігіі, грамадзян Вялікага княства Літоўскага, вакантную епіскапію Беларускую, Мсціслаўскую, Аршанскую і Магілёўскую, post ascensum et promotionem[80] вя-

лебнага Восіпа Валчанскага, епіскапа Беларускага, аддаць і надаць. Таму гэтым лістом, прывілеем нашым, даём і надаём так, што згаданы Еранім Валчанскі post sanctos ordines episcopatus susceptos[81], вышэйназваную епіскапію Беларускую cum jurisdicione tam inspiritualibus qvam in temporalibus[82] з кафедральнымі і мясцовымі цэрквамі, манастырамі, брацтвамі, ігуменамі, папамі, якія здаўна знаходзяцца ў Вялікім княстве Літоўскім ritus graci[83], і з уключэннем усіх навакол ляў, і з усімі памесцямі, вёскамі, фальваркамі, землямі, з іх багаццямі, па даўнейшых законах, запісаных у прывілеях seorsive[84], а менавіта з вёскамі, якія ляжаць у Мсціслаўскім ваяводстве, з назвамі Смолы, Заполле, Леснікі, Калатовін, Вяркеі; у Аршанскім павеце — Пячэрск, Барсукі, Цвіркаў, Тарасевічы, Вейна і Машанакі, тут жа з паромамі на рацэ Дняпро каля Магілёва, Любужы і Бародчыцах, таксама з юрысдыкцыямі, якія знаходзяцца ў нашых гарадах Мсціславе і Магілёве, з дасканалым паслушэнствам усяго духавенства грэка-рускай рэлігіі ў Вялікім княстве Літоўскім, cum libero usu et pacifica posessione[85], без ніякіх ні ад каго перашкодаў, так як папярэднікі перад гэтым трымалі і карысталі, з даходамі ад духоўных багаццяў будзе мець, трымаць і ўжываць аж да апошняга крэсу свайго жыцця альбо да якой заслужанай вышэйшай годнасці, якая дае яму пры гэтым сілу qvantum iurisest et usus corum habetur[86] паводле даўнейшых законаў судзіць усе духоўныя справы і кіраваць ва ўсім духавенстве вышэйшага і ніжэйшага стану, каб з улады і з кіраўніцтва свайго епіскапскага ў цэрквах і кляштарах нашых дзяржаваў памнажаў славу Божую, непаслухмяных і грэшнікаў караў. Абяцаем таксама ад нас і ад найяснейшых нашых нашчадкаў, што вышэйназванага вялебнага Ераніма Валчанскага ў час трымання і мірнага скарыстання гэтай духоўнай епіскапскай юрысдыкцыі і маёнткаў, што да яе належаць, падтрымліваць і нікому для паслаблення сілы не аддаваць, а наадварот, хочам мець яго пад нашай асаблівай каралеўскай пратэкцыяй і загадваем для ведама людзей усіх станаў падаць умовы, каб згаданага вялебнага Ераніма Валчанскага за праўдзівага і ўласнага епіскапа Беларускага, Мсціслаўскага, Аршанскага і Магілёўскага мелі і зналі, яго волі і выключнаму праву de iure et antiqva consvetudine[87] не праціваліся і праціўіцца каму іншаму не дазвалялі sub panis vontra violatores iurium descriptis[88]. На што, для лепшай веры і павагі, рукою ўласнаю падпісаўшы, пячатку Вялікага княства Літоўскага

прыціснуць мы загадалі. Дадзены ў Гродне дня 11, месяца кастрычніка, года Божага MDCCXLIV [1744], каралявання нашага XI года, Avgustus rex[89].

Гэты прывілей падмацаваны меншай пячаткаю, гэта значыць віцэ-канцлераўскай.

Пасля публікацыі прывілея, калі наступіў назначаны дзень 27 студзеня па рымскім календары, серада, як толькі хутка дзень, сталі біць у цэхах у барабаны і ў літаўры ў купецкай і ротмістрскай харугвах. На восьмай гадзіне, зранку, купецкая харугва пры ўсім парадку і ўборах ад коней і да ўладаў рушылася праз горад да Пячэрска, а за харугваю сваім парадкам пайшлі да Віленскай брамы рамеснікі. А на мосце Ветранай брамы была зроблена даволі аздобная, з гербамі і надпісамі, Трыумфальная брама. Каля гэтай брамы магілёўскі магістрат чакаў на прыбыццё пана і пастара. І так першай прыйшла купецкая харугва, за харугвай ішоў кравецкі цэх і няслі царкоўныя святыні, за святынямі ішло духавенства, убранае ў рызы, між духавенства ішоў пан і пастар. А калі спыніўся перад Трыумфальнай брамай, кропячы народ, які быў кругом, пачалася ўрачыстая прамова вітання пастара. Ад магілёўскага магістрата з вялікай радасцю гаварыў Трубніцкі, у той час рэгент магілёўскай канцылярыі. Пасля ўрачыстай прамовы пан і пастар, блаславіўшы народ, увайшоў у горад і ўступіў у Брацкую царкву, дзе адпраўляў святую літургію. Пасля літургіі, у прысутнасці вельмі шаноўных людзей, з Брацкай царквы пеша ішоў да сабора Святога Спаса. Так можна сказаць, што тут усяго Магілёва і чужых людзей абодвух полаў быў вялікі кангрэс. Пасля прыбыцця да Спаса на месце таксама была адпраўлена ўрачыстая літургія. Пасля малітвы магістрат і ўсіх конных частавалі абедам пад брацкую музыку. Пасля пачастунку пан і пастар шчасліва сеў на прастол Магілёўскай кафедры.

Паколькі я вышэй успамінаў пра Вашчылу, то тады з людскіх паведамленняў дадам тут, што згаданы Вашчыла, пакуль найяснейшая вялікарасійская імператрыца прыбыла да Кіева, ён у Старадубе, будучы пад маскоўскаю вартаю ў аковах, гэты свет павітаў. Над яго целам стаяла маскоўская варта з выцягнутымі палашамі два тыдні, пакуль не прыйшоў загад з Глухава ад старшых маларасійскіх суддзяў, каб яго пахавалі. І так яго ўрачыста пахавалі.

Пра архідыякана Хацялоўскага, пра якога пісаў я вышэй. Гэты, у час бытнасці імператрыцы ў Кіеве, з-за яго здольнасці

да царкоўных спеваў, быў рэкамендаваны і з пашанаю прыняты для спявання ў імператарскай капеле.

У гэтым годзе выйшлі ад караля ягамосці Аўгуста універсалы, каб купцы аніякіх тавараў за граніцу, у Прусію і ў Вроцлаў, не вывозілі і была пастаўлена на дарогах пільная варта з такім загадам, што калі б хто варту аб'ехаў альбо падкупіў ці хто б дагнаў купца, які ехаў патаемнай дарогай да граніцы, вольна было забіраць усе тавары, а гэта з такой прычыны, што польскі кароль пачынаў ужо дагаворвацца з прускім каралём аб вайне. Але гэта трывала нядоўга.

У год 1745. 20 лютага прывезлі і прыбілі сярэбрана-пазалочаную апраўу на абраз найсвяцейшай панны намесніцы Брацкай; гэтая аправа важыла 62 фунты, а зроблена яна была за царкоўны кошт.

У гэтым 1745 годзе, у вялікі пост, прыйшла вестка, што нежынскі архімандрыт, які меў архімандрыю пры царкве найсвяцейшай панны Нежынскай, пан з паноў, з навук тэолаг, які значны час быў архімандрытам, па імені Мадэст Вялецкі, з д'ябальскага падбухторвання ці з раскошнага жыцця, злёгся з замужняй грачанкай і быў з ёю ў сужыцці як з жонкай. А паколькі такая справа ўтаіцца не можа, грымнула сярод людзей рэха, што архімандрыт жыве з грачанкай. Тады ён, спалохаўшыся, каб не дайшло гэта да Сінода, падманна, публічна ў адведзіны да хворай маткі (бо меў яшчэ матку-старушку), і, забраўшы шэсць тысяч залатых дукатаў як царкоўных, так і манастырскіх, пасля адведзінаў маткі адкрыта выехаў, згаварыўшыся з грачанкай і ўбраўшыся ў польскае свецкае адзенне, за граніцу, у Польшчу, а там, з'ехаўшыся з грачанкай, падаліся яны да прускага Берліна.

У год 1745. 25 чэрвеня святар Лупалаўскай царквы па імені Ян Мамонавіч Кажамячка, прысланы з Масквы ад Восіпа Валчанскага, былога епіскапа Беларускага, яшчэ ў маладых гадах па прадстаўленні лупалаўскіх парафіян быў рукапакладзены, толькі мала быўшы ў Лупалаве (хоць быў дасканалы ў богаслужэнні і добрасумленны ў чытанні, але і ў непакорнасці і крыўдзе найлепшы), калі ў Вотвуце ўчыніў праступак і выхадку, то быў выкрыты годнымі людзьмі. Калі яго паставілі перад епіскапскім судом, ён, не чакаючы на вырак, не стрымаўшыся, крыкнуў гэтыя словы, што «не ўсе уніяты будуць пракляты», і ўцёк да ксяндза, да магілёўскага плябана, і там, адрокшыся ад праваслаўя, стаў уніятам. Калі яго са свечкамі праводзілі на рэвакацыю[90], то некалькі дзесяткаў разоў вы-

страліілі з гарматак. Пасля рэвакацыі гэты ж айцец Ян Кажамячка, калі ўжо адумаўся, што зрабіў дрэнна і зняславіў сваіх бацькоў і крэўных, а святое праваслаўе апаганіў, уцёк ад плябана і некалькі дзён туляўся па Лупалаве. Пасля гэтага няма весткі, дзе, пакінуўшы жонку і дзеці, ён падзеўся. Давялося чуць, што бачылі па Украіне.

У гэтым жа годзе. 27 чэрвеня ў кафедральны Святаспаскі сабор да правялебнага епіскапа Беларускага Ераніма Валчанскага прыйшла вестка, што ягоны брат, былы епіскап Беларускі, а потым архіепіскап Маскоўскі і Уладзімірскі, айцец Восіп Валчанскі ў Маскве гэты свет павітаў. У Магілёве званілі па ўсіх цэрквах уранку і ўвечары тры дні. Быў ён не ганаровым версальцам, а чалавекам набожным, разважным, мудрым, вучоным, даступным, пакорлівым, смерць якога святое праваслаўе вельмі шкадавала. А найбольш, застаючыся ў праваслаўі, шкадаваў горад Магілёў, бо Магілёўская кафедра і ўвесь горад мелі надзею, што яго стараннямі маглі б быць здабыты грошы на дабудаванне Спаскай царквы, пачатай і ўжо пад верх змураванай.

У год 1745. 21 ліпеня хрысцілі ў Буйнічах малога жыдка, які меў гадоў восем, імя далі Антоні. Родам быў з Магілёва, уцёк ад бацькоў і прагнуў стаць хрысціянінам. Хрост даваў сам правялебны айцец Еранім Валчанскі, епіскап Беларускі.

У гэтым жа годзе. У awguscie прыйшла ў Магілёў такая вестка, што адзін вельмі багаты пан, які жыў у Польшчы каля турэцкай граніцы, маючы ўдосталь сваіх валоў і да гэтага яшчэ прыкупіўшы, загадаў сваім камісіянерам гнаць некалькі тысяч быдла да Вроцлава. А ў той час там было вялікае зборышча войска, бо прусакі ваявалі з венгерскай каралевай. А калі валоў гналі, пачалі яны па дарозе здыхаць. А калі таму пану паведамілі пра гэта, ён, не верачы, выехаў услед за быдлам сам, а пакуль дагнаў, усё быдла падохла. Стаўшы тады над быдлам і загарэўшыся лютым гневам, гэты няшчасны сказаў: «Пане Божа, нарабіў ты з майго быдла добрай падаліны, еш жа сам». І такі цуд Божы на яго спаў, бо адразу пасля гэтых слоў у прысутнасці сваіх слуг і камісіянераў, абярнуўся ў сабаку і, па-сабачы выючы і лаючы, кінуўся на сваё быдла і еў. І так яго, паводле рады духавенства, узялі, як сабаку, на ланцуг, і калі давалі яму есці з талеркі, не еў, а еў з бруднага посуду, з якога звычайна даюць сабакам. А пасля гэтага вазілі яго па розных святых месцах і прасілі Бога, каб зрабіў ласку і абярнуў яго з сабакі ў чалавека.

Як я нагадваў вышэй, пасля адабрання кабака ад горада атрымаў яго і цло жыд Абрам Бейманавіч Шпейер, які ўвайшоў у славу, у давер і ў рэпутацыю, а таксама і ў гонар і пачаў пісацца касірам, гэта значыць падскарбіем, з адной жонкай развёўся, а другую ўзяў, што яму дорага каштавала. Толькі гэтая ягоная амбіцыя не закончылася дабром, бо хутка, у гэтым жа 1745 годзе, 29 жніўня, прыбыло дваццаць чалавек маскоўцаў і палкоўнік Пацёмкін, які прыпомніў нейкі доўг, сто дваццаць тысяч, бацькі гэтага Беймана Шпейера царскай казне, узятага яшчэ ў 1707 і 1712 годзе, і хутка яго з трыццаццю тысячамі талераў бітых у замку арыштавалі. І так вышэйшае замкавае начальства ўзяло яго пад варту. Аднак жа ў гэты час ён яшчэ не баяўся, бо верыў у пратэкцыю генерала Флемінга, касірам якога, ці падскарбіем, лічыўся.

Але, як гавораць, адна бяда не бяда, тое ж дзве і тры. Так у гэтую пару павялося і гэтаму Бейманавічу. Звадзіліся з ім яго ж таварышы, магілёўскі равін і шклоўскі Марка, і агаварылі Бейманавіча перад генералам Флемінгам, што калі б у яго пашукаў, то знайшоў бы вялікую суму, якая з кабака і цла належала казне. І так загадаў генерал яго праверыць. Пасля праверкі вялікай сумы не знайшлося, але яго акавалі і ўзялі пад моцную варту. Асобна таксама ўзялі пад варту ягоную матку і загадалі, каб з імі пра сакрэтнае ніхто не гаварыў. А ў яго доме ўсё апісалі і апячаталі.

Калі ж маскоўскай імперыі сталі надакучваць лістамі, што калі няма грошай да выплаты, каб быў Бейманавіч выданы, генерал Флемінг загадаў яго выдаць. Але жыдоўская хітрасць заўсёды ў клопатах, і, каб яго нейкім чынам ратаваць, каб не быў ён выданы маскоўцам, задобрылі вялікіх паноў. І так аршанскі стараста, віцебскі ваявода Агінскі і падваяводзіц Рэут перадаручылі яго за вельмі вялікую суму грошай гораду і замку, за што потым замак і горад падавалі позвы ў трыбунал. У гэтых позвах хутка былі напісаны на горад толькі напасці. І хоць і ведалі панове, што паводле права жыды да горада, а горад да жыдоў не належаць, аднак зрабілі гэта на пагібель гораду Магілёву.

У гэтым жа годзе быў у горадзе войтам Базыль Аляксандравіч Бацвінка, не так улады, як амбіцыі поўны. З пачатку года войтаўстваваў праз намесніка, бо сам быў у дарозе. Прыехаў у ліпені і заняў гэтую войтаўскую пасаду. А калі памерла яго жонка, невядома з якой прычыны, ці з п'янства, ці з роспачы, альбо з глупства і памяшання ў галаве, стаў ён хадзіць у

ратушу пры шаблі і з паляўнічым нажом. Кожнага, на каго толькі трапляў, зневажаў, кожнага біў, і мусілі людзі ад яго ўцякаць, бо парываўся да шаблі. У час сесіі, калі ў ратушы таксама ўсіх зневажаў, шаблю і палку ў яго забралі. Потым ноччу напаў на замак, там яго і закавалі. Назаўтра прывезлі яго ў карэце да сабора, каб быў пакараны епіскапам. Але прасядзеўшы там некалькі дзён акаваным, быў адпушчаны дадому. Потым на генеральнай сесіі яго з войтаўства знялі.

У год 1746. Месяца лютага, 4 дня, удзень, перад полуднем, загарэўся каля карчмы, на самым рынку, дзе прадаюць збожжа, жыдоўскі дом. І калі хутка заняўся вялікі агонь, увесь горад быў у страсе, таму мусілі ўсе выносіць з крамаў свае тавары, з-за чаго стала гараджанам вялікая страта. І калі б не асаблівая Божая міласэрнасць і паратунак, і не супраць размешчаныя мясныя лаўкі, то, пэўна, увесь горад абярнуўся б у попел. І хоць пра гэта, каб не будаваліся жыды блізка крамаў, пісалі да караля ягамосці, але нічога не змянілася, бо жыды зноў там пабудаваліся.



# КАМЕНТАРЫІ

## *ПАДАННІ ПРА ПОЛАЦКІХ КНЯЗЁЎ*

### *Паданне пра Рагнеду*

Гістарычнае апавяданне пра полацкую князёўну Рагнеду збераглося ў старажытнарускіх летапісах у дзвюх асноўных рэдакцыях. Першая, больш сціслая, пададзена ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 г., летапісным творы, які быў складзены ў Кіеве ў пачатку XIV ст. на падставе больш ранніх пісьмовых крыніц і вусных успамінаў. Другая, пашыраная, змешчана пад 1128 г. у Лаўрэнцеўскім летапісе (з яе і зроблены пераклад), летапісным зводзе пачатку XII ст., які быў перапісаны ў 1377 г. Хоць другое апавяданне пра Рагнеду ўнесена ў пісьмовую крыніцу амаль праз паўтары сотні гадоў пасля апісаных падзей, яно, несумненна, грунтуецца на сапраўдных гістарычных фактах. Значна менш праўдападобнай здаецца трэцяя версія, што выкладзена ў Цверскім летапісе (XV ст.), быццам бы Рагнеда, пакінутая Уладзімірам, пастрыглася ў манашкі пад іменем Анастасіі. Неверагодна, каб у Полацку або ў Заслаўлі ў 90-я гг. X ст., на самым заранку хрысціянства ў гэтых землях, ужо існавалі інстытут манаства і манастыр, калі нават у самой сталіцы Кіеўскай дзяржавы першыя манахі з'явіліся і першы манастыр быў заснаваны толькі пры князю Яраславе Мудрым (1019 — 1054).

Сватанне ноўгарадскага князя Уладзіміра да полацкай князёўны і яго паход на Полацк адбываліся дзесьці ў сярэдзіне 70-х гг. X ст. 980-м жа годам (па іншых звестках — 978-м) датуецца паход гэтага князя на Кіеў і забойства Яраполка. Замах Рагнеды на Уладзіміра і яе высылка на Полаччыну, найбольш праўдападобна, адбыліся ў канцы 80-х гг. X ст. Памерла Рагнеда (у летапісе — Рагнедзь) у 1000 г. У

яе нарадзіліся чатыры сыны — Ізяслаў, Яраслаў, Мсціслаў і Усевалад, і дзве дачкі — Дабранега, якая выйшла замуж за польскага князя Казіміра, і Прадслава. Ізяслаў княжыў у Полацку, меў двух сыноў, Усяслава і Брачыслава, памёр у 1001 г. Яго імем названы заснаваны ў канцы X ст. горад Ізяслаўль (сучаснае Заслаўе). Яраслаў атрымаў ад бацькі Растоў, потым быў пераведзены ў Ноўгарад. Пасля смерці князя Уладзіміра (1015 г.) доўга змагаўся са Святаполкам за кіеўскі вялікакняскі пасад, якога дамогся ў 1019 г. Часы яго княжання — перыяд найбольшага росквіту, грамадска-палітычнага і культурнага, Кіеўскай дзяржавы. Яраслаў спрыяў развіццю асветы, мастацтва, кніжнага пісьменства, умацаванню хрысціянства на Русі, таму справядліва празваны Мудрым. Мсціслаў спачатку княжыў у Тмутаракані, старажытнарускім горадзе на Таманскім паўвостраве. Вызначыўся ў барацьбе з касогамі, племем, што жыло на Паўночным Каўказе. У рукапашным баі перамог касожскага князя Радзедзю. Гэты подзвіг харобрага Мсціслава, як сведчыць аўтар «Слова пра паход Ігаравы», апяваў славуты пясняр Баян. Пра дзейнасць чацвёртага сына Рагнеды Усевалада, які атрымаў ад бацькі горад Уладзімір-Валынскі, звестак не захавалася.

[1] *Рагвалод* — першы гістарычна вядомы полацкі князь. «Прыйшоў з-за мора» ў Полацк дзесьці ў сярэдзіне X ст. Некаторыя даследчыкі лічылі яго нарманскім варагам па паходжанні. Аднак, на нашу думку, больш верагодна, што Рагвалод быў выхадцам з паморскіх (палабскіх) славян, якія жылі на паўночна-ўсходнім узбярэжжы сучаснай Германіі, у тым ліку на востраве Руген. Пра гэта сведчыць і яго імя, якое мае агульны корань з шэрагам іншых мужчынскіх імён славянскага паходжання: Усевалад, Уладзіслаў, Уладзімір, Валадар, Валодша.

[2] *Яраполк* — старэйшы сын Святаслава Ігаравіча, пасля смерці якога ў 973 г. стаў князем кіеўскім. Быў забіты каля 980 г. у Кіеве па загаду Уладзіміра пры дапамозе Яраполкавага ваяводы Блуда, які здрадзіў свайму князю. Яраполк меў жонку-грачанку, манашку. Яе, ужо цяжарную, Уладзімір, здабыўшы Кіеў, зрабіў сваёй палюбоўніцай. Яна нарадзіла Святаполка, будучага князя тураўскага, якога кіеўскі летапісец называе сынам двух бацькоў. З гэтага вынікае, што Рагнеда, выказваючы жаданне «разуць Яраполка», збіралася стаць яго другой жонкай.

[3] *Барыс* — адзін са старэйшых сыноў Усяслава Чарадзея. Заснаваў горад Барысаў на Бярэзіне. З яго іменем звязаны і так званыя Барысавы камяні.

[4] *Дабрыня* — ваявода князя Уладзіміра. Быў родным братам Малушы, дачкі драўлянскага князя Мала. Яна ў час аднаго з паходаў на драўлян была палонена, прывезена ў Кіеў і стала служанкай княгіні Вольгі. Ад гэтай рабыні Малушы і князя Святаслава і нарадзіўся будучы хрысціцель Русі Уладзімір, які, паводле слоў летапісца, быў «такі ж жанчыналюбец, як і Саламон».

### *Аповесць*
### *пра Усяслава Полацкага*

Гістарычныя запісы пра полацкага князя Усяслава, які больш за паўстагоддзе (1044 — 1101 гг.) кіраваў Полацкай дзяржавай, захаваліся ў «Аповесці мінулых гадоў», самым старажытным усходнеславянскім летапісе. Яны раскіданы ў летапісных артыкулах розных гадоў, але, сабраныя разам з асобнымі звесткамі пра гэтага князя з іншых пісьмовых крыніц таго часу, складаюць своеасаблівую гістарычную аповесць пра Усяслава Чарадзея. Яна напісана і рэдагавалася ў Кіеве ў часы Уладзіміра Манамаха, які быў зацятым праціўнікам гэтага полацкага князя і неаднойчы рабіў спусташальныя напады на Полацкую зямлю. Таму, зразумела, не Уладзімір, а полацкі князь асуджаецца ў гэтым творы за «нялітасцівасць на кровапраліцце». Непрыхільнасць кіеўскага летапісца да Усяслава тлумачыцца яшчэ і тым, што ён быў цесна звязаны з язычніцкімі традыцыямі сваіх продкаў. Полацкі князь нарадзіўся «от волхвованья» і забабонна насіў на сабе высушаны паслед, у якім нарадзіўся. Нягледзячы на несістэматычнае і тэндэнцыйнае асвятленне ў кіеўскіх летапісах полацкай гісторыі XI ст., гэтыя запісы данеслі да нас унікальныя звесткі пра некаторыя вельмі важныя падзеі далёкай беларускай мінуўшчыны.

[1] *У год 6574 (1066)* — звестка 1066 г. узята з Ноўгарадскага 1-га летапісу.

[2] *... і пайшлі да Нямігі...* — гэтая згадка дае дадатковыя аргументы тым вучоным, якія лічаць, што першапачаткова Менск узнік на Менцы, прытоку Пцічы, дзе сёння знаходзіцца Строчыцкае гарадзішча, а пазней, у канцы XI ст., быў перанесены на Нямігу.

[3] *...на Ршы каля Смаленска...* — недакладнасць у летапісе, бо ад Оршы да Смаленска больш сотні вёрст. Відаць, у XI ст. у Верхнім Падняпроўі не было іншага значнага горада, да якога летапісец мог бы больш дакладна прывязаць месца паланення князя Усяслава.

[4] *Альта* — рэчка каля Кіева.

[5] *Тукі, Чудзін* — відаць, прадстаўнікі кіеўскай знаці, багатыя баяры.

[6] *Баляслаў* — польскі кароль Баляслаў II Смелы, сын караля Казіміра I, за якім была замужам дачка Рагнеды Дабранега і з сястрой якога быў жанаты кіеўскі князь Ізяслаў Яраславіч.

[7] *Белгарад* — прыгарад Кіева на р. Ірпінь.

[8] *Галацічаск* — горад у Полацкай зямлі, магчыма, сённяшні Галоўчын, што ў Бялыніцкім р-не.

[9] *Друцк* — горад на Друці, цэнтр Друцкага княства, сёння вёска паміж Талачыном і Круглым.

[10] *(1078), (1084)* — звесткі, датаваныя 1078 і 1084 гг., узяты з «Павучання» Уладзіміра Манамаха.

## *СТАРОНКІ ПОЛАЦКАГА ЛЕТАПІСУ*

Пасля смерці Усяслава Чарадзея для Полацкага княства надышлі яшчэ больш цяжкія часіны. Ваенна-палітычны націск Кіева не слабеў. Кіеўскія князі ўчынялі часам паходы цэлых кааліцый князёў на полацкія гарады і выкарыстоўвалі ў дачыненні да Усяславічаў нават паланенні і высылкі — каб пакараць іх за непаслушэнства і цалкам падначаліць сабе беларускія землі. Да гэтых бед далучыліся і княскія міжусобіцы, што сталіся вынікам феадальнай раздробленасці, якая глыбока закранула і Полацкае княства. Распаўшыся на шэраг дробных удзелаў, яно паўтарыла лёс Кіеўскай дзяржавы.

Яркі малюнак складанага ўнутрыпалітычнага жыцця сярэднявечнай Беларусі паўстае з летапісных старонак, прысвечаных падзеям у Полацкай зямлі XII ст. Запісы 1116—1186 гг. узяты пераважна з Кіеўскага летапісу, што захаваўся ў складзе Іпацеўскага. Толькі звестка 1159 г. запазычана з Васкрасенскага, а 1186 г. з Лаўрэнцеўскага летапісу. Летапісныя даты на сучаснае летазлічэнне пераведзены паводле працы М. Беражкова «Храналогія рускага летапісання» (М., 1963). У гэтых звестках занатаваны толькі некаторыя важныя моманты беларускай гісторыі XII ст., аднак і яны выразна паказваюць, якім багатым і бурным было грамадска-палітычнае жыццё тагачаснай Беларусі, наколькі складанымі былі ўзаемаадносіны беларускіх гарадоў і земляў. Гэтыя запісы даюць каштоўны матэрыял і для іншых цікавых назіранняў. У прыватнасці, мы бачым, як даволі хутка расла палітычная роля Менска, які падначаліў навакольныя гарады і стаў фактычна супернікам Полацка ў аб'яднанні беларускіх земляў.

Запісы 1116—1186 гг. названы тут старонкамі Полацкага летапісу па дзвюх прычынах. Па-першае, яны прысвечаны пераважна полацкай гісторыі. Па-другое, як мяркуюць асобныя вучоныя, сярод гэтых запісаў, мажліва, захаваліся сляды згубленага Полацкага летапісу. Прынамсі, несумненна, што так дэталёва і неабыякава апісаць падзеі 1158 г. у Полацкай зямлі мог толькі іх непасрэдны ўдзельнік, іх жывы сведка.

[1] *Давыд Святаславіч* — стрыечны брат Уладзіміра Манамаха, у розныя гады валодаў Перыяславам, Смаленскам, Чарнігавам.

[2] *Ольгавічы* — сыны Алега Святаславіча, князя Чарнігаўскага з 1094 г. да 1115 г., стрыечнага брата Уладзіміра Манамаха.

[3] *Вячаслаў* — сын Уладзіміра Манамаха, князь смаленскі, у 1125 г. атрымаў Тураў.

[4] *Яраполк* — сын Уладзіміра Манамаха, князь пераяслаўскі.

[5] *Жэлдзі (Жэлні)* — горад у Пераяслаўскім княстве на поўдні ад Кіева.

[6] *Мсціслаў* — сын Уладзіміра Манамаха, спачатку княжыў у Ноўгарадзе, у 1125—1132 гг. у Кіеве.

[7] *Усевалад з Гародні* — радавод гэтага князя дакладна невядомы, як і тое, ці горад на Нёмане тут маецца на ўвазе.

[8] *Усевалад Ольгавіч* — сын Алега Святаславіча, князь чарнігаўскі.

[9] *Стрэжаў і Неключ* — гарады Полацкай зямлі, што ляжалі дзесьці паміж сучасным Барысавам і Полацкам.

[10] *Брачыслаў* — князь ізяслаўскі (сучаснае Заслаўе), чый сын, дакладна невядома.

[11] *Мсціслаўна* — жонка Брачыслава, дачка кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча.

[12] *Баняк* — палавецкі хан.

[13] *Святаслаў Ольгавіч* — сын Алега Святаславіча, валодаў Курскам, з 1157 г. — князь чарнігаўскі.

[14] *Усевалад і Валадар* — сыны Глеба Усяславіча, князя менскага.

[15] *Бельчыцы* — прыгарад Полацка.

[16] *Валодша* — дакладна невядома, чыім ён быў сынам.

[16] *Гарадок (Гарадзец)* — горад, месцазнаходжанне якога застаецца загадкай для даследчыкаў. Звычайна яго шукалі на поўначы або на паўночным захадзе ад Менска. Аднак такі вывад не адпавядае зместу летапісу: з гэтага Гарадка Рагвалод чамусьці ўцякае ў Друцк аж праз Слуцк. Князь не мог выбраць сабе такі недарэчны, у шмат разоў даўжэйшы і небяспечны (паблізу Менска, дзе сядзеў яго праціўнік Расціслаў Глебавіч) маршрут. Хутчэй за ўсё Рагвалод пайшоў бы напрасткі і абышоў бы Менск з поўначы. Значыць, Гарадок Валадара ляжаў недзе на паўднёвы захад ад Менска. Думаецца, ёсць сур'ёзныя падставы атаясамліваць гэты загадкавы Гарадок з Новагарадком — Наваградкам, размешчаным недалёка ад этнічнай Літвы, прысутнасць у якім літоўцаў тады было звычайнай з'явай. Як сведчаць матэрыялы археалагічных даследаванняў, гэты горад у XII ст. быў буйным гандлёва-рамесным, палітычным і культурным цэнтрам Верхняга Панямоння. Паказальна, што менавіта ў культурным пласце яго пасада (Малы замак сучаснага Наваградка) другой паловы XII ст. археолагі знайшлі найбольш слядоў абгарэлага дрэва і попелу. У канцы XII ст. на Малым замку спыняецца актыўнае будаўніцтва. Ці не сведчыць гэта пра тое, што ў той час горад моцна пацярпеў ад пажару, неўзабаве быў нанова адбудаваны і пашыраны, але ўжо на новым месцы, на тэрыторыі сучаснай галоўнай плошчы, куды быў перанесены цэнтр гарадскога жыцця і дзе вырас Новы Гарадок. Немагчыма, каб такі значны горад на працягу двух стагоддзяў (XI—XII) ні разу не згадваўся ў летапісах. Наваградская зямля, несумненна, была цесна звязана з Полацкім і Менскім княствамі, а тагачасныя наваградскія князі, верагодна, былі Усяслававымі ўнукамі.

[17] *Яраслаў з Ігарам* — стрыечныя браты. Яраслаў, сын Усевалада Ольгавіча, князь чарнігаўскі з 1180 г. Ігар, сын Святаслава Ольгавіча, з 1179 г. князь ноўгарад-северскі, галоўны герой славутага «Слова пра паход Ігаравы».

[18] *Святаслаў* — родны брат Яраслава Усеваладавіча, з 1164 г. княжыў у Чарнігаве, з 1180 г. — вялікі князь кіеўскі. Гэта ён гаворыць у паэме «залатое слова».

# *АПОВЕСЦЬ ПРА КНЯЗЁЎ МІНДОЎГА, ВОЙШАЛКА І ТРОЙДЗЕНЯ*

Гістарычныя запісы пра дзейнасць літоўска-беларускіх князёў другой паловы XIII ст., заснавальнікаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы, узяты з Галіцка-Валынскага летапісу, што захаваўся ў Іпацеўскім, украінскім летапісным зводзе канца XIII ст. Яны зберaглі каштоўныя звесткі пра палітычную гісторыю Літвы і Беларусі эпохі Сярэднявечча, хоць і асветленую з пункту гледжання інтарэсаў Галіцка-Валынскага княства, суперніка Вялікага Княства Літоўскага.

Гэты летапіс — неацэнная крыніца і ў гістарычнай геаграфіі сярэднявечнай Беларусі. З яго мы даведваемся, напрыклад, як называўся раней старажытны беларускі горад Навагрудак, цэнтр важных гістарычных падзей, што адбываліся тады ў Верхнім Панямонні. Беларуская народная назва гэтага горада, Наваградак, як пераканаўча сведчыць летапіс, узыходзіць да часоў князя Міндоўга.

Неабходна таксама адзначыць, што датаванне гістарычных падзей у Галіцка-Валынскім летапісе не ўсюды храналагічна дакладнае. Месцамі яно разыходзіцца з сапраўднасцю на два, тры і нават пяць гадоў. Прычына ў тым, што гэты летапісны помнік спачатку быў складзены як недатаваная гістарычная аповесць. Пазней жа, дзесьці ў XIV ст., першапачатковы тэкст падзялілі на пагадовыя артыкулы і часам адвольна, даволі прыблізна праставілі даты. Пераклад выбраных звестак з літоўска-беларускай гісторыі XIII ст. ажыццёўлены паводле тэксту Галіцка-Валынскага летапісу, апублікаванага ў кнізе «Памятники литературы Древней Руси. XIII век» (М., 1981).

[1] *Даніла* (1201—1264) *і Васілька* (1203—1271) — галіцка-валынскія князі, сыны Рамана Мсціславіча (1150—1205), які княжыў ва Уладзіміры-Валынскім і аб'яднаў Галіцкае і Валынскае княствы ў адну дзяржаву.

[2] *Здзітаў* — цяпер вёска Здзітава ў Бярозаўскім р-не Брэсцкай вобл.

[3] *Варута* — месцазнаходжанне гэтага горада дакладна невядома. М. Ермаловіч выказаў цікавае меркаванне, што гэтую назву (у арыгінале — Воруту) можна ў кантэксце чытаць і як «во Руту», і таму гэты горад трэба шукаць дзесьці на беразе рэчкі Руты, што працякае недалёка ад Наваградка.

[4] *Цвірамет* — горад у Жамойці.

[5] *Цягак* — палавецкі хан.

[6] *Бельск* — горад у Падляшшы, цяпер Бельск-Падляшскі ў Польшчы.

[7] *Турыйск* — горад на Нёмане, дакладнае месцазнаходжанне невядома.

[8] *Шварн* — сын Данілы Галіцкага, зяць Міндоўга. Пасля смерці бацькі стаў князем галіцкім, з 1267 г. — вялікі князь літоўскі. Памёр у 1269 г.

[9] *Святая гара, інакш Афон* — мясцовасць ва ўсходняй частцы Халкідонскага паўвострава, што ў Эгейскім моры, своеасаблівы цэнтр манаства праваслаўнага свету. Там вакол гары вышынёю ў 2 км размешчана каля 20 грэчаскіх, балгарскіх, рускіх мужчынскіх манастыроў, буйных асяродкаў царкоўна-рэлігійнага пісьменства і хрысціянскай культуры.

[10] *Угоршчына* — Венгрыя.

[11] *Семавіт, Земавіт* — мазавецкі князь.

[12] *Мельнік* — горад на Бузе ў Падляшшы.

[13] *Небль* — горад у Валынскай зямлі.

[14] *Холм* — горад у Валынскай зямлі, цяпер Хелм у Польшчы.

[15] *Доўмант* — князь нальшанскі, які пасля забойства Міндоўга ўцёк у Пскоў. Як князь пскоўскі ўчыняў паходы на Літву і Полацкую зямлю, паспяхова змагаўся з наступам на Русь крыжакоў. Пры хрышчэнні атрымаў другое імя Цімафей, у другі раз быў жанаты з дачкою Аляксандра Неўскага. Памёр у 1299 г. Яго дзейнасць служыла ўмацаванню палітычнай незалежнасці Пскова. Яму прысвечана «Аповесць пра Доўманта» — помнік пскоўскай літаратуры XIV ст.

[16] *Нальшаны* — зямля, размешчаная ў паўночна-заходняй частцы сучаснай Беларусі і паўночна-ўсходняй Літве.

[17] *Дзяволтва* — літоўская зямля па суседству з Нальшанамі.

[18] *Уграўск* — горад у Валынскай зямлі.

[19] *Антыёх Сірыйскі* — гэта Антыёх IV Епіфан, з дынастыі Селеўкідаў, быў царом Сірыі ў 175—164 гг. да н. э. Сваёй жорсткасцю выклікаў паўстанне іудзеяў у 167 г., у выніку чаго Палесціна вызвалілася ад сірыйскага прыгнёту.

[20] *Ірад Ерусалімскі* — цар Галілеі ў 37—4 гг. да н. э. У 37 г. з дапамогаю рымскіх войскаў узяў штурмам Ерусалім, за што рымскі сенат абвясціў Ірада царом Іудзеі. Быў жорсткім самаўладцам, не шкадаваў нікога, распраўляўся нават з блізкімі і роднымі. Паводле біблейскага падання, ён, каб знайсці і загубіць нованароджанага Ісуса Хрыста, загадаў знішчаць у Іудзеі ўсіх немаўлят мужчынскага полу.

[21] *Нерон* — рымскі імператар у 54—68 гг. Увайшоў у гісторыю як крывавы тыран, які праводзіў жорсткія рэпрэсіі ў краіне. Яго ахвярамі сталі родная маці, філосаф Сенека, пісьменнік Петроній, іншыя выдатныя і знатныя людзі. Скончыў жыццё самагубствам.

[22] *Дарагічын* — горад на р. Буг у Падляшшы.

[23] *Мсціслаў* — сын Данілы Галіцкага.

[24] *Сервеч, Сэрвач* — рака на Наваградчыне, што працякае ля Гарадзішча, Цырына, Карэлічаў і ўпадае ў Нёман.

[25] *Камень, Каменец* — цяпер горад Камянец Брэсцкай вобл.

[26] *Лесна, Лосна* — р. Лясная, правы прыток Буга.

## *ЛЕТАПІС ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ*

Першы агульнадзяржаўны летапісны звод, які быў складзены ў Вялікім Княстве Літоўска-Беларускім каля 1430 г., а пасля працягваўся да 1446 г. (Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г.), складаецца з дзвюх асноўных частак: запазычанай, агульнарускай, і арыгінальнай, беларуска-літоўскай. Апошняя таксама не мае цэласнага характару і змяшчае шэраг гістарычна-літаратурных твораў. Самы значны з іх «Летапіс (у арыгінале названы «Летапісцам») вялікіх князёў літоўскіх» — гістарычная аповесць пра Кейстута і Вітаўта, якая пісалася ў два этапы, але па невядомых прычынах засталася незавершанай. Княжанне Вітаўта абарвана ў гэтым летапісе на падзеях канца XIV ст. У 1430 г., калі складаўся першы беларуска-літоўскі летапісны звод, у Смаленску была напісана і «Пахвала Вітаўту», што стала своеасаблівым завяршэннем асноўнай часткі «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх». Пасля, у 30-я гады XV ст., гэты звод папоўніўся яшчэ «Аповесцю пра Падолле» і так званай Смаленскай хронікай, якія ў гэтым выданні змешчаны ў канцы «Летапісу» як яго арганічны працяг.

«Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» у першай рэдакцыі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. (Супрасльскі і Акадэмічны спісы) змешчаны пасля часткі, запазычанай з рускіх летапісаў, у другой жа рэдакцыі гэтага зводу (Слуцкі спіс) — на самым пачатку. Пасля, у XVI ст., гэты твор стаў ядром другога і трэцяга беларуска-літоўскіх летапісных зводаў, «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага» і «Хронікі Быхаўца», дзе быў дапоўнены і пашыраны іншымі звесткамі, гістарычнымі апавяданнямі і аповесцямі. «Летапіс» часам бытаваў і асобна ад Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. У прыватнасці, ім завяршаецца так званы Летапіс Аўрамкі. Трапіўшы ў XVI ст. у Расію, ён там неаднаразова перарабляўся і скарачаўся. Першапачатковая рэдакцыя «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх» у XV ст. была перакладзена на лацінскую мову («Origo regis Jagyelo et Wytholdi ducum Lithuanie»), якімсьці чынам стала вядомай польскаму гісторыку Яну Длугашу і паслужыла адной з крыніц яго шматтомнай «Гісторыі Польшчы».

«Летапіс» адкрыў і ўпершыню апублікаваў паводле тэксту Супрасльскага рукапісу 1519 г. Ігнат Даніловіч (час. «Дзеннік Віленьскі», 1823 г.). Поўны і дакладны пераклад гэтага твора на сучасную беларускую мову, які ўпершыню апублікаваны ў 1991 г. у часопісе «Спадчына» (№ 1—5) і змешчаны таксама ў гэтай кнізе, ажыццёўлены паводле зводнага тэксту найбольш даўніх яго спісаў — Супрасльскага, Віленскага і Слуцкага.

[1] *У вялікага князя літоўскага Гедыміна сем сыноў было...* — вялікі князь Гедымін нарадзіўся каля 1275 г., загінуў у 1341 г. у бітве з крыжакамі. Яго паходжанне дакладна невядома. Велікакняскі пасад заняў у 1316 г. пасля смерці свайго брата Віценя. Паводле гістарычнага

падання, Гедымін заснаваў Вільню, якую каля 1323 г. зрабіў сталіцаю Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Пры ім у склад Вялікага Княства ўвайшла асноўная частка беларускіх земляў разам з Падляшшам. Апрача сямі сыноў, меў яшчэ пяць дачок. Адна з іх, Марыя, была замужам за Дзімітрыем, князем цверскім, другая, Ганна, у 1325 г. стала жонкаю польскага караля Казіміра Вялікага, а трэцяя, Аўгуста, у 1333 г. выйшла замуж за маскоўскага князя Сімяона Гордага. Жонка Гедыміна, княгіня Еўна (Ева), палачанка паходжаннем, памерла каля 1345 г.

[2] *Мантывіду бацька даў Карачаў...* — як сведчаць іншыя крыніцы, Мантывіду (Монвіду, Манівіду) Гедымін даў у валоданне не Карачаў, што за Бранскам, а Кернаў (Кернава), што каля Вільні.

[3] *Ноўгарадок, Новагарадок* — Наваградак, у XIII ст. быў сталіцаю Вялікага Княства Літоўскага.

[4] *Сыноў жа было ў вялікага князя Альгерда 12, а ў вялікага князя Кейстута — шэсць.* — У князя Альгерда было 12 сыноў і восем дачок. Ад першай жонкі, Марыі віцебскай (памерла ў 1346 г.): Андрэй, Дзімітры, Канстанцін, Уладзімір, Фёдар і тры дачкі; ад другой, Улляны цверскай (памерла ў 1392 г.): Ягайла Уладзіслаў, Скіргайла Іван, Карыбут Дзімітры, Лінгвен (Лугвеній, Лугвен) Сямён, Карыгайла Казімір, Вігунт Аляксандар, Свідрыгайла Баляслаў і пяць дачок. Сыны Альгерда ад першай жонкі нарадзіліся на Беларусі, таму адразу былі хрышчаны па праваслаўным абрадзе і атрымалі славянскія імёны. Сыны ж ад Улляны нарадзіліся тады, калі Альгерд ужо быў вялікім князем у Вільні, у язычніцкай Літве, таму спачатку атрымалі літоўскія імёны. Пазней жа, пры хрышчэнні па каталіцкім або праваслаўным абрадзе, яны набылі другія, хрысціянскія імёны.

Кейстут жа, які быў фактычна другою асобаю ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве пасля вялікага князя Альгерда, паводле летапісу, меў шэсць сыноў: Паціргˈ (Патрыкей), Войдат, Бутаў, Вітаўт Аляксандар, Таўцівіл і Жыгімонт. Як мяркуюць некаторыя даследчыкі, у Кейстута быў яшчэ і сёмы сын — Вайшвіл. Было ў яго таксама чатыры дачкі: Марыя, Данута, якая выйшла замуж за Януша, князя мазавецкага, Ганна і Рынгала. Вядома таксама імя адной з дзвюх жонак Кейстута — Бірута.

[5] *Давыд* — радавод гэтага князя дакладна невядомы.

[6] *Астродскі комптур* — упраўляючы горада Астрода ў Прусіі, цяпер г. Аструда ў Ольштынскім ваяводстве, што ў Польшчы.

[7] *...і паехаў Ягайла з Крэва ў Віцебск.* — Выступленне Кейстута супраць Ягайлы і захоп ім Вільні адбыўся ў 1381 г.

[8] *Гануль (Ганс)* — немец з Рыгі, пры дапамозе якога Ягайла вярнуў сабе Вільню, служыў велікакняскім намеснікам у гэтым горадзе і быў, відаць, камендантам Віленскага замка.

[9] *Суражс, Камянец, Драгічын і Мельнік* — беларускія гарады на Падляшшы, уваходзілі з часоў Гедыміна ў склад Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

[10] *...канец стаўся князю вялікаму Кейстуту.* — Кейстут загінуў па волі Ягайлы ў 1382 г. Паводле «Хронікі Быхаўца», імя другога забойцы — брат Мосцер. Брат — тут у сэнсе член ордэна, крыжак. Іншыя крыніцы называюць яшчэ пятага ўдзельніка забойства Кейстута — Гедку-краўляніна, г. зн. жыхара Крэва.

[11] *Мар'інград, інакш Марыенбург* (цяпер горад Мальборк у Польшчы) — былая сталіца Тэўтонскага ордэна. На падтрымку яго вялікіх магістраў Конрада Цолнера (1382—1390) і Конрада Валенрода (1391—1393) абапіраўся тады князь Вітаўт у барацьбе з Ягайлам за велікакняскі пасад у Вільні.

[12] *Ядвіга* (1372—1399) — дачка не польскага караля Казіміра Вялікага, які памёр у 1370 г., а Людвіка, караля венгерскага і польскага (1370—1382). Паколькі ні ў яе бацькі, ні ў яго папярэдніка на польскім троне не было спадкаемцаў па мужчынскай лініі, яе ў 1384 г. каранавалі як польскую каралеву, а праз два гады выдалі замуж без яе асабістага жадання за Ягайлу, які ў выніку Крэўскай уніі 1385 г. стаў на пачатку 1386 г. каралём Польшчы. Памерла бяздзетнай.

[13] *Андрэй Полацкі* (1325—1399) — старэйшы сын Альгерда і Марыі, княгіні віцебскай. Ваяваў з крыжакамі, татарамі і Ягайлам. У 1377 г. уцёк у Пскоў і заключыў саюз з маскоўскім князем Дзімітрыем Іванавічам, з атрадам пскоўскіх і полацкіх воінаў удзельнічаў у Кулікоўскай бітве (1380 г.). Вярнуўшыся ў Полацк, зноў выступіў супраць Ягайлы ў саюзе са Святаславам Смаленскім. У 1386 г. у бітве пад Мсціславам быў разбіты і палонены. Сядзеў у адным з польскіх замкаў, адкуль у 1393 г. уцёк і перайшоў на бок Вітаўта. Загінуў у 1399 г. у бітве з татарамі на р. Ворскле.

[14] *Святаслаў Смаленскі* (1359—1386) — вялікі князь, нашчадак мясцовай дынастыі Расціславічаў. Змагаючыся за захаванне палітычнай незалежнасці Смаленскага княства, вымушаны быў лавіраваць паміж больш моцнымі суседзямі, Беларуска-Літоўскай і Маскоўскай дзяржавамі. У 1370 г. удзельнічаў у паходзе Альгерда на Маскву. Загінуў у 1386 г. у бітве пад Мсціславам.

[15] *Антыёх Сірыйскі* — гл. каментарый да «Аповесці пра князёў Міндоўга, Войшалка і Тройдзеня».

[16] *Юльян* — рымскі імператар (361—363), выступаў супраць хрысціянства, праследаваў хрысціян, імкнуўся адрадзіць язычніцтва, за што быў празваны Адступнікам.

[17] *Таго ж лета да вялікага князя Вітаўта ў Прусію...* — Соф'я Вітаўтава выдадзена замуж за маскоўскага князя Васіля Дзімітравіча ў 1390 г.

[18] *Кіпрыян* — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі (1390—1406), балгарын родам. Да пераезду ў Маскву ў 1390 г. на працягу пятнаццаці гадоў (з 1375 г.) быў мітрапалітам у Вялікім Княстве Літоўска-Беларускім, жыў у Кіеве, Вільні і Наваградку, дзе былі мітрапалітавы два-

ры. Праводзіў кампрамісную, міратворчую палітыку, імкнуўся суцішыць канфрантацыю супернікаў, вялікіх князёў маскоўскіх і літоўска-беларускіх.

[19] *Карыбут Дзімітры* — сын Альгерда ад другой жонкі, Ульяны, князь Ноўгарада-Северскага. Яго часам блытаюць з іншым Дзімітрыем, Альгердавым сынам ад першай жонкі Марыі.

Большасць даследчыкаў схіляецца да высновы, што Ноўгарадак, у якім Вітаўт паланіў Карыбута, гэта Ноўгарад-Северскі, а не беларускі Наваградак.

[20] *Скіргайла Іван* (1354—1397) — родны брат Ягайлы, падтрымліваў апошняга ў барацьбе з Вітаўтам. У 1388—1392 гг. быў намеснікам Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўска-Беларускім. У 1395 г. Вітаўт перавёў яго ў Кіеў, дзе ў студзені 1397 г. ён памёр пры загадкавых абставінах. Хрышчаны па праваслаўным абрадзе, застаўся яму верны да самай смерці, відаць, таму заслужыў ад беларускага летапісца такія прачулыя словы: «цудоўны і добры».

[21] *Феадосій Пячорскі* — ігумен, старажытнарускі царкоўна-палітычны дзеяч і пісьменнік XI ст., адзін з заснавальнікаў Кіева-Пячорскага манастыра. Памёр у 1074 г.

[22] *Паланы* — відаць, гэта горад на Украіне, які сёння называецца Палоннае.

[23] *...прыехаў князь вялікі Васіль Дзімітравіч... да вялікага князя Вітаўта...* — сустрэча Вітаўта з маскоўскім князем Васілём Дзімітравічам у Смаленску адбылася ў 1396 г.

[24] *...пабіў татараў на Сіняй Вадзе...* — бітва літоўска-беларускіх войскаў пад кіраўніцтвам вялікага князя Альгерда з татарамі на р. Сіняя Вада (цяпер р. Сінюха, левы прыток Паўднёвага Буга), у выніку чаго Украіна была вызвалена ад татара-мангольскага прыгнёту, адбылася ў 1363 г.

[25] *І былі ў яго чатыры сыны...* — перадапошні сын Гедыміна Карыят, у хрышчэнні Міхаіл, князь наваградскі, нарадзіўся дзесьці ў пачатку XIV ст., памёр каля 1366 г. Ён меў, як сведчаць іншыя крыніцы, не чатырох, а значна больш сыноў. У прыватнасці, Карыятавічам быў і Дзімітрый Баброк-Валынскі, які перайшоў на службу да маскоўскага князя, стаў ваяводам і адыграў выдатную ролю ў Кулікоўскай бітве. Гэта пра яго і Андрэя Полацкага аўтар «Задоншчыны», наследуючы «Слову пра паход Ігаравы», узнёсла пісаў: «Яны — воіны харобрыя і слаўныя палкаводцы, пад гукі труб спавіваныя, пад шаломамі ўзгадаваныя, з канца кап'я ўскормленыя, з вострага мяча ўспоеныя ў Літоўскай зямлі».

[26] *...і ўсёй Падольскаю зямлёю завалодалі.* — Літоўска-беларускія князі Карыятавічы прыбылі ў Падольскую зямлю ў сярэдзіне XIV ст. Падолле — украінская зямля, размешчаная паміж верхнім цячэннем Паўднёвага Буга і Днястром.

[27] *Пан Спытка* — Спытка з Мельштына ў 80-я гады XIV ст. займаў пасаду ваяводы, а з 1390 г. старасты кракаўскага. Быў актыўным

прыхільнікам шлюбу польскай каралевы Ядвігі з Ягайлам. Заходняй часткаю Падольскай зямлі ён валодаў у 1396—1399 гг.

[28] *...біўся з татарамі на Ворскле...* — бітва з татарамі на р. Ворскле адбылася ў 1399 г. і скончылася паражэннем літоўска-беларускіх войскаў.

[29] *...у Падольскай зямлі трымаюць.* — Заходняе Падолле, што было ў 1396 г. аддадзена Ягайлу, у пачатку XV ст. Вітаўт вярнуў сабе. Аднак пасля яго смерці ў канцы 1430 г. палякі захапілі гэтую памежную зямлю, што ўзмацніла ваенна-палітычнае напружанне паміж дзвюма дзяржавамі. Як сведчыць «Хроніка Быхаўца», Свідрыгайла, які пасля Вітаўта заняў віленскі велікакняскі пасад, з-за Падолля нават адзін час паланіў быў караля Ягайлу, які прыехаў у Літву на паляванне. Граматамі ад 1432 і 1434 гг. князь Жыгімонт Кейстутавіч аддаў заходняе Падолле Польшчы, а ў 1435 г. юрыдычна замацаваў за ёю ўсю Падольскую зямлю, што выклікала моцную незадаволенасць патрыётаў Вялікага Княства. Напэўна, дзесьці ў гэты час у асяроддзі патрыятычна настроенай літоўска-беларускай шляхты і ўзнікла «Аповесць пра Падольскую зямлю», якая з'яўляецца арганічным працягам «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх». Барацьба Беларуска-Літоўскай дзяржавы з Польшчаю за Падолле практычна вялася да самай Люблінскай уніі.

[30] *«Пахвала вялікаму князю Вітаўту».* — Звесткі, якія падаюцца ў «Пахвале», у цэлым адпавядаюць гістарычнай сапраўднасці. Нягледзячы на паражэнне на Ворскле, пасля Грунвальдскай перамогі 1410 г. палітычны ўплыў гэтага князя на Русі і, асабліва, у Ардзе настолькі ўзмацніўся, што ён нярэдка саджаў на залатаардынскі трон сваіх стаўленікаў. Згаданыя ў «Пахвале Вітаўту» татарскія ханы валадарылі ў Ардзе ў другім і трэцім дзесяцігоддзях XV ст. Апошні з названых, Махмет, — гэта Улуг-Мухамед, які цараваў у 20-я гг. У 1423 г. яго перамог хан Барак, аднак праз год пры падтрымцы Вітаўта ён зноў вярнуўся на залатаардынскі трон.

Гэты твор узнік каля 1430 г. у Смаленску ў асяроддзі мясцовага праваслаўнага епіскапа Герасіма, гарачага прыхільніка аб'яднаўчай палітыкі Вітаўта, і захаваўся ў чатырох рэдакцыях у складзе розных летапісных зводаў і гістарычных зборнікаў. Змешчаны тут тэкст — другая летапісная рэдакцыя (1430 г.) «Пахвалы Вітаўту».

[31] *Князь вялікі Вітаўт... не ўсклаў на сябе карону...* — каранацыйны з'езд, на які былі запрошаны такія высокія госці, адбываўся летам 1430 г. у Вільні. Для Вітаўта і яго жонкі ў Германіі загадзя заказалі дзве кароны, якія потым пасвяціў рымскі папа. У Рым накіравалі спецыяльнае пасольства. Аднак польскія феадалы, баючыся, што з наданнем Беларуска-Літоўскай дзяржаве статусу каралеўства яна стане зусім незалежнаю ад Польшчы, цалкам суверэннаю краінаю, зрабілі ўсё магчымае, каб сарваць гэтую гістарычную акцыю.

[32] *...памёр вялікі Вітаўт 23 кастрычніка...* — дата смерці князя Вітаўта пададзена недакладна: трэба — 27 кастрычніка.

[33] *Свідрыгайла Леў Баляслаў* (каля 1370—1452) — малодшы сын Альгерда ад другой жонкі, Улляны цверскай. Спачатку валодаў Полацкам, пасля захапіў Віцебск, адкуль у 1393 г. яго выгнаў Вітаўт. Атрымаў Падолле, але прэтэндаваў на большае. У 1408 г. Свідрыгайла ўцёк да маскоўскага князя, які даў яму Уладзімір і іншыя гарады. Калі ў 1409 г. вярнуўся на радзіму, быў зняволены і 9 гадоў адседзеў у Крамянецкім замку, адкуль вызвалілі яго прыхільнікі. Уцёк у Венгрыю. Пасля паміраўся з Вітаўтам і Ягайлам і атрымаў Бранск з Ноўгарадам-Северскім. Пасля смерці Вітаўта заняў велікакняскі пасад у Вільні. Праводзіў незалежную, антыпольскую палітыку, абапіраўся на беларуска-ўкраінскае рыцарства, на Русь. Гэта выклікала незадавальненне польскіх і літоўскіх феадалаў, якія выкарысталі ў барацьбе брата Вітаўта — Жыгімонта і скінулі Свідрыгайлу. Пасля паражэння ў 1435 г. ён уцёк у Малдавію. Вярнуўся на радзіму толькі пасля забойства ў 1440 г. вялікага князя Жыгімонта. У канцы жыцця Свідрыгайла валодаў Валынню і Падоллем.

[34] *Герасім* — быў спачатку епіскапам ва Уладзіміры-Валынскім, каля 1426 г., пераведзены ў Смаленск. Менавіта пры ім у асяроддзі смаленскага духавенства, прыхільнага да Вітаўта, у 1430 г. быў складзены «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» і першы агульнадзяржаўны беларуска-літоўскі летапісны звод, што захаваўся ў Беларуска-літоўскім летапісе 1446 г. Пасля смерці ў жніўні 1431 г. мітрапаліта ўсяе Русі Фоція Свідрыгайла паслаў Герасіма ў Канстанцінопаль да патрыярха для пасвячэння ў мітрапаліты. Стаўшы ў 1432 г. мітрапалітам, ён абраў сталіцай агульнарускай мітраполіі Смаленск. Захаваліся гістарычныя дакументы, якія сведчаць аб сувязях Свідрыгайлы і Герасіма з Рымам, аб іх прыхільным стаўленні да уніі хрысціянскіх цэркваў. Адчуваючы няпэўнасць становішча Свідрыгайлы, мітрапаліт у 1435 г. пачаў схіляцца на бок Жыгімонта Кейстутавіча, за што паводле загаду першага быў спалены ў Віцебску.

[35] *Жыгімонт Кейстутавіч* — дробны старадубскі князь, які пры жыцці Вітаўта не адыгрываў прыкметнай ролі ў палітычным жыцці Княства. Узнесены па волі лёсу на велікакняскі пасад, праводзіў прапольскую палітыку, аддаў Польшчы Падолле. Перамог Свідрыгайлу ў грамадзянскай вайне ў значнай меры дзякуючы кампрамісу з праваслаўнымі русінамі (беларусамі і ўкраінцамі), якіх актамі 1432 і 1434 г. ураўняў у правах з літоўцамі-каталікамі і гэтым перацягнуў на свой бок частку беларуска-ўкраінскай шляхты. Жорстка ставіўся да сваіх падначаленых. Быў забіты ў Троцкім замку ў выніку змовы, кіраўніком якой быў князь Іван Чартарыйскі.

[36] *...і баяры пасадзілі яго на вялікае княжание рускае.* — Гэтае сцверджанне летапісца недвухсэнсоўна гаворыць, што грамадзянская вайна, якая пачалася ў Вялікім Княстве Літоўска-Беларускім неўзабаве пасля смерці Вітаўта, была не проста дынастычнай барацьбой за ўладу розных палітычных груповак, але мела выразную нацыянальна-рэлігійную афарбоўку.

[37] *Пётр Мантыгірдавіч (Пятраш)* — у 20-я гады XV ст. пры Вітаўце быў маршалкам дворным, адзін час валодаў Падоллем, пасля, у 30—40-я гады, маршалак земскі, адначасова ў 1431—1452 гг. выконваў абавязкі наваградскага намесніка. Займаючы пасаду земскага маршалка, г. зн. міністра ўнутраных спраў Княства, часам узначальваў войска вялікага князя.

[38] *Капачы* — вёска каля Маладзечна.

[39] *...шмат бяды нарабіўшы Літоўскай зямлі.* — Як сведчаць беларускія летапісы XV—XVI стст., заходняя частка сучаснай Беларусі разам з Менскам называлася тады Літвою, а ўсходняя — Руссю.

[40] *Вількамір* — горад у этнічнай Літве, цяпер — Укмерге.

[41] *Міхайла, Міхайлушка* (каля 1390—1452) — сын Жыгімонта Кейстутавіча. У 1392—1398 гг. разам з бацькам быў вязнем Ордэна як заложнік Вітаўта. Дапамагаў Жыгімонту ў час грамадзянскай вайны. Пасля перамогі атрымаў Слуцк, Слонім і частку Падляшша і паводзіў сябе як законны пераемнік бацькі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве, хоць, паводле акта 1432 г., улада ў Княстве павінна была перайсці да Ягелонаў. Пасля забойства Жыгімонта адна частка літоўска-беларускай шляхты хацела бачыць на вялікакняскім пасадзе ў Вільні яго сына, другая — Свідрыгайлу, аднак вялікім князем стаў сын Ягайлы Казімір. З ім увесь час варагаваў Міхайлушка. Нарэшце ў 1450 г. ён уцёк у Маскву, дзе быў зняволены, а праз два гады атручаны.

[42] *Рукушане, ракушане* — адна з гістарычных назваў ўграў, венграў.

[43] *У год 1430... пачаў княжыць... Жыгімонт на вялікім княжанні літоўскім і рускім.* — Аповесць пра грамадзянскую вайну, якая датавана 1430 г. і часам называецца таксама Смаленскай хронікай, у Беларуска-Літоўскім летапісе 1446 г. змешчана ў іншым месцы, перад «Летапісам вялікіх князёў літоўскіх». Аднак тут мы падаём яе ў канцы, бо яна храналагічна працягвае папярэдняе гістарычнае апавяданне. Гэты твор, найбольш верагодна, напісаны таксама ў Смаленску ў асяроддзі прыхільнікаў Кейстутавічаў. Часам яго складання, можна лічыць 1436 г., калі Жыгімонт канчаткова перамог Свідрыгайлу і замацаваўся на вялікакняскім пасадзе ў Вільні.

## *ХРОНІКА БЫХАЎЦА*

Летапіс быў адкрыты ў 1830-я гады Іпалітам Клімашэўскім у бібліятэцы Аляксандра Быхаўца (па ягоным прозвішчы гэты літаратурны помнік і быў пазней названы) у маёнтку Магілёўцы Ваўкавыскага павета. Упершыню апублікаваў «Хроніку» Тэадор Нарбут у 1846 годзе.

Рукапіс быў пашкоджаны, у ім адсутнічалі не толькі пачатак і канец, але і паасобныя аркушы ўсярэдзіне. Каб даць магчымасць

чытачам уявіць твор у цэласці, прыйшлося адпаведныя прапушчаныя месцы перакласці з іншых крыніц. У адрозненне ад большасці іншых летапісаў «Хроніка» не была падзеленая на раздзелы. Для зручнасці чытача перакладчык зрабіў такі падзел і даў назвы раздзелам, беручы за аснову іншыя летапісы.

Пераклад на сучасную беларускую мову зроблены з выдання: «Полное собрание русских летописей». (Т. 32. М., 1975).

[1] *«У год ад Божага нараджэння... якія»* — у арыгінале «Хронікі Быхаўца» адсутнічае пачатак. Прапушчаны ўрывак перакладзены з адпаведнага месца ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага.

[2] *Атыла* — правадыр гунаў, ваяўнічага плямені качэўнікаў, якія ў V ст. засялялі абшар Паноніі, сучаснай Венгрыі (Вугоршчыны).

[3] *...ад ракі Югры...* — тут адлюстроўваецца венгерская гістарычная традыцыя ў адносінах гунаў як продкаў вуграў і іх паходжання з паўночна-ўсходняга Урала. Менавіта там і можа лакалізавацца р. Югра. Нам уяўляецца паказальнаю сама сугучнасць назваў «вугры» (угры) і «Югра».

[4] *Юр, ці Юра* — верагодна, варыянт назвы р. Югры.

[5] *Івака-цар* — даследчыкі бачаць пад гэтым імем розных асобаў: адны — хана сібірскіх татараў Ібрагім-Івака або Ібака (2-я пал. XV ст.), другія — маскоўскага цара Івана Жахлівага.

[6] *Будзынь* — маецца на ўвазе Буда, правабярэжная частка сучаснага Будапешта

[7]*Аквілея* — рымская крэпасць непадалёку Трыеста.

[8]*Марцыян* — рымскі імператар (450—457).

[9] *Валоская зямля* — тут: Італія. У іншых месцах звычайна Малдова.

[10] *Палемон* — у арыгінале Апалон, але далей Палемон. Род Палемонаў вядомы з I ст. да н. э.

[11] *...з герба Кітаўраса...* — у рымлянаў гербаў не было, яны з'явіліся толькі ў Сярэднявеччы. Кітаўрас — кентаўр (чалавекаконь).

[12] *...з герба Урсінаў...* — магчыма, ад лац. ursus (мядзведзь). Ёсць верагоднасць, што гэтае найменне звязана з назваю сярэднявечнага італійскага роду князёў Орсынаў.

[13] *..морам-акіянам...* — Балтыйскае мора.

[14] *Малое мора* — Куршская затока.

[15] *Рэкі Дубіса, Юра* — правыя прытокі Нёмана ў цэнтральнай і заходняй Літве.

[16] *Жамойцкая зямля, Жамойць, Жмудзь (літ. Žemaitija)* — паўночна-заходняя частка Літвы. Другая складовая частка Літвы, паўднёва-ўсходняя, — Аўкштота (літ. Aukštaitija). Да гістарычна позніх часоў жамойты (жмудзіны) і аўкштайты развіваліся асобна і толькі ў XVIII—XIX стст. пачалі кансалідавацца ў адзіны народ. Жамойты і да сённяшняга дня захавалі моўную і этнаграфічную адметнасць.

[17] *Юрборк (літ. Jurbarkas)* — горад у заходняй Літве.

[18] *Рака Нявежа (літ. Nevėžis)* — правы прыток Нёмана ў Літве.

[19] *Кунасаў горад, Кунаў* — г. Коўна (літ. Kaunas).

[20] *Рака Святая (літ. Šventoji upe)* — правы прыток Вяллі (гл. ніжэй).

[21] *Рака Шырвінта* — левы прыток р. Святой.

[22] *Вілкамір* — горад ва ўсходняй Літве, стаіць на р. Святой.

[23] *...паставілі балвана...* — слова «балван» ужыта ў пачатковым значэнні: ідал, разьбяная выява божышча.

[24] *Рака Вялля (літ. Neris)* — правы прыток Нёмана, упадае ў яго ў Коўне, цячэ праз Вільню. У «Хроніцы Быхаўца» назва ўжыта ў беларускай форме. У польскай мове выкарыстоўваецца лацінізаваны варыянт — Вілія (Wilia).

[25] *Завельская зямля* — абшар за Вяллёю, г. зн. на поўнач ад Вяллі.

[26] *Кернаў (літ. Kernave)* — зараз мястэчка ў Шырвінцкім р-не па правы бераг Вяллі (паўднёва-ўсходняя Літва).

[27] *...да мяжсы латыгольскае...* — Латыголь (латыгола, латгалы) — балцкае племя, што жыло на паўднёвым усходзе сучаснай Латвіі ды на сумежных землях паўночнае Беларусі. Латгалы ўдзельнічалі ў этнагенезе беларусаў і часткова абеларусіліся. Астатняя частка ўвайшла ў склад латышоў, але пры гэтым захавала шмат уласных моўных, этнаграфічных і канфесійных рысаў (сярод іх багата як каталікоў, так і праваслаўных, у адрозненне ад іншых латышоў, большасць з якіх — пратэстанты).

[28] *...гралі на трубах дубасных...* — незразумела; дубас — вялікая лодка.

[29] *...пачалі называць проста Літвою.* — Тут падаецца легендарная гісторыя ўзнікнення назвы Літва.

[30] *Русь* — «Руссю» летапісец называе землі, заселеныя праваслаўнымі. У тым, што гэта не этнонім, а канфесонім (г. зн. назва, якая ўказвае не на этнічнае паходжанне, а на рэлігійную, канфесійную прыналежнасць), мы пераканаемся ніжэй.

[31] *Ліфлянты (Лівонія)* — тэрыторыя ў вусці Дзвіны (Даўгавы) і прылеглыя да яе абшары, пачаткова заселеныя лівамі (вугра-фінскае племя). У XIII ст. тут з'яўляюцца нямецкія рыцары-манахі і ўзнікае Лівонскі рыцарскі ордэн, падпарадкаваны Тэўтонскаму ордэну.

[32] *Цар Батый* — мангола-татарскі хан (1236—1243).

[33] *Друцк* — горад у паўночна-ўсходняй Беларусі. Быў буйным палітычным, культурным і гандлёвым цэнтрам, заняпаў у XV ці XVI ст., пазней не аднаўляўся. Цяпер вёска ў Талачынскім р-не.

[34] *Горадзень (Горадзен)* — г. Горадня.

[35] *Берасцец* — магчыма, Берасце. У арыгінале — Берасцец.

[36] *Дарагічын, Мельнік* — зараз мястэчкі на поўдні Беласточчыны.

[37] *...астравы ў пушчы.* — Месцы, не занятыя лесам.

[38] *Эйкшышкі, Эйшышкі (літ. Eišiškes)* — цяпер мястэчка ў Салечніцкім р-не (Салечнікі — літ. Šalčininkai) у паўднёва-ўсходняй Літве.

[39] *Граўжсышкі* — вёска ў Ашмянскім р-не.

[40] *...званаму Горадзень...* — тут, верагодна, маецца на ўвазе Гарадзец. Ці захаваўся ён да нашых часоў і пад якою назваю — невядома.

[41] *...ахрысціўся ў рускую веру...* — у праваслаўе. Як бачым, слова «рускі» ўказвала не на этнас, а на рэлігію.

[42] *Русін* — тут: праваслаўны.

[43] *Бельчыца (Бельчыцы)* — рэзідэнцыя полацкіх князёў. Цяпер у межах Полацка.

[44] *...і ў звон званіць...* — напэўна, мецъ права склікаць веча.

[45] *Заволжскі цар Балаклай...* — магчыма, маецца на ўвазе хан Бала.

[46] *Старадуб, Карачоў* — цяпер гарады ў Бранскай вобл.

[47] *Магільна* — мястэчка ва Уздзенскім р-не.

[48] *Яцвягі* — балцкае племя, якое было на тэрыторыі сучаснай Заходняй Беларусі і паўночна-ўсходняй Польшчы. У XVII ст. перасталі існаваць як этнас, часткова знішчаныя, часткова асіміляваныя (пераважна беларусамі). Паводле дадзеных Цэнтральнага статыстычнага камітэта Расіі ў 1857 г. у Гарадзенскай губерні больш за 30 тысяч чалавек назвалі сябе яцвягамі.

[49] *Полаўцы* — цюркскае племя, засяляла Паўночнае Прычарнамор'е.

[50] *...і ўвайшоў у горад Руту* (у арыгінале: *по wynide wo hrad imenem Boruta*; у іншых летапісах: *вънідевоградъвороутоу*). — Да апошняга часу гэтае месца прачытвалася як: увайшоў у горад Баруту (Варуту). Літоўскія навукоўцы лічылі, што гэты горад знаходзіцца недзе ў Анікшчайскім р-не (усходняя Літва), цяпер большасць з іх схіляецца да гіпотэзы, выказанай К. Бугам, паводле якой Варута — гэта Вільня. М. Ермаловіч прапанаваў сваю канцэпцыю. Зыходзячы з таго, што ў старажытных тэкстах словы (у тым ліку і ўласныя імёны) не аддзяляліся адно ад аднаго, напісанне *въроутоу* можна разглядаць не як адно слова, але як назоўнік з прыназоўнікам: *въ роутоу*, тым больш паўтарэнне прыназоўнікаў перад кожнай часткай словазлучэння надзвычай частая з'ява для тагачаснай мовы (у лесе ў цёмным). Такім чынам, трэба чытаць: *«у горад у Руту»* або *«у горад Руту»*.

[51] *Холм (польск. Chełm)* — цяпер горад у Люблінскім ваяводстве Польшчы.

[52] *Галіч* — горад у Івана-Франкоўскай вобл. (Заходняя Украіна).

[53] *Паланіна* — горны хрыбет ва Усходніх Карпатах.

[54] *Святая гара (Вострая гара)* — гара Афон у Грэцыі.

[55] *« — сабе манастыр... пачаў княжыць Транята».* — У арыгінале адсутнічае ліст, адпаведнае месца перакладзена з Іпацеўскага летапісу (Полное собрание русских летописей. Т. II. С. 859—861).

[56] *...нальшчанскім князем...* — Нальшчаны (Нальша, Нальшаны, Нальшчанская зямля) — землі на поўдзень і паўднёвы ўсход ад Вільні.

[57] *Угорск (польск. Uhrowsk, Uhrusk)* — цяпер чыгуначная станцыя ў Люблінскім ваяводстве.

[58] *Уладзімір* — горад Уладзімір-Валынскі ў Валынскай вобл.

[59] *Святая нядзеля* — Вялікдзень.

[60] *«Швінтарог пачаў княжыць... празванае Швінтарог»* — пропуск у тэксце, перакладзены з Пазнаньскага летапісу.

[61] *Уцена (літ. Utena)* — горад ва ўсходняй Літве.

[62] *Раканцішкі (літ. Rokantiškes)* — мясціна па дарозе з Вільні ў Новую Вялейку (*літ. Naujoji Vilnia*), зараз у межах Вільні.

[63] *Карабель* — цяпер ручай у Ашмянскім р-не.

[64] *Бобра (польск. Biebrza)* — рака на Беласточчыне (левы прыток Нарвы).

[65] *Райгарад (польск. Rajgród)* — горад на поўначы Беласточчыны.

[66] *...князем... дайноўскім...* — Дайнава (Дайнова), назва балцкага племені і заселенай ім тэрыторыі. Мяркуючы па тапаніміцы, Дайнава знаходзілася на тэрыторыі сучасных Ашмянскага, Іўеўскага і Воранаўскага р-наў Беларусі і Салечніцкага р-на Літвы.

[67] *Антыёх* — Антыёх IV Епіфан, сірыйскі валадар (175—164 г. да н. э.). *Ірад* — Ірад Вялікі (каля 73—4 г. да н. э.), валадар Іудзеі (40—4 г. да н. э.), біблейская постаць. *Нерон* — рымскі імператар (54—68 г. н. э.). Усе тры вядомыя сваёй выключнай жорсткасцю.

[68] *Віцень* — вялікі князь літоўскі (каля 1295—1316), першы гістарычна вядомы прадстаўнік дынастыі Гедымінавічаў.

[69] *Айрагола (літ. Ariogala)* — мястэчка ў Расяйняйскім р-не (заходняя Літва).

[70] *...І нарадзіўся ад яго сын іменем Гедымін.* — Гедымін (1275 — 1341), вялікі князь літоўскі (1316—1341). Заснавальнік дынастыі Гедымінавічаў. Гедымін быў не сынам, а братам Віценя.

[71] *Прусы* — пачаткова назва балцкага племені, якое жыло на тэрыторыі ад вусця р. Віслы да вусця р. Нёмана. У XIII ст. гэтыя землі былі захопленыя Тэўтонскім ордэнам. Прусамі пачалі называцца самі рыцары-тэўтонцы. Уласна прусы былі часткова знішчаныя, часткова асіміляваныя.

[72] *...на рацэ Атмене... за дзве мілі ад Жэймаў...* — Жэймы (*літ. Žeimiai*) — мястэчка ў Ёнаўскім р-не (цэнтральная Літва). Побач з Жэймамі ракі Атмены няма, але ёсць вёска з такою назваю.

[73] *Тыльжа (літ. Tilže, ням. Tilsit)* — цяперашні г. Савецк Калінінградскай вобл.

[74] *Рагнета (літ. Ragaine)* — горад паблізу Тыльжы, зараз г. Нёман.

[75] *Оўруч* — горад у Жытомірскай вобл.

[76] *...з князем пераяслаўскім...* — Пераяслаў — г. Пераяслаў-Хмяльніцкі (Кіеўская вобласць).

[77] *Рпень* — р. Ірпінь у Жытомірскай і Кіеўскай абласцях, правы прыток Дняпра.

[78] *Белгарад* — горад у Кіеўскай вобл.

[79] *Вышгарад* — прадмесце Кіева.

[80] *Чаркасы, Канеў* — горады на Украіне.

[81] *Пуціўль* — горад у Сумскай вобл. (паўночна-ўсходняя Украіна).

[82] *Слепаўрод (Слепарод)* — які горад маецца на ўвазе, невядома.

[83] *...стаіць вялікі жалезны воўк...* — тут падаецца легендарная гісторыя ўзнікнення Вільні. Верагодна, гэтая легенда мусіла падкрэсліць сувязь Вялікага Княства Літоўскага, як і літоўскае шляхты, з Рымам. Як вядома, Рым заснаваў Ромул, узгадаваны ваўчыцаю.

[84] *Уладзіслаў Лакетка* (1260—1333) — польскі кароль (1320—1333) з дынастыі Пястаў.

[85] *...у год ад Божага нараджэння 1323...* — памылка, ажэнства Казіміра з Ганнаю адбылося 16 кастрычніка 1325 г.

[86] *Палонка (літ. Palanga)* — горад на балтыйскім узбярэжжы на поўнач ад Клайпеды.

[87] *Сінія Воды, Сінюха* — левы прыток Паўднёвага Буга (цэнтральная Украіна).

[88] *Падольская зямля, Падолле (укр. Поділля)* — гістарычная назва рэгіёна, што ахоплівае сучасныя Тэрнопальскую, Хмяльніцкую ды Вінніцкую вобл.

[89] *Смотрыч* — назва ракі (левы прыток Днястра) і горада ў Хмяльніцкай вобл.

[90] *Бакота* — горад на Падоллі каля Днястра.

[91] *Камянец* — г. Камянец-Падольскі ў Хмяльніцкай вобл.

[92] *Казімір Лакетка* — польскі кароль Казімір III Вялікі (1333—1370).

[93] *...адна толькі дачка...* — у сапраўднасці Казімір III меў трох дачок.

[94] *Брацлаў* — горад на Паўднёвым Бугу ў Вінніцкай вобл.

[95] *Саколец* — горад у Хмяльніцкай вобл.

[96] *Скала* — паселішча Скала-Падольская ў Хмяльніцкай вобл.

[97] *Чырванаград* — горад у Львоўскай вобл.

[98] *Гаштольт Гаштольтавіч* — далей Пётр Гаштольт.

[99] *Вінкер (літ. Vingris)* — ручай у цэнтры Вільні, які пачынаўся ў раёне вул. Завальнай і працякаў непадалёку Катэдральнага пляца.

[100] *Дзімітры Іванавіч* — вялікі князь маскоўскі Дзімітры Іванавіч Данскі (1351—1389).

[101] *Паклонная гара* — навокал Масквы было сем гор, якія называліся Паклоннымі.

[102] *Мажайск, Каломна* — гарады прыкладна за 100 км на захад і паўднёвы ўсход (адпаведна) ад Масквы.

[103] *...і цяпер стаіць Божая мука...* — укрыжаваны Ісус Хрыстос. На найвышэйшай гары ў Вільні непадалёку ад замчышча стаіць помнік забітым францішканам — «Тры крыжы».

[104] *Трубчэўск* — горад у Бранскай вобл.

[105] *Чартарыйск, Любомль* — гарады на Валыні.

[106] Сыны Альгерда названы недакладна. Гл. заўвагу 4 на с. 399.

[107] *...Лебестын, астродскі комтур...* — Астрода (*ням. Ostrode, польск. Ostróda*) — замак тэўтонцаў, цяпер горад у Быдгошчскім ваяводстве (паўночная Польшча).

[108] *Ноўгарад-Северскі* — горад у Чарнігаўскай вобл.

[109] *...Ганулеву дворцю...* — Гануль (Ганс) — віленскі намеснік у 1382—1387 гг.

[110] *Сураж* — горад на Беласточчыне.

[111] *Марыінгорад (ням. Marienburg, польск. Malbork)* — сталіца Тэўтонскага ордэна. Цяпер горад у Гданьскім ваяводстве (паўночная Польшча).

[112] *Мазоўша* — гістарычная назва паўднёва-ўсходняй часткі Польшчы.

[113] *Завіхвост, Вісліца, Апатаў* — гарады ў Келецкім ваяводстве (паўднёва-ўсходняя Польшча).

[114] *...заехалі да таго крыжа, на гару.* — Гаворка ідзе пра Лысую гару непадалёку Апатава.

[115] *...дрэва святога крыжа...* — на Лысай гары быў бенедыкцінскі кляштар і касцёл, дзе знаходзілася вядомая рэліквія — крыж з уштукаваным у яго кавалкам крыжа, на якім быў распяты Хрыстос.

[116] *Ядвіга* — у сапраўднасці дачка не Казіміра, а Людвіка Вялікага Анжуйскага, вугорскага караля (1342—1382), які пасля смерці Казіміра заняў яго месца (1370—1382).

[117] *...узялі сабе паморскага княжыча Фрыдрыха...* — у сапраўднасці Ядвіга была заручаная з сынам аўстрыйскага князя Леапольда III — Вільгельмам, а Фрыдрых, сын брандэнбургскага князя Гогенцолерна, ажаніўся з іншаю Ядвігай, Ягайлавай дачкой. *Паморскі* — ад Памор'е; гістарычная назва паўднёвага ўзбярэжжа Балтыкі.

[118] *«адшукаў сярод трупаў... Князь жа вялікі Скіргайла»* — у арыгінале пропуск, перакладзены паводле Акадэмічнага і Віленскага летапісаў.

[119] *Шашкіны* (*літ. Šeškine*) — мясціна на поўнач ад Вільні, цяпер у межах горада.

[120] *Дакудава* — вёска ў Лідскім р-не на правым беразе Нёмана.

[121] *Звінігарад* — горад у Чаркаскай вобл.

[122] *Феадосій Пячорскі* (XI ст.) — манах Кіева-Пячорскай Лаўры.

[123] *Рослаўль* — горад на поўдні Смаленшчыны.

[124] *Палонны* — г. Палоннае ў Хмяльніцкай вобл.

[125] *У год 6906...* — г. зн. 1399. Для вызначэння даты паводле сучаснага годазлічэння (ад Божага нараджэння) ад года «ад пачатку свету» трэба адняць 5508 (год ад пачатку свету, калі нарадзіўся Хрыстос): 6906 - 5508 = 1398. Але трэба ўлічыць, што ў тыя часы год пачынаўся не з 1 студзеня, а з 1 верасня. Таму пры вызначэнні года апошняя лічба можа на адзінку змяшчацца.

[126] *Ворскла* — рака, левы прыток Дняпра, працякае праз Палтаву.

[127] *Ціхая Сасна* — рака ў Белгарадскай і Варонежскай абласцях, упадае ў Дон.

[128] *Сеўрукі* (севяраны) — славянскае племя, засяляла басейны рэк Дзясны, Сейма і Сулы.

[129] *Угра* — рака ў Смаленскай і Калужскай абласцях, прыток Акі.

[130] *Порхаў* — горад у Пскоўскай вобл.

[131] *Веліж* — горад на паўночным захадзе Смаленшчыны.

[132] *Красны горад* — цяпер пасёлак Краснадарскае ў Пскоўскай вобл.

[133] *...князя лукомскага і старадубскага...* — лукомскі ад г. Лукамля, старадубскі — ад г. Старадуб (заходняя Браншчына).

[134] *...князя вязанскага...* — магчыма, маецца на ўвазе Вязіна — мясцовасць у Ашмянскім р-не або Вязань ці Вязынь.

[135] *[Пра сечу пад Дуброўнам]* — маецца на ўвазе Грунвальдская бітва.

[136] *...год... 1412...* — памылка, трэба: 1410.

[137] *Перамышль* — горад у Жэшуўскім ваяводстве (паўднёва-ўсходняя Польшча).

[138] *Меднікі, або Варняны (літ. Varniai)* — мястэчка ў Цяльшайскім р-не (заходняя Літва). Не блытаць з м. Меднікі (*літ. Medininkai*) на дарозе з Вільні ў Ашмяну і м. Варняны (Астравецкі р-н).

[139] *Белавежа* — мястэчка на заходняй мяжы Белавежскае пушчы (Беласточчына).

[140] *...князёў сілезскіх...* — Сілезія, Слёнск (Шлёнск) — гістарычная назва тэрыторыі сучаснай паўднёва-заходняй Польшчы.

[141] *...цара перакопскага...* — Перакоп — гістарычная назва Крыма.

[142] *...князі адоеўскія...* — Адоеў — горад у Тульскай вобл.

[143] *...князі навасільскія...* — Навасіль — горад у Арлоўскай вобл.

[144] *Іаан Палеалог* — візантыйскі імператар (1425—1448).

[145] *Рудоміна* — мясціна на поўдзень ад Вільні.

[146] *Судамір (польск. Sandomierz)* — горад на Вісле ў Келецкім ваяводстве (паўднёва-ўсходняя Польшча).

[147] *...зваявалі зямлю Вяземскую.* — Вязьма — горад на ўсходзе Смаленскай вобл.

[148] *Казельск* — горад у Калужскай вобл.

[149] *Вярэя* — горад у Падмаскоўі.

[150] *Бельск* — зараз г. Бельск-Падляшскі на Беласточчыне.

[151] *Мерач (літ. Merkine)* — горад на Нёмане (поўдзень Літвы).

[152] *...князі ды ўланы і ўсе мурзы Шырыноўскія ды Баграноўскія...* — Улан — тытул, які насілі ханы, што мелі свае ўласныя зямельныя ўладанні — улусы. Мурза (Мірза) — тытул, які насілі знатныя ханы. Шырыны, Багрыны — вядомыя ханскія роды крымскіх татараў.

[153] *...бязбожных ізмаіліцянаў...* — ізмаільцяны (ізмаіліты) — мусульманская секта; тут: мусульмане наогул.

[154] *...арцыбіскупа гнезненскага...* — Гнезна — горад у Пазнаньскім ваяводстве (заходняя Польшча).

[155] *Петрыкаў* — відаць, г. Пёткруў-Трыбунальскі ў Лодзінскім ваяводстве.

[156] *Парчоў* — горад у Люблінскім ваяводстве.

[157] *...прыслалі да яго врацлаўляне...* — Вроцлаў — ваяводскі горад у паўднёва-заходняй Польшчы.

[158] *Глогаў* — зараз горад у Зялёна-Гурскім ваяводстве.

[159] *Кафа* — цяпер г. Феадосія на Крымскім узбярэжжы.

[160] *Кілія* — горад у вусці Дуная (Адэская вобласць).

[161] *Белгарад* — цяпер г. Белгарад-Днястроўскі ў Адэскай вобл.

[162] *Каламыя* — горад у Івана-Франкоўскай вобл.

[163] *Хлепень, Мяшчоўск* — гарады ў Смаленскай і Калужскай абласцях.

[164] *Любуцк* — горад у Тульскай вобл.

[165] *Мцэнск* — горад у Арлоўскай вобл.

[166] *Сярпейск* — горад у Калужскай вобл.

[167] *Сарока* — горад на Днястры ў паўночнай Малдове.

[168] *Сучава* — горад у паўночна-ўсходняй Румыніі.

[169] *Путна* — манастыр абарончага тыпу ў паўночнай Румыніі.

[170] *Букавіна* — гістарычная назва земляў у вярхоўях р. Прут (цяпер тэрыторыя Чарнавіцкай вобл. Украіны і прылеглых абшараў Румыніі).

[171] *Ушчыж* — вёска на захадзе Браншчыны.

[172] *Рыльск* — цяпер горад у Курскай вобл.

[173] *Дарагабуж, Ельня* — гарады на Смаленшчыне.

[174] *Лапаціна* — вёска непадалёку ад Ельні.

[175] *Ведраш* — вёска і рака ў Ельненскім р-не.

[176] *Бобр* — рэчка, левы прыток Бярэзіны (Барысаўскі р-н).

[177] *Абольцы* — вёска ў Талачынскім р-не.

[178] *Залідаў* — напэўна, горад Завідаў у Калужскай вобл.

[179] *Тарапец* — горад у Цверскай вобл.

[180] *Дзясна* — левы прыток Дняпра, пачынаецца на Смаленшчыне, упадае ў Дняпро каля Кіева.

[181] *Уша* — магчыма, левы прыток Бярэзіны. Аднак гісторык М. Улашчык лічыў, што гаворка ідзе пра р. Сушу.

[182] *Случ* — левы прыток Прыпяці, пачынаецца на Случчыне і цячэ праз Слуцак.

[183] *Ішкальдзь* — вёска ў Баранавіцкім р-не.

[184] *Грычынскае балота* — знаходзіцца на Случчыне, *Гарадок* — верагодна, г. Давыд-Гарадок.

[185] *«Глінскі ж неадступна... у зямлі Літоўскай»* — у арыгінале пропуск; тут тэкст пададзены паводле «Хронікі» М. Стрыйкоўскага.

[186] *...на сойме радамскім...* — Радам — горад у Келецкім ваяводстве.

[187] *Петрыкавічы* — цяпер г. Петрыкаў.

[188] *Гарадзішча* — мястэчка ў Баранавіцкім р-не.
[189] *Асташын, Цырын* — мястэчкі ў Карэліцкім р-не.
[190] *Палонка* — в. Паланэчка ў Баранавіцкім р-не.
[191] *Уша* — левы прыток Нёмана (Клецкі, Нясвіжскі і Карэліцкі р-ны).
[192] *Круты Бераг, Малеў* — вёскі ў ваколіцах Нясвіжа.
[193] *Ліпа (у арыгінале — naliроу)* — у Нясвіжскім р-не ёсць вёскі Вялікая Ліпа, Высокая Ліпа, Саская Ліпа і Ліпка.
[194] *Красны стаў* — стаў на р. Лані непадалёк ад Клецка, цяпер не існуе.
[195] *Цапра* — левы прыток р. Лані.
[196] *...роду алькаранскаму...* — г. зн. мусульманам; ад «аль каран» — арабскай назвы святой кнігі мусульманаў Карана.
[197] *...прыходзілі з палонам...* — на гэтым тэкст «Хронікі Быхаўца» абрываецца.

## *СТАРОНКІ РЫЦАРСКАГА ЭПАСУ*

### *Пахвала пану Віленскаму, старасту Луцкаму і Брацлаўскаму, маршалку Валынскае зямлі, вялікаму ваяводу, слаўнаму ды вялікаразумнаму гетману князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму*

*Увиходзіць у склад Валынскага кароткага летапісу.*
*Перакладзена з выдання: «Полное собрание русских летописей» (Т. 35. М., 1980)*

Твор напісаны з нагоды перамогі 30-тысячнага (па некаторых звестках, 35-тысячнага) войска Вялікага Княства Літоўскага над 80-тысячным войскам Вялікага княства Маскоўскага 8 верасня 1514 г. на Крапівенскім (ад назвы ракі Крапіўны) полі пад Воршай. Страты маскоўцаў былі велізарныя: 30 тысяч забітых, сярод іх 1500 дваранаў.

[1] *У год 7023... месяца жніўня першага дня...* — 1 верасня 1514 г. маскоўскае войска захапіла Смаленск.

Васіль III Іванавіч (1479—1533) — вялікі князь маскоўскі (з 1503), сын Івана III Васільевіча Каліты і Софіі Палеалог. Праводзіў агрэсіўную палітыку ў дачыненні суседніх дзяржаваў. Вёў войны з Вялікім Княствам Літоўскім у 1507—1508 і 1512—1522 гг., імкнучыся захапіць паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі Княства.
[2] *...гаспадара Жыгімонта...* — Маецца на ўвазе Жыгімонт I Стары.
[3] *Астрожскі Канстанцін Іванавіч* (каля 1460—1530) — адзін з найвыдатнейшых ваяводаў у гісторыі Беларусі. Апроч іншага, кашта-

лян віленскі (1511), ваявода троцкі (1522). У 1500 г. трапіў у маскоўскі палон, адкуль уцёк у 1507 г. Атрымаў бліскучыя перамогі ў дзесятках бітваў, з якіх найбольш вядомыя дзве Аршанскія — 1508 г. і 1514 г. з маскоўцамі, а таксама Вішнявецкая 1512 г. і Камянецкая 1527 г. — з татарамі-крымчакамі.

Паходзіў са старажытнага магнацкага роду, што браў свой пачатак ад тураўскіх князёў.

Прозвішча «Астрожскі» ўтворана ад назвы родавага ўладання Астрога. Быў правадыром праваслаўнай шляхты, якая, дзякуючы яго выключнаму аўтарытэту, дамаглася праўнай роўнасці са шляхтаю каталіцкага веравызнання. Фундатар праваслаўных цэркваў і манастыроў. Уладанні Канстанціна Астрожскага, — істотна павялічаныя шчодрасцю Жыгімонтаў за ваенныя заслугі, а таксама атрыманыя ў пасаг за жонкаю, Аляксандрай Алелькаю, — былі надзвычай вялікія. Яму належала ад паўсотні да сотні гарадоў і мястэчак, ад 900 да 1300 вёсак і фальваркаў. Адзін з найбуйнейшых землеўладальнікаў Вялікага Княства Літоўскага.

[4] *Антыёх* — слуга Аляксандра Македонскага. Пасля перамогі Аляксандра над індыйскім валадаром Порам быў прызначаны намеснікам у Індыі.

[5] *Пор* — валадар Індыі. Паводле «Александрыі», меў велізарнае войска, але быў пераможаны Аляксандрам Македонскім праз хітрасць.

[6] *Родас* — горад на аднайменным востраве ў Міжземным моры (непадалёк паўднёва-заходняга ўзбярэжжа Турцыі); старажытная грэцкая калонія ў Малой Азіі.

[7] *Тыграніс* — верагодна, Тыгран II Вялікі (95—56 да н. э.), цар Вялікай Арменіі. Вызначаўся смеласцю і выключнай настойлівасцю ў абароне незалежнасці сваёй краіны ад Рымскай імперыі.

### *Аповесць пра аджэнства каралля польскага і вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага Жыгімонта Аўгуста з Барбараю Радзівіл*

*Перакладзена з выдання: «Полное собрание русских летописей» (Т. 35. М., 1980).*

Гэтая аповесць уваходзіць у склад летапісу Рачынскага; урывак з яе прыводзіцца і ў «Сборнику Муханова» (М., 1836), аднак крыніца П. Муханавым не ўказваецца.

[1] *...маладая каралева Альжбета.* — Першая жонка Жыгімонта II Аўгуста, дачка аўстрыйскага імператара Фердынанда I. Другою жонкай Жыгімонта II Аўгуста стала Барбара Радзівіл, трэцяю — родная сястра Альжбеты — Кацярына; аднак апошні шлюб меў чыста палітычны характар. У творы Альжбета названая маладою каралевай, бо была жывая яе свякроў — каралева Бона.

[2] *...у капліцы вялебнага Казімера.* — Казімір (1458—1484), вялікі князь літоўскі. Сын Казіміра IV Ягайлавіча, родны брат Жыгімон-

та I. Пахаваны ў капліцы віленскай катэдры св. Станіслава, якая была названа ў ягоны гонар і з таго часу стала пахавальняю валадароў Вялікага Княства Літоўскага. Каталіцкі касцёл прызнаў Казіміра святым.

[3] *Мара* — верагодна, харугва.

[4] *Жыгімонт II Аўгуст* (1520—1572) — вялікі князь літоўскі, кароль польскі (з 1548). Апошні з дынастыі Ягайлавічаў. Сын Жыгімонта I Старога і каралевы Боны. За часам ягонага панавання ў Польшчы і ВКЛ расквітнела Рэфармацыя. З тагачасных дакументаў і сведчанняў сучаснікаў вынікае, што Жыгімонт Аўгуст быў натураю супярэчлівай: з аднаго боку — упарты, няўступлівы; з другога — лагодны, а пад канец жыцця — нават меланхалічны.

[5] *Радзівіл Барбара* (1523—1551) — дачка віленскага кашталяна Юрыя Радзівіла, жонка Станіслава Гаштольда. Аўдавела бяздзетная. Другая жонка Жыгімонта II Аўгуста. Паводле адной з версій, была атручаная сваёй свекрывёю, каралевай Бонай. Жыгімонт II Аўгуст быў настолькі засмучаны з яе смерці, што два тыдні не даваў дазволу на пахаванне цела і да канца жыцця насіў жалобу.

[6] *Гаштольт (Гаштольд) Станіслаў Ольбрахтавіч (пам. 1542)* — троцкі ваявода. Апошні з роду Гаштольтаў, вядомага з XIV ст. Ягоны бацька, Ольбрахт Гаштольт, свёкар Барбары Радзівіл, на Віленскім сойме 1529 г. абвясціў Жыгімонта II Аўгуста спадкаемцам каралеўскага пасаду.

[7] *...пры браце сваім, пане Мікалаю Радзівіле...* — Мікалай Радзівіл Руды (Рыжы, 1512—1584) — родны брат Барбары Радзівіл. Пасля шлюбу сястры з Жыгімонтам II Аўгустам стаў імгненна рабіць палітычную кар'еру, становячыся ваяводам троцкім, вялікім гетманам літоўскім, ваяводам віленскім і, нарэшце, — вялікім канцлерам літоўскім. Ачаляў літоўскую апазіцыю Люблінскай уніі.

[8] *Кезгайла (Кежгайла) Станіслаў Мікалаевіч* (памёр 1556) — падчашы ВКЛ, цікоцінскі (Беласточчына) і магілёўскі дзяржаўца; апошні прадстаўнік гэтага магнацкага роду.

[9] *Тарноўскі Ян (1488—1561)* — вялікі гетман Каралеўства Польскага, выдатны ваявода. Правёў рэформу польскага войска. Дзякуючы яго ваеннаму таленту, быў выбаўлены ад маскоўцаў Гомель; ён жа арганізаваў трывалую абарону Старадуба.

## *БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА*

Хроніка створаная на старабеларускай мове ў вёсцы Баркулабаве (недалёка ад г. Старога Быхава) не пазней за 30-я гады XVII ст. Яна ўключае шэраг паведамленняў аб агульнадзяржаўных падзеях у

Вялікім Княстве Літоўскім альбо ва ўсёй Рэчы Паспалітай: матэрыялы, прысвечаныя падрыхтоўцы да Берасцейскай уніі 1596 г. (складальнік хронікі адлюстроўвае пункт погляду праваслаўных); звесткі пра тагачасную сітуацыю ў Рускай дзяржаве (цікавыя дадзеныя, нібыта Ілжэдзімітры II быў раней настаўнікам у Шклове і Магілёве). Галоўнае ж значэнне хронікі ў паведамленнях пра падзеі ў Баркулабаве і адносна блізкіх да яго мясцінах Беларусі, у прыватнасці ў Магілёве, Полацку, Віцебску, Менску.

[1] *Жыгімонт Казімеравіч* — Жыгімонт I Стары (1467—1548), унук польскага караля Ягайлы, спачатку быў вялікім князем літоўскім, а з 1506 г. адначасова і кароль польскі.

[2] *Бона Сфорца* (1494—1557) — італьянка, з 1518 г. жонка Жыгімонта I, маці будучага караля Жыгімонта II Аўгуста.

[3] *... и с королевнами...* — гаворка ідзе пра дачок Жыгімонта I Ганну і Кацярыну. Ганна была жонкай польскага караля Стафана Баторыя, а Кацярына — шведскага караля Іаана III Вазы, сын якіх пасля стаў Жыгімонтам III.

[4] *Альжбета* — дачка аўстрыйскага імператара Фердынанда I Габсбурга, жонка Жыгімонта II Аўгуста.

[5] *Фердынанд* (Іспанія, 1503—1564) — родапачынальнік аўстрыйскай дынастыі Габсбургаў. З 1527 г. кароль Чэхіі і Венгрыі, а з 1558 г. стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі.

[6] *...панов рад...* — сенатараў, якія складалі каралеўскую раду.

[7] *Шляхта харуговая* — заможная шляхта, якая несла вайсковую службу ў дзяржаве за свой кошт пад уласнымі сцягамі (харугвамі).

[8] *...от святого Петра и Павла...* — хрысціянскае свята, якое адзначаецца 12 ліпеня н. ст.

[9] *...до святого архангела Михаила.* — Дзень св. Міхаіла адзначаецца 21 лістапада.

[10] *Панства Рускае* — славянскія землі Вялікага Княства Літоўскага.

[11] *Панства Жамойцкае* — тэрыторыя гістарычнай Жмудзі (Жамойці), якая ўключала заходнюю частку этнаграфічна літоўскага насельніцтва — жмудзінаў. У 1422 г. Жамойць увайшла ў склад ВКЛ.

[12] *Сямён (Фрыдрых) Глебавіч Пронскі* (?—1555) — князь, стаў у 1544 г. кіеўскім ваяводам.

[13] *...кроля Жикгимонта...* — маецца на ўвазе Жыгімонт II Аўгуст вялікі князь літоўскі.

[14] *Баркулаб Іванавіч Корсак* (?—1576) — выхадзец з полацкага шляхецкага роду. У 1562 г. ездзіў з пасольскай місіяй да цара Івана Грознага, быў дзяржаўцам свіслацкім, ротмістрам караля, пазней — старастам дзісенскім.

[15] *Вотчычы* — сяляне, якія валодалі зямлёю на правах прыватнай уласнасці.

[16] *Дуброўна (Дубровенка)* — правы прыток Дняпра ў Магілёве.

[17] *...князь... великий Полоцок взял...* — захоп Полацка Іванам Грозным адбыўся 15 лютага 1563 г.

[18] Маецца на ўвазе Жыгімонт II Аўгуст.

[19] *Баркулабава* — старажытнае паселішча, назву атрымала ад імя Баркулаба Корсака, які ў 1564 г. заклаў тут свой замак.

[20] *Багдан Іванавіч Саламярэцкі* (?—1602) — князь, на пачатку 1580 г. атрымаў прывілей на «дзяржаву» Крычаўскую, быў жанаты з удавою Я. Чартарыйскага Евай Баркулабаўнай.

[21] *Варсанофий Валах переставился...* — у сапраўднасці Варсанофій Волах памёр у 1576 г.

[22] *Януш Чартарыйскі* (?—1581) — сын князя Івана Чартарыйскага, уладар Белеўскіх маёнткаў на Валыні і Карэлічаў на Наваградчыне, зяць Баркулаба Корсака.

[23] *...и взял город Псков.* — Тут недакладнасць: Пскоў не быў узяты Стафанам Баторыем.

[24] *Сярэбраны* — рускі ваявода Васіль Сямёнавіч Абаленскі-Сярэбраны. Яго брат Пётр быў пакараны ў 1571 г. Іванам Грозным.

[25] *Цямрук* — адзін з кабардзінскіх князёў.

[26] *Князь югарскі* — уладар паўночнай часткі Урала, заселенага угорскімі (югарскімі) плямёнамі.

[27] *...князь... сына своего Федора посохом пробил...* — Іван Грозны забіў посахам старэйшага сына Івана, але не ў 1584 г., а ў 1581 г.

[28] *Стефан Василевич Годунов... коронован...* — у сапраўднасці Стафан Васільевіч Гадуноў пры цару Барысе Гадунове быў дварэцкім.

[29] *...о семой суботе...* — сем тыдняў пасля Вялікадня.

[30] *...пана любелского...* — кашталянам люблінскім быў тады сын ваяводы рускага Андрэй Пятровіч Філей.

[31] *Св. Юрый* — рэлігійнае свята, якое прыпадае на 23 красавіка (6 траўня).

[32] *Фаміна нядзеля* — паводле царкоўнага календара, другі тыдзень пасля Вялікадня.

[33] *...На Орши был Еремея, патриарха антиохийский...* — патрыярхам антыяхійскім у гэты час быў Іаахім, які сапраўды прыязджаў у Маскву ў 1586 г.

[34] *...декабря 4 дня... переставился...* — у сапраўднасці кароль Стафан Баторы памёр 12 снежня 1586 г. у Горадні.

[35] *...кролем кролевича швецкого.* — Маецца на ўвазе каралевіч Жыгімонт Ваза (1566—1632). Каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза быў з 1587 г. да 1604 г.

[36] *Пераводні* — асобы, пераселеныя з іншых месцаў.

[37] *Прачыстая* — хрысціянскае свята ў гонар Дзевы Марыі. Першая Прачыстая — Успенне Багародзіцы адзначаецца 15(28) жніўня.

[38] *Пакровы* — свята, якое адзначаецца 1(14) кастрычніка.

[39] *Максімільян* — брат аўстрыйскага імператара Рудольфа Габсбурга (1576—1612).

[40] *...на князя московского...* — рускага цара Фёдара Іванавіча, які займаў царскі трон з 1584 па 1598 г.

[41] *...кролевая...* — жонка С. Баторыя Ганна Ягелонка.

[42] *...кролевича шведцкого...* — шведскага каралевіча Сігізмунда, пляменніка Ганны Ягелонкі, жонкі С. Баторыя.

[43] *...князя масковского Ивана Василевича...* — Іван Грозны ўжо памёр (1584 г.).

[44] *Канвакацыя* — скліканне сейма ў часы бескаралеўя для вызначэння кандыдатуры наступнага караля.

[45] *Узнясенне Хрыстовае* — рэлігійнае свята, якое адзначаецца на 40-вы дзень пасля Вялікадня.

[46] *...а за призволеньем белых голов...* — па капрызу жанок.

[47] *...з кролем шведским...* — маецца на ўвазе Карл IX Ваза (1550—1611).

[48] *...был на Орши патриарха цариградский именем.* — Маецца на ўвазе паездка ў Маскву канстанцінопальскага патрыярхаЕраміі Транаса.

[49] *...после святаго Афанасия...* — дзень памяці св. Афанасія прыпадае на 20 студзеня.

[50] *Прыстаўства* — даніна, якая бралася з мясцовага насельніцтва на ўтрыманне размешчанага ў іх населеным пункце войска.

[51] *Ніз* — нізоўе Дняпра, Запарожская Сеч.

[52] *...соборы помесные...* — з'езды епархіяльнага духавенства.

[53] *Грыгорый Рагацінец* — адзін з уплывовых кіраўнікоў праваслаўнага Львоўскага брацтва.

[54] *Стафан Зізаній-Тустаноўскі* (?—?) — беларускі пісьменнік-паляміст канца XVI ст. У манастве Сільвестр.

[55] *Рымляне* — так праваслаўныя Рэчы Паспалітай называлі католікаў.

[56] *Іпацій Пацей* (1541—1613) — царкоўна-палітычны дзеяч і уніяцкі пісьменнік-палеміст (свецкае імя Адам Львовіч) .

[57] *...луцкого епископа...* — маецца на ўвазе Кірыл Сямёнавіч Тарлецкі (?—1607), адзін з арганізатараў царкоўнай уніі 1596 г.

[58] *...лвовского...* — з 1576 г. львоўскім епіскапам быў Гедыён (свецкае імя Грыгорый Маркавіч) Балабан (1530—1607).

[59] *...холмского...* — епіскапам холмскім і бэлзскім быў у той час Дыянісій Збіруйскі, найбліжэйшы паплечнік Г. Балабана.

[60] *...видячи предсявзяте их потребно до речей збавенных...* — бачачы іх захад, неабходны дзеля спраў дабратворных.

[61] *...воеводы киевского...* — Маецца на ўвазе валынскі магнат Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі (1528—1608); ён быў галоўнай апорай праваслаўных у іх барацьбе супраць царкоўнай уніі.

[62] *...с кола рыцерского...* — са шляхецкага кола.

[63] *Нікіфар* — прадстаўнік канстанцінопальскага патрыярха.

[64] *...пан воевода троцкий...* — маецца на ўвазе Мікалай Крыштоф Радзівіл, празваны Сіроткам (1549—1616), — князь на Алыцы і Нясвіжы, сын маршалка і канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага.

[65] *...паном канцлером и паном подскарбьем...* — маюцца на ўвазе канцлер Леў Сапега і падскарбій Дзмітрый Іосіфавіч Халецкі.

[66] *...маршалка обрали духовные...* — маршалкам быў абраны заблудаўскі пратапоп Нестар.

[67] *...воеводою волынским...* — ваяводам валынскім быў з 1593 г. сын К. К. Астрожскага князь Аляксандр Астрожскі (?—1603).

[68] *...пана Прецвица...* — маецца на ўвазе Якуб Прэтвіч, кашталян камянецкі, потым ваявода падольскі.

[69] *Ян Шуйскі* — унук Івана Дзмітрыевіча Шуйскага, які ў 1534 г. уцёк з Масквы ў Вялікае Княства Літоўскае.

[70] *Інстыгатар* — тут: ураднік.

[71] *Дзям'ян Гулевіч* — валынскі дэпутат сінода.

[72] *...до новокрещонцов и евангеликов...* — новахрышчэнцы — прадстаўнікі пратэстанцкай плыні. Новахрышчэнцамі іх звалі за тое, што яны паўтаралі працэс хрышчэння пры дасягненні сталага ўзросту; *евангелікі* — пратэстанты лютаранска-кальвінісцкага толку.

[73] *...пан подканцлерий...* — трэба чытаць: *«подскарбий».*

[74] *...и шли на упокой до княжати...* — трэба чытаць: *«и шли они у покой до княжати».*

[75] *...з Руси...* — Маецца на ўвазе так званая Чырвоная Русь, тэрыторыя былога Рускага ваяводства, якое займала тэрыторыю Усходняй Галіцыі.

[76] *Літва* — тут: назва Вялікага Княства Літоўскага.

[77] *Лаўрэнці Дравінскі* — валынскі падчашы, адзін з абаронцаў праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, доўгі час змагаўся супраць уніі.

[78] *...до того Стефана...* — маецца на ўвазе Стафан Зізаній, з якога Брэсцкі праваслаўны сінод зняў анафему, накладзеную на яго мітрапалітам Рагозаю на Навагрудскім саборы 1596 г.

[79] *Вываланцы* — адлучаныя ад царквы.

[80] *...первоседалник по патриарсе...* — першы намеснік патрыярха.

[81] *...чтырех патриархов...* — патрыярхаў Канстанцінопаля, Александрыі, Антыёхіі і Ерусаліма.

[82] *Генерал* — тут старшы над пасланнікамі для выканання ўрадавага ці грамадскага даручэння.

[83] *Пётр Скарга* (1536—1612) — рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, тэолаг і публіцыст, пачынальнік польскай прамоўніцкай прозы, ініцыятар і прапагандыст Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. Ганьбаваў шляхту за злоўжыванне саслоўнымі прывілеямі.

[84] *Певне не тот, што мел у голову заходити.* — Метафарычны выраз, які азначае, што гэты чалавек не вар'ят.

[85] *Марцін Бранеўскі* (?—1624) — рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч канца XVI — першай чвэрці XVII ст. Яму прыпісваецца аўтарства славутага палемічнага твора «Апокрысіс», выдадзенага ў 1597 і 1599 гг. пад псеўданімам Хрыстафор Філалет.

[86] *...у в одного мужа северскаго...* — у чалавека з ноўгарад-северскага наваколля (Чарнігаўшчына).

[87] *Нафанаіл Тарлецкі* — епіскапам полацкім у сапраўднасці быў Нафанаіл Сяліцкі. Увядзенне новага календара ў Полацкай епіскапіі пачалося за 9 год да епіскапства Сяліцкага.

[88] *...храм... Георгия* — царква, пабудаваная на Ільінскай гары ў Магілёве.

[89] *Палапея Васільеўна Крошынская* (?—1594) — князёўна, у 1551 г. стала жонкаю Баркулаба Корсака, старасты дзісенскага.

[90] *...с того света переставился...* — не Нафанаіл Тарлецкі, а Нафанаіл Сяліцкі.

[91] *...уводил новый календар...* — у сапраўднасці Афанасій Тарлецкі варожа адносіўся да каляндарнай рэформы папы рымскага і не мог уводзіць новы каляндар.

[92] *Севярын Налівайка* (?—1597) — вядомы кіраўнік казацка-сялянскага паўстання на Украіне і ў Беларусі ў 1594—1596 гг.

[93] *...родился... князь Богдан в року 88...* — Багдан Багданавіч Саламярэцкі нарадзіўся ў 1589 г.

[94] *Кір* — тытул вышэйшых праваслаўных духоўных саноўнікаў (патрыярхаў).

[95] *Рафаіл* — патрыярх канстанцінопальскі да 1608 г.

[96] *Зямяне* — дробнамаянтковая шляхта ў Рэчы Паспалітай.

[97] *Святая нядзеля* — першы тыдзень пасля Вялікадня.

[98] *...месяца апреля... на святаго Мартина...* — дзень св. Марціна адзначаецца не ў красавіку, а 11 лістапада.

[99] *Максім Герасімавіч Сматрыцкі* (1572—1630) — беларуска-украінскі царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік-палеміст, аўтар славянскай граматыкі (1618) і палемічных твораў, у якіх абараняў праваслаўе.

[100] *Падляшша* — заходняя частка тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, якая прылягала да карэнных зямель Малой Польшчы. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. перайшла пад уладу Польшчы.

[101] *Мазуры* — жыхары Мазовіі, памежнай з Падляшшам тэрыторыі.

[102] *...а на кгарлах своих...* — у безвыходным становішчы, рызыкуючы жыццём.

[103] *Канфедэрацыя* — свабодная часовая ваенна-палітычная апазіцыя шляхты да палітыкі караля.

[104] *...папа нашего...* — маецца на ўвазе Жыгімонт III Ваза.

[105] *...до упокойных рад...* — да мірных рад.

[106] *...армату отняли...* — гаворка ідзе пра малдаўскі паход кароннага гетмана Яна Замойскага ў кастрычніку 1600 г. Гаспадаром Малдавіі тады быў не Ерамія Магіла, які названы ў запісе, а Міхаіл Храбры (1558—1601).

[107] *...мултянский...* — мунцянскі, ад румынскай назвы ўсходняй часткі Валахіі — Мунтэніі.

[108] *Мігаль* — маецца на ўвазе Міхаіл Храбры.

[109] *Самуіл Кошка* — гетман запарожскіх казакаў да 1601 г.

[110] *...у Баркулабове на пристанство аж уждали...* — на прыстаўства грошы бралі. Трэба чытаць: *«у Баркулабове на приставство гроши брали»*.

[111] *...врядник печерский...* —ураднік з суседняй з Магілёвам па тых часах вёскі Пячэрск.

[112] *Ян Варшаўскі* — асоба невядомая. У склад пасольства Рэчы Паспалітай у Маскве ў 1600 годзе ўваходзілі літоўскі канцлер Леў Сапега, кашталян варшаўскі Станіслаў Варшыцкі і пісар Вялікага Княства Літоўскага Ілья Пелгрымоўскі. Відаць, аўтар памылкова замест Станіслава Вяршыцкага напісаў Ян Варшаўскі.

[113] *Васіль Гадуноў* — аўтар блытае імя Барыса Гадунова.

[114] *...была у Вифлянтех...* — у Інфлянтах.

[115] *Того ж року запорозкие козаки у Швецыи были...* — ідзе гаворка пра падуладную Швецыі тэрыторыю Прыбалтыкі.

[116] *...ерейства своего под 4...* — у запісе за 1594 г. Цімафей Аляксеевіч названы святаром Юр'еўскай царквы Магілёва. У такім разе тэрмін яго іерэйства трэба вызначаць не чатырма, а сямю гадамі.

[117] *...пред Усекновением главы святаго Иоанна Предтечи...* — свята адзначаецца 29 жніўня.

[118] *Сімяон Столпнік* (356—459) — антыёхійскі аскет, якога хрысціянская царква кананізавала і ўшаноўвае яго памяць 1 верасня.

[119] *...по Воздвижению честнаго креста.* — Свята, якое прыпадае на 14(27) верасня.

[120] *...аж до Дмитровы суботы.* — Свята ў гонар Дзімітрыя Салунскага — воіна і кіраўніка Салуні, закатаванага ў часы рымскага імператара, калі было ганенне на хрысціян (IV ст.).

[121] *...то предсе нивоішто* — дык нічога сабе.

[122] *Страстная неделя* — апошні тыдзень вялікага посту ў хрысціян.

[123] *...за святейшаго Гедиона...* — у сапраўднасці тады канстанцінопальскім патрыярхам быў Рафаіл.

[124] *Іван Васільевіч Саламярэцкі* (?—1578) — князь, зяць маршалка гаспадарскага Паўла Іванавіча Сапегі, кашталян смаленскі.

[125] *Іван Куцковіч* — гетман запарожскіх казакаў з 1601 да 1603 г., пераемнік на гэтай пасадзе Самуіла Кошкі.

[126] *Св. Юрый* — свята, якое адзначаецца вясной 23 красавіка (6 траўня) і восенню 15 (28) лістапада.

[127] *Вялікая субота* — пярэдадзень Вялікадня.

[128] *Васіль святы* — Васіль Вялікі (329—378), кесарыйскі епіскап, прадстаўнік познегрэцкай царкоўнай літаратуры, класік патрыстыкі.

[129] *Лахва* — правы прыток Дняпра.

[130] *...у краю Низовом...* — на поўдні Беларусі, па Палессі.

[131] *...у дворе князей Вышневецкіх...* — у доме кн. Адама Вішнявецкага, які жыў у Брагіне. Тут аб'явіў сябе царэвічам былы манах Чудава манастыра Юрый (у манастве Грыгорый) Атрэп'еў.

[132] *...якийсь Дмитр Иванович царевич.* — Першы самазванец выдаваў сябе за Дзімітрыя, апошняга сына Івана Грознага.

[133] *...а Годуна с царства своего московского согнал.* — Тут памылка: Барыс Гадуноў памёр уласнай смерцю 13 красавіка 1605 г., а самазванец увайшоў у Маскву 20 чэрвеня.

[134] *...будучи ему коронованому...* — каранацыя Ілжэдзімітрыя I на царскі трон адбылася ў пачатку жніўня 1605 г.

[135] *...у пана воеводы сондомирского в Полщи.* — Сандамірскім ваяводам у той час быў Юрый Мікалаевіч Мнішак (?—1613), сын багемскага графа, які па прыездзе ў Польшчу (1535) займаў пасаду вялікага падкаморыя кароннага. Даў згоду на шлюб дачкі Марыі з Самазванцам, быў вязнем цара Васіля Шуйскага.

[136] *Васіль Іванавіч Шуйскі* (1540—1610) — князь, які быў рускім царом з 19.05.1606 да 19.07.1610 г.

[137] *...пана Яна Кгенсевского.* — У сапраўднасці паслом у Маскву быў не Ян, а яго сын, веліжскі стараста Аляксандр Корвін-Гансеўскі (?—1651).

[138] *Канстытуцыя* — тут: заканадаўчая пастанова, прынятая на вальным сойме.

[139] *...якийсь Дмитр Иванович.* — Маецца на ўвазе Ілжэдзімітрый II.

[140] *Дзімітры Нагі* (1581—1591) — апошні сын Івана Грознага ад яго жонкі Марыі Фёдараўны Нагой.

[141] *...на село Ониськовича Сидоровича...* — трэба чытаць: *«на село Ониськовичи и Сидоровичи».*

[142] *...приехал до Москвы...* — тут слова *«Масква»* выступае як назва дзяржавы, народа.

[143] *Андрэй Шуйскі* — пераблытана імя цара Васіля Іванавіча Шуйскага.

[144] *...Гриша Отрепич, рострыга.* — Так называлі не гэтага самазванца, а першага, які быў маскоўскім царом.

[145] *Ян Раман Ружынскі* (1575—1610) — князь, апошні нашчадак Нарымунта (сына Гедыміна).

[146] *Уладзіслаў IV Ваза* (1595—1648) — старэйшы сын караля Жыгімонта III і Ганны Аўстрыйскай.

[147] *Міхаіл Барысавіч Шэін* (?—1634) — рускі ваявода.

## *ВІЦЕБСКІ ЛЕТАПІС*

Беларуска-літоўскія летапісы сталі вяршыняю ў нашай даўняй гістарычнай прозе. Яны — мост, перакінуты ад старажытнай летапіснай формы апавядання да новых жанраў і відаў пісьменства, і сярод іх найбольшую гістарычна-пазнавальную і літаратурную каштоўнасць маюць мемуары і гарадскія летапісы (хронікі). З апошніх сёння вядомы напісаныя на польскай мове Магілёўская хроніка Трафіма Сурты і Юрыя Трубніцкага, а таксама Віцебскі летапіс Панцырнага і Аверкі.

Магілёўская хроніка пераўзыходзіць Віцебскі летапіс і фактураю, і літаратурнасцю, і гістарычнай дакладнасцю. Але тым не менш усё, што існуе, мае права на існаванне, і «Гісторыя горада Віцебска» тут не выключэнне. Запісвацца яна пачала ў сярэдзіне XVIII ст. і была аформленая як летапіс у 1768 годзе. У стварэнні летапісу прынялі ўдзел не двое, як гэта пазначана ў тытуле, а чацвёра віцебскіх гараджан: Міхал Панцырны, Ян Чарноўскі, Гаўрыла і Стафан Аверкі. Найбольш, безумоўна, зрабіў Міхал Панцырны. Ён заклаў аснову летапісу і давёў яго запісы да 1709 года. А «збудаваў» летапіс Стафан Аверка. Ён аб'яднаў у адно цэлае і кніжку Панцырнага, і кароткія запісы свайго бацькі Гаўрылы Аверкі (1704—1757), і запісы Яна Чарноўскага (1601—1733). Акрамя таго, ён дапісаў канец і ўключыў у летапіс падзеі, якія выпісаў з «розных прачытаных кніжак», найперш з польскіх хронік Мацея Мехавіты (1457—1523), Марціна Кромера (каля 1512—1589), Марціна Бельскага (каля 1495—1575), Яна Длугаша (1415—1480) і іншых. Уся гэтая праца, як сведчыць сам Стафан Аверка, была закончана ім у 1768 годзе, і толькі пасля яе летапіс набыў той выгляд і тую форму, якія мы маем цяпер.

Калі ацэньваць Віцебскі летапіс наогул ці параўноўваць яго з Магілёўскай хронікай, дык ён сапраўды ў многім кампілятыўны, па форме нястройны і нават у нечым нелагічны. Няма ў ім разгорнутых сюжэтных апавяданняў, матэрыял яго сухі, неапрацаваны і нелітаратурны. Але ў ім ёсць тое, чаго не мае ані Магілёўская хроніка, ані іншыя пісьмовыя крыніцы XVII—XVIII стст. Несумненна каштоўнымі ў летапісе з'яўляюцца арыгінальныя звесткі з гісторыі Беларусі і Віцебска і асабліва сведчанні пра мілітарныя і палітычныя падзеі канца XVII—пач. XVIII стст. Для прыкладу: паведамленні пра казакаў Шухалея і Дубіну (апошні, дарэчы, у 1602 годзе высек Віцебск), пра бітвы віцяблян з маскоўцамі ў Кашэвічах і Глазовічах; пра сквапнага каралеўскага камісара Рыбінскага і ліхога капітана Салаўёва (у тэксце *Салаваў*. — *В. Т.*), які ў 1708 годзе выпаліў Віцебск, як крыху раней Магілёў, Быхаў, Дуброўну, Оршу.

А ўвогуле фактура Віцебскага летапісу, які займае ўсяго тры дзесяткі друкаваных старонак, не бедная. Знаходзім мы ў ім паведамленні самыя разнастайныя: і пра каметы, і пра пажары, і пра Хрыстафора Калумба, і пра частыя паморкі, якія лютавалі ў Віцебску і ваколіцах. Аднак гістарычную каштоўнасць летапісу змяншаюць недакладнасці. Так, напрыклад, гаворыцца пра заснаванне Віцебска кіеўскай княгіняй Вольгай у 974 годзе. Але, як вядома, Вольга памерла ў 969 годзе, і таму заснавальніцай горада яна быць не магла. Некаторыя вучоныя бачаць тут памылку перапісчыка, які памяняў лічбы 7 і 4, і лічаць, што гару на Дзвіне Вольга «ўпадабала» ў 947 годзе. Памылкова таксама пададзены ў летапісе звесткі пра жаніцьбу князя Альгерда, дата спальвання мітрапаліта Герасіма (1415 замест 1435), дата бітвы казакаў са шведамі пад Галоўчынам, якая адбылася не ў 1701 г., а ў 1708-м, і іншае. Пра гэта ў свой час пісаў

М. М. Улашчык, ён жа і выдаў Віцебскі летапіс у 32-м томе «Полного собрания русских летописей» (М., 1975). З гэтага выдання і зроблены пераклад працы віцебскіх гараджан.

[1] *Галіцын* — Галіцын Васіль Васільевіч (1643—1714), князь, удзельнік чыгірынскіх (1677—1678) і крымскіх (1687, 1689) паходаў.

[2] *Сарацыны* — назва, прынятая антычнымі пісьменнікамі ў адносінах да арабскага насельніцтва паўночна-заходняй Аравіі. Пазней гэтая назва распаўсюдзілася на ўсіх арабаў.

[3] *Блаславёны Язафат* — Язафат Кунцэвіч, уніяцкі святы, арцыбіскуп, у 1623 годзе быў забіты віцебскімі гараджанамі.

[4] *Кукашаўс* — горад у Латвіі, сучасны Кокнесе.

[5] *Eodem anno mense iulii 11 die in ecclesia S. Sophiae ipse occisit 4 basilianos in Polocia (лац.)* — у тым жа годзе, месяца ліпеня, 11 дня ў Св. Сафіі сам забіў 4-х базыльянаў полацкіх.

[6] *Мехавіта* — Мацей з Мехава (1457—1523), прыдворны лекар караля Жыгімонта Старога, польскі гісторык, аўтар лацінамоўнай «Хронікі Польшчы».

[7] *Кромер* — Кромер Марцін (каля 1512—1589), вармінскі біскуп, аўтар «Гісторыі Польшчы» («De origine et rebus gestatis Polonarum», 1555).

[8] *Кігніца* — Лігніца (Кігніца), горад у Сілезіі, Польшча.

[9] *Длугаш* — Длугаш Ян (1415—1480), польскі храніст, аўтар лацінамоўнай гісторыі Польшчы («Annales», 1455—1480).

[10] *Бельскі* — Бельскі Марцін (каля 1495—1575), польскі пісьменнік, гісторык, аўтар «Хронікі ўсяго свету».

[11] *Testantur (лац.)* — сведчаць.

[12] *Lib (лац. liber)* — кніга.

[13] *Гербут (Хербут)* — магчыма, маецца на ўвазе Гербут Шчэсны, аўтар аўтабіяграфічнай прыгодніцкай аповесці «Змаганне Геракла з прыгажосцю».

[14] *Teste Geste (лац.)* — даслоўна здзяйсняе, робіць сведчанне.

[15] *Вапоўскі* — Вапоўскі Бернард (1450 ці 1470—1535), польскі храніст і картограф, сакратар Жыгімонта Старога.

[16] *Пясецкі* — магчыма, Нясецкі Каспар (1682—1744), езуіт, геральдык, аўтар гербоўніка «Карона Польская» (1728—1743).

[17] *Пшыенмскі* — на жаль, звестак пра гэтага аўтара адшукаць не ўдалося.

[18] *Subiectionet (лац.)* — даслоўна: асабістае ўшанаванне, пашана.

[19] *Квяткевіч* — Квяткевіч Пурыус, біяграфічных даных, на жаль, знайсці не ўдалося.

[20] *Кахоўскі Веспасіян (1633—1700)* — польскі гісторык і пісьменнік, аўтар «Польскай псалмодыі».

[21] *Клімахт* — на жаль, звестак пра гэтага аўтара адшукаць не ўдалося.

[22] *Палонна* — Палоннае, горад на Украіне.
[23] *Efficit (лац.)* — складае.
[24] *Z.S.B.W.* — напэўна, Віцебскі ордэн святога Бернарда.

## *МАГІЛЁЎСКАЯ ХРОНІКА ТРАФІМА СУРТЫ І ЮРЫЯ ТРУБНІЦКАГА*

*Перакладзена з «Полного собрания русских летописей» (Т. 35. М., 1980)*

[1] *Рэгент* — сакратар канцылярыі ў Вялікім Княстве Літоўскім.

[2] *Аляксандар Гваньіні* — італьянец па паходжанні, быў камендантам Віцебскага замка, аўтар «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі».

[3] *Лаўнік* — прысяжны засядацель, член магістрата ў гарадах з Магдэбургскім правам у Вялікім Княстве Літоўскім.

[4] *Стрыйкоўскі Мацей* (1547—1593) — польскі гісторык, аўтар шырокавядомай «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» (Каралевец, 1582).

[5] *Пасля каранацыі свайго сына Жыгімонт I... праз дзесяць гадоў памёр...* — Жыгімонт I, польскі кароль, памёр не ў 1540 годзе, як памылкова падаецца ў «Хроніцы...», а ў 1548 г.

[6] *Кіева-Пячорскі Сінопсіс* — зборнік твораў з гісторыі Кіева-Пячорскага манастыра і яго першых падзвіжнікаў. Пачаў складацца ў першай трэці XIII ст.

[7] *Intercegnum (лац.)* — відавочна, павінна быць interregnum, даслоўна: міжкаралеўе, бескаралеўе.

[8] *Генрых Француз* — Генрых Валуа (1551—1589), кароль Польшчы і Францыі, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага. На польскі трон быў абраны ў 1573 г. Пасля пяцімесячнага знаходжання ў Польшчы таемна збег у Францыю.

[9] *...in archivo civitatensi conservatur (лац.)* — захоўваюцца ў грамадзянскім гарадскім архіве.

[10] *Інфлянты* — паўночна-заходнія, латышскія землі пазнейшай Віцебскай губерні.

[11] *Магдэбургія* — гарадская ўправа.

[12] *Circumcirca (лац.)* — у акружнасці, вакол.

[13] *Пралог маскоўскі* — старажытнарускі зборнік агіяграфічнага зместу. Бярэ свой пачатак ад візантыйскіх месяцасловаў, альбо сінаксараў. Першае выданне датуецца 1641—1643 гг.

[14] *Ландвойт* — службовая асоба ў Вялікім Княстве Літоўскім, памочнік войта ў гарадах, якія атрымалі Магдэбургскае права, войтам прызначаўся і яму падначальваўся.

[15] *Калятар* — асоба, якая ўнесла сродкі на збудаванне кляштара альбо яе нашчадкі.

[16] *Пілава* — Пілявец, мястэчка, каля якога ў верасні 1648 года войска Б. Хмяльніцкага разбіла асноўныя сілы Польшчы.

[17] *Збараж* — Збораў, мястэчка, дзе 9 жніўня 1649 года быў падпісаны мірны дагавор між Б. Хмяльніцкім і Рэччу Паспалітай.

[18] ...*«Sigillum civitatis Mohiloviensis» (лац.)* — пячатка горада Магілёва.

[19] ...*герб за гэтыя заслугі такі гораду дараваны.* — Унізе аркуша ў рукапісе ёсць накід герба горада Магілёва.

[20] *Рэйментар* — ваявода, які замяшчае гетмана.

[21] *Шэлег* — беларуская і ўкраінская назва соліда ў XV — XVIII стст. Білонная манета вартасцю 1/3 гроша.

[22] *Каптур* — каптуровы суд, часовая надзвычайная ўстанова ў Польшчы (з 1572 г.) і Вялікім Княстве Літоўскім для ажыццяўлення правасуддзя па найважнейшых справах у часы бескаралеўя.

[23] *Auditum (лац.)* — пачутае.

[24] *Дзесятая Пятніца* — 68-мы дзень ад Вялікадня, прыпадае прыкладна на другую палову чэрвеня.

[25] *Гарнец* — мера сыпкіх рэчываў і вадкасці ў сістэме мер Вялікага Княства Літоўскага. Малы гарнец (шынковы) раўняўся 2,8 л., вялікі (цэхавы) — у два разы больш, 5,6 л.

[26] *Плябан* — парафіяльны святар у каталікоў.

[27] *Стараста ускі* — так у рукапісе, магчыма, уйскі, з Уйсця Сольнага.

[28] *Авізо* — газета, навіны, напісаныя ад рукі.

[29] *Віншаванне Панны Марыі* — рэлігійнае свята нараджэння Багародзіцы, якое адзначаецца праваслаўнай рускай царквой 8 (21) верасня.

[30] *Inter alias (лац.)* — між іншым.

[31] *Шарамет* — Шарамецьеў Барыс Пятровіч (1652—1719), рускі генерал-фельдмаршал, удзельнік крымскіх і азоўскіх паходаў.

[32] *Будар* — род вёсельнага судна.

[33] *Божае Цела* — свята, якое адзначаецца каталіцкай царквою ў першы чацвер пасля Сёмухі. Руская праваслаўная царква гэтага свята не прызнае.

[34] *Фузея* — старадаўняе крэмневае гладкаствольнае ружжо.

[35] *Тартур* — тут, напэўна, месца катаванняў.

[36] *Вялікая жыдоўская ноч* — вясенняе іудзейскае свята. Адзначаецца ў гонар «зыходу» яўрэяў з Егіпта. Святкуецца ў першую нядзелю пасля вясенняй поўні (прыпадае на перыяд з 22 сакавіка па 25 красавіка па старым стылі).

[37] *Электр* — ізноў абраны.

[38] *Карнет* — тут: адзінка райтарыі, атрад замежнай конніцы.

[39] *Тынф* — старадаўняя польская сярэбраная манета.

[40] *Кампуты* — колькасны склад арміі ў Рэчы Паспалітай, які ўстанаўліваўся сеймам, асноўныя вайсковыя сілы.

[41] *Юрысдыкцыя* — адміністрацыйна адасобленыя часткі гарадоў, якія былі пад уладаю феадалаў альбо царквы і на жыхароў якіх

не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання.

[42] *Аблегат* — пасол.

[43] *Тавянскі* — ад тавянізму, назвы містычнага вучэння.

[44] *Vanitatem (лац.)* — пустаслоўе, хлусня.

[45] *Varietatem (лац.)* — markedly розна, разнастайнае.

[46] *Et cetera (лац.)* — і іншае.

[47] *Пад Монтвамі* — маецца на ўвазе нешчаслівая для Польшчы бітва між каралеўскім войскам і ракашанамі Ежы Любамірскага, якая адбылася 14 чэрвеня 1666 года каля вёскі Монтвы, недалёка г. Інаўроцлава.

[48] *Меншыкаў Аляксандар Данілавіч* (1673—1729) — паплечнік Пятра I, князь, генералісімус.

[49] *Ab anno (лац.)* — ад года.

[50] *Ad annum (лац.)* — да года.

[51] *...occidat opercat modo imperet (лац.)* — такім чынам кіруе, свяшчэннадзейнічае.

[52] *...тхарамі падшытых* — тут у лёгкіх, халодных плашчах.

[53] *Ad restituendum (лац.)* — для памяці.

[54] *Bellonas martisqve... mores lue stultos.*

Распавядзема пра спрыянне Белонаў і Марса,
Праспявайма пра пераможцаў польскага свету.
Пра нашы ўдачы спявае вышэйшая слава
І ўслаўляе сірату-пераможцу вялікага.
Умей паважаць свае гімны і сваіх князёў,
Роўна як і пагібель сваіх неразумных законаў.

[55] *Liber Hans (ням.)* — дарагі Ганс.

[56] *Gib wein, beynanter (ням.)* — падавай віна адзін другому. *Gib win, szelmpolak (ням.)* — падавай віна, шэльма-паляк.

[57] *Кір* — чорная жалобная тканіна.

[58] *Шос* — дарожная пошліна.

[59] *...вышэйназваны ягамосць пан палкоўнік Фёдаравіч* — маецца на ўвазе Шэўня Тэафіль Фёдаравіч, палкоўнік магілёўскага гарнізона.

[60] *Канвент* — назва выбарных органаў з асобымі заканадаўчымі функцыямі.

[61] *Ялмужына* — міласціна, грошы.

[62] *Мерка* — посуд для вымярэння сыпкіх рэчываў. Раўнялася 4 чацвярыкам, альбо 8 гарнцам.

[63] *Француымер* — прыдворныя.

[64] *Conseqventer (лац.)* — паслядоўна.

[65] *Цуг* — запрэжка, у якой коні, валы і т. п. ідуць гужам або парамі адзін за адным.

[66] *Perpartum (лац.)* — прымірэнне, дзеля прымірэння.

[67] *Pretextem (лац.)* — таемна, скрытна.

[68] *Et id genus (лац.)* — і гэтак далей, і таму падобнае.

[69] *Шабас* — суботні адпачынак, суботняе свята ў яўрэяў.

[70] *Honorarium (лац.)* — паднашэнне, падарунак.

[71] *Пекла* — у тэксце хронікі значэнне гэтага слова не вельмі зразумела. Магчыма, гэта месца, якое звязана з памерлымі грэшнікамі.

[72] *Рэгімент* — полк.

[73] *Люцыпар* — адно з імёнаў д'ябла.

[74] *Funditus (лац.)* — да асновы.

[75] *De novo (лац.)* — нанова.

[76] *Леанхофт* — шведскі граф Левенгаўпт, камандаваў корпусам у бітве каля вёскі Лясная, якая адбылася 28 верасня 1708 года.

[77] *Flosculi historiarum (лац.)* — кветкі гісторыі.

[78] *...et cet. (лац. et cetera)* — і гэтак далей.

[79] *...utriusqve status et conditionis (лац.)* — абодва станы і саслоўя.

[80] *...post ascensum et promotionem (лац.)* — пасля ўзыходжання і ўзвядзення на вышэйшую пасаду.

[81] *...post sanctos ordines episcopatus susceptos (лац.)* — заснаваныя пасля святых ордэнаў біскупства.

[82] *...cum jurisdicione tam in spiritualibus quam in temporalibus (лац.)* — з юрысдыкцыяй як у духоўных справах, так і ў свецкіх.

[83] *...ritus graeci (лац.)* — праваслаўнага абраду.

[84] *...scorsum (лац.)* — асобна.

[85] *...cum libero usu et pacifica posessione (лац.)* — са свабодным карыстаннем і валоданнем.

[86] *...qvantum iuris est et usus corum habetur (лац.)* — наколькі гэта ў іх законна і зазвычаена.

[87] *...de iure et antiqua consvetudine (лац.)* — згодна з правам і старажытным звычаем.

[88] *...sub panis vontra violatores iurium descriptis (лац.)* — над правамі, устаноўленымі супраць гвалтаўнікоў.

[89] *Avgustus rex* — Аўгуст-кароль.

[90] *Рэвакацыя* — адкліканне, звычайна дыпламата. У хроніцы маецца на ўвазе адступленне ад веры.



# З М Е С Т

Б43 **Беларускія летапісы і хронікі:** Пер. са старажытнарускай, старабеларус. і польск. /Уклад. У. Арлова; прадм. В. Чамярыцкага. — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 1997. 432 с., [8] л. іл.

ISBN 985-6318-15-7

Кніга ўваскрашае падзеі нашай даўніны. Упершыню ў перакладзе на беларускую мову выдаюцца «Хроніка Быхаўца», «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», Баркулабаўская хроніка, Віцебскі летапіс, Магілёўская хроніка Сурты і Трубніцкага, а таксама фрагменты «Аповесці мінулых гадоў» і Галіцка-Валынскага летапісу.

Гэта — чацвёрты па ліку том «Беларускага кнігазбору». Папярэднія тры выйшлі ў І-й («бардовай») серыі — «Мастацкая літаратура». Том «Беларускія летапісы і хронікі» распачынае ІІ-ю («зялёную») серыю — «Гісторыка-літаратурныя помнікі».

**ББК 63.3 (4Беи)4**

Навуковае выданне

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ

Рэдактар У. А. Арлоў.
Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд.
Карэктары А. С. Сабалеўская, Л. В. Суцягіна.
Вёрстка А. А. Глекава.
Адказны за выпуск Я. Янушкевіч.

Падпісана да друку 10.10.1997

Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетная друк. Ум. друк. арк. 13,5+0,75 укл. Ум. фарб. адб. 24,55.
Ул.-выд. арк. 24,78. Тыраж 6000 асобнікаў. Зак. № 2412.

Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор»
220034. Мінск, вул.Фрунзе 5. Ліцэнзія ЛВ №1143 ад 20.06.1995г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце імя Я.Коласа.
220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

# БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

*Выйшлі з друку кнігі серыі:*

ЯН ЧАЧОТ
Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ
Выбраныя творы

*Рыхтуюцца да друку:*

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА
Выбраныя творы

ЯН БАРШЧЭЎСКІ
Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ
Зборнік

ЛІТАРАТУРА СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ
Зборнік

*Не прамарудзьце з набыццём тамоў «Беларускага кнігазбору» — тыраж іх абмежаваны!*

